# КУЗЬМА ЧОРНЫ



## ЗБОР ТВОРАЎ
## У ВАСЬМІ ТАМАХ





ВЫДАВЕЦТВА
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
МІНСК 1973

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## I

Конка прывезла яго да Брэсцкага вакзала, і ён, перад тым як ісці да шырока адчыненых пахмурных дзвярэй над дзеравяным ганкам, глянуў навакол. Усё было мокрым і рухавым. Цякла вада, і хадзілі людзі — і нявесела, і панура; неслі і бралі, чакалі і пакідалі. Мокрае дзерава мела шэры колер, цэгла здавалася размяклаю і няздольнаю для таго, каб так цвёрда сценамі стаяць сярод усяго дробнага і мнагалікага, клапатліва дагледжанага і расцярушанага, падлічанага і забытага; зямля ляжала пад дзіраваю карою апошняга лёду. Нацярушаная некалі тут салома і ўсё іншае, што было такім лёгкім і непатрэбным тут, малюсенькая астача чалавечае ежы, нейкім чынам не скарыстаная якою-небудзь ніжэйшаю істотаю, кавалкі газеты, страшна цікавіўшыя ўчора адных навінамі палітыкі, другіх кароткаю заметкаю аб танным продажы алівы, абрывак нечае верхняе сарочкі — усё гэта сплывала з каламутнаю вадою па вузкіх раўчуках. Што ж стаяла нерухомым — абветраныя дрэвы, пабеленыя і непабеленыя сцены, уваходы ў будынкі і выхады з іх — усё гэта, не змываемае напорам веснавое вады, таксама здавалася гатовым рушыць і паплысці, зганьбіўшы свой цвёрды спакой: от гэтае сплывае для вечнага ачышчэння зямлі, а гэтае стаіць, патрэбнае на ачышчанай зямлі. Такім уявіўся яму той дзень, і такім здалося ўсё. Як бы ўсё набыло аднастайнасць з усім, і нават крыклівыя шыльды зліваліся ў адзін фон, пакінуўшы змагацца між сабою кожная за сваю дасканаласць... Вецер абвяваў дах і дрэва, сонца рабіла патугі прабіцца скрозь шэрыя адценні нізкага неба...

На момант прыпыніў ён вочы на новай шыльдзе — «Цырульня Абрама Ватасона»; і нічога не сказаў яму гэты надпіс, так не прымеціў ён яго, хоць і прачытаў, і нават моцна сказаў прозвішча — Ватасон.

Гэтая разбежнасць думак з'явілася нядаўна, раптам, калі выйшаў ён з клінікі пасля кароткага ранішняга агляду хворых у дзвюх палатах і сеў на конку, каб самому зараз жа здаць гэты ліст перад адыходам скорага поезда. Як кагадзе пісаў ён, зачыніўшыся ў аптэчным пакоі, тады яшчэ не прайшло было першае вострае ўражанне ад нечаканае весткі аб сястры, некалькі год пра якую нічога не было вядома, нават ці жыва яна. І ён, малады і неспрактыкаваны яшчэ ў рабоце сваёй, некалькі месяцаў усяго як выпушчаны з універсітэта, поўны непакою ад няўмелага яшчэ, непрывычнага агляду хворых, зусім устрывожыўся, прачытаўшы нечаканую вестку. Пісала яна сама, немаведама якая цяпер, а некалі, як апошні час бачыў ён яе, не вырасшая яшчэ, паважная, але «пустая ў думках», Маня, стрыечная сястра.

Ліст гэты прынеслі на адрас клінікі. Зусім знаёмым характарам пісання быў напісаны на канверце адрас: «...Універсітэцкая клініка, студэнту-практыканту Казімеру Ірмалевічу». Ён адразу не стараўся прыпомніць, хто гэта так знаёма піша, і, толькі як пачаў чытаць — здагадаўся, і тады чытаў, прапускаючы словы і сказы, каб хутчэй дачытаць, што з ёю і дзе яна. Нешта і добрае і нядобрае агарнула яго спачатку; павеяла тым, што прайшло — як жылі яны разам. Пад канец пісьма замілаванне і тонкасць, і бурныя ўздымы настрою затапілі яшчэ ўсё адчуваемую, ледзь прыметную трывогу — вынік вострае нечаканасці ў часе ўзбуджанасці ад дзейнічання сярод хворых, і з надзеяй, і з жорсткім недавер'ем глядзеўшых на яго.

«Дарагі брат Казя! Я даведалася пра цябе, дзе ты, і хачу напісаць табе. Ты памятаеш Боню Ватасонавага — праз яго я і даведалася аб табе, а ён у адным з табою горадзе. Я думаю аб табе і от пішу, а колькі і як я напішу табе — не ведаю. Памятаеш, як жылі мы на хутары?.. Я далёка ад цябе і жыву добра. Я ў горадзе N.— дрэнны горад, пусты і глухі; і што тут ёсць добрага, дык гэта сады... Аднак я не тое пішу. Я табе хачу напісаць аб тым, што, можа, і табе хочацца ведаць ці, калі ты аб гэтым не думаў, усё ж, мусіць, будзе цікава даведацца аб ім».

Ён прачытаў гэта, і абрывак думкі трывожна ўкалоў яго: «Як жа яна дзіўна, зблытана і холадна і горда піша».

«...Ты не ведаеш, адкуль жа табе ведаць, што тата мой памёр шэсць месяцаў таму назад, а жыў ён у мяне ў N. Памятаеш хутар? З хутара я забрала яго да сябе, бо што ён

там мог рабіць адзін? Анця пайшла замуж даўно ўжо і жыве ў Дараганаве — знаеш, глухенькая такая станцыя. Ты ведаеш. Даўно я не была там у сваіх ранейшых мясцах, а часамі хочацца пабыць там. Не заўсёды хочацца, і аб хутары я мала калі думаю, але часам з'яўляецца такое жаданне. Так, як цяпер хочацца ўсё пісаць табе... Бачыш, як я пішу няроўна і дрэнна выказваю думкі мае. А ўсё ад таго, што многа хочацца расказаць табе... Цяпер я табе больш дакладна раскажу. Пасля таго як ты выехаў адтуль, з тых нашых мясцоў, і я там не вельмі многа сядзела. Мне напісалі былі дзве таварышкі — можа, ты іх і прыпомніў бы, з мястэчка яны родам,— але гэта не так важна. Напісалі мне, што я магу, калі хачу, прыехаць да іх і там падацца ва універсітэт. А я адразу не паехала — ад дому не было як; гэта ты ўжо і сам ведаеш... прыпомні ўсё... А праз год я паехала. Тата расказваў, што ты бываў там некалькі раз, пасля, і бачыўся з ім. І шкадаваў ён, што, не пабачыўшыся з табою, выехаў да мяне...»

Ён зноў пакінуў чытаць і апусціў руку з лістом. «Шкадаваў, што не пабачыўся са мною»,— падумаў ён...

«...Я правучылася год, а пасля, як прыйшлося забраць тату — старога і хворага, тады кінула я вучыцца, немагчыма ніяк было, трэба было больш зарабляць. Я і служу — машыністкаю ў камісарыяце... Жыву я слаўна, у мяне добры пакой з вялікім акном на рэчку і на зарэчную частку горада. Мы тут з татам добра жылі. Толькі ў апошнія тыдні цесна было: калі хворы хто блізкі твой, тады хочацца, каб усё было ціхім і прасторным. Тады мне не было як хадзіць па хаце — у пакоі маім шэсць крокаў удоўж, і інача́й нельга прайсці, як міма ложка... А тут Боня жыў; я з ім нават часта бачылася, ён часам і заходзіў да мяне, а найбольш дык мы сустракаліся з ім на вуліцы, от так выпадкова спаткаемся і пройдзем разам аж у канец горада, а пасля назад. Ён у калектыўнай цырульні працаваў. Мы з ім некалькі разоў аб табе гаварылі. Проста ўспаміналі цябе, і нічога асаблівага тут не было. У мяне да цябе такое пачуццё было — набліжалася яно да нейкага роднага замілавання і з'явілася яно раптам, даўно ўжо, успомніла цябе раптам нейк раз... Але, здавалася мне, што, як пабачымся мы або як нейкі час будзем пісаць адзін аднаму — тады пройдзе яно. Так мне здавалася. Так мне і цяпер здаецца часам... Бачыш, як пішу я... Боня — Абрам Ватасон — выехаў не вельмі даўно туды, дзе ты цяпер, і

праз некалькі месяцаў, нечакана зусім, напісаў мне, што бачыў раз з акна цырульні (цырульня яго пры самым вакзале), бачыў, як ты выйшаў з вакзала. Ён цябе, піша, адразу і пазнаў, і піша, што ты пастарэў здорава, але такі ж самы і нічога ў табе не змянілася. (Мусіць, ён хацеў гэта напісаць, што ты пасталеў намнога. Я дык не магу ўявіць цябе пастарэўшым. Апошні раз, як бачыліся мы, ты быў проста хлапчук... Памятаеш, як ты раз палез быў на бярозу і ўпоперак разарваў увесь свой гарнітур. І як мяне заставілі зашываць гэты твой гарнітур, я зашывала і са злосцю крыўдаю лічыла, што я працую на цябе. Якія мы дзеці былі яшчэ так нядаўна.) Убачыўшы цябе, Абрам усё стараўся дазнацца пра цябе і дазнаўся, што ты кагадзе скончыў універсітэт і практыкуешся на доктара... Я табе гэта проста так расказваю, што ён і як пра цябе мне пісаў... Адзін раз мне страшна моцна хацелася пабачыць цябе. Гэта зімою пад вечар у мяне былі госці — мае ўсё таварышы па службе, і было вельмі весела. Тады я вельмі шкадавала, што цябе няма з намі і што нават я не ведаю, дзе ты... Анця мне нічога не піша. Ліст ад яе быў даўно. Я адпісала, і нічога ад яе больш няма... Можа, я табе напішу яшчэ сягоння вечарам, а можа, зусім не. Нічога не ведаю... Я кагадзе прыйшла са службы, і настрой у мяне страшна які слаўны. Свеціць сонца, вада ў рэчцы бурна бяжыць і гарыць іскрамі. Мне хочацца адчыніць акно. За рэчкаю відаць казармы, дах на іх здаецца белым ад сонца... Жадаю табе, братка, радасці і цалую цябе. Маня. Сакавік, 4».

Ён неспакойна дачытаў ліст, і твар яго ў выразах сваіх напоўніўся вострымі адценнямі. І таксама востра думаў ён. З старэйшым доктарам агледзеў ён яшчэ двух хворых і, аслабаніўшыся, выйшаў у аптэчны пакой, самы ціхі тут і прытульны. Ён яшчэ раз глянуў у пачатак і сярэдзіну ліста, бурна падумаўшы: «Чаму яна так піша блытана; так думка яе ў непарадку скача з аднаго на другое; і от пісала, пісала і нічога ўсё ж такі аб сабе не сказала. Парывалася некалькі раз гаварыць аб сабе і ўсё пераходзіла на другое. Як жыве яна і што з ёю? Якая яна цяпер?»

І раптам вырасла яна ў яго ўяўленні — з малое, паважнае нейкае ў словах сваіх, якою ён ведаў яе заўсёды і бачыў апошні раз,— вырасла яна раптам у вобраз сталай жанчыны — сястры, уведаўшай нейкі сэнс ці то ўсе адценні жыцця. І дзіўным быў яму ўвесь час гэты ліст ад

ле. Ён яшчэ не перадумаў нанава таго, чым было ахутана іх ранейшае сумеснае жыццё, у адной з яго сям'і, але ўсё гэта пачало тварыць адмысловае ўражанне; і ён па-новаму, нават асобна ад усяго, ацаніў раптам усё. Тады ўзяў ліст паперы, закасаваў на ёй бальнічны штамп і напісаў:

«Любая сястра Маня! Я рад, што ты напісала мне і што знайшоў цябе. Ты нават не можаш поўнасцю ўявіць сабе, як я рад. Многім ты падзівіла мяне... я бываў у нашых ранейшых месцах. Я ведаю, што тата твой выехаў да цябе, але куды і дзе ты — не мог дазнацца. Таксама ведаю пра Анцю, расказвалі мне там. Хутароў цяпер няма, няма і вёскі — усе іначай рассяліліся. Летась вясною я быў там і жыў цэлы месяц у мястэчку. Скончыў жа я універсітэт таксама летась. Першы год мне надзвычайна трудна было, я ж нават і вучыцца не прыехаў сюды, а прыйшоў — не было на білет грошай. Але гэта другараднае і нават зусім няважнае. Пасля ўсё было добра, і наогул усё добра. Я не чуў, што тата твой памёр, і не мог ніяк пачуць. Боню, Абрама, як ты завеш яго, я прыпомніў, але не ведаю, ці пазнаў бы цяпер яго: я так цяпер жыву, што не маю як застанаўляцца доўга думкамі ці ўражаннямі сваімі па адным, і ўсё ў мяне, вакольнае, бачанае і чутае, робіцца родным і аднолькава шырокім... Ты нічога аб сабе не напісала. Нічога. Ты так пішаш нервова, у чым і сама прызнаешся. Якая ты, як жывеш і што з табою? Напішы больш і іначай. Я з вялікаю нецярплівасцю чакацьму. Цяпер кагадзе прачытаў твой ліст і не магу ў гэты момант сабрацца з думкамі. Казя. Сакавік, [14]».

Ён пабыў яшчэ дзве гадзіны ў клініцы і пасля, спешна, сам павёз свой ліст на вакзал. Пасля ён, прыпамінаючы ўсё гэта, дзівіўся такому свайму настрою ў гэты момант. І тлумачыў гэта нечаканасцю весткі ад сястры і звязанымі з ёю ранейшымі падзеямі.

Перад уваходам у вакзальны будынак стаялі ламавыя падводчыкі і легкавыя фурманы. Ён прайшоў скрозь іх доўгі строй, увайшоў у змрочны пад'езд. Праціснуўся ў дзверы, цесныя ад уваходзіўшых і выходзіўшых. Ува ўсіх кутках і мясцах нізкае залы стаялі і сядзелі людзі. Чалавек, кароткі і гумарыстычна вясёлы, поўны вялікага задавалення ад выконваемага ім абавязку, спацыраваў перад выхадам на перон.

— Поезд, мусіць, не скора адыдзе?

(Ён хацеў сказаць: «Поезд зараз пойдзе?»)

— Поезд пойдзе роўна а трэцяй гадзіне. Цяпер маем (чалавек дастаў з кішэні модны гадзіннік), цяпер маем дзве гадзіны роўна і сорак дзве хвіліны, значыцца, да адыходу поезда засталося роўна васемнаццаць хвілін. У вас плацкарт ці не?

І, не слухаючы адказу, зноў пачаў спацыраваць кароткі чалавек. Нічога яму не адказаў Казімер Ірмалевіч; прайшоў праз дзве наступныя залы і здаў ліст. Тады, як бы чаго паспакайнеўшы, выйшаў назад у першую залу...

Зала была нізкая і цёмная. Як бы адзнакі задаваления выконваемымі абавязкамі былі і тут, на дзеравяных голых сценах. З багажнага пакоя пахла пылам і застарэлаю рагожаю, і не верылася, што кагадзе, у гэтай апусцелай цяпер зале, было поўна людзей, што толькі некалькі хвілін таму, і шумна і моўчкі, праняслі яны тут многа і бур і спакою (усякі па-свойму ўмее пасіць і добрае і кепскае). Слупы падпіралі няроўную столь; усё праходзілі апошнія пасажыры; усё мацнейшаю рабілася спрэчка падводчыкаў недзе на двары, каля самага пад'езда.

І ён выйшаў на двор.

Яснейшым рабіўся дзень. Сонца прабіла тонкую плёнку надземных туманаў, і шумнейшаю была музыка веснавое вады... Некалькі аўтобусаў і вагон конкі стаялі напагатове, некалькі падводчыкаў цешылі ўсіх спробаю заспяваць песню; адзін міліцыянер наводзіў парадак.

Ірмалевіч стаяў каля аўтобусаў і хацеў садзіцца, каб ехаць. І раптам, прыпомніўшы, пачаў шукаць вачыма шыльду цырульні Абрама Ватасона.

Яна была раскошная, гэтая шыльда. Зачарнёнае шкло з светлымі літарамі — усярэдзіне гэтае тонкае шклянное скрынкі вечарамі гарэла святло. І Ірмалевіч падумаў: «Аднак у яго работа на шырокую нагу». І прайшоў паволі міма два разы, у нерашучасці — заходзіць ці не. Не было цяпер яму спяшаць куды, і патроху праходзіў у яго напярэдні востры настрой. Так ён ужо спакайнейшы і ўраўнаважаны прыпыніўся на рагу суседняга, залітага вадою і гразёю завулка, глядзеў на веснавую радасць дзяцей і на міліцыянера, гнаўшага іх ад нейкіх казённых пакаў, абцягненых рагожай і да часу зваленых перад выездам да таварнае станцыі... Пасля крута павярнуўся, каб сесці і ехаць адгэтуль. «У цырульні цяпер, пэўна, народу многа»,— думаў ён. А на яго з тратуара пільна глядзеў чалавек.

Быў ён звычайнага сярэдняга росту і нічым асаблівым не выдзяляўся ад усіх, што хадзілі і стаялі тут. Толькі твар у яго быў нейкі лёгкі для ўспрымання. Шырокія вочы і высокі лоб. Арліны, але мяккі ў рысах сваіх нос не надаваў твару выразу пільнае жорсткасці; і твар, увесь, здаваўся гатовым выцягнуць з усяго вакольнага і ўспрыняць усё тое, што створыць горкі гумар з усяго і над усім. Быў ён у белым рабочым халаце, кароткім, не закрываўшым кален, і вываксаваных ботах. Адзін момант ён стараўся ўсміхнуцца, і ўсмешка крывіла ў яго твар на правы бок — і тады адна брыва падымалася вышэй за другую.

Цяпер Ірмалевіч здагадаўся, што гэта ён, Боня, Абрам Ватасон. Здагадаўся, але мала пазнаў у гэтай абсалютна сталай постаці таго даўнейшага местачковага Боню, які часта на вёску і на хутары прыходзіў гуляць і прасіць яблык і малін. Цяпер ён ішоў цвёрда і рашуча да Ірмалевіча.

Сказаў, працягнуўшы яму руку:

— Казя?

Ірмалевіч працягнуў сваю руку і не ведаў, як цяпер яму назваць яго. Падумаў і сказаў:

— Абрам?

І, сказаўшы так, адчуў нейкую як бы няёмкасць перад гэтым чалавекам. Ад чаго — не мог ён пасля сабе растлумачыць і думаў, што, можа, ад таго, што былі яны некалі блізкімі між сабою, блізкімі адмысловай блізасцю — Боня прыходзіў гуляць і прасіў яблыка, а ён яблыка даваў, употай вырваўшы яго ў дзядзькавым садзе, але, перад тым як даць, у што-небудзь пэцкаў гэтае яблыка. Боня браў, абціраў і моўчкі, з прагнасцю, еў. З'еўшы яблыка і пагуляўшы трохі, Боня ішоў дадому ў мястэчка, нічым падворна не выяўляючы свае крыўды, несучы яе глыбока ў сабе. Падросшы, пайшоў Боня на свой хлеб — памагаў мацеры насіць кош з запалкамі, шпількамі, гузікамі і ніткамі па вёсках. Тады яны амаль што пакінулі бачыцца. Бачыліся тады выпадкова і вельмі рэдка, пакуль некаторыя падзеі не заставілі іх перажыць разам некалькі надзвычайна вострых і рэдкіх хвілін.

«Чаго ў нас больш было, ці блізкасці, ці далёкасці»,— падумаў Казімер, цiснучы Абраму руку.

— Маня пісала мне,— сказаў ён.

— Я ёй напісаў быў аб табе, што ведаў.

І ад таго што загаварыў Боня адразу на «ты», лёг-

касць спатканяя і гаворкі з'явілася ў Казімера — у першую хвіліну ўсё было ў гэтым спатканні для Казімера штучным нейкім, нацягнутым.

— Я вельмі дзякую табе, што ты напісаў ёй, цяпер я даведаўся, дзе яна... Я аб ёй нічога не ведаў.

— Я гэта ведаю.

Яны ўвайшлі ў цырульню. Не такую раскошную, якою рэкламавала яе шыльда.

— А я, гледзячы на шыльду, думаў, што ў цябе справа на зусім шырокім размаху.

Адценні гумару засвяціліся на Абрамавым твары:

— Шыльды для таго і існуюць на свеце, каб засляпляць сэнс саміх рэчаў.

— Заўсёды, ты думаеш?

Абрам смяяўся і маўчаў.

Яны глядзелі адзін на аднаго.

Зусім іншага, не такога, якога думаў спаткаць, прачытаўшы Манін ліст, бачыў Казімер перад сабою Боню — Абрама Ватасона.

Яшчэ не сплыло тое ўражанне, якое навяла блытаным і нервовым лістом Маня, а цяпер от зноў адмысловае нешта і моцнае пачало напльіваць. Постаць таго малога Боні, прыглушанага беднасцю і кпінамі,ператварылася ў новую постаць Абрама Ватасона, такога ўпэўненага як бы ў нейкім сэнсе рэчаў. Так ён стаіць от і смяецца ўпэўненаю, цвёрдаю ўсмешкаю.

— А тут ёсць і больш, з нашых тут даўнейшых мясцоў,— сказаў Абрам.

— Хто?

— З мястэчка... Ну от... Ваця Браніславец.

— Што ён робіць?

— Дрэнна жыве. Служыў недзе, пасля скарацілі. Атрымлівае прафсаюзную дапамогу і так жыве. А от Уладзя Свірскі прыязджаў на некальні дзён сюды і бачыўся са мною. Дык гэты займаў вялікую недзе пасаду. Пасля праштрафіўся, яго зніжылі, а цяпер зноў падымаецца.

Цяпер Казімер думаў пра Маню. Абрам гаварыў:

— Сустракаю часта ўсё старых знаёмых, сваіх... Па-рознаму жывуць.

— Значыцца, лес сякуць — трэскі ляцяць!

Абрам зноў усміхнуўся спакойна:

— Гэта спрадвеку вядома.

Ён раптам стаў пахмурна глядзець некуды паверх аконных рам і пакінуў смяяцца. Казімер маўчаў.

— Лес вялікі, і трэсак многа.

Казімер сказаў:

— Для таго іх і многа, каб ачысціць лес.

— Лес заўсёды расце для таго, каб яго сеч. У гэтым вечнае абнаўленне. А якім ты спосабам яго ні сячы, усё роўна не можаш ты яго сеч так, каб не было трэсак... Што гэта я ў філасофію падаўся... Раскажы аб сабе... Як жыў і што рабіў...

І ўсміхнуўся:

— ...Як у людзі выбіўся?

— Слаўна жыў, бо многа перажыў і зрабіў.

— Жыў слаўна, а як жылося?

— А жылося дрэнна ў першыя гады... Ты гавары пра яе мне... Нічога яна мне аб сабе не напісала.

— Трудна мне расказаць што дакладна пра яе, бо што ж я ведаю аб ёй? Бачыўся шмат разоў з ёю — і ўсё. Бачыў, што жыве, як усе жывуць.

— Хто ўсе?

— А ты зрабіўся дасканалым у патрабаваннях... Ну, мусіць, пякепска жыве. І ты і я някепска. А от Ваця Браніславец — кепска. От якая мерка ў маёй цяперашняй гаворцы.

— А колькі ў цябе мерак?

Абрам не слухаў і гаварыў:

— ...Так дасканала ўсё даведацца мне аб ёй было трудна — што яна і як — трудна так ведаць усё. У тэатр папасці лёгка, за кулісы трудна...

Тады раптам здалося Казімеру, што няма чаго Абраму больш гаварыць.

— Я пайду,— сказаў ён.

Абрам здзіўлена, як бы з недавер'ем да яго слоў, паглядзеў на яго. І стаў завешваць акно.

— Дык мы нічога больш і не гаворым,— ціха абазваўся Казімер.

Абрам павярнуў у дзвярах ключ; падняў пад руку Казімера. І пазваў яго за сабою кіўком пальца. Праз вузенькія дзверы, абклееныя такою ж папераю, як і сцены, увайшлі яны ў пакой, праз два акны радасна заліты перадвячэрнім сонцам.

0168

## II

— Тут я і жыву,— сказаў Абрам.

Яны населі далёка адзін ад аднаго.

Зводзіла ўсе рэчы на другарадны план у гэтым пакоі пярэстасць падлогі. Некалі пафарбаваная, была яна ў многіх месцах палатаная белымі дошкамі. І цяпер, асвечаныя сонцам, дошкі гэтыя сваёю віднатою зацямнялі ўсё іншае — некалькі крэслаў, стол, жалезны ложак, цвёрдую канапу. Сонца залівала падлогу і ўсю процілеглую да вакон сцяну.

Абрам глядзеў на адно месца недзе на сцяне, Казімер глядзеў на яго.

— Як ты яе першы раз убачыў?

Абрам перавёў вочы на Казімера.

Вострым, увайшоўшым у сваю велізарную глыбіню, здаўся Казімеру гэты зірк Абрамавых вачэй. Мусіць, сам Казімер (ён цяпер падумаў так раптам) глядзеў так некалі на Боню, калі той, з'еўшы, бывала, апэцкапае і кінутае яму яблыка, гуляў трохі, пасля еў хлеб з малаком, запрошаны ў хату Манінаю мацерою. Тады часам (не заўсёды гэта было) пачыналася нешта цяжкае і пакутнае рабіцца ў Казімеравых настроях. І да сваё найвялікшае глыбіні яно даходзіла тады, калі выпадкова зайшоўшая з запалкамі і гузікамі на вёску і хутары Бонева маці, прыціскаючы кош да парванага кафтана свайго, дзякавала за добрыя адносіны да яе сына і ўспаміпала, што гаварыў Боня, прыйшоўшы дадому.

— Ён у мяне такі, нічога ніколі не скажа мне, чаго яму хочацца. Каб канаў — не скажа. Не хоча, каб я лішне клапацілася, бо ён жа змалку дзён ведае, што клопату ў мяне больш, як мяне самой. Ён усё са мной найбольш маўчыць. Дык ён прыйшоў пазаўчора ад вас ды бачыць, што я вельмі заклапочаная, і кажа мне: «А мяне пачаставалі малаком. Я з'еў і аж паздаравеў. А потым мне далі яблыка». Так ён і сказаў, каб я чым-небудзь пацешылася.

Лепш бы яна не гаварыла гэтага — на некалькі дзён тады, з вострай боллю ўсё пераварочвалася недзе ў глыбіні істоты ў Казімера. Тады Боня стаў уваччу яго як беспаможнае дзіця, якога трэба прыласкаць і пашкадаваць. Тады яму страшна хацелася хутчэй пабачыць яго і сказаць яму што-небудзь добрае. А Боня, як назнарок, не прыходзіў. Тады ён сам, немаведама чаму і ад чаго, па-

паўпяўся раптам вялікай нянавісцю да хутара і да ўсіх, хто жыў там, і прыходзіў у вёску, дадому, да мацеры.

Гарачым летнім днём маці была недзе на рабоце, і ён не мог улезці ў замкнёную хату. Яму нікуды не хацелася ісці адсюль, і ўсю рэшту таго дня праседзеў ён у садку за хатаю, моцна думаючы і разграбаючы босымі нагамі насыпаны каля сцяны жвір. Вечарам ён, глытаючы словы і стараючыся не заплакаць, гаварыў мацеры:

— Я не пайду больш да дзядзькі.

— Так, сынок, няможна,— цешыла яго маці,— няможна так. Ты ж не малы і павінен разумець, што як жа мы жыць будзем. От дзядзька цябе ўзяў кароў пасвіць, ты і пасі, ты ж там не галодны. Бачыш, таты няма ў цябе, хто ж аб нас паклапоціцца. Я як мага стараюся, бачыш, я кожны дзень на работу хаджу, а ты ўжо не маленькі, каб гуляць. А калі што там у дзядзькі трохі і не так, як бы хацелася, дык сам жа дзядзька, трэба ведаць, не лішне багатыр. Хлеба мае і да хлеба мае, што больш? У яго ж не фальварак. Ідзі, сынок, заўтра зноў да дзядзькі.

— Я не пайду.

І ён пачынаў плакаць. Кідаўся тварам на лаву і плакаў. Маці цешыла яго, пасля пакідала так, разважаючы: «На тое дзіця, каб паплакаць. Дзіцяці часам здасца нямаведама што, а пасля пройдзе».

Як слёзы высыхалі, ён выходзіў на двор, забываўся на ўсё гэтае і дагульваў рэшту дня на вуліцы. А вечарам успамінаў мацеры:

— Я апэцкаў яблыка і даў Боню, а Боня з'еў.

— Так, сынок, няможна рабіць,— казала маці,— бог пакарае.

Тады ўсю яго дзіцячую істоту пранізвала крыўда на тое, што ніхто ніколі не гаворыць аб пакрыўджаным Боню. Нават маці, да якой можна было ўцячы з хутара, і тая гаворыць аб богу і аб яго кары, а не аб Боню, які тут прычынаю ўсяго. І ў яго нясмелай дзіцячай галаве вяла і няўпэўнена пачыналі з'яўляцца адзнакі думкі, што нават замілаванне да ўсіх пакрыўджаных трымаецца на клопатах аб сваім уласным шчасці. І хацеў і не ўмеў ён выказаць мацеры таго, каб не гаварыла яна тут аб богу, а аб самім Боню. І ён крычаў:

— Не хачу, каб бог караў!

— Ціха, дурны! Няможна так.

Маці зноў пакідала яго аднаго. І назаўтра ён быў ужо

па хутары і пасвіў дзядзькавых кароў. І так на нейкі час забываў усё гэта, нейк сплывала ўсё з адчуванняў і памяці, пакуль які-небудзь выпадак не варочаў усяго назад...

Такога ён і памятаў Боню. У часе гэтага свайго дзіцячага першага фармавання думак бачыў ён Боню часта. Пасля бачыў мала калі — Боня пачаў хадзіць з мацерою па вёсках, здабываць кавалак хлеба.

І вось адзін раз Боня нарочна прыйшоў на хутар, каб пабачыць Казімера. Казімер тады не пасвіў ужо дзядзькавых кароў, а баранаваў дзядзькаву раллю. Боня знайшоў яго на полі — Казімер, утаміўшыся, стаяў на мяжы і аганяў з каня авадnёў. Ён даўно не бачыў Боні і падзівіўся — як ён вырас, быў па-дзіцячаму тонкі і нязграбны ў рухах сваіх, але высокі. Казімер глядзеў на Боню, не ведаючы, што гаварыць яму. Боня падаў яму руку, і гэта выйшла ў іх у абодвух нязграбна, як у дзяцей, якія ўздумалі пагуляць у дарослых, і ад гэтага пасля самі засаромеліся.

Боня сказаў:

— Ведаеш што, Казя?

— Што?

— Учора мая мама памерла.

І больш яны нічога амаль што і не гаварылі. Ім аднаму перад адным было як бы сараматно таго, што яны абодва маўчаць. Пробавалі гаварыць, і таксама няскладна выходзіла, як бы гаварылі гэта яны не тое, што трэба.

Боня доўга і не быў з Казем на полі. Адыходзячы, ён не падаў Казю рукі, а проста сказаў:

— Я перайду ў другое мястэчка.

— Чаго?

— Вучыцца на цырульніка.

І ўжо быў нават адышоўся трохі, як раптам вярнуўся, сеў на мяжу, падпёр твар далонямі рук і заплакаў. Казя сеў поплеч з ім і сказаў яму:

— Чаго ты... А як мой бацька памёр... Аднак жа я жыву... я яго нават і не памятаю...

Пасля баязліва, нясмела, як бы адчуваючы сябе ў нечым вінаватым, абняў яго за шыю адной рукою, і так яны праседзелі нейкі час. Пасля, як высахлі слёзы, Боня сказаў паціху:

— Я зусім не гэтага плакаў.

— А чаго?

— Усяго... Я расказаў ёй, што ты мне даваў яблыкі апэцкаными і я абдіраў і еў. А яна заплакала і сказала,

што, каб яна ведала, яна нікуды б мяне не пускала, а трымала б дома і з апошніх сіл сваіх задавальняла б мяне ўсім. Я яе пачаў цешыць, а яна сказала, каб я ніколі нічога не браў у людзей запэцканага. Хоць каб канаў — а не браў. Каб аддаваў запэцканае назад і толькі таму, хто даваў яго мне.

Цяпер Боня надняўся і пайшоў, пакінуўшы ў Казі след новых думак аб усім. З тых часоў яны больш і не бачыліся, і ў тых месцах нічога аб Боню не чуваць было зусім. Ніхто аб ім ніколі не ўспамінаў, як аб леташняй траве, згінуўшай з першымі марозамі. Толькі Казя нейкі час успамінаў апошняе з ім спатканне на полі, а пасля, чым больш рос, тым усё больш задумваўся над словамі,— «запэцканага не бяры, а аддавай назад таму, хто запэцкаў».

Так рос ён на дзядзькавым хутары, з пастуха стаўшы парабчуком. Зімою ён, разам з Маняю, малодшай за яго на тры гады, вучыўся ў бліжэйшай мястэчковай школе і часцей бываў у вёсцы ў мацеры. А вясною і летам разам з дзядзькам цягнуў усе цяжкасці гаспадарання. І так выходзіла, што мацеру ён блізка мала і ведаў, чым больш вырастаў, тым больш меншы клопат да сябе патрабаваў ад навакольных людзей і паглыбляўся ў сябе. Маці памерла ўжо ў часе вайны і, уміраючы, усё прасіла дзядзьку яго старацца і клапаціцца аб ім, каб быў ён дагледжаны. І дзядзька тады, успамінаючы некалькі раз бацьку яго — свайго брата, абяцаў аддаць яго куды-небудзь вучыцца. Так пасля ўдалося яму праходзіць у суседнім месцы сярэднюю навуку... Смерць мацеры ў першыя часы не зрабіла на яго такога востраго ўражання, як гаворка з Бонем на полі. Але пасля, чым далей, тым усё больш і больш усякія асобныя здарэнні, падзеі, дробязі, быўшыя раней, выплывалі наверх, і тады смерць мацеры набывала характар нейкага вялікага пералому ў яго жыцці... У першы год рэвалюцыі не мог ён далей вучыцца і, не скончыўшы сярэдняе навукі, вярнуўся на хутар і пражыў там два гады. За гэты час адно здарэнне чуць не зблізіла яго з Маняю — стрыечнаю сястрою, а пасля ўсё наступнае зноў пачало яго трымаць далёка ад дзядзькавай сям'і. Вясною раз, ідучы полем, успомніў ён Боню. Вечарам веснавая зямля была ціхая, як музыка, адабраўшая сабою ўсю чалавечую ўвагу ад усяго іншага, што апроч яе існуе. Ён пазнаў месца, дзе некалі сядзелі яны з Бонем, бачыўся апошні раз. Цяпер пастаяў ён нейкі час на гэтым месцы, увесь ахва-

чаны думкамі аб прайшоўшых здарэннях, непрыметных цяпер і некалі найвялікшых на глыбіні пакінецых імі слядоў. І тады раптам зажадалася яму бачыць Боню, як бы гэта той даўнейшы малы Боня быў для яго адзіным блізкім чалавекам. Пасля таго Боня быў зусім забыты. І от цяпер, замест Боні, сядзіць перад ім самаўпэўнены чалавек, што ад былога Боні прынёс да цяперашняга сябе толькі адну неабходнасць галіць чужыя бароды (Казімер прыпомніў апошнюю іх гаворку на полі).

— Гавары,— сказаў Казімер.

— Я рад, што ўбачыўся з табою,— сказаў Абрам,— мы от паседзімо трохі, пагаворым, пасля пойдзем ува ўсякія свае норы — куды каго павядзе патрэбнасць наша; ты пойдзеш лячыць, а я пайду галіць і стрыгчы; будзем занятыя вельмі кожны сваім і цэлы год або два не сустрэнемся... А цяпер рад я, што ў мяне сядзіш.

— Ты гэта прадмову, значыцца, сказаў да свае гаворкі...

І Казімер засмяяўся, сказаўшы гэта.

— Не прадмову. Прадмоваў я не люблю. Хоць часам і бывае на свеце, што тое, да чаго гаворыцца прадмова, і ствараецца толькі дзеля таго, каб была прычына сказаць прадмову. Я жыву без прадмоваў, хоць, можа, загэтым і не магу даскапала паведаміць табе, як жыве Маня. Прадмова сама па сабе абавязвае падрабязна загаварыць што-небудзь, хоць самы факт ні аб чым не сказаць. Я ніколі не люблю без запытання да каго-небудзь уваходзіць, так я і з Маняю быў — бачыў яе і больш нічога. Яна часта бывае вясёлая, часам не любіць нічога гаварыць, любіць маўчаць, а часам многа гаворыць. Нейк раз прызналася мне, што хацела б вучыцца, а больш пра гэта ні разу не ўспамінала... Адзін раз, як я быў без работы і не меў грошай, яна мяне цэлы тыдзень карміла. А пасля я хацеў заплаціць ёй за сталаванне, а яна пасмяялася толькі нада мною, і я не мог нічога зрабіць, каб яна ўзяла грошы...

— Не мог нічога зрабіць?

— Не мог.

— Значыцца, яна цвярдзейшая характарам за цябе?

— Нічога не магу сказаць.

— Не ведаеш?

— Не ведаю — ці ведаю, ці не... От і ўсё пра яе.

— А што яна думае далей рабіць?

— Нічога не казала.

Цяпер прыступ расчаравання ахваціў Казімера. Нават яму здалося на нейкі кароткі час, што Абрам раптам стаў перад ім хітраваць. Што, можа, нават ён у чым вінават, можа, праз яго што дрэннае здарылася з ёю там, і ён нарочна не гаворыць. І, можа, ён не жадае дабра ні яму, ні ёй, прыпомніўшы што-небудзь з даўно мінулага ў дзяцінстве. Так ён пачаў глядзець на Абрама і маўчаць.

— А я табе скажу,— пачаў гаварыць Абрам,— я от бачу па табе, што табе здаецца ўсё, што з ёю там нешта надзвычайнае робіцца і што нешта не такое, як ува ўсіх, там у яе.

— Уся твая гаворка на такія думкі навяла мяне.

— Дык от, я табе скажу, як умею — усюды ўсё звычайна, а калі табе што здаецца ў маёй гаворцы, дык я проста іначай гаварыць не магу...

— Ты адзін жывеш?

— Зусім адзін. А тут (Абрам паказаў на дзверы ў правай ад яго сцяне) жывуць студэнты — смешны народ, дарослыя дзеці... Як і ўсе наогул.

І ласкава, па-бацькоўску, Абрам усміхнуўся Казімеру.

Пасля гэтых Абрамавых слоў Казімера ўзяла не што іншае, як вялікая цікавасць — пабачыць Маню, пазнаць яе, якім чынам яна аказалася была цвярдзейшая характарам за гэтага чалавека ў белым цырульніцкім халаце, так поўна сабраўшага для сябе ўсё неабходнае для такіх вось поглядаў на ўсё.

Казімер пачаў курыць і хадзіць узад і ўперад па пакоі.

— Вы з Маняю, жывучы на хутары, ніколі не ладзілі?

— Не ладзілі,— адказаў Казімер.

— А ты ўсё ж пахмурны нейкі чалавек. Ты надзвычайна сталы і шмат што ідэалізуеш, здаецца мне... Тут гэтыя студэнты за сцяною — дык у іх у гэтых справах два лагеры...

— І ты заўсёды слухаеш іх спрэчкі?

— Яны і не спрачаюцца ніколі, і не вучаць адзін аднаго. Толькі так, гаворка часам пачнецца ў іх. Цікавая гаворка. Я цябе калі-небудзь з імі пазнаёмлю. А там ёсць з двара ўваход у другую кватэру, дык там жыве паэт, піша вершы і ходзіць да мяне галіцца. Прыйшоўшы да студэнтаў, ён стараецца звясці іх да спрэчкі, але, як асоба неарганізаваная, ніяк не можа дайсці да гэтага. От амаль і ўсе, каго я тут больш ці менш блізка ведаю.

— А што ты робіш у вольны ад работы час?

— Займаюся, так проста для сябе, вывучэннем некаторых рэчаў.

— Якіх?

Абрам падышоў да нізенькае шафы і адчыніў яе, падазваўшы кіўком галавы Казімера. Казімер убачыў дзве верхнія паліцы, застаўленыя кнігамі.

— Толькі не думай, што я па гэтых кнігах вывучаю тое, што вывучаю. Гэта табе не гісторыя. Яе і добра вывучаць па кнігах. Усё ж іншае па кнігах найлепш толькі правяраць... Правяраць, як працавалі рэгістратары. Як вяліся пратаколы... Дык от я часам і заглядваю ў гэтую шафу.

— Часам?

— Не вельмі часта — чытаю я паволі, трудна даецца мне тоўстая кніга, напісаная чалавекам, змалку ўбачыўшым у кнігах сэнс усяго. А я паразумнеў, гледзячы разумныя твары.

— Ты заўсёды на жарт сыходзіш.

— Усякі жарт, выказаны з сталымі маршчынамі на лбе, заўсёды ідзе ў ход, як найвялікшая ісціна. За гэтым, мусіць, пастаўпікі, якіх бы яны маштабаў ні былі, мала смяюцца... А от я цябе напалохаў сваім дзікім жартам. Ну, от я засмяюся, каб мой жарт застаўся жартам.

— Гэтым смехам ты толькі пацвердзіць можаш, што ты не жартуеш.

— Жартую...

У шафе, разам з ручнікамі і сарвэткамі — прыналежнасцю цырульні, ляжалі кнігі аб кіно і тэатры. Таксама выразкі з газет з рэцэнзіямі і артыкуламі аб тэатральных пастаноўках.

— Ты займаешся тэатрам і кіно?

— Я імі зусім не займаюся.

— Цікавішся?

— Адмыслова толькі.

— Дык нашто табе ўсё гэта?

— Гэта маё начынне для вывучэння некаторых з'яў.

— Даўно ты вывучаеш «некаторыя з'явы»?

— Замест вячэрняга спацыру. І з тых часоў за такі метад узяўся, як за сцяною з'явіліся студэнты.

Казімер перабіраў кнігі. Камячыў бялізну, абы-як складзеную на паліцах, выцягваў новыя і старыя выданні, бачыў нажаўцелыя старонкі і новыя, яшчэ не разрэзаныя зборнікі. Раптам сярод кніг убачыў наклеены на белую паперу здымак, узяў у рукі і глянуў.

Некалі, у гарачы поўдзень, бег ён па страшна няроўнай раллі. Ногі, цяжкія перад гэтым ад нацёртых цяжкімі чаравікамі мазалёў, утомленыя пастаянным рухам, здаліся яму ў той час лёгкімі — такая была тады ў яго ўзбуджанасць. Побач з ім таксама беглі людзі, страціўшыя раптам у гэтую хвіліну свой ранейшы падзел на асоб — згладзіліся з уяўлення ўсе блізкія таварышы, таксама як і толькі так знаёмыя, і проста незнаёмыя шэрыя людзі. Вінтоўка, што адцягвала раней руку, не была прыметнаю — усё сплыло, збегла і змянілася, ператварыўшыся ў рэдкую з'яву, надыходзячую толькі ў востры момант: усё здаецца іншым — сонечны дзень, белы ад яснасці, набывае раптам усе адценні змроку, усё вострае здаецца тупым і тупое вострым, усё раней вялікае — малым... За ляском сакаталі польскія кулямёты, кулі рэзалі цэлыя шэрагі людзей, што беглі паабапал. Некалькі раз абапёрся ён на вінтоўку, стукнуўшы для гэтага прыкладам аб цяжкую раллю, пасля зноў бег. У гарачцы несупыннага руху ўсё і далёкае і блізкае стаяла на адной лініі. І от, хто застаўся жывым,— дабеглі да ляску, праскочылі яго, забралі пазіцыю. Тады, як паспакайнела, усё пачало ўваходзіць у свае берагі, але доўга яшчэ ў крыклівай трывозе ўяўленні поўніліся надзвычайнаю шырынёю новых даляглядаў, што з'явіліся як вынік парушэння рэчаісных парадкаў.

Такое і цяпер з'явілася.

І яшчэ з глыбіні слядоў ад даўнейшага дачынення да рэчаў, з'яваў і людзей — усё, праз што пазнаваўся свет, усякія сэнсы — дарэчнасці і недарэчнасці — усё хлынула раптам наверх і ў непарадку заўладала істотай. На фатаграфіі ў профіль быў твар Мані.

— Я табе забыў яго паказаць раней.

— Яна не падобна на ранейшую сябе.

— Тая самая. Як ты чалавека ні здымай — здымак ніколі не будзе праўдзівым.

Казімер падышоў да акна і глядзеў на фатаграфію. Абрам заняўся сваёю справаю — скінуў халат, ад чаго стаў танчэйшым і як бы вышэйшым ростам, і ўся постаць яго зрабілася не такою сталаю і весялейшаю. Леваю рукою ён прыгладжваў жаўтаватыя валасы свае назад і праваю, двума пальцамі, прыціскаў да зубоў ніжнюю губу, якую паспешна кусаў. Цяпер ён не спускаў левага вока з Казімера.

— Дай мне гэты здымак?

— Бяры.

Здзіўленая нерашучасць цяпер была ў Казімеравым зірку ў бок Абрама.

— Я думаў, што ты не захочаш даць.

— Дзівак ты, ты аба мне нешта нядобрае думаеш.

— Дзе ты ўзяў картачку?

— Сам узяў. Убачыў у яе і сказаў — вазьму. Яна кажа — бяры. І ўсё... А от ты, ніяк не магу пазнаць тут нічога. Ты з ёю ніколі блізкім не быў, а ўвесь трывогаю поўны ад яе ліста і ад яе з табою гаворкі аб ёй.

— Пасля раскажу. Цяпер зараз пайду.

Толькі верх сцяны быў цяпер асвечаны сонцам. Падлога пацямнела, накінуўшы змрочнасць на ўсё.

III

І вось ужо ён зусім нарыхтаваўся ісці. Ужо фатаграфія была схавана ў сподннюю кішэню яго лёгкага паліто, шаль свой ён закруціў на шыі і падапхнуў канцы пад каўнер. Абрам Ватасон, як бы што вызначаючы ў думках сваіх, абышоў вакол яго разы два...

— Не тое ўсё, не тое...

— А што?

— Ты нешта сказаць хочаш, ды не гаворыш.

Абрам змаўчаў, залажыў рукі ў кішэні, прайшоў уздоўж каля сцяны. Пасля стаў перад акном і глядзеў паверх усяго, што толькі магло падставіць для гэтага чалавечага запятку свой верх. Неба відаць было нейкае гумарыстычна-бруднае, як бы залітае наносам веснавое вады. Смешненькія балкончыкі і мезанінчыкі ліплі да стрэх, чапляючыся за сцены.

— Эх ты, індустрыя,— сказаў Абрам.

Абодвум ім стала раптам так, як бы гэта яны пілі ваду, не хочучы піць, а п'юць — от, абы напоўніць так свой жывот. Казіміру раптам здалося, што найвялікшую хітрасць нейкую Абрам утварыў перад ім, нечага не даказаўшы, у нечым не прызнаўшыся. Абрам адчуваў, што і сапраўды, можа, не так, як трэба было, ён гаварыў, можа, чым і сапраўды павёў Казімера на такія думкі. Так ім абодвум стала кісла ў настроях. Цяпер і Казімер падышоў да акна, зашпільваючы ніжні гузік свайго паліто. Мокры і забруджаны ўсякімі людскімі патрэбамі двор ляжаў перад акном.

— Чорт яго, тфу! — сказаў паціху Казімер.
— Што?
— Нічога. З вуліцы яно і нішто, а тут...
— Бо гэта мы цяпер за кулісамі. Там з вуліцы ўсё гэта для зносін з усімі тымі, хто мае патрэбу мець са мною зносіны, а тут проста так. Мы ўсе жывём за кулісамі, а паказваем сябе на сцэне і нават гаворым заўсёды аб сцэне.
— Гэта ты загэтым і тэатр вывучаеш?
— Не, не загэтым.
На двары з'явіўся чалавечак. Стукаў ботамі на ўтоптаных у гразь дошках, наложаных тут у часе барацьбы з гразёю. Рукі трымаў засунутымі ў кішэні доўгае ватовае з тоўстага сукна жакеткі. Нос яго, як вясёлая птушачка, варушыўся на твары. Убачыўшы ў акне Абрама, ён весела казырнуў.
— Хто гэта?
— Гэта гаспадар гэтага дому.
— І двара?
— І двара.
— Усяе, значыцца, гэтае індустрыі?
— Індустрыі.
— У цябе калі выхадны дзень, у нядзелю?
— У панядзелак. А ў нядзелю я вольны ад шасці гадзін па паўдні.
— Я да цябе зайду тады... Або ты да мяне. Універсітэцкая, 36. Ліпы перад домам за парканам.
— Добра.
— Бывай, братка.
— Стой, я цябе выпушчу праз цырульню.
Але тут раптам адчыніліся дзверы, і Казімеру давялося пазнаёміцца з самім гаспадаром двара і дома.
— На дварэ падшорхла трохі,— сказаў чалавечак,— за ноч, я думаю, што падніме́цца мароз градусаў па тры.
Ён чуць шатнуўся ўлева і ў той жа момант, упёршыся нагою ў падлогу, адкінуўся назад.
— Студэнты нашы як пайшлі сягоння зранку, дык дагэтуль і няма іншчэ, ліха ім, гатовы пад манастыр падвесці — збягуць з кватэры, не заплаціўшы, што ты ім кол на галаве зачэшаш, ці што!.. Закурыць у вас можна?
Ён паглядзеў знізу ўгару на іх абодвух. Казімер дастаў яму папяросу.

— Ганарова дзякую,— сказаў чалавечак, кіўнуўшыся наперад.— Ад каго маю гонар частавацца?

— Ірмалевіч.

— Цырульнік?

— Студэнт.

Чалавек яшчэ раз кіўнуўся наперад.

— Радзівон Цівунчык. Чатыры гады жыву выключна па сваіх прыватных справах. Так, так... Вы да студэнтаў, значыцца?.. Тады можаце зайсці да мяне пачакаць, а яны павінны неўзабаве прыйсці.

— Я не да іх.

— Выбачце, выбачце... Да іх народ ходзіць, публіка часта бывае. Так, так.

За гэты час ён сасмактаў палавіну папяросы, стаяў і курыў далей, растапырыўшы ногі і маючы нахіл хіліцца наперад усёю постаццю сваёю, і гаварыў:

— А я думаў, вы да студэнтаў,— гляджу — чалавек інтэлігентны, пасля самі прызналіся — студэнт, як не падумаць, праўда ці не? Я такі чалавек... (тут ён уздыхнуў, паправіў каўнер споднясе сарочкі, што быў відзён пад штрыфлямі жакеткі пад барадою), я такі чалавек... я люблю, люблю я!

— Што?

— Усё. Усё люблю. А найбольш люблю студэнтаў — яны жыццё разумеюць, ого-го! Мы толькі гэта так прывыклі — студэнт-студэнт, а от падумайце, усякі адвакат з студэнта выходзіць. Люблю я адвакатаў, от што. Ува ўсіх прысутствіях найвялікшыя людзі — адвакаты. Мала што ў іх чыны ці назвы могуць мяняцца, а адвакат адвакатам па век вечны застанецца...

Ён, можа, яшчэ і больш гаварыў бы, але па дворы нехта прайшоў, матнуўшыся галавою міма акна. І Цівунчык, паспешны і рухавы, патрымаўся за казырок летняе шапкі, скланіўшыся Казімеру, і пайшоў, успеўшы, аднак, на хаду сказаць:

— Ён табе можа сказаць прамову, дык публіка можа заплакаць. Заплакаць можа, от што. Раз я быў маладым і чуў — усё прысутствіе плакала, а ён гаварыў, як рэпу грыз. Я ж кажу... Студэнты, мабыць, прыйшлі, бывайце здаровы: ключ ад кватэры ў мяне.

— Уяві сабе,— сказаў Абрам,— якое-небудзь стварэнне знаходзіцца між дзвюма гладзенькімі дошчачкамі. Ад споднясе да верхнясе дошчачкі прастору амаль няма, цесна

і душна, але затое направа і налева якая даўжыня. Канца і меры няма. Гэтае стварэнне сядзіць і захапляецца гэтаю даўжынёю, спакойнае і радаснае, не ведаючы, што апроч гэтае даўжыні ёсць яшчэ і вышыня, недаступная яму, адгранічаная ад яго сподам і верхам...

— Гэта ты пра Радзівона Цівунчыка?

— Пра яго.

Казімер пастараўся забыцца на кагадзе пайшоўшага чалавечка. Нядобра яму было. Усю рэшту дня правёў ён тут, прыведзены сюды ўстрывожыўшым яго лістом Мані. Ліст гэты фактычна і зблізіў яго так духоўна з Маняю сягоння ж, з вобразам стрыечнае сястры Мані. Яму хацелася стаць блізка да яе, як чалавеку, не ведаўшаму ніколі блізасці родных. І ад таго, што раней яны, многага не разумеючы ў жыцці, не былі блізкімі, нават часам, асабліва ў больш раннія годы, элементы варожасці ляжалі ў іх адносінах між сабою — ад таго, можа, і з'яўляецца цяпер такім моцным жаданне не быць далёкім да яе. Ліст яе паведаміў яго, што і яна адчувае нешта падобнае. І ні ліст яе, ні гаворка з Абрамам нічога пэўнага не сказалі яму. І вось цяпер, ад усяго гэтага, не расчараванне, а нешта нават большае з'явілася, і былі ў гэтым адценні злосці на самога сябе і на ўсё. З неглыбокім настроем ён пайшоў. Абрам выпусціў яго праз цырульню.

Вечар прыходзіў хмурны. Каля вакзала апусцела — да поўначы ніякіх паяздоў не было. Ледзяная зямля яшчэ макрэла і маўчала пад нагамі, як бы не ведаючы, што ёй рабіць — замярзаць на ноч ці не.

Казімер пайшоў тратуарам, раздумваючы. За пяць крокаў ад цырульніцкага ганка стаяў на дарозе ў яго Радзівон Цівунчык і маўчаў. Ён схіліўся набок, даючы дарогу Казімеру, і, прапусціўшы яго, сказаў яму наўздагон:

— Ідзяце?

— Іду.

Казімер стаў да яго бокам.

— Куды пойдзеце?

— Дадому.

Радзівон Цівунчык з расчараваннем махнуў рукою і падаў голас:

— Добра, калі чалавеку ёсць куды з дому пайсці; верце сумленню, ей-права.

— А што, вам няма куды пайсці?

Радзівон Цівунчык раптам ажывіўся, узрадаваўшыся гаворцы. Падступіў бліжэй, радасны і гаваркі:

— Каб сказаць — не было куды пайсці, дык не скажу. Няпраўды гаварыць не люблю, не такі чалавек, змалку дзён не прывык. А раз чалавек да чаго не прывыкне — шабалкі, канаў, а нічога не выйдзе. Капут.

Ухмыльнуўшыся над пустатою п'янаватага чалавека, Казімер хацеў ісці, але Цівунчык чуць прытрымаў яго за штрыфлі паліто, спешна канчаючы гаворку:

— Я мог бы пайсці да Альберта, скажам, Пікілевіча, але чаго? От што! З ім жа не пагаворыш як з чалавекам. Ён вельмі сіберна п'е. А раз вып'е — фар-фал! Ні за што зняважыць і абдурыць бацьку роднага. Я сам люблю выпіць і магу-такі выпіць, змалку дзён прыйшлося так, але так піць? Барані мяне божа...

— А нашто ён так многа п'е?

— Заліўшы вочы сабе, лягчэй заліваць іх другому. Смялей... Вы парцейны?

Казімер пайшоў, няўважліва даслухваючы на хаду дробную гаворку сіратлівага чалавека.

Ён глядзеў навакол і ішоў.

На вакзал везлі дзіравыя скрынкі з жывымі гусямі. Гусі крычаць, ловячы дзюбамі нешта ў паветры. Стук ламавых фурманак глушыць гусіны крык, а сам гэты стук ахвотна глушыцца прарэзлівым крыкам аўтамабіля,— нехта мігнуў уваччу і не разабраць — ці ў шапцы ён, ці ў капялюшы? — цёмна. І ці партфель там у яго руках, як паросная свіння, тоўсты ад усяго, што ў яго кладуць важныя людзі, ці то ў яго проста ў руках закручаны ў чорнае гасцінец жонцы.

Гусі праехалі, даўно прамчаўся і важны чалавек. І от толькі грузнасць будынкаў глядзіць недаверліва ў вільгаць першага змроку — Радзівон Цівунчык не ўгадаў — мароз, не падняўшыся і да аднаго градуса, з'ехаў на няманіц... Пахла ваппаю — ад веснавое моцнае і ўпартае вільгаці размывалася патроху гліна з неапаленае цэглы на дрэнна настаўленым і не прыкрытым чамусьці нізенькім будынку. А ўнізе сплыўшая гліна, паўзучы па раўчуках, збіралася ў адно месца, загароджваючы ход вадзе.

Казімер спяшаўся ісці, нядобра было яму цяпер.

Каля тратуара на цеснай пляцоўцы (Казімер выразна, нехаця, чуў) двое гаварылі аб нейкай сітуацыі і дапасова-

ным да яе спосабе выяўлення свае асобы, а таксама, у звязку з гэтым, аб адмысловым колеры гальштукаў. Там жа, дзякуючы позняму часу, спешна дапродваўся кавалак сіняга бастону № 2, два кашы падмарожаных у лядоўні гнілых яблык і іншая чалавечая дробязь.

## IV

Цяпер выразна акрэслілася назнанне ў Ваці Браніслаўца — не ахапіў ён сабою жыцця і не зрабіўся ў ім істотнаю патрэбнасцю яго або хоць назіральнікам яго ўсяго, да апошніх маленькіх дробязей, ува ўсю шырыню і абхват. І цяпер асмяяў ён сам сябе за былы нясталы шлях,— вучачыся ў інстытуце сельскае і лясное гаспадаркі, трымаўся толькі сельскагаспадарчых і лясных навук, на ўсё іншае глядзеў прыжмураным вокам і стаповішча рэчаў зразумеў так: раз надбудоўка трымаецца на базе, толькі база і ёсць істотнасць і патрэбнасць, надбудоўка ж — створана хіба толькі для таго, каб на базе было чаму трымацца. Фактычна ён нічым асабліва не захапляўся і ў сваіх навуках, і нават пад канец свайго інстытуцкага навучання ўжо гаварыць пачаў: «Гадка ўсё ў нас. От скончу я навуку, буду спецыялістам па лясных справах, а тут мяне і пашлюць у якую-небудзь страшную глуш. От табе я і вучыўся; ваўкоў палохаць?»

— А для чаго табе быць не ў глушы? — запытаў яго таварыш, ціхі і лагодны скептык.

— А для таго, напрыклад, што тут зусім іншая кампанія можа быць... А то вазьмі, напрыклад, публічныя лекцыі па эканоміцы або хоць учарашняя лекцыя — «Шлюб, сям'я і каханне».

— Ты ж толькі на гэтай лекцыі і быў, больш ні разу і не хадзіў нікуды.

— Ува ўсякім разе я ведаю, што такое шырокі размах і правінцыя.

— Што ж ты робіш для гэтага размаху або ён для цябе? Хіба толькі ты з свае пары наглядаеш за ім, і ўсё тут?

— Нашто толькі быць наглядальнікам, дзівак ты. Гэта значыцца, нейкая абыякавасць, духоўная смерць.

— Ну, дык канкрэтна, у чым жа твая роля ў гэтым «размаху» або яго роля ў табе?

Ваця Браніславец падумаў трохі і сказаў:

— Дай мне скончыць інстытут... Мы цяпер проста жывём да часу — вучымся. А тады мы будзем жыць і пазнаем усю шырыню. Для гэтага і вучымся.

— А дзеля чаго пазнаваць? — не ўнімаўся таварыш-скептык. Ён пільна вывучаў пытанне аб абсалютным хімічным скарыстанні некаторых парод дрэва, меў поспех і збіраўся ехаць пасля інстытута па год пяць у ляспую глуш для доследаў лясных парод. І смяяўся над «размахам» як самамэтаю.

— Дзеля чаго пазнаваць? — адказаў яму Ваця Браніславец.— Дзеля чаго пазнаваць?.. Ты проста вузкі спец.

— А чым ты займаешся ці хоць цікавішся, апроч лясное таксацыі?

Ваця Браніславец пастараўся скончыць гаворку і больш, надалей, ухіляўся ад спатканняў нават з гэтым сваім таварышам. Хутка пасля гэтага ён захапіўся быў адным прафесарам, які выдрукаваў сваю навуковую працу «Аб чым нам спяваюць пеўні». Працу гэтую Ваця Браніславец пачаў пейк раптам лічыць надзвычайна вялікім навуковым творам, хоць яе і не чытаў зусім. Бачыў толькі вокладку і ўважліва прачытаў тытульную старонку кнігі. І такое паважнае думкі быў аб гэтай кнізе выключна затым, што аўтар яе пейк раз выказаў думку аб сучасным упадку навукі. Сказаў ён гэта смела і самаўпэўнена, чым і захапіў Вацю Браніслаўца. Другая група студэнтаў, якія таксама кнігі «Аб чым пам спяваюць пеўні» не чыталі, чамусьці даводзіла, што кніга гэтая ніякай навуковай вартасці не мае, перамаглі ў спрэчцы Вацю Браніслаўца — іх было больш. Праз тыдняў тры Ваця Браніславец забыўся аб глыбокай прафесарскай навуковай працы, захапіўшыся выказанаю адным студэнтам-філосафам у студэнцкай сталоўцы ў часе абеду ісцінаю, што на свеце змяняюцца ўсялякія формы ўсяго, толькі прыгожасць жанчын застаецца нязменнаю... Заўсёды, носячы ў сабе пачаткі імкнення, ні да чога рэальна не прыкладзенага і ясна не выяўленага, не маючы ўпартасці яго пакіраваць і дысцыплінаваць, ён меў вялікую здольнасць адмаўляць усё тое, чаго не адмаўляе той, каго ён не любіць. І цяпер, пасля інстытута, зрабіўшыся ў лясным аддзеле наркамзема таксатарам лясоў, ён пачаў развіваць з вялікімі поспехам востры скептыцызм, адзнакі якога з'яўляліся ўжо ў яго з ранніх дзён.

Пакойчык, за які плаціў ён гаспадыні дзесяць рублёў

за месяц, быў застаўлены сталом, ложкам, двума крэсламі і каля дзвярэй — гарцам (гусаком) ад вішнёвай настойкі, сфарбаванай ім самім. Цяпер гусак меў у сабе толькі ў дне трохі падсохлых і нават сям-там зацвілых вішань, пахучых квасам і спіртам. Дома ён мала калі бываў і загэтым няважна было, як і што ляжыць ці стаіць у пакоі. Цяпер ён часам (думаць не думаў) гаварыў каму-небудзь з таварышаў сваіх: «Чорт яго ведае, каб ажаніўся, то, можа, парадак які ў жыцці з'явіўся б!» Бачачы яго смутак па парадку ў жыцці, сакратар ляснога кіраўніцтва парадзіў: «Толькі не жаніся цопам-лопам, а падумай». Кур'ер ляснога кіраўніцтва, актыўны супрацоўнік насценнае газеты, на гэта адказаў: «Тады з'явіцца ў жыцці планавасць і сістэматычнасць, а без гэтага нельга». На гэта яму нічога не адказалі, і ён змаўчаў і падаўся ў пакой агульнае канцылярыі, а Ваця Браніславец адчуў у сабе смутак расчаравання. З таго часу ён і задумаўся стала над тым, што не ўсё ў ім і ён не ўва ўсім, а ўсё вышэй і шырэй, а ён у маленькім кутку ўсяго, нізкім, цёмным і няважным. І тады акрэслілася ў ім жаданне знайсці метад аўладання ўсім ці хоць знаёмства з шырынёю ўсяго.

Моцныя ўстанаўленні плылі, як бурная рака, цягнучы ўсё за сабою, несучы на сабе і ў сабе ўсё ахвачанае і поўнае сэнсам. Выкідаючы сёе-тое то на цвёрдыя, то на мяккія і брудныя берагі. Шпураючы наперад і нічога не кідаючы назад.

Ваця Браніславец амаль фізічна адчуваў бязлітасную цвёрдасць каменняў і цэглы і сілу жалеза і нават нямоцнага шкла. І побач таксама вятры, пахучыя мяккай зямлёю і лебядою. Дошкі, і смалу, і рапішні дым. Усё расце, плыве, варушыцца, гіне і нараджаецца...

Маленькі верабей жыве пад загнутым кантам жалезнага даху, пры сцяне, на пейкай высунутай бляшцы, угары над акном пятага паверха моцнага муру, над грымучай брукаванаю вуліцаю. Зляціць ён на брук, дзеўбане пыльны камень, замільгаціць крылямі над галавою соннага каня ў доўгім шэрагу фурманоў дзе-небудзь уздоўж сквера. Пасля пераляціць цераз камень і цэглу — і за дзеравяным парканам знойдзе лебяду і пах ветру, нават ваду ў ямцы, прабітай нагой каня... А канцы ўсяго ў каламутнай вадзе?..

Абрам Ватасон, гаворачы Казімеру Ірмалевічу, што ён, Ваця Браніславец, беспрацоўны, памыліўся. З свае такса-

тарскае пенсіі Ваця Браніславец нават сягды-тагды пасылаў у глухенькае мястэчка бацьку якую-небудзь дзесятку рублёў. А жыў так, як Абрам Ватасоп гаварыў,— не ад грашовых прычын.

І адзін раз маленькі і звычайны зусім выпадак заставіў яго прыняць удзел у невялікай гаворцы, якая адбылася ў кватэры Радзівона Цівунчыка.

Нічога выдатнага з агульнае масы ўсяго не кідалася ў вочы ў кватэры, дзе жыў Радзівон Цівунчык. Большы пакой займалі студэнты, і там цівунчыкаўскага духу зусім не было. Меншы пакой, пры самых сенцах, займаў сам Цівунчык. Што тут было ў гэтым пакоі, трудна сказаць адразу, аднак у ім надзвычайна цесна было. Ён быў застаўлены ўвесь. Рандэлькі і скавароды ляжалі ўсюды побач з пучкамі свінога шчацінпя, здабытага даўно ўжо, у часе нейкай часовай работы ў разніцы. Яно ўвесь час мелася быць звязаным у адзін пук і прададзеным у якую-небудзь дробную крамку. Шырокая печ моцна прыпіралася задам да сцяны, агульнай з студэнцкім пакоем; у запацелае акно зазіралі здалёк хмурныя вяршкі дрэнненькіх гарадскіх кустоў.

— Я жыву па сваіх прыватных справах,— гаварыў заўсёды Радзівон Цівунчык.

— А раней вы па якіх справах жылі? — па некалькі раз перапытвалі яго кватаранты-студэнты.

— А раней я жыў па справах казённых. А як жа! Я дваццаць два гады, не змяняючыся, праслужыў сторажам у лазні. У самай большай казённай лазні.

Раз, трошкі захварэўшы, паскардзіўся:

— Барані божа памру, тады ўсе дуды вобземлю. Хаця каб як бог памог гадочкаў са два пажыць, а то, не дай божа чаго, усе справы як сярод гразі застануцца.

— Не будуць, значыцца, закончаны прыватныя справы? — усміхнуўся стала студэнт.

— Не будуць. А я такі чалавек, што не магу так. Я люблю парадак, тады ў мяне душа спакайнейшая.

— А спакой душы — самае важнае для чалавека,— сказаў студэнт.

— Зусім слушна кажаце. Дай божа мне паправіцца.

Праз два дні ён быў здаровы і зноў узяўся за свае сталыя заняткі — падмятаў у студэнтаў пакоі, ачышчаў на вуліцы снег з тратуара, саскрабаў гразь з ніжэйшай ступенькі цырульнікавага ганка, а рэшту часу тупаў па два-

ры, па вуліцы перад вакзалам, заходзіў у цырульню закурыць.

Пад вечар, правёўшы зрокам рухавых вачэй Казімера Ірмалевіча, які выйшаў з цырульні Абрама Ватасона і, не захацеўшы слухаць да канца яго гаворкі, пайшоў ад вакзала ў горад, Радзівон Цівунчык стаяў некаторы час перад ганкам цырульні на тратуары, чакаючы студэнтаў, каб адамкнуць ім дзверы.

Каля апусцеўшага вакзальнага пад'езда кусціўся вечар — змрочная сцяна з настаўленых дошчак адгароджвала пляцоўку ад перона, хаваючы ад прывыклых да вулічнае гразі вачэй казённую чыстату цэментавай падлогі і акуратнасць жалезных слупоў... На гэты бок высокага паркана вада і гразь зліваліся з першым змрокам, нечая адна фурманка чарнела пад самымі дошкамі, двое нешта цяжкае неслі з яе на вакзал. Выйшаў з вакзала стрэлачнік з запаленым ліхтаром, патрос ім у левай руцэ, паглядзеў на яго, патушыў і пайшоў далей, мусіць, дадому. Кавярня запішчала дзвярамі, выкінуўшы перад гэтым у вячэрнюю вастрату доўгі зык абыякавай да ўсяго скрыпкі. А на двары зык гэты, удубальт павялічыўшы сваю гэтую прывыклую ўсім абыякавасць, адцягнуў на момант ад нечага іншага ўвагу нейкай жанчыны, закручанай амаль што з тварам у нешта вялікае і шэрае — ці то ў хустку, ці то ў дзяругу. Яна азірнулася, пастаяла і пасля, глянуўшы на ганак цырульні, падышла да Радзівона Цівунчыка.

— Можа, хлеба кусочачак? — сказала яна.

Радзівон Цівунчык разглядзеў яе твар і развёў рукамі. І яна пайшла, не спяшаючы і не азіраючыся, як бы падкрэсліваючы ўстанаўленне,— сонечныя лапіны не зацямняюць сонца. Лапіны ёсць. А сонца свеціць.

Над Радзівонам Цівунчыкам недзе на другім паверсе дома — чуваць было — гаварылі і смяяліся. Ападаў на зямлю смех... Вакзал засвяціўся раптам.

У паветры запахла нечым вострым. Кропля вады ўпала аднекуль на твар Радзівону Цівунчыку. Ён расцёр яе на твары кулаком так, як дзеці расціраюць слёзы, і пасля гэтага рашыў ісці дадому запаліць агонь, і пайшоў у сваю кватэру, дзе неўзабаве адбылося знаёмства між некалькімі людзьмі і гаворка,— што было пачаткам некаторых падзей сярод людзей, што сыходзіліся тут у гэты вечар і дзень.

## V

Чалавек — белы з твару і з вачыма абнямоглага каршака — стаў на бетонным масце, пядбала закурыў і востра глянуў паабапал сябе і ўніз, глыбока піжэй ног сваіх, дзе ў перадвячэрнім шчасці цвёрдага маўчання сілы свае ляжала чорнае жалеза. Зашпільваючы на два гузікі бобрыкавае паліто сваё, чалавек падаўся наперад, на жалезныя балясы, і прымеціў: унізе шэрая цяжкасць сцен, што трымала скляпенне моста, цёмна зліваліца пачала з зямлёю, моцна ўбітаю чалавечымі прыладамі і досыць усыпанаю найдрабнейшаю дзындраю. Па краях — першыя сляды ўпартых натугаў падземных карэнняў і сокаў пусціць на белы свет траву (тут толькі і следу было ад зімы, што малая вільгаць ад апошняга лёду). Далей жа, наперадзе, перад чалавечым вокам — роўная зямля, месцамі залітая шырокімі палосамі цэменту. Там, направа, і быў будынак вакзала з пероннага боку. Зусім чыстыя слупкі і больш высокія падстаўкі для ліхтароў — самі рабілі ўражанне як бы ахавальнікаў гэтае чыстасці падмеценага кавалачка свету. І ўсё здавалася прасторным. Аднак каля чатырох тонкіх прэнтаў, што, абняўшыся дротам, высока трымалі белую лямпу, рэзала вочы нешта пастароннае тут, дробна рассыпанае ці густа разлітае (як ты ні ачышчай усё, што толькі хочаш і можаш на свеце, усё роўна знойдзецца той нязменны, што жыў не будзе, пакуль не нагадзіць)... Чорныя лініі пераблытанага жалеза беглі ў гушчыню дрэва і камення.

І ўсё — ад патаптанай зямлі і закаламучанай вады да абкружаных незлічонасцю ўсяго вакольнага людзей — прымеціў Ваця Бранілавец.

Рыхтавалася тухнуць святло дня і адценні яго на горадзе, як выйшаў ён з кавярні, дзе і адбыўся ў той дзень іх — шасці чалавек — абед. Пасля нудных сталоў канцылярыі лясного кіраўніцтва вясёлым быў той абед, пакуль не кальнуў ён Вацю Браніслаўца шумнаю гаворкаю ўсяго застолля.

— Ты што ж,— кончыў былы таварыш па інстытуце,— цяпер — член мясцкома і нейкага бюро працаўнікоў лясного кіраўніцтва,— ты ведаеш, чым ты з'яўляешся і чым ты можаш з'явіцца?..

— Ты гэта да каго гаворыш? — сказалі яму.

А той глядзеў на сцяну, вясёлы ад дзвюх чарак. Можа,

гэтыя думкі капашыліся ў ім кожны дзень, можа, адценні іх недзе ў глыбіні яго — як бачыў ён чорныя і рудыя гарнітуры, прыткнутыя да канцылярскіх сталоў, і між справамі чуў гаворкі «сыноў свайго веку» з партфелямі раённага маштабу, што стараюцца расцягнуцца да сталічных памераў.

І от ён цяпер крычаў усім, хто яго слухаў і не слухаў:

— ...ты думаеш, калі ты пасядзіш шэсць гадзін за сталом, а вечарам паглядзіш балет у музычнай камедыі і пагаворыш аб прагрэсе чалавецтва, дык ты і ўтварыцель самога прагрэсу? Ты ўтварыцель жыцця? А пакуль ты не станеш сам утварыцелем, датуль ты не паднімешся над вялікай нізасцю, што напаўняе нас з глыбіні вякоў...

— Ты многага хочаш,— падалі з другога канца стала голас.

— Я многага хачу?! Гэта тая тычка, па якую трэба раўняцца. Можаш да яе не дайсці, а раўняйся...

Ваця Браніславец, з горкім крыкам усіх рысаў твару свайго, моцна зазначыў як бы нейкае сваё ўстанаўленне:

— Значыць, па-твойму, пасынак я ці, можа, нават вораг рэвалюцыі?!

— У сваёй гаворцы я да гэтага не дайшоў.

— Але да гэтага ты вядзеш словы свае. Ты і раней мяне ўзводзіў на гэтыя думкі.

— Табе дарэмна дадзена асвета. Я ад цябе патрабую, каб ты быў утварыцелем.

І тады рашыў ісці адгэтуль Ваця Браніславец. Член мясцкома і бюро абсадзіў яго назад, а ён зноў падняўся. Як бы вострымі запытаннямі — што рабіць? — гарэў твар яго.

З другога паўпога пакоя раптам выйшлі двое — адзін нават і зусім чысценька быў адзеты, і дзіўна было, як гэта ён ставарышаўся з другім — гумарыстычным і вяртлявым. Гэты другі, ідучы ззаду, гаварыў:

— Ідзяцё?.. От і я следам за дзедам, як той казаў.

Пярэдні ішоў і нічога не адказваў, і вось гэты зноў гаварыў, цягнучы, мусіць, далей пярэрваную гаворку:

— ...вы казалі. А я слухаю і думаю сабе — душа меры не знае. Можа, той павінен даць жонцы лыжку лякарства, а ён шклянку дае... Так яно і ідзецца. Той, скажам, бярэ сорак, а гэты дзесяць, а хто з галавой, той і больш...

— А хто без галавы, той і ніякае храновіны не бярэ...— раптам падаў голас Ваця Браніславец, напоўніўшы-

ся звычайным сваім скептыцызмам і жаданнем здорава паздзекавацца над усім і ўсімі.

Чалавечак азірнуўся, убачыў стол і людзей за ім. І ў нерашучасці прыпыніўся, астаючыся ад таго, што ішоў нярэдпім. Так пастаяў з паўхвіліны і, як бы ўцяміўшы сэнс усяго вакольнага, не спыніў свае гаворкі:

— ...а яно ж так. Той машыніст, той тэхнік, той памоцнік... Памоцнікаў найбольш. Гэты, што выпіваў са мною,— гэта таксама памоцнік чыгункі. А ў яго яшчэ два...

— Уг-га! Чаго, чаго, а памоцнікаў хапае!

І Ваця Браніславец падняўся. Тады чалавек цвёрда падышоў да стала і зазірнуў яму ў твар.

— А-а-а, дык гэта свой чалавек. Толькі нешта даўно не прыходзіце. Вы ж гэта летась як былі раз пад вечар у студэнтаў, дык ад таго і не былі.

— От табе і знаёмства новае,— пачалі жартаваць за сталом.

— Якое новае, калі старое.

— У якіх там студэнтаў! (Ваця Браніславец рабіўся злосным).

— А як жа, не памятаеце? А каля Брэсцкага вакзала... Ды што вы мяне не пазналі? Радзівон Цівунчык. Я ж вам, памятаеце, паказваў тады кватэру з вуліцы, напава паправуленую. Там цяпер ужо каторы месяц цырульня. І сам цырульнік там жыве. А як жа! Ватасон.

— Абрам?!

— Абрам. Вы і яго ведаеце?!

— Я пайду,— пабялеўшы раптам, моцна сказаў Ваця Браніславец і выйшаў з-за стала.

— Зараз усе разам пойдзем, пачакай,— так сказалі яму.

— Ты пакрыўдзіўся чаго? Ваця!..

А ён моўчкі падаў руку члену мясцкома і іншым і падаўся да дзвярэй.

— І я следам за дзедам,— сказаў Радзівон Цівунчык.

Ваця Браніславец шпарка павярнуўся, наліў чарку і сказаў Цівунчыку:

— На, дзядзька, лепш выпі, а я пайду адзін.

— Што вы, таварыш! — пачаў не паддавацца Цівунчык.— Не такі я чалавек. Я за сваё магу выпіць, а што я буду чужое піць?! Ганарова дзякую. Што мне на гэта сышло, ці што?!

Гаворачы так, Цівунчык задзёр угору вусы, выпіў гарэлку і абцёр губы, разважаючы:

— ...Мы ўсе павінны быць народныя людзі...

— Як гэта народныя людзі?

— За народ, значыць, абстайваць.

Ужо ішоў па вуліцы Ваця Браніславец. Так ён дайшоў скверам да скрыжавання Каломенскай і Савецкай вуліц і павярнуў налева. Хацеў сесці на аўтобус, але, пакуль падбег, аўтобус паехаў. Тады ён шпарка пайшоў, аблiваючыся ад спяшання потам. І тут яму ўявіўся горкі твар члена мясцкома. Ён перасіліў сябе — пайшоў спакайней і раўней. Ад чыгуначнага моста і далей думаў, пацвярджаючы сваё ўстанаўленне: «Усё нанава перадумаю». Так дайшоў ён да моста і стаў на ім. Кіпеў і заціхаў, спакайнеў і ўзрываўся. І хоць Абрам Ватасон і гаварыў не вельмі даўно з ім, усё ж яму здавалася, што гэты хітры і самаўпэўнены цырульнік калі-небудзь нечакана і раптоўна з'явіцца да яго і як бы запатрабуе нейкае справаздачы. Хоць гэтае адчуванне было толькі адзін момант. І было яно вынікам нядаўняе грознае гаворкі члена мясцкома. І пасля гэтага ён толькі ціха адчуваў, як гняла яго вострая думка аб ёй, разарваная наплывам уражанняў ад усіх навакольных з'яў, у якіх нельга было разабрацца яму і ахваціць іх. Думка — нехаця ўзварушаная смешным чалавекам Радзівонам Цівунчыкам.

І хоць яна жыла недзе ў N., ён не ведаў гэтага. Яна недзе там жыла — пакутавала і радавалася, а ён востра, не вельмі даўно, успомніў яе, і цяпер вось зноў, пры ўспаміне прозвішча Ватасон, імя яе кальнула яго.

Дзіўнымі былі пачуцці яго да яе. Яна магла, можа, упасці дзе нежывою, і ён захаваў бы назаўсёды вобраз яе для сябе і пакутаваў бы ад яго, а як мучылася яна, яму не магло быць шкода яе. І толькі трохі паднімалася яна для яго вышэй некаторых жанчын, прывабных, знаёмых і толькі так бачаных, аднак найвайстрэйшы боль па ёй мучыў яго. І, можа, быў боль гэты толькі лініяй, на якую нанізвалася блытаная навала праяў свету...

Зусім пагасла святло дня, і горад ціха ўстрывожыўся.

Далей, за мостам у трэцім доме, кватэра магла прытуліць яго цяпер у чатыры прытульныя сцяны і даць спакой. (Жыў жа там у яго па-суседску, праз адну толькі тонкую сцяну, стары шавец. І вечныя ператварэнні свету, і бунты людскія нават і не чапалі яго. Ён у пятніцу раней

канчаў работу і сў сабе ціха сваю шабасовую вячэру: а сонечнымі святымі днямі расчэсваў адным пальцам бараду і выводзіў носам бясконцыя, як яго вечная дратва, ціхенькія матывы).

Адгэтуль бачыў акно свайго пакоя Ваця Браніславец. Два дрэвы раслі перад гэтым акном, проста на вуліцы, з паабшарпанаю пры зямлі карою. Цяпер ужо цёмнымі абрысамі ўзнімаліся яны... Вось нават і пачала ўжо ціхенькая падобнасць да імкнення пралазіць у душу, каб пачаць сваю страшную работу — зваць яго ў гэтыя сцены. Ён лёг бы спаць, выпіўшы яшчэ дзе-небудзь піва. Праспаў бы ноч, каб назаўтра пайсці ў лясное кіраўніцтва на 6 гадзін. І быць там гэтыя шэсць гадзін, каб пасля весела паабедаць у кавярні. Пасля чаго пайсці на музычную камедыю... Ён мог бы пайсці! Хто забараніў бы яму. І ці мала людзей п'юць асалоду гэтага спакою!

Халоднае жалеза як бы ліпла да яго локцяў. Галава яго пасвяжэла...

Застылая зямля ўнізе напоўнена сілай. Змрочна. Раптам рынуўся цёмны і доўгі. Імчаўся з-за жалезных паваротаў — гнаў яго нехта. От пад ім ужо ён. І вось ён зноў памчаўся назад. Пільнае вока Ваці Браніслаўца ў чырвоным святле на пізкай чарнаце разгледзела шырокую постаць Панкрата Малюжыча — машыніст манеўраваў поезд. Сярод жалеза, вугалля, агню і дыму будзе так грымець і стукаць па ўсіх прывакзальных лініях Панкрат Малюжыч, а ў гадзіну ночы павядзе адухоўленае жалеза і сотні людзей у прасторы зямлі... Зямля адкрые грудзі свае; на іх паўстане вялікасць адной з формаў існавання свету.

...І от ужо яно! Громамі і бурамі поўна яно — як жыццё чалавека. Як вечнае кіпенне яго, радаснага адвечным бунтам сваім перамагчы ўсякую аснову закопаў абмяжаванасці.

Далёка недзе заехаў Панкрат Малюжыч, і зноў тут пуста пад нагамі ўнізе. І скрозь новае захапленне гняце яго вострая думка аб ёй — далёкай Мані Ірмалевіч...

Чалавечаю сілаю вырас ён раптам на адзін момант сам для сябе перад ёю. Прыйдзі і стань! Ва ўсёй вялікасці сваёй я ўпаду перад табою, каб вядомымі сталі табе буры і бунты мае, што не сабраў я ўсё ў адзін жмут, цвёрды, як уся цвёрдасць свету, у якім можна было б патануць і дзейнічаць над ім!..

Усё крычала і блыталася ў ім.

І от ён пачаў спускацца па вузенькіх усходах з моста направа, на пляц перад пад'ездам да вакзала. Нікога там не было. У адзіноце свяціліся шыльды побач дзеравянага дома мытніцы — «Кіеўская гасцініца», «Кіеўскі заезд»... «Які гэта «Кіеўскі заезд?»,— хацелася запытацца яму ў каго-небудзь. Горкае пакепліванне над чым-небудзь працiўным яму варушыцца недзе глыбока, заціснутае наплывам іншага сённяшняга. А вакол нікога не было. Казімер Ірмалевіч ужо даўно адышоўся ад гэтых мясцоў. Радзівон Цівунчык, расцёршы кулаком па твары кроплю вады, быў недзе сярод сваіх рэчаў.

«Значыцца, Абрам Ватасон і жыве недзе тут, у гэтага самага Радзівона Цівунчыка...— думаў ідучы Ваця Браніславец,— а я даўно не бачыўся з Алесем... ён яшчэ ўсё кватаруе тут...»

Гэтыя абрыўкі дум беглі ў галаве яго, і адна ўпартая думка, вялікая, моцная і раптоўная, цягнула яго ў апартаменты Радзівона Цівунчыка.

І як бы што звала яго: «Ты вечна ідзі. І жадай толькі аднаго, каб было табе куды вечна ісці. І калі ты вернешся назад, памятай, што ты быў ужо тут. Бо калі забудзеш — тады пойдзеш назад і назад...»

Трывожна пахла халодная вільгаць зямлі. Вялікаю радасцю ночы ахутваўся горад.

## VI

У той першы раз, калі між Абрамам Ватасонам і Вацем Браніслаўцам адбылася кароценькая выпадковая гаворка, яна нічога не высветліла ні аднаму, ні другому. Тады Абрам Ватасон туманна здагадаўся: «Дрэнна жыве Ваця Браніславец; і ранейшая беспрынцыпнасць у ім яшчэ павялічылася». Ваця Браніславец тады толькі і хацеў, каб хутчэй скончылася гэтая гаворка; канчатковая няёмкасць адгарадзіла тады яго ад Абрама і, адгарадзіўшы, прымусіла блытацца ў сваіх уласных словах. І пасля гаворкі тае сяк-так стварыў для сябе ўяўленне: «Цырульнік гэты такім самым хітрым і застаўся. І не так гэта ён зноў падаўся ў цырульнікі пасля свайго вялікага камісарства...» Толькі на самым канцы гаворкі, калі Абрам падаў быў ужо яму руку, Ваця, абы ажывіць нудныя хвіліны маўчання, запытаў:

— Дык ты ў N.′доўга і не жыў?

— Не, не жыў доўга.

І таксама, каб сказаць што-небудзь у апошнія хвіліны гаворкі, зусім ужо адыходзячы, сказаў:

— ...Некалькі разоў бачыў там Маню Ірмалевіч...

І другі раз падаў руку і пайшоў. Тады раптам змянілася ўсё ў Ваці. У першы момант яму нават хацелася вярнуць назад Абрама і распытаць аб ёй усё. Пасля ён рад быў, што не зрабіў гэтага. А праз некалькі дзён ён зноў як бы забыўся на ўсю гэтую справу і не хацеў нават прыпамінаць аб гэтым. А сёння зноў Радзівон Цівунчык, успамянуўшы цырульніцкае прозвішча, узварушыў у ім усё.

І ён цяпер не пайшоў бы ў кватэру да Радзівона Цівунчыка, каб не тая работа, якая адбывалася ў ім, ува ўсёй істоце яго, якая спустошвала ўсю паўпату яго і гэтым самым паказвала, што паўпата гэтая, якая так ахоўвалася ім, была паўпатою, надзьмутаю і лёгкаю, як пустата.

Ваця Браніславец адразу знайшоў Цівунчыкаву кватэру, хоць выпадкова быў у ёй толькі раз і то даўно. Цівунчык стаяў пасярод хаты і глядзеў на ржавы дрот, прычэплены да столі. На дроце вісела лямпа, весела свяціла і моцна пахла газаю.

— От і вы,— сказаў Радзівон Цівунчык. Сказаў так, як бы ў іх даўно было дагаворана спаткацца тут вечарам, у гэты момант.— А я гляджу на дрот: заржавеў, ліха яму, яшчэ гатоў трэснуць, тады лямпе капут. Адарвецца, і што ты яму зробіш... Калі ласка, сядайце.

— Цырульнік ваш дома?

— Ці дома цырульнік знаходзіцца, пытаеце? Здаецца, дома, от я вам разам скажу дакладна.

Ён выйшаў, зараз жа вярнуўся і махнуў рукою:

— Калі ласка, ідзеце за мною. За мною ідзеце, калі ласка. Агонь гарыць у яго, значыцца, павінен быць дома. У вас важныя справы ці хочаце пагаліцца? Днём, мусіць, часу не мелі? А я ніколі не думаў, што вы яго ведаеце...

Абрам, мусіць, збіраўся некуды ісці. Паліто і шапка былі на ім. І ён сядзеў так, засунуўшы рукі ў кішэні. Адзнакі здзіўлення засвяціліся на твары яго, калі ўбачыў ён Вацю Браніслаўца, якога так весела ўвёў сюды Радзівон Цівунчык.

Спачатку Ваця пастараўся быць вясёлым і лёгка трымацца. Радзівон Цівунчык, сказаўшы нешта аб тым, што

шмат людзей знаёмых між сабою і шмат незнаёмых, прысеў на кончык крэсла, трымаючы руку з шапкаю між каленяў.

— Я тут недалёка жыву,— сказаў Ваця.

Цівунчык глыбей адсунуўся ў крэсла і пастараўся выказаць думку наконт таго, што іншы чалавек жыве блізка ад свайго прыяцеля, а мала калі бачыць яго. Ваця адразу стаў праціўны самому сабе за сваю нейкую раптоўную мяккасць. «Не для таго я іпюў сюды,— надумаў ён,— каб здацца Ватасону вясёлым...» І ён азірнуўся на Цівунчыка са злосцю — ці доўга ён яшчэ будзе тут сядзець. Абрам усё зразумеў. Ён падняўся і сказаў:

— Ну, я маюся ісці.

— А такі трэба ісці,— сказаў Цівунчык і, развітаўшыся, выйшаў.

— Я яго, як бачыш, сплавіў,— сказаў Абрам.— Ну, як жывеш, Ваця?

Нейкую насмешку пастараўся вычытаць Ваця ў Абрамавым голасе. І тады, канчаткова ўзненавідзеўшы Абрама, запытаў:

— Значыцца, сястра Казімера жывая?

— А чаму ты думаў, што яна нежывая?

— Ты ж сам ведаеш, чаму я думаў. Чаму ты зразу не гаворыш!

І от у напалову цёмным пакоі яны, кожны па-свойму, дзіка і востра, глянулі адзін на аднаго. Толькі Ваця раптам апусціў вочы перад калючым зіркам Абрамавай урачыстасці. Ватасон падышоў да яго і сказаў яму:

— Нашто табе патрэбна ведаць?

Ваця адышоўся і сеў. І ў голасе яго загучала раптам цвёрдае патрабаванне:

— Раскажы, чым усё скончылася.

— Ты што, прыйшоў каяцца?

— У чым?

І яны зноў востра глянулі адзін на аднаго.

І стала з Абрамам тое, чаго ніяк не чакаў у тоў час Ваця. Ён закурыў і холадна ўсміхнуўся. І сказаў:

— Уварваўся ты вечарам і мяне ўсяго пераіначыў... Чаго я ўскіпеў, каб у мяне хто напытаў?!

Халодным і абыякавым да ўсяго здаўся ён тады.

— Сягоння, нядаўна, Ірмалевіч Казя быў у мяне, таксама пра яе пытаў.

І тады яны задалі адзін аднаму два пытанні, якія

вызвалі гаворку — і спакойную, і бурную. Ваця задаў пытанне ціха і баязліва. (Нейк раптам ён сціснуўся пад прыжмураным, халодным зіркам Абрама). Абрам жа на запытанне адказаў новым запытаннем. Быў тады Абрам зацікаўлены нечым: раптам стаў такім — нейкую тонкую цяжкасць прыняў раптам твар яго ў рысах сваіх.

Ваця Браніславец запытаў:

— Я ведаю, не забыў, што ты вінаваціў мяне, як яна тады хварэла тыфусам... А пасля знікла яна.

— А як ты тады сплавіўся адтуль, куды дзеўся быў?

Тут і пачалося самае важнае для Ваці Браніслаўца. Ён зноў адчуў над сабой цвёрдую сілу гэтага чалавека, як бы гэта стаяў перад ім не цяперашні цырульнік, у чорным паліце і ссунутай наперад лёгкай шапцы, а той, ранейшы, таварыш Ватасон, у змятай зялёнай шынелі, заўсёды рухавы камісар палка. Ужо стала яму шкода, што прыйшоў ён сюды, аднак, вымушаны патрэбаю пераступіць нейкі парог, за якім усё павінна прыняць адмысловыя кірункі, ён пачаў гаварыць. Нават пастараўся як-небудзь прыпомніць аб даўно мінулых гадах, калі пачалася ў яго юнацкая блізасць з Маняю Ірмалевіч — хутаранкаю. Нават узыходзіў на тое, як здавалася яму, што самае важнае для яго — гэта яна...

...Ён жа, Абрам Ватасон, будучы камісарам палка, прымеціў раз знаёмы твар чырвонаармейца, хоць ён мала чым і адрозніваўся ад масы такіх жа заклапочаных твараў. Ваця таксама прымеціў знаёмы твар новага камісара. І раптам яны пазналі адзін аднаго. Толькі часта не бачыліся — Вацева рота адаслана была далей, пакуль сам камісар, па справах нейкіх, не прыехаў за ёю. І якраз жа выпадак такі адбыўся, што давялося стаяць нейкі час недалёка ад родных мясцоў, блізкіх з дзяцінных гадоў абодвум ім. А там засталі яны голад і тыфус сярод змучаных вайною людзей. І от адзін раз з'явіўся да камісара Ватасона чырвонаармеец Браніславец.

— Абрам,— сказаў Ваця,— мы едзем у Смаленск... я застануся тут, дапамажы мне ў гэтым.

— Чаго?

— Хворая тыфусам Маня Ірмалевіч. І я застануся пры ёй.

— Значыцца, дома застанешся?

— Дома.

— І гэта ты хочаш, каб я табе дапамагаў у гэтым? Ты ведаеш, што такое законы рэвалюцыйнага часу?

— Усякі закон творыцца намі самімі. І намі ж можа быць пераступлены.

Тады камісар ускіпеў і ўсхваціўся. Голас яго стаў жорсткі, і не пазнаў у ім Ваця Браніслаўец голасу таварыша, знаёмага з самых малых гадоў.

— Таварыш Браніслаўец, зараз жа ў сваю часць!

Ваця Браніслаўец пайшоў і праз два дні з усімі выехаў, а едучы, назнарок астаўся ад усіх і вярнуўся. І ўжо ў дарозе ясна яму стала, што, апроч усяго іншага, Абрам не можа любіць яе, як чалавека з таго хутара, на якім у дзяцінстве так насміхаліся над ім... Аднак доўга не быў дома Ваця Браніслаўец — нудна было тут у палажэнні чалавека, што незаконна з'явіўся сюды. І на хутары ён быў спатканы холадна,— не лішне жаданым госцем быў ён тут цяпер, хоць і раней нічога пэўнага не было яму нават ад хворай цяпер Мані.

Яму чорствым і праціўным стала ўсё. Бацька, абцягваючы суконную камізэльку, задумённа гаварыў вечарамі:

— Яно, можа, і добра, што ты застаўся дома. От якнебудзь усё гэтае перакруціцца, тады спакойна стане...

І больш нічога не мог выдумаць стары чалавек. Паволі запальваў ліхтарню і ішоў даглядаць аднавокага каня.

Усё было не на сваім месцы цяпер. І от у адзін дзень, рана, Ваця накіраваўся з дому...

Прыпамінаючы нават усякія непатрэбныя дробязі, гаварыў Ваця. Абрам не даў яму скончыць:

— Нашто ты мне спавядаешся. Мне не трэба гаварыць таго, што я сам мог бы ведаць.

— ...я тады дагнаў быў свае часці, але не явіўся туды.

— Чаму?

— Не хацеў з табою сустракацца.

— Так... так!..

Цяпер Ваця Браніслаўец як бы здагадаўся, што Абрам далёка ў думках сваіх ад яго. Што мала нават зацікаўлены ён усім гэтым. І ўжо праз сілу ён скоранька скончыў сваю гаворку:

— Я падацца хацеў у другую часць, а там мяне накіравалі ў суд, які мяне спешна апраўдаў, і я зноў наслужыў трохі, пакуль не дэмабілізаваўся...

— Што ты робіш цяпер?

— Лясны таксатар, коратка і ясна!..

Разумеў цяпер ужо Ваця Браніславец, што не ўспаміны аб ёй узрушылі так сягоння яго. Што гэта толькі адзін з тых пунктаў, за якія чапляецца кіпучы струмень жыцця, знаходзячы і шукаючы для яго свае формы. Тут, можа, і справа ўся ў тым, што тады давялося ўцячы ад гэтага чалавека, ад яго жалезнаі цвёрдасці, і не знайсці там, куды ўцякаў, нічога.

— Дык ты таксатар?

«Ён ненавідзіць мяне»,— падумаў Ваця і паздзекаваўся:

— А ты, значыцца, з камісарства ў цырульнікі папаў?!

Захапленне нечым абвеяла твар Ватасона. І ён нацёр рукі перад сабою; ён стаў, прыпёршыся спіною, да стала, і гаворка яго загойдалася вясёлымі словамі ў цемнаватым пакоі:

— ...Я чалавек. А чалавек можа быць камісарам, цырульнікам, таксатарам. Гэта не важна. Важна тое, што чалавек мае лінію. І на гэтай адной лініі, кім бы ён ні быў, чалавек будзе жыць... Цябе нешта прывяло сягоння сюды. Тое, што быў ты раней на адной лініі, цяпер на другой... Быў чырвонаармейцам і лічыў, што ўсё гэта адыдзе і перажывецца. Цяпер таксатар, мусіць, думае аб часовасці і няўстроенасці таксатарства. Гэта і добра. Але з чалавечага боку для таксатарства нічога няма, а таксатарства таксама, як і чырвонаармейства, для нечага большага... На вачах тваіх бачу, што ты лічыш, што я ненавіджу цябе. Няпраўда. Я тады не пускаў цябе не затым. Бачыў я, што дарэмнымі будуць твае клопаты, што ты мог зрабіць там?! А закон яшчэ, ведаеш?.. Усё найцяжэйшае можа ўстрымацца і перажывацца, як найлягчэйшае, калі ёсць у чалавека тое, чым можна апраўдаць яго. Між камісарам і цырульнікам няма розніцы, калі адно перад імі стаіць...

Гаворка яго была доўгаю. Ужо ў канцы яе Ваця Браніславец адчуў патрэбу ісці адсюль, раптам уявіўся ён сабе як бы слабым нейкім перад навалаю нейкаю. Веснавы спакой ночы настойна пазваў яго. Раптам настрой гэты падобны стаў да таго, як пайшоў ён тады быў пасля загаду камісара Ватасона вярнуцца ў часць. І яшчэ быў такі настрой у яго ў тую найвялікшую, незабываемую ноч, калі, пад вялікім абстрэлам варожае артылерыі, не было ніякае надзеі застацца жывым. Можа, хто з шматтысячнай масы таварышаў яго і іншае што адчуваў, а ён у найвялікшай вастраце адчуваўшы уявіў сабе, што няма нічога

найпраўдзівейшага і больш жаданага, як цішыня спакойнае адзіноты. Толькі цяпер гэтае жаданне было бурным. Так ён ужо і чакаў, пакуль Абрам скончыць гаварыць. Нават канца гаворкі і не слухаў, думаючы аб пачутым: Маня Ірмалевіч была студэнткаю, а перад гэтым сама пакінула хутар. І трохі чутае раней пацвердзілася: сам Абрам Васон прызнаўся, што зусім не любіў тады, больш нават, чым не любіў яе. Мог нават тады і пядобрае што зрабіць ёй. (А можа, і зрабіў — думка гэта шпарка праплыла, не пакінуўшы следу). Ён уздзеў шапку, якая ўвесь час была ўссунутаю па левае калена яго, і стаў глядзець на цёмны кавалак падлогі каля дзвярэй... Раптам усё мацней і мацней цягнула яго вясновая ноч — вільготная, гарадская, цесная, прытульная... І як рушыў ён да дзвярэй, моцным здаўся яму і прарэзліва-непакойны для ўсяго стук яго ботаў.

## VII

Ноч ляжала над цесным дваром. Затыкала ноч чорнаю ватаю раскалупаныя жыццём дзіркі на зямлі і яе будынках і цешылася сваім спакоем. Коратка звінела сваёй цішынёю.

Абрам выйшаў за Вацем.

«...Значыцца, ён апраўдацца паспеў перада мною, угадаўшы мае думкі, што ён мяне ненавідзіць,— вынес цераз парог думку Ваця,— адкуль ён ведае, што я так падумаў; хто парася ўкраў, у таго ўвушшу пішчыць».

— Калі ласка, асцярожна, тут я стаю,— з-пад самых ног падаў голас Цівунчык.

Ваця адшатнуўся. Абрам стаў за ім у цёмным, абшарпаным карыдоры.

— Калі ласка, знаеце, такая штука выходзіць...

— Якая штука?

— Студэнт захварэў.

— А што з ім?

— З жыватом нешта, не тут кажучы. Я ўжо да вас іпоў. Кагадзе што прыйшоў ён і заявіў адразу — так і так, кажа, захварэў.

— Каторы?

— Алесь.

— Хадзем,— сказаў раптам Ваця, сказаў так цвёрда,

што не было нічога ў голасе яго ад пастрою, вынесенага з кавярні, дзе адбываўся абед.

— Вы Алеся павінны ведаць,— радасна зазначыў Цівунчык.

— Чаму вы так думаеце? — сказаў Ваця.

Усё таксама вісела лямпа на ржавым дроце ў кватэры Цівунчыка. Нейкая ранняя муха, а можа, зімовая, вялая і павольная, плавала вакол святла... Цівунчык быў у шэрай тоўстай жакетцы... Скрозь прычыненыя дзверы прыметна было, што ў пакоі студэнтаў больш святла. Там гаварылі:

— ...яна лічылася добраї актывісткай, добрай грамадскай працаўніцай. Чатыры разы на тыдзень засядала: у камісіі па паляпшэнню працы рукадзельнага гуртка, у камісіі...

— У камісіі па паляпшэнню працы камісіі пры аб'яднанні ўсіх камісій, што кіруюць усякімі камісіямі... Ты толькі і ведаеш, што хваліш усякія камісіі, пакуль іх не пакінуць хваліць і не пачнуць ганіць. Тады і ты іначай загаворыш...

— Перш за ўсё дысцыпліна!

— І самакрытыка. Мае права чалавек устанаўляць і адмаўляць, думаць і разважаць, кланяцца ці не кланяцца аўтарытэту?!

— Ат, людзі робяць і жывуць,— падаў голас Цівунчык, падыходзячы да ложка, на якім сядзеў плячысты чалавек з маладым хлапечым тварам.— Вы ляжце, чаго вы сядзіце, раз вы нездаровы...

— Лягу, падсцялю паліто пад ніз.

— Значыцца, сам паверх?

— Наверх.

— Ага.

— Што?

— Нічога, я задаволен...

— Здароў, Алесь,— сказаў Ваця.

Яны даўно не бачыліся. Твар жа Алеся не выявіў нічога раптоўнага — ці ён быў заклапочан гаворкаю, ці сапраўды моцна быў занядужаны.

— Гаспадар казаў, што ты нездароў?

— Нічога.

Ён усміхнуўся, падаў руку абодвум. Абрам моўчкі сеў.

Два ложкі, жалезныя, вузенькія, стаялі каля глухое сцяны, шчыльна састаўленыя білам,— іначай не дазваля-

лі памеры пакоя. Направа быў вялікі стол, набітая саломаю канапка і некалькі крэслаў. Там і сядзела чалавек пяць студэнтаў.

— Мяшаюць гарбату, а звон ідзе па ўсім горадзе,— заўважыў раптам Цівунчык, уносячы падушку.

І сапраўды, слабы звон аднекуль даходзіў сюды.

Тады ўсе прымецілі — Радзівон Цівунчык далікатна палажыў падушку на ложак, дзе сядзеў Алесь, і асцярожна выйшаў. І была ў яго постаці слаўная клапатлівасць бацькі, які ацаніў, як многа значыць хвораму сыну цішыня. Ваця Браніславец паглядзеў, як трохі прыгнутая спіна яго схавалася за дзвярыма, і яшчэ павялічылася ў ім жаданне, памаўчаўшы, хутчэй выйсці ў пустыя вуліцы горада.

Хлопцы падняліся ісці. Яны цесна стаялі, змяшаўшыся з Вацем і Абрамам.

Алесь, спяшаючы дагаварыць перад адыходам хлопцаў, не спыніў гаворкі:

— Дык вы так... Ты з ім кланяешся дынаміцы, паставіўшы яе мэтаю, а ты пастаў сябе, усіх, мэтаю і застаў яе пакланіцца табе, пакінуўшы яе як неабходнасць у жыцці...

Тады Ваця Браніславец адчуў, што самаўпэўнена жывуць і гавораць усе. І от ён адзеў шапку, гатовы рушыць. Цяпер ён, дзіўным чынам пейкім, заспакоіўся ад усяго...

— Дык што, калі я люблю кіно...— апраўдваўся нехта з хлопцаў, стоячы каля сцяны.— Я так проста і сказаў, а ты вывады ўсякія робіш.

— Сам ты, як кіно, і больш нічога...

Ваця пайшоў адзін, не чакаючы ўсіх.

...Прасторнымі былі для Цівунчыка сцены яго кватэры — лёгка хадзіў ён ад стала да печы, дзе на прыпеку пшумеў і злаваў прымус. Як бы здаволены, што нешта непрыемнае засталося пройдзеным, Ваця спешна развітаўся з Цівунчыкам і выйшаў на двор. Макрата зямлі дыхнула на яго вастратою прасторнага халадку. На вуліцы ён пайшоў шпарчэй — хутка следам за ім выйшлі і ўсе, і яму не хацелася ісці разам. Ён перайшоў на другі бок вуліцы... На гэты момант ён згінуў для ранейшага сябе, якім быў адвячоркам, стоячы на мосце. Спакой ночы зваў яго...

Мост над чыгункаю здаваўся цёмнаю цяжкасцю — толькі верх яго быў асвечаны і падобным быў да звешанага палатна... Ціха жылі людзі ў сне і слабай, звяўшай да ночы заклапочанасці.

Ён чуў сябе так, як бы трывога прайшла з яго,— ён адступіў перад мацнейшым Абрамам Ватасонам... Улажыў руку ў кішэню — там зазвінелі прыдушаныя сукном грошы. Ён глянуў у кавярню — шмат было пустых столікаў. Выбраўшы больш прытульны, ён сеў і папрасіў піва... Некалькі чалавек са смакам елі рыбу, запівалі нечым каламутным і густым і гаварылі аб поездзе, што павінен хутка прыйсці (ці адысці, Ваця выразна не дачуў). Тут дайшла чарга новаму афіцыянту заступаць месца, і стары запатрабаваў у Ваці грошы за піва.

— Дваццаць дзве капейкі,— сказаў ён, высокі і васпаваты, знімаючы на хаду белы, кароткі і вузкі фартух.

— Чаму так мала? — сказаў Ваця.

— А па-вашаму, дарага? Калі дарага, дык трэба было раней дазнацца цаны, а тады піць...

Ваця спешна заплаціў, думаючы: «Значыцца, выгляд мой не прымушае яго мяне паважаць».

Тут увайшлі студэнты і, не заўважыўшы яго, прайшлі ў другі пакой. Туды зараз жа і пайшоў клапатліва чалавек у белым фартуху. Як бы гэта было самае важнае — ён рад быў, што яго не прымецілі.

Нехта па-суседску раптам папрабаваў заспяваць, яго зараз жа сцішылі. А гаворка студэнтаў стала чуваць і тут; гаварылі аб нейкай рабоце, якую не ўсякі здольны рабіць. Гэтыя адрыўкі слоў чуў Ваця, падымаючыся. Ад піва яму запудзела. Настрой яго пачаў псавацца — ападаць і вянуць, як бы гэта адчуваў ён сябе па-за ўсякаю работаю.

Ён пайшоў дадому.

Далёка, за стрэлачнікавымі будкамі, спяваў певень, адзін; здавалася, што і спявае ён для таго, каб другі адгукнуўся яму. А ён не адгукаўся. Дарога — брук сярэдзіны вуліцы — была няроўнаю. Адзінокая фурманка праехала ўпоперак, а далёкая сцяна чырвонага дома свяцілася слабымі водблескамі вакзальных ліхтароў. Водблескі гэтыя, густыя над вакзалам, рабілі ўвесь горад чорным і чулым. Маўчаў камень і дрэва.

Нага Ваці стукнула ў нешта цвёрдае і звонкае. Цвёрдзенькі наскок злосці калупнуў яго. Ён пайшоў хутчэй. От ужо запахла мокраю карою знаёмага дрэва, зваленага ў кучу перад ганкам. Вароты ў двор былі адчынены... Цёмным спакоем дыхнулі дзверы.

Засвістаў стрэлачнік, і ляснуў вагон.

Ноч.

## VIII

З студэнтам Алесем Макарчуком ён сустракаўся некалькі толькі раз, выпадкова, і ні разу не меў з ім хоць якое-небудзь трохі значнае гаворкі. Знаёмства іх адбылося, як кажуць, на скорую руку; таксама, як і з машыністам чыгункі Панкратам Малюжычам. Загэтым і не здзівіўся цяпер Ваця, калі студэнт Алесь нават не пагаварыў з ім. А тым часам нутраная работа падтачвала гэтую лёгкадумнасць, што не прыняла здзіўленасці: праз некалькі ўжо дзён з'яўлялася ў яго думка, што гэты плячысты студэнт або не памятае яго, або не хоча памятаць, тады як ён аб ім памятаў і нават сярод іншых чуў некалькі разоў гаворку аб ім. І гэтая думка вельмі спрыяла і паступова дапамагала шпаркаму афармленню свядомасці аб іншых і аб усіх: хто з знаёмых маіх, і так, рад мець дачыненне са мною?! Тады раптам прыпаміналася гаворка, што адбывалася на кватэры ў Абрама і Радзівона Цівунчыка. Крыўдаю сякла яна думкі... Часам ён спыняўся на тым, як некалі, не шукаючы апраўданняў, не задумваючыся, імкнуўся ён да нечага, рабіў тое, што патрэбна было яму рабіць, тады як цяпер іначай было... Маня Ірмалевіч цяпер не так востра мучыла яго... І новы план рашучай справы пачаў складацца і спець у ім.

На светлай жа кіпучасці Ватасонавых дзён Ваця Браніславец з'явіўся, як волас, што ападзе з галавы, прыстане на момант да твару і пасля здзьмецца ветрам... Ён не ведаў у той вечар — Абрам Ватасон — куды ісці. Яго яшчэ затрымаў на вуліцы Радзівон Цівунчык, што выйшаў праводзіць яго праз свае сенцы. Ён быў, як заўсёды, рад, гэты стары і вёрткі чалавек. Ён і Вацю адразу ацаніў як вясёлага і слаўнага хлопца, а галоўнае, як «кампанейскага». Яго толькі непакоіла трохі «лёгкае нездароўе» студэнта Алеся. Непакоіла адмыслова: тут не ўваходзілі ў план клопаты, якія маглі з'явіцца нават і яму ад гэтае хваробы, не што іншае, а самы факт.

— Хвароба ёсць дрэнная штука...

У тую ноч была ў горадзе «рэпетыцыя трывогі». Некалькі пажараў, што выбухнулі за апошнія месяцы на гарбарных заводах, застаўлялі падазраваць у гэтым нядобрую руку. А тым часам складанае і нялёгкае міжнароднае становішча краіны ўзбуджвала думкі і адганяла спакой нерваў, які часта ўва многіх пачынаў ужо быць сытым. Пад

дванаццатую гадзіну вільготныя вуліцы пачалі прыметна пусцець. Тады і абазваўся гудок за Брэсцкім вакзалам у чыгуначным дэпо. Панкрат Малюжыч адарваў паравік ад гатовага поезда і вывеў яго за мост у бок Віленскага вакзала, дзе і даў шмат трывожных свісткоў. Тады па Віленскім вакзале абазваліся доўгім і разарваным енкам два паравікі. Праз паўхвіліны заводы далучылі свае галасы да агульнага покліку. Дзесяць хвілін была трывога,— за дзесяць хвілін горад нарыхтоўваўся да ўсяго. А праз дваццаць хвілін разышліся па хатах пажарныя дружыны, ячэйкі, вайсковыя часці... Назаўтра расказвалі па горадзе, што нібы ў часе трывогі па Савецкай вуліцы вартавы міліцыянер, што стаяў на рагу Камсамольскай вуліцы, нават прабаваў пытаць у некаторых, што праходзілі паўз яго, дакументаў. Гэта магло быць таксама, як магло не быць. Аднак жонкі «саўслужаў» і сальнікаў аднекуль усе раптам даведаліся аб гэтым, надаўшы факту гэтаму падзвычайна вялікі і глыбокі сэнс. Гаворкі гэтыя цягнуліся дзён два, і спрыяла гэтаму ў значнай меры тое, што ў «Звяздзе», дзякуючы хваробе рэпарцёра, не было ў тыя дні заметак аб самагубствах, а судовы рэпарцёр не даў аніводнай заметкі аб прысудзе пэўнаму грамадзяніну выплаты аліментаў. Таксама (і надышоў жа такі выпадак) ніхто не выклікаў нікога ў загс браць разлуку. Так што не было чым перабіць гаворак аб «факце» на рагу Савецкай і Камсамольскай вуліц...

Ваця Браніславец нічога не слухаў і лёг спаць страшна змораны.

У часе трывогі гаспадыня хацела праз сцяну пагаварыць з Вацем, але ён нічога не адказаў, і ёй прыйшлося моўчкі паклясці таго, хто не даў ўначы спакойна спаць.

Абрам Ватасон хадзіў у горад. Разам з ім хацелася ісці і Радзівону Цівунчыку, але балелі ногі яму, і ён, поўны вясёлае цікаўнасці, стаяў напроці цырульні. Яму хацелася хоць студэнтаў выклікаць ці каго затрымаць, каб пагаварыць аб трывозе. Ён пабарабаніў у акно. Выйшаў студэнт, таварыш Алеся. Знаючы добра свайго гаспадара, ён адзначыў факт:

— Трывога.

— Але, як паравікі равуць!

— Заводы таксама.

— Што чуваць голас, дык гэта з Віленскага вакзалу.

— Можа, і з Віленскага.

— З Віленскага! Там паравік зялёны зрапку стаяў, заграпічнага вырабу. Не бачылі?

— Не бачыў.

— А як жа, стаяў... От невядома, адкуль ён прыйшоў.

— Хто яго ведае, не бачыў я яго.

Прайшло чалавек дзесяць пажарнікаў. Цівунчык прапусціў іх заўвагаю:

— Спрытна ходзяць.

Студэнт памаўчаў.

— Злаўчыліся.

— Ну, яно пэўна.

— Хто на чым сядзіць, той таго і глядзіць...

Ад радасці сціскалася сэрца яго. Не выжытая яшчэ сіла пачынала бушаваць у ім.

У тую ноч ён доўга не спаў. Каты скінулі ў яго з прыпечка патэльню, а ён не падняў яе — босы ўсё тупаў з кутка ў куток па свайму пакойчыку, заглядаў у цёмныя шыбы, як бы гэта шкадаваў ён, што так скора заціхла ў горадзе ўзбуджэнне ад вясёлай рэпетыцыі...

А ноч ціха ўжо абняла горад... Над цэментовым мостам свяцілі малыя ліхтары, і мост быў пусты. Было толькі ажыўленне каля гатовага поезда на пероне. Брук Маскоўскае вуліцы здаваўся цяпер роўным і шырокім...

Цяпер змоўк горад. На сваіх ціхіх месцах стаялі вартаўнікі складаў і крам. Курылі і драмалі рамізнікі на вуліцах і каля сквераў, па скверах жа, каля вільготных лавак і на іх — па адной ці дзве адзінокіх постаці спаткаць можна было. Апошнія аўтобусы зніклі з вуліц. І толькі па рыштках звінела вада — шырока і вольна; снегавая веснавая вада. Яна пахла вострым халадком, бурлівым і лагодным у весялосці сваёй. Звон вады, як і маўчанне вуліц, як маўклівыя постаці людзей на скрыжаваннях галоўных вуліц, мог узбудзіць радасць спакою. І радасць магла страсянуць істоту адчуваннем вялікіх бур, што прытаіліся ўсюды і вакол.

Пасля першае гадзіны ночы Панкрат Малюжыч павёў вялікі поезд на Маскву.

## IX

Казімер Ірмалевіч жыў на Універсітэцкай вуліцы, недзе напроці пустога пляца, дзе нейкае ляснае прадпрыемства складала дошкі і дрэва. Маладзіковымі вечарамі над гэтым шырокім пляцам падпімаўся месяц...

Дома Ірмалевіч бываў толькі з васьмі гадзін вечара, у гэты час ён гадзіны чатыры сядзеў яшчэ над сваімі кнігамі. Рэшта пары была ў яго занята работаю ў некалькіх месцах. Адзін малады чалавек, што налаўчыўся пісаць вершы і друкаваць іх, раз аўтарытэтна заяўляў, што Казімер Ірмалевіч быў бы добрым хлопцам, толькі што не грамадскі ён чалавек: любіць маўчаць і ад сваёй работы ўбок нікуды не падаецца. І яшчэ былі некаторыя падобныя гаворкі, аднак ніхто не стараўся дайсці бліжэй да гэтага чалавека і нават да яго работы. І гэта было добра: чалавек не пратэставаў супроць такое ацэнкі, загэтым некаторым і можна было лічыць сябе аўтарытэтамі ў справе бясконцых гаворак аб шляхах грамадскасці... Адзін раз толькі на нейкім банкеце (якіх, да праўды сказаць, у апошнія часы ў горадзе адбывалася шмат; прычыны да іх былі ўсякія. Нават фельетаніст адной з газет спрабаваў надрукаваць фельетон пад загалоўкам: «Калі ёсць мэта, прычыну лёгка выдумаць»), нехта, надзвычайна вясёлы ўжо, упікнуў Казімера Ірмалевіча ў яго панурасці; Казімер Ірмалевіч, таксама падвясёлены ўжо крыху, паспрабаваў растлумачыць гэта навуковым метадам. Аднак, пераканаўшыся хутка ў «ненавуковасці» свайго аўтарытэтнага слухача, раптам сціх, ад чаго той, вясёленькі, яшчэ больш пераканаўся, што ён вялікі знаўца ўсяго, што звязана з грамадскасцю...

Казімер Ірмалевіч не выказаў тады нічога з таго, што хацелася яму выказаць. Ён раптам устаў і пайшоў...

— Нашто ты пакрыўдзіў усіх? — дагнаў яго на ўсходах той, што сядзеў злева ад яго.

Ірмалевіч і на гэта не адказаў, аб чым і было ў наступныя дні нямала гаворак. Гаворкі гэтыя спыніліся толькі тады, калі прыйшлося гаварыць аб тым, што два дырэктары трэстаў памяняліся жонкамі.

Пад абклеенаю белаю папераю столлю яшчэ студэнцкага пакойчыка яго было ясна ад двух акон, заўсёды завешаных да палавіны знізу белым паркалём. На століку і ў шафе ляжалі кнігі і стаялі лекавыя прылады, неабходныя пры рабоце. Прытулак гэты падакучыў яму і цесным быў. Толькі за апошнія часы не прымячаў ён гэтага так, як раней,— іншым былі заўсёды заняты думкі...

Некалі, у часы першай маладосці і малецтва, ён зусім прымячаў усё: змену пары года, росквіт прыроды, першы снег; лепш і глыбей трымаў у памяці бачаныя твары лю-

дзей. Цяпер жыццё пайшло, як пушчаная ў ход машына,— ні на чым вакольным не было часу доўга застанаўляць увагі.

З тых часоў засталіся яшчэ малюнкі дзён на дзядзькавым хутары. Цяпер не часта яны прыходзілі на памяць. І яшчэ менш успамінаў ён стрыечную сястру сваю Маню, дзядзькі дачку. Часам востраю іголкаю на момант калола думку ўяўленне былых адносін да яго з боку дзядзькі і ўсёй сям'і яго. Тады Маня ўставала ў памяці як нешта нядобрае, але прывабнае. Пасля зноў на цэлыя месяцы сплывала ўсё з памяці,— іншым жыў ён цяпер і напаўняў думкі свае.

Тады на хутары ён, па-дзяцінаму яшчэ, не любіў яе. Дзіцячаю душою сваёю адчуваў ён няўважлівыя і нават зусім нядобрыя адносіны да сябе і ад яе, і ад родных яе. Ён стараўся не сустракацца з ёю. Пасля, падросшы трохі, адзін раз прыйшла яму думка зрабіць ёй што-небудзь нядобрае. Нічога не мог ён прыдумаць. І от адзін раз, бегучы за садам па пыльнай сцежцы, босая, яна моцна далася нагою аб востры камень. Камень глыбока рассек ёй падэшву нагі, яна яшчэ некалькі крокаў падбегла, пасля, як раптам пеканула боль, яна ўбачыла крывавы след на пяску. Яна моцна закрычала, заплакала і села на дарогу. Яна бачыла Казю — у саду ён выганяў коні з-пад вялых, раніцой накошаных, пракосаў. Ён пачуў яе плач, бачыў, як яна скоранька села на дарогу, і падбег да яе. Яна не пакідала плакаць, а ён паглядзеў на рассечанае месца — у ране было шмат пяску.

— Трэба прамыць,— сказаў ён.

Яна толькі плакала і не хацела адказваць.

— Бяжы скоранька ў хату.

На твары яе напісаліся адзначкі як бы свядомасці аб учыненай нейкай вінаватасці. Душачыся слязьмі, яна выгаварыла:

— Дома будуць крычаць.

— Ідзі прамый,— зноў сказаў ён.

Яна паглядзела на яго шырокімі мокрымі вачыма. Ён усхваціўся, сказаўшы:

—Ідзі за мной.

І пабег сам калючаю накошаю да поплаўнае рэчкі за садам. Ступаючы рассечанаю нагою на пальчыкі, ледзьве чапаючы імі зямлю, бегла яна за ім. Ён ужо чакаў яе там, каля нагрэтай сонцам плыткай вады. Цяпер яна маўчала.

Брудныя сляды слёз былі на яе мокрым яшчэ твары, ад вачэй да шыі.

— Сядзь,— сказаў ён.

Яна паслушна села.

— Мый.

— Баліць.

— Моцна?

— Моцна.

— Саджай у ваду.

Яна ізноў заплакала. Усперлася назад на тонелькія рукі свае і не варушылася. Слёзы мачылі каўнер яе сукенкі.

— Пачакай, я табе памагу.

Ён схваціў прыгаршчамі ваду і лінуў на рану. Так нязручна было. Тады ён скінуў шапку, чэрпаў ёю ваду і ліў. Ён правёў некалькі разоў пальцамі па засохлай крыві. Яна крыкнула, і ён пачаў супакойваць яе. Забытая шапка яго паплыла па вадзе. Хутка боль сцішылася, яна толькі ціха плакала, расціраючы бруднымі кулакамі слёзы. Яна сядзела, а яму раптам жаданым стала быць тут, з ёю.

— Не плач, ціха,— гаварыў ён, нясмела гладзячы яе валасы.

— Баліць? Моцна баліць? — пытаўся ён часта.

Так яны праседзелі доўга, абое поўныя вялікай дзіцячай радасці аб блізасці сваёй. Дадому яна дайшла кульгаючы. Плакала яшчэ дома, а ён прыйшоў пад самы вечар сумны і спалоханы: коні парасскубалі, патапталі пракосы падсохлай травы ў садзе. Ужо дзядзька мімаходам моцна пакрычаў на яго па двары. Цяпер у хаце запыталі ў яго, дзе ён быў, што коні самапасам хадзілі.

Ён змаўчаў.

Адчуваючы над ім буру, Маня, лежачы ўкрытая вялікаю хусткаю ў пасцелі, падала слабы голас:

— Ён мне нагу прамываў.

— Можа, сам і прабіў ён табе, а пасля прамываў,— сказаў злосна дзядзька, уваходзячы ў хату.

У тую ўжо хвіліну вострая крыўда моцна кальнула яго. Ён глянуў на Маню, шукаючы ад яе падтрымання. А яна ляжала з заплюшчанымі вачыма і не бачыла яго.

— Я ёй нагі не прабіваў,— пастараўся апраўдацца ён.

— Ты яшчэ апраўдвацца тут будзеш! — сказаў моцна дзядзька, можа, і не маючы ў тую хвіліну злосці на яго.—

Коні колькі сена зглумілі, а ты тут яшчэ права свае ўстанаўляеш!

Тады ён, як стары, махнуў злосна рукою і выйшаў з хаты, горда памаўчаўшы.

— Фантазію мае,— пачуў ён услед дзядзькаў голас.

У дзядзькавым голасе адчуў ён злосць. Тады і ў яго з'явілася злосць. Ён затаіў яе ў сабе і рашыў не ісці начаваць у хату. Назаўтра ён баранаваў без шапкі.

— Дзе шапку дзеў? — запытаў дзядзька.

— Паплыла ў рэчцы тады, як я Мані нагу прамываў.

— Не трэба было не за сваю справу брацца. Доктар знайшоўся.

Спачатку адчуў ён як бы знявагу той радаснай блізасці, якая між ім і Маняю з'явілася ўчора. Пасля яму стала горка ад свядомасці таго, што ніяк не можа ён расказаць усім, хто толькі знаходзіцца вакол яго, таго, што напаўняе яго. Тады ён пад вечар пайшоў да маткі. Быў у яе ўвесь наступны дзень. Пасля прымушан быў прыйсці папрасіць дзядзькі, каб купіў яму новую шапку. Дзядзька шапку купіў ужо, але пакуль што не паказваў яму, і яму трэба было папрасіць прабачэння за тое, што старая шапка паплыла ў рэчцы. Гэта палажыла на яго адбітак падазронай маўклівасці. А тым часам Маня праз тыдзень устала з пасцелі. Аблашчыўшы яе, маці сказала ёй:

— Днём ты не гуляй з Казем, яму трэба рабіць штонебудзь, а ты перашкаджаеш яму. Тады коні ліха ведае колькі сена зглумілі...

— Ён тады нагу мне прамываў.

— Няможна, дачушка, самой прамываць нагу. Можа, якая вада брудная, яшчэ зашкодзіць.

— Ён з рэчкі ваду браў.

— То што. Няхай бы ты прыбегла дадому, я табе цёплаю вадою прамыла б.

Гаворачы так, жанчына не мела нічога кепскага ў думках супроць Казі. А Маня дзіцячымі думкамі сваімі зразумела ўсё іначай. Яна таксама, як і раней, мала гаварыла з ім, хоць ён некалькі разоў пасля выпадку каля рэчкі і спрабаваў трымацца каля яе. Усё гэта толькі павялічвала ў ім пачуццё свае адзіноты, нядобрых, злосных думак аб Мані і аб усіх навакольных, што жылі вакол яго на хутары.

З цягам гадоў такія абставіны ператварылі пачуццё далёкасці і непрыхільнасці між ім і Маняю ў зусім ня-

добрыя адносіны. Так яны і жылі на адным хутары, у адным доме, далёкія і нават, груба кажучы, не любячы адзін аднаго. З яго боку пачуццё гэтае было яшчэ больш — сюды прымешвалася свядомасць таго, што Маня з'яўляецца тут як бы гаспадыняю. Але затое пачуццё гэтае яго было мякчэйшым і хутчэй магло перайначыцца...

Другі выпадак, што па нейкі час зблізіў іх, быў у часе іх ужо большага ўзросту. Ён ужо вучыўся ў сярэдняй школе і летам з нядобрым пачуццём прыязджаў на хутар. Ён лічыў, што тую дапамогу, якую даваў яму дзядзька, ён зарабіў у яго яшчэ нават з самых малых год сваіх, і цяпер летам вёў адзін амаль што ўсю гаспадарку. Глыбінёю ж істоты свае адчуваў, што дзядзька думаў іначай. Паганыя адчуванні заўсёды тут былі ў яго. А нікуды з хутара не мог ён пайсці — да каго ісці не было ўжо цяпер у яго.

І от адзін раз, адвячоркам, Маня з плачам знайшла яго на полі і сказала, што маці яе вельмі дрэнна раптоўна стала і што, мусіць, трэба паехаць каму па доктара.

— А дзядзька дзе? — запытаў ён.

— Таты няма,— адказала яна, устрывожаная,— тата як учора паехаў у горад, дык хаця каб ён сёння ўночы пад дзень звярнуўся.

Ён паехаў у мястэчка па доктара. Завозіў яго назад і прыцемкам ужо звярнуўся.

Цяпер Маня шукала жывога чалавека, каб пагаварыць. Яна адчула цяпер, як вялікі гаспадынін клопат, што можа зваліцца на яе, калі памрэ маці,— задушыць усю яе дзявочую волю. Разам з пачуццём повага, незнаёмага дагэтуль замілавання да хворай мацеры, адчуванне гэтае горкасцю напоўніла душу яе. Вечарам, седзячы на ганку, сагнуўшыся плячыма, ад гэтага малая і кволая, яна шукала чые-небудзь уцехі.

— Братка, што мне рабіць?

У гэтых словах, у тым, як яна сказала іх, убачыў ён, што яна сапраўды адна. Яна не сказала, «што рабіць нам», а «што рабіць мне». Ён канчаткова адчуў сябе чужым тут, і ўжо новае пачуццё, пачуццё чужога чалавека, заварушылася ў ім. Ён маўчаў, ахвачаны новым, няведаным дагэтуль адчуваннем да яе.

— Братка, ну што буду я рабіць адна?

Ён пастараўся яе ўсцешыць:

— Нічога, усё пройдзе. Мама паправіцца.

Яна заплакала ціха, апусціўшы галаву да каленяў.

— Не плач. Нічога не паможа. Што доктар казаў?

— Горка вельмі. Я адна застануся.

«Я буду з табою»,— хацелася сказаць яму. А ён толькі зноў сказаў:

— Не плач... Ну, не плач...

Сеў бліжэй і пачаў гладзіць яе галаву. Яна даверліва хілілася да яго. Радасная трывога страсянула ўсю істоту яго. І от яны так моўчкі сядзяць.

Пасля гэтага ён два дні хадзіў як у тумане, ён толькі і думаў аб ёй. А на трэці дзень трэба было яму ўжо ехаць. І ён выехаў на ўсю восень і зіму. Цяпер ім нейк трывожна і нават страшна было ад гэтае новае свае блізасці, нават выразна прызнацца адзін аднаму ў тым, што слаўнае адчуванне з'явілася ад гэтае блізасці, яны не маглі. Да самага ад'езду ім нейк не давялося больш стала гаварыць аб чым-небудзь...

Аднак маці не папраўлялася. Аб гэтым дазнаўся ён з кароткага дзелавога ліста ад дзядзькі... Ён цяпер не мог не думаць аб ёй, тым часам як яна паехала ў канцы зімы з хутара да сваякоў у госці для свае разрыўкі: з-за мацерынае хваробы яна так і не скончыла свае сярэдняе асветы і трохі нудзела загэтым.

Вясною ён прыязджаў, быў пядоўга. Бачыўся толькі з суседнімі местачковымі хлопцамі: Абрама — Боні зусім цяпер тут не было...

Позна летам, пасля таго, быў ён у горадзе і адтуль адразу пайшоў у войска ваяваць з палякамі. Ужо зімою дачуўся ён, што яна хварэе тыфусам, што яна была вельмі слабаю, што маці яе памерла... Больш ніякіх вестак да яго не даходзіла. І толькі ўжо будучы на апошнім курсе універсітэта, паехаў ён летам на адпачынак у тыя свае старыя месцы. На месцы былога хутара знайшоў пасёлкі,— нават і суседняя вёска рассялілася вакол. Мястэчка стала большым і дайшло да самага таго месца, дзе быў некалі хутар.

Аб хутарскіх не мог ён дакладна нічога тут дазнацца і не стараўся лішне рабіць гэтага. Новым, зусім іншым, быў цяпер поўен ён. Нядобрыя ўспаміны засталіся ў яго аб ранейшым сваім жыцці тут. Маня ж, на гэтым цьмяным фоне, з'яўлялася ці з'яўляцца магла як нешта выпадковае,— так цяпер далёка адплыло ўсё ранейшае...

Быў тым летам раз ветраны дзень, як жыў ён у мяс-

тэчку,— і пульхныя абрыўкі цёмных хмар высока пярэсцілі неба, шпарка плывучы і разрываючыся. Вецер падпімаў пыл па зямлі. І раптам яму ад такога падвор'я ўспомніўся такі ж самы ветраны дзень даўно, калі ўцёк ён быў раз з хутара дадому да маткі і, чакаючы яе, прасядзеў адзін каля задняй сцяны на пяску. І гэта падняло ў ім буру. Цяжкаю трывогаю сціснулася сэрца яго. Ужо ў тую хвіліну рашыў ён, што хутка выедзе адгэтуль. Увесь астатак таго дня ён прахадзіў па полі, заходзіў на былыя хутарскія паплавы, стараўся знайсці тую мяжу, па якой некалі Боня, пахаваўшы матку, паглыбляўся перад ім у жорсткія шчыліны жыццёвай мудрасці. Мяжы тае не было ўжо. Толькі прыблізна вызначалася месца — некалі купчасты і густы, дрэвавідны куст шыпшыны цяпер быў зусім пакалечаным, вакол абвораным. Толькі тры ці чатыры тоўстыя пасынкі крыва раслі, абараніўшыся ад усякіх невыгод беспрытульнасці свае тоўстаю гузаватаю карою,— іголкі іх былі зусім пасашморганы. Цяпер вузкая дарожка, новая, высаджаная напрамік да мястэчка, была тут. Вецер кружыў на ёй пыл. Месца гэтае веяла апусцеласцю і знямогаю ўсяго ранейшага, нават вераб'іны шчаўлюк вяў на сонцы і рудзеў, прыбіты капытамі жывёлы. Зялёныя пасёлкаўскія ячмені гойдаліся і шумелі, сінія і буйныя там, дзе, побач з патаптаным шчаўлюком, былі некалі конскія могілкі. Доўгія гады, яшчэ за яго, Казімераву, памяць, местачковыя гандляры шкурамі вадзілі сюды біць старых, хворых і слепавокіх коней. Нават і цяпер яшчэ, белыя, абточаныя і абгладжаныя ветрам, вымытыя дажджамі, сустракаліся сям-там у траве косці. Угноеная за доўгія гады крывёю зямля давала багатыя ўраджаі. Смерць, пакутная і крывавая, дала невычэрпныя багацці для росквіту новага жыцця. Косці ціха адпачывалі тут, чакаючы свае канчатковае спарахнеласці і непрыкметнага злучэння з зямлёю і ветрам, калі пакінуць яны выглядам сваім узнімаць жывы бунт супроць крывавага закону свету — праз смерць і пакуты даваць красаванне...

На даляглядзе сінелі лясы.

Новае жыццё красавала на месцы старое вёскі і хутароў. А з мінулага былі цяжкія ўспаміны. І нават цяжка было ісці яму на магілу маці свае.

Назаўтра ён паехаў, не маючы мэты калі-небудзь быць тут. Усё былое стараўся ён згладзіць з памяці свае, каб

дарэмна не трывожыла яно повага кіпучага ўкладу і вялікасных пабудоў творчага духу.

Тады яшчэ больш паглыбіўся ён у сваю работу, радасны, напоўнены ёю і тым, што было цесна звязана з ёю — кіпучым морам студэнцкага жыцця.

Упартыя думкі вечарамі калолі яго галаву. Яны не мелі яшчэ пэўнай канкрэтнасці і абуджвалі пакуль толькі ўзрывы імкненняў, што цесна ішлі побач з напружанаю работаю. Цяпер ён ужо быў часта асістэнтам пры лёгкіх аперацыях і працаваў пад наглядам і кіраўніцтвам прафесара. Вечарамі халодныя літары кніг, тэрміны і канкрэтныя ўказанні медыцыны навострывалі памяць яго, вытваралі над думкамі практыкаванні надзвычайна шпаркай гнуткасці і момантнай квілівасці... Так ён сядзеў за сваёй работай, і аформленыя раней думкі даспявалі ў ім. Часта світанне новага дня заставала яго яшчэ за сталом. Вышэй паркалёвае фіранкі ўлівалася слаба ў пакой сіняватае малако світання. Яшчэ ўсё дзейнічала і працавала ў чалавека, як лажыўся ён. А раніцаю трохі балела галава, як ішоў ён на цэлы дзень з дому. І ў апошні год адно змянілася ў ім — раніцамі ішоў ён на працу паволі і спакайней, тым часам як раней нервова спяшаў, як бы баючыся, што спозніцца.

У студэнцкай сям'і ён быў, аднак, не лішне прыметным. Напрыклад, зусім пейк не прыняў ён удзелу ў спрэчках, якія пейкі час вяліся ў актыўнай часткі студэнцтва,— што павінна запанаваць і ўзяць верх — тэатр ці кіно. Адна група даводзіла, што запанаваць павінна кіно, яно зпізіць значэнне тэатра. Некаторыя нават лічылі магчымым паступовае адміранне тэатра. Нават у «Трыбуне мастацтва» з'явіўся быў малы і схематычны артыкул (намеры часопіса не дазвалялі пісаць у ім не схематычна), у якім даводзілася, што некалі тэатр як пэўная ўстанова зусім знікне, бо самі людзі, усе, у будучым грамадстве пасля паложанае працы, будуць займацца вясёлымі гульнямі, скокамі; такім чынам, тэатр — з балетнай музыкай, ролямі артыстаў — перанясецца ў быт. Другая група студэнтаў абвяргала гэта, даводзячы, што будучыня будзе не такая ўжо тэатральная і сцэнічная. І што тэатр, змяніўшы, можа, свае вонкавыя формы, не страціць свае псіхалагічнасці. І вялікі правадыр, гаворачы, што кіно ёсць найлепшае мастацтва ў нас, хацеў сказаць гэтым, што кіно павінна адыграць вялікую ролю ў справе будаў-

ніцтва як сродак агітацыі, як сродак наказу, як вялікі сродак далучэння мас да культуры... Першая група на гэта пачынала даводзіць, што цяпер нават сама псіхалогія як навука выцясняецца рэфлексіялогіяй і г. д.

Казімер Ірмалевіч нейкім чынам не прыняў удзелу ў гэтай спрэчцы. У гэты самы час у яго пачалося збліжэнне з Панкратам Малюжычам — чалавекам моцным, трохі насмешлівым і энергічным — машыністам па чыгунцы, што вадзіў скорыя паязды на Маскву і далей.

X

Адразу Манін ліст парушыў ход і кірунак яго настрояў. Сама сабою нават ужо з'явілася абыкласць — можа, і загінула яна дзе з бацькам сваім у часе вялікае жыццёвае навальніцы. (Калі навісае цяжкасць, доўга, патроху навісае і згушчаецца, тады толькі навальніца можа ачысціць паветра. Маланкі і громы непераможнаю навальнаю сілай сваёй разарвуць цяжкасць, і бурны веснавы дождж змые з зямлі ўсю гразь і бруд. І пакуль кіпучыя ручаіны нясуць на сабе і адносяць з ачышчанай зямлі ўсю каламутнасць, ужо сонца глядзіць з-за рэшты хмар; але ў часе дажджоў — хіба мала прыбіта, выкарчавана і знесена немаведама куды травы, дзеля якое і навальніца была!..) Яна магла дзе загінуць, выбраўшыся з наседжанага бацькамі яшчэ месца, загінуць у тыя дні, калі ўсё слабае магло гінуць... І ўжо ў рэдкія хвіліны кароткіх думак аб мінулым ён так і лічыў — далёка яна недзе, усё прайшло, мінулася, а можа, і, мусіць, нават жывое няма яе.

Ліст яе парушыў усё. Так каб гэта ў поездзе пярэдні вагон пачаў прыпыняцца раптам — у задніх бы згінуў парадак руху; моцна стукнуліся б яны адзін аб адзін, бразгала б і пішчала жалеза, пакуль не аформіцца новы і іншы тэмп руху.

Дадому, з падвакзальнага раёна, ад Абрама Ватасона, звярнуўся ён рана. Яшчэ толькі змяркала і адпалькавая адвеку веснавая імгла стаяла над вуліцай; дзеравяныя тратуары гойдаліся пад нагамі, раскідаючы цяжкую ваду. Дрывяны склад і дашчаная, пабрынялая агароджа яго моцна і недалёка пахлі неабдымнаю воляй...

Ціха ўвайшоў ён да сябе. Нездавальненне Абрамам трымала яго ў нейкай расчараванасці, а ад гэтага павялічвалася надзвычайнасць надышоўшага. Зноў павеяла на

яго даўнейшым: і ветраны і пыльны дзень паўстаў перад ім усёю глыбінёю, якую ўвабраў быў у сябе, і хутарскія дні з усякімі дробязямі сваімі праплылі, і Боня з апэцканымі яблыкамі і сваімі далейшымі мудрымі ўстанаўленнямі ў часе апошняй гаворкі на полі, і маці, і апошняя паездка туды... Жаданне не то што бачыць яе ці быць блізка да яе, а так нейкага дачынення да яе — павялічвалася яшчэ магчыма і ад свядомасці свае цяперашняе цвёрдае самастойнасці, тым часам як яна, мабыць, шукала чыйгось брацкага ці прыяцельскага падтрымання.

За звычайную работу цяпер не мог ён узяцца.

Раптам, як бы вырваўшыся наверх праз зроблены сёння пралом, выбухнула і затапіць спрабавала ўсё ўтомленасць,— і ў той вечар яшчэ падумаў ён, ходзячы з кутка ў куток пакоя свайго, падумаў, што даўно не меў ён адпачынку. І ад гэтае думкі разышлася на гэты раз дысцыпліна работы, і ў падсвядомасці заварушылася жаданне нічога не рабіць і радасна браць плады, даўно зробленыя.

Думка, якая тут з'явілася ў яго,— што нічога пэўнага ён не напісаў Мані таксама, як і яна яму,— вызвала ў яго рашэнне даць ёй зараз тэлеграму, толькі слоў пяцьшэсць; што-небудзь ласкавае і добрае сказаць ёй,— мусіць, яна ў горы якім жыве, калі сама напісала яму пасля доўгіх год маўчання і ранейшай сумеснай халоднасці.

Тады і здарылася трывога ў горадзе.

Ён яшчэ, паводле свае прывычкі, пайшоў ва універсітэт. Пахадзіў у шумным натоўпе і выйшаў адтуль, не чакаючы канца. Вуліцы пусцелі і заціхалі.

У самым выхадзе на вуліцу прыпыніў яго голас:

— Ты куды ўцякаеш?

Казімер пазнаў яго, аднаго з сваіх таварышаў па курсу; пазнаў нейк адразу каля неасвечаных дзвярэй па круглых шырокіх плячах і гучнаму голасу.

— Нікуды... Іду...

— Не можна, эх ты, Ірмалевіч!..— зашаптаў таварыш,— што ты гэта, куды ідзеш, чаго ідзеш? Не можна. Чакай тут. (Ён быў узбуджаны вельмі, гэты таварыш). Трэба тут быць усім... Бачыў ты! Усе збіраюцца. Наверсе быў? Рэгістраваўся?..

— А ты ж сам куды?

— У Камвуз, прадстаўніком...

— Я з табою пайду,— сказаў Казімер, ледзьве трапляючы ісці ўслед за ім.

Той мераў вуліцы шыроўнымі шырачэзнымі крокамі. Ён бег, а не ішоў, гэты таварыш.

— Ідзі, ідзі,— сказаў ён.

Казімеру і сапраўды раптам зажадалася ісці з ім. Але, перабегшы ўжо ўпоперак вуліцу, бачачы, як вуліцы адразу і заціхаюць, ён падумаў аб тэлеграме.

— Я пайду направа, у бок пошты.

Таварыш толькі шырока махнуў на хаду рукою; махнуў, як вялікі распарадчык усяго, што адбывалася тады на вуліцах. Не азірнуўся, нічога не сказаў і пабег. Скупа асвечаным тратуарам Ірмалевіч дайшоў да пошты. Гэты будынак і знадворку быў цяпер увасабленнем напурасці пакіненага людзьмі дома. У сярэдзіне Казімер застаў толькі чарнавусага вартаўніка, тэлеграф быў пусты.

— Вам чаго? — запытаў чарнавусы.

— Тэлеграму.

— Пачакайце, зараз прыйдуць.

Ён пачакаў хвіліны са тры і выйшаў, злуючыся. І, выходзячы, прымеціў: вартаўнічы праводзіў яго пільным зіркам прыжмуранага вока свайго, у левай руцэ, засунутай у кішэню казённае спецжакеткі, быў пэўны выраз, нават большы, чым у бляску яго прыжмуранага вока. Яшчэ больш злуючыся ад утомленасці свае, у самых дзвярах Ірмалевіч азірнуўся, узпервараўшыся канчаткова:

— Чаго вы на мяне так пільна глядзіце?

— Чаму вы не чакаеце тэлеграфіста, калі вам трэба тэлеграму даць?

— А вам што да гэтага?

— Мне нічога, што ж мне. Можаце даваць, можаце не.

Сабраны ў жоўтыя маршчыны твар яго загарэўся ўсімі адценнямі лёгкай насмешкі. Растрэсаныя вусы раздзьмуліся і паказалі скрыўленыя губы. Гэтаю крывою ўсмешкаю яны псавалі ўвесь твар...

— Скажэце вашаму тэлеграфісту, што, калі ён прыстаўлены ўночы да тэлеграфу, то няхай і сядзіць тут.

— Скажу,— голасам цвёрдым, як сцяна, адказаў вартаўнічы.

Пасля, прыпамінаючы гэтую ноч, Казімер Ірмалевіч дзівіўся сваёй гэтай раптоўнай нервовасці. Цяпер ён, праз мураваны над'езд, выйшаў на вуліцу. Сонныя рамізнікі стаялі на той бок на ўсю амаль палавіну вуліцы, паўз увесь зеленаваты паркан ад рога Савецкай. Некалькі іх, убачыўшы чалавека, хвасянулі пугамі коні свае і тут жа

асадзілі іх, моцна нацягнуўшы лейцы. На скрыжаванні вуліц некалькі постацей чакалі аўтобуса. Хто ішоў — ішоў хутка.

Ён яшчэ думаў пайсці па вуліцы, звярнуцца і даць тэлеграму — за гэты час мог прыйсці тэлеграфіст. Думка аб тэлеграме была цяпер слабейшаю. Абкружваючы квартал, ён ішоў міма сквера. Лямпа, што вісела над уваходам у тэатр, раптам патухла. З нейкага, мусіць, клуба, па той бок вуліцы, валіла шумлівая публіка.

На пустым скверы нейкі вечна вясёлы авантурнік аходжваў на лаўцы жанчыну:

— Вам не нудна адной?

— Нудна.

— Дык от я сеў.

— Ну, то цяпер весела.

— Хадзем куды гуляць.

— Няма куды ісці гуляць.

— Хіба свет малы?

— А хіба ж мы пойдзем ва ўвесь свет?

— Не, мы пойдзем куды-небудзь у адно месца.

— Ну дык от жа!

— Дык хадзем ва ўвесь свет.

— Адразу?

— Адразу.

— Далёка ісці.

— Можна зрабіць, што і на гэтай лаўцы будзе для нас увесь свет.

— Ну, няўжо?

Яна закашлялася.

Недзе, здалёк вельмі, чуваць было, як грымеў поезд. На вакзалах заціхалі апошнія крыкі ўстрывожаных паравікоў; і звон вагоннага жалеза даходзіў сюды як пераклічка нейкае вясёлае варты.

І раптам адчуў ён, Казімер Ірмалевіч, стоячы на апусцелай вуліцы адзін, каля высокай, абшарпанай нягодамі і часам камяніцы, пад высокімі падсохлымі ад невыгод вулічнага жыцця дрэвамі: уся гэтая напружанасць, гэтая цішыня і шум гэты — стаіць цяпер адзін момант, існуе, каб у наступны ж момант ператварыцца. І ў гэтым сённяшнім вялікім пераломе жыцця на зямлі, у гэтым этапе — наступовасці да пералому свету — апраўданне і кашлю жанчыны на скверы, і бурнай радасці шыракаплечага

таварыша-студэнта. Момант гэты, навялічаны ў гады,— вялікае ператварэнне, нараджэнне нанова.

Цяжкою рукою ён гладзіў свой гарачы твар. І ішоў. Спяшаўся страшна.

— Паедзем?

Рамізнік біў пугаю худоеканяпё і стрымліваў лейцамі, цуглі ўядаліся каняняці ў губы.

Ірмалевіч сунуў рамізніку ў рукі паўрубля і сказаў адрас.

— Малавата паўрубля.

— Хопіць. Не бі каня, няхай паволі ідзе.

— Яно як глядзець,— каня бі, калі пакарміў добра. Тады ён бегчы будзе. А для гэтага патрэбны грошы. Дораг авёс цяпер, цана падскочыла — не дай бог... Пуга каня не псуе, я ж кажу...

Чалавек сціх, бачачы, што яму не адказваюць.

Ці не апошняя снегавая хмара спрабавала мякка падняцца над змрочным краем горада — цёмная плёнка зачарніла неба, асвечанае лямпамі гарадское ночы...

Горад пачаваў чула і ў трывожным спакоі.

Недзе завыў сабака і сціх... Вільготна пахла размяклая вапна.

Сярод ночы, недзе на сініх ад змроку ліпах каля парканy, пад самаю вуліцаю, крыкнула дробная гарадская птушка,— як бы не было ціха і спакойна, усё роўна знойдзецца чаго крыкнуць птушцы.

## XI

Яшчэ была ноч. Канчалася ноч! Сіняя каламутнасць апошняе зімовае хмары над зямлёю дыхала снегам, але снег не ішоў. Макратою, цяжкаю, як пабрыпялае дзерава, веяла над горадам ноч. Позна ўжо было ісці снегу.

Канчалася ноч!

Затуманены і клапатлівы, заклапочаны з'яўляўся дзень! Яшчэ далёка было, пакуль пасівелая пара, вырваўшыся з цесных труб, пазаве людзей у свой кіпучы стук. Яшчэ нават і ўсе сляды ночы былі густымі.

Быў спакой!

Ён ляжаў, вялікасна-прыметны, на веснавых туманах, аднолькова вострых для ўспрымання, і над купінамі моху, над абмярцвелай цішынёю старога лесу, і над каменным скляпеннем гарадской брамы. Спакой як бы цягнуў у са-

бе прэспы пах макраты і ў зпямозе шкадаваў раптоўпую смерць лагоднае ночы.

І раптам рабілася зразумелым: нясе дзень повыя расцветы і зацямнепні і змяняе ён ноч, што змяніла ўчора дзень. І няма сілы змяніць гэты ход, што імчыць да вялікіх уздымаў, расчараванняў і зноў уздымаў.

Ішоў дзень.

Радасны затым нават адным, што ён дзень,— ён прытаіўся, сціпшыўся, чакаў, і ўсё чакала яго — як неабходпасць і пепераможпасць і як жаданасць і радасць.

Бледпы быў малады дзень! Адзяваўся горад блеклымі адценнямі, змрочна пахмуранымі ў надутасці неба...

Узбуджаны і змучапы заклапочапасцю мінулага дня, чула драмаў Казімер. Сон прыдушыў яго вочы первовасцю. Пад дзень раўней заснуў ён. Тут нічога не магло патрывожыць сну. І затым адразу пабудзіла яго нямоцная гаворка на двары.

Першы голас быў знаёмы — няроўны і захалоджаны, каравы, як сам чалавек. Гэты сухі і пануры стары, дворнік цяпер, чамусьці, мусіць, рад быў пагаварыць:

— Як жа вас сабакі пусцілі?!

— Пусцілі.

— А-а-а! Як жа гэта!

— Дзіва... Мяне ведаюць, а і то, абы паткнуўся (гэта я, значыць), дык ходу няма.

— Дык як вы казалі, прайсці ў тыя дзверы?

— Зараз сам пакажу... Сабакі, як зверы, адно хвастамі віляюць, каб яны павыдыхалі... Трымае, і пашто яны яму, каб хто папытаў.

— Ой, гэта і бяда, што ніхто не пытае.

Другі голас гучаў жартамі.

— Пытаць, уг-га! Я сам колькі разоў гаварыў яму, нашто табе, кажу, так многа сабак трымаць, што гэта — маёнтак тут у цябе, ці што! Страх. Гэта жартачкі... Што ты яму зробіш...

Гаварылі на хаду. Прыдушапы стук па ганку даляцеў у кватэру. «Ідуць да мяне»,— мільганула думка ў Казімера. На ганку дворнік яшчэ хацеў нешта сказаць, як ён гаварыў некаму не трымаць сабак, бо дом на два паверхі не ёсць маёнтак. Мусіць, другі, якому давялося слухаць, не лішне жадаў гэтае гаворкі і пейкаю няўважлівасцю паведаміў аб гэтам,— дворнік адразу змоўк і, ужо спуска-

ючыся з ганка (чуваць быў стук яго ног), успеў толькі сказаць:

— А я думаў, што снег пойдзе!

Сон сплыў, і бадзёрасць клапатлівая агарнула чалавека. Закінуўшы рукі за галаву, ён ляжаў і чакаў, хто ўвойдзе. Пасля ўсяго асадак застаўся — адзнакі тупога болю былі ў галаве. І была думка аб неабходнасці доўгага адпачынку: аднак не хацелася займацца ім — ужо вырысоўваўся ў галаве, афармляўся і спеў план цікавай работы. Раптам непрыметна вырас ён — вынік імкненняў апошніх гадоў.

Дзень уліваўся ў пакой. Сінявата бялелі сцены, сінюватым жа здаваўся паркаль фіранак. Хмурны дзень — відаць было. Гаспадарскі гадзіннік, тоўсценькі і круглы, на дзвюх кароткіх ножках на століку, паказваў пачатак восьмае гадзіны.

У сенцах стукнулі ў дзверы.

Ніхто не абзываўся, ён сам пайшоў адчыняць.

Глыбока нацягнуўшы кепку на лоб, на парозе стаяў Абрам Ватасон, з тварам, напоўненым чуць хітраватаю ўсмешкаю.

У першую хвіліну адчуўшы як бы вестку аб нечым нядобрым, адзеючыся, спешна, выслухаў Казімер.

— Здзівіўся, праўда? Нічога, я проста хацеў застаць цябе дома. Я даўно ўжо не сплю... Радзівон Цівунчык пабудзіў, а яму таксама не далі заснуць. Радзівон Цівунчык гэта і падаў мне думкі даведацца да цябе... Я яму сказаў, што ты доктар, звечара яшчэ... Ведаеш, з студэнтам нядобрае. Зусім кепска стала яму. Перад службай заскоч і паглядзі — хутчэй будзе. Можа, што дрэннае з ім, вельмі нядобрае...

— Я зайду... перад службаю...

Нервовасць, жаданне даўно першай самастойнай практыкі ці падабенства да яе, ахваціла Казімера.

— Я зайду... Садзіся, пасядзі, я памыюся пайду.

Абрам усміхнуўся і сеў.

Цяпер у яго нешта падобнае на задаваленне ці то нават радасці было ад прыходу Абрама. Недзе варушылася глыбока думка, што не толькі загэтым прыйшоў сюды Абрам Ватасон. Аднак ён прымусіў сябе ні аб чым не здагадвацца і не думаць. І аб Мані рашыў нічога не пытаць. З'яўлялася ў яго цяпер упэўненасць, што ўсё залежыць ад яе.

Цяпер яму хутчэй хацелася ісці. Абрам Ватасоп сказаў:

— ...Цівунчык сам хацеў ісці. Яму нават хацелася б самому прыйсці. І я яго ледзьве адгаварыў.

— Няхай бы прыйшоў, я і яго паслухаў бы...

— І яго, значыць, паслухаў бы...

Як бы штосьці нядобрае пачуў Ватасоп у Казімеравых словах.

Яны ізноў, як і ўчора, пастаражыліся і глянулі адзін на аднаго.

Цяпер, адзеючы паліто, у кішэні прымеціў ён рукою фатаграфію Мані. З учарашняга вечара яна не вымалася і не глядзелася, і нават яму самому дзіўнаю была гэтая разбежнасць думак.

Ён выйшаў следам за Ватасонам.

— А што з гэтым студэнтам?

— Я не ведаю... Гарачка паднялася... Цівунчык вельмі непакоіцца, чуць не плача. Сагнуўся і, здаецца, яшчэ больш пастарэў...

На двары чакаў дворнік. Вельмі вялікі і вельмі чырвоны нос яго падаваў твару выраз цікаўнасці да ўсяго. Ён насмешліва глядзеў на мокрую варону на версе халоднае ліпы. І столькі было на яго твары знявагі, як бы гэта ён глядзеў на ўвесь свет, ацаніўшы яго толькі з адмоўных бакоў.

Чалавек гэты даў Казімеру Ірмалевічу пакет... Цэнтральная амбулаторыя паведамляла, што ён назначан у камісію па даследаванню стану здароўя чыгуначнікаў.

## XII

Сюды і Радзівон Цівунчык заходзіў часта пагаварыць з якім-небудзь стрэлачнікам аб людзях, устанаўленнях і ўстановах свету.

Сухімі днямі — улетку ці вясною — ён мог падоўгу сядзець каля стрэлачнікавай будкі на адкосе, глядзеў, як хто-небудзь з стрэлачнікаў клапоціцца на рэйках. Сядзіць так і раптам падасць сваю заўвагу:

— От так і бегаеш з дудкаю ў зубах... Перад машыністам, як захрысцыян перад ксяндзом.

— Нічога не зробіш.

— А ты нічога і не рабі! Знай сваё дзела, і канец.

Або, убачыўшы, як які-небудзь стары, адстаўны цяпер,

былы обер-кандуктар, пасе на адкосе казу, Цівунчык падыдзе і заўважыць яму:

— Пасеш?

— Пасу.

— Гаспадарку, значыцца, маеш?

— Цэлы саўхоз маю,— аджартоўваецца той.

— А нашто табе столькі?

— Што я, нежывы чалавек?

— Жывы.

Сонны ад сонечнае спёкі, Цівунчык маўчыць, пакуль зноў што-небудзь не прыдумае сказаць.

Тут шырока ляжалі пераблытаныя і простыя рэйкі. Густая сетка іх укрывала зямлю. Іржавыя і бліпчастыя, яны моклі пад дажджамі і сохлі пад прыгараднымі вятрамі. Цэлыя вуліцы таварных вагонаў стаялі на іх. Тут заўсёды пішчала і званіла жалеза, ляскала пара ў вакольных чыгуначных прадпрыемствах. А направа грузна і цвёрда прысеў на зямлю цяжкі будынак дэпо. Тут было вечнае ажыўленне. Тут паднаўлялася жыццё жалезных істот; і абкураныя, замацаныя аліваю і курадымам людзі капаліся сярод дрымучых прэнтаў.

Адухоўленыя награмаджэнні жалеза і вугалля распасцёрліся і далей за моцнымі ў панурасці сваёй сценамі. Каменны шлях адгранічваў мяккасць і выраз вечнага недаследавання ветранае зямлі там, куды па дзве ў розных месцах беглі рэйкі. На каменным шляку сядзелі вятры, спыняючы сваю разгульнасць, здавалася, і людзі захацелі тут спыніць сваю земляную разгульнасць, узняўшы такую веліч награмаджэння...

Амаль адчуваўся магутны дых курадыму і пары.

Далёкі мізэрны край горада здаваўся мізэрным і непатрэбным, і нават кожная затаптаная трэска магла ўявіцца саматужнаю мізэрнасцю.

Стары і жыццярадасны чалавек, Радзівон Цівунчык, бываючы тут, ніякага ажыўлення сюды не прыносіў, падобнага да таго, якое было ў часе яго гаворак з стрэлачнікамі і обер-кандуктарамі на адкосах. Тут яго, прыгнутая трохі ў плячах, сухаватая постаць проста губілася, згладжвалася і была непрыметнай. Стук работы ў дэпо яшчэ павялічваў непрыметнасць яго.

Але тут усе яго ведалі. (Як бы ні быў мізэрным чалавек, выявіцца ён перад усякаю вялікасцю, зробленаю ім).

Яшчэ маленькія кавалачкі бульбяных засеваў старалі-

ся пярэсціць гэты цвёрды выгляд індустрыялізацыі. Напрадвесні яны мякка выглядалі сваёю сіняватаю чарнатою. Нават адзін раз і «самы індустрыяльны» з чыгупачнікаў — Панкрат Малюжыч — прабаваў напрадвесні корпацца з рыдлёўкаю па гэтым чатырохкутнім вороннім гнязде. І нават Радзівон Цівунчык зусім неіндустрыяльную параду даў яму:

— А яно верна, пасадзіўшы бульбы ды купіўшы свінню...

— Ды закалоўшы... (І нават насмешка над самім сабою была ў гэтым жартаўлівым слове Панкрата Малюжыча).

Радзівон Цівунчык уставіў парадак:

— Не, раней трэба падкарміць.

— А каб гэта папрабаваць так?

— Нічога не выйдзе. Якая ж карысць!

— Ну?!

— Я ж знаю.

— А, тады іншая справа...

Нейк неўзабаве пасля гэтае гаворкі Малюжыч закінуў без догляду сваю зямлю.

— Чаму?! — здзівіўся Цівунчык.

— Цяжка капаць...

— Зааранць трэба.

— Каня не маю. Што ж, я паравіка ў плуг не ўпрагу.

Цівунчык расчаравана закурыў і падаўся далей.

Рабочыя і практыканты дэпо не ўсе жылі ў прывакзальным квартале. Шмат з іх каму даводзілася ездзіць у процілеглы канец горада. І далёка было ім хадзіць адгэтуль да астаноўкі конкі. Конка сюды не падыходзіла, і дарэмна — хоць і край горада, а ўсё ж Мінск. А без конкі — які ўжо там можа быць Мінск!

І от тут адзін раз адбылося здарэнне.

З гэтых самых індустрыяльных у горадзе мясцоў ён ішоў раз дадому,— сухі постаццю і вечна смешны для ўсіх па выгляд, стары чалавек Радзівон Цівунчык. Зямля пад ботамі яго пыліла халодным перадзімовым пылам. Ружовым і халодным было вялікаснае кананне пагодлівага дня. За доўгі час, ад самага паўдня, ён утаміўся малою работаю ў нейкім загарадным садзе. Ногі яму балелі. Кавалак зямлі, які мераў ён няроўнымі крокамі сваімі, быў прывычным вельмі для яго выглядам сваім. Ён тут, у прыгародных садах, часам і работаю займаўся, з лапатаю, калі не ішоў

у лазню парыць добрых людзей. Пасля лазні заўсёды была выпіўка. А сама лазня, з усімі ўстаноўленымі звычаямі яе, была вялікай прыналежнасцю жыцця, вакол якое, за момант веку, паграмаздзіліся непраходныя пласты дум і гаворак аб людзях: незлічонасць людзей, здарэнняў, вялікіх і дробных з'яў было ўведана тут.

Бо, варушачыся на балюча кароткіх днях чалавечага жыцця, слаўны чалавечнасцю, Радзівон Цівунчык, раней ціхманы белатвары хлопец, пасля салдат імперыі, працаўнік па ўсім горадзе па ўсякіх работах, дваццацідвухгодні сторож у лазні і цяперашні насельнік зямлі па прыватных справах — ён лепш жыў, працуючы пры гэтай установе, што прызначана служыць для ачысткі чалавечага цела. У гэты час ён набыў жонку, у гэты ж час і пахаваў яе, аддаўшы неўзабаве васемнаццацігадовую дачку Насцю замуж за вагоннага праваднiка з далёкае вузлавое станцыі. Ён страціў яе быў на некалькі год, не меўшы жаданае весткі аб ёй з самых першых дзён вайны. Пасля некалькі кароткіх лістоў было ад яе, простых і звычайных. Так ён і жыў, несучы на плячах поўных шэсць дзесяткаў год, здольны заўсёды ўрастаць у калейдаскоп з'яў і рэчаў, што, як калясом машыны, захватваюць усё слабейшае за сябе.

Гады палажылі на твар яго некалькі маршчын, якія ён старанна расцягваў, нязменна голячыся кожную суботу пад вечар або раніцаю ў нядзелю. Выпіваў ён часта і ніць любіў у вялікім гурце. Тады здольнасць яго шмат і абы-што гаварыць павялічвалася. І ён гаварыў, ловячы гаворкі іншых. Такім яго і ведалі ўсе — гаваркім і смешным.

Як ішоў ён з саду, знаёмы і грубы голас спыніў яго:

— Здароў, стары!

Панкрат Малюжыч, чорны ад усякае алівы і курадыму, бег упоперак яго дарогі дадому.

— Здароў, сусед.

Цівунчык прыпыніўся. Малюжыч пайшоў павольна.

— Ну як?

— Нічога, з работы іду. А ты прыехаў з поездам?..

— Прыехаў з поездам.

Малюжыч не спыніўся і ішоў. Падаў Цівунчыку руку. Цівунчык павярнуўся і пайшоў поплеч з ім. Выйшлі яны на Койданаўскі тракт. Асеннія дрэвы маўчалі над дахамі драўляных дамоў.

— Зойдзем сюды,— сказаў Малюжыч.

І яны зайшлі ў нізкі і стары будынак. Нешта падобнае

да дробнае крамкі было адгароджана там, з дзвярыма на вуліцу. Яны прайшлі далей. На вузкіх лавах і паліцах ляжаў цёплы, гатовы для продажу хлеб. Пахла мукою, і было горача. Разам з хлебам ціхом прадавалася піва.

— Пі, стары,— сказаў Малюжыч, наліваючы піва.

Цівунчык чокнуўся з машыністам і пачаў піць, крэкчучы ад асалоды і стомленасці. Выпіўшы, пачаў гаворку:

— А ты за мяне больш не маладзейшы, як на гадоў дванаццаць.

— Можа, і не.

— Дык я ж, глянуўшы на цябе, магу сказаць. Я гляну на чалавека і, можна сказаць, заўсёды ўгадаю. Адзін раз было, як прыйшоў я, кагадзе, некалі, з салдатаў...

— От што, стары, канчай піць, ды я пайду спаць пасля дарогі.

— Ідзі сабе,— раптам адказаў Цівунчык і ўзяў яшчэ піва.

Малюжыч, заплаціўшы, пайшоў. Радзівон Цівунчык застаўся адзін. Спачатку выпіў, пасля пакінуў піць. Надзвычайная вастрата апанавала ім. Яна была непрывычна ўзбуджана няўважлівасцю да яго Малюжыча, і спрыяла гэтаму стомленасць і ранейшае жаданне з кім-небудзь сядзець за выпіўкаю і гаварыць. У незвычайнай скарзе ўсяе істоты свае сядзеў ён тут адзін доўга, маўчаў, раптам успомніў Насцю, пасля сваю кватэру, заўтрашні дзень — нядзелю. І, аслабеўшы ад усяго, паклыбаў дадому. Наступныя дні тры ён праляжаў хворы, у лёгкай гарачцы, пасля некалькі дзён быў поўны прылівам жыццярадасласці.

Але з таго часу ён пачаў не любіць Панкрата Малюжыча. І гэтае пачуццё часам даходзіла ў яго да няпавісці. Шмат хто калі не заўважаў яго так і нават смяяўся з яго, але не парваўся на яго ў такі час яго стомленасці і жаданняў.

## XIII

Наступныя дні Казімера былі паказнікам для яго нязменнага руху часу і жыццёвых падзей. Яны праходзілі непрыметна і хутка, уносячы ў свядомасць азначэнне пералому ў жыцці, які падрыхтоўваўся даўно і адбыўся нечаспадзявана. Работа сярод чыгуначнікаў заняла некалькі дзён і выцягнула на новую каляіну, якая паказала яму,

што адгранічыла асабовае яго сёння ад учарашняга. Цяпер яму ясна стала: пачынаецца новая частка жыцця.

За гэтыя некалькі дзён новыя знаёмыя былі ў яго з некалькімі дактарамі, што працавалі разам з ім. Пасля кожны з іх развітаўся з усімі, і ўсё гэта мела характар выпадковасці. Гэта былі маленькія з'явы вялікага руху, на шырыні якога ўжо з'явіўся ён — Казімер Ірмалевіч. Гэта давала паўнату чалавеку.

Аднак ён чуў сябе стомленым вельмі. Голад у першыя гады студэнцтва пакінуў свае сляды, а ўпартая работа апошніх год паглыбіла іх. На трэці дзень ён быў рад канцу работы. Тады ён пераходзіў зноў у бальніцу.

І яшчэ адно здарэнне забрала на сябе яго ўвагу. Студэнта Алеся Макарчука ён агледзеў у той дзень, як наказалі яму. Не пазнаўшы, аднак, як мае быць хваробы, а толькі здагадкамі падумаўшы аб ёй, выслухаўшы гаворку аб гэтым хворага, ён парадзіўся з другім доктарам. Той даводзіць пачаў, што тут справа з язваю жывата, бо хворы даўно ўжо скардзіўся на прыступы болю, дрэннае адчуванне пасля яды і іншае. Макарчука палажылі ў бальніцу.

Так прайшлі гэтыя дні.

Пад вечар сонца залівала белаватым святлом вільготны брук вузенькай драўлянай вулічкі, якою ішоў Казімер дадому, з лёгкім адчуваннем надыходзячага адпачынку. Веснавое неба было чыстым, і лёгка было дыхаць пахаладзелым паветрам. Бяздоннасць прастору над галавою гарэла ўсімі адценнямі празрыстай лёгкасці. І ён ішоў непадалёку тых мясцоў, куды некалькі дзён перад гэтым прывозіў пасылаць ліст да Мані і гаварыў з Абрамам. Цяпер ад усяго гэтага ляжаў тонкі, але ўпарты цвёрдасцю сваёю асадак. Ён укрываў сабою ўсё і на ўсё накладаў нябачны колер непрыметнай трывогі. Часам думкі пачыналі самі гусціцца вакол гэтага пункта, пасля раптам яны разыходзіліся. Тады рабілася пуста ўва ўсіх адчуваннях, механічнасць работы не патрабавала шмат думаць.

У хвіліны напльву дум востра думаў ён аб ёй. Былая блізасць, што адбывалася некалі між імі малы час, набывала цяпер цану вялікае з'явы, і ўсё навакольнае, веснавое, чыстае спрыяла таму, каб зацямніць тую ўкрытую, не растлумачаную нікім варожасць, што заўсёды амаль адчувалася тады між імі. І за некалькі гэтых дзён сфармавалася і зусім акрэслілася ў ім пэўнасць: ён хацеў бачыць яе і раптам адчуў да яе блізасць. П'яны ад веснавога прастору,

ён ува ўсякай жаночай постаці, бачанай дзе-небудзь далёка перад сабою і аформленай адлегласцю ў жаночую прыгожасць, мог адчуваць яе, вялікую, радасную, слаўную.

У такіх настроях дайшоў ён да свае вуліцы.

Яшчэ вечарамі трымаўся холад, вечны спадарожнік расталага кагадзе снегу. На яго вуліцы сіняватыя ад празрыстасці ўсяго вакольнага галіны ліп зацямнялі неба над дашчаным тратуарам. Каля дома свайго ён зняў шапку, падставіўшы галаву ветру вычысціць валасы.

— Ідзеце ў хату, вам прынеслі ліст, а я аддаў гаспадыні вашай. У яе і вазьміце.

Дворнік стаяў перад ім у валёнках і цёпла адзеты. Мяккім узрокам глядзеў ён, як Казімер усходзіў на ганак.

Быў малы і нечаканы гэты ліст: гаспадыня дастала з-за ўсіх дробных рэчаў на стале белы канверт. Маня пісала. Цяпер пісала яна больш вытрымана, але, апроч ранейшай нервовасці, яшчэ нейкая жорсткасць адчувалася ў напісаных словах.

«Я атрымала твой ліст. Я не думала, што так хутка атрымаю яго.

Дзякую за тое, што ты так адказаў мне. Вельмі рада, што ў цябе ўсё добра. Аднак, пішучы мне аб тым, што я мала табе аб сабе напісала, ты сам мала больш аб сабе напісаў. Я ж сама і ў гэтым лісце мала больш што табе аб сабе магу напісаць, бо чалавек нічога не можа ведаць, што будзе з ім далей, так што я ніякіх планаў не вызначаю. Жыва і здарова. От і ўсё».

Гэта цвёрдая кароткасць ліста здзівіла яго. У непаразуменні ён трымаў ліст у руках, здагадваючыся і думаючы аб тым, чаго не было напісана ў ніводным лісце.

«Пісала тады, што ёй добра жывецца, што яна, проста ўспомніўшы яго, напісала мне. А от я ведаю, што не так гэта ты мне пісала і не так гэта ты даведвалася аб маім адрасе. Нейкая скрытая думка была тут у цябе, гэта бачу я з усіх лістоў тваіх. Ты думаеш аб даўнейшай непрыязні нашай і не пішаш аб усім выразна. Пішаш не тое, што трэба. Ты жыла ўжо шмат самастойна і дагэтуль не навучылася расцаніць нашу былую непрыязнь як непатрэбную дробязь, зняважлівую для чалавека. І яшчэ ўсё не пазбавілася ад гэтага. А можа, і не прайшла ў цябе гэтая непрыязнь да мяне, і бяда толькі нейкая заставіла цябе пачаць пісаць мне...»

У такіх думках ён дастаў з-пад кніг фатаграфію, якую забраў быў у Ватасона, і зноў глянуў на яе. На яго глядзеў знаёмы твар: нічога не змянілася ў ім з тых часоў, як бачыў яе апошні раз на хутары. Толькі постаць яе стала выглядаць мажнейшаю. Белы каўнерык рэльефна адценьваў знізу твар, шырокія вочы змяншвалі маўклівасць рысаў яго.

Такою яна і была на хутары.

Здалося яму нават, што раптам запахла перамытаю травою з град, якую яна прынесла з-пад калодзезя. Пасля малюнак таго дня паўстаў перад ім, калі ён суцешваў яе. Усё, самае дробнае, што некалі ўядалася ў памяць, выплывала цяпер наверх: нудная баязлівасць малых дзён перад дзядзькам, адзінота на полі і спатканне з Бонем. Вялікая змена твару зямлі, дзе быў хутар, і вялікая здольнасць часу разварочваць новыя падзеі і зусім згладжваць усё было, як бы яно моцна ні ўкаранілася на зямлі.

Утомлены ад усяго, ён сеў. Фатаграфія ляжала сярод кніг на стале. Цяпер плыло няведанне, пісаць ёй ці не пісаць. І калі пісаць, дык што. Раптам востры наскок думкі пачаў выклікаць сумненні, ці адчувае ён нават блізасць да яе. Але растлумачанае думкамі жаданне бачыць яе затапіла ўсё.

Аднак да рашучага кроку напісаць ёй зараз жа сутрымала яго нейкае як бы цвёрдае азначэнне свае самастойнасці: з яго не была вытручана яшчэ зусім сірочая яго індывідуалістычнасць — і цяпер, няглядзячы ні на што, ён мог плыць адзін, думаючы аб тым, што сам мінуў усё, што застаўляла яго варушыцца сярод «гаспадароў», і вось цяпер адплыў, далёка пакінуўшы іх за сабою. Гэтае пачуццё прымушала яго, між іншым, усё ж блізка трымацца думкамі да Абрама Ватасона, які па іншай жыццёвай дарозе падзяляў яго лёс.

Каля вачэй у яго балела ад прыглушанай дрымоты.

Раздзеючыся, ён яшчэ раз глянуў на фатаграфію, і дзіўнае жаданне на хвіліну ахапіла яго: быць і гаварыць з пяхітрым Радзівонам Цівунчыкам, які нагадваў яму ў гэты момант увасабленне ўсякае прастаты. Клапатлівасць Цівунчыкава прабудзіла ў ім і пасмешлівасць і замілаванне.

Цівунчык стаяў уваччу некалькі хвілін; твар яго склаляўся ўсё бліжэй і цягнуў за сабою сцэны. Раптам сплыло некуды ўсё — моцны сон схаваў усе пачаткі і канцы.

## XIV

— Цяжка,— сказала прыслужніца.

Яна падняла невысока ад зямлі рог насілак і зноў паставіла на зямлю.

Казімер мыў рукі тут жа ў калідоры. Аўтамабіль хуткае дапамогі яшчэ стукаў па дзверы.

Санітары панеслі хворага ў палату.

Цяпер гэта даўно стала абыкласцю. І сам ён адчуваў сябе неадменнай прыналежнасцю ўсяго гэтага ўстанаўлення. Там, за гэтымі сценамі, недзе па той бок гэтае белае мураванае агароджы, нявымеранаю кіпучасцю адбываўся працэс, што меў назву жыццё. Стук перамешваўся з гаворкамі і песнямі. Зыкі губнога гармоніка глушыліся грукатам і звонам жалеза аб камень. Гоман пранізваў агульны шум, шырокі і моцны, поўны выяўлення вялікіх утрапенняў зямное кіпучасці.

Сюды ўсё гэта даходзіла слабей, як толькі напаміпанне. Жыццё кідала сюды дробныя прыналежнасці свае, спасаваныя бегам законаў і часу. Прыходзілі яны самі, занядужаныя людзі, іх і прывозілі, прыводзілі. Сягды-тагды з'яўляўся аўтамабіль хуткае дапамогі — халодная машына, прызначаная быць немаю сведкаю.

Прычыненая брама кожны дзень упускала сюды такіх людзей, кожны дзень і выпускала па некалькі чалавек. Гэтыя ішлі адноўленымі, і новыя моцныя прылівы адчування жыцця поўнілі іх.

Бальнічны двор быў шырокі і роўны, абгароджаны вакол белымі мурамі і прыбудоўкамі. Нізкая трупарня здавалася да часу кіненаю тут малою прыладаю, аднак гэта была неабходная і вялікая прыналежнасць тут.

На гэтым малым кавалку, што сабраў у сабе канцы і скрыжаванні жыццёвых дарог, мацней ад усяго чулася, як калоціцца і б'ецца сэрца зямлі.

З аднаго боку, найбольш вырастала індывідуальнасць чалавека, вялікае змаганне асобы не пакінуць існаваць сярод іншых асобаў. З другога боку, і спіралася яна, з'явіўшыся матэрыялам.

Казімер Ірмалевіч прыходзіў сюды пад поўдзень.

— От што,— сказаў хірург, прыпыняючыся каля яго ў калідоры,— вы будзеце на трэцяй аперацыі. Ложак нумар тры. У аптэчным пакоі ў спіску вызначаны час аперацыі.

Як трэба будзе, скажыце сястры, каб падрыхтавала хворага. Паглядзіце.

Ён пайшоў, сказаўшы гэта.

— Зраблю,— сказаў яму ўздагон Ірмалевіч.

Ён думаў.

У аптэцы звінілі шклом. Востры струмень паху нейкага ядавітага лякарства цягнуўся адтуль. Тупалі нагамі рухавыя сёстры і прыслужніцы. На дзвёх лаўках каля сцен сядзелі маўклівыя госці, што прыйшлі даведацца сваіх хворых. Блізкі да канчатковае паправы чалавек, з салдацкім выглядам твару, стаяў у змятым жоўтым халаце і босы, прыпёршыся да вушака адчыненых дзвярэй у палату, і пробаваў сам для сябе спяваць нешта, што пачыналася пявіпным і прыстасаваным да ўсяго — «ой ды-люлі». Ён нічога не заўважаў, глядзеў сабе пад ногі і падспеўваў. Некаму не хацелася ўміраць: чуваць было, як голас яго недзе ў палаце быў поўны роспачы:

— Не забудзь з сіняе браваркі некалі на зіму пашыць дзецям вопраткі.

— Добра, не клапаціся ні аб чым, усё будзе як мае быць. Папраўляйся.

— Я ведаю, што гавару... усё ўжо ведаю.

— А сёння доктар мне зусім іншае гаварыў, як ты думаеш. Табе здаецца бог цябе ведае што.

Той голас раптам памацнеў:

— Праўда, гаварыў доктар?

— Гаварыў...

Маўчалі. Пасля той зноў сказаў:

— Увосень меншага аддавай у навуку... Няйначай... Глядзі ты іх...

На залітым сонцам двары два вайсковыя весела чакалі трэцяга, які здаровы выходзіў да іх з бальніцы. Напалоханы нейкаю хваробаю чалавек раптам дазнаўся, што хвароба яго дробная і нязначная, і цяпер ішоў адсюль, не могучы стрымаць жадання пагаварыць з кожным сустрэчным. Гэты, трохі згорблены стары, прыпыніўся каля вартаўнічага з дробнаю гаворкаю:

— Нічога яны самі не ведаюць. Той кажа адно, а той другое. Адзін як нагаворыць мне, дык хоць кладзіся ды ўмірай, а другі паглядзеў ды толькі пасмяяўся...

— Пасмяяўся?..

Голас вартаўнічага скептычна прагучаў скрозь ціхі вакольны шум.

— У вас, кажа, нічога няма і быць не можа, пакуль у вас усярэдзіне ўсё здаровае. А я ўсярэдзіне ніякае фальшы не чую. Ат, і разбяры ты тут.

— Добра... Яно само разбярэцца, ты сабе, стары, ідзі.

Старому не хацелася ісці, не пагаварыўшы больш. Ён азірнуўся вакол, шукаючы каго-небудзь. Каля трупарні плакала нейкая жанчына. Стары паспрабаваў падысці да яе, пасля не пасмеў трывожыць яе плач і з расчараваннем падаўся сабе да брамы. З абыякавасцю ў вачах на яго глядзеў з далёкага кутка порсткі і худы архіярэй, скончыўшы з нейкім хворым гаворку праз акно. Хаўтурны марш пачуўся на хвіліну з нейкае далёкае вуліцы. І тут жа заглушаны быў іншаю музыкаю, што непадалёку на вуліцы адбівала патрэбны нейкаму такт.

Ахвачаны паплывам вакольнага, стараўся Казімер назначыць думкамі план дня таго.

«Я звяў ад стомленасці,— думаў ён пра сябе,— я пачынаю паддавацца ўсяму вакольнаму, што трэба адчуваць так, як бы ты над ім арудуеш».

— Родненькі, дзякую, галубок...

Ён уздрыгануўся ад нечаканасці. Перад ім стаяла жанчына. Твар яе ён раптам прыпомніў. Учора ён рабіў ёй апошнюю перавязку на хворай назе.

— Што?

— Дадому іду. Зусім выбралася. Палягчэла.

— Добра.

— Дзякую, родненькі, як рукою зняло.

Яна паглядзела здалёк на яго і пайшла з калідора недзе на двор. Апіраючыся на палку, яна паволі спусцілася з ганка.

Цвёрда пайшоў ён у аптэчны пакой кончаць дзённую працу сваю. Ён узяў спісак назначаных у бліжэйшы час для аперацыі. Трэцяя аперацыя назначана была Алесю Макарчуку. Ён глянуў у графу, што азначала хваробу. «Язва жывата»,— прачытаў ён.

Тут ён прыпомніў, як Абрам Ватасон заходзіў паведамляць яго аб хваробе гэтага чалавека. «Не для гэтага толькі ён заходзіў тады да мяне,— думка гэта адразу вынікла ў галаве яго,— не для гэтага. Жартачкі, палавіну горада ісці чуць свет, як бы бліжэй дактароў няма... Можа, ён хацеў стаць да мяне бліжэй; аб нечым, можа, пагаварыць са мною... Нам трэба быць блізкімі ў імя нашага дзяцінства... (у імя запэцканага яблыка — узварухну-

лася тоненькая думка і вызвала лёгкую ўсмешку на момант). Так... Абрам слаўны... Моцны чалавек... Ён ніколі ні на што не скардзіўся, а рабіў моцна і ўпарта».

Думка бачыцца з Ватасонам начала фармавацца паволі і непрыметна.

Прозвішча назначанага да аперацыі чалавека толькі і абудзіла ў ім гэта. Чалавек цяпер быў матэрыялам, над якім належыла рабіць некаторыя справы, вызначаныя навукаю.

Ён ужо вылічыў прыблізна час: заўтра а гадзіне першай дня.

Ён адзяваўся ісці дадому.

Сонечны двор быў фонам, на якім дзейнічаў ён.

У глыбінях істоты стаяў вобраз Мані, сястры і жанчыны. Толькі стушаваным было пытанне: «Што думаць аб ёй і яе лістах».

На вуліцы ахваціла яго клапатлівасцю гарадскога дня. Ён заглядзеўся на не абмытыя яшчэ ад леташняга пылу грузавікі, нагружаныя мяшкамі мукі. Стары чалавек, цягнучы дым з абкуранага папяросніка, нешта загаварыў.

— Што? — запытаў Ірмалевіч.

— Нічога, танна моркву прадаю.

## XV

— Пачакай жа ты, пачакай! Шпаркі ты які зрабіўся, ніяк дагнаць не магу.

Пачынаўся вечар. Казімер дома быў і зноў выйшаў на вуліцу. Ён выбіраў, дзе лепш утаптанаю была зямля, і ішоў па Марксаўскай вуліцы ў бок сквера. Абрам Ватасон дагнаў яго.

— Куды ты?

— У бальніцу хадзіў, брат.

— Чаго? Хворы там хто ёсць, ці як?

— Сам хачу легчы.

— То чаму ты не лёг?

— Без цябе няёмка было.

Жарты гэтыя разбурвалі астаткі сцяны між імі.

— Не, хто там у цябе?

— Макарчук. Ты ўжо забыў.

— Ах так, проста не ў галаве мне...

— Так, Макарчук. Даведацца яго хадзіў, ды не пусцілі.

— Аперацыя заўтра яму будзе.
— Заўтра будзе?
— Язва жывата...
— Зашкодзіла-такі... Так не прайшло...
— Што?
— На сухім хлебе два гады выседзеў.
— Калі?
— Ды от нядаўна... Вучыўся...
— Хадзем назад, зойдзем да яго... Заўтра раніцою пачну рыхтаваць яго да аперацыі.
— Што ты робіш цяпер? — голас Абрама быў роўным і гуллівым.— Многа работы маеш?..
— Ад Мані зноў ліст быў... Малы... зноў нічога не піша...
— Чытаючы ліст, мяне ўспамінаў?
— Думаў аб табе, гледзячы на фатаграфію яе. Успамінаў, як прыходзіў быў раз ты да мяне на поле... Памятаеш?
— Я памятаю, але не ўспамінаю мінулага. Нашто яго ўспамінаць.
— На фатаграфіі яна такая самая, як і некалі была... Чужая, здаецца, усяму...
— Не чужая, а толькі сама за сябе любіць дзейнічаць. Якая каму справа да каго, разумеючы гэта вузка... І яшчэ — яна любіць жыць... Любіць дзень, любіць ноч... Ты ведаеш, што значыць любіць дзень, ноч... Самы працэс, самае існаванне: бачыць бег і змену так, як яно ёсць, і здагадвацца, што за ім глыбіцца далей?!
Цяпер Казімер маўчаў.
— Я от іду пагаварыць з хворым суседам сваім... Такое ўстанаўленне... Што чалавек павінен хварэць. Тут я іду варушыцца ў гэтым працэсе... Я не магу тут што зрабіць праціўнае гэтаму, а іду, удзельнічаючы ў працэсе.
— Ціхом падначальваешся, значыцца, сляпой сіле?!
— Не, не так... Не паміруся я ніколі з усякім падначальваннем. Аднак я ўдзельнічаю ў працэсе. Дзейнічаю ўжо нават тым, што не міруся... Разумееш? Дзейнасць!..
— Як ты па-навуковаму гаварыць навучыўся...
— Не, ты пачакай, дай скончу табе... Люблю дзейнасць, а дзейнічаю сярод усяго... І люблю ўсё... Люблю нават за тое, што ненавіджу яго, бо, ненавідзячы, адмаўляю, каб новае ўстанавіць...

— Ты не разважай, а рабі, устанаўляй... Ідзі за мною...

Прыгнуўшыся пад нізенькаю бакавою брамкаю, яны пераступілі высокі парог і ўвайшлі на двор. Выказаўшы настроі свае, Абрам цяпер маўчаў.

— Ты шмат філасофіяй займаешся.

— Не жартуй.

Аднак востры смяшок загуляў і ў голасе і ў вачах Абрама.

Над ціхім дваром ружавеў захад. Летняя шырыня адчувалася ў літым бляску акрываўленага неба. Моцна пахла вільгаццю; і дымком цягнула з бальнічнае кухні. У сонных калідорах між палаткамі таксама пуста было. У дальняй палаце нехта ціха енчыў. Яны пастаялі ў адчыненых дзвярах і не хацелі будзіць соннага Макарчука.

— Што ты будзеш рабіць цяпер?

— Нічога,— адказаў Ірмалевіч.— Я ўтаміўся за дзень.

— Сядзем на аўтобус і праедзем у мой бок.

Ірмалевіч падумаў і згадзіўся. Да аўтобуса ісці было недалёка...

За некалькі момантаў перад тым, як вылазіць з аўтобуса, Ірмалевіч заўважыў скрозь каламутнае шкло, на асвечанай лапіне бруку каля ўсходаў, што падніманіся на мост, танклявую постаць. Гэтая танклявая постаць глядзела ўгору і трымала нешта пад пахаю. Каўнер бобрыкавага (так здалося Казімеру) паліто быў пастаўлены і ўпіраўся ў аттапыраныя трохі вушы. З гары, з ліхтарнае лямпы над бокам вуліцы, падала святло.

Постаць пайшла следам за аўтобусам.

Вылазячы з аўтобуса, Казімер прымеціў яе непадалёку цырульнікавага ганка.

— Дзяржы,— сказала постаць, падаючы нейкі скрутак некаму ў адчыненае на вуліцу акно.

— Гэта ўсяго?.. Мала... Каньяк ёсць?..

— Не, от яшчэ: там наверсе на мосце хлопцы стаяць... рана яшчэ, падыдзем да іх... Ну... Зачыняй акно.

Акно зачынілася; постаць падалася ўбок.

— Плюгавы які,— падаў голас Казімер, без смеху і без дрэннага пачуцця; так, абазначаючы факт.

— Ціха ты... Гэта сусед мой.

Ватасон па хаду азірнуўся, з адзнакамі гумару ў голасе.

— Хто?

— Вершы піша...

Прайшлі яшчэ некалькі крокаў да цырульнікавага двара, і тут постаць была забыта.

Пакуль Абрам адмыкаў свае дзверы, ён некалькі разоў стукнуў ботам па нечым звінючым на ганку, тады раптоўна выскачыў Радзівон Цівунчык, гатовы заўсёды абараняць усё ад устаноўленых непарадкаў.

— Хто тут?

Пасля разгледзеў двух чалавек і пазнаў.

— Вы?

Ён схаваўся назад недзе ў свае дзверы, і толькі што запаліў святло Абрам, толькі што раздзеліся яны, як на вуліцы, чуваць стала, пад самым ганкам загаварылі.

— Можа б, яшчэ па Задумчкоўскага з'ездзіць?

— На чорта ён табе.

— Чаму, дзівак ты, весялей...

— Як хочаш...

— Як ты...

— Пайшоў ты...

Раптам людзі пайшлі ў двор, затупалі недзе за Цівунчыкавым ганкам. Стукнулі рамізніцкія калёсы. І тады ўсё сціхла. Апошнім, што чуваць было, гэта нечая гаворка аб нейкіх селядцах:

— ...Дык, брат, пакуль яны там пададуць, дык я з буфета чатыры селядцы згроб ды на стол — закусваць, кажу, няма чым, а вы так кошкаецеся... Яй-богу...

— Ну?!

І гэта было хутка забыта. Казімер мерыўся неўзабаве пусціцца дадому адпачыць.

Да вокан ліпнуў густы вечар.

— Ты калі дэмабілізаваўся?

І Казімер нарыхтаваўся выслухаць Абрамаў расказ аб апошніх гадах.

— Не вельмі даўно. Хочаш, каб я расказаў?

— Раскажы.

— Фактычна дэмабілізаваўся захварэўшы. Пачынаўся працэс лёгкіх.

— Ну...

— Пачакай, калі хочаш, буду расказваць.

Казімер выслухаў пачатак яго расказу. Жывы Боня, ранейшы, местачковы, паўстаў раптам перад ім. Такія былі яго словы. Павярхоўны палёт яго гумару, што заўважаўся часта ў апошнія спаткапні, згінуў цяпер.

Напалову слухаючы, напалову адчуваючы сябе як бы

ўдзельнікам Абрамавых спраў, ён шмат што выпусціў з-пад увагі свае.

— А доўга ты быў камісарам палка?

Але тут раптам адчыніліся дзверы, і ўвайшоў чалавек.

## XVI

А Ваця Браніславец другі ўжо дзень працаваў з новым чалавекам. Праца гэтая хоць і ўтамляла, але аднак займацца ёю зусім не цяжка было. Ды і чалавек, удзельнік яе, быў работнікам вельмі важным.

Прычынаю іх спаткання і знаёмства было: з боку Ваці — вечар нейкага юбілею ці нейкіх успамінаў, што быў наладжаны нейкаю ўстановаю і куды нейкім чынам папаў Ваця Браніславец; з боку таго чалавека — разуменне патрэбы свае гаворкі аб грамадскай рабоце і замілаванне да газетнае хронікі.

Вечарам папярэдняга дня чалавек гэты пакінуў свае апартаменты, суседнія з апартаментамі Радзівона Цівунчыка і цырульняю Абрама Ватасона, і рушыў на юбілейны вечар чытаць свае вершы. Былі прачытаны два вершы. У самы разгар юбілейнага шуму і вясёласці і пасля гэтага прачытання Ваця Браніславец, зусім п'яны, падаў сваю нязменна скептычную заўвагу чытальніку:

— Лоўка чытаеш, толькі не чмыхай так носам.

Трохі збянтэжаны чытальнік ужо хацеў калупнуць ноздру, прыдумліваючы, што яму тут адказаць, але Ваця сам пазбавіў яго ад гэтага прыдумлівання. Ён раптоўна паліў чарку і маргнуў на яе леваю палавінаю твару:

— На табе за храбрасць... П-пі.

— А ты?

— На табе і я!

І ён сабе наліў. Яны чокнуліся і выпілі. А выпіўшы, раптам зрабіліся прыяцелямі.

Пасля яшчэ нешта было выпіта, нечым яно закусвалася, але самае важнае было тое, што можна было ні слова не гаварыць адзін аднаму, але адзін аднаго разумець і заставацца прыяцелямі.

На світанні была ўтворана ўмова: у часе абеду спаткацца. Была ўспомнена пэўная кавярня і час. З гэтага і пачалося.

І было так: адзін аднаму зусім не падабаліся; нават больш: Ваця рад быў кожную хвіліну паздзекавацца над

сваім выпадковым і часовым прыяцелем, а той Вацю панура не любіў. Але частыя дабаўленні ў галаву хмелю не дазвалялі ўразумець і абдумаць усе гэтыя падзеі. Пасля кавярні і спацыру па некаторых вуліцах раптам нахапіўся вечар. Вацін прыяцель з шалёнаю хуткасцю развіў у сабе думку зрабіць на сваёй кватэры як-небудзь вечар ці так выпіўку, хоць і не юбілейную.

От і бачыў Казімер Вацінага прыяцеля скрозь каламутнае шкло аўтобуснага вакна.

Слаба азначаныя межаванні супярэчных думак поўпілі галаву Ваці Браніслаўца ва ўвесь гэты час.

Ішла вясна. Звоны зямлі нячутна гучалі на свеце. Зямля звала ў прасторы свае. Ужо раней трохі імкненне пакінуць горад пачынала варушыцца ў ім.

Цяпер хутка трэба было ад'язджаць у лясы. І яго цягнула хутчэй выехаць. Нават абуджвалася часам жаданне нідзе не быць, апроч службы і кватэры, да самага ад'езду. Адчуванні гэтае блізкае лясное цішыні радавалі і прыносілі думкі аб супакаенні пасля вострага ўтрапення пачуццяў у гэтыя дні.

Разам з тым вобраз Мані вырастаў ва ўяўленнях з кожным пражытым днём. Ён стараўся заглушыць гэта, аднак усё больш упэўніваўся, што нельга іначай назваць яго, як каханне. І гэта мучыла. А жаданне заглушыць яго нараджала часам моцныя напльівы злоснага скептыцызму. Гэты скептыцызм і звёў яго з паэтам, заставіўшы яго выказацца наконт яго чытання вершаў.

Чаканне блізкага ад'езду цяпер рабіла абыякавым, як пройдзе час; чым хутчэй, тым лепш. І ён другі дзень блытаўся па вуліцах і кавярнях з новым знаёмым. Хоць знаёмства гэтае было такім, што нават не ведаў ён, як завуць гэтага чалавека. А той нават раз пастараўся падумаць, што ён, будучы паэтам, вывучае ў асобе Ваці чалавечага тыпу, можа, і патрэбнага для якога-небудзь твора, які калі-небудзь, магчыма, будзе напісаны. Нават ужо леташняй зімою і загалоўкаў некалькі было прыдумана і пазапісвана на першых лістках тоўстых сшыткаў добрай паперы (які загаловак лепш падыдзе, у тым сшытку некалі і пачнецца пісацца гэты твор). Гэтую думку аб вывучэнні тыпу для твора ўгрунтоўвала яшчэ другая думка — думка аб літаратурнай хроніцы, якая павінна была з'явіцца назаўтра ў газеце і паведаміць усіх чытачоў аб тым, як ён чытаў на юбілейным вечары вершы. (Гордая думка аб грамадскай

рабоце ўрэзвалася тут між дзвюма ранейшымі думкамі). Аднак грунт гэты хутка разбурыў сам аб'ект вывучэння Ваця Браніславец.

— Ты на Каўказе быў? — запытаў вывучальнік, не ведаючы, як іначай пачаць сваё вывучэнне.

— А ты быў? — адказаў Ваця.

— Я кожны год бываю.

— Чаго ж ты?

— От, езджу.

— А нашто ты мяне пытаеш?

— Не, я не то што пытаю. Я думаў, калі ты быў, дык якое на цябе ўражанне робяць тамашнія жанчыны?

— А на цябе якое?

— На мяне?

— На цябе... Не чмыхай так носам... Што ў цябе за прывычка гадкая...

Тут вывучальнік страціў грунт вывучання. Неўзабаве зусім забыўся на ўсё гэта. Яны сядзелі на Каломенскім скверы, улюбёным месцы Ваці Браніслаўца. Пасля гэтага ўсяго і з'явілася ў вывучальніка, што страціў грунт, думка зрабіць у сябе на кватэры маленькі вечар. Ваця нічога не меў проці гэтага і згадзіўся быць. Нават, жадаючы якнебудзь пасмяяцца над сваім прыяцелем, сказаў, што можа ўзяць на сябе абавязкі падабраць патрэбны для гэтага гурт спрытных хлопцаў. І пачуўшы адказ, што ахвотнікі знойдуцца як бачыш і клапаціцца доўга не прыйдзецца, што будуць усё свае блізкія людзі, ён больш не напрошваўся. Той пайшоў клапаціцца, а ён застаўся адзін, змагаючыся з бязвольным жаданнем думак ставіць перад усім Маню і засланяць ёю ўсё.

Так скончыўся дзень. Вечарам ён на мосце чакаў паэта.

Тут, вечарам, шалёная па вастраце сваёй думка ахвапіла яго. Ён здалёк акінуў вокам цёмную Ватасонаву цырульню і раптам дадумаўся: пазваць на выпіўку да паэта Абрама. Сярод людзей, узбуджаны гарэлкаю, стаць з ім твар да твару і востра выказаць яму, што ён быў няправы, калі некалі, не пусціўшы яго з часці, стаў раптам замест аднасельца і амаль друга — ворагам. Нават і не толькі гэта. Нейкая духовая прыгнечанасць, узведзеная па ступень буры, запатрабавала цяпер стаць перад іншаю процілеглаю сілаю — перад далёкім Абрамам Ватасонам, які моцна плыў і плыве па бурнай вадзе жыцця. Сустрэцца з

ім, моцна даццa аб яго, адчуць сілу чужое цвёрдасці і самому сабраць усю сваю цвёрдасць і абвастрыць яе назаўсёды, патаптаўшы пад ногі слабасць сваю на зямлі.

Перамешваючы вельмі цьмяна акрэслепае разуменне гэтага, з неўсвядомленымі думкамі аб гэтым, на нейкі час апусціўся ён у абсалютную маўклівасць перад усім іншым. Нават у момапт той не заўважыў ён несупыннага руху каля сябе людзей і ўсякіх іх прыладаў.

З вакзала чуўся стук і ўсякія іншыя зыкі.

Калі ён схамянуўся, знізу звалі яго. Той чакаў яго ўнізе пад усходамі. Белы твар яго глядзеў знізу ўгару ў лапіне святла ад высокае ліхтарнае лямпы. Тонкі ён быў і нейкі дробны, востры. Як спускаўся па ўсходах Ваця Браніславец, раптам здалося, што той зноў зачмыхаў носам. Тады ён уставіўся вачыма ў яго твар. Той павярнуў набок твар.

— Глядзі на мяне,— моцна сказаў Ваця.

— Чаму? — адказаў той.

— Так, глядзі!

Той глянуў, кусаючы губы.

— Так, глядзі!

— Хадзем скарэй,— сказаў той, заварочваючыся і падаючыся наперад.— Там хлопцы зараз прыйдуць.

— Ну, ну... Пачмыхай трохі,— сказаў Ваця, ідучы за ім следам.

Той маўчаў і ішоў. Яны выйшлі з лапіны святла на зямлі.

Пярэдні пайшоў хутка і няроўна, спяшаў чым найхутчэй перабегчы ўпоперак вуліцу.

Раптам вялікаю нянавісцю да яго напоўніўся Ваця Браніславец.

## XVII

Чалавек увайшоў цвёрда і рашуча; ён ішоў ад дзвярэй на сярэдзіну пакоя і раптам на адзін момант падаўся назад.

— Ваця! — сказаў Казімер.

І Ватасон падняўся. Тады і Ваця раптам стаў больш цвёрдым і пайшоў ім усім і ўсяму насустрач.

Тады, у тую хвіліну, як стаў быў ён кагадзе і падаўся назад, усё папярэдняе было ў ім рушылася. Нечаканасць бачыць тут Казімера раптоўна аглушыла яго. І ўсё ў ім хіснулася. У наступны момант стала так, як бы не было

кудыісці назад. І тады несвядомыя сілы загаварылі ў ім. Няведана для яго самога паўстала перад ім, у адчуваннях яго, устанаўленне: усё тое, што робіцца цяпер і вакол, робіцца вечна, варушыцца; і ён ува ўсім гэтым і ўсё ў ім.

Пасля, аглядаючыся на пройдзеныя буры, успамінаючы іх і напорнасць і слабасць, ён свядома лічыў момант гэты пачаткам вялікага аднаўлення ў сабе.

Ватасон пайшоў яму насустрач. Казімер стаў перад ім. Усе яны ўтрох адчулі незвычайнасць гэтага моманту, які паўтараецца часта і не заўсёды ўзнімае ў свядомасці сваю вастрату.

Гэтая раптоўнасць з'яўлення Ваці здзівіла тых абодвух. І цяпер выйшла так, што Ваця быў цвярдзейшым тут за іх.

Ён нават іранічна ўсміхнуўся, бязвольны дагэтуль, Ваця Браніславец. Як падаваў ён ім абодвум руку, чулі яны яго рашучасць.

— А я ў лясы ад'язджаю.

— Калі ты ад'язджаеш? — адказаў яму Ватасон.

(Сказаўшы гэта, Ватасон зноў неяк адчуў сваю пастаянную перавагу над Вацем).

Цяпер яны востра глядзелі адзін на аднаго.

— Мы зараз пойдзем,— сказаў Ваця, гледзячы ў твар Абрама.

— Куды?

— Да твайго суседа.

— Чаго?

Цяпер ужо ўкалоў словамі і вачмі Абрам Вацю.

— Куды ж я пайду?

Мякка сказаў гэта Казімер. Ён раптам адчуў тую калючую і жорсткую цвёрдасць, якая ляжала між Вацем і Абрамам.

— Куды ты мяне павядзеш? — зноў сказаў ён.

— Недалёка... От тут за сцяною, у Абрамавага суседа. Там аб чым хочаш, аб тым і пагаворым.

— А як ты мяне знайшоў тут?

— Я цябе і не шукаў.

Тады нейкая маўклівая згода ўстанавілася між імі. І Абрам, падпачальваючыся ўзроку Ваці і Казімера, пайшоў за імі.

Прыйшлі яны пасля першага пачатку. Тут, у паэтычна-неахайным пакоі Вацевага спадарожніка гэтых дзён, здавалася цесна і шумна. Нават крыклівымі здаваліся людзі.

Пахла брудам і непрытульнасцю (як і ўсюды, дзе многа мужчын і ніводнай жанчыны).

Ваця, убачыўшы іх, пацёр рукі, як бы ўваходзячы зноў у тыя нетры, адкуль нядаўна выйшаў. Тыя ўдвух, адчуўшы ўсю неглыбокую шырыню ўсяго гэтага, селі; і самі падзсі ўцягнулі іх неўзаметку ўва ўсё, што рабілася тут.

Вясёльнае святло кругленькае лямпы глядзела па ўсіх з цёмнага шкла бутэлек; і такімі ж нуднымі і вясёленькімі здаліся Казімеру гаворкі людзей.

Раптам ён прымеціў: Ваця арудаваў з суседскім Абраму паэтам; той чмыхаў носам, а Ваця крычаў яму:

— Чаго ты чмыхаеш? Што ты хочаш напаказ сваю ідэалогію вычмыхаць? Не вычмыхвай, бо насля не пазбіраеш!

Абодва яны, крыклівыя і ўзбуджаныя, хмялелі раптам. Узбуджанасць паэта была слабейшаю і вялаю. Нешта хацеў сказаць ён, бо ўсхваціўся раптам і ўжо апошні раз чмыхнуў перад гаворкаю, разоў пяць прыжмурыўшы вочы, але заўважыў нечую недапітую чарку, і гэта збіла яго з нейкае думкі. Ён змяніў усё:

— Хто гэта не дапіў?

— А табе што! — падалі голас з другога канца стала.

— Няможна так. Я ж знаю!

— Хіба ты калі знаў што?

— А ты знаў?.. Больш я забыў, як ты знаеш!

— Табе лёгка і забываць.

— Чаму?

— Нічога не ведаючы, забываць — плёвае дзела.

Той пачмыхаў і наліў чаркі. І яшчэ праз некалькі момантаў усё стала п'яным.

Ваця ўжо спрачаўся з некім. Нават не спрачаўся, а крычаў яму аб нейкім адцятым ад усяго харастве. Раптам гаворку яго заўважыў асалавелы спадарожнік гэтых дзён яго:

— За што ты ідэалогію лічыш? Што такое, па-твойму, ідэалогія?!

— А за што ты?

— Я?!

І ён маўчаў, стоячы.

— Сядзь! — крыкнуў яму Ваця.

Вялікаю нянавісцю і насмешнасцю зноў раптам напоўніўся ён, гледзячы на гэтую постаць. Той сеў і больш не ўставаў.

Раптам Казімер, седзячы блізка каля Абрама і разам з ім ведучы пязначныя гаворкі з суседзьмі сваімі, заўважыў: кругленькі чалавечак, кучаравенькі і чырвоны, тручы кулакамі вочы, стараўся дробнай гаворкаю павярнуць у другі бок Ваціны думкі:

— Дык ты як, не можаш знайсці яе?.. Я ўсё ведаю...

Ваця маўчаў і прыжмурана глядзеў на яго.

— Я ўсё ведаю... Я ўмею чытаць па тварах людскіх. Я от гляджу табе ў вочы і бачу цябе навылёт... Мы, паэты, заўсёды...

— Так-так, мы паэты, значыцца...

Гэты хацеў падняцца, а пакуль толькі чмыхаў посам той ранейшы.

— Маўчы ты, шпец!

Ваця хацеў пстрычкаю пасадзіць яго назад, але ўбачыў і здагадаўся, што седзячага чалавека няма куды саджаць. Ваця не заўважаў нікога.

— Задумчкоўскі, пі! — крычаў той, ранейшы спадарожнік яго.

— Усякая жанчына горш за самое слова жанчына,— крычаў некаму ў вуха, як бы ў адказ на гэта, той, каго назвалі Задумчкоўскім.

— Добрыя думкі прыходзяць, значыцца, у галаву і дурням! — падаваў крыкліва адказ чырвоны і кучаравы.

— Так, ёмкія бываюць бабы на свеце,— абазваўся ў вясёленькім адказе ранейшы Ваціп паэтычны спадарожнік голасам вялым, як тандэтная кілбаса.

Тады Ваця ўстаў, наліў нечага з бутэлькі ў шклянку і паставіў перад ім.

— Пі,— сказаў ён.— Выконвай сваё сапраўднае назначэнне на зямлі.

— Я п'ю,— лепятаў той,— я п'ю. Але я, п'ючы, шліфую.

— Што ты шліфуеш? — абазваўся Задумчкоўскі.

— Радкі свае шліфую... П'ю і шліфую... Кожны радок свайго верша, кожны радок!..

— Кожны радок?

— Кожны радок п'ю...

Ён раптам схіліў галаву і задрамаў.

Ваця востра глянуў на ўсіх. І немае запытанне, маўклівасць і боль лінуліся з вачэй яго. Усё, спіснутае хмеллем, узняло яго. Нянавісць выразна свяцілася на тварах яго. Твар гэты гарэў. І раптам ён не вытрымаў: аздоблены ру-

жовасцю ўзбуджэння, абвостранага наплывам думак, ён надышоў да сагнутага вастраносага чалавека, якога звалі кагадзе Задумчкоўскім.

— Ты гаварыў аб жанчынах, а ты думкамі ахваціў гаворку сваю?.. Ты ведаеш, што ёсць несупыннае імкненне і хараство, жанчына, яна адна перад табою і перада мною...

Тады Абрам зразумеў. Ясным стала для яго вялікае хістанне Ваці, увасобленае ў слабасць на вялікім пераломе свету. З мінулых часоў паўстаў перад ім Ваця Браніславец — чырвонаармеец, худы, абшарпаны студэнт, утрапёны чалавек — лясны таксатар... І адчуў ён, што абкружаны жалезнаю навалаю вякоў, чалавек гэты, агляпуўшыся на фальшывую дарогу сваю, не застыў на ёй у бяздумным спакоі, а ў вялікім бунце сваім кіпіць і гарыць. І тады захацелася раптам Абраму пайсці адсюль разам з ім.

Вялікае пазнанне неасвядомленасці чалавека ў глыбінях сваіх чуў ён: пачуцці свае ператвары ў найвялікшую вастрату думак і праніжы імі ўсе пачаткі і канцы свету — ад непрыметных туманнасцей да аформленай цвёрдасці гор, скрозь гарады і турмы. Шчасце і пакуты.

— Дайце нам у рукі культуру,— аглушыў яго раптам голас чырвонага і кучаравага.

— Слухай ты, дай яму культуру! — з жорсткай насмешнасцю штурхануў Ваця соннага паэта.

— Кажаш, культуру? — адказаў той, чмыхнуўшы са сну носам,— хіба ўжо напілі ўсё?

— Культуру, чуеш?!

— А, культуру... Тады другая справа.

— А што?

— Нічога... Хэ-хэ, каньячок...

Ён раптам даліў недапітую чарку, прыткнуў да носа хлеб, каб панюхаць яго, клюнуў носам у стол і так заснуў з хлебам пад носам.

## XVIII

І от па яго ўжо зусім забылі.

— Гаспадар, э-э! — штурхапуў быў яго мала знаёмы тут усім чалавек Задумчкоўскі; нават кучаравы і чырвоны скептычна прыжмурыў вока, на яго гледзячы. І ён сказаў:

— Гаспадар называецца...

А той спаў сабе з хлебам пад носам, палажыўшы вострыя локці на стол. Пасля, неўзаметку, чырвоны і кучаравы абняў яго рукою за шыю, гаворачы скоранька нешта падобнае да думкі: «На свеце ёсць культура, яй-богу, ёсць».

Ваця ж Браніславец трымаў каля сябе тых абодвух — Абрама і Казімера. Калоцячыся ад дзікае радасці, блізкае і надзвычайнае цвёрдасці Абрамавае, аб якую ён біўся душою і словам, ён стараўся выказаць:

— Няхай сабе ты тады лічыў мяне бязвольным, і цяпер непатрэбным няхай сабе і ты... (ён глянуў на Казімера) і ты не ведаеш нічога ўва мне, бо нашто табе ведаць...

— ...Чалавек можа нічога не ведаць, бо асоба ў гісторыі ролі не грае, абсалютна не грае! — падаў голас кучаравы і чырвоны, стараючыся ўмяшацца ў гаворку. І ад Ваціпага раптоўнага пагляду моўчкі асеў і падаўся назад...

Цяпер Ваця ні на што не звяртаў увагі гаворачы:

— ...А я сам сабою ёсць. Ты тады не мог пусціць мяне застацца, бо ўсё, што было навокал, патрабавала гэтага. А я тады, не любячы цябе, пайшоў...

— Ты што, адзначаеш факт?..

— Ты ведаеш, што я насіў тады ў сабе... Хіба я быў вінаватым тады ў чым, калі нутро маё стала тады цяжэйшым за ўсё, што напаўняла ўсіх вакол. І цягнула мяне за сабою...

— Усіх не напаўняла адна аднолькавасць, бо ўва ўсякага ёсць сваё нутро, але агульнасць застаўляе падначаліцца кожнае нутро.

— А калі я не мог інačай... Хіба мог ты глянуць у маю душу?

— Цяпер душа адмяняецца,— сказаў кучаравы і чырвоны, тручы канцамі пальцаў куткі вачэй каля пераносся.

Ваця адчуў, што Абрам стаіць цвёрда перад ім, упэўнены ў тым, што носіць у думках сваіх, і на яго глядзіць, толькі, можа, любуючыся ім, не прымаючы блізка да сэрца словаў яго. А ён не б'е словамі ў цвёрдасць яго, а толькі як бы апраўдваецца мякка і бязвольна. Тады пакінуў ён гаварыць і рашыў у адну хвіліну, цяпер жа, скончыць сваё выпадковае знаёмства з сонным гаспадаром гэтага паэтычнага гнязда. Толькі неабдымная думка аб Мані прымусіла яго хіснуцца жаданнем аб нечым запытаць ці даведацца

ад Казімера. Цяпер, як ніколі раней, Маня стаяла ўваччу яго. І ўсё ж не ўдалося моцна разбіцца аб цвёрдасць другога чалавека ці разбіць самому гэтую цвёрдасць. Пашкадаваў ён на момант, што немаведама дзеля чаго прывёў сюды гэтых людзей. Яны цяпер не сядзелі нават, а стаялі поплеч — Ватасон і Ірмалевіч. І от ужо ніколі не адчуваў такое далёкасці да іх раней, чым цяпер, Ваця Браніславец. «Пайду і больш не пайду да гэтых людзей»,— была яго наступная думка. А тым часам вакол усё кіпела. Таго пабудзілі, выцягнулі з-за стала, і ён зноў стараўся камандаваць усім тым, што адбывалася тут. Нічога яму, аднак, не ўдавалася, і гэта смяшыла некаторых удзельнікаў усяе гэтае работы.

— Дык ты, няйначай, хочаш, каб я тут жа табе ўсё зладжыў як мае быць, раптоўна каб верш табе склаў, ты хочаш? — апраўдваўся перад некім кучаравым і чырвоным.

А другі не мог супыніць яго:

— Не звяртай увагі на ўсякага пустамалота.

— Пустамалота! — крычаў пакрыўджаны словам пустамалот.

Тады павольна расчыніліся дзверы, і Радзівон Цівунчык прыжмураным вокам аглядзеў усіх.

— Я вас прыйшоў папрасіць,— сказаў ён далікатна,— прыйшоў папрасіць вас, каб трохі цішэй было тут усё: вельмі далёка чуваць, дык, ліха яго ведае, нядобра.

Яго тут жа прымусілі выпіць. Ён ахвотна выканаў гэты прымус і нават забыўся, што ўстанаўленне нейкае патрабуе, каб усё гэта цішэй было. Гэта спадабалася кучараваму і чырвонаму. І от ужо Радзівон Цівунчык сядзеў за сталом, і яго раптоўным парадкам паілі. Неўзабаве ён пачаў адмаўляцца, але настойнасць гасцінных людзей была цвярдзейшаю за яго адмаўленне і ён зараз жа зрабіўся праз меру вясёлым. Ён стараўся ўжо дайсці сэнсу ў спрэчцы двух чалавек каля яго над вухам.

— Ці гэта форма, ці змест? — пытаў гаспадар гэтага зборышча ў чырвонага і кучаравага, стукаючы пальцам па аблітай печым сарвэце на стале.

— А ты мне давядзі адзнакі таго і другога.

— Гэта вядома!

— Пакажы гэтую вядомасць!

— А ты не спяшай... А што такое каньяк як рэальнасць? Ну!

Той, гаспадар пакоя, падхваціў вясёленька гэтую думку і ў захапленні сам ужо ўва ўсіх пытаў:

— Так-так. Што такое каньяк як рэальнасць?

Ніхто яго цяпер не слухаў, і ён звярнуўся да Цівунчыка — першага чалавека, які здарыўся ў яго пад рукой.

— Што такое каньяк як рэальнасць?

— Я не зусім разумею вас. Як кажаце?

— Каньяк, гавару.

— Каньяк? Мусіць, дарагі вельмі. Ці як, ці што?

— Нічога... Колькі вам год?

Радзівон Цівунчык парыхтаваўся ўжо сказаць, колькі яму год, і нават расказаць, мусіць, што-небудзь з гісторыі свайго жыцця, але ў тую хвіліну адбылося малое здарэнне: чырвоны і кучаравы стаяў перад гаспадаром пакоя з запытаннем:

— Ты мне адкажы па маё пытанне аб рэальнасці і каньяку. Што ты падхваціў гатовую думку, як бы ты сам думаць не можаш! Што ты падхваціў! Ты мне адкажы!

Яны так стаялі адзін напроці аднаго. Тады Ваця цвёрда падышоў да іх, востра ўсміхнуўся, узяў іх абодвух за валасы і стукнуў ілбамі.

— Садзецеся абое! — загадаў ён ім.

— Ты што! — гукнуў пакрыўджаны гаспадар пакоя. Аднак сеў і больш не спрачаўся.

Тады Ваця рашуча падаў руку Казімеру і Абраму і пайшоў з хаты. Следам за ім пайшлі і яны ўдвух, пакінуўшы за сабою цяжкі разрух. Яны бачылі, як Ваця, трохі ківаючыся ў бакі, ішоў да моста, узышоў па ўсходах на гару, і там постаць яго схавалася ў гушчыні веснавое ночы. Назаўсёды страсаючы з сябе непрыемны засціл, што ахутаў душу ў гэтым пакіненым гняздзе, Казімер пайшоў у ціхія вуліцы. Абрам доўга хадзіў па хаце сваёй, думаючы аб Вацю. Новая ацэнка гэтага чалавека не давала яму спакою. Вялікае кіпенне чалавека гэтага страсянула яго. Тое нявыказанае Вацем і адчутае Абрамам адчыняла перад ім новыя глыбіні чалавека. І першы раз за апошнія гады вельмі размяк ён, напоўніўшыся кволасцю. І невыразна аформленая думка паведаміла яго самога аб чалавеку, што сёння пазнаў ён: «Ніколі ты здаволеным не будзеш і заўсёды будзеш дакопвацца да сутаў абыякавасці. Заўсёды будзе ў табе адмаўленне застыласці дасягнутага. Так будзеш гарэць ты ў вечным пераварэнні

свету, каб самому ператвараць і тварыць. За гэтым я люблю цябе».

Абрам пайшоў на вуліцу. Цяпер яму хацелася дагнаць Вацю, проста для таго толькі, каб дагнаць яго. Нікога нідзе не было. Пусты пляц перад вакзалам скупа свяціўся жоўтым водблескам вакзальных агнёў. Ён стаяў перад імі і быў напоўнены бурнымі думкамі... Вуліцаю ішоў Радзівон Ціўнчык дадому, гаварыў сам з сабою і стукаў ботамі па нечым. Здалёк чуваць было. Гэта звярнула Абрама назад. Ужо ўваходзячы на ганак свой, чуў ён слабую гаворку Ціўнчыка:

— ... яно пэўна. Усё пэўна. Я ж кажу. А што я кажу, то раз назаўсёды сказана. Як нажом адрэзана, і дзелу канец. Ёмкія хлопцы, і больш нічога, а людзі бываюць усякія. Яны бываюць усякія: той таго ўкусіць, а гэты яго ўколе, а трэці і таго і другога да меры давядзе. О! Так яно ўсё і варушыцца, а запытай ты ў іх, хто з іх у чым вінават? — думаеш, ён скажа, чорта ён скажа! Ніхто нічога не скажа. Можа, ён і сказаў бы, каб ён мог ведаць усё. О!..

Абрам пастаяў, пакуль Ціўнчык не ўвойдзе ў сенцы, каб не развёў ён доўгую гаворку. І як уваходзіў у дом свой, выбух уражання, што кагадзе гарэла ў ім, пачаў слабець. І неўзабаве ён зноў застаўся адзін, упэўнены ў сабе і вытрыманы думкамі сваімі.

Так прайшла палавіна гэтае ночы.

## XIX

Ваця Браніславец патроху атрасаў з сябе сваю жыццёвую блытанасць. Вялікімі пакутамі духу здабываў ён сам праз сябе сістэму сваіх духовых паводзін на свеце... Перш за ўсё (як некаторая прыналежнасць гэтага) замілаванне да старога бацькі, што было прыглушана апошнімі часамі духовага разруху, зноў пачало ачышчацца і выплываць наверх. Цяпер, радасна рыхтуючыся выехаць у лясы на доўгі тэрмін, ён перададчуваў, што спасцігне яго бурнае хістанне ў адзіноце, сярод немае прыроды. Яно будзе выходзіць ад загубленасці яго — аднаго чалавека, недзе сярод людзей непрыметнага. Але цвёрдая рашучасць (і больш яшчэ жаданне) пераламаць сваю мяккасць некалькі дзён не пакідала яго. За гэтыя дні ён стараўся

падганяць сваю чарговую работу ў лясным кіраўніцтве. Мала бачыўся з ранейшымі прыяцелямі і паддаваўся бурнаму ламанню думак. Раней, за ўвесь гэты апошні час, усё па свеце цякло паабапал, з'яўляючыся часамі цяжкім для разумення, і яно даводзіла яго (бывалі часы) да абыякавасці перад усім. Цяпер жа нават мясцкомскі член ці сакратар (Ваця блытаў годнасці гэтага чалавека) здаваўся яму абсалютна правым, калі за яго словамі — «Табе дарэмна далі асвету» — гучэла іншая думка: «Ты вораг рэвалюцыі». Цьмяна адчуваючы нейкае каліва праўды ў гэтых крыўдных словах, ён зненавідзеў гэтага члена ці сакратара. У гэтыя дні толькі адна думка поўніла яго: «У пустэчы лясоў усё нанава перадумаецца і ацэніцца, а цяпер я стаю перад гэтым уваходам у жыццё». Думка гэтая не была цвёрда акрэслена і пачаткамі сваімі ляжала ў адчуваннях. Вось загэтым і быў ён ачышчаным цяпер ад ранейшае навалы духовых хмар сваіх. Выпіўка ў той вечар як бы адрэзала яго ад нечага, што мучыла яго раней. Седзячы раз вечарам у канцылярыі сваёй, наход новае думкі, нават патрэбнасці, адчуў ён: зараз жа паехаць у N. пабачыцца з Маняю. Можа, нічога і не гаварыць з ёю ці шмат сказаць ёй. Можа, толькі пабачыць, і больш нічога. І от ужо гэта неабходнасцю стала... Цяпер толькі аб адрасе даведацца трэба было ў Ватасона.

А тым часам падобныя да гэтае думкі некалькі разоў у наступны пасля выпіўкі дзень з'яўляліся ў Казімера. Яны былі яшчэ няпэўнымі, але блізкае выкананне іх ён ужо прадбачыў.

На заўтрашні дзень пасля таго вечара, які адбыўся ў кватэры выпадковага і ненавіднага сябра свайго, ён зноў стаяў на мосце адзін — Ваця Браніславец. Нудную постаць заўважыў ён непадалёку ад Ватасонавае цырульні. Найнуднейшым выглядам сваім яна нагадала яму той вечар, які такім непавідным здаваўся яму цяпер. Постаць таксама заўважыла яго. Яна падняла твар, як бы маргнула весела і пайшла да Ваці Браніслаўца. Ужо ад аднаго таго, што пазнаў Ваця гэтага чалавека, захацелася яму зараз жа пайсці адсюль, каб не спаткацца з ім. А той бег ужо, каб захапіць яго тут.

— Я табе маю нешта сказаць,— так звярнуўся ён да Ваці, вяла патрасаючы руку яму.

— Гавары. Хутчэй толькі, я тут не хачу доўга стаяць.

— Ты больш не зойдзеш да мяне?.. Калі сабе хочаш!

— А калі табе трэба?

— Калі хочаш, тады і зайдзі; я пасля абеду часта дома бываю.

— А нашто я табе?

— Я, бачыш, адну рэч пішу, дык мне патрэбна...

— Табе патрэбна?

— Патрэбна.

— Дык падыдзі сюды бліжэй, да гэтых балясаў.

Той падышоў, аглядаючыся і гледзячы Вацю ў твар і пытаючы:

— Нашто мне падыходзіць?

— Прыгні трохі карк! Не бойся, нічога вельмі страшнага я не зраблю табе, толькі вазьму за каўнер ды скіну ўніз.

— Жартуеш,— вышчарыў той зубы, аднак падаўся назад крокаў на тры.

Вацю сказаў яму:

— Што ты ўсё носам чмыхаеш! Што ты напіўся, ці якое табе ліха!

— Не.

— Саўсім не?

— А чаго ты дапытваеш?

— Я таксама нешта пісаць збіраюся.

— Ты партыйны?

— Не.

— А які ж ты?

— Я партыйны.

— Праўда?!

Ваця адвярнуўся і дастаў папяросу. Чалавечак пастаяў трохі перад ім, пачмыхаў трохі носам і, нічога не сказаўшы, пачаў спускацца ўніз па ўсходах, на хаду ці сабе, ці некаму іншаму (можа, нават і Вацю) дробна заўважыўшы:

— Пайду пасплю трохі.

І твар яго стаў раптам зусім вясёлым, як бы ад здавалення, што хутка на нейкі час не трэба будзе чмыхаць.

Ваця пачакаў, пакуль ён адышоўся, і, спяшаючыся, пайшоў у цырульню. Абрама застаў ён за работаю: той скроб нечую вялікую галаву. Ваця тут доўга не быў. Далікацтва патрабавала нечым яшчэ і іншым заняцца тут, і вось яны з Абрамам выканалі малую справу: закурылі і падалі адзін аднаму рукі. Абрам сказаў адрас Мані адразу, не пытаючыся нашто ён і не дзівячыся нічому.

Надзвычайная цікавасць да Ваці цяпер панавала над ім, змяніўшы ранейшую (учарашнюю) малую любасць да яго. Праз хвілін дзесяць, ідучы адсюль, Ваця адчуваў вялікую лёгкасць і нёс у сабе нешта падобнае да ўпэўненасці: мусіць, нічога мяне не завядзе больш у апартаменты гэтага чалавека.

Ні з кім цяпер не хацелася і не трэба было бачыцца Вацю Браніслаўцу. Раптам разарваліся ўсе звязкі, што змацоўвалі яго з усім вакольным. Вакольнае мяняла свае глыбіні для чалавека, рабілася іншым. І хоць доўга яно і цяжка для чалавека зменьвацца будзе, але лёгкім было пазбаўленне ад гэтай змацаванасці з усім, такой няпэўнай і дагэтуль нават незразумелай.

Ваця ішоў без ніякае мэты ў бок горада.

Светлым быў дзень і шырокім. Сонца, зганьбіўшы рэжым эканоміі, пачынала весела смаліць зямлю. Неба рабілася высокім і чыстым: мусіць, надоўга ўстанаўляўся веснавы размах. Сохла зямля, і награвалася каменне... (Пасля паўдня памаладзелы дзень усміхнуўся веснавым тварам сваім).

Ваця ішоў і раптам паткнуўся на нечаканасць: шырока растапырыўшы рукі, каб па-прыяцельску затрымаць яго, стаяў перад ім той чырвоны і рыжы. (Ваця зусім не ведаў, як зваць яго і нават што за чалавек ён). Ён раптоўна выскачыў з завулка, увесь спацелы і клапатлівы нейкі. Рукамі ён затрымаў Вацю, які хацеў падацца ў бок з тратуара, здагадаўшыся, што, калі чалавек па важнай справе бяжыць, патрэбна даць яму скарэй жа дарогу. Пырскаючы слінаю, той крыкнуў, Вацю:

— Ты куды?

— Іду.

— Я з табою прайду трохі... Безумоўна...

— Прайдзі.

— Дык ты што, не спазнаеш мяне, ці што?!

— Пазнаю.

— Ну як у цябе пасля ўчарашняга? Галава не баліць?.. Чым ты займаешся, дзе ты працуеш?! А ў мяне галава не вельмі баліць, а вельмі ў вачах рэжа... (Пацвярджаючы гэтыя словы свае, чалавек некалькі разоў заплюшчыў вочы, моцна сціснуўшы вейкі). А мы ўчора яшчэ засталіся... Чаго вас ліха выгнала, не дачакаўшыся канца, учора?.. (Цяпер ён ужо, забыўшыся на сваю клапатлівасць, вельмі павольна ішоў зусім у іншы бок,

поплеч з Вацем). А Задумчкоўскі ўчора, брат, зусім аслабеў — сядзіць ды толькі вокам лыпае. Бачыў калі, як чалавек адным вокам лыпае?.. Задумчкоўскага ведаеш?

— Не ведаю.

— Не ведаеш? Эх, ты... Заўсёды, як нап'ецца, дык адным вокам лыпае. Раз нап'ецца — канцы ўсяму: лып, лып! А так не кепскі чалавек. Нават найлепшы чалавек. Лірыч-чны чалавек! Глыбокая душа і розум востры. Ты не глядзі, што ён павольны такі на выгляд. Ты не глядзі...

— Я не гляджу.

— Не глядзі, братка... Ён павольна думае, але ў думках сваіх не саматужнік... Чаго ты ўсміхаешся?

— Я так, нічога.

— Ён, брат, не саматужнік. Раз, забыў дзе і якую, але факт той, што рабілі мы адну... ну як табе сказаць... работу... не, не работу... ну, адным словам, гнулі адну палітыку ў нейкай справе. У якой — табе ўсё роўна. З шкуры лузімся, а нічога не выходзіць. І нічога не выйшла б, безумоўна! Мы хочам так, а тыя хоць страляй. Дык Задумчкоўскі, брат,— я, кажа, усё зраблю. І зрабіў. Узяў ды пасварыў у іх там аднаго з другім, тады справа, як бачыш, лепш пайшла. Безумоўна!..

— А чаму чалавек часам адным вокам лыпае?

— Гэта залежыць, безумоўна, ад чалавека. От у цябе ў вачах не рэжа пасля ўчарашняга, а ў мяне рэжа. Братка, як жа ў мяне ў вачах рэжа!.. Слухай, куды ты ідзеш?.. А ведаеш што?!.

Цяпер яны стаялі ўжо твар да твару. Добра, што вуліца была пустою, і нікому не даводзілася абмінаць іх. Ваця нехаця глядзеў на змучаны твар свайго выпадковага спадарожніка. Прыпыніліся яны неўзаметку. А той у нечым стараўся ўсё пераканаць Вацю:

— ... ведаеш, прыходжу я раз да яго на кватэру, а ён ляжыць з ботамі на ложку і стараецца як-небудзь глянуць на кончык свайго носа. Нават не заўважыў, як я ўвайшоў. Ну што гэта, не пільнасць думкі?!

— Хто гэта?

— Задумчкоўскі... Ты і жонкі яго не ведаў? А як жа... жывуць дрэнна, сварацца. Яна хоча, каб дзіцё радзілася, а ён хоча пашыць сабе гарнітур з сіняга бастону і футра. Так ні таго, ні другога і няма. На ўсё зараз грошай не хопіць, а надпачаліцца адно аднаму не хочуць. Логіка? Безумоўна!.. Дзе ты прападаў да дня? Спаць заваліўся?

А я, брат, настрой над самы дзень паражыў быў. Эх! На выхадзе адтуль напісаў эскіз верша. Безумоўна, перараблядь буду! Пачытаць?

Раптам расшпіліў ён змяты вельмі гумавы плашч, дастаючы з нетраў свайго абы-як уздзетага гарнітура скрутак вузенькіх лістоў папер. Аловак вываліўся на зямлю. І тут толькі Ваця заўважыў, што хворая чырванята ляжала на гэтым змучаным бяссоннем і выпіўкамі твары. З кучаравых валасоў дробная нечыстата сыпалася яму на каўнер, і вочы роспачна прасілі сну. П'яная ўзбуджанасць, відаць, яго і самога мучыла. Перад тым як чытаць верш, ён запытаў у Ваці:

— Як зваць цябе?

І зараз, сам сябе перабіваючы, заўважыў:

— Заўтра зранку ў рэдакцыю, зайсці авансу ўзяць пад верш.

Тады пачаў скоранька гартацца ў лістках. Ваця выцягнуў з рук яго лісткі і сунуў яму ў кішэню, дакрануўшыся да казырка і тут жа пайшоўшы далей, куды ішоў. На хаду пачуў ён голас таго, каго пакінуў:

— Можа, у сталоўку куды зойдзем?

— Другім разам калі.

Чалавек глянуў у зямлю, панура і задумёна. Пасля, адарваўшыся ад месца, на якім стаяў, надзвычайна хутка рушыў у сваю дарогу.

Так і скончыцца магла гэтая гаворка, але той раптоўна павярнуў ход свой назад, дагнаў Вацю і ўзяў яго пад руку. І ўжо ішоў побач, стараючыся нападаць у ногу.

— Ты накоя не ведаеш дзе? — запытаў ён.— Мне кватэра патрэбна.

— Ты ж спяшаўся некуды!

— Я раздумаўся... Пакой мне патрэбен святлейшы, а то пісаць няма як. Непрытульна вельмі ж выглядае ўсё... Хадзем зойдзем куды.

Вацю цяжка было слухаць яго. Блытанасць думак гэтага чалавека парушала парадак у ім, што ўстанаўляцца пачаў у гэтыя дні. Трэба было ісці хутчэй яму ад яго. Раптам слёзы заўважыў ён на вачах гэтага выпадковага спадарожніка свайго. Ён моцна сціскаў вейкамі, і выціснутыя слёзы сядзелі ў яго каля носа. Твар больш яшчэ пачырванеў, і ў плячах сваіх прыгнуўся ён трохі.

— Чаго ты?

— Ты ведаеш, што?! Ведаеш, як завецца ён, той, што

ўчора вечарам мы былі ў яго? Ведаеш ты, ён жа правакатар...

— Ты ж, здаецца, вельмі дружыш з ім.

— Нічога, што дружу. Не ў гэтым уся справа.

Ваця глянуў у вочы яму. Той пільна сачыў вачмі за Вацем:

— Правакатар ён. Ён раз па мяне пагаворваў...

Убачыўшы, што Ваця спешна закурыў і паспрабаваў чуць пакланіцца яму і ісці, ён пастараўся затрымаць яго:

— Ты не верыш? Пачакай, я раскажу табе.

Кончыкамі пальцаў прыцісну ён вочы, выціраючы іх, а тым часам Ваця пайшоў.

— Ты што, пакрыўдзіўся за яго, а што ты сам за чалавек!.. Пачакай, я дазнаюся, дзе працуеш!

Ваця ішоў, думаючы аб факце, што не падышоў ён да гэтага чалавека так, як падышоў да таго другога ў гэтыя дні, і які вынік з гэтага ўсяго стаўся. Усе падрабязнасці сустрэчы з ім раптам згладжвацца пачалі. Толькі стаяў ён, гэты чалавек, уваччу. Ён кідаўся, гэты чалавек, і ўяўленне аб ім новым напльтвам думак прапізала Вацю, бо здаўся раптам ён сам сабе падобным да гэтага чалавека. І цёмным засцілам укрыла гэта ўсю істоту яго. Ён ішоў і ціснуў у руках невялікі кавалак грубое паперы з адрасам Мані.

Сонца абнімала яго белаватым святлом сваім, і далёка хацелася ісці яму, праз увесь горад і далей. Нейкая як бы трывога дрыжала ў ім. Постаць яго здалася самому яму малою вельмі. Толькі слабы рух на вуліцы гэтай трохі заспакоіў яго. І ў той момант, як ужо хацеў ён выбраць бліжэйшую дарогу куды-небудзь за горад, вялікі прыліў смутку стаў панаваць над ім. Гэта зрабілася зусім неспадзявана для гэтых дзён першага пачатку аднаўлення яго — вобраз Мані стаяў уваччу яго. Адчуў ён, як цяжкасць лягла на душу яго. Яна была вялікаю і пакутнаю.

## XX

Засціл цяжкасці гэтае моцна лёг на кволасці маладога фармавання новых Вацiных думак і настрояў. Ён парушыў той слабы ход духовых падзеяў, што за апошні кароткі час пачыналі аднаўляць чалавека. Зноў зблытаўся клубок дарог, што трымалі на сабе бязлітасны рух свету. І цяжка было стаяць чалавеку ізноў пад моцнымі ўдарамі

нябачных сіл. Трымаючыся за канцы ніцяў, якім суджана было наладзіць сістэму свету, Ваця ізноў даходзіў да найвялікшае напружанасці ўсіх сіл сваіх. Цяпер цвёрдае перакананне трымала яго пад уладаю сваёю: гэтымі днямі ехаць у N. Яна стаяла перад ім недасягаемая і вялікая сумам і радасцю.

І от ізноў абед быў у кавярні. І ізноў член той ці сакратар мясцкома разводзіў шалёную сваю і крыўдную накіраваннем сваім філасофію:

— ...чалавечае сэрца створана не для паскудства; а д-н о я с н а: гэта павінна рэгуляваць ходам чалавечым...

— Ну-ну!..— падганяў яго Ваця.

— ...У наш век цяжка знаходзіць у чалавеку канцы і пачаткі.

— Растлумачвай!

— ...мы ўсе некаторай часткаю сваёю трымаемся на той эпосе, карэнні якой яшчэ не выгнілі...

— Можа, ты і трымаешся; хто табе даў права, гледзячы па сябе, гаварыць аб усім?!

— А ты давядзі адваротнае.

— Не, ты давядзі!

Ваця слухаў вечную гэтую спрэчку. І от ужо і спрэчка гэтая і ствральнікі яе адыходзілі далёка і ператвараліся ў нейкае адзінства. Яны жылі і варушыліся па свеце, стараючыся растлумачыць усё. І, растлумачваючы і перарабляючы, гінулі і нараджаліся. А свет рабіўся і фармаваў іх, а яны ў свеце стварылі ці знайшлі мясціну, аздобілі яе дасягненнямі свайго кароткага веку і растлумачваюць і аздабляюць сябе сваёю творчасцю, ходам і ператварэннем.

«Мы ўсе некаторымі глыбінямі сваімі трымаемся на не згнілых яшчэ карэннях таго, што ахвяравана на згніццё?!»

Свет уздымаў буры і грымеў імі! Устанаўленні яго імчаліся з недасяжнаю сілай. І хто лічыў, што трымаецца за ніці законаў яго, каб імчацца разам з ім, той тварыў і растлумачваў...

— Аб чым думаеш, Ваця?

Ваця сядзеў разам з усімі ўнурыўшыся. Вочы яго глядзелі наверх людзей і сталоў.

— Да чаго дадумацца хочаш, Ваця?

— Давай вып'ем, Ваця! Ты ж у лясы едзеш на паўгода, дарогу тваю трэба замачыць, каб не пыліла з-пад калёс.

Спусціўшы вочы трохі ніжэй, Ваця ўставіўся імі на бе-

лы шум на піве ў шклянцы. Пальцам паказаў ён на гэты шум.

— Растае,— сказаў ён.

— Табе не падабаецца?

— Падабаецца... От растане і ачысціцца піва. Пасля і піва згіне. Так усё шуміць і растае, як вашы гаворкі. Больш вы гаворыце, чым робіце тое, аб чым гаворыце. Чулі?!

— А ты аб гэтым загаварыў? А ты дык і не робіш і не гаворыш...

— Ты што гэта раптам такім зрабіўся?

Член ці сакратар успомніў мінулае:

— А памятаеш ты, як той раз мы тут абедалі і як табе праўда ў вочы кальнула. І як ты джгануў адсюль, абы не быць з людзьмі. А цяпер ты настаўнікам жыцця хочаш быць?! Так ці не?.. Ты пачаў думаць, і я рад гэтаму, гледзячы на цябе. Маладзец, Ваця...

— Мне не трэба твая радасць аба мне.

Член ці сакратар раззлаваўся раптам:

— Займіся лепш самаадукацыяй. «Капітал» пачытай!..

— Пачытаю, але не з тваё рады.

— Пачытай, пачытай!

Ваця і гэты раз зрабіў так, як тады: устаў і пайшоў. Толькі цяпер застаўся сядзець на Каломенскім скверы. Ціха і спакойна было тут. Не шмат людзей хадзіла скверам. І па лаўках толькі некалькі чалавек сядзелі сям-там. Востры струмень лёгкага ветру абвеяў твар яго. Ён расшпіліў каўняры ўсіх вопратак сваіх. «Выязджаць хутчэй, выязджаць!» — гаварылі ў ім усе адчуванні яго. Моцна яны звалі яго.

— ...яно як сказаць,— гаварылі двое, непадалёку, на процілеглай лаўцы,— ты можаш заставацца тут адзін, калі табе трэба, а я пайду, па чорта ты мяне трымаеш...

— А ты, значыцца, са мною кампанаваць не хочаш?

— Не ў гэтым справа, што хачу ці не хачу.

— А ў чым?

— А ў тым, што мне ісці трэба.

— Куды табе трэба?

— Мусіць жа, трэба, калі кажу.

— Скажы куды?

— Нашто табе?

— А на тое, што ты проста не хочаш са мною кампанаваць.

— А што табе прыбудзе, калі я з табою пасяджу.

— Ідзі ты к чорту, от што... Які ты пасля гэтага таварыш!

— Братка, не злуй!

— Ідзі вон, раз ты фанабэрышся.

— Я не фанабэруся, а мне трэба ісці...

— А я ведаю, што табе не трэба нікуды ісці...

Засмяяўшыся над людскою дурнотай і некаторымі трагізмамі зямлі, Вацян перасеў на іншую лаўку. Гэта раздражняла і злавала.

Па Савецкай жа вуліцы ішла працэсія: пара добрых коней везлі белую труну. Усю вуліцу ўпапярок і па доўгі прасцяг удоўж поўнілі людзі і для сябе ігралі, каб гэтым пацешыцца, паплакаць або ажывіць цырымонію. Белыя і жоўтыя музычныя прылады адбівалі ў сабе шматлікі твар перадвячэрняга сонца. Старая жанчына ішла каля труны і, плачучы, ірвала на сабе валасы. Іншыя так ішлі, гледзячы сабе пад ногі, на неба, адзін на аднаго, а то і зусім ні на што не гледзячы. Фурман, наперадзе ўсіх седзячы высока над коньмі і труною, патузваў лейцы. І гэтае патузванне ўявілася Вацю як зняважа пакутам чалавека, якія перажыў ён, пакуль папаў у гэтую белую скрынку, як урачыстасць над ім недарэчнага закону свету. Вацян пайшоў паволі ў бок Віленскага вакзала. Пара маладых людзей, прыціснуўшыся адно да аднаго, ішлі перад ім. Забыццё на ўсё перад шчасцем і радасцю маладога жыцця заўважалася ў постацях іх. Яны нешта зрэдку гаварылі адно аднаму, весела і ціха. Яна заглядала яму ў твар, і здавацца магло, што не будзе ніколі канца гэтаму маладому расцвету.

Вацян, акінуўшы вострым узрокам дрэвы, прыпыніўся на новым скверы. Як бы ўсё рвалася ў ім на часткі. «Хутчэй ехаць у лясы, хутчэй»,— звалі ўсе яго адчуванні, вабячы найвялікшаю створанасцю адноўленых для чалавека дарог. Заўтра ж ці паслязаўтра ехаць у N. хоць на дзень, хоць на два!

Усё было вырашана.

Думка аб Казімеру праплыла ў галаве яго: «А можа, з Казімерам перад выездам пабачыцца, можа, стаць да яго бліжэй».

І зусім не магло быць думкі, што Казімер у гэты самы час, спяшаючыся дадому з бальніцы, назначыў сабе дзень, у які б лепш выехаць у N.

Назначаючы сабе гэты дзень, Казімер грэў у сабе радасныя думкі аб блізкім спатканні з ёю. Кожны новы дзень прыносіў новае паглыбленне жадання блізкасці да яе.

Паволі ідучы ў бок вакзала, Вацяя думаў, калі лепш і як убачыць Казімера.

Ногі яго ступалі лёгка. З асалодаю мераў ён крокамі даўжыню звонкага пад нагамі тратуара. Перадвячэрняе неба згушчала сінь сваю, ачышчалася ад высокіх і малых воблакаў. Лёгкі вецер пачынаў узнімацца больш.

Па блытаных завулках Вацяя неўзаметку выйшаў на Савецкую насупроць новага касцёла.

«Цяпер сесці на аўтобус і ехаць дадому»,— падумаў ён.

Ён глянуў у далечыню вуліцы, чакаючы аўтобуса, і раптам, сабраўшы на лбе густату маршчын, стаў як укопаны ў зямлю; у галаве яго застукала кроў.

На процілеглым баку вуліцы, каля універсітэцкага дома, заўважыў ён жанчыну. Постаць дзяўчыны гэтай ад усіх іншых кінулася ў вочы яму.

Моцна сціснуўшы пальцы ў кішэнях паліто, Вацяя на некалькі хвілін застаўся стаяць на адным месцы.

Маня паволі ішла ў бок цэнтральных частак горада.

Быў пяты дзень з таго часу, калі Казімер атрымаў першы ліст ад яе.

## ЧАСТКА ДРУГАЯ

### I

На беразе забруджанае Свіслачы ціха дастойваў сабе век свой, калісьці моцны смольнаю хвояю сцен сваіх, дом. Над ім стаялі яго адпагодкі — тры ці чатыры явары, што ад доўгага жыцця свайго нават трацідь пачалі адзнакі пароды свае. Аднак, паднімаючыся галлём над домам, яны без утрапення глядзелі на яго зверху. І хоць яны таксама, як і ён, асядалі да зямлі ўсім тулавам сваім, трымаючыся за яе магутнасцю карэнняў сваіх,— яны мелі яшчэ доўга жыць, пераяжыць на цэлы, можа, яшчэ век гэтага свайго таварыша і суседа. За домам зямля — пусты цяпер, у раннюю вясну, агарод; адгарадзіўшыся ад Свіслачы домам, а дошкамі ад паабіватых і абшарпаных муроў Гандлёвае вуліцы, гэты кавалак зямлі мог здавацца выспаю спакою сярод буйнага і дробнага клопату вакольных жыццёвых мераў і гарадскога ўтрапення. Тут спыняўся час, стомлены вялікім мецяжом жыцця; тут вырастала летам зяленіва раслін, моцнае ж надземнае карэнне шматгодняй травы і зімою пад снегам захоўвала свой зялёны і белы колер. Дом сашморганымі дошкамі ганка свайго, жоўтымі калісьці рамамі вокан, глядзеў цераз каламутную рэчку на вясёлы ўзгорак з будынкамі і садам бальніцы на тым беразе. Дом адгарадзіўся ад рэчкі слаўпаю дарогаю, змрочнаю і ціхаю ад дрэваў. Дарога ганарылася назваю прыбярэжнае вуліцы, і на ёй, за колькі крокаў ад вады, пад дрэвамі каля дома і на яго сценах, так падабраліся спакойныя колеры і выразы, што як бы ўсялякая кіпучасць, нават у пачатках і канцах сваіх, крытычна аднеслася тут да свайго працэсу.

Драўляныя людскія будынкі навокал хавалі ад чужога зірку жыццё сваё за шчыльныя загарадзі, за вонкавую адгароджанасць ад чужога іспавання. Стары дом увесь шырокі твар пярэдняе сцяны свае адкрыў мяккай дарозе,

мудра плывучы па магутных хвалях існавання і дзейнасці.

Раніцаю, калі над зямлёю сплывалі і раставалі пасля ночы засцілы веснавога туману, над горадам гулі гудкі. Гудкі пачалі дзень бурна і раптоўна; па нейкі час яны перамешваліся з вострым стукам конскіх капытоў, з стукам калёс. Тады стаяў над горадам голас маладога дня, заклапочанага перабудоваю свету. Разам жа крычалі званы ў касцёлах і цэрквах, крычалі паравікі і стукалі паязды.

Перад гэтым, кагадзе, світанне было ціхім і пустым. Тады першыя газетчыкі выносілі з друкарняў павіны і сенсацыі; звонкая цішыня мералася хвілінамі. У разніцах канады апошнія экземпляры жывёлы, машыны чакалі людзей і руху — так калацілася, не спынялася машына гарадскога жыцця. Патроху ж камень і пясок пад нагамі пачалі гучаць цішэй, згубіўшы зыкі свае ў першай кіпучасці дня. У горад дзень прыйшоў гатовым да вялікіх жорсткасцей у імя вялікай ласкавасці.

У той час прыйшоў поезд. Поезд цяжка і панура прыпыніўся. Ён выкінуў з сябе людзей, якім раптам стаў непатрэбным. Тут адбыліся людскія спатканні — радасныя, сумныя, вясёлыя, нудныя. Некаторых і ніхто не сустракаў, і для адных гэта было сумна, для другіх радасна.

Над горадам з'явілася сонца.

Тады да дома над берагам Свіслачы пад'язджаў рамізнік. Пакуль жанчына, якую прывёз ён, разлічвалася з ім, ён, абыякавы заўсёды да тых людзей, якіх возіць, маўчаў. Пасля ён спакойна падзякаваў, крута завярнуў каня і паехаў паволі назад. Такім чынам, гэтая мясціна горада зноў стала зусім пустою. Жанчына разглядзела ў руках заклеены канверт з адрасам, праверыла пасля нумар дома на сіняй заржавелай па краёх бляшцы, пасля пашукала якіх-небудзь адзнакаў званка. Званка на дзвярах не знайшлося. Тады жанчына пастукала ў дзверы.

Жанчына здавалася высокаю, адзета яна была так, як адзяюцца ў вялікую дарогу — без клопату, як ляжа і які выгляд мецьме адзенне. Твар у жанчыны быў жыццярадасны, утомлены. Можа, ён толькі здацца мог такім цяпер. Пастукаўшы ў дзверы, жанчына азірнулася назад — на рэчку, на вясёлы выгляд малых домікаў на тым беразе, на бальнічны ўзгорак, і святло дня ўпала на яе постаць, каб вызначыць ад бяссоннай змучанасці ўзбуджанасць шырокіх вачэй і лёгкую ружовасць твару. Сляды заклапочанасці былі ў вачах, губы былі сціснуты, і от ужо адзнакі

ласкавасці і ўпартасці лажыліся на куты іх. Яна аглядала горад — усё, што відаць было на зямлі і над ёю. У сонечным святле так стаяла яна некалькі момантаў — зусім маладая дзяўчына.

Дзеравяны стук дзвярэй адкрыў пустую цемень сяней; на двор, на дзявочую постаць на ганку глянуў твар другой жанчыны. Дзяўчына падышла бліжэй, і от яна адным окідам вачэй агледзела тую другую — стараватую, трохі ўжо ўтомленую клапатлівым пачаткам дня; яна стаяла ў цёмных сенях, у пакінепай на плечы кароткай, сашморганай скуранон вопратцы; яна кагадзе ўстала або часу не мела прыбрацца — з-пад паркалёвае хусткі валасы выбіваліся на лоб. Чуць кіўнуўшы галавою, яна спакойным голасам адказала на прывітанне дзяўчыны. Яна ўзяла ў рукі ліст, рукі яе непрывычна трымалі не запэцканы паштовымі аперацыямі канверт. Яна зноў агледзела спешным зіркам дзяўчыну, але без свайго духовага ўдзелу ўва ўсёй з'яве гэтай. Відаць было, што ад веку і да веку няскончаны клопат выхаваў у яе здольнасць рабіць усё і ўдзельнічаць ува ўсім, не вельмі паглыбляючыся ў самую сутнасць усяго. Яна і гаварыла нейк сухавата, але так, як бы перад ёю быў чалавек, якому даўно знаёмымі сталі ўсе звычаі гэтага дома і асаблівасці ўсіх яго прыстроек.

— Няхай бы вы мацней стукалі, можа, я адразу не пачула... Даўно казала гаспадару які-небудзь званок прычапіць, а ён не збярэцца ніяк... Даглядальнікам ён у гарадскім садзе, мала калі дома і бывае...

Тады дзяўчына сказала, што ў гэтым лісце напісана ўсё, што трэба, і што ліст гэты з N. ад сваякоў, яна ж сама толькі што з поезда.

— Ідзіце ў хату,— цвёрда і ласкава сказала жанчына.

Яны ўдзвюх увайшлі ў першы пасля сяней пакой — два акны ў пусты агарод, напсаваная падлога, веснавое неба ў вокнах і радаснае сонца на сценах, пабеленых вапнаю.

— Садзецеся, а я прачытаю, што нішуць,— сказала жанчына.

Пасля, як бы адумаўшыся:

— А вы тутэйшая ці да часу прыехалі, ці як?

Пасля гэтых слоў сваіх жанчына захацела чуць усміхнуцца добраю гаспадыніпаю ўсмешкаю, так паглядзела на дзяўчыну, няўмела і марудна разрываючы канверт назаўсёды зачарнёнымі работаю пальцамі.

— Я прыехала з N.,— сказала дзяўчына.

Жанчына чытала доўга, цяжка разбіраючы непаслухмяныя літары; твар яе так сабраў на сабе ўсе адзнакі ўвагі і пільнасці, што скрозь іх ніякага іншага пачуцця не выявілася.

І тады дзяўчына адчула страшную заклапочанасць гэтае жанчыны навалаю дробных спраў і непрыметных ні для кога падзей. Яны абкружвалі чалавека і кожны рух яго рабілі апраўданым для іх. Можа, гэта раней так жыла жанчына, толькі ж сляды гэтага засталіся на ўсёй істоце яе. Вельмі ўтомленай выглядала яна.

Навокал яе, у гэтым сонечным пакоі, стаялі абы-як рэчы, зусім не займалі месца, іх было мала. Відаць было, што яны знаходзяцца па-за межамі асаблівае людское ўвагі і не душаць чалавека навальна.

Жанчына згарнула ліст, старанна ўлажыла яго назад у канверт. Каля вачэй яе згусцілася сетка тонкіх маршчын. Яна ўвесь час трымала гэты ліст у руках. Старым раптам зусім зрабіўся твар яе.

— Я памятаю,— сказала жанчына,— памятаю я добра Насцю. Радзівонаву дачку. Бывала, такая порсткая была... Я ж яе вынянчыла, пад адной страхою, можна сказаць, жылі. А пасля, як пайшла яна замуж, дык я яе з таго не бачыла. Мала яна і бацьку піша. А яго самога, Радзівона, я нейк мала бачу, дарма што брат родны. Так усё жывецца, што няма калі расходжвацца на людзях. А ён тым часам жыве зусім на другім канцы горада. Можа, яна і пісала што-небудзь яму гэтымі часамі, але я даўно не бачыла яго. Вы яго ведаеце?

Дзяўчына ўстала, ужо як бы адчуваючы перад сабою доўгую гаворку з жанчынай; яна прайшлася па пакоі:

— Не, я толькі Насцю ведаю.

— А гэта вы самі Марыля Ірмалевічанка?.. Гэта пра вас тут Насця напісала?

— Пра мяне.

— Вы там з Насцяй добра знаёмы былі?

— Жылі разам.

— Як разам?

— У адным доме.

— А яна, мусіць, пастарэла ўжо?

— Я не ведаю, якою, па-вашаму, яна маладою павінна быць. Па-мойму, яна на свае гады вельмі маладою здаецца. Ёй год на выгляд каля дваццаці шасці.

— Ёй павінна быць каля трыццаці год.

Жанчына аб нечым падумала. Вочы яе глянулі наверх усяго.

— Я от думаю,— сказала яна, як бы раптам прыдумаўшы нешта,— сам Радзівон жыве, як гарох пры дарозе, без догляду, без усякае, як тоі казаў, сталасці; от жыве сабе. Адзін і за гаспадара і за гаспадыню. Калі захварэе, дык і ляжыць адзін, няма каму слова сказаць. Насця, дык яна, ззамаладу, была пешчаная, пасля ўжо ёй цяжка давялося было. А як пайшла замуж, хто яе ведае, як яна там і што. Калі яна не пастарэла — мусіць, і някепска ёй замужам. Жыве. А тым часам год за годам бацька старэе, я за яго маладзейшая, а і то сілы ўжо мала. Так от усё праходзіць, пераясываецца...

У жанчыны бліснулі на вачах слёзы. Яна пальцамі адгарнула іх у куты вачэй, пасля выцерла рогам свае паркалёвае хусткі. Раптам голас яе зрабіўся зусім старым. От яна зноў глядзіць наверх усяго, рассыпанасць думак робіць зірк яе каламутным. Яна павольна складае рукі на жываце, стаіць. І слёзы цякуць па твары яе. Сперш адзіныя і ціхія, пасля многа іх. Многа слёз.

— Ціха, не плачце. Чаго вы, што з вамі? — падыходзіць да яе дзяўчына.

Выгляд у дзяўчыны раптам робіцца такі, як бы яна тут разам з гэтаю жанчынаю жыла спрадвеку. Як бы гэта ўсё несапраўднасць, што яна ўсяго некалькі хвілін, як першы раз у жыцці сваім убачыла гэты дом, гэтую жанчыну, нават увесь горад гэты. Што гэта яна не цяпер гаварыла з жанчынай гэтай, якую першы раз бачыць, а раней, сваім уласным жыццём даўно даведалася аб усім гэтым — і аб няведаным і нябачаным ніколі, нейкім старым Радзівоне, бацьку Насці, пра Насцю, што яна «вырасла на руках» у гэтай самай жанчыны, аб самой жанчыне, якая малодшая за Радзівона і ў якой, аднак, ужо сілы мала... Ружовасць на твары дзяўчыны павялічваецца, над носам сыходзяцца бровы, адзін з клункаў, які яна ўсё яшчэ трымала на каленях сваіх,валіцца долу...

— Гаварыце мне, што з вамі? — моцна, ласкава і цвёрда патрабуе дзяўчына.

І жанчына робіцца даверлівай, нейкай слабай постаццю сваёю, паслушнай. Яна глядзіць недзе ніжэй твару на гэтую незнаёмку, ніколі раней не бачаную дзяўчыну, садзіцца перад ёю на нізкае плецена крэсла і паведамляе:

— Раскідаюцца ўсе па свеце, як чужыя; Насця — дык яна мне, як родная дачка, як толькі дастала я гэтую, кагадзе, вестку ад яе, дык усё і ўстала ўваччу ў мяне, як бы сёння ўсё было. Не пра Насцю гэта я і не пра яе дзяцінства, а разам з гэтым іншае ўспомніла, бо Насця мне родная так, як і сыны мае, абодва...

Жанчына змоўкла на хвіліну, зноў прылажыла да вачэй рагі хусткі.

— ...адзін тут от, па гэтай самай вуліцы сканаў, старэйшы. А палажыў яго малодшы; родны брат. Палякі як адыходзілі, дык ён у Варшаву з імі выязджаў. Палякі былі тут яго начальнікам нейкім вялікім зрабілі, не затым, што вельмі ўжо так яму палякі самі былі мілы, але бальшавікоў не любіў, а ненавідзець пачаў тады, калі стаў начальнікам. Думаў, што ўся і краса па свеце, што начальніцтва, а больш нікога і нічога няма. А той, старэйшы, перабраўся сюды з бальшавіцкага фронту, туляўся от тут, унь у тым пакойчыку ўсё сядзеў...

Жанчына паказала пальцам на пафарбаваныя калісьці дзверы, зноў пагнула на паўхвіліны галаву.

— ...З маладзейшым усё спрачаўся раніцамі, калі той быў дома. А той ведаў, што гэты ў падпольшчыках, але, ведама,— брат, і маўчаў... А як давялося/ўцякаць, дык у самую апошнюю хвіліну сталі адзін проці аднаго, той, начальнік, кажа — «бывай здароў, пануй цяпер ты», а той адказвае: «Ні над кім панаваць я не збіраюся, пануй ты, калі да гэтага здатны». Так яны гаварылі сперш спакайней, а пасля з нянавісцю, а пасля маладзейшы, толькі са мною развітаўшыся, пайшоў, нават добрага ніводнага слова брату не сказаўшы. Тады той пайшоў за ім, прайшоў колькі крокаў па вуліцы, ды ўслед яму кажа: «Вярніся, прадажніцкая душа, ты ж брат мне», а той рэвальвер дастаў, азірнуўшыся. «Брат,— сказаў тады старэйшы,— усё табе будзе даравана, вярніся, аставайся пры мне, звярні мне паперы або ўцякай сабе, толькі аддай». Той пайшоў сабе, а гэты глянуў на шчыт у доме — там па гары два яго таварышы хаваліся. Тыя выскачылі, і ўсе ўтрох за ім кінуліся. Што я тады нарабіла, напрасіла яго — калі ён, кажу, выкраў у цябе твае паперы, дык няхай сабе спажывае іх, чалавечае жыццё, кажу, важней за ўсялякія паперы, хоць бы яны былі і залатымі. Ідзі, гавару, у хату, а то яшчэ гатова здарыцца што. А ён кажа, што калі назад вярнуцца гэтыя паперы, дык якраз

захаваецца жыццё шмат каго з людзей. Ну, што я магла зрабіць... Тыя ўтрох кінуліся за ім, а ён стрэліў, і адразу на месцы, той небарак нават духу не ўказаў... Пад тым упь дзеравам, унь па тым месцы, дзе трава прабіваецца... Каля сваіх вокан, праз роднага брата... А жылі разам, памагалі адзін аднаму, абодва тут от выгадаваліся... божа ж мой... Каб нікому добраму не чуць і не бачыць. Бывала, прыбягу я з работы ды стараюся іх малых даглядзець; разам жа і Насця з імі расла... Калісьці меншы хварэў вельмі, колькі я з ім выпакутавала, такі ён быў няшчасны, хворы, пакуль на ногі не ўзняўся. Худзенькі быў... Насіў з рудога мультану портачкі, бегае ўлетку па двары, голенькія ножкі запэцкае ў зямлю. А большы на два гады старэйшы за яго. Нечага раз не падзялілі, дык большы набіў таго па галаве. Дык ён, схіліўшы набок беленькую галоўку сваю — валасы былі ў яго беленькія, мяккія,— плача небарак. Нашто ты, кажу, набіў яго, ці ты не бачыш, што ён і так слабы. Дык той паглядзеў на яго, паглядзеў ды падышоў да яго, ды неўзабаве сам як заплача! Так яны абняліся, мае сыночкі, і мяне самую да слёз давялі. Ці ж я магла нават падумаць, што яны адзін да аднаго, некалі катамі будуць — адзін з рэвальверам і другі, адзін на аднаго, брат на брата адважыліся руку падняць. Так як жывога бачу — ляжыць, небарак, каля дрэва, на зямлі, на самай дарозе, левая рука падгорнена пад спіну, а правая ў твар пальцамі ўелася. Кроў у яго з-пад вопраткі на зямлю многа цякла... божа ж мой!

Мокрымі і чырвонымі вачмі жанчына паглядзела на дзяўчыну. Дзяўчына маўчала, стоячы.

— ...Дык от матчына сэрца на кавалкі разрываецца. Абодвух люблю, бо дзеці родныя. Забітага люблю, канаю над ім, за пакуты яго — некалькі дзён уміраў. Малодшага любіць — сілы няма, бо праз яго старэйшы ў пакутах сканаў. Тым часам, можа, таму не смак цяпер у той Польшчы, можа, там сваіх скрозь панасаджвалі, можа, ён дзе вандруе без дарог, можа, яму вярнуцца хочацца,— мацерынаму сэрцу ўсё думаецца, усё здаецца; можа, яго як-небудзь пашкадаваць трэба, а як магу, калі, можа, нават ненавісць гэта ў мяне да яго так кіпіць. Можа, гэта ненавісць да яго так мучыць мяне. Што ж я і ў чым вінавата... Што страшнейшае можа быць, калі маці хочацца і трэба любіць дзяцей сваіх, ды не можа гэтага...

У сонечным пакоі доўга ўсё маўчала. Жанчына стаяла,

сагнуўшыся над сталом, абапершыся на яго локцямі; дзяўчына старалася спакойна разглядаць неба над дахамі суседніх дамоў і над галлём блізкага дрэва. За вокнамі горад купаўся ў сонцы. З прастораў зямлі, з-за горада і над горадам ішла веснавая воля. У ёй раставалі цяпер усялякія зыкі, рабіліся слабейшымі, шырэй разыходзіліся. Як бы трацілі цвёрдасць і пэўнасць сваю. Сіняе неба высока ляжала над горадам. Металёвыя вярхі цэркваў пераліваlі золата яснага дня. Цэгла, пабеленая і непабеленая, награвалася ўжо і нават выглядам сваім здавалася гарачаю. Жалеза і камень дзённымі колерамі сваімі нагадвалі ўжо летнюю шырыню. Зямля аддавала сонцу апошнюю вільгаць сваю.

Над вокнамі дрэвы рыхтаваліся праз некалькі дзён распусціць свае першае, ледзь прыметнае зяленіва. Першыя і тоўстыя, магутныя пры зямлі, яны заспакойвалі выглядам сваім. За імі, за мяккаю і ціхаю дарогаю — прырэчнаю пустою вуліцаю, без утрапення гнала каламутную, забруджаную ваду сваю гарадская рэчка. Сонечны ўзгоркаваты той бераг яе спрабаваў зусім зяляпець.

Дзень ахапіў усё.

Сонца ішло па сценах, гулліва залоцячы лёгкі пыл напроці вокан. І як бы нейкая трывога заснула, замоўкла, надоўга страціла сілу, але слабаю, нямоцнаю, нежывою засталася ляжаць тут — у залатым пыле гэтым, у асвечанай ванне сцен, у цішыні яснага пакоя, якую дзяліў на дробныя кавалкі сухі стук заржавелага гадзінніка на адной з сцен.

Жанчына заспакойвалася паволі. Жанчына зняла з галавы хустку, высушыла ёю твар свой. Яна зноў села на нізенькае крэсла, што непрытульна стаяла пасярод пакоя, спіною да стала.

Паволі, марудна сплывала вялікая ўзбуджанасць з твару жанчыны. Твар у яе быў тонкі рысамі сваімі, вастраносы і далікатны. Чырвапата пад вачмі ад слёз адценьвала маладую бель твару яе, аднак тонкія маршчынкі і жыццёвая стомленасць давалі выгляд ёй год за пяцьдзесят.

Яна расчасала валасы, валасы з рэдкімі ніткамі сівізны, каравыя пальцы яе дрыжалі, заблытваліся ў валасах. Цяпер яна сядзела проста, не гнулася, не горбілася, зірк заспакоеных вачэй яе рабіўся вострым, працікліваым. Яна спешна пачала не дакончанае з самага ранку, яна рыхтавалася памыцца і пераадзецца. Яна цяпер зусім не гля-

дзела па дзяўчыну, як бы не заўважала яе. І дзяўчына на яе не глядзела, яна, можа, хіба думала аб ёй, аб гэтым нечаканым знаёмстве з ёю, аб гэтым бурным пачатку дня ў новым горадзе.

Дзяўчына сядзела напроці і ў пакоі гэтым рассейвала зірк вачэй сваіх па ўсім свеце. Яна чакала чагосьці, такі няпэўны выгляд мела маладая постаць яе. Каля ног яе невялікія клункі, і плацце яе здавалася зусім цёмным тут, сярод навакольных ясных колераў.

Гадзіннік холадна мераў час абыякавым да ўсяго стукам сваім.

Дзяўчына адкінула з галавы шаль, расшпіліла мехавую вопратку сваю.

— Вы раздзеньцеся,— сказала жанчына.

Дзяўчына паслушна ўстала і скінула верхняе адзенне сваё. І тады раптам стала мець яна выгляд гаспадыннае заклапочанасці. Яна была цяпер дасціпнаю і лёгкаю, пяглядзячы на вонкавую сталасць сваю.

Цяпер яны абедзве маглі гаварыць аб усім: гэтая даверлівасць жанчыны ў гаворцы зблізіла іх.

— Вы зусім прыехалі сюды, ці як? — сказала жанчына.

— Здаецца, зусім.

— І тут будзеце мець работу якую?

— Буду.

— Дык жывеце сабе пакуль. Калі Насця пра вас напісала, дык жывеце... У вас тут нікога няма з радні ці знаёмага?

— Стрыечны брат ёсць, доктар.

— Жывеце сабе. Можаце ў тым пакойчыку. Унь тыя дзверы.

Жанчына паглядзела ў акно і выйшла. Дзяўчына адна стаяла ў пустым пакоі. За акном раскідала дробны піск малая птушка. Дзяўчына адчыніла адну фортку акна. Птушку стала чуваць лепш. У акно ліпуўся струмень вільгаці з рэчкі. Востра і радасна запахла шырынёю заспакоенага тут дня. Заспакоенасць гэтая была ў сонцы, у вадзе, у жаўтаватых адценнях дрэў. На беразе крычалі дзеці. На тым беразе з дзеравянае вулачкі спакойна выязджалі фурманкі.

Дзяўчына глыбей глянула ў акно. Яна нічога не рабіла з рэчамі сваімі, не ішла ў той малы пакойчык, глядзела і маўчала. Жанчына ўжо ішла аднекуль паўз вокны. Яна

паглядзела дзяўчыне ў твар, нічога не сказаўшы. Тады дзяўчына прыпыніла яе словамі:

— Калі вам, можа, ісці куды трэба, дык выйдзеце.

— Вам трэба спаць легчы,— сказала жанчына.

— Трэба, я стамілася вельмі...

Пасля, калі жанчына была ўжо на ганку, дзяўчына сказала ёй услед:

— Мне куды-небудзь у спакой хочацца, у вёску мне хочацца. Можа, я як-небудзь і паеду.

Жанчына была заклапочана, яна нічога не адказала, не магла нават даслухаць да канца. Яна схавалася ў сенцах.

Тады дзяўчына зусім адчула, як агарнула яе вяласць і стомленасць, як аслабела ўзбуджанасць першага ўражання ад новага горада і ад гаворкі з жанчынай.

І тады адно жаданне агарнула дзяўчыну — хутчэй праспаць колькі гадзін, пастарацца заснуць, каб пасля можна было з свежымі думкамі ўвайсці ў новую каляіну жыцця, каб хутчэй давесці да парадку сённяшнюю раскіданасць для яе ўсяго навакольнага і ў наступны дзень пачаць ісці па гэтай новай каляіне.

II

Маня! Яна не дзеля брата ехала сюды і не дзеля таго пісала яму, што мае сюды ехаць. Яна думала аб ім цяпер, як аб тым чалавеку, які некалі быў ці будзе да яе блізкім. Моцнае жаданне бачыцца з ім было, але яно стаяла раўпалежна з шмат чым іншым, адступаючы перад больш важным.

Перад тым як пайсці ў адведзены ёй жанчынаю пакойчык, яна пытала ў жанчыны аб чыгуначным дэпо.

— На самым канцы гораду; за горадам,— адказала жанчына.

Пасля пацікавілася:

— Нашто вам?

— Там машыніст ёсць Панкрат Малюжыч, да яго мне трэба.

— А вы работу тут ужо маеце?

— Буду мець.

— А вы самі родам адкуль?

— Не зусім тутэйшая, з іншае акругі.

Жанчына яшчэ з запытаннем у вачах глядзела на Маню, і той вядома было, што хоча ж ведаць яна, што за

госць у яе, ведаць больш, чым сухія весткі аб месцы нараджэння і дзяцінства. Маня даверліва сказала:

— У N. я жыла ў адным доме з сям'ёю Насці. Так мы і пазнаёміліся. Пасля я выпадкова даведалася, што тут мой стрыечны брат. Насця ж ужо раней ад мяне ведала, што радні ў мяне вялікай няма, толькі стрыечная сястра па мацеры Анця жыве замужам каля станцыі па чыгунцы — каля Дарагапава.

— Не чула такой станцыі,— сказала жанчына.

— Гэтая стрыечная сястра даўно звала мяне прыехаць да яе на нейкі час, хоць на лета, а мне ў N. ад работы не было як. Цяпер я, мусіць, ці пасля крыху даведаюся яе. Адно што невядома пакуль, як тут уладжуся.

— А вы ж сказалі, што ў вас тут ужо гатова ўсё?

— Не зусім яшчэ пэўна... А мяне от цяпер страшна цягне паехаць да Анці. Здаецца мне, што павее на мяне там дзяцінствам. Хочацца ў вёску, я радзілася і вырасла ў вёсцы.

— Чаму ж вам не паехаць?

— Буду бачыць. Як справа абернецца.

— Пакуль ідзеце адпачывайце.

Гаворка гэтая, невыразная, агульная, скончылася. І аднак яна ўсхвалявала Маню.

Цяпер яе зусім выразна цягнула на былыя родныя хутары. І спакой гэтае часткі горада, дзе існаваў гэты малы пакоічык яе, яшчэ больш павялічваў гэтае імкненне. Стомленасць зусім заўладала ёю, і, ужо дрэмлючы, яна нервова ціснула вейкі, закрывала вочы рогам падушкі, каб святло дня зусім адмежавалася ад яе. Аднак гарадскі мяцеж з'яўляўся і ў гэтую цішыню. Раптам зусім блізка недзе зазванілі званы. Яны званілі доўга, уваходзілі ў мазгі калючым болем, аж пакуль вушы не прывыклі да іх; тады дзяўчына спакайней стала задрэмваць. Гукі нагадалі поўдзень сонечнага дня, а стомленасць вызвала ў заплюшчаных вачах былы хутар і навокал сонечнае поле. Ціха сабе кунчасціцца паўзаплоццю абпыленая ветрамі крапіва, дрэвы застылі над дарогаю і ржышчам. Пасля сіняватая хмара паднялася над паплавамі за садам, дзе некалі брат-парабчук Казімер прамываў ёй нагу, дзе вясёлае дзяцінства было бесклапотным і бяздумным, далёкім ад усприымання свядомасці, што тут жа побач хто-небудзь можа быць невясёлым, заклапочаным і агорнутым навалаю ўсялякіх думак. Хмара вырасла і зацягнула густым дажджом пап-

лавы і поле. Нешта скардзіцца пачала абмытая крапіва, раптам стала сохлаю, і разам з ёю ўсё запудзілася восенню. Восень!

Новы гук ахрыплага звону па хвіліну прабудзіў яе. Яна нават трохі ўзняла галаву з падушкі, каб глыбей схавацца ў яе; направілася ляжаць па нейкай пагнутай усімі старымі спружынамі сваімі канапцы. Звоп сціх, і зноў сон ужо, а не дрымота, агарнуў яе. І пачаўся ён, бурны, пацягнуўся далей.

Восень. От мокрая зямля аб'язджае пад нагамі размяклымі плітамі раллі, саломеныя стрэхі хат плачуць каламутнай вадою. Паплавы цямнеюць, і сад робіцца голым. Толькі дзікаю воляй абзываюцца галасы буйных чорных птушак. Нейкая шэрая постаць варушыцца па вузенькай дарозе, от яна бліжэй і ўжо добра відаць — конь і чалавек. Галава ў каня ў доўгіх намочаных даждком валасах пад вачыма, чалавек жа ідзе следам, не сагнуўшыся. Босымі нагамі ён шырока ступае па размяклай дарозе, і намочаная ж пуга матляецца ў руках яго цяжкім ад вільгаці сурамцам. І раптам відаць стала, што гэта Анцін бацька, такі, як і заўсёды, нейкі прышыблены бядотамі. От ён ужо вырас у вачах у выразную постаць, падышоў блізка і скардзіцца на тое, што ніяк не можа агораць Анці на чаравікі і што Анця босая хадзіла ў мястэчка і страшна захаладзілася. От ён просіць два фунты пшанічнае мукі. «Нашто?» — пытае Казімер, такі самы хлапчук, якім жыў некалі на хутары. «Анці направіцца каб было чым»,— моцна крычыць Анцін бацька. Нават ён не просіць мукі, а стараецца дагаварыцца як-небудзь так, каб самі зразумелі яго багацейшыя сваякі; так стараецца гаварыць, каб ніяк не выявілася яго прыніжанасць; гаворыць — як бы радзіцца аб той справе, якая аднолькава важная і яму і сваякам яго. Раптам ён ужо не просіць мукі, а гаворыць, што добра было б забраць яму тую вопратку, якая засталася пасля смерці бацькі і якую забрала сястра яго — Маніна маці. От вопратка гэтая вісіць на плоце, мокрая ад даждку, вывешаная дзеля таго, каб абмыцца і абветраць ёй пасля хворага і памерлага гаспадара свайго. За гэтую вопратку пачынаецца ні то што спрэчка, а так сабе ціхая гаворка, пявінна-хітраватая, дзеля таго, каб не ўпусціць вопраткі. Гавораць доўга, збіваюцца з гаворкаю ў непатрэбныя бакі, псуюць добрыя сваяцкія адносіны між сабою і ўсё не могуць ніяк дагаварыцца. А тым часам Анця, босая, надыходзіць да вопрат-

кі, зрывае яе з плота і бяжыць з усіх сіл па полі да свае вёскі. Бяжыць і ўсё аглядваецца. І ў малой постаці яе акамянела не бачаная ёю самою прыніжанасць беднасці і бядоты, прамерзлых ног, дзяцінай зайздрасці да ўсялякае свае таварышкі, якая мае чаравікі. От гэтая таварышка выходзіць ёй насустрач, а пасля за ёю яшчэ больш, шмат іх, гэтых малых дзяўчат. А Анця бяжыць, каб хутчэй мінуць іх...

Зноў нейкі густы зык выбухнуў раптам аднекуль і пабудзіў Маню. Балела ёй галава, калола з двух бакоў каля вушэй, стукала ў галаве. Зморанасць не дазваляла расплюшчваць вачэй, а ад думак і ўзбуджанасці здавалася, што яны шырока глядзяць пад заплюшчанымі вейкамі. Аднак Маня паспрабавала расплюшчыць іх. Сонечны струмень у першы момант асляпіў яе, цяжка было глянуць на пабеленую і асвечаную процілеглую сцяну. У суседнім пакоі, за дзвярыма, ціха было. Ніхто там ні хадзіў, ні гаварыў. За акном жа, як і раней, дробна абзывалася нейкая птушка, здалёк другая адказвала ёй.

Адчувалася вялікая шырыня дня за акном. Бурных зыкаў чуваць не было, але яны адчуваліся, што жывуць яны, недзе тут блізка існуюць і толькі мала даходзяць сюды. Што тут от за сценамі, за дрэвамі, за рэчкаю, блізка калоціцца вялікая машына жыцця, утрапёная, узбунтаваная, непакорная, што захавала ў сабе побач жа і цішыню. Твар не адбіўся ў святле сонечнага дня і ў награмаджэнні зыкаў.

«Сон быў»,— вырашае Маня, стараючыся заснуць. Анця ж увесь час стаіць уваччу ў яе, як жывая. Анця — тая самая малая дзяўчынка з вёскі, што ўсё ў скураных лапціках прыбягала, бывала, на хутар разы два ці тры ўлетку. І от ужо вострая думка зусім не дае заснуць Мані — з'іначаная трохі сном гісторыя з вопраткаю паўстала перад ёю. Вось яны ўсе жывуць, варушацца на свеце. Нявінная, дзіцячая хітрасць у аднаго перад адным за старую вопратку, хітрасць вядомая і таму і другому... Скураныя Анціны лапцікі не даюць спакою: разам з тым і бацька Анцін з'яўляецца ў думках, сагнуты ў плячах трохі і рухавы ад жадання дагадзіць усім. Побач жа думкі выклікаюць постаць роднага бацькі...

Маня ўстала і глянула ў акно.

У гэтую хвіліну яна назаўсёды затрымала ва ўяўленні сваім гэты выгляд процілеглага берага. Сонца рабіла яго

ўзбуджаным і пагартаваным. Вясёлыя дзеці беглі па ім некуды. І некуды ж ішлі дарослыя, шмат і ўва ўсе бакі. Так яна і адчула ў гэтым, як прайшло ўсё з таго часу, адварушылася гэты свой час, каб пасля больш не перажыць яго.

Далёка недзе стаялі цяпер той родны хутар і вёска, жылі на зямлі і перайначваліся ўсе, замоўчваючы ўсе тыя чалавечыя ўтрапенні, што праводзяць кожную хвіліну жыцця.

— Каб заснуць гадзін колькі, каб адпачыць,— моцна сказала яна сама сабе.

Новая работа стаяла перад ёю, і яна адна трымала яе ў раўнавазе, каб капчаткова не засумаваць аб усіх тых скураных лапцях і спрэчных вопратках — калейдаскоп родных людзей мітусіўся ўваччу яе.

Раптам тут успомніла яна Казімера. І так жа раптам вырашыла ў гэтыя дні адшукаць яго.

Яна ў знямозе прайшлася да дзвярэй, паглядзела на іх здольнасць змяньваць колеры былое фарбы свае пад сонцам і пайшла назад да пасцелі. Ужо аж адзнакі нездароўя чула яна. Яна лягла зноў і сцішылася. Усё тая ж самая птушка за вокнамі павялічвала цішыню. Цяпер, лежачы, яна думала. N. пакінуў радасны след у жыцці тым, што сфармаваў свядомасць уласнае яе велічыні ў жыцці. Новы горад павінен пачаць сабою новы ж шлях далейшага жыцця і дзейнасці.

Толькі адна думка мацней ад усіх трымалася ў галаве: яна была неакрэсленаю, ледзьве вызначанаю і мела карэнні свае і ў сне няўдаўнім, і ў той бачанай рэальнасці ў спрэчцы за вопратку, і ў скураных лапцях малое змерзлае дзяўчынкі: «Павінна ўсё ачысціцца ад прыніжанасці за справу аўладання неданошанымі вопраткамі. І пакуль ідзе гэтае ачышчэнне, трэба быць самой у гэтым працэсе». От зачым N. радаваў нават успамінамі аб ім.

Тады вырасла ў яе вялікае жаданне ўсіх тых дзяцей і людзей, што ходзяць там, па тым беразе і за ім, па ўсіх берагах, прыгарнуць да сябе ў гэтым вялікім працэсе ачышчэння, прыгарнуць і быць з імі,— моцнае жаданне сястры і мацеры. І бліжэй усіх прыгарнуць малую дзяўчынку — сястру Анцю, цяперашнюю не бачаную пакуль і няўведаную рухавую сялянку недзе з-пад Дараганава.

Аб сабе ж пакуль ніякай думкі не было ў яе.

Маня ляжала ціха. Вельмі паволі зноў па яе находзіў

сон. Дрымота змагалася з узбуджанасцю і нарэшце пачала перамагаць. Лежачы, Маня толькі моцна чула, што вакол дзень. Мусіць, тая жанчына — гаспадыня — хадзіла гэта за сцяною — нечыя крокі шморгаліся на сухім дзераве.

Маня засынала, расчуленая. Нават і думкі яе мелі пачатак свой у сэрцы. Яна думала аб тых нямногіх людзях, што былі калі-небудзь ці ёсць каля яе. Але думала так, як бы гэта яны ўвасобілі ў сабе ўсё чалавецтва.

У N., будучы раней студэнткаю, пасля машыністкаю ў немалой канцылярыі, пасля беспрацоўнаю і нарэшце работніцаю па дробным саматужным цукерачным заводзе, у той жа час рыхтуючыся зрабіцца настаўніцай, яна толькі двух ці трох чалавек мела блізкіх да сябе. Аднак паўната людскога свету ахапляла яе. Тым часам як тут у гэты дзень у новым горадзе яна пачула сябе адной між усімі, нейк большай ад усіх і як гэта яна павінна была апекавацца над усімі і клапаціцца аб іх. Яна проста шкадавала малую дзяўчынку Анцю, з якою звязвалася ва ўяўленнях яе ўся тая палявая і паплаўная зямля, дзе была Анціна вёска і яе самое выселак-хутар.

Яна заснула пад поўдзень. У яе вушшу доўга яшчэ стаялі бесклапотныя птушыныя выкрыкі, нечыя крокі за сцяною і тая шырокая цішыня, якая заўсёды гучнейшая за ўсякія громы. І над усім і ўва ўсім гэтым была бясканцовасць дня, азалочанага сонцам.

### III

Яна прачнулася пад вечар. Яна заўважвала, як аддаюць чырвanаватым колерам, як напроці сонца вырысоўваліся на сценах цені тонкага голля дрэў. Цяпер хоць чула сябе яшчэ ўсё трохі ўтомленаю, але бадзёраю і гатоваю зараз жа ўставаць дзеля жыццёвага клопату. Чуць надняўшыся на локці, дастала з кішэні свае мехавое вопраткі запісаны адрас — Койданаўскі тракт і нумар дома, чула, як у тым большым пакоі гадзіннік выбіў пяць, і тады ўстала. У пустым другім пакоі найшла ваду і ўмывальнік з паабіватаю паліваю. Гаспадыню спаткала перад домам — яна ішла з рыдлёўкаю ў руках, падперазаная на кароткай ватовай вопратцы рудым разбэрсаным мотузам. Гаспадыня вярнула яе назад, частавала сваім абедам — развaранаю саладкаватаю бульбаю і надагрэтым учарашнім мясам. Мала клапоцячыся каля стала, жанчына сказала:

— Я было ўжо выбралася ісці, нават адышлася была да моста, ды азірнулася — бачу вы сабраліся некуды — наш ганак з моста відаць; як жа, думаю, вы не еўшы цэлы дзень! Узяла ды вярнулася. Ешце ж.

— Як жа вы пайшлі, накінуўшы так?..

— На тым баку сяпеї суседзі. Я ім сказала... Думаю — пайду пачну работу.

— Дзе?

— На парніках. Падзённа была, а цяпер скончыць там трохі засталося.

Больш гаворка не пайшла. Толькі даведалася яшчэ Маня, што жанчына цяпер заклапочана думкамі аб Насці, даведалася толькі з некалькіх кароткіх пануры́х словаў і пазнаўшы ўсё здагадкамі. Прыбіраючы з стала, жанчына моцна заўважыла:

— Пайду заўтра, буду мець часіну, да Радзівона. Раскажу яму ці запытаю што. Як ён небарак жыве, можа, яму трэба што... жыве без догляду, без сваіх, адзін... Суджана, мусіць, яму пакутаваць так увесь век...

На вачах яе з'явіліся слёзы.

Маня пакінула яе адну дома, заклапочаную аб браце. Маня прайшла доўгія вуліцы. Койданаўскі тракт абвеяў яе сваім настроем трохі ўзбуджанага ці патрывожанага чым мястэчка. Брук яго высах ужо ад веснавых вятроў і рыхтаваўся ўзнімаць свае веснавыя і летнія хмары пылу. Прыгарадныя домікі выглядалі порсткімі птушкамі. І больш за ўсё было тут дзяцей — яны заглядалі пад мост над чыгункаю, падбіваліся пад ногі, вясёлыя ад першых веснавых дзён.

Тут усё было проста. На гэтай шчуплай вуліцы адраса доўга шукаць не прыйшлося. Дзеравяны домік стаяў, абгароджаны з вуліцы негаблёванымі белымі дошкамі. За імі, перад двума вокнамі, застаўленымі просценькімі вазонамі, прабівалася малая трава і зяляпела леташняя, пакамечаная ў жоўтых вяршках сваіх. За вузенькаю брамкаю двор быў трохі шырэйшы за яе. Адпак пяцёра дзяцей, набраўшыся за рукі і стаўшы ў рад, занялі ўсю яго шырыню, ад дзеравянае сцяны да суседняе мураванае. Дзеці прапусцілі Маню, пільна аглядаючы яе.

— Тут гэта жыве Панкрат Малюжыч?

Дзяўчынка, выцягнуўшы палец з рота, каб льга было слова выгаварыць, выбегла наперад і давяла да ведама:

— Гэта мой тата.

— А тут ваш дом?

— От тут.

Дзяўчынка першая ўзбегла на ганак, становячыся на пальчыках, каб адчыніць дзверы.

— А дома цяпер тата твой?

— Дома.

Дзяўчына шмыгнула пад рукамі як мыш, каб самой адчыніць у сенцах дзверы ў хату.

У хаце пахла вазонамі. Пах гэты падобны быў да паху чаго-небудзь сакоўнага і запыленага. Аднак гэта рабіла прытульным светлы мала прыбраны пакой за тонкімі дзвярыма пасля цеснае кухні.

Такім яго Мані і даводзілася бачыць, гэтага чалавека. Адна адмысловая рыса кідалася ў вочы кожнаму, хто хоць раз глядзеў на гэты шырокі і ўпарты твар: рыса гэтая, ніякімі надворнымі адзнакамі не выяўленая, ішла ад вачэй да губ і рабіла выраз твару яго такім, як бы ён доўга дамагаўся чаго, а пасля, дамогшыся, паглядзеў на здабытае і заўважыў яму: «Бач якое ты выйшла. Такім я цябе і хацеў бачыць». І, пасмяяўшыся, нават пакпіўшы над ім, адсуне яго ад сябе, заявіўшы: «Ну, цяпер будзь тут, а не, дык як сабе хочаш. Цяпер мне не да цябе». І пачне дамагацца новага.

Ён збіраў у маленькі скураны пакунак свае дробныя рэчы, падручныя на паравіку. Ён гулка і здарава кашляў, адначасна зацягваючыся дымам з вішнёвага папяросніка. Мусіць, ужо сабраўшыся некуды, ён быў у вельмі выцертай скуранай вопратцы, дапасаванай некалі да падпяразвання, аднак без жаднае адзнакі якога-небудзь пояса.

Выйшла так, як бы ён даўно ведаў, што яна зараз з'явіцца сюды: з-пад валасатых броваў падняў ён вочы і грунуў роўным голасам:

— Ну як?!

І вочы яго смяяліся.

Яна нават і «дзень добры» не сказала. Усё зрабілася так, як бы яны зноў пачынаюць недакончаную гаворку, што была пярэрвана толькі на паўгадзіны. Хоць апошні раз бачыла яна яго месяцаў тры таму, калі на вузлавой станцыі змяняліся машыністы і ён гадзіны тры сядзеў у Насціны кватэры. Усяго ж яна бачыла яго разоў пяць, не больш, але і з першага разу, пасля нязначнае і малое, трохі жартаўлівае гаворкі, сталі яны зусім знаёмымі. Так пасля яны некалькі разоў бачыліся, калі ён, ведучы поезд, заста-

ваўся на нейкі час на вузлавой станцыі і забягаў да Насцінага мужа.

— Чаго ж вы сюды?

І твар яго зрабіўся такім, якім бываў тады, калі ён, бывала, з маўклівым смехам вачэй сваіх запытае часам, ці хапае машыністцы пенсіі на пудру і парфуму на губы. Маня гэта цяпер і прыпомніла, гледзячы на яго.

— Прыехала,— адказала яна, усміхаючыся на яго голас, што быў повен ледзьве схаванымі жартамі.

— Я ж так бачу, што прыехалі, бо на вашых нагах прайсці некалькі сот вёрст, дык гэта трэба мець чорт ведае якую здольнасць.

Ужо ён зляжыў свае рэчы, запакаваў іх і прысеў каля рога стала. Ён маргнуў на нізенькую канапку, абцягненую чырвоным вышмарганым вельмі дыванам. Маня села, не ведаючы, як і з чаго пачнецца тая гаворка, дзеля якое яна прыйшла сюды.

— Калі ж вы з'явіліся сюды?

— Сёння.

— У брата былі?

— Не яшчэ.

— Паклон яму ад мяне. Нешта мала я яго бачу цяпер. Зусім мала. Забываць пачаў старое.

Тут яна заўважыла, як тая адмысловая рыса на твары Панкрата Малюжыча перанесла адзнакі ўсмешкі з вачэй на ўвесь твар. Аднак усміхаўся ён мала. Скрозь жартаўлівы тон голасу і словаў гучэла паглыбленне ў сутнасць вялікае сталасці рэчаў:

— ...бывала, сядзіць ён вечарам на той вунь канапцы, за гэтай сцяною (ён маргнуў тварам на тонкую перагародку з дошчак) і чытае свае кнігі. А называе мяне дзядзька Панкрат. Я раней цярпеў, а пасля бачу — хлапчук сталы і разумны; толькі што не надта бойкі, ні ў кога з-пад рук нічога не вырывае, затым і сядзіць галодны. Заві ты мяне, кажу, проста Панкратам, які я табе дзядзька! — раптам ён перарваў сябе:

— Якая ж логіка ў маёй гаворцы.— Памаўчаў, аб нечым надумаў і зноў загаварыў: — Галодны сядзеў, недзе на заработкі хадзіў, худы быў і белы як палатно. За першую зіму спалатнеў, як снег.— Ён ізноў памаўчаў з хвіліну і раптам панізіў голас, абярнуўшыся ўсёй постаццю да Мані: — Што мне за ахвота падшыбла даводзіць перад вамі даўно даведзенае?

Цяпер Маня жахнулася. Казімер быў худы ад голаду? І Панкрат Малюжыч так блізка знае яго? Яна ж думала, што знаёмства іх невялікае і выпадковае. Нават жа аб гэтым і гаварылася Панкратам Малюжычам у некалькіх каротків словах там у N.: «Стрыечны брат ваш? Казімер Ірмалевіч? Студэнт? Я яго ведаю, я знаёмы з ім». Тут яшчэ гаварылася трохі аб Казімеравай пільнасці да свае работы, яшчэ аб некаторых учынках яго, такіх звычайных, малых і нязначных, што і сапраўды шмат аб іх гаварыць не выпадала. От і ўсё.

— Як жа вы ведаеце яго і чаму ён сядзеў там у вас вечарам на той канапцы?

Яна стаяла ў дзвярах у адгароджаны пакойчык і заўважыла: канапка там была вузкая, з высокаю дзеравянаю спінаю. Некалі была пацягнена яна пеўкай каляровай тканінаю, цяпер жа засталася толькі лямоўка з яе і скрозь — былая падшэўка — зашмальцаванае палатно. Сцяна ў пакойчыку не даходзіла да столі больш як па паўаршына. Акно глядзела на той вузенькі двор, дзе яшчэ ўсё гулялі дзеці.

— Тут ён і пражыў у мяне каля двух год.

— Калі гэта было?

— Тры гады прайшло з таго часу... Аднак шмат мы гаворым аб гэтым. Ён сам не любіць аб гэтым гаварыць.

— Дык от як вы яго ведаеце!

— От так яго і ведаю... Прыбіты, прыглушаны нечым быў ён раней. Што з ім зробяць, тое і добра. А цяпер,— на маіх жа вачах перараджаўся.

— Сёння зайсці да яго,— думала Маня. І яшчэ падумала аб тым, што — ці гэта не адпачыла яна як належыць, ці вельмі здарожылася, ці што — усё ж яшчэ балела галава ёй, нават як бы косці ламала. Нездароваю зусім адчувала яна сябе.

— Дык от,— гаварыў Малюжыч,— выбачце, калі ласка, спяшаюся я да поезда. Вельмі прашу, выбачце. Можаце пасядзець, пакуль жонка прыйдзе, можаце ґасціць у мяне...

— Не, я з вамі пайду, па дарозе і гаворку скончым.

Ён ізноў усміхаўся, пяёмка. На двары ён пагладзіў па галаве сваю дачушку:

— Будзь за гаспадыню, пакуль маці прыйдзе.

Аднак дзверы замкнуў і ключ схаваў пад ганак.

Весела было, мусіць, ісці яму дзеравяным, запылен-

ным ужо, тратуарам. Ці то доўга сядзеў ён у хаце, маючы столькі руху ў сабе. Ён шырока размахваў рукамі, ад гэтага нешта набразгвала сабе націху ў яго скураным пакунку. На вузкім тратуары, прапускаючы наперад Маню, ён гаварыў:

— ...Так от. Цяпер калі спаткаюся з ім, дык толькі ўсміхнёмся адзін аднаму, весела, па-прыяцельску. «Куды ты ідзеш?» — крычу я яму. «А ты куды ідзеш?» — адказвае ён мне — малады, бойкі. А бывала, дзядзькам мяне зваў. А так — дык гаварыў я з ім вельмі даўно. Усё калі спаткаемся, дык так і разыдземся,— абодвум нам усё часу няма...

— Дык ён толькі і жыў з сваіх тых заработкаў?

— Толькі з іх і жыў.

— Чаму?

— Таму што не мог жа я выдаваць яму з білетнае, скажам, касы кожны месяц пэўную суму... Ён мяне лічыў тады закарапелым кансерватарам, калі я раз пасмяяўся быў над яго саматужніцтвам — гэта значыць праводзіць індустрыялізацыю ў аднаконнай-худаконнай гаспадарцы.

— Як?..

— Днём коўзацца па вагонах, насыпаючы ў іх жыта, накідаючы дровы, а вечарам бегчы на лекцыі, каб уночы на абадранай канапцы змагацца з дрымотаю, седзячы над імі...

— Вы як бы лічыце гэта вельмі вялікаю ахвяраю ці нават непатрэбным учынкам.

Малюжыч засмяяўся:

— Дык от і сіла яго ў тым, што так вучыўся ён.

— Зараз жа да яго ісці,— цвёрда і радасна думала Маня. Цяпер жа яна загаварыла аб другім:

— ...Цяпер я магу з восені атрымаць пасаду настаўніцы. Буду дамагацца, каб тут, у сваёй акрузе. Пакуль жа я прыехала сюды, памятаючы, як вы гаварылі месяцы два таму назад, што маглі б дапамагчы мне знайсці работу дзе часовую. Толькі не думайце, што толькі з-за гэтага я прыехала сюды. Зусім не.

— Вы прыехалі сюды затым, што брат тут.

— І не затым. Было б вельмі пядобра з майго боку ехаць сюды затым. Гаворачы ж вам аб часовай рабоце, я і не спадзяюся адно на гэта і не бядую вельмі, калі будзе няўдача. Я гэта гавару раней; наогул жа, выбачце мне.

Яна нясмешна ўсміхнулася ўсім сваім, бледным цяпер,

тварам. Панкрат жа Малюжыч маўчаў. Жорсткаю была гэтая маўчанка. Такою нерухомаю, як і постаць яго цяпер, прыпёртая да жалезных балясаў над усходамі ўніз, на плошчу перад вакзалам.

— Больш вы са мною не ідзеце. Тут я зайду ў кантору, а вы можаце ісці да жонкі, можаце пачакаць, гасціць... Я магу вярнуцца з вамі, каб сказаць жонцы...

— Не, я маю дзе быць...

— А вы вельмі падобны да брата — гэтак ён, бывала, усё ні на што вельмі не спадзяецца. І калі няўдача, дык ён кажа — я ж так і ведаў. І ніколі, бывала, не скажа, што яму вельмі трэба, без чаго ён абысціся не можа. Галодны будзе, а не скажа. Мусіць, вы якраз такая. Ня можна так... Часовую работу, мусіць, знойдзем, хіба, можа, што давядзецца паехаць па якую-небудзь глухую станцыю, можа і так быць.

— Гэта нічога.

— Тады добра.

— А затым я да вас звярнулася, што вы мне і гаварылі аб гэтым,— можа, вы жартавалі,— яна зноў засмяялася,— пасля: — да каго ж я тут пайду з гэтаю справаю; да Казімера? Я яго некалькі год не бачыла. Да Насціпага бацькі, Радзівона Цівунчыка? Або да яго сястры, у якое застанавілася...

— Вы ў яе застанавіліся?

— У яе.

— А Радзівон Цівунчык мяне цярпець не можа.

— Чаму?

— Мусіць, я яго калі-небудзь словам якім пакрыўдзіў, бо дзяліць жа нам няма чаго.

— Я не буду вас больш затрымліваць.

— Добра. Ідзеце. Толькі якую работу вы хацелі б?

— Я ж не магу выбіраць. Абы-якая. Хоць падзённая дзе на чыгунцы.

— Не, можа, дзе і лягчэйшую знойдзем. Пагляджу, што ў маіх сілах, тое зраблю. Толькі дайце свой адрас або самі зайдзеце.

— Я сама зайду.

— Добра. Бывайце... Мушу сказаць, што вельмі трудна з работаю; да таго ж я тут, у гэтай справе, прыватны, як кажуць, чалавек.

Ён спусціўся ўніз на ўсходах і заспяшаўся. Маня пайшла ў горад, не маючы, аднак, вельмі надзеі на работу,

часовую, пакуль увосень не дастане месца настаўніцы. Ранейшыя думкі вярнуліся да яе — аб Анці, бацьку яе, сваім бацьку, што памёр у N., аб Казімеру. Нейкая разломленасць ува ўсім целе была ў яе.

— Гэта нічога, гэта ад здарожанасці,— думала яна.

## IV

Яна не застала Казімера дома. Нейкая жанчына, мусіць, гаспадыня кватэры, выйшла на ганак. І перад тым як сказаць, што яго няма, пільна агледзела Маню з галавы да ног.

— Няма яго,— сказала жанчына.

І як Маня пайшла, правяла яе да варот, пільна агледаючы яе.

— А вам ён вельмі патрэбен?

Маня бачыла хітраваты бляск жанчыніных вачэй і навяла на яе расчараванне:

— Скажыце яму, што прыходзіла сястра Маня.

Некалі, у часы першай, нават дзіцячай яшчэ, маладосці і пасля, першыя трудныя гады вучылася ўсяму, тады кожны перажыты дзень адчуваўся і ўсведамляўся, як маленькі, назаўсёды мінулы ступень на вялікіх усходах жыцця. Тады перажытае непатрэбным здавалася, і яго можна было і забываць, не шкадуючы яго. Цяпер, калі ступені жыццёвых усходаў узвялі на бесступенны шлях, дзе побач з роўнымі і лёгкімі пратаптанымі сцежкамі ляжаць цяжкія награмаджэнні камення і калючых зараснікаў, цяпер ясна было ёй: як прывыкла ісці па ступенях, так хацелася ісці і па сцежках. Перажытыя гады здаваліся практыкаю, на якіх узрастаў будынак разумення працэсу свету.

Згушчаючы ў галаве ўпартыя думкі, ганяючы памяць сваю па перажытым, яна выхватвала адтуль жывыя кавалкі. Тады ўсё здавалася іншым. Нават у дванаццаць год цвіла думка аб тым, што некалі яна будзе дарослаю і будзе жыць. Цяпер яна ўся радасна калацілася ад усведамлення, што не трэба жыць і не прыйдзецца, мусіць, жыць, бо не зроблена жыццё. Яму прызначана зламацца, яно трэснула і сагнулася, яго трэба да рэшты зламаць, тады аднавіўшы кавалкі, на месцы іх рабіць жыццё. «Няхай ломіцца і аднаўляецца,— адчувала яна,— у гэтым працэсе і маё вялікае месца!»

І знаку не было цяпер таго, хутарскага. На хутар жа цягнула... перажыць зноў у адну хвіліну дзяцінства, уявіць

і адчуць жывучасць вобраза бацькоў і іншых блізкіх людзей. От чаму і да не веданай цяпер сяляпкі Анці цягнула яе. Блізкім і родным абвявалі яе тыя думкі.

Моцнаю і слаўнаю для тых, хто ведаў яе, плыла яна па надзвычайна бурным моры жыцця. Маня! Маня Ірмалевічанка! Корпаўся ў зямлі ўвесь век бацька яе, па небагатым выселку з вёскі. Аднак багацейшым быў ён за Казімераву сям'ю, якая часам даходзіла да старэчай торбы. Падобна ж да гэтага жыла і сям'я ў блізкай вёсцы, дзе вырастала кволая дзяўчынка Анця. І назаўсёды ўрэзалася ў памяць і, мусіць, застанецца ў ёй на векі-вечныя здарэнне з мала што вартаю старою вопраткаю, за якую столькі было схаванай у глыбіні кожнага сэрца крыўды. І ніхто не быў нядобрым, і ніхто не любіў крыўды, а доўгі час насіў яе ў сабе.

І той першы ліст, які паслала яна па тым тыдні з N. да Казімера, быў увесь абвеяны гэтымі настроямі і думкамі. У кожнае слова яго ўкладзена было трохі пачуцця з той, па-свойму ператворанай, крыўдай. Крыўда гэтая, якая тады была далёка ад яе, цяпер была зразумелаю ёй. Ясна было, чаго гэта Анцін бацька мала прыходзіў на хутар і прыходзіў толькі тады, калі ніяк абысціся не мог.

Боня Ватасонаў! Ён пакінуў цяпер глыбокія сляды ў адчуваннях тым, што раней быў крыўджаным адкрыта. І спатканне з ім у N. было радасным і вельмі таварыскім.

Бывала, летам любіла яна хадзіць адна пад вечар пыльнаю дарогаю да мястэчка і назад. І так цяпер тая дарога з'яўлялася для яе як бы ўвасабленнем думнасці над усім, што заціхла для таго, каб над ім падумаць. Такім цяпер уяўлялася ёй часамі ўсё, што прайшло. Востра думаць аб усім.

І толькі філасофія Абрама Ватасона была незразумелай для яе, утамляла яе думкі. Так і гаварыла яна з ім толькі аб блізкім і канкрэтным. Логікаю свайго жаночага сэрца не магла яна доўга зразумець, як не мог пусціць на час дадому Абрам Вацю Браніслаўца з вайсковае часці. Што яго цягнула туды, аб гэтым Абрам перад ёю змаўчаў, толькі перадаў самы факт.— Для вайсковае справы гэта не магло нашкодзіць,— гаварыла яна. Вацю Браніславец добра памятаўся ёй як спрытны і прыгожы хлопец, які, будучы ўжо студэнтам, у апошнія часы яе жыцця на хутары, шукаў яе блізасці, прыязджаючы дадому, раней жа часта прыходзіў на хутар, таксама з гэтымі, мусіць, думкамі. Нічо-

га ж, аднак, вельмі прыхільнага ў адносінах яе да яго не было. От і ўсё.

Мір хутара быў парушаны смерцю мацеры. Пасля ўтрапенне заўладала жыццём, аж да самага пераломнага этапа яго, які сфармаваўся ў часы N. Тады змяняўся там твар зямлі: выраслі новыя пасёлкі, знішчаліся некаторыя хутарскія і маёнткаўскія будовы. А яна была ахоплена адным непераможным жаданнем вучыцца. Была адна рэч, якая штурхала яе хутчэй умацавацца ў жыцці — гэта слабасць састарэлага бацькі і яе з ім адзінокасць — без братоў і сёстраў. І пасля пахавання бацькі зусім стала ясным: як нажом перарэзвала плынь часу і рэчаў — усё ранейшае, і з дзяцінствам і першаю маладосцю па хутары, разам з самім хутарам і людзьмі па ім і навокал яго, засталося па той бок разрэзу і адплыло, каб плыць сабе далей, ператвараючыся, уміраючы і нараджаючыся. Пачалося ж новае, з сваім бунтоўным ходам і вялікаю кемлівасцю.

І нават згладзіўся быў з памяці твар тых апошніх дзён, калі пакідала яна дом, ад'язджаючы з яго як бестурботнае яшчэ дзіця жывых бацькоў. Пасля ж, калі час ад таго вымераўся гадамі, успомніліся нейк самі і дні тыя: хмурныя яны былі. Восень пачыналася лёгкім раздум'ем. У радасных палях засумавала лета і паволі памерла, любячы жыццё і хочучы жыць у сваіх прыгалубленых сонцам палях, на ўзлахмачаных пылам дарогах... У тыя дні ліст ад таварышак парадаваў яе: прыязджай, падавайся ў навуку. Цяпер яна любіла тыя дні, такія глыбокія сэнсам сваім.

Была тады ў яе такая пара чалавечага веку, калі душа не ставіць вострай мяжы між узрывамі радасці і суму, і калі адна і тая ж прычына ўзбуджвае і тое і другое. То ёй рабілася ў той нейкі кароткі кавалак часу пуста, то ўсё поўнілася вялікім сэнсам для таго, каб зваць няведамыя далі, не шкадаваць нічога дзеля іх і думаць толькі аб іх. Зацвітала і цвіла першая маладосць.

Пасля прыйшло ўжо іншае, а толькі не расчараванне. Наадварот, цяпер як раз і не магло ніколі з'явіцца яно. Прыйшлі тыя далі, былі яны дасягнуты. Праўда, было ашукана тое ранейшае хутарское разуменне жыцця, але затое здабыты быў новы, шырокі маштаб разумення яго. І от тут пачала вырастаць яна цяперашняя.

І дзіўна: маці яе была ціхая і пакорная жыццю жанчына; вечна, як і запамятае Маня, з вельмі выразнымі слядамі сялянскай утомленасці па твары. Была яна ня-

зменна-ласкаваю, аднак мала займала цяпер яна месца ў душы. Вобраз бацькі, пераважна, жыў там; і, мусіць, затым, што ў гэтым самым N., разам з яго гаворкамі аб усім блізкім і фактычным, фармаваліся цяперашнія яе пагляды. Час ад часу з'яўляўся дзень, калі ўжо з самага ранку сумавалі ўспаміны па бацьку. Бацька стаяў уваччу, як жывы, такі, якім сканаў у цесным, хоць і светлым, пакойчыку, арандаваным памесячна ў кватэры Насці і яе мужа.

Ішоў вясёлы ранішні снег. Дробныя птушкі, што прыбіліся на зіму ў горад, нешта ціха скардзіліся сваімі прамерзлымі галасамі. У той дзень, на паўдні, яна праводзіла на могілкі бацьку. Яна адна, ды яе кватэрная гаспадыня, а пасля таварышка Насця. Такім чынам, выпадкова пазнаны горад N. стаў важным пунктам на зямных дарогах.

У падобны ж да гэтага дзень яна пісала першы ліст свой да Казімера. У гэты дзень снег не ішоў і не скардзіліся зімовыя птушкі, але быў ён, гэты дзень, такім самым, поўным утрапення. Думаючы аб хваробе нябожчыка бацькі, яна да смутку жадала ўбачыць хоць месца тое, дзе плыло некалі жыццё хутара і блізкіх людзей. І от пішучы Казімеру, што мала калі думае аб хутары, яна нудзілася ў тую ж хвіліну па ім.

Былі пасля нават моманты, што здаваўся ёй нядобрым яе ўчынак з лістом. Вострая думка калола яе: ён жа мог падумаць, што гэта ёй патрэбна якая дапамога і яна пачынае гэтую справу лістом, забыўшы на тое, што на хутары тым яна нават як бы не любіла яго. Ліст ад яго прымусіў не думаць так.

Вярнуўшыся ў той снежны і халодны дзень з могілак, яна да самага вечара аддала час на маўклівае разгледжванне аснежанай рэчкі — вада, не замерзлая зусім, выбівалася наверх і злізвала снег. Снег жаўцеў, сінеў і колерам сваім зліваўся з голымі дрэвамі ў садзе над рэчкай. Пасля, вечарам, палажыўшы галаву на стол, яна зайшлася ад плачу; і ўсе бліжэйшыя ж гэтыя дні толькі клапацілася, каб што-небудзь зрабіць такое, каб спусцелы пакойчык быў больш прытульны: усё халодным і непрытульным раптам стала, і бачыць такім усё доўгі час нельга было.

Былі і таварышы. У камісарыяце, пасля на тым саматужным цукерным заводзе. Але такія таварышы, што забываюцца пасля таго, як інтарэсы жыцця трацяць сваю аднолькавасць.

Пад вясну, пад гэную апошнюю вясну, яна так, як пі-



Ян Райніс і Янка Купала сярод беларускіх пісьменнікаў. Сядзяць (злева направа): З. Бядуля, Ян Райніс, Я. Купала, К. Крапіва; стаяць: Я. Пушча, А. Бабарэка, У. Дубоўка, П. Глебка, К. Чорны. *1926 г.*

колі раней, адчула пах голага і мокрага саду за рэчкай, над акном яе пакою. Вецер з-над сініх веснавых хмар абвяваў вільгаць з жаўтаватага галля, і зямля падстаўляла грудзі свае гэнай шырокай волі, што прынесла сюды ветрам загарадных прастораў.

Адчуванне жыцця поўніла яе.

Цяпер жа, адыходзячы ад Казімеравага дома, не заставўшы яго там, яна думала, скрозь усё іншае, аб той часовай рабоце, дастаць якую дакляраваў дапамагчы даўно ўжо Панкрат Малюжыч. Гэтая няпэўнасць мучыла яе. Нават горш ад усяго была для яе гэтая няпэўнасць.

Дадому, па сваю выпадковую кватэру, яна не спяшалася. На змроку думала яна яшчэ паслаць кароткі ліст у N. да Насці, з удзячнасцю за кватэру ў цёткі яе. Тым часам накошт гэнага і думка мільганула ў галаве: «Напішу, калі знойдзецца ў пакоі маім святло». Вельмі надакучаць жанчыне-гаспадыні сваёй не хацела яна.

З такімі думкамі ішла яна па вуліцы. Тады ж і ўгледзеў яе Ваця Браніславец.

V

Яна чакала цяпер Панкрата Малюжыча, не маючы, аднак, цвёрдае надзеі на яго. Яна была ў гэныя дні заклапочанаю спатканнем з Казімерам. І ўвесь час адчувала нездароўе. У наступны дзень пасля прыезду яна нават намагла была зранку новай гаспадыні сваёй у яе хатняй рабоце. Цяпер яны ўдзвёх блізка пазнавалі адна адну. Жанчына распытвала пра Насцю, радасна цікавячыся ёю.

Спатканне ж з Казімерам адбылося ў той самы наступны дзень пад самы вечар. Казімер шукаў яе ўсюды, дзе толькі мог напасці на яе сляды. Ужо ў той самы дзень, калі гаспадыня сказала яму, што прыходзіла нейкая сястра Маня, ён дадумаўся даведацца да Боні Ватасона, ведаючы гэты пункт, як адзіны для яго, дзе могуць ведаць пра яе. Абрам сам здзівіўся вельмі, пачуўшы, што яна тут. Казімер жа ўвесь час думаў пра яе — што нешта выдатнае і кепскае здарылася з ёю. Гэта не так: што яна раптам уздумала была некалькі дзён таму напісаць ліст да яго, цяпер раптам прыехала сюды. І ўсё так неспадзявана. Абрам не мог дадумацца, дзе б магла яна, у каго прыпыніцца тут. У яго нават адзін найкаротны момант заняла была думка пра Вацю Браніслаўца, але думка гэная толькі

мільганула. І ён выказаў гэта Казімеру. Не магла ж яна з'явіцца да гэнага Ваці, з якім ніколі не была блізкаю, пра якога ніколі не гаварыла і нават не ўспаміпала. Нарэшце— Ваця Браніславец і яна!— што можа быць больш процілеглае. Казімер нават устрывожыўся быў магчымасцю гэнага. Аднак, у наступную хвіліну, яны з Абрамам толькі засмяяліся над гэтым.

Неўзабаве на дапамогу прыйшоў Радзівон Цівунчык. Ён быў так, як мала калі, задумённы і маўклівы ў той дзень пад вечар. Ён, як умеў, раздумваў над становішчам хворага кватаранта свайго — студэнта Алеся Макарчука і трывожыўся нават ні то што выразна над лёсам хворага, а проста сама ўся справа гэтая наводзіла на яго незразумелую для яго трывогу.

Абрам бачыў яго зрапку, як ён, цесна падперазаўшыся па сваёй тоўстай кароткай вопратцы, падмятаў тратуар. Пасля ўдзень яго бачыў: ён сядзеў на ганку цырульні, наглядаў на вакзальны пад'езд і ціха паплёўваў сабе пад ногі. На змроку ён зноў падмёў тратуар, і Абрам тады заўважыў яго нейкі неспакой. Стоячы на ганку, каб зачыніць акяніцаю акно цырульні, Абрам здзівіўся, што Цівунчык не ўшчаў гаворкі. Абрам аж сказаў яму:

— Чаго вы засумавалі?

— Чаго я засумаваў; я не засумаваў. Чаго лішне сумаваць... Хлеб ёсць, да хлеба ёсць, то чаго?.. От што.

Аднак зноў змоўк.

— Хіба вы нездаровы?

— Дык як сказаць. Пэўна, што не гады мне быць вельмі здаровым. Што ж, дзякую богу, пажыў трохі на свеце. От што. Каб сказаць, старасць мяне агарнула, дык не; што ж, у такіх гадах сама што жывуць, уг-га! Але што пражыў я кавалак часу нішто сабе, то гэта таксама факт. От жыву і жыцьму, а хто мне што памог, ці што?! Што гэта, прыйшоў да мяне калі хто ды сказаў — от, брат, мы з табою дружылі, дык і будзем дружыць, усё роўна, як родныя? Каму гэта ахвота! Усякі ўсё жыве па сабе, ніяк ад кога добрага слова не пачуеш, ці то што!.. Каму я патрэбен? От, паганы свет... Так усякі і стараецца, каб як-небудзь зрабіць табе прыкрасць...

— Нічога, мы з вамі дык дружна жывём.

— Дык я пра вас не гавару. Апроч вас, людзей на свеце не пералічыш, хоць бы ты і канаў лічачы.

— Хіба вас хто пакрыўдзіў?

— Ніхто мяне не пакрыўдзіў. Ні на кога я скаргаў не заношу. Мне так нейк нядобра, чорт яго ведае!..

— Можа, Насця што пісала?

— Не піша яна нічога. Адцуралася бацькі роднага. От, гадуй дзяцей. Выгадуеш, а пасля возьмуць ды забудуць цябе. Гэтак сама і сястра, ніколі з ёю і не бачымся. Калі нейк не выпадае, жывецца нейк... Яна-то хоць на работу ходзіць, калі ёй той час ёсць. У яе па вушы клопату. Што ж, зарабіць на хлеб трэба. Калі не заробіш, то як жа ты жыць будзеш. То не дзіва, што мы з ёю бачымся раз у год. Але Насця!.. Нядобра.

«Усё яму нядобра сёння,— думаў Абрам Ватасон,— усё яму нядобра. Нечым устрывожаны ён». І тут успомніў Абрам пра Насцю — чаму яна хоць не папіша яму, старому. Думаў, стоячы так на ганку, пра Маню і як Насця раз таму у N. гаварыла ёй: «А калі паедзеш, то я дам табе адрас да цёткі свае або да бацькі, там будзе табе дзе прыпыніцца». Гэта ўсплыло ў памяць разам з усім іншым.

— Чаго ж вам нядобра так?

— Я ж кажу — дрэнна ўсё... От што!..

І, памаўчаўшы трохі, зноў загаварыў Радзівон Цівунчык:

— Або хоць бы гэны кватарант мой. От ляжыць без нікога роднага недзе ў бальніцы. От ляжыць. Хоць бы пашкадаваў яго хто. Гэты, што застаўся здаровым, дык хоць бы, ліха яму, даведаўся яго. Нават і не думае.

— Дык сказаць яму трэба.

— Што ты яму будзеш гаварыць. Ён сам павінен дысцыпліну ведаць. Калі сам чалавек не мае розуму, то ты хоць стрэль яму,— нічога ад яго жаднага толку не дакапаешся. От што. Гэта правільна, і больш нічога. Дурня ніколі не павучыш. Гэта я казаў, кажу і казаць буду, бо гэта факт.

— Можа, ён часу не мае?

— Якое часу?! Што гэта вы! Які ж там час,— узяў ды пайшоў, от табе час. Яго арыштуюць, што ён не з'явіцца там на свае гэныя лекцыі, ці што? Бараны божа. Гэта проста такая парода людзей. Сэрца — як камень. Цяпер усе такія пайшлі. Ты з ім аб дзеле, дык што хочаш можаш. Ён табе зоры з неба дастане. Ён табе можа дагары нагамі унь гэны вакзал перавярнуць. Ты з ім усякае дзела зробіш, дарма што ён здаецца цяперашнім светам такім па від плюгавым. Віду, значыць, не мае. І не моцьме яго ніколькі.

Здрабнеў, от што. А дзялок вялікі. І, гаворачы аб справе, дык ён твой першы прыяцель. А калі пачнецца, скажам, трохі іначай, от, скажам, бяда якая ў цябе на душы ляжыць або гора якое, значыць, душу табе душыць,— то тады ты маўчы з ім. Не гавары нічога, а то кпіны будзе строіць. Не дай бог. Ён жа чалавечае душы не прызнае.

— Гэта вы пра гэтага кватаранта свайго?

— Не... я на яго слова не скажу. Што ён! Малады хлопец, мала свету бачыў, людзей не ведае. Што ад яго хацець.

Ён змоўк і зноў засумаваў. Пасля ж глядзеў з хвіліну ў вочы Абраму, як бы пытаючы яго. І пайшоў, сагнуўшыся, у свой двор. Там, недзе за сцяною, ён доўга адкашліваўся, моцна пляваў. Праз паўгадзіны зайшоў на кватэру да Абрама паказаць каапёрацыйнае ашуканства: трымаў у руках пачак махоркі, разарваны зверху, і тыкаў пальцам:

— ... от няма, каб усё было добра. Здаецца ж, казённая справа, дык не. Зусім цвілая махорка. Нават аж вільгаць трымаецца. Гнілая нейкая.

Тады Абрам пажартаваў:

— Згарыць, скурыцца і зноў не будзе.

— Не ў тым справа, што скурыцца. Дым будзе. І не абы-які дым. Моцны. (Тут ён падвесяліўся). Як пацягнеш гэнага дыму, дык аж язык на той свет уцягне. Але нашто ж, каб гніль усякую народу прадаваць, я вас пытаю? Яны думаюць сабе — простаму чалавеку што ні падаў, усё перетравіць. Перакурыць, пераесць... Ды гэта такі і праўда. Працавіты чалавек — хоць ты ваўка з'еш, нічога не нашкодзіць.

Ён засмяяўся і, закурыўшы цвілое махоркі, пайшоў.

Дык от, гаворачы з Казімерам, Абрам і ўспомніў усю сённяшнюю гаворку з Радзівонам Цівунчыкам. Успомніў яго крыўду, што дачка забыла на яго, не пісала даўно нічога яму. Таму ён і выказаў думку сваю, што Маня сама павінна прыйсці сюды, пашукаць старога Насцінага бацьку або прысланы каго.

— Якога Насцінага?

— Майго гаспадара, Радзівона Цівунчыка.

— Нашто?

— Бо ў N. яна жыла там у яго дачкі. Дык яна павінна што прыслаць яму; ён сёння і так чуць не плакаў, што дачка забыла яго.

Тут Абрам успомніў:

— Яна магла прыпыніцца ў сястры яго. Зараз даведаемся, дзе яна жыве.

Абрам выйшаў. І праз хвілін дзесяць вярнуўся. З ім увайшоў сам Радзівон Цівунчык. І калі пад вечар ён быў устрывожаны, сам не ведаючы чым, дык цяпер зусім і моцна ўзнепакоіўся.

— Пытаеце адрас мае сястры? Што ж здарылася, чаму вы мне не гаворыце? От ніяк не магу тлумення дайсці.

— Я ж вам кажу: сястра яго прыехала (Абрам глянуў на Казімера), дык магла ў сястры вашай прыпыніцца. А нам знайсці яе трэба.

— А як жа вы ведаеце, што яна прыехала, калі не ведаеце нават, дзе яна магла прыпыніцца. От работа!

— Яна заходзіла да мяне,— адказаў Казімер.

— То яшчэ раз зойдзе. Чаму гэта ў вас так цяпер робіцца. Па-мойму — раз яна сястра, дык павінна да брата ехаць адразу. А то прыязджае, нікому слова не кажа, а тут шукай яе. Выбачайце мне, калі ласка, на мой дурны розум так здаецца.

— Тут зусім іншая справа. Доўга расказваць. Хіба калі-небудзь пасля.

— Дык я ж нічога. Калі ласка. Я толькі запытаў. А калі сястра ваша ў мае сястры прыпынілася, дык я ж рад вельмі. От і добра. У яе там, сказаць, і прыпыніцца ёсць дзе. Месца хапае; ага, каб толькі здароўя.

— Дык вы дайце адрас, будзьце ласкавы, я пайду.

— Нашто вам даваць адрас, я і сам магу пайсці з вамі, паказаць вам. Памалу пойдзем, ці што?

— А гэта далёка?

— Не сказаць, каб блізка.

— Чаго ж вам ісці, калі далёка. Не варта ног набіваць.

— Ну калі не варта, то не варта. То я вам дам адрас і квіта.

Казімеру аж непрыемна зрабілася трохі, што столькі гаворкі з такое малое прычыны, як адрас нейкай кватэры. Цівунчык жа ажывіўся, нават павесялеў трохі, зусім гатовы прыняць самы гарачы і шчыры ўдзел у гэнай і ўва ўсякай іншай клапатлівай ці неклапатлівай справе. Ён сказаў адрас. Ён доўга тлумачыў яго, узбуджаны, устрывожаны нечым іншым, што ляжала па-за гэнаю гаворкаю і чаго выразна ён і сам не ведаў. Перад выхадам Казімера ён, разглядзеўшы яго цвёрдыя выразы твару і ўпэўнены рух постаці, яшчэ трохі пагаварыў:

— А я спачатку думаў, што здарылася якая-небудзь прыкрасць. От што. Пытаюць сястры мае, а нашто? — ніколі ж не пыталі раней. Дык я і сам не магу дадумацца, да чаго гэта ўсё. Усялякія здарэнні могуць быць. Жывучы, усё здараецца. На тое мы і на свеце жывём.

Казімер стаяў. Абрам глядзеў на іх абодвух. Казімер чакаў, пакуль Цівунчык скончыць або хоць прыпыніцца трохі, тады можна будзе, не пакрыўдзіўшы яго, пайсці. Надзвычайная ўзбуджанасць гэтага чалавека кідалася ў вочы яму. Слухаючы, ён паглядаў яго постаць і твар.

Цівунчык выйшаў за ім услед. Быў ён у гэты час як бы прышыблены чым. Здавалася, што нешта сказаць усё хоча ён, ды не гаворыць з-за нейкіх прычын. І гэта мучыць яго. Бо, будучы ўсхваляваны нечым ці заклапочаны нечым прыкрым і нават пакутным, ён нешта і іншае трымае ў сабе, што патрэбна для апраўдання прычын і падзей. Такі быў утрапёны выгляд у яго. Стаяў ён маўкліва ў браме, выткнуўшыся на вуліцу, і ў той момант, як Казімер падаваў руку яму, ён запытаў:

— Вы ж студэнт?

І выгляд у яго быў такі, як бы ён думаў аб нечым зусім іншым і нават заклапочаны ім. А гэта мала цікавіць яго.

— Студэнт.

— А на каго вучыцеся?

— На доктара.

— Што вы кажаце?!

Ён вельмі зацікавіўся і падступіў бліжэй:

— А калі будзеце доктарам? Колькі вам вучыцца яшчэ?

— Я ўжо доктар.

Ён яшчэ бліжэй падступіў:

— Ужо? Зусім доктар?

Абрам усміхнуўся. Заўважыўшы гэта, Цівунчык і сам папрабаваў вінаватым чынам усміхнуцца.

— Ці не працуеце ў бальніцы якой?

— Працую.

— Ведаеце што я вам скажу?! Хворы ляжыць адзін, от яны ведаюць, — ён востра глянуў на Абрама, — ляжыць ён там хворы. Я вам зараз усё раскажу. — Раптам ён успомніў. — А вы ж, здаецца, і самі былі вечарам тады ў мяне, як ён кагадзе захварэў! Дык от якая справа... А вы ў якой бальніцы лечыце? Можа, не ў той, то што тут лішне гаворку разводзіць. У якой вы бальніцы?

Ён прасіў, прыгнуты і хмурны, стары, каб доктар кла-

паціў аб хворым яго кватаранце студэнце. Пасля загаварыў аб іншым важным для яго:

— Я чаму хацеў ісці з вамі?.. Раз, думаю, сястра ваша жыла ў Насці мае, то, можа, Насця хоць вестку якую прыслала. Хоць распытацца мне ў вашай сястры што пра Насцю. От што.

Абрам глянуў на Казімера. І ўбачыў, што не трэба яму сведак пры спатканні з Маняю. І ён угаварыў Цівунчыка:

— Цяпер, можа, яе і дома няма. Яна і сама сюды прыйдзе, калі што будзе, або і так, пагаварыць. А вы сёння нездаровы, дык вам і хадзіць далёка не варта.

— Я нездароў, гэта правільна.

— Я ж вам даўно казаў, што вы нездаровы.

— Мне вельмі рукі баляць, проста драпцвеюць. Проста не магу, шануючы вас, падшпіліцца як належыць. А на нозі я крапчэйшы... Ідзеце здаровы.

Ён чагосьці паклыпаў да вакзальнага пад'езда. Абрам моўчкі прайшоў трохі з Казімерам.

Дзённаю стомленасцю вечар ахутваў горад.

Казімер ішоў адзін, несучы ў сабе награмаджэнні пачуццяў і думак — сляды ад нядаўніх гаворак і людзей і іх навін і падзей.

## VI

Яна і не чакала Казімера так хутка. Нават думала яна, што ніхто яе і не знойдзе, пакуль яна сама не з'явіцца. Казімер жа ў той вечар, выйшаўшы ад Абрама і развітаўшыся з ім на першым скрыжаванні вуліц, праз некалькі хвілін быў каля старога дзеравянага дома: вуліцу і нумар дома ён знайшоў адразу. Уваччу яго стаяў твар старога Цівунчыка: «Так-так, Прыбярэжная вуліца, дзеравяны дом, нумар...» Дзверы былі на замку, і няма чаго было заходзіць.

Вуліца тапула разам з дзённым святлом у вячэрнім надыходзе.

Казімер прайшоў па вуліцы і вярнуўся назад. Выходзячы на першую паваротку, пачуў ён радасны пах зямлі: каля дома, за тымі дрэвамі чарнеў пусты агарод. Нават і астаткі леташніх расліп вылазілі сухімі цырбунамі на вуліцу між дошчак.

Ён жа думаў аб Мані, і от, хутарам тым і павеяла на ўсе яго адчуванні. Смутак прынесла яму гэтая веянь па-

чуццёвых успамінаў, і ўвесь ён уздрыгануўся ад напорнасці духовых сіл. Гэта не прайшло за ноч і за ўвесь наступны дзень. І от трохі раней учарашняе пары ён зноў быў тут, каля гэтага дома.

Яны былі дома абедзве. Дзверы адчыніла жанчына.

Была яшчэ дзённая віднота ў доме, прытульная і шырокая, слаўная, як сам вялікі дзень на зямлі.

Пачуўшы голас яго, яна не пазнала яго і толькі здагадкамі амаль зразумела, што гэта Казя. У гэты дзень яна рыхтавалася зусім вечарам ісці да яго, каб толькі застаць дома. Аднак няведанне канкрэтнасці ў адносінах да яго і нават у сваіх паводзінах тут пакуль што прыкра непакоіла яе сёння. Тым часам ён сам дапамог ёй. І як жа яна ў глыбіні захаваных думак сваіх была ўдзячна яму!

Гэта спатканне іх было аднолькава вострым для абодвух; толькі Маня перажывала яго ўсімі парывамі схаваных у глыбіні бур сваіх, Казя ж — страціў на першы час усю цвёрдую арганізаванасць настрояў сваіх.

Ужо раскідалася да значнай ступені ўпланаванасць і ўмеркаванасць, так, як ад нечаканага згінення дарогі з'іначваецца і нават прыпыняецца рух на ёй. (Раслланоўваючы свет на часткі і разлічваючы на самыя найдрабнейшыя часткі ўвесь працэс яго, чалавеку найтрудней ад усяго вылічыць сябе). Цяпер, уваходзячы ў незнаёмы дом, чуючы цвілы пах цёмных сяней, Казімер (пасля, праз доўгі час, у гэтым ён даваў сабе досыць канкрэтную справаздачу) цяпер, больш як калі, адчуваў яе сястрою сваёю.

Яна ж страціла ў той момант той грунт, на якім трымалася. Яна цяпер, як ніколі раней, пачула сябе жанчынай, слабай і бязвольнай нават.

У поўдзень гэтага ж дня, расказваючы жанчыне, гаспадыні сваёй, аб браце, яна верыла, што спатканне з ім будзе спакойным, як двух блізкіх, самастойных і ўпэўненых у сабе паасобку людзей. Нават, можа, больш гэтага: вечарам яна пойдзе да яго сама, па-таварыску прывітаецца з ім і ўспомніць сонечныя дні на пыльных палявых дарогах і скошаныя паплавы за хутарам. Яна чакала вечара, калі ён можа быць дома. Ад стуку ж у дзверы і ад мужчынскага, усё ж незнаёмага ёй ужо голасу яна ўздрыганулася ўся, раптам аслабеўшы духова. Праз некалькі дзён яна думала пра гэта і здавалася ёй, больш пачуццёвымі ўспамінамі, чым думкамі, параўнаць гэта з тымі днямі, калі захварэла маці яе і была на нейкі час блізасць яе

і Казімера. Так, за ўсё жыццё да гэтага моманту яна два разы гэтыя чула, як трацілася сваё «я» і падпачальвалася чужому, цяпер так, як і тады, цяжка было ёй думаць аб усіх цяжкасцях сярод бур свету.

Перад самым спатканнем яшчэ малая гаворка адбылася між Казем і жанчынаю:

— Каго вы пытаеце?

Голас Казімера чуваць быў глуха, бо гаварыў ён ціха.

— Тут... Але, можа, мне папытаць раней у яе ці паклікаць яе сюды.

— Скажыце ёй, як яна сама захоча.

— А як сказаць?

— Скажыце, што Казя прыйшоў.

— Брат, што яна гаварыла мне?

Раптам жанчына змоўкла, пасля сказала:

— Вы пастукайце ў дзверы або як вам лепш, бо я пайду.

І як жа была ўдзячна ёй Маня за гэта. Яна радасна адчула замілаванне да гэтае, усё ж незнаёмае яшчэ, гаспадыні свае.

Яна адчыніла дзверы. Жанчыны не было ў асвечаным перадвячэрнім сонцам пакоі.

— Маня!

Яна папрабавала ўсміхнуцца бледнай усмешкай сваёю і пайшла да яго. Яны стаялі блізка, гледзячы ў вочы адзін аднаму, у першую хвіліну нічога не гаворачы. Раптам Казя пацалаваў сястру ў галаву. Тады як бы ўсё вырашылася.

— Казя!

У гэтым незнаёмым ім абодвум пакоі суджана было спаткацца ім у часе вялікага падарожжа свайго па бурных узмахах жыцця, плывучы сярод іх, змагаючыся з імі і ўстанаўляючы іх. Усё, што было цяпер вакол іх тут, здавалася ім і было для іх толькі выпадковым, зразумелым, але далёкім.

Яны гаварылі тут нядоўга. Хватаючы абрыўкі і мінулага і сённяшняга, узварушваючы іх памяццю, яны не клапаціліся аб парадку ў гэным, духовым цяпер толькі, матэрыяле. Былі яны абое рады, толькі не радасцю здавальнення, а радасцю перад вялікімі, не пройдзенымі шляхамі, сэнс якіх выявіцца пасля. А гэтакая радасць узвышае і ўпрыгожвае чалавека і вялікім імкненнем поўніць яго...

... І толькі тады, калі захад канаў ад холаду агню свайго, толькі тады гаворка іх стала гаворкаю тых, што цэлыя гады не бачыліся.

— ...Работы шукаеш, Маня?

— ...І не толькі работа прымусіла мяне сюды ехаць,— дзейнасці хачу... Работу магла я і там мець.

— А больш нічога не здарылася з табою?

— Я ж гавару табе.

— Маня! Сястра!

— От усё, што я сказала табе аб гэтым...

— ...Аднак жа, здаецца мне, калі думаю пра першы твой ліст... Разам з тым і гаворка з Абрамам нічога не высветліла мне...

Раптам яна аглядзела брата, доўга і пільна.

— Пойдзем, можа,— сказала яна.

— Куды?

— От так, з хаты выйдзем.

— А ці надоўга ж ты прыпынілася тут?

— На колькі хачу. У племянніцы гэнае жанчыны я жыла ў N.

— Ведаю. Даведаўся ўчора... калі ў Абрама быў.

— Ты вельмі дружыш з ім?

— Сам ніколі аб гэтым не думаў.

— Сонца заходзіць, бачыш?.. Брат, як жа ты жыў у гэтыя гады... пасля хутара... пасля ўсяго. Ну, гавары...

— Хадзем... Ты ж казала.

І яны пайшлі. Па вуліцы, цяпер змрочнай, мяккай колерамі і цішынёю тут, сярод вячэрняга ўтрапення вельмі блізкіх адгэтуль пунктаў гарадское распланаванасці і зблытанасці. Вада губілася ў забруджаных берагах і пахла яна моцна схаванымі і цеснымі нетрамі таго ж гарадскога кіпення.

— Ты ўсё забрала з сабою?

— Што было — усё забрала.

— А чаго не было?

Ён захацеў усміхнуцца ад жарту свайго, але ўзбуджанасць перашкодзіла ўсмешцы выбрацца наверх.

— Чаго не было, таго не брала.

Не засмяялася і яна, ідучы поплеч з ім.

— Ведаеш...

Голас яе быў нізкім. Даходзіў ён у некаторых месцах чуць не да шэпту, аднак натуральнага і прыемнага. По-

стаць яе вырысоўвалася вечарам мяккімі абрысамі сярод усялякага награмаджэння адцепяў, колераў і ценяў.

— Ведаеш, мне здаецца важным вельмі цяпер пабыць там...

— Дзе?

— ...там, на хутары, дзе некалькі год не была, хоць там і перайначылася ўсё. Або да Анці паехаць парочна... Ведаеш, дзе Анця?

— Ты ж пісала мне.

— Цягне мяне туды. Вялікая любасць да Анці нават мучыць мяне. Можаш ты ведаць гэта?.. Ты слухай. От тут што. Нічога я раней не ведала, думала, што ўсё вельмі проста. Анця жыве сабе недзе там, у вёсцы з бацькамі, ты на хутары ў нас. І ўсё здаецца добра і ціха. Я была старшаю за Анцю год па пяць. І без мяне ўжо гэта ўсё рабілася. Невядома зусім мне, як гэта Анця пайшла такою маладою замуж. Можа, проста прычыны якія тут былі супроць нават жадання яе ці што іншае, што не прынясло ёй таго, што завуць шчасцем. Ні аб чым гэтым яна не пісала мне ў сваіх лістах. Як напіша — дык усё аб тым, што зроблена і што трэба рабіць у іх там: надвор'е стаіць добрае, палавіну аўса звезлі ўжо; здарылася няшчасце — закульгавеў конь, і прыйшлося яго за бесцань прадаць; напіша, што жывы і здаровы — от і ўсё. Яна мне за ўвесь час некалькі такіх лістоў была прыслала. Я чытаю іх з вялікім задавальненнем, чуючы ў іх, як жыве гэтаю работаю сваёю Анця. А як яна з сваім мужам жыве, ці добра, ці кепска, можа, дзеці ў іх ёсць, можа, не — нічога невядома мне...

— Пачакай, ты раней мне аб сабе раскажы...

— Дык от я і расказваю.

— Мы пра Анцю пасля ўспомнім. Як жа ты жыла і жывеш? Бо ў чым ты вінаваціш Анцю,— што яна табе нічога амаль выразнага аб сабе не пісала, дык у гэтым самым я магу павінаваціць цябе самую. Я от смяюся і гавару гэта трохі жартаўліва, аднак усё ж вінавачу цябе...

— Няўжо ж табе не цікава пра Анцю ведаць? Яна ж такая табе родная, як і я.

— Цікава. Але ты мне больш выразна пра сябе скажы.

— Я ж гавару, як я перажываю весткі пра Анцю. Значыцца, я думаю пра ранейшае. Як мы жылі перад тым, як выйсці на вялікі шлях, як самастойна, кожны па-свойму, жыць пачалі. Думаю, што замала ў нас было брацкіх ад-

посіп і менш ад усяго мы тады клапаціліся аб гэтым. Цяпер я так думаю.

— Так і я думаю.

— Дык от. Нават быў час, што я адчувала сябе як бы вінаватай перад вамі ўсімі.

— Чаму?

— Так. Я ведаю, што няпраўда гэта.

— Няпраўда. Гэта табе толькі здаецца так. І не можна дапускаць такіх думак. Не думай так больш ніколі.

— ...Цяпер жа мне трэба мець работу і... жыць.

— Жыць?

І Казя паглядзеў на яе шырокімі вачмі, ' пасмешна ўсміхнуўся нават. Так глядзеў на яе доўгую хвіліну. Ён адчуў, што бура жыцця панесла яе ў сваім вялікім ходзе, ахваціўшы яе кіпеннем сваім. А яна, захопленая вялікасцю буры гэнай з бясконцымі громамі і цішынёю без утрапення,— імчыцца, радуецца ўсяму і сумуе над усім.

У хвіліну гэтую яна стаяла блізка ад яго, абапершыся локцямі на цяжкія надрэчныя балясы на самым беразе, над густою гарадскою вадою рэчкі, і здавалася яму пакутніцай за ўсё і над усім.

Раптам яна сказала:

— Анця пісала мне, што ўвосень на полі захаладзілася была і доўга праляжала. Пасля, тручы лён, надумалася пра гэта напісаць мне і напісала. Што тады са мной рабілася! Тут нават і не ў ёй самой, не ў Анці ўсё. Зусім, можа, не. Тут у мяне ўсплыло на памяць іншае. Ты ж не ведаеш, што тады было са мною, калі мне давялося лячыць тату, а пасля хаваць яго. Было толькі добра, што Насця, пляменніца гэтай жанчыны, у доме якой я цяпер прыпынілася, што яна была блізка каля мяне ўвесь час. З таго часу мы з ёю нават здружыліся трохі. Дык от чытаю ліст ад Анці, а сама ахоплена навалаю думак аб іншым. Нарэшце ўсё сышлося разам, дык у такую хвіліну я і напісала табе той першы ліст. Калі гэта было?

— Гэта было, мусіць, трохі больш за тыдзень таму назад.

— Так, не больш.

— Як гэта ўсё хутка зрабілася.

— Што?

— Яшчэ на тым тыдні не ведаў я, дзе ты і нават ці жывеш ты на свеце, а цяпер раптам перадумаў столькі пра цябе і от стаю з табою разам.

— Толькі ты не думай, што першы ліст той я пісала табе затым толькі, што не было з кім нагаварыць аб маім напłыве думак...
— Ты ж не адна там была...
— З Насцяю я магла гаварыць пра ўсё. Нарэшце на той цукерачнай фабрыцы, дзе працавала, была ў нас блізкая сям'я, чалавек дваццаць работніц.
— Завод быў саматужны і прыватны?..
— Няхай сабе...
— Не, дык я так гэта. Гэта проста думка набегла...
— Там ёсць нават дзве непісьменныя дзяўчыны. Былі раней дамашнімі работніцамі. Адна такаяваспаватая трохі і вельмі вясёлая, але калі пачне раздумваць аб замужастве — сватаецца да яе адзін каменшчык — дык у слёзы кідаецца.
— Чаго?
— Ніяк не можа вырашыць — ісці ці не.
— Лепш ёй не ісці, калі так.
— Можа, і лепш. Я нічога не парадзіла.
Цяпер яны маўчалі нейкі час. І от тут Маня сціснула Казімеру руку:
— Слухай. Калі я не дастану тут работы да восені, ты, калі будзеш мець магчымасць і калі мне трэба будзе гэта, ты паможаш мне...
Яна не скончыла і выпусціла яго руку. Пасля зноў пачала гаварыць:
— Мяне палохае адно...
— Што?
— Тое, што я табе сказала... Што ж ты можаш падумаць пра мяне! Якое разуменне мяне можа скласціся ў цябе. У цябе могуць быць такія думкі, што, пакуль я мела работу, пакуль магла рабіць і вучыцца, датуль маўчала. А калі стала беспрацоўнай, дык і аб табе ўспомніла. Разумееш ты тут мяне? Зноў жа дрэнна... Нібы гэта цяпер я стараюся перад табою апраўдацца ў чым.
— Сястра! Ты ж ні ў чым не апраўдваешся...
— Ты ж можаш думаць, што загэтым я і ехала сюды...
— Табе няма ў чым апраўдвацца.
— Я і так сюды ехаць думала, бо з восені буду мець месца настаўніцы, а мне хацелася б быць у сваёй акрузе. Толькі думала я ўвесь час, што прыеду сюды пад восень, аднак здарылася інакш. Бо фабрыка тая зачынілася; прадпрыемства гэта было малое і нямоцнае. І работніцы рашы-

ліся і раз'ехаліся — хто на іншую работу, а хто не мог пакуль знайсці работы. Я там працавала і заработку хватала, а цяпер грошай маю мала. Працавала і адначасна вучылася. Толькі не ва універсітэце — там вельмі шмат працы, а з тых часоў, як тата захварэў і я яго ўзяла да сябе... Але ж я табе, здаецца, пісала аб гэтым у тым першым лісце. Пісала збольшага, ты ведаць павінен.

— Так, гэта для мяне ясна.

— Аднак, калі табе цяжка будзе ці не будзе як, то няхай... Даруй мне, братка... Мала што я сказала, я і так да восені дабуду. Але ж, папэўна, работу я дастану.

— Ну, аб чым ты гэта гаворыш, не варта аб гэтым так многа гаварыць. Не трэба так. Нават калі ты хочаш, я сам усё зраблю.

— Што?

— Усё, што табе трэба. Падумаю аб рабоце. А калі табе што цяпер трэба, дык ты гавары зараз жа. Чаму ты такая...

Яна думала аб ім: дзе ж дзеўся той хутарскі хлопец, з дрэнна расчэсанымі валасамі і з грубаватымі рухамі плячэй. Аднак нейкі нясмелы і ціхманы. Нават у апошнія гады перад тым, як разлучыліся яны на гэтыя некалькі год. Быў перад ёю цяпер моцны нейкі для ўяўлення чужога чалавек, што трымаў у сабе як бы нейкую цвёрдую думку сваю; і цяпер, у гэты момант, яна пачула ў ім брата, але іншага, не такога, якім уяўляла сабе, калі пісала яму з таго горада. Ён быў цяпер ва ўяўленні яе надзвычайна разумным і, як заўсёды ў такіх выпадках, не на карысць пачуццю. Аднак жа, у наступныя хвіліны, ён напалову разбіў гэтае яе ўражанне. Грубым сваім мужчынскім рухам ён схапіў яе руку, моцна паціснуў, сказаўшы:

— Не паглыбляйся вельмі ў тое, што ніколі не будзе аформленым і канчаткова акрэсленым. Шкодна гэта і непатрэбна. Гэта лішняе. От што. Я ведаю гэта сам праз сябе... Я ж ведаю, што мы блізкія з табою і чую гэта. Сястра! Сястрыца!

Ён памаўчаў і пасля моцна пацалаваў яе ў галаву, у валасы над ілбом.

Яна прыняла гэта як патрэбнае. Ён жа адчуў, як закалацілася ў ім радасць, што яна тут з ім.

Цяпер яны доўга маўчалі. Горад запаліў агні, зменшыў стук свой і клапатлівасць. Вада пад імі, абмываючы цёмныя, забруджаныя берагі свае, мацней пахла цяпер гарад-

ское цеспатою. Неба над горадам навісала густое і непраз-рыстае. Яно здавалася злітым з нечага гулкага і звонкага — з сталі ці пачарнелай медзі. Сталь хмурылася ўсімі адцен-нямі ночы і раскідала ў непарадку свае халодныя іскры... Дарога маўчала дзеравяннымі загарадзямі, сценамі дамоў і надрэчнымі балясамі. Ніхто тут не ішоў і не ехаў. Пала-жыўшы рукі з локцямі на халоднае жалеза балясаў, Маня глядзела, як унізе хмурна ляжыць на чорнай вадзе бляск далёкага гарадскога агню і сажа вады, перабягаючы скрозь яго, не можа схаваць яго ў сабе. Казімер моўчкі глядзеў на яе блізкую постаць, не гаварыў ні слова і толькі чуў яе радасна. Нават калі яна, хвілін так дзесяць памаўчаўшы, пачала ціха расказваць, як Панкрат Малюжыч расказваў ёй аб ім, ён толькі і запытаў усяго:

— А як жа ты Панкрата Малюжыча ведаеш?

Доўга яна расказвала пра свае знаёмствы і спатканні з людзьмі. Шмат чаго ён недачуў, шмат што разумеў, не думаючы, і аднак уяўляў сабе: бурная хваля, што ўнесла іх у шырыню свету, разлучыла на некалькі год, каб зноў пасля так спаткацца ім; перайначыўшыся, памацнеўшы, аддзяліўшы шушамець ад чыстага зерня. Нават адны і тыя ж людзі спаткаліся ім абодвум на дарозе і ўвайшлі ў гэпы пункт іх жыцця. Як бы нешта агульнае і важнае стала зразумелым ім абоім. Так яны, стоячы тут, адпачывалі. Думкі ў Казімера беглі напорным ходам, захватваючы ўсё ў сябе, нават выпадковыя драбніцы з усяе наваколынасці. Падпачальваючыся ім, ён раптам запытаў:

— Вацю Браніслаўца ты памятаеш?

— Памятаю... Чаму ты ўспомніў?

— Так сабе... Абрам мне расказваў...

— Што табе расказваў Абрам?

— Расказваў, як ён, калі быў у войску, адпрашваўся, каб пусціў яго Абрам дадому хоць на колькі дзён. Цябе хацеў бачыць ці што іншае, што да цябе адносіцца.

— Праўда? Гэта ён таму адпрашваўся?

— Абрам гаварыў. Наогул жа ён Вацю не любіць.

— За што? Ён слаўны.

— Можа.

— А чаму ён у Абрама адпрашваўся?

— Абрам быў камісарам над ім. Здаецца, з таго часу ён не любіць пачаў Вацю.

— Чаму з таго часу?

— Ён не пусціў Вацю, а той сам уцёк. І Абрам гаварыў,

от нават вельмі пядаўна, што гэта па табе ён так сумаваў...

— Гэта здзівіла мяне, што ты расказваеш. Нічога я пра гэта ніколі не ведала, што ён так глыбока адносіцца да мяне...

— Ён цяпер тут. І, мусіць, дзён чатыры, як я з ім вельмі блізка бачыўся. Быў з ім разам. Утрапёны хлопец нейкі.

— Ён быў непрыметным там у нас, у дзяцінстве, і пасля. Да самых апошніх год я мала ведала яго. Нясмелым нейкім ён мне першыя часы здаваўся...

— Мне так здаецца і так я думаю: ён і цяпер, мусіць, цябе з думак сваіх не выпускае. Цяпер мне ўсё робіцца ясным. Аб нечым падобным ён гаварыў усё вечарам пядаўна ў адной п'янай кватэры. Пасля ж, як Абрам расказваў мне...

Казімер заўважыў, што яна не слухае. Думае і глядзіць некуды далей. І ён змоўк.

— ...Казя!

Ён уважліва глянуў на яе.

— Братка!

— Што, ну?

— Я от што... Чаго ты тады ўцякаў з хутару да маці свае?

— Нашто ты ізноў думаеш аб усім няважным?

— Хіба гэта няважнае?

— Але нашто яго выкопваць?

— А я думаю інačай.

— Ты ж гэта не думаеш, гэта ж не з думак тваіх.

Яна моцна сціснула абедзве яго рукі. Тады ён з вялікаю беражлівасцю адвёў яе рукі і павёў яе поплеч сябе далей па дарозе. На скрыжаванні вуліц яны завярнуліся назад.

Цяпер яна ішла за ім, як слабейшая за яго.

Быў вечар. Пара была — напярэдніца першых хвілін ночы. Стары драўляны дом зусім маўчаў, упырыўшыся і ўсімі сваімі колерамі ўвайшоўшы ў сцены свае. У другой палавіне яго, дзе жылі незнаёмыя насельнікі, жыло слабае святло; вокны, зложаныя з насклейваных кітам кавалкаў шкла, абмываліся ад цяпяў ночы гэным слабым святлом. Бледны водблеск ад іх ляжаў па зямлі — нясмела і нерухома. Зямля дыхала веснавою сілай.

— Заўтра да цябе, Маня, я зайду раней, як сёння, ты тут будзеш?

— Пакуль што тут.

— Заўтра больш даскапала і практычна пагаворым... А можа, ты да мяне зойдзеш, калі хочаш, вядома.

— Прыйду.

Адчыняючы дзверы, Маня сказала:

— Не замкнёна. Дзіўная гэта мая гаспадыня. Толькі другі дзень я ў яе, а думаецца, што здаўных мы жылі ўвесь час разам.

Яна схавалася ў сенцах, і Казімер пайшоў вельмі павалі.

Дзеравяны тратуар гэтай ціхай вуліцы гнецца пад нагамі ўсімі сваімі саматужнымі змацаваннямі. Навокал маўчыць дзерава, камень і жалеза.

## VII

Зранку Казімер быў заклапочаны, цвёрды і спакойны. Напярэдадні, прыйшоўшы рана з Прыбярэжнае вуліцы, ён разлажыў на стале патрэбныя яму на сягоння кнігі і ў глыбіні стала паставіў партрэт Мані. У гэты вечар ён шмат курыў і хадзіў па сваім пакоі — пяць крокаў да дзвярэй і столькі ж ад дзвярэй да стала, больш не пазвалялі памеры яго кватэры. Заснуў ён позна, нічога не рабіў, аднак і не спаў. Нервовая ўзбуджанасць перайшла ў клапатлівасць аб матэрыялах, патрэбных для працы. Ён падаставаў кнігі, перагледзеў некаторыя знаёмыя балоны, аднак чытаць не мог, хацелася ў адну хвіліну прачытаць кнігу. Утаміўшыся хадзіць, ён лёг і, яшчэ лежачы, курыў.

Раніцаю, спусціўшы ногі з пасцелі, ён агледзеў кнігі і партрэт. На партрэце яна здалася яму больш адкрытаю ў думках і словах сваіх. І сам здзівіўся сабе: была няведаная раней адарванасць ад спакойнае і вытрыманае працы, было жаданне ўсё зрабіць у адну хвіліну. Гэта адчулася адразу. І ў першы раз цяпер выразна здагадаўся, што от і ён жа, як і Ваця Браніслаў, кіпіць і імчыцца разам з усім на свеце; толькі (радасна адчуў ён гэта) ён сам трымае ў руках лейцы свайго жыццёвага руху, а таму і мацней трымаецца на хвалях жыцця, чым Ваця Браніславец, які, як лёгкі чаўнок, скрыпіць пад напорам павалы і ўскідаецца на самы верх, каб у наступную ж хвіліну быць скінетым назад у глыбіню сумнення і нездаволенасці.

Думка аб Ваню, у звязку з Маняю, укалола яго. Ён адчуваў і здагадваўся, чаму Ваця некалькі разоў нядаўна,

у часы выпадковых спатканняў, стараўся ў некаторыя хвіліны трымацца блізка каля яго і ўцягваць у гаворку. Нават падумаў, што і пазваў тады быў яго з Абрамам на той п'яны вечар дзеля нечага такога, што мае дачыненне да нейкіх яго адносін да Мані. І гэта цяпер не спадабалася яму вельмі.

Як бы нешта лагоднае, але разам з тым і жорсткае — усялякія падзеі апошніх дзён — уварвалася ў ранейшую цвёрдасць яго, адцягнула ўвагу зусім у іншы бок, напоўніла яго радасцю спаткання з Маняю, навеяла і ажывіла ўсю глыбіню не даследаванага нікім і нічым раней пражытага, стала перад ім з нейкаю мэтаю раздваіць яго — прымусіць жыць нейкім адмысловым жыццём, зусім і назаўсёды адрозным ад тае працы, якая дагэтуль запаўняла яго цалкам: і от ён адчуў, што тут ён перажывае вялікае змаганне з гэтаю раздвоенасцю, якую патрэбна залячыць сваёю ранейшаю цвёрдасцю і ўпартасцю.

Ён думаў, што трэба сёння ж рыхтавацца да аперацыі над студэнтам Макарчуком, брацца ж за гэта яму страшна было. Так ён адышоў за гэты час сам ад сябе. І от ён стаў змагацца. Перш за ўсё перамагаў сваё нервовае спяшанне.

Вясёлы дзень шырыўся за вокнамі, калі ён паволі выціраў халоднаю вадою твар. Тут у яго на двары ціха было. Колеры ж вясны спрыялі раскіданасці думак, такія яны былі іскравыя і з вострымі кантрастамі параскіданыя па ўсім. Прыкметна было, як ажывала зяленіва на зямлі і на дрэвах.

Выйшаўшы ў кухню, Казімер стараўся пагаварыць з гаспадыняю. Гэтая, здаволеная жыццём сваім жанчына, застылая ў гэтай сваёй сытай здаволенасці, вельмі ахвотна пагаварыла пра вясну, і ўявілася Казімеру як самая вострая процілегласць Мані. Іх ніколі нельга было б зблізіць і нават, шмат гаворачы адна з адной і жывучы разам,— і тады назаўсёды яны засталіся б незвычайна чужымі між сабою. А ўсё ж Казімер (ён злавіў цяпер сябе на гэтай думцы) любіў часта нават гаварыць з сваёю гэтаю гаспадыняю. Яна была здаволена вясною — цеплынёю і святлом дзён, ажыўленнем сквераў і вуліц, спевамі птушак за вокнамі ў садзе. Тая — Маня — любіла вясну — празрыстую шырыню дзён, шум птушыных крылляў, людскія твары на скверах, празрыстасць веснавое шырыні. Яна магла быць і нездаволенаю чым-небудзь, а любіць.

Казімер рана пайшоў у бальніцу, змагаючыся з жаданнем кінуць усё і разам з Маняю схаць туды, дзе некалі стаяў той хутар і за ляском тулілася вёска.

У бальніцы ён прымусіў сябе зноў перамагаць сваё спяшанне. А калі звольніўся і выйшаў на вуліцу, каб ісці адгэтуль да заўтрашняе раніцы, спаткаў вясёлага Абрама Ватасона. Ён быў рад, што аперацыю над Макарчуком адклалі на некалькі дзён і што ён сёння раней выйшаў адгэтуль. Абрам ішоў паволі, разглядаючы пагодлівае неба, заклаўшы рукі ў кішэні грубавага фрэнча. Вываксаваныя мяккія боты на сонцы пераліваліся белым бляскам.

Было каля паўдня.

Абрам весела кіўнуў галавою:

— Я паволі іду, а ты мяне ніяк дагнаць не можаш.

Ён жартаваў, шчыгульна адзеты, добра настроены. Казімер узяў яго пад руку. Абрам глянуў у вочы Казімеру з нейкім як бы запытаннем. Пасля сказаў:

— Бачыў Маню?

— Бачыў.

— Учора?

— Учора вечарам.

— У Цівунчыкавае сястры?

— Там.

— Ну, як яна?

— Так, як і заўсёды раней. Хоча быць шчыраю, але цяжка словы з яе выцягваць. Гаварыў з ёю доўга .

— Разам пойдзем да яе?

— Пойдзем.

— Калі?

— Назнач сам час.

— А што яна тут рабіць будзе? Ці, можа, прыехала на кароткі час і назад паедзе? Што яна пра гэта гаварыла табе?

— Тут работы шукае.

— Значыцца, зусім прыехала?

— Зусім.

— Дзеля чаго? Каб работу знайсці?

— Яна хоча быць настаўніцаю ў сваёй акрузе. Я чую, яе цягне, фактычна, на вёску. Яна ўтамілася, от што, і, пажыўшы ў вёсцы, адпачыць хоча. Яна мне і сама пра гэта пробавала гаварыць. Ды я і так уведаў бы адразу. Ёй хочацца пабачыць хутар той, я таксама перажываю ў апошнія дні нешта падобнае да гэтага. Ні то што мне хо-

чацца, выразна, пажыць там, на тым хутары, ці ў месцах тых, але праехаць туды хацеў бы, праветрыцца. Вось сёння зранку асабліва востра думаў пра гэта.

— Я ведаю. Яна яшчэ пры мне рыхтавалася быць за настаўніцу. Яна мне раз сказала была: «Надакучыла мне — кажа — быць «тэхнічным працаўнікам» у канцылярыі. Мала гэтага». Цяпер я ведаю... А ты думаеш ехаць туды?

— Добра не ведаю. Хацеў бы.

— Калі?

— Усё роўна. Чаму ты пытаеш?

— Так. Не думай, што мяне цягне туды. Ніштo мяне туды не цягне.

— Цябе і цягнуць не можа.

— Мусіць, і не. А зразумець цябе я ўсё ж магу. Вельмі добра вядома мне тое становішча і той настрой, калі цягне туды. У мяне, ведаеш...

Тут Абрам выцягнуў сваю руку з-пад рукі Казімера і пайшоў яшчэ павальней, гойдаючыся ў такт крокам сваім усяёю сваёю тонкаю постаццю.

— ...У мяне было падобнае, калі я кагадзе быў з N. прыехаў. Што мне гэты горад? Аднак я сумаваў трохі па ім. Хоць нікога там і не пакінуў, нікога, каго б адчуваў вельмі блізкім да сябе... А то часам цяпер хочацца ў самы буйны з буйнейшых цэнтраў свету. Але тут ужо іншае зусім.

— А як ты сам адносішся цяпер да свайго цырульніцкага рамяства? Да свае цяперашняе работы?

— Ды проста ніяк не адношуся.

— Як гэта?

— А вельмі проста. Звычайная гэта для мяне работа, якою займаюся таму, што трэба займацца чым-небудзь асноўным, галоўным. Ну хоць бы сабе з матэрыяльнага боку. Ведаеш, чым не цікава яна для мяне?! Тым, што яна застыла на адным месцы. Нічога новага ў ёй няма. Скончана яна. Яна тая самая і сёння, і заўтра, і праз год будзе. Так от, калі паглядзець з боку, скажам, на звычайную кааперацыйную краму. Я прыглядаюся да каго-небудзь з прыказчыкаў. Бачыў я яго і тры гады таму назад, там і сёння бачу і, мусіць, праз пяць год буду бачыць. І ўсё ён кожны дзень важыць муку і крупы...

— Тады ўсё ж так. Усе так. Кожны рабочы ўсюды...

— Дык ты ж адрознівай. Я бяру вельмі вузка. Ясна, што, апроч брытвы, і іншае жыццё ў мяне ёсць.

— От якраз сёння я змагаюся з такім раздваеннем.
— З якім?
— Я жахнуўся сёння раніцаю ад адчування гэтага раздваення. Адчуў быў вострае жаданне хутчэй пазбаўляцца ад таго, чым займаюся, для таго, каб нейк іначай жыць. Дык от жахнуўся. Буду ж я змагацца з гэтай раздвоенасцю, пакуль зноў не дамагуся тае неабходнае раўнавагі — абсалютнага адзінства жыцця і работы. Бо іначай — гэта значыць не верыць у сваю работу... Я так думаю.
— І я так думаю.
— Аднак ты як бы згодзен з тваёю раздвоенасцю?
— А ты не даслухаў мяне да канца ці не зразумеў. Я, як быў камісарам палка, не было тады ў мяне гэтай раздвоенасці.
— Ты тады жыў работаю сваёю?
— Жыў. Увесь ад сваіх пачаткаў і канцоў.
— А раней, да камісарства, ну, калі вучыўся на цырульніка і пасля, першыя гады, быў ім?
— Раней было так: зарабіў кавалак хлеба і дзякую богу. А пасля пачало іншае з'яўляцца ў мяне.
— Дык, мусіць, ты проста не любіш свайго рамяства?
— От у гэтым і ўся музыка. Я яго не не люблю, але не магу знайсці тут месца для прыкладання сваіх сіл.
— От я і дзівіўся, пра цябе думаючы, не мог ніяк зразумець цябе.
— Нейкі час пасля таго, калі я ўтомлены вайною звольніўся з свае камісарскае пасады, я сам захацеў стаць зноў цырульнікам — я ведаў, што гэтае маё жаданне не надоўга, што гэта ад таго, што я ўтомлены. І з асалодаю ў першыя часы жыў я так: быў выключна адзін, раніцою пачынаў працу, па паўдні канчаў яе і ў цішыні адпачываў.
— У цішыні?
— Ну так. З калектыўнае цырульні ішоў дадому або куды іначай і нічым сталым у гэты час не займаўся.
Яны памаўчалі.
— Ну, а ўсё ж, як цяпер, больш выразна?
— От...
Абрам зусім весела ўсміхнуўся і расказваў:
— От я і хацеў табе сказаць. Самы апошні час так я, прызнацца, зусім быў нейк заплесней у гэтым ува ўсім.
— У чым?
— Ну, у тым становішчы, пра якое табе кагадзе расказваў. Яно-то і больш яшчэ... Я, канешне, мог бы так,

зусім не ў гэтым справа, але само па сабе нядобра мне стала ад усяго гэтага. Разумееш. Духовы разлад. І пацягнула мяне зноў стаць дзе-небудзь работнікам такім, як, скажам, быў я ў палку.

— А ведаеш, што...

— Што?

— ...у цябе ёсць нешта ад таго, калі чалавек толькі жыў поўным размахам сіл сваіх, ну... знаходзіў месца для прылажэння іх у часе непасрэднага змагання, непасрэднага і бурнага дзейнічання. Скажам, ты, калі быў камісарам палка ў часе вайны. Вайна, бура, небяспека. А тут кініш увесь, тут жа творыш і рэалізуеш, каб у наступную хвіліну зноў тварыць. От чаму ты так гаварыў кагадзе пра прыказчыка з кааператыву. Цяпер мне ясным робіцца. Прасцей — у цябе нешта трохі ёсць ад ваеннага камунізму.

— Не заўсёды.

— Але ёсць...

— Вельмі можа быць. Мусіць, так... А чаго ты як бы дзівішся?

— Я не дзіўлюся.

— Тон у цябе такі.

— Так гэта. Я нічога не дзіўлюся. Як можна дзівіцца.

— Дык от жа... Я зноў уцягваюся ў гэту кіпучую работу. І, мусіць, зараз прыйдзецца расквітацца з цырульняю.

— Як так?

— Я цяпер з нарады гарадскога актыву іду. І мяне вылучаюць хутка на працу.

— Тут ты, мусіць, і разгарнешся як мае быць.

— Я рад вельмі.

— Мусіць, нешта падобнае і з Маняю адбываецца.

— Я ж табе расказваў нядаўна, як яна мне гаварыла, што надакучыла быць тэхнічным работнікам.

— А ўсё ж дрэнна такое размежаванне.

— Можа, і так.

— Я табе скажу так, што калі так думаць, дык я, як доктар, таксама тэхнічны работнік, я сам займаюся работаю, але не кірую ёю ці іншымі работнікамі.

— Не, не, не тое.

— А што?

— Не тое. Не пра кіраўніцтва, не. Няможна так. Я гавару пра адмысловую напружанасць работы, пра яе сілу, якая захапляе чалавека.

— Я і сам ведаю, што не так, але такі вывад можна

зрабіць з такіх палажэнняў. Я і сказаў, каб высветліць справу.

— Гэта ўсё нагадвае мне нядаўны адзін выпадак.

— Які?

— Ведаў я раней аднаго больш-менш віднага працаўніка з часоў вайны. Сустракаўся з ім часта, бачыў, як ён звінеў шпорамі (вайсковым быў), чуў часта яго моцны голас...

— Адным словам, мусіць, не столькі рабіў, сколькі думаў пра сваю работу.

— Да некаторай ступені, можа, і так. Але не ў гэтым справа. Цяпер жа, не вельмі даўно, ускочыў я на конку, еду стоячы; цесна, аж бачу — ён на гэтай самай концы коні паганяе. Я да яго падышоў, пагаварылі мы трохі, раней, канешне, пазнаўшы адзін аднаго. Дык ён, ведаеш, на што скардзіцца? На тое скардзіцца, што спакойна на свеце. Чакае чаго-небудзь непасрэднага, ну хоць бы вайны, ці што. Тады ён зноў стане відным працаўніком.

— Гэта не прыклад. Ён ні то што вузкі спец, не, але чалавек адмысловага складу.

— Ды я гэта не дзеля прыкладу і гаварыў. Бачыш. Такое ёсць падзяленне людзей, якія жывуць, дзейнічаюць ці рвуцца дзейнічаць. Я думаю, што наш Ваня Браніславец мае некаторае падабенства да гэтага фурмана з конкі; у тым, што не можа спакойна прымаць нават тое, што часамі нават і трэба прыняць спакойна. У яго ёсць асаблівасць — ува ўсім дакопвацца да пачаткаў і канцоў, нават там, дзе яго ўсё здавальняе і радуе.

— Так, Ваця Браніславец чалавек пачуцця.

— А я ўпэўнены, што каб чуў ён нашу гэтую гаворку аб ім, ён, магчыма, нас проста ўзяў бы ды вылаяў.

— Чаму?

— Ён сказаў бы, якое вы маеце права без майго дазволу адносіць мяне да нейкіх там катэгорый людскога падзялення. Ён ускіпеў бы адразу.

— А ён усё ж цікавы і слаўны.

— Усё ж. Цікавы ён вельмі, а слаўны — дык усё на свеце можа быць слаўным ці не слаўным.

— А ты яго не любіш? Прызнайся.

— Не магу прызнацца...

Абрам засмяяўся.

— ...бо я не ведаю і сам. З таго п'янага вечару я пачаў разумець яго. Нават здалося мне, што пасля таго, як разы-

шліся мы, я пачаў любіць яго. І от цяпер не магу гэтага пачуцця высветліць ніяк. Я думаю, што гэта багатая сіла, але не арганізаваная. Здаецца мне, што, каб на яго ўпарты ўплыў каго моцнага, ён мог бы варочаць вялікімі справамі.

Раптам Казімер зарагатаў.

— Чаго ты?

— З нас. А больш усяго з цябе.

— Чаго?

— А от ты ж сам сказаў: не чуе нас сам Ваця Браніславец! Як мы яго ёмка прышпілілі і вымералі.

— Ну, дык я паведаміў цябе раней пра гэта, чым гаварыць.

І Абрам засмяяўся.

— А можа, мы якраз не тое гаворым пра яго. Мы ж яго фактычна, мне думаецца, не ведаем. Можа, цяжэй яго ўведаць, чым здаецца.

— Я яго бачыў навылёт. Тады, калі ён стаяў каля мяне — мой зямляк і знаёмы з часоў чуць не дзяцінства, стаяў з самым слабым і бязвольным выглядам, хацеў, каб я пусціў яго. Хоць трымаўся ён зусім не так.

— А фактычна ў адносінах да справы вы былі настроены тады аднолькава. Я ўпэўнены, што гэта так. Толькі ты быў актыўным, а ён пасіўным. От і выйшла так, што яму прыйшлося прасіцца ў цябе, хоць былі вы землякамі і знаёмымі. Нават блізка знаёмымі.

— З гэтым я згодзен.

— І ўся яго пасіўнасць, па-мойму, выходзіла з таго, што яшчэ, мусіць, і цяпер не адарваўся ён ад ціхага птушынага жыцця тае хаты, у якой радзіўся і вырас. Не любіць яго, а цягне яго туды. Можа, часам і праклінаў ён яго, а любіў. І не затым, што там бацька яго жыве ці хто больш з родных. І фактычна ў такой бурнай справе заўсёды быў ён ціхім і нясмелым. Неактыўным. Такім ён быў ці не?

— Такім. Я яго іншым і не памятаю ў арміі.

— А цяпер які ён, па-твойму?

— А цяпер усё ў ім ломіцца і крышыцца.

— А мог бы ён паганяць коні на концы ці не?

— Калі ёсць у чалавека свая ўласная сіла, дык можа той чалавек кінуць усё і здзівіць усіх чым-небудзь новым сваім. Разумееш. Крытыка ўсяго, свая самастойная, вельмі каштоўная крытыка. А сіла гэтая ў Ваці Браніслаўца ёсць.

Я адчуваць яе ў ім пачаў... А ён мяне страшэнна ненавідзіць.

— Можа, нават нейк духова баіцца цябе.

— Не любіць вельмі мяне.

— На яго месцы і я цябе не любіў бы.

— Ну, так. Тут якраз тое з'явішча, калі, робячы адну якую-небудзь справу, людзі ненавідзяць адзін аднаго. Адзін аднаго лічаць толькі паскуднікамі справы.

— Вы адзін пра аднаго так не думаеце...

— Цяпер у нас часта такія з'явы бываюць.

— А калі сапраўды хто-небудзь з іх, сапраўды паскуднік, а трымаецца на вяршыні ўсяе справы?

— Тут мы выйшлі за абшары Ваці Браніслаўца.

Абрам засмяяўся, прыпыніўся, каб павярнуць налева.

— На тым тыдні, мусіць, буду ліквідаваць цырульню. Трэба нам калі разам спаткацца з Маняю.

— Трэба.

— Калі?

— Зайдзі да мяне. Калі зойдзеш, тады і пойдзем.

— А калі цябе дома не застану?

— Застанеш.

— ...што з табою?

— Што?!

— Чаго ты такі зрабіўся раптам? Як бы ў сябе ўвайшоў і забыўся на ўсё навакольнае.

— Нічога. Чаму табе здаецца так?

— Сапраўды ты раптам нейк перайначыўся.

— Не... Дык заходзь... Пад вечар. Калі-небудзь.

На скрыжаванні вуліц яны паглядзелі адзін на аднаго і развіталіся.

## VIII

Казімер спяшаўся да Мані, з нядобрым пачуццём да Абрама. «Чаму ў яго так нядобра блішчэлі вочы, калі ён расказваў пра тое, як Ваця прасіўся ў яго? І няўжо ён, будучы такім разумным і вытрыманым, сапраўды радуецца таму, што меў такую ўладу над Вацем — земляком і блізкім знаёмым, радуецца гэтаму, як самому факту. І лічыць гэта, што добра так і што патрэбна такую злараднасць насіць у сабе. Калі ж гэта ў яго несвядома,— натуральна і звычайна, тым горш. У Боні, у таго Боні, крыўджанага хлапца, які вырас у Абрама Ватасона, гэтага не магло быць. Няўжо камісар палка разбурыў дашчэнту слаўнага

Бонію, сапсаваўшыся сам, нават як камісар? І што далей будзе рабіць цырульнік Абрам Ватасон, як далей будзе фармавацца ён? І якія адносіны між імі будуць? Нават у тыя нядаўныя ранейшыя дні не быў ён такім, як сёння. Тады нават і пра Маню больш чула распытваў...»

Казімер ішоў да Мані.

Таксама, як і тады, пад вечар, радасна свяціла сонца, і дрэвы былі ў белым золаце.

Маня была дома. Яна сядзела нудная і пахмурная.

— Ты хмурная чагосьці?

— Я змагаюся з хваробаю.

— А што?

— Хворая.

— Што з табою?

— Усё ў мяне баліць. І рукі, і ногі, ламата ў каленях.

— Ты ж учора яшчэ нішто сябе адчувала.

— І ўчора ўжо не зусім добра.

Тады ён, усміхнуўшыся, сказаў з моцнымі адценнямі жарту ў голасе:

— Ты мне можаш гаварыць пра хваробу як доктару.

Яна дрэнна ўслухоўвалася і не пачула жартаўлівага тону:

— Дык от я ж табе сказала.

Яна паглядзела ў бок акна і заплакала. Вострая трывога агарнула Казімера.

— Чаго ты, што з табою?

Ён стаяў над ёю і суцешваў і дапытваўся. І чым больш ён суцешваў яе, тым мацней, з узрывамі плакала яна. Яна закрыла твар рукамі, і ад бурных слёз ёй цяжка было гаварыць.

— Утамілася... І захварэла ад вялікае напружанасці... І яшчэ за дарогу змучылася. Ты ведаеш, як пасля смерці бацькі пудзілася я па ім. І нават не па ім, а над усім, што было вакол яго смерці — і мая адзінота ў часе яго хваробы, калі нікому справы ніякае няма ні да яго, ні да мяне. Толькі з Насцяю, я табе ўчора гаварыла, магла быць, як з блізкаю. Утамілася вельмі. А цяпер от прыехала сюды.

— Ты ўчора іначай гаварыла. Выгляд твой і тон гаворкі зусім іншымі былі. Я ніколі і не думаў учора...

— Даруй мне, братка.

— Што?

— Усё гэтае.

— Што?

— Хворая я. Можа, у мяне гэта якая хвароба пачынаецца. Што я ведаю... Я абяссілела.
— Ты ні аб чым не клапаціся.
— А што я зраблю іначай?!
— Ні аб чым не думай. Я ўсё зраблю, што табе трэба.
— Цяпер прыехала сюды; пакуль знайду яшчэ тую работу. Адарвалася тады з дому, бацька адзін застаўся, не мог стары рабіць... Няўжо мне трэба было... ну, прымака прымаць ці як там... Я вучыцца хацела. А тут усё так адбылося... Ты мяне ў чым вінаваціш?!.
— У чым жа. Ну што ты гаворыш. Не думай так...
— Я і сама не ведаю.
— Адпачывай ты нават ад такіх непатрэбных думак сваіх.
Маня моцна плакала, з моцнымі ўзрывамі, закрыўшы рукамі мокры і гарачы твар. Казімер, бездапаможны ў гэтую хвіліну, заклапочаны і ўтрапёны, стаяў над ёю. Ён пагладзіў яе валасы, абняў яе галаву рукамі. Але гэта было толькі хвіліну. У наступны ж момант ён схамянуўся, як бы атрос з сябе што. Узяў яе руку — пульс біўся пяроўна. Руку сваю паляжыў ёй на лоб — лоб быў гарачы незвычайна. А яна не пакідала плакаць. Плечы яе як бы застылі ў нерухомасці, толькі галава з тварам, закрытым рукамі, схілілася нізка.
Было па паўдні. Нікога нідзе не было ў доме. Людзі праходзілі за вокнамі па вуліцы, пад дрэвамі. Казімер не гаварыў больш нічога ў наступныя хвіліны. Ён адчыніў дзверы ў суседні пакой — там было пуста і ясна.
— Чаго ты шукаеш?
Голас у яе быў разарваны і прыдушаны слёзамі.
— Ты не ведаеш, дзе гаспадыня?
— Нашто яна табе?
— Ці ёсць тут дзе блізка тэлефон, можа, яна ведае.
— Што ты рабіць думаеш?
— Ты не клапаціся.
— А ты мне скажы.
— Ну, нашто табе!
Ён сеў каля яе на хвіліны дзве. Ён бачыў, як твар яе раптам белым стаў. Пасля яна прыперлася галавой да сцяны, залажыўшы рукі за спіну. У наступныя хвіліны ён памог ёй легчы, паправіў падушку, накрыў шэраю коўдраю, што ляжала тут жа ў нагах. Прайшоў два разы ад акна да дзвярэй і зноў запытаў:

— Куды жанчына гэта пайшла? Далёка куды ці прыйдзе зараз?.. Яна, можа ж, гаварыла што, калі выходзіла?

Цяпер Маня заспакойвалася. Яна шырока расплюшчыла вочы і сказала:

— Нічога я не ведаю.

Слабасць жанчыны, якая бачыла каля сябе моцнага абаронцу-мужчыну, была цяпер і ў голасе і ўва ўсім выглядзе яе. Тон словаў яе гаварыў пра бязвольнае жаданне не ўнікаць больш ні ў якія глыбіні вакольнага. Тады Казімеру стала вядома: Маня хворая.

Ён забыўся на ўсё. І пакінуў усё. Усё тут, як было. Першым яго клопатам была думка — тут яна павінна быць ці забраць яе адсюль. І якая хвароба. Канчаткова не мог ён зразу тут пазнаць. У такую рашучую хвіліну не адважваўся ён дзейнічаць адзін і верыць толькі самому сабе, бо баяўся яшчэ ён свае неспрактыкаванасці. Неўзабаве ж здарэнне дапамагло яму. Нехта стукнуў дзвярыма ў сенцах, нехта нешта загаварыў. І ён выйшаў туды. Гаспадыня кватэры стаяла ў дзвярах, напалову высунуўшыся на ганак. Яна абярнулася да яго.

— А яна павінна быць дома.

І твар жанчыны стаў добрым і ўважлівым.

— Дома... Яна захварэла.

Страх і неспакой апанавалі твар жанчыны.

— А што з ёю?

Ён нічога не адказаў. Ён пашкадаваў у гэтую хвіліну, што Абрама няма з ім. І ўсё папярэдняе, што ўладала настроямі яго з самага ранку і да нядаўняй гаворкі з Абрамам,— сплыло. Ён пачаў спяшацца. Нават і гаварыў хутка, так, як ніколі:

— Я вас папрашу, пабудзьце каля яе, пакуль я звярнуся назад.

— Ды каб я ведала, я і не адыходзіла б зусім ад яе... Чаму ж яна нічога не гаварыла, што недамагае яна? Чаму ж яна мне не паскардзілася?

Яна пайшла ў хату, і Казімер рушыў у горад.

Паўгадзіны часу здалася яму надзвычайна доўгаю, пакуль спраўляўся ён.

Амбулаторны дзяжурны доктар быў задаволен выпадкам праветрыцца па горадзе на трасучай рамізніцкай брычцы. Трымаючы Казімера над руку, ён стараўся давесці яму пра неабходнасць пашырэння водаправоднай сеткі і пры гэтым быў заклапочаны. Ён назначыў дзяжурную сястру

на кватэру да Мані, увесь жа іншы дагляд, доктарскі, Казімер узяў на сябе. Доктар адсюль ехаў адзін і быў не рад гэтаму, бо не скончыў тады свае гаворкі. Казімер застаўся тут пакуль адзін каля Мані, з гаспадыняю дома. Яна ўсё клапацілася, ці не перайсці Мані ў суседні святлейшы пакой, і сказала, што яна сама б магла даглядаць яе начамі, калі прыходзіцьме з работы, так што на ноч не трэба сястры, асабліва калі за гэта трэба будзе грошы плаціць. Маня маўчала, аддаўшыся на ўсе клопаты Казімера. Казімер жа падзякаваў гаспадыню, якая, успомніўшы пры гэтым Насцю і звязаўшы ўспамін пра яе з хваробаю Мані, заплакала. Казімер чакаў сястры. Яна з'явілася перад вечарам. І Казімер, думаючы пра перавод Мані ў бальніцу, пайшоў паволі ўзбуджанымі вуліцамі, нячутна ступаючы па дапічаных тратуарах.

Здарэнне з Маняю выбіла яго з тае каляіны, у якой ён быў да гэтага. Ён ішоў, стараючыся вымеркаваць тую змену, якую ўбачыў ён у Абрама, таксама і цяпер несучы ў сабе нядобрае пачуццё да яго. Увесь той вечар не пакідаў яго такі настрой. А дзевятай гадзіне ён хадзіў на паўгадзіны на Прыбярэжную вуліцу. І застаў там сястру і гаспадыню. Ён сказаў пра перавод Мані ў бальніцу, тады і Маня і гаспадыня запратэставалі: Маня — казала, што тут ёй цішэй і спакайней будзе, калі толькі гэта не будзе цяжкасцю для яго і гаспадыні. Тым часам жа Маня гаварыла мала. У яе цяпер паднімалася гарачка, і гэтая просьба — пакінуць яе тут — была фактычна апошняю ў гэтыя дні свядомаю гаворкаю. Рэшту гэтых дзён яна ляжала ў вялікай гарачцы...

Гаспадыня сказала Казімеру і сястры ўзбуджаным шэптам:

— Вы, канешне, як сабе хочаце, вам яно, можа, і лепш відней, але мне здаецца, што тут лепш будзе, у мяне. Тут ёй будзе догляд. Усё ж, як вы не думайце, а яно дома. І догляд лепшы будзе.

— У бальніцы догляд лепшы,— сказала сястра.

Гаспадыня не паверыла:

— Каб яны так жылі... Толькі слава, што догляд.

Казімер згадзіўся. Ён хацеў уважыць Мані, хацеў дагадзіць ёй усім; абы толькі спакайней на душы было ў яе, каб нічога яе не трывожыла.

Ён пайшоў адсюль а дзесятай гадзіне. А адзінаццатай жа, стараючыся забыцца на ўсё, сядзеў у сваім пакоі пад

кнігамі, зноў упарты ў рабоце сваёй. Цяпер ён не думаў больш зусім пра Абрама, нічога для яго больш не існавала, толькі трывога ніяк не магла пакінуць яго. Яна была тупою і цяжкаю і павольна гняла яго, выходзячы ад Мапінага становішча, ад яе сённяшніх слёз, скаргаў і раптоўнай хваробы. Ён сядзеў позна, пакуль цішыня ночы не пачала ахопліванца сівізною радаснага рассвітання.

## IX

Пад канец ночы Панкрат Малюжыч падвёў вялікі поезд да вакзала.

Над горадам ішла густая цемень; неабхватнымі клубкамі варушыліся ў небе грозныя хмары, чуць асвечаныя па краях жоўтаю і адзінокаю лагоднасцю: схаваны ў цяжкай глыбіні іх, нудзіўся тонкі серп месяца. Да дня было недалёка.

Панкрат Малюжыч — чорная постаць, цяжкая і рухавая; цесна падпярэзаны па тоўстай кароткай вопратцы, з мокрымі ад вільготнага вугальнага пылу і адалівы рукамі, з хрыплым і адрывістым голасам: «Махані яму ліхтаром, заснуў там на трэцяй лініі!» Панкрат Малюжыч панура і стомлена клапаціўся, спяшаўся павольна. Пасля таго як адарваў ён паравік ад адцягненых за вакзал вагонаў, белы бляск шырокіх вачэй яго ўкалоў вёрткага качагара:

— Вазьмі ты ды падскрабі лапатаю пад нагамі.

І яшчэ ён нешта хацеў моцна сказаць, але толькі абарваў захалоджаны голас.

— Ці не злуеш ты, Панкрат?

— А мажа, гэта і сапраўды я на цябе злую, ліха цябе ведае.

Ён пачухаў лоб і ўсміхнуўся качагару.

У гэты час адценні невясёлага дня пачыналі гусціцца на зямлі, у небе ж гусцілася моцная, як чарназёмная глеба, чарната хмар. Дзень абяцаў прыйсці вельмі нудным.

— Чаго ж ты, аднак, злосны такі, Панкрат? Ты нешта сёння як бы на левую нагу ўстаў.

— Ну, а як жа. Мы ж тут разам з табою спалі на гэтым паравіку, гонячы поезд. Дзіва, што я мог на левую нагу ўстаць.

— Ты ўсё або злуеш, або жартуеш.

Панкрат выціраў кудзеляю рукі, грузна варушыўся і нехаця паглядаў на качагара.

— З табою, Панкрат, нешта здарылася, што сёння нейкі сам не свой.

Мала значныя для яго словы качагара, аднак, узбудзілі яго яшчэ больш. Гэта ён і сам ведаў. І яшчэ больш нейк расчулены і збянтэжаны ён пакінуў наравік.

Яму было пядобра, рашучаму заўсёды Панкрату Малюжычу. Цяжкая для яго задача была перад ім. Самае цяжкае было ў ёй тое, што даводзілася «прыстройваць» у жыцці чалавека. І хоць гэта само па сабе цяжкім не было вельмі, аднак вакол справы гэтае маглі ўзняцца гаворкі, заўсёды працiўныя дробязным змаганням чалавека з чалавекам. Маня Ірмалевічанка. Сястра Казімера. Ён хацеў дапамагчы ёй, вельмі жадаў гэтага; і нават у падсвядомасці мучыла яго нешта і ўпэўнівала, што гэта абавязак яго. У гэтае пачуццё ён не паглыбляўся, не маючы аніякае здольнасці калі б там ні было займацца гэтым. Глухая станцыя на вялікай чыгунцы, на якой гадзін шэсць таму стаяў ён доўгі час, трымаў ён свой смешаны поезд, непрыемнаю весткаю напоўніла яго: былы яго настаўнік пісьменнасці выязджаў на лекі — захварэў ён сур'ёзна і надоўга, мусіць. Стары — пакідаў работу сваю, мусіць, зусім.

Спакой мала чапаных яшчэ спрадвечных лясоў вялікаю безутраненнасцю ахапляў тую мясцовасць. Кожнадзённа гром паяздоў толькі абуджваў радаснае адчуванне сіл зямнога хараства. Лёгкі і неабдымны разляг поля, усюды ўпрыгожанага крывымі сценамі лесу, вялікасна адкрываў ласкавыя грудзі свае чалавечаму воку і працы, дакляруючы багатыя здольнасці свае гаіць людскія ўтомленасці і хваробы. З блізкім і бацькоўска-братнім пачуццём думаючы пра Казімера і таксама пра сястру яго Маню, Панкрат Малюжыч жадаў завезці яе сюды і праз доўгі адпачынак у гэтым вялікасным спакоі і багатай работай дапамагчы ёй выраўняцца ў жыцці. (Змучанасць яе ад вялікай напружанасці ў кіпенні жыццёвых хваль, скрозь усе яе словы ён адчуваў). І от тут дрэнна было — яе, невядомую тут настаўніцу, трэба было яму ўмацаваць тут, яму — машыністу з чыгункі. Лепшага ж нічога для яе нельга было і жадаць. Пра гэта ён думаў увесь астатак ночы моцна і ўпарта. Гонячы поезд, ён адчуваў фальшывасць свае пазіцыі ў гэтай справе фактарства між людзьмі, непрыемнасцю дыхала і павіна гэтага запятку. Разам з тым і слёзы старое жонкі хворага былога настаўніка яго, што нарочна дзеля гэтае

навіны падышла да поезда пашукаць яго — ускалыхнулі, хоць і ў невялікай меры, яго падворпую жорсткасць. Тут от і нарадзіўся ў галаве яго план, які выбіваў яго з штодзённай духовай каляіны. Так ён пакінуў паравік. І ўвайшоў у кантору. У поўным адзіноцтве сядзела там, за нізкай дашчанай перагародкаю, знаёмая тэлеграфістка. Яна адграбла ад сябе тэлеграфную ленту і сказала яму насустрач, усміхаючыся, горбячыся і гуляючы вачыма:

— Вы пасля кожнага падарожжа маладзееце.

— Вы таксама. Вы за гэтую пору разбыліся, і вам больш не можна даць, як год трыццаць пяць.

З вялікаю крыўдаю сказала яна трагічным голасам:

— Дык мне ўсяго дваццаць восем.

— Выбачайце, што я не ўгадаў трохі.

І ён выйшаў з канторы. Прайшоў скрозь непрыбраную багажную залу. Тут пахла ботамі і пылам. Праз адчыненыя на перон дзверы дзьмула густым і цёплым ветрам. І скрозь дзверы відаць было: у адным месцы вецер разарваў хмару, і над канцавымі будынкамі горада затрапяталася сіратлівая зорка. І блекла, адчуваючы блізкасць дня. Вецер усходжваўся мацнейшы.

Панкрат Малюжыч, ідучы, раздумваў — ці сама павінна Маня клапаціцца пра назначэнне на новую пасаду, ці яму распачаць гэты клопат. Думаючы пра гэта, ён пёс у сабе непрыемны асадак ад усяго: змучанасць ад бяссоннае ночы, утомленасць на паравіку, непрыемная вестка на глухой станцыі, разам з тым скептычная заўвага самога да сябе наконт парадку рэчаў — «сарока з кола — дзесяць на кол», разам жа з гэтым адчуванне, што зневажаецца такім меркаваннем з прыслоўем гэтым беспрацоўная Маня Ірмалевічанка, якой ён жа сам думае дапамагчы застацца працаваць у апусцелай школе. Як ён яшчэ дапаможа, так далёка будучы ад гэтае справы. Ён — закаранелы машыніст і член мясцкома чыгуначнікаў, і нічога больш. Такім ён быў, узбягаючы вузенькімі ўсходамі на мост.

Увесь той малы астатак ночы і цэлую раніцу ён, аднак, спаў як прышыблены, свяжэючы з кожнай хвілінай. Пабудзіў яго пад поўдзень пасланец з мясцкома. Ветраны дзень яшчэ больш надаў яму свежасці, і так моцнай пасля сну. У мясцком звалі яго зараз жа. Справа там была неадкладная, але не вялікая, і скончылася яна хутка. Пасля ж была там гаворка і прапанавалі яму —

№ 2 1927

УЗВЫШША

ЧАСОПІСЬ
ЛІТАРАТУРЫ,
МАСТАЦТВА
І КРЫТЫКІ

Часопіс «Узвышша», у якім друкаваўся раман «Сястра».



Сястра К. Чорпага — Г. К. Высоцкая.
*1928 г.*

правесці яго ў старшыні мясцкома. Тады ён падумаў і сказаў:

— Тады мне прыйдзецца з паравіком развітацца, а я гэтага не хачу.

— Тады ў цябе ў руках будзе больш паравік. Машына жывая, людская.

— Ну, яна часам можа быць і мёртваю.

— Дык от цябе і намеркавалі, каб яна была жывою.

Ён шчыра адмовіўся, шкадуючы пакінуць працу на наяздах, якая заўсёды, з самых маладых год, захапляла яго. Аднак прапанаванне гэтае зацягнула гаворку ў мясцкоме, і ён, з такім выглядам, як бы хоча ў чым апраўдацца, расказаў пра Маніну справу. Ён быў у гэты час збянтэжаны крыху. «Усё ж невядома,— на хвіліну апанавала яго сумненне,— ці варта яна, фактычна мала вядомая яму, столькі ўвагі». «А што і хто карыстаецца найбольш на свеце ўвагай — ці той і тое, хто і што сапраўды варта яе, ці тое, што пападаецца пад яе, ці пастараецца папасці».

— От што,— сказаў ён усім.

І пасля з некаторымі гаварыў пра Маніну справу. Няўмела гэта выходзіла ў яго.

— А хто яна для нашага мясцкома?

Ён бачыў вакол і насмешныя і шчырыя твары. І тут ужо асабовы гонар загаварыў у ім. «Я і пядобра, можа, раблю адносна афіцыяльнага палажэння рэчаў. Але ж адпіхнуць чалавека ўсякі здолее, і толькі моцныя пасля такога адпіхання застаюцца на цвёрдай сваёй дарозе. Збіць з тропу, а пасля абвінаваціць заўсёды лёгка. Што з поспехам шмат кім і выконваецца. Падтрымаць жа чалавека і дапамагчы яму ўмацавацца на дарозе цяжэй». І от тут ён рашыў дзейнічаць так, як заўсёды — упарта і нязменна. «Скажуць, што яна мая сваячка. Цяпер, пасля гэтага, за старшыню мясцкома, мусіць, мяне не папросяць».

Як бы нікога навакольнага для яго цяпер не існавала. Усё злілося ў «парадак і непарадак рэчаў». Захоплены дзіўным жаданнем давесці, што ён правы, калі стараецца дапамагчы «прыстроіцца» Мані на пасаду, ён не прыкмячаў больш разнастайных гаворак вакол яго, што заўсёды бываюць гарачымі і шчырымі пасля таго, як адбудуцца яны афіцыяльна. Ён вышаў з мясцкома, фактычна не ведаючы, ці супроць гэтае яго справы гаварылі, ці проста

так гэта, не ўспелі яшчэ выказаць думкі свае. Ён ішоў хутка, каб у той жа дзень распачаць свае клопаты.

— Дзівак ты,— дагнаў яго чалавек.

Панкрат Малюжыч азірнуўся і ўбачыў: каля яго намеснік кіраўніка канторы: драбнатвары, высокі і тонкі, з зачэсанымі набок рэдкімі валасамі. Шэраю кепкаю ён размахваў у левай руцэ; прабор на малой галаве быў у яго роўны і акуратны.

— Дзівак ты, што табе гэты паравік, ты ж ад кар'еры адмаўляешся. Мясцком чыгуначнікаў. Гэта ж цэлая армія рабочых і служачых. На гэтай лініі можна ліха ведае куды зайсці. Не магу я ніяк цябе зразумець.

Ён узяў пад руку Панкрата і пайшоў з ім разам.

— Гавару табе праўду, ты робіш памылку. Пасля пашкадаваць можаш. Што на цябе ўссела, нешта ў галаве твaёй закруціла.

Тут ён пакінуў гаварыць, уздзеў шапку і раптам, крыва ўсміхнуўшыся, паскроб пальцам кагадзе выгаленую бараду сваю, весела здагадаўшыся:

— Ну і хітры ж ты, таварыш Панкрат. Гэта ж ты, каб я так жыў, кемлівы, чорт цябе ведае. І ты маладзец. Я цябе ад усяе свае шчырасці хвалю за палітыку. Тонкі ты палітык. Маладзец, Панкрат. Цябе ж могуць усё роўна правесці на выбарах: ад грамадскае работы, брат, не адмовішся. А ты тут жа і падсыпаеш солі — дзе там мне быць за старшыню мясцкома, я прывык па паравіку ездзіць, а гэта — як жа я буду тут. І без мяне тут знойдзецца каму. Гэта, каб у члены праводзілі, дык адмаўляцца не добра — ад грамадскіх абавязкаў адмаўляцца, дык гэта можаш ласку страціць. А тут за старшыню — каму гэта няма ахвоты быць старшынёю, а ты тут і надпускаеш — адмаўляюся быць старшынёю, і як сабе хочаце... А цябе, Панкрат, правядуць усё роўна. От успомніш мае слова, што правядуць. Так што ты вельмі дыпламатычна зрабіў, што адмовіўся, ты папаў у самы раз. А папасці ў самы раз — гэта, брат, найвышэйшае дасягненне. Так ці не?

— Так, брат, так.

— От жа, бачыш. Я таксама сёе-тое кемлю.

— Добра кеміш.

— Дык цябе выбяруць, пяйпачай. От паглядзіш.

— Гэта, мусіць, дзякуючы табе, мяне зробяць старшынёю.

— Ні то што дзякуючы мне, але калі была папярэдняя нарада сярод служачых, дык я першы падаваў гэтую думку. Бо сказаць па праўдзе, у нас іншых кандыдатаў не вельмі шмат знойдзеш, каб яны адпавядалі свайму прызначэнню.

— Якому гэта прызначэнню?

— Ну, прызначэнню. Што ты, не разумееш. Ты хоць са мною палітыкі не вядзі.

— Якое палітыкі?

— Палітыкі. Што ты нічога не ведаеш. Можна падумаць, што ты сапраўды з неба зваліўся.

— А можа, я і зваліўся. Адкуль ты ведаеш. Што ты за кожным маім крокам сочыш, ці што.

— Ну, брат, сапраўды ты хітры чалавек... Я ж табе кажу, што я на нарадзе служачых падаваў за цябе голас.

— Дык яшчэ ж сходу не было.

— А кампанію перад сходам трэба праводзіць ці не?!

— Кампанію?

— Так, кампанію.

— Гэта тую, якая праводзіцца паўзавуголлю?

— Панкрат!

— Ну, чаго?

— Панкрат, не мудзі!

— Гэта ты папраўдзе кажаш ці жартуеш?

— Што?

— Каб я не мудзіў.

— Я, от што...

— Ты от што. Паслухай — калі мяне выберуць за старшыню, дык я, каб падзякаваць цябе за ўсю гэтую справу, заўсёды буду саджаць цябе каля сябе збоку ў часе пасяджэнняў мясцкома.

— Ты чаго з мяне кпіны строіш?

— Ну, не мудзі.

— За што ты на мяне злуеш?

— Братка, што ты! Мне ж няма часу займацца гэтым.

— Ну от, відавочна злуеш.

Тут малады чалавек нешта яшчэ хацеў сказаць, але яны дайшлі якраз да таго месца, дзе трэба было ім разысціся. І малады чалавек, патросшы Панкрату руку, спрабаваў паглядзець яму ў твар, але зразу ж перавёў зірк свой на абшмарганы гузік яго жакеткі. Так яны і разышліся.

Увесь той дзень Панкрат думаў і меркаваў. І чакаў

Маню, каб узяць у яе патрэбныя паперы. Чакаў яе пад вечар, а перад гэтым высвятляў справу ў адпаведнай установе, і вясёлая надзея неўзабаве парадаваць яе расцвіла ў яго пасля гэтага.

Ён тут злавіў сябе на тым, што добры вынік яго клопату і поспех справы гэтае не быў бы абвеяны такою сілаю задавальнення, каб клапаціўся ён аб кім-небудзь іншым, а не аб ёй — дзяўчыне, жанчыне. І зусім ён быў рад, і нейкая радасная пашана да яе поўніла яго.

Ветраным надвячоркам сінелі хмары на небе, густыя і сухія. Яны імчаліся ўвышыні, надаючы рухамі і выглядам сваім небу размах дзікае волі. Яны цямнелі, як зачарнёная дажджамі ралля, халодная і слаўная. На якой найчысцейшая трава радуецца ветравым размахам.

Канаў дзень, калі ён несвядома мераў гэтыя свае адчуванні. Ён ішоў праз падмеценую брукаваную пляцоўку, побач з разбітым каля вакзала кветнікам. Раннія расліны ўжо зелянелі на круглых насыпах чорнай зямлі, сярод пярэстасці афарбаванага і пабеленага дробнага каменя і цэглы, параскладанага стракатымі шляхамі па ўсім кветніку. Побач жа з прагаю гэтае веснавое ласкавасці стаялі доўгія шэрагі пустых і поўных вагонаў. Шэрае і сінявата-тае каменне, выглядам сваім праціўнае таму дробнаму і размалёванаму на ціхім кветніку, грамаздзілася вакол. Іржавае жалеза шчыльна ляжала на ім і над ім жа пішчала і скрыпела. Дрэва, высушанае смерцю і канчаткова ж памерлае пад сухімі пластамі фарбаў, імчалася і стукала, ствараючы шумлівы засціл дзеля жалезнага звону.

І ў маўчанні і спакоі чуліся рух, звон і стук.

Далей жа — узнімаліся зачарнёныя слупы дыму; і пераблытанасць велізарных рыштункаў весяліла Панкратава вока.

## X

Зусім высветлілася справа тая праз дзён тры. Панкрат Малюжыч змагаўся ўва ўсе гэтыя дні сам з сабою. Аднак перамог усялякую сваю падвойнасць у думанні і ў выніку ўпартага клопату радаваўся поспеху. Маня была назначана ў тую школу на глухую станцыю канчаць навуковую пару. Панкрат Малюжыч насіў у сабе той момант, калі ён парадуе слаўнаю весткай гэтай Маню. І цяпер ён чакаў

яе або Казімера. Нават было некалькі момантаў і гадзін, у якія парываўся ён сам ісці зараз жа адшукаць яе — так захапіла яго гэтая справа тым, што ўдалася вельмі. Цяпер ужо і тая падвойнасць у ім — хістанне: добра гэта ці не добра гэтае дамаганне пасады для яе — згінула зусім. От якім быў ён у гэтыя наступныя дні. Аднак жа цэлыя тыдні не ўдалося яму бачыць яе. І ў першыя гадзіны весткі аб яе хваробе, як па малое дзіцянё, найшло на яго расчараванне. Бо, апроч усяго іншага, зноў трэба было ўжыць клопаты, каб захаваць за ёю пасаду; клопаты — праціўныя таму, што трэба было хадзіць у канцылярыю. Ён і гэта выканаў. І думаў цяпер злавіць дзе-небудзь Казімера і ўсё ж пайсці з ім да яе. Аднак жа Казімера ён хоць і бачыў, але не пайшоў туды: так ён і ўвесь час гэты быў заклапочаны і захоплены зусім іншым.

Пад вечар зноў хмурнага і ветранага сухога дня прытульна было ў пакоях канторы чыгуначнага дэпо і вакзала. Свежы і бадзёры — зноў пасля падарожжа з поездам і пасля доўгага дзённага сну — Панкрат Малюжыч ацірaўся тут, у дэпо. Ён жартаваў, ён быў вясёлым у часе гэтага свайго адпачынку. Нават дома ён больш, як заўсёды, жартаваў і жартаўліва цвіліўся з дзецьмі, так жа жартаўліва памагаў жонцы карміць курэй на двары за сонечнай сцяной. А пасля пайшоў сюды. Да сходу далёка было яшчэ.

Пачынала канчацца работа ў дэпо. Панкрат выйшаў з канторы ў вялікую чорную залу, вільготную па кутках і востра пахучую мокраю ржою, аліваю і расцёртым жалезам. Панкрат абыходзіў чорныя награмаджэнні жалезных рыштункаў. З высокага круглага акна, адчыненага зверху, слаўна дзьмула ветрам, густым і хмурным. Яшчэ калацілася агульная машына работы; зачарнёныя пры рабоце твары яшчэ былі заклапочаны, але ўтомлены. Чорная стрэлка месяцавіднага гадзінніка на сцяне прыцягвала ўвагу ўсіх. Ён стаяў пад гадзіннікам — грузны і лёгкі, шырока-круглаплечы Панкрат Малюжыч і весела заўважаў усё. Ён чакаў канца работы і сходу. Але тут, неўспадзеўкі, той самы намеснік загадчыка канторы, малады і спрытны, закруціўся каля яго. Пстрыкаючы тонкімі пальцамі, ён падышоў, стараючыся быць вельмі прыхільным да ўсякага і да ўсяго. Ён быў вясёлы вельмі.

— Таварыш Панкрат, здароў!

Ён яшчэ здалёк стукнуў двума роўна складзенымі

пальцамі сабе па лбе. На такое прывітанне Панкрат Малюжыч адказаў сваім: паморшчыў лоб, ад чаго казырок шапкі яго ад'ехаў трохі ўніз, на вочы. Убачыўшы прывітальны гэты адказ, малады чалавек зноў зусім ужо ветліва скланіўся. Тады Панкрат растлумачыў:

— Што гэта рабіць, што валасы вельмі растуць — шапку ўверх гоніць, а наморшчваючы лоб, каб асажываць яе ўніз, дык вельмі ж лоб баліць.

Можа, той і заўважыў такое адношанне да сябе, але вельмі прыхільна і нават з адзнакамі гордасці нейкай сваёй пацініуў Панкратаву руку. Панкрат Малюжыч курыў, гледзячы на чалавека.

— Валасы растуць. Вельмі.

— Але.

— А чаго ты бядуеш?

— Баюся, што мачыць іх давядзецца. І пасля прыгладжваць вельмі.

— От ты ўсё жартуеш.

— Жартуе, на цябе гледзячы,— заўважыў чалавек, што стаяў блізка.

— Чаму на мяне?

Аднак малады чалавек з пагардаю глянуў на іх абодвух. Яны маўчалі некаторы час — і намеснік загадчыка і Панкрат.

— Цябе сягоння правядзём.

— А можа, праваліце?

— Не, не правалім.

— Ты гэта, напэўна, ведаеш?

— Я ж сам у гэтым дзеле быў.

— У якім?

— Я табе яшчэ той раз гаварыў, памятаеш... Пазаўчора, і што, здаецца, а можа, і больш.

— Памятаю.

— Дык от і сягоння...

— Што сягоння?

— Зноў гаворка была... Мяне ўсе так і падтрымлівалі, што Панкрата Малюжыча трэба правесці на перавыбарах за старшыню. От як. Я ўсіх увесь час перакопваў. І вядома, што наш блок будзе націскаць на гэта: увесці новых членаў, некаторым старым па шапцы і пасля зноў націснуць, каб цябе паверх выціснуць. Ты разумееш?

— А члены мяне не захочуць за старшыню.

— Захочуць.

— А калі я сам не захачу?
— Папросім... Тут самае галоўнае, каб удалося ў члены праўленні большасць новых, з новага блоку.
І ён тут захацеў прасвятліць твар свой крывою і многазначнаю ўсмешкаю. Панкрат жа здагадаўся:
— А ці няма часамі ў кандыдацкім спіску і цябе?
— Ёсць.
— Тады ты мяне, пэўна, і правядзеш за старшыню.
— Калі толькі ў члены выберуць. Блок, які пацягне за цябе — я ж сам яго стварыў. Гэта ж так.
— Ага-га, от што. А нашто гэта для цябе патрэбна, каб я быў за старшыню?
— Гм, мне патрэбна. Дзівак ты. Не мне патрэбна, а для справы патрэбна. У мяне, брат, новыя планы тут.
— Якія ж планы?
— Чаго ты так хітра ўсміхаешся?
— Гэта я планы прыдумліваю.
— Слухай, хочаш ты сур'ёзна гаварыць ці не, што ў цябе за адносіны да справы. Я цябе не пазнаю, Панкрат. Мяне дзіва бярэ, што ты так несур'ёзна ўсё міма сваіх вушэй прапускаеш...
— Ну, то давай, калі хочаш, буду я сур'ёзна міма вушэй прапускаць.
— Не, ты паслухай.
— Слухаю.
— Я от што... Я даўно ўжо наглядаю і даўно хацеў заўважыць гэта калі перад усімі. Загадчык канторы — гэта адна мізэрнасць. Не мізэрнасць, а проста не на сваім месцы ён. Усё ў канторы робіцца, як мокрае гарыць. Гэта ж можна ў два дні перайначыць справу, што яна пойдзе як мае быць. Гэта от рабочыя нічога не ведаюць; каб гэта давёў да іх ведама, напэўна, быў бы націск, і ён бы зразу выляцеў бы...
— Ну, а ты мог бы інача́й кантору паставіць у рабоце?
— Дык гэта ж раз плюнуць... Гэта задача новаму мясцкому будзе. Калі новы мясцком запатрабуе, я сам магу развіць план палепшання работы ў канторы... Гэта ж не загадчык, гэта не работнік. Што ты смяешся? Ты ж не цікавіўся ніколі кантораю і нічога ты не ведаеш...
— Я ж яшчэ не старшыня, што ты перада мною пачынаеш разыходзіцца.

I тут Панкрат пайшоў у рабочую залу. Малады чалавек ішоў разам з ім, папярэджваючы нават яго шпаркімі і дробнымі крокамі. У зале званіў тэлефон, доўга і жорстка. У гэтай пустой цяпер зале было ясна ад светлых колераў сцен. Сюды збіраліся цяпер людзі. Цяпер яшчэ больш малады чалавек, паглядаючы на Панкрата і на ўсіх, прыніжваў загадчыка, падбегшы да тэлефона і хапая трубку. I разам мяккая ласкавасць апанавала твар яго:

— Зараз, зараз, таварыш загадчык, праз паўгадзіны, не больш, павінна пачацца.

I ён збянтэжыўся і ўжо быў такім да самага змяркання.

Сход пачаўся бурна. Спяшаліся кончыць яго, бо ўсе былі ўтомлены днём. Аднак жа бурныя крыкі былі наконт рассыпанага неахайна вугалля:

— Тут рэжым эканоміі наганяюць, звышурочныя забараняюць, часамі чалавек хацеў бы зарабіць лішнюю капейку, дык нельга, а гэта...

— Якая тут лішняя капейка, хоць бы на падэшву ў боты. Я калі выкалачу трыццаць рублёў у месяц, дык і то добра было б.

— То ты за тое ўсяго тры дні на тыдзень дзяжурыш. У стрэлачніка мала работы.

— Да і то ўсякія членскія вылічэнні.

— Паскольку ты тры дні на тыдзень вольны, то ты можаш дзе на старане падзарабіць.

— А што ж, па-твойму, вылічэнняў не трэба?

— Ніхто не кажа, што не трэба.

— А унь там вугалле, насыпалі і пакінулі, каб аб'язджала і рассыпалася. Гэтага дык не шкода.

Тут малады чалавек таркануў пад руку Панкрата:

— Кантору, кантору трэба падкусіць.

Панкрат жа не чуў яго. Ён ужо стаяў і крычаў аб гэтым самым вугаллі і аб шпалах на шостай вярсце:

— ...гэтыя шпалы мне два разы на тыдзень вочы рэжуць, калі еду я паўз іх... Абрастаюць травою і расцягваюцца нават. Той, хто кінуў іх, напэўна, з палавіны ўжо не далічыцца.

Вакол Панкрата было — як бурнае мора. Тут крычалі і аб шпалах гэтых, і вугаллі, і аб членскіх узносах, і стрэлачнікаўскім заработку. Моцны шум гэты і ападаў і зноў узнімаўся, пакуль новы прамоўца зноў не суцішаў яго. Людскія твары былі ўтомлены і зачарнёны дзённай рабо-

тай. І ў натоўпе гэтым — у тварах, і галасах, і ў руху — быў стук жалеза, і крык паравікоў, і імчанне паяздоў па жалезных пуцявінах.

Панкрат зноў зварочваў на сябе ўвагу:

— ...а хто калі з вас заўважыў у вочы сам-насам яко-му-небудзь загадчыку пра гэтае вугалле і шпалы. За вочы мы от крычым, а ў вочы: «Таварыш загадчык, таварыш загадчык». Тут от адзін малады чалавек кагадзе па тэле-фону званіў...

— Гэта заўсёды было і будзе.

— Вы думаеце, увесь клёк рэвалюцыі ў тым, што ця-пер загадчыкам стаў іншы, чым раней быў. Або што мы тут самі крычым аб шпалах і вугаллі... Не, ты пакінь згі-наць плечы свае ў прысутнасці каго б там ні было. Сам увесь перарадзіся...

Пасля ўсяго, як ішоў Панкрат Малюжыч са сходу, малады чалавек, прыпыніўшы яго на момант, даводзіў яму:

— Добра ты гэта наконт падхалімства... І як ты ся-ногня свой аўтарытэт падняў. Ты, брат, палітык, і я хва-лю цябе... табе і той раз гэта гаварыў. Палітыку весці ўмееш.

— З мяне будуць людзі.

Тады і той пажартаваў:

— Людзі не людзі, а старшыня мясцкома.

Панкрат спешна развітаўся з ім. Тут жа, дзе стаяў. Панкрат быў узбуджаны вельмі. Ён хутка ішоў, падста-віўшы твар густому ветру. Вугальным дымам пахла тут. Ён выходзіў на ўзлахмачаныя выглядам сваім прывак-зальныя вуліцы. У першым вячэрнім змроку варушыліся абрысы будынкаў, і насінелыя ў шэрую гадзіну дрэвы зацягвалі на ноч доўгую ветравую песню. Панкрат мінуў гэтыя вуліцы. Цяпер ён шукаў Казімера.

Універсітэцкая вуліца пахла дзеравам, падмоклым і высахлым, як прыглядваўся ён на нумары дамоў. З пры-лівам радасці глядзеў ён колькі момантаў на вялікія лі-пы перад домам, пасля прайшоў глыбіню двара і пасту-каў у незнаёмыя дзверы.

Выйшаў сам Казімер. Ён здзівіўся і зарадаваўся.

— Я шукаю цябе,— сказаў Панкрат,— толькі хадзем у хату.

Казімер прапусціў яго першым.

— От што,— пачаў ужо гаварыць Панкрат, але заў-

важыў каля сцяны на цвёрдым крэсле ўзбуджанага чалавека, танканосага, з раздутымі ноздрамі. Чалавек сядзеў і як бы парываўся нешта гаварыць. Панкрат змоўк, убачыўшы яго.

Ён яго спатыкаў, гэтага чалавека, па вуліцы, часта бачыў яго каля вакзала. Знаёмы твар. Можа, і той бачыў калі Панкрата.

Казімер пазнаёміў іх. Ватасон усхваціўся і груба пацiснуў руку Панкрату. Панкрат адразу звярнуўся да Казімера:

— Праўду кажучы, я дык па справе зайшоў.

— Дык ты раней раскажы сваю справу, а пасля сядзь і пабудзь з намі.

— Можна і так. Дык от, Мані пасада ёсць.

Тут зацікавіўся Абрам Ватасон:

— Дзе?

— Адсюль далёка, у глушы.

— Нядобра ў глушы.

— Якраз добра. Нічога лепшага ёй цяпер не трэба. Асабліва пасля хваробы...

Абрамава ўзбуджанасць не памяншалася. Ён і гаварыў моцна і нават крыкліва, весела і па-прыяцельску пранізваючы Казімера вачмі. Нягледзячы на прысутнасць Панкрата, ён загаварыў, мусіць, цягнучы далей няскончаную гаворку ці спрэчку:

— Дык ты канчаткова скажы, лічыш мяне вінаватым?..

Казімер растлумачыў Панкрату:

— Шалёна спрачаліся мы тут наконт урачыстасці чалавека над чалавекам.

— Не, не так,— умяшаўся Ватасон,— не так трохі, урачыстасць пэўнай ідэі над чалавекам.

Тут яны, распаленыя новым наплывам слоў, забыліся на Панкрата. Ватасон крычаў:

— Чаму ты ўрачыстасць гэтую прыпісваеш мне, як бы я для сябе ўсё гэта рабіў і сам быў заканадаўцам усіх тых сіл, якія рушылі ўсё.

— Ну так. Тут ты праўдзівы. Але што мяне ўкалола той раз. Мяне ўкалола твая зларадпасць. Чаму ты зларадна так усміхаўся і горда, нядобра горда варушыў нават ноздрамі носа, намінаючы свой верх над Вацем Браніслаўцам. От што было ў тую хвіліну адвярнула мяне ад цябе.

— А цяпер?

— І цяпер тое самае. Ты ж зларадна і сам для сябе весела поўнішся ўрачыстасцю над гэтым Вацем.

— Перш за ўсё ты мне растлумач: калі б нават сабе і так, то гэта табе вельмі абыходзіць?

— А ты кажаш, што гэта не так?

— Не, аб гэтым пасля.

— А што цяпер?

— А цяпер ты мне адкажы, што я запытаў у цябе.

— Ці абыходзіць мяне гэта?.. Абыходзіць.

— Ну дык от... І ці толькі абыходзіць затым, што гэта Ваця быў, ці абыходзіла б, каб і іншы хто, што тут для цябе важна — ідэя ці знаёмы чалавек, зямляк ці сусед. Ты разумееш?

— Абыходзіць пакуль што мяне толькі зларадства тваё.

— А гэта цябе зневажае?

— Не ўва мне справа. Таксама, як і не ў табе, не ў Панкрату, не ў Вацю Браніслаўцу.

— Дык я ж табе спачатку сказаў... Пытаў у цябе, а ты ўхіліўся ад адказу, а гэта само ў цябе выйшла, што ты клапоцішся аб ідэі, аб ідэі наогул... Абараняеш ідэю. Сам ты сказаў. І гэта лепш, чым бы ты меў перад сабою толькі аднаго Вацю Браніслаўца. Цяпер з табою і спрачацца лепш.

— Што ты сказаў? Што значыць — клапоцішся аб ідэі?

— Дык мы будзем бліжэй да справы, да канкрэтнага. Ты знаходзіш у мяне зларадства ці, можа, нават вузкі эгаізм, што яшчэ горш, бо эгаізм, па-мойму, зусім нельга даравацъ.

— Аб гэтым ты пакуль што памаўчы, бо не варта кідаць словамі, не падумаўшы. А толькі скажы мне, што Ваця Браніславец не з'яўляецца для цябе праціўным, можа, нават і несвядома ці, можа, нават для цябе самога непрыкметна, паскольку ты ніколі не задаваў сабе гэтага пытання. Гэта вельмі важна, каб зразумець мне той тон, з якім ты паведамляў мне, як калісьці стаяў ён перад табою і прасіўся, каб ты пусціў яго. Ты падумай над тым сваім тонам. Ты яго сам прыкмеціць не мог, і, мусіць, цяжка табе ўяўляць яго, але для мяне гэта вельмі востра выяўляецца.

— Тут я табе павінен сказаць пра адно здарэнне са мною, у той п'яны вечар у майго суседа. Памятаеш той вечар?

— Дурны той вечар.

— Не зусім дурны. Сам па сабе ён вельмі цікавы... Дык пасля таго вечару, пасля таго як выйшлі мы адтуль, як даўно знік Ваця Браніславец і як ты далёка ўжо адышоўся ад мяне, тады я думаў пра Вацю Браніслаўца. Быў тады адзін кароткі момант, калі я нават любіў яго. За тое, што не застыў ён на адным месцы, і ніколі з яго не будзе ні чыноўніка, ні задаволенага сабою і незадаволенага ўсім вакольным абывателя. А ён калі і будзе задаволен усім вакольным, то ўсё роўна не будзе тады ніколі задаволен сам сабою. За гэта, так падумаўшы аб ім і так сабе яго ўявіўшы, я нават хацеў стаць блізкім да яго.

— От хоць гэта ты адно зразумеў у ім, хоць, прызнацца, гэтае самае я толькі слаба адчуваў, не маючы выразнага, такога, як ты цяпер расказаў мне, уяўлення аб ім. Такім я яго адчуваў, адчуваў няясна, але выразна да гэтае хвіліны не мог бы так сказаць аб ім. Тут ты праўдзівы. Але ж той раз, як мы ішлі з табою па вуліцы, ты трохі іначай гаварыў пра яго.

— Я і цяпер іначай гавару. Тады любіў я яго толькі адзін момант, а пасля зноў узнелюбіў за тое, што гэта слабая трава, якая гойдаецца на ветры, і мне здаецца, ён будзе заўсёды шукаць таго, чаго шукае і ніколі не знойдзе. Самае ж важнае — гэта тое, што кожны дзень ён іначай шукае, усё роўна як трава, якая гнецца ў той бок, у які вецер. Ён сам не ведае, фактычна, чаго яму трэба і чаго яму трэба шукаць.

— Не, ён якраз ведае ўсё гэта.

— Ты яго вельмі любіш?

— Аб гэтым пасля. Я яго магу любіць і магу не любіць. Я ж табе сказаў, што ў тым пункце, вакол якога мы цяпер круцімся, магу быць і я, і ён, або ты і ўсякі іншы... Табе скажу вельмі проста так, як ты ў той вечар на адзін момант любіў Вацю, так я з таго часу, як гаварылі мы на вуліцы, узненавідзеў у табе тое, што назваў зларадствам.

— А мяне самога?

— Я ўспамінаю адзін твой слаўны сказ у першы дзень нашага спаткання, што шыльды для таго і створаны, каб зацямняць сабою сапраўдны сэнс рэчаў.

І тут гаворка іх стала вельмі бурнай і патрасла іх абодвух. Панкрат Малюжыч моўчкі сядзеў і курыў, вельмі стала гледзячы на іх абодвух. Ён спачатку хмурыўся, толькі ў некаторых месцах іх гаворкі адценні светлае вясёласці клаліся на твар яго.

## XI

Ранняя ноч даўно агарнула зямлю, як яны ўтрох забыліся тут на ўсё. З самага пачатку Панкрат Малюжыч некалькі раз уставаў, каб ісці адсюль, і ўсё курыў, аднак заставаўся і не ішоў: ён успамінаў Казімера ранейшага, таго, які спаў у яго на абадранай цвёрдай канапцы. Цяпераншні ж Казімер быў мала падобен да таго ў гэтыя хвіліны. Нарэшце ж Панкрат толькі сядзеў нерухома.

Важную перамену, раптоўную і бурную, заўважыў ён на тварах іх абодвух.

— Дык от сказ той свой пра шыльды памятаеш?

— Памятаю. На што ты ўспомніў яго?

— Ты, безумоўна, разумееш гэта, як і ўсё трэба разумець як тыпічнае, вакол чаго бываюць толькі выключэнні.

— Ну так, толькі выключэнні.

— Ну, дык от ізноў пра тое, гаворачы аб чым, мы ўспамінаем Вацю Браніслаўца. Вацы — ты ж яго не знаеш, паводле твае тэорыі, бо ўсё тое, што ты бачыш у ім і што ты ўяўляеш, зацямняе сапраўдны сэнс рэчаў...

— Не, не, нічога ты так не гавары. Тут от што. Цяпер я табе скажу ясна і адкрыта. Вельмі выразна скажу асабова пра Вацю, калі ты так фактычна абураны гэтым сказам аб шыльдах. Але перш, чым гаварыць аб Вацю, я прывяду табе маленькі «эпіграф». Слухай жа. Гэты сказ аб шыльдах я нейк раз раней быў сказаў, маючы на ўвазе аднаго плюгавага чалавечка, які сягоння можа гаварыць так, а заўтра гэтак, не зважаючы на тое, што такім чынам заўсёды супярэчыць сам сабе. Аднак жа, прачытаўшы некалькі брашур палітграматы і таму лічачы сябе вельмі вялікім марксістам і крытыкам-філосафам эпохі, заўсёды апраўдваў свае супярэчнасці тым, што «ўсё на свеце цячэ і ўсё змяняецца». І нават у тым захудалым гарадку, у якім я тады жыў і які рваўся і кіпеў, каб як-небудзь вылезці з свае правінцыяльнае захудаласці, некаторыя яго таварышы, якіх ён у часе выпівак расхвальваў, што яны вельмі разумныя сыны сваёй эпохі, у сваю чаргу пускалі пагалоскі, што ён, гэты хлапчук, і сапраўды вельмі вялікая сіла. Дык от я раз і сказаў аднаму з іх: «Ці не за тое ты пра яго так і гаворыш, што цябе часта хваліць». А ён мне сказаў: «Ты лічыш так, а я лічу інакш. Раз ён мяне пахваліў, то, прымаючы пад увагу тое, што гэта ён, аўтарытэт, мяне хваліць, мае словы, што

ён вельмі выдатны, мае сэнс. Таму ён і ёсць аўтарытэт». Ты разумееш, якая несвядомая сафістыка. Тады я і сказаў: што «такім чынам ён для вас нейкая шыльда». «Так, аўтарытэтная шыльда»,— сказалі мне. От тут я і сказаў аб шыльдах. А назаўтра той самы малады чалавек пачаў «зарабляць»: гаварыў усякаму сустрэчнаму і папярэчнаму, што я нібыта заявіў быў, што ўсе станоўчыя і творчыя сілы нашай эпохі ёсць толькі шыльда, за якую хаваецца згіненне і ўпадак. І яго ж блізкія сябры зараз жа пастараліся распусціць гэтую плётку, толькі для таго, каб не быў знішчан аўтарытэт таго пранырлівага маладога чалавека і каб такім чынам быў захаван іх аўтарытэт, набыты такімі цяжкімі закуліснымі інтрыгамі. Пасля гэтага на нейкі, праўда кароткі, час і сталі гаварыць пра мяне вакол, што я, займаючы пасаду камісара палка, вялікі ўпадачнік, песіміст і наогул шкодны чалавек сярод усіх творчых сіл нашае эпохі. Такі чалавек, які здольны бачыць сярод каменния, якое можна лічыць сімвалам нашага будаўніцтва, траву, якую таксама можна лічыць сімвалам таго, што слабае і што адмірае. Трава то ёсць, але навошта яе заўважаць. Дык от табе «эпіграф».

— Тут я забываю нашу спрэчку з табою і раблюся табою.

Панкрат Малюжыч весела заварушыўся на крэсле.

— Чаго ты, Панкрат?

— Весела. Каб я так жыў, што весела жыць на свеце.

— Ну-ну, што ж далей, да чаго ты такі вясёлы эпіграф сказаў?

— Дык от Ваця; ён насіць назву ляснога таксатара, патрэбнага і неабходнага работніка; тады ж насіў чырвонаармейскую вінтоўку. І аднак толькі воля чужая над ім патрэбна была, бо ён слабы, як тая славутая трава. Каб не было над ім волі чужое ці не палажыў бы ён гэтае вінтоўкі там, дзе стаяў, і ці не пайшоў бы туды, да свайго старога бацькі нудзець у чатырох цесных сценах гнілое старасвецкае хаты, праклінаючы, аднак, і хату гэтую, і ўсё тое, што адвечнаю пакутаю вісела над ёй. Лічачы правым мяне і ненавідзячы мяне.

— Так, але прычым тут шыльды?

— Тут не шыльда, але толькі параўнанне з ёю. Бо за гэтаю няпавісцю да таго, супроць чаго мы разам з ім змагаліся...

— І змагаецеся?

— ...і змагаемся, няхай сабе так, хаваецца падтрыманне яго ў гэтай Ваціпай пасіўнасці. Вось чаму ты знайшоў у мяне тое ці, можа, пастараўся знайсці, што назваў злараддзтвам. Пытанне ж аб тым славутым сказе аб шыльдах я, думаю, досыць высветліў табе ў тым, што назваў эпіграфам... Вацю ж непавіджу часам, паогул жа, не люблю.

— Так, як і ён цябе.

— Не люблю.

— Але выразна скажы — за што?

— А ты апраўдваеш яго.

— Не дзеля гэтага гавару.

— За што? За шкодную пасіўнасць. За баязлівасць, за тое, што, носячы ў сабе буры, ён баіцца і не любіць іх, калі яны накідаюць яго вузкае нутро і робяцца вонкавымі і канкрэтнымі. Над гэтаю сілаю павінна быць сіла чужое волі.

— Тут жа, па-мойму, у гэтым самым і хаваецца тая прычына, за якую трэба яго надзвычайна любіць і нават паважаць.

— Чаму гэта?

— Таму, што здолеў ён не страціць хоць бы тых бур, якія захаваны ў ім, у глыбіні.

— То што, калі яны бескарысныя?

— Няпраўда. Яны хутчэй могуць узбудзіць і буры вонкавыя.

— А чаму ж гэта ён мог не здолець захаваць у сабе і гэтыя мізэрныя буры?

— Я не кажу мізэрныя.

— Дык я кажу.

— Няпраўда, ты не можаш гэтага гаварыць.

— Ну так, гавары. Толькі я хачу сказаць, што я не згодзен. Ты не гарачыся.

— Ну, дык наконт бур.

— А таму, мог ён і іх страціць, жывучы вякі ў прыгнечанні сярод сваіх гнілых сцен. Ты разумееш, што такое адвечнае прыгнечанне духу?

— Якое і я вякамі перажываў.

— І вынес, хочаш сказаць, і буры вонкавыя.

— Можа, і так. Табе відней.

— Чэсць табе... А ён жа вот не вынес. А цяпер от пра яго самога, выразнага, сапраўднага Вацю Браніслаўца. Тое, што вынес ён ад свайго старога бацькі, з тае крывое хаты свае, зараз выкарапіцца ў яго. Нездарма ён так кініць.

— Цяжка. Нешта вельмі паволі гэта ў яго выкараняецца... Чаго ж у цябе такі насмешны выраз твару?

— А хіба так?

— Таксама, як і той раз на вуліцы.

— Зларадства?

— Не гуляй з словамі.

— Не, не... Што ж табе выразна не падабаецца ва ўсім гэтым у мяне?

— Тая твая ўчарашняя, ці якая, урачыстасць пры ўспаміне, як Ваця дадому прасіўся. Яна ў цябе і цяпер чуецца.

Абрам некалькі разоў вельмі хутка прайшоў па хаце з кутка ў куток і зноў сеў. Казімер пастараўся спакойна закурыць, узяўшы ў Панкрата папяросу. Панкрат весела сказаў:

— Вы спакайней трохі, спакайней.

Вострая ўсмешка, цікаўная, трымалася на твары яго. Ён глядзеў, як цяпер абодва яны яшчэ нейкі час гаварылі, жорстка даводзячы адзін аднаму, і як пасля Казімер пачаў бесперастанку курыць. Ён прапанаваў ісці, і яны пайшлі, амаль нічога не гаворачы, з Абрамам у адну сваю дарогу. Казімер правёў іх на вуліцу і застаўся нейкі час стаяць там. Узыходзіў месяц. Недзе крычала, заспакойваючыся на ноч, нейкая гарадская птушка, у сваёй вечнай патрэбе зноў заспакойвацца і зноў крычаць.

## XII

Той дзень назаўсёды захаваўся ў памяці Казімера — такі быў ён гарачы, так цягнуўся доўга і так стаміў яго. Вострая гаворка з Абрамам і чуць скептычнае старанне Панкрата пагадзіць іх — гэта выціснута было ўтрапеннем гэтага наступнага дня. Аперацыя назначана была на дзесяць гадзін раніцы; было дзве аперацыі, але першая была Макарчукова. У дзевяць гадзін Казімер сядзеў ужо ў аптэчным пакоі і даваў тлумачэнні сястры.

А палове дзесятай сонца падышло да вялікіх вокан аперацыйнае залы, у тры чвэрткі дзесятае адбылася ў тым жа аптэчным пакоі кароткая нарада дактароў, у дзве хвіліны адзінаццатае хворы прыйшоў у залу — высокі, пахудзелы за час ляжкі ў бальніцы; на белым твары рыжаватае шчаціннe рэдкае барады і ў вачах збянтэжанасць. Сястра трымала яго пад руку, і быў ён гэтым нездаволены — ужо ў калідоры, напроці адчыненых дзвярэй, вызваліўся ён ад

сястры і ўвайшоў сам сабою. Воўкава абыякавы да ўсяго, ён, аднак, пазнаў Казімера — таго, што заходзіў тады вечарам у яго памяшканне, у кватэры Радзівона Цівунчыка, і на самы кароткі момант уваччу яго запаліліся агні і выраз твару ажывіўся, пасля ж зноў усё пачалося згладжвацца. Мусіць, яно разбілася аб машыннае маўчанне з ім дактароў, аб халодныя і кароткія іх словы і рух іхняга падрыхтавання. Два — Казімер і другі — тонкабароды і жаўтатвары, худы і доўгі — як бы і сам хворы — доўга мылі рукі; сястра, паліваючы ім на рукі, моцна ўздыхнула — не ў час і не да месца. Сонца тысячу раз адбілася ад белых сцен, прылад і рэчаў і калола вочы, і было падобна, што вострыя струмені найчысцейшага паветра цякуць скрозь шкло акон і ачышчаюць усё і радуюць. Тут Казімер ціха сказаў хвораму:

— Якое адчуванне?

Хворы спачатку як бы не зразумеў, што гэта да яго, і памаўчаў. І, памаўчаўшы, адказаў:

— Так... Цяпер нічога... Усё роўна.

— Што ўсё роўна?

Голас у Казімера быў цяпер ціхі з адценнямі ласкавасці. Хворы раптам адвярнуўся да сястры, і ўзбуджаны шэпт яго быў чуваць выразна:

— Там я палажыў пісьмо на століку, каля майго ложка, і вас вельмі прашу, калі што здарыцца, укінеце яго ў паштовую скрынку.

— Ну, што вы гэта, што там можа здарыцца. Вы яго самі ўкінеце ў паштовую скрынку.

— Але ўсё ж памятайце пра гэта...

— Добра, я памагу вам, як будзеце выходзіць з бальніцы праз тыдняў два, удваіх пойдзем і разам укінем.

І яна жартаўліва ўсміхнулася.

Казімер папрасіў хворага лажыцца на стол. Памочнік-лекар, з вясёлым выглядам чалавек, з выразам твару такім, як бы ён заўсёды гатовы падмаргнуць адным вокам усяму вакольнаму, узлажыў на ногі хвораму шырокі рамень і зацягнуў яго, прывязаўшы ім ногі да стала. І раптам белы твар Макарчука стаў яшчэ бялейшым, пасля лёгкая чырвапата выступіла на паверхні яго і тут жа пачала патроху знікаць.

Ён быў прыглушаны ўсімі гэтымі прыгатаўленнямі, бязмерна просты студэнт Алесь Макарчук. У гэтую хвіліну было пасля мала чым апраўданае адчуванне яго, што апу-

сціўся ён раптам у цесны і цяжкі сценамі сваімі каменны мяшок, з якога надзвычайна вузкі быў выхад і немагчымы. І от ён бязвольна папробаваў заплюшчыць вочы, пасля ж раптам нервова расплюшчыў іх і падняў плечы, моцна пацягнуўшы каленьмі рамень.

— Спакойна, спакойна!

Голас у лекара быў абыякавы, але халодна зацікаўлены. Ён паправіў рамень і палажыў нешта другое на рукі і грудзі, што Макарчук не заўважыў, можа, зноў рамень, можа, шырокае палатно ці што іншае... У шыпенні прымуса Макарчук чуў жорсткую непрытульнасць, якая парушала жаданую цяпер цішыню і безутрапёнасць, да якой імкнулася цяпер уся істота яго. Як бы ўсё крычала і хвалявалася, буйна ўздымаючыся раз'юшаным неспакоем, дзеля таго, што было яно выпхнута ходам страшных падзей з тае каляіны, якая адна давала цяпер, ці магла даць, невымераную ніколі раней радасць.

От ужо заўважае ён — Казімер Ірмалевіч, гэты ўсё ж мала знаёмы чалавек, студэнт, з якім некалькі разоў даводзілася спатыкацца ва універсітэце,— стаіць над тварам яго, халодны і гатовы да цяжкае справы. Постаць гэтая, белая і чыстая, вырастае і шырыцца так, як некалі ў дзяцінстве вырастала постаць мацеры, вечарамі, калі ў тоії цеснай хаце, непрыметнай між усіх іншых хат вясковае вуліцы, слала пасцель яму, малому хлопчыку, што вельмі ўтомлены быў за дзень баранаваннем на полі. Раптам постаць гэтае заклапочанае жанчыны засланіла сабою ўсё тут. І ў звязку з гэтым, як бы нават запахла тут — наплыў адчуванняў ашукаў яго — свежым выпечаным хлебам, які падскрабала маці, дастаўшы з печы, калі, вярнуўшыся раз з поля, ён, малы, пераяжываў пачатак двухмесячнае цяжкае хваробы, якоії хварэў тады... І от ён зноў шырока расплюшчыў вочы і шукае імі тае самае сястры, а яна стаіць у кутку і знімае з агню нейкую малую бліскучую пасудзіну. І бліжэйшаю яму ад усіх іншых тут здалася яна. Сярод спакойнага і вытрыманага тлуму падрыхтавання да аперацыі ён толькі чакаў цяпер, калі яна абернецца ў яго бок. Ён дачакаўся гэтага моманту, падазваў яе кіўком твару і зноў папрасіў:

— Ліст гэты ляжыць там, на століку, і адрас на ім напісаны: на імя Ірыны Макарчуковаії... Маці мая. От і ўсё, больш я непакоіць вас не буду.

Яго зноў папрасілі ляжаць ціха. І от нешта вялікае,

якое пашырылася адразу на ўсе абшары свету, палажылі па яго твар. Скрозь яго бачыліся туманы, яснасці і змрокі свету і шалёны рух у ім, бязлітасны ход яго побач з ходам нежывое, акамянелае заспакоенасці. Раптам у ім мільгапула бель чалавечых рук, прагучаў востры голас — «Давайце, давайце»,— і скрозь сетку пад вачыма паліўся востры ж струмень, што ўспрымалося і прыемна-халодным, і цёплавокрым, і лагодным, і адваротным. Пасля яно пачало рабіцца прыкрым. Голас настойна зноў прагучаў:

— Цяпер, таварыш Макарчук, лічыце так: раз, два, тры, чатыры...

І ён пачаў лічыць. І з цягам таго, як лічыў ён, узнімаць голас рабілася яму ўсё цяжэй, але весялей. «Раз, два, тры... сем... пятнаццаць...» І от ужо вясёласць і захапленне нечым ахоплівае яго, пачынае панаваць над ім і ўзнімае яго. Яму цяпер хочацца заспяваць, пасля моцна гаварыць перад таварышамі-студэнтамі, якія раптам усім факультэтам абкружылі яго. Усё знаёмыя твары, сумныя і жартаўлівыя. «А ведаеце, браткі, што калі ж мы параз'язджаемся...» Наступныя словы цяжка ўжо было сказаць яму, і ад гэтага стала яму яшчэ весялей. І раптам матыў удалае песні пачаў уяўляцца яму...

— Лічыце, лічыце! Яшчэ, яшчэ!

Ён апамятаваўся, што трэба лічыць, і сказаў яшчэ некалькі слоў, вельмі мала і вельмі няясна. І тут усё змяшалася ва ўяўленнях яго, прыняло шэры, жаўтаваты колер і ў шалёным імчанні бязгучна некуды рушыла. Толькі ў наступны момант зусім выразна шавяльнулася думка, што зараз от пачнуць рэзаць. А што, калі ўжо рэжуць?! «Чаму ж вы рэжаце, калі яшчэ не заснуў, я чую боль!» Вельмі выразна адчуў ён перапалох людзей вакол сябе, а ў наступны момант усё стала нічым.

Яны ўдвух, Казімер і прафесар, стаялі над хворым. Навокал наводшыбе блішчалі на сонцы белаю чыстатою халаты студэнтаў і практыкантаў. Шчыльная сцяна іх была нерухома.

Пад рукамі ў прафесара дробна калацілася чырванаватая і ледзьве прыметная кволая жылка. Сухія рукі яго ляжалі над разрэзам цела нерухома, і толькі ў тую хвіліну дзейнічалі чатыры пальцы двух рук, дзейнічалі непрыметна і таксама амаль нерухома. І ўжо тут самае важнае было

гэтае самае маленькае месца пад рукамі прафесара. Усё іншае, што доўгім целам, нерухомым цяпер, сонным і чужым тут, было непрыметным. І твар, пакрыты сеткаю, і прывязаныя рэмнем ногі, і пакрытыя закасанаю бальнічнаю сарочкаю грудзі — усё было забыта і заслонена. Сіняватыя колерам тканіны цела былі нерухомымі, але ў іх і не бачылася нават, а чулася напружанае імчанне жыцця: некалькі ледзьве прыметных чырванаватых, сіняватых жылак паказваліся наверсе і чуць як бы дрыжалі, калаціліся. Такі падобны ў гэты момант твар быў у прафесара. Застыласць найвялікшае пільнасці звонку была абмярцвелаю і надзвычайна халоднаю; моцна сціснутыя губы, накіраваныя ў адно месца вочы і пабялелы лоб. І яшчэ адна рыса, пэўная дзеля цвёрда акрэсленай выразнасці, глыбокая і адмысловая, была ўпоперак твару. Яна злівала ў адно ўсе самыя нават найдрабнейшыя адзнакі нутранога жыцця чалавека ў гэтую хвіліну; і яна рабіла яго як бы назаўсёды адрэзаным ад усяго таго, што навокал, і ад таго, што аддана штучнаму сну і ляжыць на гэтым высокім стале, прымацаванае рэмнем да яго. І моцная арганічная сувязь гэтага чалавека, што так упарта і нерухома дзейнічаў тут, уласціка гэтага твару, была з той крыніцай жыцця, якая прыдушана існавала ў гэтым аддадзеным сне і целе і ішла праз гэтую найдрабнейшую жылку.

Тонкаю бліскучаю прыладаю ён раздзельваў на дзве часткі неглыбокім разрэзам тканіны цела, тут жа побач з гэтаю жылкаю. Трохі прыгнуўшыся і прыпёршыся каленьмі к нечаму цвёрдаму, што было пад сталом ці каля стала, стаяў над гэтым усім Казімер. У тую хвіліну, калі трэба было яму ў нейкае месца выліць некалькі кропель іода, ён перажыў вялікую напружанасць дзеля таго, каб паварушыцца і адарвацца каленьмі ад таго цвёрдага. Як бы гэта быў ён у арганічным і непадзельным адзінстве і з гэтым замоўклым прафесарам, стараватым і гаваркім вельмі ў часе звычайнасці, і з сонным Макарчуком, асобаю, якая магла хварэць, пакутаваць ці радавацца. Несвядома чуў Казімер жыццё гэтае істоты толькі праз тое цеснае месца, у якім усё глыбей арудаваў ланцэт, моцна сціснуты сухімі і доўгімі пальцамі чужых рук.

І раптам Казімер заўважыў: на адзіны найкаротшы момант доўгі твар прафесара стаў яшчэ даўжэйшы. Светлая брыва над правым вокам раптам пасунулася ўверх, і левы кут рота ад'ехаў уніз. Вочы ўскінуліся ўгору, у правы бок,

дзе ва ўтрапенні варушылася правая брыва. І тады ж твар зноў застыў, напоўніўшыся больш яшчэ жорсткім маўчаннем. Казімер сачыў цяпер і за вострым канцом ланцэта і адначасна за тварам чалавека над ім. Чалавек жа глянуў Казімеру ў твар і апусціў іх у левы куток разрэзу. І от тут Казімер назаўсёды захаваў у сваёй памяці гэты момант. Ужо ізноў звычайны выраз быў на твары прафесара, але ясна было: аперацыя была больш складанай, чым думалі. Нават і тыя тры ці чатыры кароткія словы, якімі катэгарычна запатрабаваў чагосьці ад Казімера прафесар, прагучалі вельмі трывожна ў гэтай напружанай цішыні. Казімер напружваў усе сілы свае, каб перамагчы сваю неспрактыкаванасць; яна разганяла ў бакі думкі яго, раскідала іх і рабіла слабымі. Яна перашкаджала і моцна адчувалася. І тут от з таго моманту, калі змяніўся быў твар прафесара, ён як бы ўстрапянуўся ад запанавання над ім падсвядомай свядомасці, што ўсё гэтае дзейнічанне адбываецца над жывым жыццём, якое нячутна калоціцца пад імі. Яны трымаюць яго і самі знаходзяцца з ім, і таму ў кожным руху нават пальца такая вялікая дапасаванасць у гэтага стараватага, белатварага чалавека.

І тут выразна, так, як ніколі, уведаў ён і напоўніўся ад гэтага вялікай радасцю, што знаходзіцца ў самым цэнтры галоўнага струменя жыцця.

Бывала, калі сядзеў ён вечарамі на цёмнай і абадранай канапцы на кватэры ў Панкрата Малюжыча, ён адчуваў сябе вельмі малым і нязначным у гэтым струмені, як бы загубленым сярод усяго, з чаго складаецца ён. Падобнае нешта было і тады яшчэ, калі падыходзіла пара выязджаць яму з таго хутара і калі патрэбна было займацца той гаспадарскай работаю, ад якой ужо цягнула яго.

Панкрат Малюжыч уяўляўся яму вясёлым удзельнікам працэсу жыцця ў яго найгалоўнейшых накіраваннях, удзельнікам, які сам гэта і адчувае сябе добра тут, бо нічога іншага няма, што б магло параўняцца з важнасцю гэтага працэсу. Нават нешта падобнае чуў і ў Панкратавай гаворцы пра ўсё штодзённае.

Цяпер, у гэтую хвіліну, ён сам сябе адчуў такім жа вялікім удзельнікам, які сам творыць гэты працэс. І от, слухаючы цяпер ужо частыя, чуць не камандныя, словы прафесара, яго раздражнены голас і накіроўваючы думкі на тое, каб знаходзіцца ва ўладзе гэтых загадаў, ён калаціўся з радасці, якая запанавала над ім. Надзвычайная лёг-

касць была ва ўсёй істоце яго ў той час, калі кончалася аперацыя. Ён заліваў іодам рану і як бы вывучаў сябе за гэтыя некалькі хвілін аперацыі.

Яна скончылася больш узбуджана, чым пачалася.

І пасля яе, калі другая змена дактароў рыхтавалася там жа рабіць другую аперацыю, Казімер некалькі разоў уваходзіў у бальнічны пакой, сам не ведаючы дзеля чаго, глядзець на хворага. Ён цяпер ляжаў і прасіў піць, ціха скардзячыся, што яго нудзіць.

— Піць,— сказаў Макарчук.

Казімер сказаў яму не варушыцца і падышоў бліжэй да яго. Разгледзеў яго даўно стрыжаную галаву і выраз твару ўтомленага гаспадара-селяніна.

— Колькі я яшчэ буду ляжаць тут?

— Можа, нават менш, як два тыдні.

І больш забараніў ён яму гаварыць, сам поўны жаданнем сесці каля яго і доўга не скончыць з ім гаворку.

З лёгкім адчуваннем усяго навакольнага выйшаў ён з бальніцы.

«Ганяючы паязды па бясконцых размахам сваім дарогах, Панкрат Малюжыч творыць працэс жыцця. У гэтым жа працэсе варушыцца недзе непрыметная яму маладая сялянка Анця. Таксама і Маня, якая, складам натуры свае, часамі блізка стаяла, мусіць, да згінення ад свае адзіноты».

Так от ён ішоў і нёс у сабе гэта. Ён ішоў да Мані. І хвароба яе зацямняла яснасць яго настрояў.

Быў дзень, дзень шырокі і ціхі. Прыбярэжная вуліца маўчала нават і ў слабым руху людзей на ёй. Белыя сцены другое бальніцы былі поўны ясных колераў ад шырыні дня. Каля яе мураванае агароджы на тым беразе Свіслачы варушыліся людзі. Высокае голле бальнічнага саду за ёю было нерухомым і празрыстым. Здавалася цяпер Казімеру ўсё ціхім тут. І нават моцны і прарэзлівы голас хворае нейкай жанчыны ў псіхіятрычным аддзяленні бальніцы павялічваў толькі гэтую цішыню. Жанчына, мусіць, сялянка, спявала «Лета». І веяла ад голасу гэтага сінім даляглядам за пескавымі дарогамі сярод пустога ржышча. От заціхае вецер, і маўчыць трава. Хмары над зямлёй узнімаюцца вышэй і растаюць у страшнай глыбіні. Сіняватае неба, паліняла трохі ад восені, ачышчаецца, і шэры колер дзерава прыдарожных будынкаў нудзіцца сярод вясёласці палёў. Вёс слаўнаю прывабнасцю і разгулам прыціхлых вятроў. От голас жанчыны ўздымаецца вышэй і абрываецца. Раптам

ізноў, слабей ужо, пачынае яна співаць. І зноў вострая прарэзліваець голасу даходзіць да немагчымай вышыні і абуджвае палявы спакой. І дзіцячая скарга, і смех, і жаночая нудлівасць, і радасць вырастаюць з гэтае песні і ахапляюць усё. Абарваўшы зноў голас, жанчына раптам пачынае крычаць дзіка і роспачна. Так яна прыпыняе Казімера на самым беразе каля ржавых цяжкіх балясаў. Ён стаіць і глядзіць. Спакойна і маўкліва плыве Свіслач у сваіх забруджаных берагах. І як бы нешта пераварочваецца ў ім, ломіцца і крышыцца і зноў устанаўляецца назаўсёды. Знаёмае ўпартае жаданне дзейнічаць ахоплівае яго. Сплывае некуды далёка былая кагадзе раздвоенасць. Знікае сама. І ён ідзе далей.

Жанчына ізноў спявае. Сіняваты пад дрэвамі дом маўчыць і глядзіць на рэчку цемепню сяней скрозь адчыненыя дзверы. Усходы ганка глуха абзываюцца тупым стукам пад нагамі.

За сцяною ляжыць хворая Маня...

Вакол і ціха і бурна кіпяць навальніцы гарадскога жыцця.

## XIII

Усё было скончана. Калі і былі яшчэ адзнакі тае нядаўняе нерашучасці ў чым-небудзь, дык яны былі вельмі слабымі і паступова сплывалі назаўсёды. Нават выветрывацца пачало с галавы тое ўсё, што мучыла тады ў часе той раздвоенасці. Забывацца пачала і гаворка з Абрамам пра Вацю Бранілаўца, і тая нядаўняя раздражнёнасць супроць Абрама Ватасона, хоць нейкае непаразуменне з прычыны таго, што названа было тады зларадпасцю, засталося. Яно і цяпер выяўлялася, як не зусім добрае пачуццё да Абрама, але аб гэтым мала думалася. Было цяпер іншае. І толькі Ваця Браніславец, калі ўспамінаўся, дык быў ён нейк больш незразумелы, і мягчэць было пачало тое незадаваленне ім, якое асабліва востра было тады, калі ўспамінаў ён ці здагадваўся, можа, пра яго адносіны да Мані. Выклікана было гэта ўсё ж, аднак, тонам той гаворкі Абрама Ватасона пра яго. Але гэта было да часу. І згінула яно адразу, у адзін хмурна-сіняваты дзень, калі адбылася гаворка ў старым дзеравяным доме на Прыбярэжнай вуліцы, каля пасцелі хворае Мані.

Усё ўваходзіць пачало ў сваю звычайную каляіну. Ра-

біцца пачало падобным да таго, якім было тады, калі не было яшчэ нават і таго першага ліста ад яе. Толькі ўсё ж яшчэ больш седзячы ў сваёй каморцы вечарамі над кнігамі, а днём адбываючы сваю практыку ў бальніцы, ён усё больш і больш упэўніваўся ў сваім рашэнні паехаць летам на тыя хутары ці ў мястэчка зусім адпачыць ад усяго.

Панкрат Малюжыч прыйшоў да яго ў пасляабедзенны час. Пасля паўдня дзень быў затуманены сіняватымі засцiламі веснавое хмурнасці. Казімер сядзеў дома.

— Цяпер я прыйшоў дзеля таго, каб пайсці даведацца яе.

— Добра, я і сам от збіраўся ісці.

— Калі ты быў у яе апошні раз?

— Раніцаю сёння.

— Калі ж яна паедзе туды?

— У школу сваю?

— Так, калі я яе туды завязу?

— У яе прайшоў пералом хваробы.

— Цяпер з ёю можна ўжо гаварыць зусім?

— Не зусім яшчэ, але можна.

— Яна нервуецца?

— Я і сам дзіўлюся, што не.

— Яна спакойная ад таго, што паедзе працаваць.

— Часткова і ад гэтага.

— А яшчэ ад чаго?

— Гэта звычайна. Бачыць, што я клапачуся аб ёй і рад клапаціцца — заспакоілася пад брацкаю апекаю.

— А здаволена яна, што паедзе ў глуш?

— Вельмі.

— Як ты ёй сказаў пра гэта?

— Я знаў, што яна будзе вельмі гэтым здаволена, і спяшаўся парадаваць яе.

— Гэта было яшчэ перад крызісам?

— Ну так, у яе тады на нейкі час паменшылася гарачка. Я ёй сказаў пра гэта адразу, прыйшоўшы, і нават яна ўсхвалявалася вельмі. У першовасці папробавала нават падняцца і сесці.

— Што яна пра ўсё гэта гаварыла?

— Вельмі ўдзячна табе.

— Я ніколі не думаў, што так хутка і ўдала ўсё зробіцца.

— А ведаеш ты, ты вельмі блізка захапіўся гэтаю справай.

— Захапіўся, але прызнаюся табе, у часе ўсяго гэтага адчуваў сябе няважна, бо, прэста кажучы, непрывычна гэта было для мяне... Цяпер вельмі добра. Наогул жа, дык усё гэта нейк аж урэзалася ў маё асабовае жыццё. Ведаеш ты, гэта так бывае часам, пасля чаго некаторыя людзі, гэтыя самыя, што так выпадкова сустракаюцца па дарозе, пачынаюць быць блізкімі...

— І, можа, нават на доўгі час.

Яны пайшлі паволі.

Як і заўсёды, ціха было тут. Сястра, прысланая з бальніцы, пераглядала старую нейкую пажаўцелую кнігу і спаткала Казімера радаснымі для яго словамі:

— Сёння мы больш, як заўсёды, гаварылі.

— А цяпер?

Ен сказаў гэта ціха, баязліва, каб не пабудзіць яе.

— Цяпер другая ўжо гадзіна, як сон апанаваў яе.

За вельмі кароткі час прыходзіла аднекуль і зноў адыходзіла гаспадыня, як і заўсёды заклапочаная справамі свае падзённае работы. Мусіць, ёй слаўна было гаварыць пра гэта: яна некалькі хвілін пастаяла, прыпёршыся да вушака, расказваючы пра свой разбіты ўчора на рабоце палец. І яшчэ некалькі разоў прыходзіла і адыходзіла. Яна парушала цішыню дома стукам сваіх вялізных ботаў. Гаворкаю сваёю яна не пабудзіла Маню. Сястра пайшла пахадзіць па вуліцы. Цішыня, якая засталася пасля яе адыходу, панавала доўгія хвілін пятнаццаць, і тады сам сабою прайшоў сон хворае. Слабыя адценні радасці Казімеру і Панкрату выявіліся на твары яе.

— Я зараз зусім устану.

Жартаўлівым тонам адказаў ёй Казімер:

— Ты яшчэ ў нас паляжыш доўга.

— Я вас завязу пасля ўсяго на тую глухую станцыю.

Яна слаўна ўсміхнулася Панкрату. Была на твары яе ветлівасць і рэдкае за гэтыя часы адсутнічанне клопату.

— Тады мне казалі, я цяпер і сама не памятаю хто, так усё ў галаве ў мяне няясна, як бы гэта вельмі даўно было, казалі — што там лясы цягнуцца скрозь.

— Лясы.

— Я вам вельмі ўдзячна за гэта ўсё...

— Там вы нават, калі спадабаецца вам, можаце і застацца на больш доўгі час.

— Можа, я і зусім надоўга там застануся.

— Апроч усяго іншага, там і мясцовасць вельмі жывая.

— Але все лесам і спакоем.

— Як і заўсёды ў лясах.

Ёй было цяжка гаварыць. Ружовасць на твары пачала збірацца густымі лапінамі. Слабаю рукой яна паправіла кут падушкі і змоўкла на кароткі час.

Казімер сказаў ёй:

— Ты маўчы, а мы тут пасядзім, пакуль не прыйдзе час ісці нам. Заўтра я прыйду пазней.

Яна ледзьве кіўнула галавою, мусіць, аддаючыся апанаванню дрымоты. Панкрат Малюжыч ні то ёй, ні то Казімеру расказваць пачаў, як ён клапаціўся аб яе справе ў канцылярыях. Раптам яны ўдвух заўважылі: лёгкая ўзбуджанасць з'явілася на яе твары, яна расплюшчыла вочы і падняла ўгору твар. Яна паведаміла голасам такім жа ціхім, як і раней:

— Прыходзіў Ваця Браніславец.

Казімер узбудзіўся:

— Што ён гаварыў з табою?

— Ён не быў тут.

— А як?

— Ён быў толькі ў сенцах. Вельмі ціха пастукаў у дзверы, і выйшла да яго сястра, бо не было гаспадыні. Я спала тады. Так мне расказвала сястра. Ён папытаўся пра мяне, і сястра казала, што вельмі ўзбудзіўся, пачуўшы, што я хворая.

— Пробаваў сюды заходзіць?

— Не, ён адразу пайшоў.

Больш яна не гаварыла. Зноў хворая дрымота заплюшчыла вочы ёй.

Казімер здагадваўся болей, чым ведала яна. Пасля, калі многа што змянілася, калі нават самыя ўспаміны аб гэтых жорсткіх днях хваробы яе пачалі прытупляцца, тады нават і то не мог ён выразна ўразумець той прычыны, ад якое зноў нейкі незразумелы наплыў нечага падобнага да варожасці да Браніслаўца з'явіўся ў яго.

Ваця. Калі Абрам весела гаварыў пра тое, як ён прасіўся ў яго, тады хацелася яму адстойваць яго. І гэтая прычына ляжала ў тоне Абрамавых слоў. Цяпер жа, няясна адчуваючы і здагадваючыся, чаго Ваця цяпер прыходзіў сюды, ён адчуў нешта вельмі падобнае да неглыбокае злосці. І з гэтага дня пачуццё гэтае не пакідала яго доўгі час, аж да таго спаткання з ім у лясах, якое адбылося пасля.

Цяпер ён, прычакаўшы сястру, пакінуў Маню, якая

цяжка драмала, нічога не заўважаючы вакол сябе. Твар яе быў ружовы і лоб мокры ад хворага поту.

Панкрат Малюжыч больш не заходзіў сюды. Наступны доўгі час ён нават не бачыўся і з Казімерам. Хістаючыся думкамі, ці згаджацца яму пакідаць свой паравік дзеля сталае працы ў мясцкоме чыгуначнікаў, ганяючы паязды па сваёй звыклай, знаёмай пуціне, мераючы найвялікшыя працягі рухам машыны праз гул дзеравяных вёсак, праз ціхія станцыі і паўстанкі, да буйных цэнтраў, і адчуваючы гэтае хістанне сваё наконт паравіка і мясцкома, ён, аднак, грэў у сабе план, які і яму самому часамі здаваўся дзіўным сваёю незвычайнасцю і смеласцю.

Таксама, як і Казімер у гэтыя дні. Не займаючыся сваёй работаю толькі ў часы падарожжа з кватэры ў бальніцу і назад, а пад вечар у дзеравяны дом на Прыбярэжнай вуліцы і ў часе абеду — ён думаў. Думкі былі ўпартымі і моцнымі.

Вечарамі дома ён па некалькі разоў думаў над праверкаю сваіх практыкаванняў, пашыраючы іх, свае практыкаванні, і пачынаючы рыхтаваць праз іх вялікі навуковы даклад.

Уночы, канчаючы работу, выходзіў на вуліцу, каб свежае паветра ачысціла яго ад утомленасці. Зыкі ночы хвалявалі яго, як бы гэта ён быў заўсёды адарваны ад іх нечым іншым і як бы яны нудзіліся па ім, што яму было цяжка заўсёды чуць і перажываць іх.

І ён сам у тыя хвіліны нудзіўся па іх.

## XIV

Пасля пералому хвароба Мані хутка праходзіла.

У першыя дні хворага бяспамяцтва найкаротшыя хвіліны перажываліся ў ёй, як бы вечнасць. У тыя гадзіны, калі прыходзіла яна да свядомасці, яна бачыла вакол сябе гэты цесны пакой, які пачаў ужо здавацца прытульным. Ёй хацелася гаварыць з сястрою, але цяжка было гэта ёй. У такія гадзіны некалькі разоў бачыла яна Казімера; ён прыходзіў і не сядзеў доўга, аднак жа, калі яна ўзрокам вачэй прасіла яго, ён заставаўся і надалей.

У адну з такіх хвілін яна і дазналася пра тое, што будзе куды ёй ехаць, як толькі адчуне. Задаваленне жыццём у гэтую хвіліну бурна ўзнялося ў ёй. Ёй зараз жа, як у гарачыні ціць, захацелася ўстаць і рабіць што-небудзь, не

ляжаць і не сядзець ціха. Гэты бурны ўзрыў цягнуўся доўга, і цяжка было ёй заспакоіцца.

Часта былі ў яе цяпер гэтакія ўзрывы. Кожны раз, калі праходзіла бяспамяцтва, яна скрозь хворую немач думкі чула паўнату жыцця. Тая дапамога, якую зрабіў ёй Панкрат Малюжыч, павялічвала гэта, і ёй у тыя хвіліны здавалася, што даволі ёй толькі падняцца і прайсці па хаце, каб зараз жа ўзяцца за ўсякія звычайныя справы. Пасля, праз самы малы час, гэтыя ж самыя думкі вельмі ўтамлялі яе, і зноў падыходзіла забыццё ўсяго, і ў гэтым забыцці пачынаўся як бы другі свет, свет шалёных фантасмагорый, якія поўнілі яе па той бок здаровай свядомасці. Цяпер яна як бы падала некуды, і гэтаму не было канца. Нават, калі расплюшчвала яна вочы і затуманеным узрокам бачыла кут падушкі, ён раптам уяўляўся ёй як бы нейкім мяккім і пакутным цяжарам, які бясконца душыць і будзе душыць яе. Але яна ў гэтай хворай свядомасці аддавалася гэтай пакуце, не маючы сіл дзейнічаць.

Пасля раптам праходзіла гэта, паўставалі перад ёю знаёмыя твары і незнаёмыя. Ветлівая радасць свяцілася ў знаёмых тварах. І людзі гэтыя, заўсёды блізкія, прыходзілі да яе ў нейкім дзіўным становішчы. То тая Анця стаяла перад ёй, не могучы выгаварыць слова, то бацька з'яўляўся на параду да яе з нейкім сваім клопатам. Пасля і гэта праходзіла, і заставалася толькі цёмнае бяздонне з іскрамі нейкага жорсткага святла; і яна падала ў гэтае бяздонне, не могучы ніколі ўпасці.

І от часам скрозь усё гэта, што з сілай маланкі і грому кожны атам часу зменьвала адно другое, у гэтым самым бяспамяцтве прабуджваліся як бы слабыя адзнакі свядомасці таго, што Панкрат Малюжыч усё для яе зрабіў і што па той бок таго становішча, у якім яна цяпер апынулася, ляжачы от тут, у гэтым прытульным пакоі на цяжкай і гарачай падушцы, па той бок гэтага пачынаецца нешта радаснае і слаўнае. Яно хутка будзе зусім блізка, апануе ёю, прынёсшы шчасце.

І будзе гэта хутка.

Пасля гэтага раптам заўсёды зноў уздымаліся ў ёй тыя ўзрывы, поўныя захапленнем, якімі было напоўнена і ўсё наступнае бяспамяцтва. У гэтыя ж хвіліны сястра падбягала да яе бліжэй, не дазваляла ёй падымацца, часам трымаючы яе за рукі.

Так праходзілі доўгія дні.

У часы светлага і чыстага спакою, калі прыходзіла яна да памяці і калі не было Казімера, яна страшна жадала бачыць яго тут. І гаварыць з ім аб усім найдрабнейшым, нязначным дзеля звычайных разуменняў, але патрэбным і слаўным, што заўсёды напаўняе жыццё і мала кім і калі прыкмячаецца.

Казімер з'яўляўся і прыносіў ёй радасць спаткання.

Адзін раз, пасля таго, як пайшоў Казімер і як яна сама старалася заснуць, увайшла гаспадыня і ціха сказала:

— Да вас нехта прыходзіў.

Сястра прабавала сцішыць яе, але Маня пачула і расплюшчыла вочы:

— Хто прыходзіў?

Яна думала і чакала, што прыйшоў Панкрат Малюжыч.

Жанчына сказала:

— Нейкі хлапец.

— Хто?

— А я не ведаю, хто ён.

Сястра заўважыла, стараючыся спыніць гэтую гаворку:

— Можа, так хто, выпадкам.

Жанчына растлумачыла:

— Ён спачатку хацеў зайсці, пасля, калі дазнаўся, што вы хворая, пастаяў, падумаў і пайшоў дахаты.

— А чаго ж ён пытаўся?

— Сказаў, каб я вам сказала, што прыходзіў Ваця. Сказаў прозвішча, ды я забыла.

— А што больш гаварыў?

— Я ж вам сказала, што пастаяў і пайшоў.

Жанчына пайшла, і зноў надышло маўчанне. Сястра пачала глядзець у акно.

Маня ніякага значэння гэтаму Ваціному прыходу не надала. Бо была забыта цяпер, за ўвесь гэты час, тая гаворка, якая трохі высветліла паводзіны Ваці ў адносінах да яе, гаворка, якая адбылася між ёю і Казімерам у першы час іхняга спаткання. І пачула Маня вестку аб прыходзе Ваці Браніслаўца як звычайнасць, над якою не магла яна цяпер раздумваць.

Былі і такія хвіліны, калі яна адчувала сябе зусім добра і сама сабе здавалася яна зусім здароваю. Але гэта былі кароткія надыходы часу, пасля якіх больш яшчэ згушчалася над ёю цяжкасць хваробы.

Пералом праходзіў пакутна.

І ўжо на другі дзень пасля яго яна была надзвычайна

слабаю, абыякавай да ўсяго вакольнага і да кароткіх наведванняў Казімера і да клапатлівага догляду сястры. Слабыя праявы думкі хісталіся ў галаве яе. Аднак ніякае выразнасці ў гэтым не было.

Яна і не прыкмячала сонечных дзёп за акном цеснага пакоя, толькі часам уваходзілі ў яе слабую свядомасць густатою сваёю медзяныя зыкі блізкіх званоў, пейкі востры стук з вуліцы і часам прарэзлівасць галасоў.

А як пачало праходзіць усё гэта, раптам — адчулася ўсё. Узнялася вялікая гармонія тае часіны, у якую згінула самая сіла хваробы. Сонечныя прамені, што ляжалі па палінялай фарбе дзвярэй, з'яўляліся вясёлаю патрэбнасцю і ўцехаю таксама, як уцехаю магло здавацца ўсё. Ужо ўзніліся і пачыналі кіпець сілы жыцця. Ужо і думка рабілася цвёрдай, і ўспрыманні рыхтаваліся да ўваходу ў іх свету.

Цяпер з'яўляліся жаданні моцных зыкаў, або процілегласці — шырокай і вольнай цішыні па сонечнай зямлі. Павольны ход часу радаваў яе. І радасць гэтая была цяпер роўнаю, без такіх вострых узрываў, што былі рапей.

Слаўнымі былі гэтыя дні.

Яшчэ больш, як першыя дні прыезду сюды яе, чулася вясна. Яна пазнавалася і ў выглядзе асвечаных сонцам сцен пакоя, і ў пячутных плынях сонечнага святла з акна, і ў лёгкай празрыстасці паветра вакол. Не бачылася, але адчувалася глыбіня чыстага неба і пустая лёгкая сінь яго.

Вечары прыносілі ціхі спакой чалавеку. Вечарамі цяпер яна падоўгу ляжала, просячы не запальваць святла, ахвачаная гэтым спакоем. За гэты час змянілася пекалькі сёстраў каля яе, і от адзін раз яна адчула, што можа цяпер адна, і з таго дня толькі старая гаспадыня заходзіла да яе вечарам.

Заняты працаю Казімер заходзіў цяпер да яе радзей. Гаспадыня прыходзіла ўтомленая днём, садзілася, пазяхала і ўздыхала, могучы доўга так сядзець і гаварыць нават маўчаннем сваім. Адзін раз яна сказала, хаваючы твар у ценях месячнага змроку:

— Божа мой, міленькі мой, што гэта з ім робіцца.

— З кім?

— З братам.

Маня не зразумела. І яна растлумачыла:

— З Радзівонам... З Насціным бацькам.

— А што?

— Я ў яго была кагадзе, дык мне аж у сэрца кальнула.

— Чаму?

— Я не ведаю, што з ім рабіцца пачало. Раней, калі вып'е ён, дык гаворыць, гаворыць, а пасля спаць пойдзе, а гэта — сядзіць, плача і ўсё строіцца ехаць да Насці.

— Зусім?

— Хто яго ведае.

— А чаму яму не паехаць хоць даведацца яе?

— А ці ўспамінала яна калі яго?

— Часам даволі часта.

— Можа, яна і адцуралася яго ўжо зусім. Што ж, цяперашнім светам дзеці забываюць па бацькоў.

Маня пастаралася заспакоіць яе:

— Не, Насця не такая.

— Я і думаю, што не такая... Я ж яе на руках выпасїла, над яе не было лепшае дзяўчыны тут... Дык яно не дзіва, што Радзівон так засумаваў па ёй, дачцэ роднай. Сядзіць гэта зусім адзін у хаце і сумуе. Плача, як малое дзіцянё. Што я яго папаўгаворвала, а ён, небарака, усё сваю крыўду выказвае. Я, кажа, адзін застаўся, і ніхто мяне ведаць не хоча. Можа, я памру хутка, і ніхто добрым словам не ўспамяне. Насця, кажа, добрая, яна мяне не забудзе, але ці да гэтага ёй цяпер. У яе свая сям'я і свой клопат...

— Хіба ж Насця не піша яму пісем?

— Яна, можа, і піша, але што ты яму зробіш, яму так здаецца. Вядома, ён нездараўчаны цяпер стаў, немагушчы; ён і здаўных быў хваравекаваты. А цяпер яшчэ горш, можа, і сапраўды гэта ён чуе, што доўга па свеце не пажыве. Да і не дзіва, што ж ён без ніякага догляду, каму гэта клопат пра яго, што ён там адзін, часам, можа, недагледжаны і няма яму часам нават каму слова сказаць.

Яна заплакала, гледзячы на Маню.

— ...Вы от тут ляжалі хворая. Я глядзела на вас і ўсё думала і бедавала так, як цяпер па Радзівону. Божа ж мой, мілепькі мой, прыехала адна, ліха ведае адкуль, ні сваякоў тут, нікога, мусіць, не салодка жылося, калі захварэла адразу. Гэта добра, што брат якраз знайшоўся тут, а то, вядома, што б я магла тут адна парадзіць. Я старалася б ад чыстага сэрца, але ці магла б я зрабіць усё, што трэба было. Хто мне паверыў бы, што тут такая патрэба нагальная...

— Цяпер ужо я буду старацца вам аддзякаваць за ўсю вашу дабрату.

— Дык я ж вельмі рада, што хоць трохі памагла вам,

калі вы так з Насцяю дружылі. Што ж, з усякім чалавекам можа так здарыцца, ці гэта ж дзіва, жывучы па свеце. От так мы ўсе жывём, жывём, а што з намі здарыцца, нічога ніхто не ведае. Гэты самы Радзівон, колькі ён за сваё жыццё гора ўжыў, як быў маладым, дык з малых дзён як пайшоў у работу ды ў клопат, а пасля салдаты з яго чуць духу не дасталі. А вярнуўшыся таксама, як упрогся, дык ніколі нават і спакою не меў.

— А вы з ім жылі?

— Я ўсякся жыла... Я жыла і з ім і асобна. А пасля, як замуж пайшла, дык мы з ім так мала і былі разам. Вядома, у яго свой клопат, а ў мяне свой. От так мы ўсе і жывём... А вы, чула я тут гаворку ў вас, недзе ўжо работу дасталі.

— Дастала.

— Прыслухала я, што некуды выедзеце.

— Выеду.

— А калі?

— От як устану і зусім папраўлюся.

— Хаця ж ці добра там будзе?

— Пабачым, здаецца мне, што добра.

— А далёка куды ці тут дзе блізка каля гораду?

— За некалькі станцый ад гораду, па чыгунцы. Расказвалі мне, што там вельмі вялікія лясы. Лясы і лясы. Смольная хвоя скрозь. А тым часам ідзе вясна і лета. От я думаю там і папраўіцца зусім.

— Вы кажаце лясы... Гэта ж сягоння і Радзівон, от як я кагадзе была ў яго, дык усё ўспамінаў нейкія лясы. Гаварыў усё пра некага, што таксама ў лясы выязджае і заходзіў да яго кватаранта, а пасля зайшоў да яго самога, нават нейкую, казаў, малую справу меў, і яны разам выпілі... Я от што, нават жа і забыла я. Гэта ж усё думала ідучы. Мне нават Радзівон і называў яго, дык я спачатку і падумала — знаёмае нейкае імя і прозвішча, а пасля ўспомніла, што гэта ж ён заходзіў тады да вас, ды пайшоў назад, даведаўшыся, што вы хворая...

Устрывожаным голасам Маня запытала:

— Ваця Браніславец?

— Так, здаецца, гэты самы.

— А ў якія лясы гэта ён збіраецца ехаць?

— А хто ж яго ведае. Ці мала лясоў па свеце.

— А так брат ваш нічога больш не гаварыў?

— Пра што гэта?

— А вот так, што-небудзь пра гэтага чалавека або ў якую мясцовасць ён паедзе. Дзе тыя лясы?

— А што ён мне можа сказаць, ён, мусіць, з ім незнаёмы быў да сённяшняга вечара. У яго ж так бывае. Заўсёды так бывае. Заўсёды так. От спаткае чалавека, здружыцца з ім. Ён жа добры. Кожнаму верыць. Ён з усімі так...

— Дык ён нічога больш не гаварыў?

— Нічога не расказваў. Выпіў, кажа, з ім, а ён ад'язджае ў лясы на нейкую работу там. А чаго ён заходзіў да гэтага кватаранта яго, таксама я не пытала. Нешта мне канечне ўсё ведаць.

— А больш ніхто да мяне не заходзіў гэтымі часамі?

— Ніхто не заходзіў. А можа, хто і заходзіў, як мяне дома не было. Вы тут ляжалі, а я па работу хадзіла. Жыць жа трэба на свеце. А я ведаю, што раз сястра міласэрная тут сядзіць, то вы будзеце дагледжаны. Каб гэта, не дай божа, не было на каго пакінуць, тады ўжо другая справа. А гэта, я ж кажу... Я і сама хварэла не вельмі даўно, але тады яшчэ хлопцы мае былі дома, пры мне. Дык гэта яшчэ паўбяды... Калі дзеці добрыя, ды жывуць яны разам, дык тады і лад ёсць у чалавека. Гэта, напэўна...

Яна яшчэ нешта хацела сказаць больш, але чамусьці змаўчала, уздыхнула і стомлена пазяхнула. Так намаўчаўшы, зноў пачала выціраць рогам хусткі свае заплаканыя вочы і заўважыла:

— Хаця б вы ўжо скарэй направіліся. Вам і самім весялей было б.

— Ды цяпер ужо нічога.

— Яно-то нічога ўжо, дзякаваць богу, але ўсё ж скарэй бы вы тады пры дзеле былі. Я дык так думаю.

— Яно ж так. Тады б я вам пакінула ўжо надакучаць тут.

— Гэта нічога, што надакучаць, вы мне тут нічога, можна сказаць, не надакучылі. Зімою дык у мяне тут, у гэтым пакоі, кватаранты былі, а гэта выехалі. Усё роўна ў мяне тут пуста было. А раз вы з Насцяю дружылі гэтак, дык я нават і рада, што вы сюды з'явіліся. Я люблю памагчы чалавеку. Можа, калі і мне хто паможа. Я ж кажу.

Яна ізноў стала маўчаць, заспакойваючыся ад слёз сваіх.

Цяпер Маня надавала большае значэнне таму, што заходзіў сюды Ваця Браніслявец. «Можа, ён нарочна гэта

едзе якраз туды, у лясы тыя, куды я мушу хутка ехаць. Можа, ён дазнаўся пра гэта ў Панкрата Малюжыча, можа, ён знаёмы з ім і знарок усё гэта робіць». Нічога ў гэтым асаблівага не бачыла яна, аднак жа лёгкая нервовая нейкая трывога апанавала яе. Яна так сядзела ў ясным змроку месячнага вечара, укрываючы на пасцелі ногі ватоваю коўдраю, радуючыся выздараўленню свайму і чамусьці не пакідаючы ўсё трывожыцца ад гэтае весткі пра паездку ў лясы Ваці Браніслаўца. Хацелася даведацца ёй, у якую мясцовасць едзе ён. І ў гэтым было для яе самое непаразуменне — што гэта наогул робіцца з гэтым чалавекам, калі ён заходзіў сюды, і цяпер от гэтакая вестка пра яго. Пасля, нават неўзабаве пасля таго, як зусім папраўілася яна, было ў яе гэтае непаразуменне, чаго яна трывожылася так пра гэтую такую нязначную і звычайную вестку. Аднак жа цяпер настрой гэты доўга не пакідаў яе. Яна ўсё дапытвалася ў той вечар у жанчыны:

— А другі раз ён не заходзіў пасля таго, як застаў мяне хвораю?

— Хто гэта?

— А гэты самы Ваця Браніславец.

— Не, не заходзіў.

— І нічога пэўнага больш не гаварыў тады, чаго прыходзіў ён?

— Не гаварыў... А вы добра ведаеце яго?

— Не добра, але ведаю трохі.

— А хто ж ён такі?

— Тут недзе працуе.

— Вы здаўных яго ведаеце?

— Ён зямляк мой.

— А вельмі далёка адсюль вы радзіліся і гадаваліся?

— У гэтай самай акрузе, але далёка адсюль. Там каля мястэчка хутары і вёска.

— Дык і ён з хутару?

— З мястэчка.

— От што. Мусібыць жа, нечага трэба было яму, раз ён заходзіў.

Маня памаўчала.

— Калі вам трэба, дык я магу заўтра пайсці да Радзівона і запытацца, можа, ён гаварыў яму, куды ён едзе. А не — дык я магу ў гэтага самага цырульніка, яго кватаранта, запытацца. Ён павінен ведаць, раз яны з ім дружаць.

— Хіба яны дружаць?

— А от яшчэ снег быў добра не растаў, як я раз вечарам была ў Радзівона дык бачыла, што ён нечага аціраўся каля цырульні, то, мусіць жа, яны знаёмыя блізкія... А можа, гэта ён галіцца хадзіў, хто яго ведае. Можа, яно і так. Але, калі хочаце, я запытаю.

— Не, не трэба. Вы не пытайце.

Яна запаліла агонь, яшчэ пасядзела трохі і пайшла адпачываць у свой большы пакой, пакінуўшы Маню адну, якая доўга сядзела, акрыўшыся коўдраю і стараючыся забыцца пра гэтую вестку і насмяяцца над сваёю нічым не апраўданаю хвораю трывогай.

Такія доўгія і падобныя да гэтае гаворкі з жанчынаю адбываліся часта цяпер. Маня любіла іх. Простая і слаўная жанчына гэта мір і супакой прыносіла з сабою. Скардзячыся і гаворачы, сцвярджаючы факты жыцця і не паглыбляючыся ў разуменне іх, яна з'яўлялася для Мані як бы процілегласцю ўсім тым падзеям, якія абкружвалі яе ў апошні час. Гаворкі гэтыя не пакідалі ў ёй абсалютна ніякага следу ў думках, не абуджалі іх і толькі пакідалі пасля сябе патрэбную цяпер для яе ціхасць і спакой у настроях.

Кожны новы дзень зварочваў ёй сілы і здароўе.

Адзін раз яшчэ вестка ад Ваці Браніслаўца патрывожыла яе. Жанчына прыйшла з работы, стукала ботамі сваімі па суседнім пакоі, пасля стукнула дзвярыма, нагаварыла з некім у сенцах і прынесла пісьмо, сказаўшы:

— Паштальён прынёс.

— Хіба вы каму паведамлялі адрас мой?

— Не, нікому я не гаварыла.

Жанчына пайшла, а Маня паглядзела на канверт і ўбачыла: штамп быў толькі мясцовы.

Ліст быў ад Ваці Браніслаўца. Было напісана некалькі радкоў: «Бачыў я вас на вуліцы, як вы ішлі, пасля заходзіў сюды, але не захацеў вас трывожыць хворую. А перад гэтым даведаўся, што вы былі ў N., і хацеў ехаць туды, каб пабачыцца з вамі. Гэтымі ж днямі я еду, мусіць, аж да самае зімы, на лясную работу. (Тут была названа чыгуначная станцыя). І я хачу пабачыцца з вамі. Калі вы дазволіце гэта, дык я вас прашу напісаць мне некалькі слоў. (Тут быў напісаны адрас). Вельмі прашу вас. Ваця Браніславец».

Станцыя была не тая. Яна палажыла ліст на акно, не

ведаючы, што рабіць і як думаць пра гэта. Першая яе думка была — паказаць усё гэта Казімеру. Аднак неўзабаве думка гэтая страціла сваю выразнасць, і яна старалася пакуль не думаць пра гэта.

У наступны пасля гэтага дзень яна пробавала хадзіць па пакоі, стаяла трохі каля акна, глядзела на сціснутую нахмуранымі берагамі Свіслач і з задавальненнем слухала дзяцiны і птушыны тлум за акном. Цягнула яе прайсці па гарадской вуліцы, адчуць пад нагамі цвёрдасць тратуара і самой увайсці на цэлы дзень у заклапочанасць гарадскога жыцця. Радасныя сілы зварочваліся да яе.

Яскравая каляровасць усяго вакольнага весяліла ўзрок. За акном адчуваўся вецер. І здавалася, пахне ён вольнымі прасторамі, і ў выглядзе галля, якое варушылася злёгку пад яго слабым напорам, адчувалася веянне яго неабдымнае волі.

Лёгкі пыл узняўся быў на процілеглым беразе. Вот заварушыліся там людзі, прайшлі, а вот іншыя ўжо змянілі іх. А вот блізка, на самай Прыбярэжнай вуліцы, твар старога чалавека здаўся надзвычайна ветлівым і добрым. І ўсё разам з гэтым як бы ўсміхнулася ў надзвычайным уздыме і ласкавасці. Над усім свяціла сонца.

У яе злёгку закружылася галава, яна ўсхвалявалася ад адчування жыцця.

Ківаючыся ў бакі ад слабасці яшчэ, яна дайшла да пасцелі, агледзела пакой, сонечныя лапіны на стале і лягла... Так доўга ляжала яна, адчуваючы ўсё, як свет зноў уцягвае яе ў сваю каляіну і як паўната жыцця зноў апаноўвае ёю.

Так вельмі доўга ляжала яна, аж пакуль не пачаў схіляцца да блізкага канання свайго дзень.

Тады прыйшоў Казімер.

Недзе, за зямнымі далягглядамі, вечар рыхтаваўся збіраць сумныя адценні свае. Горад жа гучаў яшчэ самым разгарам свайго кіпення... На агульным фоне стрыманага гулу, які дабягаў сюды з навакольных вуліц, абзываўся моцна зусім блізка недзе звон. Ён быў густы і цяжкі, і Маня памятала, як у часе хваробы яе зык гэты заўсёды непакоіў яе, балюча ўваходзіў у свядомасць цяжкасцю тупое густаты свае. Цяпер жа здаваўся ён нават патрэбным для паўнаты ўсяго.

Казімер быў утомлены і рад быў сядзець тут. Яны радасна ўсміхнуліся адзін аднаму. Яна зноў надымалася, уста-

ла і села на крэсла каля акна. Казімер хадзіў ад дзвярэй да насцелі і назад, адчуваючы патрэбнасць руху пасля сядні на адным месцы.

— Цяпер я змагу неўзабаве ехаць туды.

— А можа, табе рана яшчэ? Там жа за работу трэба будзе брацца табе.

— Мяне непакоіць тое, што трэба брацца за работу, а я не магу быць там. І там усё чакае мяне.

— Аднак жа давядзецца перад гэтым праверыць здароўе тваё. Бо так жа табе няможна ехаць яшчэ.

— А я чакаю з нецярплівасцю ад'езду таго.

— І я чакаю свайго ад'езду.

— А цябе не пакінула ўсё думка тая паехаць туды, у мястэчка пад той хутар.

— Ну так. Я ўсё думаю туды ехаць. Хоць на адзін месяц, калі больш нельга будзе.

— А мне дзіўна нейк, што цяпер, калі начала напраўляцца я, не гэтак цягне мяне, як раней, набыць там.

— Бо гэта змяніла ў цябе гэтае жаданне тое, што ты на новую работу выедзеш хутка. І ў добрую мясцовасць, дзе ты здолееш і, працуючы, адпачыць. Гэта, напэўна, так.

Яна раптам прыпомніла і сказала:

— Нядаўна я трывожылася.

— Чаго?

— Нават у звязку з сваім ад'ездам.

— Хіба што здарылася?

— Нічога не здарылася. Цяпер і самой мне трохі смешна над сабой.

— Аднак жа нешта было.

— Ваця Браніславец мне пісаў.

— Аб чым ён піша?

Бачачы, што ў вачах яго раптоўна бліснулі агні, яна пастаралася спакойна ўсміхнуцца:

— Можа, і нядобра, што табе паказала гэты ліст, бо я і сама не надаю гэтаму ніякага значэння. Мала што.

Яна яшчэ глядзела, як Казімер трохі як бы ўсхваляваўся нечага, і, сама не ведаючы чаму, гледзячы на яго, разарвала гэты ліст вельмі спакойна і акуратна, і палажыла на стол, дзе ляжалі непрыбранымі ўсялякія абрыўкі папер і цяпер непатрэбныя ўжо рэцэпты.

— Нашто ты зрабіла гэта?

Яна з запытаннем паглядзела Казіміру ў вочы.

— Ну так, нашто ты парвала?

Тады яна адчула сябе як бы вінаватай перад некім:

— Нашто мы надаём значэнне ўсякаму нязначнаму ўчынку. Вельмі шмат мы займаемся дробязямі.

— Ваця Браніславец — ён такі, што я быў нават на адзін момант чуць не ўзненавідзеў Абрама за яго зларадпасць над ім, сам жа, не ведаю чаму, усё ж не люблю яго. Мне здаецца, што доўга прыйдзецца яму яшчэ хістацца па зямлі, пакуль ён цвёрда стане на ёй.

— Што значыць хістацца?

— Я табе, здаецца, гаварыў нешта пра яго ў часы першага нашага спаткання.

Яна падумала трохі. Пасля слабыя адцені нечага, падобнага па здзіўленасць, асвяцілі твар яе. І ў гэтым было нешта тое, што прымусіла Казімера быць уважлівым.

— Што ты хочаш сказаць?

— Я от тады слухала цябе, пасля ж пейк за ўвесь гэты час вы самі ўсе дапамаглі мне ў тым, што перада мною высветліліся адносіны да яго Абрама, адносіны да яго ўсіх вас. У тым, што я кажу, няма нічога вельмі прыхільнага ў мяне да яго, я ад яго далёка заўсёды стаяла і я яго мала ведаю. Аднак, мне здаецца, ува ўсім гэтым не хватае аднаго самага важнага. Вы столькі гаворыце пра яго, што робіцца ясным, што вы цікавіцеся ім. Чаму — гэта не важна для таго, што я сказаць хачу. І чамусьці, так многа гаворачы пра яго ўсякія гэтыя хістанні, ніхто не падумаў — а ці памог яму хто пазбавіцца гэтых хістанняў...

— У гэтым цяжка дапамагчы чалавеку.

— А можа, якраз не цяжка.

— Здаецца, што не так.

— Якраз так. Бо цяпер я сама адчуваю, што мне самой дапамаглі цяпер, і гэта для мяне будзе мець вялікае значэнне ў маім далейшым жыцці.

— У якім жа?

— Хоць бы сабе ў тым, што называецца духовым жыццём ці як іначай, ты мяне тут разумееш.

— Няўжо ў гэтым сэнсе для цябе ўсё гэта такое вялікае значэнне мець будзе?

— Цяпер ужо зусім інакш усё ўва мне... можа, тут вялікую ролю адыгрывае тое, што я перахварэла, як бы нерагарэла ўся, можа, маё выздараўленне расчысціла ўсё тое, што грамадзілася ўва мне, аднак жа ясна адно, што цяпер от усё зусім інакшым мне здаецца, чым было тады.

калі я кагадзе што з'явілася сюды, асабліва, калі першыя гадзіны сядзела тут, у гэтым пакоі, або пасля вечарам хадзіла з табою па гэтай вось вуліцы. Сам ты, мусіць, адчуваў тады, што нейкая цяжкасць душыла мяне. Праўда, усё гэта пачало рассейвацца назаўтра ці паслязаўтра, калі была я ў Панкрата Малюжыча і гаварыла з ім. Такое ўражанне зрабіў ён на мяне, проста сам сабою. Я ж нічога тады не ведала яшчэ, што ён так дапаможа мне... Цяпер ты мне павінен расказаць нешта большае пра сябе, што гаварыў дагэтуль.

— Што?

І ён, радасна смеючыся, глядзеў на яе.

У наступныя хвіліны было ўжо яму слаўна расказваць ёй аб сваіх планах, звязаных з работаю. І дзіўна — займаючыся сваёй працай, ніколі дагэтуль не дзяліўся ён ёю ні з кім. Калі і гаварыў каму, дык спатыкаў у адказ або сухое спачуванне, або нават і непатрэбныя часам парады. І ўсё гэта мела характар сухое справы, чэрствых разважанняў. Гэта ён сам заўважваў нават яшчэ ў бытнасць сваю студэнтам. Цяпер, расказваючы Мані нават самыя падрабязнасці, ён ведаў, што яна не паглыбляецца ў іх, а слухае, аднак, вельмі радасна і прыхільна. Бо нешта большае, чым цікавасць да гэтых патрэбных дробязей, прымушае яе слухаць і злучае іх у гэтай гаворцы. Ён чуў у яе ўважлівасці зацікаўленасць чалавека чалавекам — тым, які займаецца гэтаю вось працай. І тут узнімалася ў ім патрэбнасць самому паглыбіцца ў тое, што прымусіла яе гаварыць кагадзе пра Вацю Браніслаўца, як пра чалавека, якому ніхто не дапамог пазбавіцца хістанняў яго на зямлі.

І от вырастала ў ім нешта вялікае і важнае. Яно поўніла істоту яго надзвычайнай шырынёю, у якую ўваходзіла і работа яго, і імкненне выехаць на нейкі час з горада, і нядобрае тое пачуццё, якое было ў яго да Абрама, і сам Ваця Браніславец, праз якога ўзнялося гэтае пачуццё. І яна сама, блізкая яму Маня. Яна гэтаю от кароткаю гаворкаю з ім цяпер і нават самым фактам з'яўлення свайго тут, тым, што так цвёрда, самастойна і радасна плыла ўвесь час па бурным моры жыцця,— усім гэтым яна абуджвала цяпер у ім тое, што раней трымалася толькі ў пачуццёвай падсвядомасці яго: што нешта ёсць большае, чым кожнадзённыя спрэчкі аб яго медычных формулах, чым тыя адносіны з яго таварышамі, працаўнікамі клінi-

кі, якія зусім знікаюць тады, калі копчыцца спрэчка аб формулах і яны разыдуцца. Гэта вялікае і патрэбнае тут от, у гэтую хвіліну, выразна выяўлялася ў тым, што яму было радасна ад таго, што яна блізка тут, каля яго, што яна была напісала тады некалі той першы ліст да яго, што яны зноў спаткаліся на гэтых жыццёвых дарогах, такіх шырокіх і радасных...

Нарэшце яны нейкі час нічога не гаварылі.

Зноў, як і тады, у час таго першага спаткання іх, такі падобны быў вечар. Толькі больш чулася цяпер звонкая цішыня надыходзячае вясновае ночы.

У гэты вечар яна першы раз пасля хваробы сваёй выйшла на вуліцу. Апіраючыся на руку яго, яна пастаяла колькі хвілін каля гэтага старога дома, спакойнага ў дзеравяным маўчанні гэтае глыбокае старасці сваёй. Цяпер ён звонку здаўся ёй яшчэ больш асеўшым да зямлі, моцныя ж дрэвы над ім вышэй яшчэ ўзнімаліся ўгору. Цёмнае голле іх не варушылася і згушчала ў сабе першы змрок вечара.

Жаночы голас, той самы, які слухаў некалі Казімер, зноў чуўся з таго берага, недзе з сцен бальніцы. Зноў яна спявала «Лета». І зноў ад песні гэтае веяла шырынёю сонечнага ржышча.

Яны зноў, як і тады, так блізка адзін ад аднаго прайшлі некалькі дамоў. Пасля яна папрасіла яго вярнуцца назад.

У цесным пакоі тым развітваліся яны лёгка і радасна. Яны абое чулі, што самае важнае цяпер для іх рабілася шпарка: жыццёвыя сілы ўсё больш і больш поўнілі яе. Сюды дабягалі зыкі вячэрняга жыцця горада. Яны былі магутнымі і глыбокімі, як люстра, у якім адбівалася вялікае кіпенне.

## XV

Ваця Браніславец застаўся ў горадзе на колькі часу больш, чым яму трэба было.

З таго дня, як убачыў ён на вуліцы Маню, прайшло некалькі тыдняў, а ён усё змагаўся з сабою — прыглушыць у сабе свае пачуцці да яе ці паддацца іх бурнаму наплыву. Ён пачуваў, што яны ізноў неміласэрна парушаюць той парадак у ім, які пачаў устанаўляцца, які быў так цяжка здабыт. Перад ім ужо вырысоўваліся былі ра-

дасныя часы працы ў глушы і радасны лясны спакой яе. У тыя гадзіны, калі яшчэ спраўляў ён свае службовыя справы, заканчваў іх і скапчаў падрыхтоўку сваю да выезду, ён адчуваў ужо тыя ўздымы радасці, якія былі знаёмы яму з дзяцінства і якія так рэдка з'яўляліся яму за апошнія часы, калі духовае жыццё яго ганяла яго па сваім кіпучым моры. Таму вось і аддаваўся ён гэтым запяткам сваім увесь. Былі дні, што нават рана вельмі ішоў ён у сваё лясное кіраўніцтва, сам не ведаючы чаму, спяшаючыся туды раней за ўсіх.

Побач жа з гэтым было і другое: навалаю гэтага другога адганяліся гэтыя слаўныя настроі, якія так выразна даводзілі яго да патрэбнай раўнаважнасці, і па месцы іх з'яўлялася ўтрапенне пачуццяў, якія ўзбунтоўвалі ў ім усё. І ў гэтыя хвіліны, у часе гэтага іх, аднак жа, салодкага надыходу, ён повен быў толькі адным — забыць усё і страціць усё, апроч аднаго: бачыць толькі Маню і гаварыць з ёю. У гадзіны такіх уздымаў ён страціў сваю волю і не мог ні за што ўзяцца.

І цяжкімі былі дзеля яго гэтыя хвіліны.

Адзін раз зранку, калі ўсё было гатова ў яго да выезду, ён канчаткова вырашыў — пабачыцца з ёю і тады ехаць безадкладна. І от увесь той дзень прайшоў у шуканні яе адраса. Казімера ён не знайшоў нідзе. І засталося яму толькі адно — парушыць усе тыя ранейшыя свае абяцанні самому сабе і ісці да Абрама. Гэта было цяжка для яго і непрыемна, аднак ён перасіліў сябе і пайшоў. Праходзіла раніца, калі ён стаяў на пляцу супроць вакзала. Яму непрыемнымі былі званкі конкі і яскравасць пудных шыльдаў вакол яго.

Аднак жа здарылася так, што да Абрама ён не папаў: каля цырульні заўважыў ён Радзівона Цівунчыка, які вельмі ўважліва разглядаў пару белых коней, упрэжаных у конку. Ён і сам не ведаў, што нацягнула яго надыйсці да гэтага старога чалавека. Той яго пазнаў адразу:

— А, дык гэта ж вы.

Гаварыў ён шчыра. Аднак жа гэты шчыры тон тануў у нейкай гумарыстычнай інтанацыі голасу, якую ён сам не прымячаў... от гэта адразу прымусіла Ваню напоўніць і свой голас такімі інтанацыямі:

— Ну так, гэта я.

— Нешта ж вы ніколі не заходзіце ў наш бок, каторая пара прайшла з тых часоў.

— З якіх часоў?

— А з тых, як вы тутака былі. Я ж вас добра памятаю. Уга, яшчэ як памятаю.

— Ды я хлопец знакаметны.

— Які вы, я не ведаю, але тады вы вясёлы былі.

— Калі?

— А тады, як выпівалі разам. Я от убачыў вас цяпер і зразу падумаў — вясёлыя людзі ёсць на свеце. Ды яно такі праўда. Сказаць па праўдзе, дык калі чалавек малод ды ў самай сіле, то чаму яму не быць вясёлым. Гэта як свет светам і бог богам, то гэта заўсёды было і будзе. Я сам па сабе ведаю. Бывала, і я быў маладым.

— А некалі і я буду старым.

— Чаму не будзеце... Але вы лішне не спяшайцеся быць старым.

Цівунчык усміхнуўся.

— ...Хто спяшае быць старым, той жыць не ўмее. Цяпер дык мне здаецца часам, што трэба жыць, як набяжыць, але я і сам сабе не веру, бо нашто тады жыць, калі так. Трэба жыць, каб смачна было жыць.

— А дзе ж таго смаку дастаць?

— Чаму. Малады чалавек усяго дастане. Калі мае сілу і здароўе, дык чаго захочаш, да ўсяго можна дайсці. Абы толькі хацеў чалавек. І хто да чаго не дайшоў, то няма чаго тут лішне каго вінаваціць — сам вінават. Гэта я магу паручыцца.

Стоячы так пасярод пляца, яны гаварылі. Цівунчык пачынаў падвясельвацца, знайшоўшы сабе чалавека, які не толькі ўважліва слухае, але і сам, відаць, сёе-тое разумее ў складанай філасофіі жыцця. Ваця Браніславец рад быў адпачнуць ад усяго з гэтым чалавекам.

— Хіба вы, дзядзька, змоладу да многага дайшлі былі?

— Чорт яго дайшоў.

— А я думаў, што вы гэта з уласнае практыкі ўсё ведаеце.

— Што?

— Што малады чалавек да ўсяго дайсці можа.

— Дзе бачылі, з якое там практыкі.

— А адкуль жа?

— Дык гэта ж вядома, што так павінна быць.

— А калі няма гэтага?

— Ну, дык трэба, каб было.

— Вы гэта даўно ў гэтым упэўніліся?

— А хто яго ведае, гэта як калі здасца чалавеку.
— Дык вы ні да чога вельмі так не дайшлі змоладу?
— Скажу проста, што не дайшоў.
— Чаму?
— Вельмі ж гараваць давялося, а такім парадкам далёка не зойдзеш. А дайсці, сказаць, і было куды. Як паглядзіш цяпер, дык той падаўся туды, а той туды...
— А вы?
— ...а мяне калі прыперла бяда, дык я...
— Аднак жа, можа, той, хто, па-вашаму, дайшоў, куды хацеў, таксама думае — от ліха на яго, людзі дык упь да чаго падаїходзілі, а я дык так і бадзяюся па свеце як непрыкаяны.
— Гэта можа быць.
— Ну дык от.
— Чалавечае вока няпоўнае. Гэта самая важная праўда. На ёй увесь свет стаіць і стаяць будзе.
Яны паволі падышлі да цырульні. Цівунчык не мог не запрасіць Вацю зайсці да сябе. Пад пажоўклаю столлю яго кватэры ўжо гулі першыя мухі. Адмысловаю прытульнасцю веяла ад усіх дробных рэчаў, параскіданых па кватэры. Каля дзвярэй пад нагамі валялася недаплеценая каробка і размочаныя ў вадзе клубкі выструганай лазы. Вельмі стала Цівунчык растлумачыў:
— От корпаюся патроху. Бывала, дык я вельмі механік быў па гэтую штуку, а цяпер дык рукі не так служаць, ды яшчэ, каб яна згарэла, салома папалася нейкая трухлявая, ломіцца. Я яе на ноч у сенцах пад куфрам клаў, у вільгаць, дык яна трохі адышла, але, мусіць, яна доўга не натрымае. Няма саломы.
Пахла чадам і цыбуляю.
Цівунчык усё нечага клапаціўся. Ваця сядзеў трохі ў радасным адчуванні, што не трэба яму нікуды спяшацца. Цівунчык на кароткі час развеяў у ім яго нядаўняе ўтрапенне.
Пасля яны яшчэ трохі гаварылі — цяпер ужо Ваця слухаў, зрэдку ўстаўляючы словы, а Цівунчык гаварыў пра ўсё шматлікае і дробнае, што ў галаве Ваці пераблыталася зараз жа, як ён адгэтуль выйшаў.
Цівунчык, аднак, дапытаўся ў яго, чаго ён ішоў тут каля цырульні. Цівунчык нечага быў нездаволены Абрамам, сказаў, што ён сапсаваўся, стаў горшым, як быў, і што з ім цяпер цяжка ладзіць.

Шчыра падабаўся Вацю Цівунчык. Ён абудзіў у ім добрае жаданне больш і часта гаварыць з ім. Ён быў падняўся ўжо, каб ісці, пасля зноў сеў і застаўся яшчэ на нейкі час.

Цівунчык неўзабаве сам расказаў, як прыходзіў сюды Казімер, як пытаўся адраса нейкае сястры сваёй, якая была пядаўна яшчэ кватаранткаю ў яго ж уласнае дачкі Насці ў іншым горадзе. За гэтую нечаканую і такую патрэбную вестку адразу і ўхваціўся Ваця Браніславец. Спакойны нейкі, з чыстымі настроямі дасядзеў ён тут аж да тае пары, пакуль Цівунчык стаў збіраць свой халасцяцкі абед. Ён не быў здзіўлены тым, што Ваця так доўга і без ніякае, мусіць, патрэбы сядзіць у яго. Ён наогул ніколі нічому не дзівіўся на свеце. Цяпер ён нават запрасіў Вацю абедаць. Дастаючы з печы гаршчок, накрыты днушкаю, ён ветліва звярнуўся да Ваці:

— А ведаеце вы, што...

— Ну што,— абазваўся таксама ветліва Ваця, прычым не сцярпеў, каб не прыжмурыць адно вока.

— Можа б, вы паабедалі са мной?

— Ды не. Я пайду дадому. Ешце сабе.

— Яй-богу. Чаму вам не паабедаць. У гурце весялей, хоць, праўда, тут гурт невялікі.

— А гэта вы кожны дзень самі сабе абед варыце?

— Чорт яго варыць кожны дзень. От я пазаўчора як зварыў быў сабе капусту з грыбамі, дык я яе і ўчора еў, і на сягоння яшчэ засталося. На нас дваіх яшчэ як мае быць хопіць. Яй-богу. Грыбкі плаваюць. А грыбоў я дастаў у Цікілевічавае жонкі. Я там у яго плот папраўляў, дык вы думаеце з яго лёгка плату сарваць — от каб выпіць, дык ён механік на гэта, а гэта от так сім-тым сарваў. Як той казаў — з ліхога торгу з носам... Можа, і ведаеце яго.

— Каго гэта?

— Цікілевіча гэтага самага.

— Не, не ведаю.

— Не ведаеце?

— Не.

— Ага... а я думаў, што вы маглі б яго ведаць. Цяжкі чалавек. Сіберны чалавек. Не дай бог... Ну, дык сядайце, будзем есці.

— Не, дзякую вам.

Тут Цівунчык сеў абедаць. Дастаў з-за коміна яшчэ некалькі цыбулін, насыпаў на стол солі. Ваця глядзеў, як

ён, з'еўшы капусту, прынёс аднекуль з сянеі халоднага мяса, моўчкі ўстаў і пайшоў. Ён быў здаволены цяпер тым, што спаткаў гэтага старога чалавека. Ён добра запомніў адрас, што казаў яму Радзівон Цівунчык.

А Цівунчык правёў яго на парог сянец і вярнуўся назад, раздумваючы над тым, што ёсць па свеце такія слаўныя людзі, хоць і маладыя, слаўнейшых над якімі на свеце няма.

Ваця ішоў дадому.

І самае важнае для яго цяпер і радаснае для яго ажыццявілася: нутром сваім ведаў ён цяпер, што ўсё ж светласць жыцця цяпер перамагае ў яго. Нядаўняя гаворка ў Радзівона Цівунчыка давяла яго да светлых настрояў.

Аднак, калі рашыўся ён ісці пашукаць Маню недзе там у Цівунчыкавае сястры, зноў захістаўся ён. З цяжкасцю перамогшы хістанне сваё, пайшоў ён цвёрда і рашуча. Там і выйшла насустрач яму на ганак сястра, што сядзела каля хворае Мані.

Расчараванасць мучыла яго, калі ішоў ён назад. У яго цяпер з'яўляліся думкі напісаць ёй пра ўсё, што так мучыла яго і трывожыла, і радавала, і было звязана з ёю. Ён быў збянтэжаны нейкі час пасля гэтага.

Нарэшце ён напісаў пра ўсё коратка, той самы ліст, які і атрымала Маня. Паслаўшы ліст, ён хацеў заспакоіцца, але гэта не ўдалося яму. Уся істота яго цягнулася да яе. У лісце нічога не было сказана таго, што трэба было сказаць,— так думаў ён. І вялікая трывога, што яна надзвычайна далёка ад яго, што яна чужая для яго і што ён для яе непатрэбны і, можа, нават праціўны,— узнімала ў ім вострую пакуту. І зноў пачало адбывацца з ім тое, што было некалькі тыдняў таму: можа, толькі ляснаяя глуш, куды трэба спяшацца хутчэй, як-небудзь заспакоіць мяне, бо дзейнічаць і дамагацца — ці можна мне цяпер, калі яна хворая. Яна сама павінна адказаць на ліст, калі ёй трэба гэта будзе.

І на некалькі дзён пасля пасылкі ліста ён застаўся чакаць.

Гэтыя дні праводзіў ён нядобра. І зноў цягнула яго ў кавярню на Каломенскай вуліцы. Сквер цяпер каля яе зазелянеў і павесялеў. У кавярні з'явілася новая музыка: дзве пісклівыя скрыпкі і гармонія.

— От каб вам яшчэ, браткі, бубен сюды,— жартаваў Ваця, умешваючыся ў іх кампанію.

Стары скрыпач, вельмі мізэрны і пакутны, глядзеў яму ў вочы і гаварыў:

— Што вам зайграць?

— Іграйце, што хочаце.

— Не, вы скажыце — што.

— Мне абы музыка.

— Трохі не гэтак. Бо музыка не можа быць — абы. Усякае ігранне трэба падзяляць: мажор і мінор. Дык што вы хочаце — мажор ці мінор?

Ваця паставіў піва і сказаў: мажор.

Гэта было пад вечар. А назаўтра ён раней часу прыйшоў абедаць сюды. Бо ў лясным кіраўніцтве работы ўжо яму не было цяпер, а сядзець дома ён не мог. Тут ізноў спаткаў тую сваю знаёмую старую кампанію сваіх таварышаў па службе.

«Ім толькі гэтага і трэба, каб парвацца на мяне»,— падумаў ён са злосцю і падсеў да іх.

А яны былі рады яму:

— Ваця.

— Ваця, дзе ты прападаеш?

— Ваця, браточак, а я ж думаў, што цябе ўжо даўно няма тут.

— А дзе ж я буду?

— Я думаў, можа, даўно ўжо ты ногі калечыш сабе, цягаючыся па лесе.

— Не, яшчэ не калечу.

— Чаму цябе не відна лідзе?

— Ці не ажаніўся ты, Ваця?

Ён спачатку бараніўся ад гэтых вясёлых нападкаў, а пасля памаўчаў, пачухаў у валасах пад вухам і запрапанаваў:

— От што, браткі. Калі хто ў бога веруе, дык давайце складзёмся ды па чарцы вып'ем.

Ён гэта гаварыў жартаўліва, а хацелася яму чым-небудзь укалоць іх. Яны здаваліся яму спакойнымі і задаволенымі.

— Ты праўду кажаш, Ваця. Даўно ты не фундзіў нам.

— Я ўсё чакаў, пакуль ты мне адфундзіш назад.

— Ну і скупы ж ты, Ваця.

Яму надакучыла гэтая пустая гаворка, якая магла цягнуцца ліха ведае колькі. Ён падазваў падавальнічыка на стол і заказаў гарэлкі і піва. У працэсе ўсяго гэтага

ў яго з'явілася замілаванне да ўсёй гэтай справы. Кутнуць, от чаго пачало раптам хацецца яму.

Так і прайшло некалькі гадзін у гэтай кавярні. Той самы музыкант махаў дрэнна склееным смыком сваім, пасля біў ім па струнах, жадаючы змяніць пісклівы зык іх на грубейшы і вясёлы. Аднак жа можна было яму і не старацца пад гэтым — гармонія глушыла ўсе іншыя зыкі, якія былі тут.

Іх было тут усіх шэсць чалавек за адным сталом, не лічачы музыкантаў, якія пасля падселі сюды. Пасля да іх далучацца сталі яшчэ больш нейкія незнаёмыя людзі. Пакідалі свае столікі і падсядалі да іх. Весялосць была нуднаю і нудота вясёлаю.

Будучы вясёлым ужо ад хмелю ў галаве, але не разышоўшыся яшчэ ў бурныя ўзрывы пачуццяў, Ваця Браніславец зноў быў падобны да сябе самога тады, калі некалькі тыдняў таму назад за гэтым самым сталом піў з гэтымі самымі людзьмі. Залажыўшы рукі ў кішэні і перагінаючыся цераз стол, паблісканочы вачыма, ён крычаў чалавеку напроці сябе:

— Ты, член ты ці сакратар, чына твайго і дагэтуль не магу пазнаць. Што ты сочыш за мною, як арыштантава сумленне?

— Маўчы, Ваця.

— Не, ты мне скажы... Ты памятаеш, як ты навучэннямі сваімі на жыццёвую дарогу хацеў узвясці мяне? Усё ўзводзіў мяне. Памятаеш? Настаўнік праўды.

— Што ты маеш да мяне,. Ваця?

— Памятаеш, як ты прабіраў мяне? Даводзіў мне, што я гіну на дрэнным шляху.

— Што ты гэтым сказаць хочаш, Ваця?

— Тое, што гавару.

— А для чаго гаворыш?

— А для таго, каб ты больш за ўсё займаўся сабою, гэта табе неабходна, калі не хочаш увесь век свой звекаваць гэтым самым членам ці сакратаром, хто цябе ведае.

— Што значыць — членам ці сакратаром?

— А ты сам падумай, што гэта значыць.

— Нашто думаць. Тут няма чаго і думаць — нашто адмыкаць адамкнёныя дзверы, гэта тое самае, што рэшатам ваду насіць.

— Ну, яно пэўна, што так, нашто думаць. Няхай нехта другі падумае. Тут справа ясна. Для гэтага ёсць правады-

ры, усялякія вялікія кіраўнікі, каб думаць. А наша справа маленькая — дадзена гатовая думка — от табе і ўсё. Не варушыся...

— Як так?

— А вот так, што лягчэй так, не думаўшы. Думальшчыкі ёсць, і няхай ім бог дасць здароўя, каб за ўсіх нас думаць маглі. Так ці не, таварыш член ці сакратар?

— Чаго ты хочаш, Ваця?

— Мы ж так рады былі, што спаткалі цябе. Ваця, што з табою робіцца, што за няшчасце ў цябе? Чаму ты злуеш на ўвесь свет, няўжо ты і да трупы свае маеш намер быць такім лёгкадумным і неабгрунтаваным у словах сваіх.

— Што значыць грунт?

Той раптам зарагатаў:

— Грунт — гэта цвёрдая зямля. І от калі, значыць, укопваць слуп які-небудзь у зямлю або падмуроўку рабіць над вялікі будынак, дык от, значыць, брат ты мой, тут адразу трэба дайсці да грунту, калі ты хочаш, каб будынак моцна стаяў. Тут я табе магу такое тлумачэнне развесці, што табе адразу ясным зробіцца, што такое грунт. Сядзь, братка, і паслухай лекцыю пра грунт.

Ваця ўстаў, нікому нічога не кажучы, выйшаў і пайшоў хадзіць па горадзе.

З цягам таго, як працвярэзваўся ён, хацелася яму ўсё больш і больш пагаварыць з кім такім, хто б сам быў рад ціхай і спакойнай гаворцы. І от ён, не могучы саўладаць з гэтым імкненнем, сам нарочна пайшоў да Радзівона Цівунчыка. Яму было ўсё роўна, спаткае ён тут дзе-небудзь Казімера ці Абрама ці не.

Яму было гэта нецікава цяпер.

Пад столлю Цівунчыкавае кватэры цямнеў дзень, чуючы блізкі надыход ночы. Мухі гулі над сталом і над печчу. Цівунчык піў квас. Сядзеў за сталом, заваленым усякімі дробнымі рэчамі, і дробна гойдаў нагамі. Ён вельмі ажывіўся, убачыўшы Вацю:

— Ну, яй-богу ж, як я рад, што вы зайшлі. Жывы чалавек, я пра вас гэта кожнаму скажу заўсёды.

— Што гэта вы, дзядзька, робіце?

— Што я раблю. На гэтым нажы быў дзеравяны тронак, а гэты касцяны тронак быў на другім нажы, на гэтым от, паломаным і ржавым. А той нож — як брытва. Дык я от і перасаджваю добры тронак з дрэннага нажа на добры нож з брыдкім тронкам. Вам ясна ці не?

— Дзіва, што ясна, уга.

— Ну, дык от калі ясна, то і добра. А я ўтаміўся, пакуль гэтую косць сарваў, дык бачыце, якія мазалі. Няхай яно калом пойдзе.

Ён устаў з лавы і паказаў Вацю рукі — там і сапраўды былі нацёртыя чырвоныя мазалі.

— Канчайце, дзядзька, многа вы, як бачу я, на гэтым рамястве не заробіце. Нічога не будзе.

— Які тут заработак. Хаця от каб нож быў добры ў гаспадарцы. Жывучы, усё трэба.

Вацю пасядзеў тут хвілін дзесяць, пасля чаго яны весела абодва выйшлі на вуліцу, агледзелі пануры будынак вакзала і рушылі ў піўную. Радзівон Цівунчык быў рад.

— Братка ж ты мой,— гаварыў Радзівон Цівунчык,— я вам зараз скажу навіну.

— Якую навіну?

— Навіну якую? Вы ж Абрама Ватасона, цырульніка гэтага майго, ведаеце, напэўна?

— І добра ведаю.

— Дык от, пакідае быць цырульнікам.

Вацю прыпыніўся, шчыра зацікавіўшыся:

— А кім ён пачынае быць?

— Хто яго знае. Здаецца, некуды ў людзі выходзіць. Нічога вам больш сказаць не магу.

У піўной яны праседзелі гадзіны дзве — Вацю, аддаючыся радасці гаворкі з чалавекам, які не паглыбляецца ні ў якую філасофію, ні ў адвечныя чалавечыя хітрыкі; Цівунчык — захапляючыся надзвычайным чалавекам, хоць і маладым вельмі.

Кожны па-свойму, яны былі вельмі задаволены адзін адным.

Вацю чуў, што апошнія дні ён праводзіць у горадзе.

І пасля гэтае піўное развіталіся адзін з адным кожны па-свойму. Цівунчык шчыра вельмі запрашаў Вацю заходзіць да яго, хоць нават і заўтра вечарам, бо ён тады будзе вольны, скончыўшы дзе-небудзь сваю падзённую работу. Вацю Бранiславец адчуваў нешта іншае, ціснучы Цівунчыку руку, ён, хоць і гаварыў, што калі-небудзь зойдзе, аднак жа іншае, як глыбокая журба, поўніла яго. Журба — можа, нават па гэтым самым старым і слаўным чалавеку. Вельмі паволі Цівунчык падаваўся ў свой бок, у кірунку да ганка цырульні, цяпер зусім цёмнае на неасвечаным баку вуліцы. Вацю Бранiславец узбіраўся ўверх

на ўсходах на мост. Але абодва яны чулі, як з-за вакзальных прастораў беглі вострыя і вялікія зыкі, як з другога боку глуха канчаў свой дзённы шум горад. На пляцу каля вакзала мітусіліся людзі. Надыходзіла і ўстанаўлялася восень. Ясна гарэла святло, далей жа ад яго зямля і сцены хаваліся ў змроку.

З піўной выйшла новая кампанія. Яны яшчэ абодва бачылі і чулі яе. Нехта з яе выйшаў наперад, нехта замітусіўся каля яго збоку. Грубаваты голас заспяваў. Матыў песні быў надзвычайна гуллівы:

Я дзяўчыначка нічога,
Маці ж вельмі брыдкая.

Ваця Браніславец з задаваленнем паслухаў песню і пастаяў на мосце. Ён як бы забыў усё. Галава яго вельмі хутка трациіла сваю хмельную затуманенасць. Ён пайшоў хутка, радасна адчуваючы пад нагамі цвёрды брук шырокае і пустое вуліцы. Тут было цёмна вакол.

Як падыходзіў дадому — думка заварушылася ў галаве яго: можа, я застану ад Мані ліст дома. Ніякага ліста не было. І от ён зноў пачаў напаўняцца жаданнем быць да яе блізкім.

Радзівон жа Цівунчык прапусціў міма сябе вясёлую кампанію, што выйшла з піўной. Не хочучы спаць, будучы вясёла настроеным ад слабага хмелю з халоднага піва, што ледзьве кружыў яго галаву, ён нават некалькі крокаў прайшоў услед за гэтымі людзьмі.

Я дзяўчыначка нічога,
Маці ж вельмі брыдкая.

Цівунчык нават папрабаваў злёгку падцягнуць. Але нічога ў яго не выйшла. Тады ён прыпыніўся і стаў глядзець ім услед. Ён бачыў, як постаці іх зусім схаваліся ў змроку ранняе ночы. Чуў, як пасля іх тут зусім ціха стала. Стаяў так і поўніўся ўсім — і пядаўнымі зыкамі, і цяперашняю ціпшынёю, і вакзальным і гарадскім святлом, і цемению гэтае вуліцы,— усім, што было вакол і што існавала ў ім і над ім. Ён так стаяў некалькі доўгіх хвілін, і яму не хацелася ісці ў хату. Вострае захапленне апаноўвала ім.

Ён азіраўся і глядзеў паабапал.

Над горадам узнімалася святло ліхтарных лямп. Нечым недзе званілі. З вакзала чуўся крык паравіка і жа-

лезны стук вагонаў. Моцна ляскаталі калёсы недзе на запасных лініях.

Ён усё стаяў пасярод пустое вуліцы.

— Божачка ж мой, міленькі мой,— сказаў ён сам сабе і не скончыў пачатага сказа.

Вельмі паволі пайшоў ён назад, дзе цьмяны ліхтарык нясмела асвечваў нумар яго старога дома.

Над горадам мацней бялела святло.

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

## I

Іншым тварам глянула на яе зямля.

Хвойныя лясы былі зялёнымі і маладымі, нават у старасці сваёй. Іх бяскрайнасць поўніла чалавека спакоем і ціхаю воляй. І з іх зялёных нетраў, з дажджавых хмар над імі, з палёў за імі і перад імі адчувалася прастора, дзе раскашэльваўся жытамі і дрэвамі той забыты хутар. Ён здаваўся блізкім вось тут, за першымі сценамі лясной гушчырні, у жаўтаватых і вымаклых за прадвесню палях.

Хмурны быў той дзень, калі Маня з'явілася тут. Хмурны вясёлаю веснавою хмурнасцю, мяккаю і лагоднаю. Цёплыя хмары нізка плылі над зямлёю, удалечы асядалі на вострыя верхавіны лясоў. Размашыстаю прытульнасцю поўнілася ўсё. Зямля радасна чакала кіпучых удараў дажджавое вады, каб пасля ў адзін дзень усцешыць жывое вока густатою маладых усходаў. І чакаючы, шырока і вольна дыхала паўнатою грудзей сваіх.

Хмурыліся дарогі, чарнелі каляіны. Маўклівы камень пры дарогах абрастаў вясёлым аксамітам.

Так тут было шырока і вольна.

Некалькі раз у дзень грымелі тут наязды, і Панкрат Малюжыч цяпер цікаўна аглядаў гэтую мясцовасць, востра пaглядаючы паверх прыдарожных зараснікаў і збіраючы на твары сваім усю сілу свайго захаплення.

Накрыты саломаю, сіняваты пастарэлым дрэвам сцен сваіх, расчурхана ўглядаўся ў поле і лес нізкі будынак вясковае школы. Ад яго да высока ўзнятага моста на чыгунцы, над вузкаю рэчкай, бегла вузкая сцежка і на адкосе ўзыходзіла на зарослы дзірваном насып. Другая, уздоўж паўз адкос, ішла на станцыю — прытульную і спакойную тут; радасную гэтым жа спакоем сваім. Паабапал чыгуначнае лініі гусціліся пасёлкі, вёскі і хутары — людскія

прытулкі былі сціплымі і выглядам сваім не жадалі раскашэльвацца і крычаць пра сябе.

Неба хмурылася чатыры дні, на пяты ж дзень хмурнасць стала мокраю ад дажджу. Пад вечар, калі зямля пад нагамі абцягнулася ад вільгаці, Маня хадзіла на станцыю спатыкаць поезд. Ён тут стаяў адну хвіліну, і за гэты час Маня ўсміхнулася Панкрату Малюжычу, адказваючы гэтым на яго вясёлы бляск белых вачэй. Цяжка ўзрушыўшы поезд і пускаючы яго далей, ён памахаў ёй рукою і нешта гукнуў здалёк, чаго яна з-за грукату поезда не пачула. Яна прайшла некалькі крокаў побач з паравіком, несучы ў сабе жаданне ўскочыць у гэтую чорную пару. Пасля, як паравік мінуў яе і выпрэджваць пачалі вагоны, яна прыпынілася і крыкнула ўслед:

— Што, Панкрат, што?!

Ужо апошнія вагоны прабягалі паўз яе, і яна сама ледзьве пачула свой голас. Яна не спяшалася ісці адсюль. Увесь адвячорак яна праходзіла па палях, адчуваючы, як родная ласкавасць поля канчаткова залечвае сляды нядаўняй хваробы. Бязлюдная станцыя поўнілася змрокам, калі яна ішла праз яе назад. Жоўтыя дзеравяныя будынкі, разам з дрэвамі, зямлёй і вадой, здавалася, поўніліся ўсім і слухалі ўсё маўчаннем сваім.

Маня паволі дайшла сцежкаю да школы.

Так праходзілі гэты час дні яе тут. Яна сама сябе ўнікала, што дагэтуль не сабралася напісаць нікому ў горад, нават Казіміру. Пісаць жа ёй не хацелася фізічна. Як бы яна адпачывала гэты час нават ад сваіх блізкіх людзей, што засталіся ў горадзе. У часе ад'езду Казімер з Абрамам праводзілі яе на вакзал, а больш за ўсіх клапаціўся Радзівон Цівунчык. Трымаючы рукі ў кішэнях, ён стаяў перад вакзальным пад'ездам і, міргаючы вачыма, гаварыў, спяшаючыся выказаць чым хутчэй усё:

— Хаця б якую-небудзь вестку давайце аб сабе, а то цяперашнія людзі такія, што калі ад'ехаў куды, дык і забываецца.

І ён не думаў пра тое, што ледзьве быў знаёмы з Маняю, бачачы яе толькі два ці тры разы.

Апынуўшыся адна сярод палёў, яна ў ціхім захапленні аддалася гэнай ціпіні, набіраючыся ў ёй сіл для далейшых дзён сваіх.

Кожны дзень збіраліся ў школу дзеці. І спачатку непрывычна было ёй, але слаўна важдацца з імі. Але хутка

справа гэтая пачала рабіцца як бы знаёмаю здаўных. Яна думала пра малую Анцю, бачачы дзяўчатак у шарачковых андараках; яна ўспаміпала Казімера на хутары, бачачы хлапчукоў у кароткіх парудзелых і вышмарганых суконных вопратках. Цяпер успаміпала яна паасобныя драбніцы ў сваіх даўнейшых адчуваннях думкамі. Фактычна не любячы тады, у малыя гады, Казімера, яна дзіцячым сэрцам сваім чула, што як бы нейкая безнадзейная туманнасць засцілае шлях перад ім. Аб Анці ж з'яўлялася жальба. Гледзячы цяпер на гэтых малых вучняў сваіх, яна чула ў іх і вакол іх радасную сілу і светлую волю.

— Будзем патроху пераварочваць усё,— гаварыў раз бацька адпае дзяўчынкі, палічыўшы патрэбным пагаварыць з настаўніцаю. І ў гэтых словах яго пачула яна ўсю шырыню справы, якую хацеў выказаць чалавек. Што і зямля будзе больш радзіць, і поту можна будзе менш ліць на яе, і іншыя андаракі, лепшыя і мягчэйшыя, будуць насіць дзяўчаты. І Анця, якая народзіцца, не будзе бегчы босая па халоднай раллі, завучы бацьку, які прыйшоў да сваякоў прасіць старое вопраткі пасля некага памершага. А калі і прыйдзе ён па яе, дык скажа адразу, чаго прыйшоў і чаго яму патрэбна, і не будзе крывіць душою сваёю, топячы сваё вялікае хараство ў непраходных нетрах дробных хітрыкаў і ўласнае прыніжанасці.

«Будзем патроху пераварочваць усё»,— ён, гэты чалавек, затульваючы на грудзях старую жыкетку без гузікаў, гаварыў пра выкарчоўванне кустоў па не выкарыстанай дагэтуль ялавіне, пра равы, якія выкапаны на ўзбалоцці, каб пасушылі паплавы, пра тое, што дзяўчына яго не будзе да канца хадзіць у школу, а спачатку траўня пакіне, бо без яе вясною дома як без рук...

«Будзе такім жа самым сінім неба і такою ж чорнаю зямля, поўнаю задуменасці і колераў суму ўвосень і лёгкай вясёласці ўвясну. Будуць ісці і ціхія і бурныя дажджы, прыносячы зямлі ўраджаі. І будзе таксама сонца асвечваць параджэнне і смерць чалавека, і ў яго святле ў людзей будуць блішчаць слёзы смутку і жалобы і слёзы радасці. Бо жыў чалавек! Жыве і папава ўваходзіць у жыццё, абнаўляючы яго. Сам жа ён будзе радасным і вялікім, бурна жывучы прыгажосцю сваёю, абноўлены, за доўгія гады папава перарадзіўшыся».

І яна жыла і працавала тут.

Яна доўга стаяла перад сваім ганкам, бачачы, як пра-

чыпчаўся захад. І рада была, што нейкі час тут ніхто яе не будзе трывожыць. Буры заціхлі і аслабанялі ад сябе чалавека.

Маўчала трава, лясы і поле.

Яна ўжо хацела ісці ў хату, як заўважыла, што па сцежцы са станцыі нехта спяшаўся, высокі і да прыкрасці знаёмы постаццю і паходкаю. Яна бачыла яго кожны дзень, як ён разносіў па вакольных вёсках і хутарах лісты і газеты, праходзячы паўз школу.

— Мне? — запытала яна.

— Вам... Добры вечар.

Яна думала, што ліст ад Казімера. Павольна пайшла яна ў пакоі свой, запаліла пяцінумаровую лямпу на высокім століку ў кутку. Сцены ў пакойчыку былі пабелены, геаграфічная карта вісела побач дзвярэй. Была яшчэ нізенькая шафа, каля яе два крэслы і, замест стала, каля дзвярэй, школьная лаўка.

На канверце характар пісання быў незнаёмы, не Казімераў. Канверт быў пажаўцелы і памяты, відаць, яшчэ да таго часу, калі скарысталі яго. «Недзе з глушы»,— падумала яна спакойна. Разгледзела пячатку і дату на ёй. Пячатка была адной з суседніх станцый, па гэтай самай чыгунцы. Паводле даты, ліст быў высланы ў той жа самы дзень. Не стараючыся здагадацца, ад каго ліст, Маня разарвала канверт і пачала чытаць. Тут, у гэтым спакоі, дзіўным было ёй, што павеяла раптам ад ліста гэтага тымі, пакінутымі кагадзе, бурамі. Ваця Браніславец пісаў:

«...Я знаходжуся на суседняй, ува ўсякім разе на бліжэй ад Вас станцыі. Можа, я не маю права ці, магчыма, і патрэбы навязваць Вам весткі пра сябе, але мне хочацца сказаць, што я перажываю нейкі неспакой. Праўда, тут я вельмі аддаўся працы, і гэта дапамагае мне, але ўсё ж прымушан прызнацца я, што большага чакаў ад свайго выезду сюды. Вы нічога гэтага не ведаеце, што і як было са мною і як я жыў. Пра гэта я нікому не даводжу да ведама і Вам таксама, бо не цікава гэта і, можа, нават непатрэбна другому чалавеку. Але Вы самі ведаеце, чаму я пішу Вам і раней пісаў. Мне хочацца быць блізкім да Вас, пабачыцца з Вамі. Перад выездам сваім, калі я меўся выязджаць сюды, я чакаў адказу на той свой кароткі ліст. І не дачакаўшыся, паехаў, даведаўшыся ад нашых агульных знаёмых, дзе Вы будзеце. І цяпер я пішу затым,

каб Вы назначылі мне час, калі прыехаць на Вашу станцыю пабачыцца і нагаварыць. Я не надакучаю Вам, гэта я ведаю, хоць мо хто іншы ці, можа, нават і Вы думаеце адваротнае. Нашы лясныя вучасткі даходзяць да Вашай станцыі, і магчыма, што мне давядзецца непаўмысля быць там... Я ніколі не задумваўся над тым, чаму Вы мне не адказалі на мой ліст. На гэта ў Вас свае прычыны. А ўчынкі чалавека, калі нават на іх часам і няма цвёрдых прычын, я паважаю. (Можа, Вы і адказалі мне пасля таго, як я паехаў. Магчыма). Я думаю, што Вы адкажаце мне цяпер. І прашу аб гэтым...»

Трохі ўсхваляваўшыся, але ўсё ж спакойна, палажыла яна на стол прачытаны ліст, не ведаючы, што ёй рабіць з ім.

І от яна зноў пайшла ў веснавы вечар. Цёмна было. І ў далёкіх і блізкіх людскіх прытулках блішчалі чырвоным святлом вокны. Зыкі былі безутрапёныя і гулкія. Лясы аддавалі іх для ўсяе прасторы. Яна прайшла да чыгуначнага насыпу і назад. Пад мостам задумёна скардзілася на каменнях звонкая рэчка, і вострым халаднаватым паветрам цягнула ад яе.

І тады, у гэты вечар, зноў сціснулася сэрца яе навалаю ўспамінаў, для якіх думкі саступалі свае месца, адступаючы перад адчуваннямі. Тады ў яе пачало спець пераконанне патрэбы ў першы ж вольны дзень паехаць у блізкае Дараганава да Анці.

Доўга не спала яна. Дастала з століка здымак, дзе была яна сфатаграфавана з бацькам. Нізкі і моцны на выгляд чалавек сурова глядзеў з-пад густых брывей. І барада яго, густая і жорсткая, была падобна да высушанай сонцам раллі. Ён стаяў поплеч з ёю, відаць, у непрывычных для яго абставінах і, мусіць, адчуваў сябе як бы звязаным — так нязграбна віселі яго рукі, так жорстка прывыклыя да зямлі і дрэва. Яна сама наперакор яго была ўвасабленнем нічым не прыкрытай мяккасці, тады як мяккасць яго была глыбока захавана пад хмурнасцю брывей, цвёрдасцю і цяжкасцю рук і суровай маўклівасцю твару. Яна доўга, не спускаючы вочы, глядзела на гэты здымак, змагаючыся з жаданнем цалаваць гэтую халодную паперку.

— Паеду да Анці,— сказала яна моцна.

І азірнулася на пустым пакоі. Глядзела палявая ноч у вокны.

## II

Вясёлая ніжма расла на межах, чабор і ажыннік слаліся над ёю. Сонца ўсходзіла і заходзіла над маладою жытняю руннню. Рунь сінела да самае сцяны лесу, і над ёю ляжала неба — глыбокае, палявое. Сонца хмурылася і зноў яснела.

Было гадзін сем раніцы, як Маня пакінула поезд і пайшла вузкаю палявою дарогаю, распытаўшы на станцыі пра хутар. На станцыі было ўсяго чалавек два ці тры выпадковых падарожнікаў. Роснае поле драмала.

Хутар той стаяў каля дарогі, увесь абвеяны цішынёю сонечнае раніцы ў палях.

Маня адчувала ў сабе вялікія прылівы сіл і чыстату радасных настрояў.

На хутарскім двары, даволі шырокім, але непрыбраным, шумна клапацілася ўсялякае хатняе птаства — лямантавалі гусі, сцвярджалі нешта качкі, абгаварвалі нешта ці некага куры. Вераб'і і вароны цікам наглядалі за ўсёю гэтаю гаспадаркаю.

Маня адчыніла брамку і ўвайшла ў двор. Пахла на двары саломаю, травою і мокрым старым дрэвам. Нізкая старая хата — тры акны ў двор і два ў агарод, высокі ганак з старых дубовых плашак,— за хатаю зразу ж жытняя рунь да самага лесу. Яна ішла па двары, шукаючы вачыма каго жывога.

Каля хлявоў цераз нізкі плот з жэрдак пералезла жанчына з дайніцаю малака ў руках. Саматканая спадніца на ёй была падаткнута, белая хустка была завязана рагамі назад. Яна прыперла дайніцу да жывата і, леваю рукою закрыўшы над вачыма ад сонца, пільна ўглядзелася ў Маню, не пазнаючы яе. Маня таксама нічога не пазнала ў гэтай, цяжкаватай на выгляд у постаці, жанчыне.

Маня папытала, чый хутар. Жанчына адказала, і як бы ад нейкай падазронасці твар яе пасвятлеў.

— А вы гаспадыня тут?

— Гаспадыня.

— Анця?

— Но але.

Жанчына паставіла на зямлю малако, падышла бліжэй, зусім здагадаўшыся, але не смеючы выказаць яшчэ свае здагадкі. Твар у яе быў шырокім і прывабным, мяккія

валасы прыгожа выбіваліся з-пад хусткі, рукі былі закарэлыя, закасаныя, у сухім цесце.

— Анцечка, пазнала?

— Пазнала, але не верыцца.

— Дык пазнала Маню?

— Маня!

— Бачыш жа, я знайшла цябе.

— Я не ведаю, што мне і думаць... Якім жа парадкам, так раптоўна? Ну, як жа ты?.. Маня!

Раптам Анця, уся порсткая і здаровая, моцна абхваціла Маню рукамі за шыю і пацалавала ў губы. На твары яе цвіла шчырая ўсмешка, доўгая і радасная, як і тая сонечная і росная раніца, і твар яе як бы свяціўся бясхмарным, чыстым сонцам, якое для людское радасці жыло і гарэла ў ёй. Маня чула гэтую людскую яснасць і сама поўнілася ёю.

— Манечка... Божа ж мой мілепькі!..

— Неспадзявана, праўда?

— Дзе ж ты цяпер?

— Недалёка ад цябе. З дзве станцыі. Настаўніцаю.

— І, можа, даўно?!

— Не, вельмі нядаўна перабралася.

— Ці надоўга ж ты да мяне?

— Да вячэрняга поезду.

— Сёння?!

— Заўтра ж у мяне праца... А ў тую суботу ці нядзелю я ізноў магчыму прыехаць. Вельмі зручна тут.

— А божа ж мой... Мая ж ты сястрыца.

Анця зноў абняла яе за шыю і пацалавала ў губы і павяла ў хату.

Хата была ўсярэдзіне прастарнейшаю, чым здавалася знадворку. Пахла ў ёй вяроўкамі, малаком і капустаю. Яловыя дровы ляжалі каля печы на падлозе, рашчынепае цеста стаяла на заслоне. Кульгавая качка варушылася пад сталом, ляпаючы крылламі і не могучы выявіць у вачах болі ў нерабітай назе. Анця зразу ж заклапацілася была. Пасля, як бы адумаўшыся, села на краі лавы, проці печы, і заспяшалася гаварыць.

— Чым жа цябе частаваць, сястрыца, чым жа... Ну то расказвай, сястрыца, як жа ўсё гэта здарылася, што якраз жа папалася табе так па-суседску, можна сказаць, пажыць са мною... Ці надоўга ж ты перабралася сюды, як жа родныя нашы, бо я ж чула, што тату свайго ты забірала

ў горад з сабою. Ці жыў ён хаця, бо ў мяне ж дык з родных нікога за ўсе гэтыя гады не засталося...

— Тата памёр у горадзе.

— А можа?..

— Памёр.

— Сястрыца ж ты мая, а я ж нічога і не ведала. Родная ж ты мая. Раздзявайся ж хаця ды садзіся. Можа, утамілася вельмі? А не — ляж паспі, дзень цяпер вялікі, адпачыць ёсць часу.

— Не, я хоць нагаваруся з табою... Дзе ж твае ўсе?

— Ён каня недзе павёў каваць у кузню, і хлапчук меншы паваloкся з ім, а большы на настаўнік каровы выгнаў.

— А як жа ты жывеш, Анцечка?

— От жывецца. Няма чаго богу грашыць. Яно вядома, што і лепш можна, але адразу — хто яго... І горш жылося, і то нейк кідаліся. Зімою кашляла я, коклюш душыў, а гэта вылечылася...

— Колькі ж дзяцей у цябе?

— Двое. Два хлопцы.

— Малыя яшчэ?

— Малыя! Дзеці. Калі ж ім быць вялікімі? Уж большы ўчора з качкаю нагуляў — вытнуў печым па назе, дык от качаецца пад сталом, мусіць, рэзаць давядзецца... А ўлетку ў тым годзе карова ў нас была прапала. Такое няшчасце спасцігла было. Выгадавалі, думалі направіцца, а тут — на табе. Цяпер гумно перасыпаць трэба, а гэта ўсё ж грошы патрэбны. А дзеці, каб ім на карысць ішло, здаровы, няўрокам кажучы, слаўныя хлапчукі... Можа б, ты з'ела чаго, Маня? Я табе так чаго халоднага дам, пакуль у печы падпалю ды прыгатую што. Папраўдзе.

— Не, ты не клапаціся, я так рана не хачу.

— Зараз і ён павінен падысці... Я-то часамі думаю, дзе ж ты на свеце паварочваешся? Ці даўно гэта было, што мы малыя былі! Папраўдзе. Так чалавечы век і зжываецца. Ты, можа, замужняя ўжо?

— Не.

— Дык я буду ўходжвацца, а ты ўсё ж адпачні... Летась папробавалі за хатаю сад засадзіць, ды, мусіць, у брыдкае падвор'е падабралі якраз — усе шчэпы павысыхалі. А шчэпы ён даставаў здалёк, на чыгунцы ездзіў. Так жа шкодна, столькі патрачана клопату і часу. Паглядзі унь...

Яны з Маняю глянулі праз акно ў агарод. Засталося яшчэ некалькі высахлых шчэп, былі нароблены свежыя грады, чорныя яшчэ ад вільгаці. Каля плота зеляніліся купчастая сіняватая трава.

Маня заўважыла, стоячы блізка да Анці: каля вачэй у Анці адценні ўтомленасці, але сілаю свеціцца яе твар, і крыніцы невычэрпнай свежасці адчуваюцца ў ёй. Скрозь задумёнасць на твары ляжаць сляды заклапочанай усмешкі, невыразнай, якая надае непрыметным рухам рыс на твары ўражанне сілы ўва ўсім чалавеку.

Анця пачала ўпраўляцца каля печы. Маня за кароткі час агледзела хутар — жытнія засевы, чорныя палосы свежай раллі...

Яшчэ адно акно было ў глухой сцяне хатняга будынка, на той бок сянец. Яно было адчынена адной форткаю, зелень вазона відаць была на ім.

— У вас на дзве палавіны хата? — заўважыла Маня Анці.

— Летась прыбудавалі. Цяпер там лясныя два камор-нікі жывуць.

— Хто?

— Цейкія лясныя каморнікі, ці як іх. Лес тут мераюць. У нас і сталююцца. Ды вельмі ж людскія хлопцы.

— Два іх?

— Два. І плацяць добра. Вельмі простыя і памяркоў-ныя. Адзін адразу нейк пасля зімы прыехаў, а другі ня-даўна.

Маня сядзела за сталом. Анця чакала мужа, пагляда-ючы ўсё ў акно... І ўсё весела гаварыла.

Думка, што гэта мог быць тут Ваця Браніславец, пра-мчалася ў Мані, аднак гэта цяпер для яе было абыяка-вым — так моцна панавала над ёю асалода спакою ў гэ-тую сонечную раніцу на Анціным хутары.

Муж Анці прыйшоў неўзабаве.

— Анця мне некалькі разоў расказвала пра вас...— сказаў ён.

Пасля прыбраў з-пад стала ў сенцы качку з перабітаю нагою і, усміхаючыся, сказаў:

— Рыхтуй жа, Анця, снедаць хутчэй, можа, сястра з дарогі есці хоча... Вы надоўга прыехалі?

Твар у яго быў абветраны, пяголены. Рыжаватыя вала-сы густа шчаціліліся да самага каўняра салдацкае са-рочкі. Шапкі ён не скідаў, і яна скураным казырком пуд-

82

на закрывала лоб яго. Ён дастаў з паліцы газету, расцёр у пальцах сухі лісток тытуню і закурыў пыльным дымам. Сядзеў на лаве, сашчаміўшы пальцамі рукі, і, гледзячы ў адно месца, гаварыў:

— ...Так і жывём. Жыццё ў нас, можна сказаць, ціхае, спакойнае. Валачэцца ўсё наволі, не спяшаючы; так яно і трэба ў нашым, можна сказаць, палажэнні. Хлопцы падрастуць, навучу іх грамаце і прыўчу да гаспадарства; а ім, шэльмам, гаспадарыць куды лепш будзе, зручней будзе жыццё выходзіць. Бо я сам толькі некалькі год як пачаў жыць па-чалавечы, можна сказаць, а то ўсё — то ваяваў, то на свой уласны куток агорваў. А ім ужо не прыйдзецца. Вайна, скажам,— дык яно, можна сказаць, так: пакуль яны падрастуць, дык ваякі наваююцца па горла, аж ірваць з іх будзе. Не можа быць, каб не ўтхланіліся! На свеце павінна паспакайнець, гэта як два ды два — чатыры...

Анця ўздыхнула:

— Бог яго ведае, што яшчэ будзе.

— Яно вядома, што ніхто не можа ведаць, што наперод будзе. Кажуць, што ў сто год на зямлі з'яўляецца адзін чалавек, які ведае наперод, што на зямлі будзе. Дык іншы з іх сядзіць сабе рукі склаўшы ды глядзіць, як яно ўсё робіцца так, як ён прадбачыў, а іншы паглядзіць — дык жа яно нешта не так, як яму здавалася. От тут ён і пачынае арудаваць. Каб, канешне, было па ягоным... Можна сказаць, моцныя ёсць людзі на свеце...

Анця перабіла яго:

— Меншага трэба будзе вучыць, ён слабейшы за большага, дык пяхай хоць адзін на лягчэйшы хлеб узаб'ецца.

— Гэта як ён сабе тады захоча, надрасце, у гады і ў сілу ўбярэцца, тады свой розум мецьме. Я яго пеісьменным не пакіну... А от большага гадоў праз колькі прывучаць пачну да гаспадаркі. Бо заўсёды мне аднаму, дык сіл не хопіць. От я цяпер яшчэ здаровы, дык пакуль і вухам не вяду, а пасля, калі пастарэю? А пакуль жа ўсё да ладу давядзеш! Не, дзецям лепш будзе жыцца, як нам. Нашы гады пройдуць от так — усё ўсталёўвацца, можна сказаць, будзе... Гэта правільна... Вядома, што так.

— Ну, а тады што?

— А тады інача́й будзе.

— Усё адно, акуратнасці ніколі, як мае быць, не будзе.

— Не будзе. Але чалавек жа ўсё і дагапяе, каб як

найлепш. Вядома, што ніколі не будзе ўсё дагнана так шчыльна, што каб нават і вецер не падзьмуў. Шчыліны заўсёды былі і будуць. А не будуць — дык знойдуцца такія майстры, што самі наробяць іх або прыдумаюць. Бо гэта мы дык от жывём сабе павольна, і жыццё наша ціхае, а ёсць жа такія, што ніколі ён табе спакойным не будзе. Як той казаў, палажы ты яго ў магілу, дык ён там пачне раскалупваць усё... Але я кажу пра тое, што ім тады і раскалупваць будзе спрытней. Гэта я пра дзяцей нашых. Вядома што. Праўда ці не, сястра?

Ён паволі падлажыў недакурак пад падэшву бота на падлогу і раздушыў яго; пасля адышоўся да парога і плюнуў цераз парог у сенцы.

Маня добра адчувала сябе тут. Роўная, як хутарскія дні, філасофія Анцінага мужа, задумённая расчуленасць Анці і наваколыная цішыня навявалі ціхую радасць і забыццё на ўсе ранейшыя трывогі. І як жа яна была падсвядома ўдзячна Панкрату Малюжычу за яго нядаўны клопат аб ёй!

Пахла ў хаце смажаным салам і бліндамі. Анця напроці печы, на лаве, перамывала сухія грыбы. На двары не пакідала крычаць птаства, ахрыпла пудзілася на ўвесь двор цялё.

— Ад каровы адлучыла,— сказала Анця,— дык яно ўсё от і крычыць. Аж ахрыпла, ніяк прывыкнуць не можа.

Хлопцы ўвайшлі ў хату. Меншы, замурзаны, з чорнымі кропкамі цікаўных вочак, заплакаў раптам:

— Дзе тата качку падзеў?

— У сенцах.

— Не тлеба яе лезаць!..

Мірна было вакол. Адчувалася, як жыве вялікаю ласкавасцю поле пад сонцам. Расла трава, і ў хаце пахла прасторамі поля. Глуха грымеў поезд, мінаючы за лесам станцыю.

## III

Яшчэ абвеян быў чалавек вятрамі нядаўніх дзён, калі ламаў і крышыў ён сляпыя адчуванні свае аб свеце і шчасліва поўніўся пачаткам новых думак аб ім. Яшчэ не зніклі тыя новыя перакопанні і жаданні, што асвяжалі галаву і радавалі ўсю істоту. А тым часам новыя ўзрывы непакою напава ўзнімалі чалавека на хвалях бурнае свае неміласэрнасці: «Не магу без яе!» — і Ваця Браніславец не

стараўся, як раней, перамагчы гэтае неспакойнае пачуццё. Яшчэ аддаваўся ёй і з вострою асалодаю думаў пра Маню, уяўляў яе. Ён шкадаваў толькі таго, што ў часе хваробы яе тады не зайшоў да яе. Бо нават былі цяпер пачаткі думак, што ён праціўны, можа, для яе: тое, што не было ад яе ніякага адказу, прымушала яго адчуваць сумную трывогу гэтага.

Поезд імчаўся сярод змрочнага поля.

Поле было туманнае і, мусіць, шумнае ад цішыні свае. Захад вялікаю ружовасцю сваёю больш чарпіў яшчэ далёкія прасторы зямлі.

Ваця Браніславец пагойдваўся ў кутку вагона, успёршыся локцямі на столік і гледзячы ў акно. Беглі кусты, мільгалі чорнаю зялёнінаю сваёю; здавалася, моцна і востра пахлі яны. Балелі вочы ад разглядвання іх няспыннага руху.

У вагоне было мала людзей. Высокі вайсковы чытаў газету, сагнуўшыся ў бок святла. Ваця быў рад пагаварыць з ім ці з кім іншым, абы каб не мучыла так напружанае стаянне настрояў яго. Некалькі разоў чамусьці ўзбягаў на памяць член той ці сакратар, з вечнаю тэорыяй сваёю аб чалавечым руху і аб месцы ў ім Ваці Браніслаўца. Крывая і атрутная ўсмешка трымалася ў гэтыя хвіліны на Вацінім твары, і вочы больш прасілі нерухомасці ўсяго навакольнага. Яму хацелася — узбуджанаму Ваці Браніслаўцу — нечага ці некага сталага і зусім спакойнага, хто б халоднай хоць логікай перакопанняў і словаў сваіх ураўнаваў бы яго думкі, заспакоіў бы сляпыя ўзрывы пачуццяў і хто б далікатна ўразумеў бы чужую цікаўнасць да рэчаў і з'яваў.

Нарэшце вайсковы адлажыў убок газету і свежымі вачыма паглядзеў у бок Ваці, рыхтуючыся, мусіць, якраз жа загаварыць аб чым-небудзь з ім.

Твар вайсковага здаўся Ваці Браніслаўцу разумным і таму прывабным. Нават задаваленне адчуў Ваця, што чалавек от з ім загаворыць зараз.

— Дрэнна чытаць,— сказаў вайсковы.

— Цёмна,— адказаў Ваця.

— Не то, што цёмна, але дрыжыць вельмі газета, а надрукавана дробна. Так папсаваць вочы — раз плюнуць... Вы далёка едзеце?

— Некалькі станцый.

— Усяго?

— Усяго.

Вайсковы памаўчаў.

— А я ездзіў здаваць казённыя лыжы.

— Лыжы?

— Лыжы. Усяе свае роты.

— А вы ротны камандзір?

— Накшталт гэтага... Цяпер зіма скончылася, лыжная пара прайшла.

— Ну, пэўна, начорта летам лыжы.

Расчараванне гэтым чалавекам адразу апанавала Вацю. І ён яшчэ падліваў масла ў агонь, поўнячыся ўсё больш і больш радасным і лёгкім скептыцызмам:

— Летам на лыжах нікуды не заедзеш.

— Затое зімою.

— Ого! Зімою...

— Зімою ў нас папрацавалі цяпер.

— Гэтаю зімою?

— Гэтаю.

— І вы?

— Я камандаваў.

— Ну як?

— Я і сам прыз атрымаў. Атрымаў прыз сам, у Маскве. Нашы ўзялі другое месца. Тула трэцяе. А Арэнбург падгадзіў.

— Зусім?

— Зусім. Канфуз быў.

— Цяпер бабы таксама на лыжах лоўка ходзяць.

— Ходзяць! У Маскве дык быў такі выпадак. Я сам бачыў.

— Гэтаю зімою?

— Гэтаю... Ішлі навыперадкі. Дык яна ідзе наперадзе ўсіх. А тут пояс у яе расшпіліўся. Дык усё з яе і валіцца.

— На хаду?

— На хаду.

— Чаму ж ёй не памог ніхто?

— Як?

— Як-небудзь здагадацца можна было.

— Як жа ты ёй паможаш?

— А гэта ўжо справа лыжнікаў.

— Але як?! Што тут лыжнік зрабіць можа?

— Раз ён, можна сказаць, стаіць пры гэтай справе, дык яму відней. Можна было што-небудзь прыдумаць.

Вайсковы раптам змоўк і адвярнуўся, мусіць, за нешта

пакрыўдзіўшыся або раскідаючы думкамі над чым. Ваця зноў пачаў глядзець у акно. На дварэ зусім змеркла, і размяклая свечка больш пачала даваць святла. Ваця зусім хаваўся ў цёмным кутку вагона. Вайсковы раптам зноў загаварыў:

— Памятаю, што мароз быў вялікі.

— Калі гэта?

— Як на лыжах навыперадкі ішлі. Я ішоў трэцім.

— Трэці прыз узялі?

— Не, трэцім па ліку... Дык адмарозіў быў твар і пальцы на руках. Пасля гусіным салам цёр... Вы жывеце ў горадзе ці ў вёсцы?

— У вёсцы.

Вайсковы памаўчаў і зноў загаварыў:

— Калі па хаду спатыкнецца ды ўпадзе хто з правінцыялаў, дык масквічы крычаць: «Далоў, гатова!»

— А калі іхні хто?

— Калі іхні, дык маўчаць.

— Чаму?

— Усякі за свайго. З гэтым трэба змагацца.

Зноў вайсковы змоўк, маўчаў з паўгадзіны і зноў парушыў стук амаль пустога вагона моцным голасам сваім. Ён бліжэй прысунуўся да Ваці і глядзеў яму ў твар.

— Невядома, як у наступную зіму будзе лыжная кампанія.

— Так, невядома.

— У нас цяпер новыя лыжы на ўсю каманду рыхтавацца будуць. Зусім новыя.

— На старых нядобра.

— Не зусім так. Старыя лыжы, калі яны... Але я тут павінен пазнаёміць вас з адным выпадкам, які быў гэтаю ж зімою і які вам шмат што пакажа новае ў лыжнай справе. Калі вы чыталі ў газетах пра... Вы газеты акуратна чытаеце?

— Акуратна.

— Ну, дык от... За трыццатае студзеня гэтага года, у аддзеле фізкультуры, быў надрукаваны артыкул...

— Я чытаў.

— Пачакайце, можа, якраз не чыталі.

— Чытаў.

— Як жа вы ведаеце?

— Ведаю. Не мог не чытаць, калі я кожны нумар газеты ад пачатку да канца перачытваю.

— А ў якой газеце чыталі?

— Такое важнае пытанне асвятляцца павінна ўва ўсіх газетах адразу. Іначай не можа быць.

Вайсковы задумаўся, палажыўшы два пальцы на губу.

— М-гу,— сказаў ён сам пра сябе.

І да нечага стараўся дадумацца. Пасля адвярнуўся ад Ваці, пасядзеў так і адышоўся да процілеглага акна. Ваця выйшаў за дзверы і закурыў.

І зноў, але цяпер даўжэй і выразней, думаў пра члена таго ці сакратара.

— Ты думаеш, што ўвесь свет павінен пераламляцца ў табе,— успамінаў ён яго словы ў адзін з мінулых дзён.

— Чаму я думаю?

— Ну, не думаеш, Ваця, а створан ты так, што такую пазіцыю займаеш на свеце, у адносінах да яго.

— Што ты хочаш гэтым сказаць,— апраўдваўся Ваця: — І чаму свет не павінен пераламляцца ўва мне, для мяне самога. Для цябе ён пераламляецца ў табе самім. Зразумей, што гэта так.

— Не так ты зразумеў мяне.

— А як?

— А так, што хацеў я сказаць, што ты сябе аднаго ставіш напроці ўсяго свету.

— А ты?

— Не, тут прынцып. Тут я гэта аб поўнай з'яве...

— Клапоцішся!

— Пачакай. Ізноў не тое... Не можаш ты ўвайсці ўва ўсё і растаць ува ўсім.

— Каб непрыметным быў?

— Чаму непрыметным?!

— А як жа?! Скажы выразна і не блытайся на хітрых дарогах сваіх думак. Гавары зараз жа!

— А што ты лічыш сябе важнейшым за цэлы свет?

— Не важнейшым.

— Ну то лепшым... Я гавару груба...

— Што, што?!

— Лепшым.

— А можа, як іначай?

— Чужым.

— Гэта калі лічыць цябе за свет. Калі ты так лічыш, то яно, можа, і праўда. Магчыма, што ты не зусім памыліўся...

Гаворка гэтая была спакайнейшаю за ўсе іншыя іх гаворкі: і адбывалася яна даўно. У наступныя разы яна ішла далей, у розных формах паўтараючыся і развіваючыся. Але была яна той адзінай, ад якое адыходзіў Ваця, успамінаючы заўсёды члена таго ці сакратара.

— Я чужы ўсяму свету?!

Ён моцна сказаў гэта сам сабе і здзіўлена паглядзеў у акно, дзе веяла прытульным размахам не новага вечара. Вайсковы ўзбудзіў у ім разуменне самога сябе — што глыбейшы ён, чым сам сабе ўяўляўся і здаваўся таму члену. Думка гэтая была невыразна акрэслена, але цвёрдаю і важнаю для яго. І скрозь яе, і скрозь тое пачуццё, якое вызначалася як смутак па Мані, выкрадвалася новае: адзнакі далёкай радасці свайго існавання на свеце. Адчуванне падыходзячай нейкай дзейнасці свае падкрадвалася лёгкай трывогай. Затуманеныя засцiламі яшчэ новых і большых трывог, калаціліся і кружыліся думкі, ажыўляючы і ўзбуджаючы. І раптам у падсвядомасці закалацілася ў ім радаснае і так часта вядомае невыразнасцю сваёю дагэтуль: найвастрэйшыя ўздымы вядуць яго ўсё бліжэй і бліжэй да аўладання самым важным дня — цэнтрам, адкуль выйдзе яго радаснае, важнае, патрэбнае і вялікае ўмацаванне на свеце. Тады ўпартая радасць дамагання Манінае блізасці запанавала над ім.

Цяпер ён сам ішоў да таго вайсковага зноў пачаць з ім гаворку, лыжную гаворку, нецікавую самою ў сабе і цікавую працэсам сваім і абставінамі.

— ...Дык вы хочаце ведаць, ці доўга адчуваў я адмарожанасць пальцаў сваіх і твару?

— Не толькі гэта.

— А што?

— Ці арганізуе лыжны спорт чалавечыя прывычкі і думкі? Праўдзівей кажучы — ці дысцыплінуе?

— Вам жа нецікава гэта. Што я буду вам гаварыць?

Вайсковы пакрыўджана і хітравата паправіў пад сабою коўдру і лёг тварам да сцяны. Ваця вострай усмешкай акінуў зверху доўгую постаць вайсковага і заўважыў:

— Я гэта сказаў так, ведаючы, што вам ужо ўсё роўна няма чаго больш мне гаварыць.

— Чаму?

— Бо вы мне ўжо ўсё перагаварылі. Нават, здаецца, расказалі, якога колеру ў вас былі анучы ў ботах тады,

калі вы ішлі трэцім у лыжнай кампаніі, ці як там яно завецца.

Вайсковы заплюшчыў вочы і пасунуўся бліжэй да сцяны. Ваця зноў закурыў, нецярпліва чакаючы хуткага канца падарожжа свайго.

Так адбылося і скончылася падарожжа яго, даўно чаканае і важнае. І назаўтра ўжо ён асудзіў сябе за сваю гаворку з вайсковым. Асудзіў сябе так жорстка, першы раз на жыцці сваім.

Дні тыя першыя былі заняты клопатам пачынання работы — разглядванне лясных планаў у лясніцтве, вывучэнне мясцовасці (хоць апошняе рабілася больш па ўласнай цікавасці, чым па патрэбе). Былі яшчэ спатканні ў гэтыя дні, спатканні досыць вясёлыя, з былымі таварышамі па інстытуце — з маладымі меліяратарамі, што з самых першых дзён вясны пачалі работу сваю па тутэйшых балотах. Пасля ўсталяваўся ён жыць па хутары, разам з другім таварышам сваім па рабоце, які прыехаў сюды некалькі ўжо тыдняў таму назад. Закватэраваў тут на ціхім хутары, не ведаючы новае гаспадыні свае, Анці; не здагадваючыся нават аб ёй. Бо, можа, калі і бачыў быў яе дзе-небудзь у сваіх родных месцах, бачыў, можа, раз ці два, але не было ні прычыны, ні выпадку заняць ёй якое-небудзь месца ў ім.

Новы таварыш яго пасля дзённае работы скідаў з ног салдацкія чаравікі, добра прыстасаваныя да доўгіх спацыраў па лясных і балотных куп'ях, запальваў агонь і лажыўся на пахучы аўсяпаю саломаю сяннік, падбіваў угару над галавою падушку, з асалодаю працягваў стомленыя ногі і радасна адпачываў. Даставаў з куфэрка кнігі і чытаў іх. Ваця ж садзіўся за свае лясныя вылічэнні. Калі ж не было іх, хадзіў на суседнюю вёску; калі ж быў вельмі ўтомлены, соўваўся па хутары, гаворачы што-небудзь з гаспадаром або нават дапамагаючы яму рабіць якую-небудзь дробную, заўсёды бясконцую работу. Так ішоў яго час. А раз глянуў у кнігу, якую чытаў таварыш яго. У хаце хмурна было ад блізкага вечара.

— Вершы чытаеш? — сказаў Ваця.

— Чытаю,— адказаў той і задумёпна паглядзеў на Вацю.

## IV

У той вечар даўно сцямнела, і даўно гаспадары за тоўстаю сцяною з круглых бярвенняў павячэралі і паляглі

спаць, а яны ўсё гаварылі, не запальваючы агню.

— Вершы чытаеш?

— Чытаю.

Таварыш яго адлажыў убок кнігу і павярнуўся тварам у бок Ваці. Не думаючы, што гаворка можа зацягнуцца, Ваця сказаў яшчэ, сказаў, збіраючыся нават зараз жа пайсці ў абоймы ціхага вечара, у адзіноце пахадзіць па двары:

— Шмат чытаеш?

— Шмат.

— Любіш чытаць?

— Не то што люблю...

— А сам не пішаш?

І скептычная ўсмешка зазмяілася на нервовым і тонкім, светлым Ваціным твары. Той жа павольна адлажыў убок кнігу, памаргаў чорнымі вачыма, гледзячы на свае выцягненыя ногі, і сказаў:

— Як быў яшчэ ў інстытуце — грашыў гэтым. Пісаў, але не друкаваўся... Стараўся — страх як.

— А чаму пакінуў?

— Асмяяў сам сябе за гэтую работу.

І ён таксама скрывіў губы ўсмешкаю:

— Бо няма горшае мізэрнасці на свеце, як выпінаць з жывата рыфмаваныя радкі... А чытаю шмат.

— А я нічога ніколі не чытаю.

Той памаўчаў. Чорныя вочы яго поўнілі твар жорсткай лагоднасцю, сам жа ён здаваўся Вацю прывабным і моцным для самога сябе. Ён запытаў:

— Ніколі не любіў кніг?

— Я іх ніколі не не любіў, але ніякай прывабнасці не адчуваю ў іх. Не ў саміх кнігах, а ў тым, што хаваецца ў гэтых вось самых радках. Ты як, чытаеш толькі тое, што напісана?

— Не, ты ўгадаў. За чытаным адчуваецца большае, што, як мора, затапляе мяне.

— Любіш жыць, значыцца?

— Люблю радавацца жыццём і радуюся... От сёння, як ішлі з табою па саломе за вясковымі гумнамі, як вецер прабаваў халадзіць босыя ногі. Ты ведаеш, як гэта ўсё слаўна. Вецер, салома, пясок... Лес, поле, дым ад папяросы, дым на вуліцы раніцою. І я сам сярод гэтага.

— Не стаўляеш сябе, значыцца, супроць усяго, у чым вінаваціў мяне яшчэ нядаўна адзін член у горадзе.

— Які член?
— Член секцыі нейкае, ці оберсекцыі... Што я, кажа, стаўлю сябе асобна ад усяго. Натура мая, кажа, такая, што я хачу, каб свет быў такім, якім мне хочацца...
— Ну, то што тут дрэннага? Можа, гэта і важна.
— Важна, ты думаеш?
— Важна. Калі не можаш зрабіць усё такім, якім хочаш, значыцца...
— Значыцца, сам рабіся такім, якім усё?!
— Не спыняйся і шукай таго, што такое, як ты хочаш.
— Гэта значыць страціць самога сябе. Нічога не зрабіць, а толькі знайсці. Нават калі і заспакоішся на гэтым, усё ж гэта будзе самаашуканства, бо гэта будзе толькі прыстасаванне. Адна з з'яваў тупое задаволенасці.
— Чым?
— Тым, што ёсць, а каб апраўдаць сябе, дык можна сказаць сабе — я ж гэта сам знайшоў.
— Не, ты паслухай. От я люблю — і салому, і вецер, зацягнуся папяросаю, і мяне радуе гэты востры пах дыму. Я адчуваю яго больш, чым толькі курыльшчык.
— Не, бо ў цябе гэта непасрэдна. А тым часам, каб ты пасля доўгага раскідвання розумам дайшоў да гэтага — што б гэта было, калі не ашукванне сябе.
— Гэтым ні сябе, ні каго іншага не ашукваюць!
— Не ашукваюць?! І сябе, і іншых, колькі хочаш. Спекулююць на гэтым.
— Бачыў іх?
— Жыў з імі!
— А от ты сам, напрыклад, ну хоць работаю сваёю цяперашняю захоплены? Падабаецца яна табе?
— Як табе сказаць... З гораду я рваўся сюды...
— А цяпер?
— Пакуль добра тут мне. Але што значыць, урэшце ўсяго, добра ці не добра, калі ёсць што-небудзь іншае ў чалавека, што перамагае ўсё... Будзем так гаварыць. Нявырашаная якая-небудзь справа ці што іншае падобнае, што ўвесь час непакоіць.
— Высветліць прычыны гэтае з'явы.
— І тады што?
— А тады пастарацца зжыць гэты непакой.
— Ліквідаваць, значыцца. Зусім, браце, ты цудоўную праўду сказаў. Вельмі проста і праўдзіва. Каб тоі мой адзін знаёмы малады чалавек, з якім я раз выпіваў быў

і які там у горадзе лічыцца паэтам, чуў, дык сказаў бы: «Зразумела для нас».
Цяпер той маўчаў. Ваця гаварыў:
— Прычына вядома, а калі сама з'ява, не з'ява, а непакой мой не ліквідуецца?!
І ён востра ўсміхаўся.
— Не ліквідуецца — і хоць ты што хочаш.
Тады той раптам усхваціўся з пасцелі.
— Непакой не ліквідуецца? А ты хочаш спакою?
— Якога?
— Звычайнага. Які надыдзе тады, калі непакой ліквідуецца.
— Можа, такога і не хачу.
— Сам, значыцца, не ведаеш! Не, брат, жыві лепш непакоем. Дамагайся, калі табе трэба чаго ці каго. Ведаеш? Разумееш? Ідзі напралом, а не жадай спакою...
— А ўсё ж ісці напралом у імя спакою?
— Калі навучышся ісці, значыцца, заўсёды будзеш ісці. І дасягнуўшы аднаго, створыш вышэйшае і зноў пойдзеш. Радасна і магутна! Ведаеш? Разумееш?
«Раскажу яму пра самае важнае, пра Маню»,— думаў Ваця.
А той усё гаварыў і глядзеў на процілеглую сцяну чорным бляскам прывабных вачэй.

## V

— У бальніцу хадзіў,— сказаў чарнявы дзядзька, няспрытна пералазячы гразкую грэблю сярод нізкіх зараснікаў пакалечанае бярозы, асіны і алешыны.— У бальніцу, браткі, таму і спазніўся. Неназнарок... Ну, як жа тут у вас?
— Жонка хворая, ці што? — запытаў Ваця.
— Жонка.
— А што ў яе? — дапытваўся Ваця.
— Ат, там бабская справа.
— Малое нарадзілася?
— Не, здаўных гэта ў яе. Даўно хварэе, і, мусіць, нічога ўжо не будзе... Я, прызнацца, і сам крыху вінават.
Пачуліся жартаўлівыя галасы:
— Ну, пэўна, што без цябе тут не абышлося.
— А можа, і абышлося, хто ведае?
— А што, тваё гэта дзела ведаць усё?

Чарнявы дзядзька пакруціў галавою, моцна плюнуў у ядлоўцавы куст і растлумачыў:

— Пасля першага дзіцяці апаранілася яна вельмі ўстаць. Яшчэ ляжаць трэба было, а яна ў печы начала паліць і чыгуны падпімаць на прыпек.

— Нашто ж ты дазваляў?!

— От гэта ж і вінават, а яна вельмі ж руплівая. Што ты ёй зробіш?

— Ваш брат заўсёды ж тут ні пры чым; чысты, як апёлак,— заўважыла высокая цётка, апіраючыся па новую рыдлёўку ў чорнай балотнай зямлі.

Зноў зажартавалі галасы:

— Так, так, давядзі яму. Што тут з ім доўга бібікі біць. Валі, цётка. Гавары...

— От ты трохі адвакатам, Марыля, пабудзь.

— Яй-богу, маладзец.

— А што ж, папусціся адно вашаму брату, заўсёды віпаватаю застанешся. Што, не праўда?

— Праўда!

— Твая заўсёды праўда.

— Хэ, хэ!..

Ваця стаяў у вялікім натоўпе на краю пізкарослага лесу, густа зарослага зараспікамі ядлоўцу і крушыны. Было хмурна і цёпла. Было цёпла ад туманнага дажджу ў ночы. На пебе яшчэ плылі абрыўкі чорных хмар — астаткі дажджу і веснавое бязветранасці. Пахла лесам, зямлёю, гнілою фашынаю на грэблі, мокрае зяленіва прыгожага ядлоўцу весяліла вочы.

Ваця слухаў гаворкі, курыў разам з усімі чужую махорку і глядзеў, як па сіняватых даляглядах усё ясней вырысоўваюцца радасныя абрысы зямлі, новыя, затуманеныя, істужкі лясоў, тонкія постаці асобных дрэў.

Адпачынак гэты цягнуўся некалькі хвілін. Чарнявы дзядзька падышоў да Ваці:

— А от, скажам, калі лес мясцовага значэння адмяраецца як мае быць, колькі я тады маю права з яго вазоў дроў за зіму ўжываць?

Ваця тлумачыў яму, і думкі яго былі лёгкімі, абветранымі мала калі вядомаю радасцю мокрага дня і веснавое хмурнасці.

«Адчуваю пясок, і дым, і салому. Куру і чую дым іначай, чым чуць павінен толькі курыльшчык».

Яны сталі ў ім, гэтыя ўчарашнія словы таварыша

82

яго. Стаялі не зусім абдуманыя, але моцна адчутыя.

Той жа таварыш камандаваў двума хлапчукамі, якія палезлі на мокрую хвою, да нечага дадумаўшыся ў сваёй вечнай дзіцячай клапатлівасці. Ён стаяў, тонкі, высокі, у мокрых салдацкіх чаравіках. Ваця глядзеў на яго і любіў яго.

— Можа, і нядобра, што я спазніўся,— прыставаў чарнявы дзядзька.

— А чаго ж ты пазніўся?

— Нікога я хаця не падвёў тут?

— Усіх падвёў.

— Чаго ты апраўдваешся? Каб маўчаў, дык усё гладка было б, а то ўсім у вушы ўводзіш. Тут табе маўчаць трэба. От чалавек!

— Цябе абдзялілі тут.

— Ну, ты жартуеш?

Такога настрою даўно не было ў Ваці. Як бы назаўсёды ўляглі́ся ўсе трывогі, як бы знайшлося што важнае, чаго доўга шукаў ён і нарэшце знайшоў. І перад усім радавала адно: у першы ж вольны дзень напісаць пра ўсё Казімеру і распытаць пра Маню.

Ён падышоў да таварыша свайго:

— Слаўна!

— Што? На дварэ?

— Усюды. Памятаеш учарашнюю нашу гаворку,— усяму мне слаўна цяпер. Памятаеш, як ты гаварыў пра дым і салому.

— Дым і салому?

— Тады, як пакінуў кнігу чытаць.

— Дык слаўна?

— Слаўна.

— Часта ў цябе бывае?

— Часта, узрывамі. Толькі словамі не мог вызначыць, я дагэтуль гэтага. Ты мне памог.

— Немагчымы ты чалавек, Ваця.

— Чаму?

— У цябе на адной хвіліне сотня перамен. Гэта ведаеш што, гэта хваравітасць.

— А ты?!

— Тут пра мяне памаўчым. Гаворка ідзе пра цябе. Ты што ж, ведаеш выразна, чаго ты так?

— Выразна не ведаю.

— Чаго ж ты шукаеш на свеце? Таксама не ведаеш?

От так, выразна каб ты сказаў. Ну?

Ваця думаў.

— От так, падумай і скажы.

— Нашто табе гэта ведаць?

— Не, ты скажы. Можаш усё гаварыць. Усё, што толькі ёсць. Што няўдача якая, ці што? Ці чым ты пакрыўджаны з самых малых дзён сваіх? Гэта бывае, але ж што такое крыўда, як, нарэшце, не ўмоўнасць.

— Крыўда? Умоўнасць?! Падумай, што ты гаворыш. Сам не думаеш, што прапаведуеш.

— Ну, добра, не ўхіляйся ўбок... У чым тут справа ў цябе? Ты ж, здаецца, зверху паглядзеўшы на цябе, здаровы.

Пасля ён памаўчаў, углядаючыся ў туманныя паплавы за дарогаю, і раптам як бы прыпомніў. Твар яго быў такі ж сама, спакойны, тонкі і сталы:

— А можа, тут жанчына ўмешана ўва ўсё гэта? Няма тут гэтага граха? Ты скажы.

— Што значыць, жанчына ўмешана? І ці не можа гэта быць толькі голаю, безадказнаю прычынаю, на якую ўсе шышкі валяцца. Нашто так гаварыць?

— От ты амаль што і прызнаўся.

— У чым я табе прызнаўся?

— У самым галоўным. Гэта не то, што твая расплыўчатая, туманная філасофія пра голую прычыну. Заўсёды прычына застаецца голаю, якія б яна з'явы за сабою ні цягнула. У гэтым дык я пераконан.

— Ну хоць бы сабе і так.

— Значыць, ёсць?

— Ну, ёсць. Але ўсё роўна тут усё стаіць шырэй.

— Ты думаеш?

— Думаю.

— А я думаю — знішчы ты гэтую прычыну або атрымай паводле сваіх імкненняў, і сам тады іначай будзеш думаць. Загартуйся як мае быць і паспрабуй.

— Туманна ўсё гэта.

— А от настрой жа ў цябе сёння добры?

— Добры.

— А доўга ён будзе такім?

— Не ведаю.

— Дык от жа. А ты павінен ведаць. Настроямі жыць нельга, калі яны толькі адны і ёсць. Гэта называецца — апуча, туман...

— Ты і сапраўды гатоў мне сапсаваць настрой.
— Гэта толькі давядзе тое, што ты сапраўды туман.
— Чаму ж ты не сказаў — анучa?
— Ну, анучa.
— От табе і раз. Адзін там, у горадзе, вінаваціў мяне ў тым, што я чуць не вораг рэвалюцыі, а гэты толькі ў тым, што я анучa. Як жа разумець вас усіх?!
— Нічога, пастарайся толькі каля тае голае прычыны. Пасля ж, наогул, патрымаеі сябе нейкі час у жалезных абцугах. Дзе ты радзіўся і рос, ці не на паветры?
— Можа, і на ім.
— Гэта відаць. Апусціся на зямлю. Твой бацька хто?
— Мужык... Самы заядлы.
— А ты ў мужыка не ўдаўся. А трэба было ўдацца, цвярдзей і смялей. Лепш.
— Мужык жа просты курыльшчык, і дым ён адчувае, як толькі ён махорачны дым.
— Што ты гэтым хочаш сказаць мне?
— Нічога, бо ўсё роўна выдумаеш новую праўду, колькі ні гавары табе.
Той весела засмяяўся. Ваця адышоўся да натоўпу.
Радасна чуў Ваця гул галасоў, жарты і скаргі. Чарнявы дзядзька яшчэ пагаварыў з ім. Паскардзіўся:
— Выпадкам чаго, не дай бог якое гора можа спасцігнуць. Каб нікому добраму.
— Якое гора?
— Я ж расказваў вам, як кагадзе прыйшоў.
— Гэта што, з бальніцы?
— Адтуль.
— А сям'я вялікая?
— Дзяцей малых шмат. А дзеці — адно пад адным... Як боб, малыя ўсе. Што ты парадзіш! Бяда.
І чарнявы памаргаў вачыма і адышоўся ўбок.
Пачалі работу. Ваця паказаў чарняваму, куды забіваць межавы калок. Людзі паразыходзіліся — хто на патрэбныя вучасткі і пявызначаныя яшчэ ляспыя межы, хто пайшоў дадому ў вёску... Ваця быў захоплены працаю. Твар яго быў злёгку ўзбуджаны, светлы.
І адчуваў ён, што як бы нешта новае і вялікае стаіць перад ім, што прыходзіць мала калі і поўніць чалавека нязведанаю паўнатою шырокіх даляглядаў і радаснаю дарогаю перад імі і чалавекам. Свет шырыцца, і нязлічанымі чалавечнымі багаццямі поўніцца ўсё і поўніцца.

Ваця паказваў і камандаваў. Чарнявы дзядзька весела клапаціўся каля яго з тычкаю ў руках.

— Жывём сабе,— сказаў чарнявы дзядзька, калі ўгаияў у зямлю межавы калок.

Ваця паглядзеў на яго.

Пахла ядлоўцам, лесам, зямлёю.

## VI

Ваця Браніславец узбуджана калыхаўся на паламаным гаспадарскім зэдліку над тварам свайго таварыша:

— Гэтакая раніца была тагды. Адно што зіма тагды была. Як пайшоў быў я за бацькам у гумно, усё тагды было ў мяне адрэзана — і тое, што было, і тое, што наперадзе. Ні пра што пра гэта не хацелася думаць. Страшна было думаць. Не думалася і пра тое, што назаўтра зноў давядзецца, можа, пакінуць гэты мышыны спакой. Бацька ў гумне нешта там салому ператрасаў, а я стаяў і глядзеў на трухлявы дубец у страсе, што быў заплецены павуціннем. Павуцінне звешвалася з яго нізка і лёгка пагойдвалася. Памятаю, што хацелася мне зрабіцца як-небудзь гэтакім малым, нязначным і таксама, як гэты дубец, быць тут, сярод гэтае саломы.

— А хіба ты не адыгрываў ролі гэтага самага дубца тады? Падумай сам.

— Памятаю, што да слёз шкода было мне бацькі, самы выгляд яго — пагорбленая, зашмальцованая тоўстая камізэлька — усё яшчэ больш узбуджвала ўва мне гэта.

— Усё гэта чалавечая слабасць. Нічога гэтым на свеце не можна зрабіць.

— Ты сабе гавары, што хочаш. Тагды ўсё гэта адно мучыла мяне. Страшную безнадзейнасць нагаияў на мяне выгляд бацькі. Прыніжаным перад усім, што толькі ёсць на свеце, прыбітым здаваўся ён мне. І толькі тут, над гэтаю саломаю, арудаваў ён.

— Дзіўны ты хлопец. Здаецца, што радзіўся ты тысячу год назад, а не цяпер.

— Ну, а назаўтра самому мне страшна стала там, і я пайшоў даганяць часць.

— Я от думаю — ты быў напалоханы рэвалюцыяй. Не ёю, а самым працэсам яе. Крывёю, порахам, смерцю. Мусіць, здаецца мне, гэтак?

— Гэта мне даўно гэтую прапаведзь казалі.

— А ты не згаджаешся?
— Не. Я сам рэвалюцыя.
— Ты зразумей мяне. Ну яно гэтак, няхай сабе ты сам рэвалюцыя. Дух твой, разумееш? Думкі, усе твае пачуцці — рэвалюцыя. Але самы працэс яе ўстанаўлення напалохаў цябе. Толькі гэтак я магу цябе растлумачыць.
— А цяпер?
— Цяпер ты ніяк, мусіць, не можаш папасці ў сваю каляіну. Бо нават і тое, што гэта ўсё ты часта ўспамінаеш, нейк нанава перажываеш, гэта самае гаворыць, што яно ўсё і цяпер жыве ў табе і не дае табе спакою.
— А па-твойму, якая мая каляіна?
— Баюсь гаварыць, бо ніколі не быў нічыім настаўнікам. I не хачу быць.
— Але выкажы сваю думку.
— Мне здаецца, што табе трэба, выбачай за грубасць слова, вытравіць з сябе гэтую туманную чуласць да гэтай — от саломіны нават. Бо ў цябе яна якраз так сфармавалася, што не рэальнасць усё гэта, а так, нейкая хворасць. Бо нават, калі ты хочаш ведаць, адсутнічае шмат таго зусім на свеце, над чым ты гэтулькі будуеш сваіх трагізмаў. От часамі ты робішся вясёлым, жартаўлівым. Вострым на язык. А тым часам колькі разоў думаў я пра гэта — не зусім здаровае гэта ў табе. Вельмі ж шпарка з'яўляецца гэта ў табе, як і прападае. Не ведаю я, якім ты ў горадзе быў, да прыезду сюды. Ты рад, што сюды прыехаў?
— Рад.
— Лепш табе тут?
— Лепш.
— А чым лепш?
— Чым лепш? Спакой гэты, прырода аблагоджвае мяне. Я адпачываю.
— А работа як?
— Работа ўсяго мяне ўцягвае ў сябе. Гэтак, як ніколі не было са мною.
— Добра. Толькі ніколі не прыдавай ты значнасці таму, што на свеце туман. Ну, што гэта, тое, што табе шкода было бацькі, і ты аж дагэтуль не можаш забыць гэтага? Калі шкода, значыць, трэба памагчы. А памагчы чым? Гэтым самым пачуццём паможаш? Доктар пачуццём хворых не лечыць. Падгарні больш зямлі пад ногі,

прытапчы яе і цвёрда стань. Бо тут якраз усё ў тым, на чым ты стаіш. Ну?

— Я ж не стаю на сваіх пачуццях.

— А жывеш імі, хочаш сказаць?

— Але.

— Дык от жа ў цябе затым і хістанне гэтакае. Як салома на ветры. Як тое павуцінне, якое ты некалі ў гумне на трухлявым дубцэ бачыў. Ад гэтага ўсё, што пад нагамі адно, а ў галаве другое. Што па-твойму?

— Нічога не магу гаварыць табе пра гэта. Ты гавары, што і як сабе хочаш. Я ўсё буду прымаць.

— Згаджацца?

— Не ведаю.

— А як?

— Само ўва мне ўсё перабродзіць, пераплавіцца. От тут, у лясах, іначай мне ўсё, як раней. Можа, таму, што няма зларадных таварышаў, якія, ведучы нейкую сваю лінію, усе лезлі мне ў настаўнікі. Можа, і затым...

— Бачыш! Які лес, у сонцы!

Ваця ўспёрся на акно локцямі. У агародзе пад акном скрозь траву свяцілася яшчэ чорная зямля. Трава была тонкаю і расла ўгару, яшчэ добра не раскупчасціўшыся. Таварыш выцягнуў з-пад ложка шчотку і пачаў чысціць боты.

— Куды ты збіраешся?

— На станцыю, пойдзем?

— Пойдзем.

Ваця высунуўся з акна, глянуў направа ў сад і раптам падняў твар угару. Апусціў уніз і зноў глянуў туды. Так нерухома глядзеў з паўхвіліны. І адразу адарваўся ад акна і сеў на нізенькі столак каля стала.

— Што з табою?

— Нічога.

— Чаго ты такі?

— Які?

— Твар твой так загарэўся і пабялеў.

Ваця змаўчаў.

— Што ты ўбачыў там?

Ваця сказаў:

— Я на станцыю не пайду.

— Чаму.

— Ідзі адзін.

Той паглядзеў на Вацю яшчэ раз. І моўчкі стаў абувацца. Ваця закурыў і выйшаў з хаты.

— Дык не пойдзеш?

— Не.

Нешта хацеў сказаць, пастаяў у дзвярах.

— Што?

Павярнуўся і пайшоў. Той глянуў у акно, направа, у сад. Гаспадыня Анця і нейкая другая стаялі ў садзе — некалькі вішань і яблынь расло за агародам. Стаялі, спакойна нешта гаварылі, што — не было чуваць. Тая другая была вышэйшаю за гаспадыню. Затульвала на грудзях вялікую хустку. Азірнуліся абедзве на адчыненае акно, паглядзелі спакойна і зноў заняліся, мусіць, сваёю ранейшаю гаворкаю. Вацін таварыш абуў другую нагу, выйшаў услед за Вацем. Ваця сядзеў на ганку. Саду тут не было відаць за хатаю. Адно вяршаліны дзвюх груш з агарода глядзелі цераз страху.

— Ты ідзі цяпер на станцыю.

— Чаму?

— Я прашу цябе. Ідзі.

— Ну, добра, я пайду... Гэта ты іх там у садзе ўбачыў?

— Але.

— Скажы, хто гэта з гаспадыняю? Ты ведаеш?

— Ведаю.

— Хто?

— Сказаць табе? Няйначай?

— Як хочаш.

— Тая, аб якой ты здагадваўся, калі гаварыў са мною. Памятаеш? Тая... Маня.

— Як жа яна тут?

— Не ведаю.

— Нічога не ведаеш?

— Нават не магу падумаць, як гэта.

Той пайшоў на станцыю, яшчэ раз глянуўшы на Вацін твар, які такім быў белым.

## VII

Ваця трывожна глядзеў, як ішоў на станцыю яго таварыш. Чорная, тонкая постаць неўзабаве схавалася за дзікімі кустамі. Ваця сышоў з ганка, пасля вярнуўся назад у хату. Глянуў у акно — у садзе тыя ўдзвюх усё

яшчэ стаялі. Некалькі хвілін сядзеў Ваця, сціснуўшы рукамі лоб. «Не можна ісці ёй насустрач, калі яны там удзвюх». Думкі яго кружыліся ў галаве. Яшчэ раз глянуў у акно і зноў адышоўся. Востра ўсміхнуўся сам над сабою. Стаяў насярод хаты...

Выйшаў ён на двор праз хвілін дваццаць. Анці — гаспадыні — не было ў садзе. Душачы ў сабе хваляванні ўсяго перажытага раней, ён пайшоў.

— Таварыш Маня!

Хацеў надаць голасу свайму жартаўлівасць. Але адно вочы здолелі запаліць агні фальшывага смеху.

Яна сядзела на разваленай, гнілой лаўцы, каля загарадзі з рассунутага частакола. Яна ўстала, калі толькі ён падышоў да яе і загаварыў.

— Ваця.

— Што вы тут робіце?

Яго здзівіла гэтакая спакойнасць яе твару. Яна працягнула яму руку.

— Здаровы, Ваця.

— Што вы тут робіце?

— Да сястры ў госці прыехала, на сённяшні дзень. Пад вечар паеду.

— Да якой сястры?

— Да Анці.

— Да стрыечнае сястры? Гэта гаспадыня мая? Зямлячка? Ваша тая сястра?

— Але.

Ён сеў на лаўку, схвостваючы разгатым дубцом пыл з вымачаных у лесе ботаў.

— Вы ўсе мае лісты атрымоўвалі?

— Атрымала некалькі... Вы трохі не такім здаецеся, Ваця, як былі тады, у нашым баку... дома...

— А якім?

— Сталейшым...

Яна засмяялася:

— Падраслі.

Сядзела поплеч з ім і радасным тварам глядзела на яго. Бачыла, як жыў яго твар.

— Дзіўна нейк.

— Што, Ваця?

— У каго жыву, з кім спаткаўся.

Далейшае пачало высвятляцца само. Гаворка іх не была доўгаю. Яна адно прынесла Вацю захапленне

сонечным днём — такім усцешным было гэтае спатканне.
— Чаму вы не адказалі мне?
— Я і думала.
— Я так раптоўна паехаў пасля таго, як апошні раз заходзіў да вас.
— Я тут ужо звыклася на сваёй станцыі. Усё добра. Цяпер я зусім акрыяла...
— Памятаеце, як прыходзіў я да вас на хутар, часта тагды, даўно ўжо гэта.
— Памятаю.
— Маня... Я от колькі пісаў вам...
— Ну што, гаварыце.
— Шукаю вас, даўно. Вы не ведаеце ўсяго... Я от чаму пісаў гэтулькі вам? Збіраўся я нават у N. ехаць і паехаў бы, каб выпадкова не ўгледзеў вас на вуліцы раз... Я ж ведаю, вы поўны сваім жыццём, вы, можа, умееце жыць па-свойму. Вы гэта захоплены, можа, цяпер працаю сваёю ці іншым нечым... Я от хачу вам сказаць пра тое, што далёка вы, можа, ад мяне ці не, але...
— Вы скажыце ў двух словах, проста...
Паглядзела на яго блізка нейк, добра.
— Можа, вы каго і кахаеце, што ў вас ёсць блізкі...
— Слаўны вы, Ваця.
— Так мне некалі маці гаварыла.
— Зусім не так. Не так вам маці гаварыла. Маці іначай гаворыць. Ведаеце што, Ваця? Я рада, што вы тут спаткалі мяне... Вы нейкі інакшы, як раней былі.
Яны гаварылі не доўга. І адно што Ваця адчуў яе не такою, якою, думаў, будзе яна пры спатканні з ім. Ён бачыў, што яна разумее яго ўзбуджаную натуру.
Анця перашкодзіла іх гаворцы. Маня паказала ёй на Вацю:
— Ведаеш Браніслаўцавых, з нашага мястэчка?
Анця прыжмурыла вочы і надаўга па-сялянску загаварыла, успамінаючы драбніцы, даўно ўсімі забытыя. Усе разам пайшлі ў хату. Цяпер яны абое глядзелі адзін на аднаго так, як бы хавалі ад усіх нешта, вядомае адно ім абаім.
Дзень перайшоў за поўдзень, як Ваця пакінуў гаспадарскую хату.
— Ты ведаеш, жыццё гэта сапраўдная латарэйная скрынка — усё круціцца і мяшаецца; і не ведаеш, што

табе за нумар пападзецца ў руку. Я без жартаў, хоць смяюся.

Той, прыйшоўшы з станцыі, цікаўна аглядзеў Вацю. Твар завастрываў пытліваю ўсмешкаю:

— Ты чаго гэта раптам вясёлым філосафам зрабіўся? Дарэмна ты на станцыю са мною не пайшоў. Пасажырскі поезд стаяў пятнаццаць хвілін.

Ваця шырэй адчыніў акно, пачаў пераадзявацца. Праз акно да самага лесу відаць было, як варушыцца і бяжыць сіняя жытняя рунь. Веяла сакаўным зяленівам.

— Куды ты збіраешся, бурсак?

— Чаму бурсак?

— Бурсак якраз.

— Чаму?

— Падчышчаешся вельмі дасціпна... Ой, які ты, браце ты мой, Ваця, фацэтны.

— Што ты на мне ўгледзеў?

Раптам Ваця закінуў у куток шчотку і неахайна падпэразаўся вузенькаю папружкаю.

— Чаму гэтак раптоўна?

— Не хапала, каб я яшчэ валасы намачыў і прылізаў. Сапраўды бурсак.

— Гэта ты мяне паслухаў?

— Сам.

Абодва засмяяліся. Той больш у Ваці нічога не распытваў.

## VIII

Поўна было сэнсам усё. Радавала і пустая станцыя, жоўтая ад будынкаў і жвіру. Ваця хадзіў па пероне, пагдядаючы на гадзіннік. Дваццаць хвілін заставалася да поезда. Ваця быў спакойны на выгляд, п'яным веснавым днём, і гэтая лёгкасць была і ў яго хадзе.

— Зараз поезд? — запытаў ён службовага тут чалавека.

Той паглядзеў на неба і на жоўты будынак, адказваючы. Ваця сеў на лаўку пад ліпамі каля балясаў.

Яна адна прыйшла на станцыю. Ваця бачыў, як Анця пацалавалася з ёю ў канцы перона і завярнулася назад. Ваця пайшоў насустрач, ціснучы рукою ў кішэні гатовыя білеты.

— Вы, тут?

— Я чакаю ўжо.

— Не спазнілася я?
— Не. Білеты ў мяне ёсць ужо.
— Білеты? Нашто білеты?
— Раней прыйшоў, дык і ўзяў... Я правяду вас да самай вашай станцыі.
— Паедзеце?
— Калі для вас гэта не будзе непрыемным.
— Для мяне? Праводзьце.

Перон стаў збіраць на сябе святочных людзей. Хадзілі, чакалі поезда, паглядалі на гадзіннікі. Гулялі дзяўчаты, акідаючы вострым зіркам Вацю і Маню. Асабліва Маню, якую бачылі першы раз з знаёмым ужо лясным таксатарам, ці каморнікам.

— Хадзем,— сказала Маня.

Яны ўдваіх пайшлі ў канец перона. Некалькі разоў прайшлі, і поезд закрычаў і застукаў перад станцыяй. Ваця дастаў білет, перадаў Мані, загаварыў:

— Дык я паеду да вашай станцыі з вамі.

Яна памаўчала з хвіліну і тады сказала:

— Едзьце.

І тады заварушылася ў ім пачуццё крытыкі да ўсяго гэтага — так яе голас здаўся яму нядобрым. «А можа, я недалікатна навязваюся ёй, а яна не можа адмовіцца?»

— А можа, мне не ехаць?
— Як хочаце.

І засмяялася:

— Ах, які вы.

Трэба было садзіцца. Ён напомніў ёй пра гэта. Падышлі да вагона. Яна пайшла першаю. І ў гэтую хвіліну ён раздумаў. Увайшоў у вагон, каб развітацца.

— Нядобра мне, думаю, што сілком навязваюся.
— Едзьце.
— Не, я часта бываю на вашай станцыі — гэтымі днямі буду ў вас. Каля станцыі школа?

Поезд стаяў тры хвіліны. Закрычаў паравік, як выскачыў ён з вагона. У той жа момант ляснулі вагоны і паплылі ў сонечнае перадвячэрняе поле. Ваця ішоў следам нейкі час, слухаючы гром жалезных усталяванняў. Станцыя адразу апусцела. Ясней і прастарней стала на ёй. Зноў запахла ціхай прытульнасцю і спакойным жыццём. Безутрапёнасць з'явілася раптам і напоўніла ўсё да наступнага поезда. І дзіўна — цяпер нікуды не спяшаў Ваця. Пайшоў павалі за станцыю, да рэчкі. Глядзеў на

каламутную пратву зверху, за ёю кусты і лес — такі знаёмы, вымераны за апошнія дні. Пайшоў назад на станцыю. І пачало тады з'яўляцца жаданне нейк ускалыхнуцца, узрадаваць сябе пераменай якой-небудзь.

План паспеў у яго галаве раптоўна. Хутка пайшоў ён дадому; таварыша свайго застаў на ганку — той сядзеў і кідаў крыклівым качкам і курам хлеб, з усмешкаю гледзячы, як яны хапалі буйныя крошкі і цяжка глыталі іх.

— Андрэй.

— Ну?

— Едзьма вячэрнім поездам па якую-небудзь станцыю.

— Чаго?

— Праехацца. А пад дзень назад.

— Адно праехацца?

— Але.

Той паціснуў плячыма і падумаў.

— Ну?

Твар у таго раптам ажывіўся. Ускалыхнуўся ўвесь адценнямі нутраной напружанасці.

— Давай.

— Да поезду рана яшчэ.

— Давай, давай.

І Ваця сеў каля яго на ганак. Неба пачало хмурыцца і зноў ачышчацца. Хмары, невялікія абрыўкі іх, раставалі над лесам, сплывалі непрыкметна за яго няроўную сцяну. Канчаўся дзень, як, апрануўшы гумавыя плашчы свае, пайшлі яны на станцыю. Андрэй ажывіўся больш за Вацю. Ваця ўспомніў:

— Я летась ездзіў на гэтую станцыю ў карты гуляць. Пад вечар выязджалі, а пазаўтра раніцаю з пасажырскім назад прыязджалі. Колькі разоў.

— Весела было?

— Ты кпіш гэта?

— Не.

— Не то што весела. Хіба ж тут можа быць гаворка аб вясёласці? Было дзіўна.

— Што дзіўна?

— Што я дзеля такое справы, як пагуляць у карты, нікому не кажучы слова, надзяваў сабе шапку і садзіўся ў поезд, ад'язджаючы на адну толькі ноч на сто, мусіць, вёрст.

— А ведаеш, хто гэта загаварыў у табе?

— Ну?

— Той самы, з-пад саламянае страхі, з-пад таго дубца ў павуцінні. Ты не ўрос, як мае быць, у гэты самы нават поезд яшчэ. Не тое, што дзіўным гэта табе здаецца, але што на цябе яно можа яшчэ ўздзейнічаць так, што ты перажываеш гэта. Дзіва, што ты гэтакі няпэўны ў той каляіне, па якой ідзеш...

На станцыі людзі чакалі вячэрняга поезда.

Наступныя хвіліны адбыліся ў маўклівай стаянцы каля касы і пасля ў адшуканні ў вагоне пустога месца. Вагон быў повен. Душна было. Выйшлі з вагона на пляцоўку, адчынілі акно, зашпілілі гумавыя плашчы свае. І тады поезд рассоўваць пачаў перад сабою зямлю і кусты. Адапхнуў лясы, пусціў у грымучы ход тэлеграфны дрот і слупы. Паплылі туманы над паплавамі, і загойдаліся вячэрнія далі. Вецер урэзваўся праз акно, кідаў чорны пыл з паравіковага курадыму, калоў твар. Енчыла і крычала жалеза недзе ў глыбіні пад нагамі, грымела ўсё жалезнае ўстанаўленне. Разганяла ўсё, што было на зямлі. На даляглядах вечар узняў сцены сініх хмар, зліў іх з лясамі, падцягнуў малако туманаў і пахмурыўся густою далечынёю. Дым і іскры наперадзе больш яшчэ затуманьвалі яго, і тут жа створаны вецер адкідаў дым, жалезны ход у громе рассоўваў папурую сінь вечара ў даляглядах. Спявалі калёсы вялікай гаворкай з зямлёю, гаварылі сілаю жалезных сказаў. От так, як беглі лясы і землі пад імі. Як імчаўся свет і змяняўся. Як гаварыла грымучаю гаворкаю жалеза. Далей і далей. От заплакаў вечар хмурнасцю неба; раптам зноў суцешвацца стаў. У небе зоры віталі зямлю, зямля жыла нястрыманым рухам.

Наперадзе агні. Цішэй перад імі ішлі сярод поля, паволі праходзілі паўз іх. Агні згушчаюць змрок ночы, купчасцяцца, павісаюць чорныя дрэвы. Пад імі галасы. Гук шырокі ідзе, і чулае поле жыве ў густой чарнаце. От — калёсы паскорылі тахту свае песні. Калёсы спяваюць. Зноў усё шпарчэй бягуць па зямлі. Імкнецца ўсё з імі.

У чарнаце, пад дрэвамі, спяваюць. Словаў не чуваць. Адно гук ірвецца жалезным імчаннем.

Ваця прыпадае да чорнае пустаты акна, навісае ў яго, жмурыць вочы ад чорнага палу ў дыме — дым плыве і за-

стаецца тут начавац, у полі, не ўвагнаўшыся за паравіком.

— Спявалі?

— Спявалі, Вацян.

Удвух павісаюць у акно. Цеснага ахоплена ветрам, хоць цёмныя абрысы дрэваў не варушацца, імчацца нерухома.

— На якой станцыі злезем?

— Хоць на якой.

І яшчэ праехалі станцыю.

Свяцілі два ліхтары, цьмяна, сіратліва. Ноч толькі больш яшчэ гусцілася каля іх. Поезд адно прыпыніўся на паўхвіліны і пасля пакінуў пасля сябе стук і дрыжанне рэек. Удвух сталі на нізкім пероне, перайшлі да балясаў, селі на росную лаўку. З-за балясаў пахла трава і зямля — у веснавой расе. Пахла полем і лесам.

Памахваючы ліхтаром, варушыўся чалавек па шпалах, поўз некуды, да сіратлівага агеньчыка каля панурае будкі.

— Калі поезд будзе?

— Роўна ў шэсць.

Схаваў ліхтар за спіну, каб не перашкаджаў разгледзець твары двух чалавек каля балясаў.

— Ой чакаць вам, хіба спаць куды пойдзеце. Адно таварны ў поўнач пройдзе.

І папоўз да свае будкі.

— Раса на траве,— сказаў Вацяў таварыш.

Вацян ўстаў і прыслухаўся да ночы.

— Чуеш?

— Іграюць?

— Але.

Вацян ўзяў пад руку таварыша свайго.

— Я тут бываў на гэтай станцыі. І знаёмы ёсць.

Спацырам павёў яго паўз балясы, пад навіслым скляпеннем чорных ліп. Маўчалі абодва. Бялелі канцы шпал перад станцыяй.

Далей перад імі чарнелі будынкі; двухпавярховы драўляны дом асветленым акном згушчаў каля сябе змрок ночы. За ім недзе галасы — маладыя, звонкія — чуваць былі.

Трымчалі звонам балалайкі, гула гітара. Моцна шапталіся. Дзявочы голас спяваў:

Пазарасталі
мохам, травою
там, дзе хадзілі,
мілы, з табою.

— Хадзем, Ваця, назад.

— Куды?

— Нудна мне. Немаведама чаго ехаў я сюды. Хто тут у цябе знаёмы?

— У начальніка станцыі сын і дачка. Я жыў тут нейкі час, на практыцы быў, як вучыўся. Хадзем туды.

Узяў яго пад руку.

— Няёмка ісці.

— Чаго! Чаго там.

— Можа, там у іх госці якія.

— Ну дык што. А мы не госці?

— Хіба што ты знаёмы так з імі.

У цесным садку, у асветленай акном лапіне, была лаўка. Некалькі постацяў цесна сядзела на ёй. Дзяўчына ўсё спявала, толькі не разабраць было знаёмы голас ці не.

— Нехта ходзіць,— моцным шэптам абазвалася дзяўчына, пакінуўшы раптам спяваць.

Тыя ішлі ўжо рашуча, звонка ступаючы па дашчаным насціле ўздоўж балясаў.

— Двое, здаецца.

Малады бас няроўна гукнуў з саду:

— Хто?

І моцна шапнуў:

— Стораж Марцін, мусіць.

Павысіў голас:

— Марцін, ты?

Ваця сказаў:

— Лёнька... сын начальніка.

І хутчэй пайшлі ў сад. Голас у Ваці быў чысты, як веснавыя гукі:

— Лёнька, ты гэта тут?

— А хто гэта?

У святле пазналі адзін аднаго. Ваця адшукаў вачыма постаць дзяўчыны ў белым. Яна сама ўжо пазнавала:

— Ваця Браніславец?

Іх абодвух знаёмілі з рэшткаю моладзі. Зноў зайгралі. Гралі ў дзве гітары. Хлопцы пробавалі падспяваць зноў тую самую песню, што кагадзе спявала дзяўчына.

Пазарасталі
мохам, травою...

Стрымлівалі басавітую гучнасць сваіх галасоў. У гэты час Лёнька гаварыў з Вацем. Дзяўчына ў белым падсела бліжэй.

— Як ты, Ваця, апынуўся тут, уночы?

— Узяў ды прыехаў.

— Як гэта?

— Проста. Узяў білет, сеў з сваім таварышам, от з ім, у поезд і прыехаў. А тутака вылез з вагона.

— Чаго ж?

— Так сабе.

— Ну-у.

— От дзівак. Чаму гэтага не можа быць.

— Без прычыны?

— Без. Як сказаць. Матэрыяльнае, ці як, прычыны няма ніякае.

— А дзе ты цяпер?

— У Дараганаве.

— Блізка, значыцца.

— Недалёка.

— Дык так без прычыны?

— Ну, я ж сказаў табе.

Умяшаўся таварыш:

— Праўда. Селі і паехалі. І нават, наколькі я памятаю, ніколі нічога Ваця мне не гаварыў раней, што тут у яго ёсць знаёмыя. Успомніў, калі пад'ехалі да станцыі. Вы за гэта па яго павінны пакрыўдзіцца. А паехаць — дык гэта яму прыйшла ў галаву думка. Ён гэтакі дзіўны нейкі, ганяецца за нечым па свеце.

— Ён і быў гэтакі.

Дзяўчына падхапіла:

— Памятаеце, Ваця, як мы з вамі ўночы гэтаксама на заднюю платформу таварнага поезда ўскочылі былі і цэлую станцыю праехалі, а там чакалі да самага дня поезда назад? Падобна.

Яна як бы рада была, што цяперашні Ваціп учынак быў падобным да таго, калі і яна прымала ўдзел:

— От сваволілі мы тады.

Яна здавалася ўся празрыстаю тутака ў садзе, у густым змроку яго, пры скупым святле лямпы недзе ў доме на акне. Ваціп таварыш спрабаваў знайсці пуцявіну гаворкі з ёю:

— Вы заўсёды тут жывеце?
— Даўно ўжо тут жыву. А так — дык не ўвесь год. Цяпер кагадзе — некалькі дзён таму, як прыехала.
— Адкуль?
— З універсітэту. Вучуся. І брат таксама.
— На ўсё лета ўжо?
— Да асенніх залікаў. А вы?
— Працую разам з Вацем.
— Вы і даўно былі знаёмы з ім?
— Не, тут пазнаёміліся.
— А ён тут у нас, калі вучыўся яшчэ, быў на практыцы. От дзіўны нейкі. То вясёлы, то раптам сумны.
— Вам падабаецца?
— Які вы!
І хвасянула нейкаю галінкаю ці кветкаю яго па руцэ. Тады і гаворка стала жартаўліваю злёгку:
— Вы з ім разам вучыліся?
— Не.
— А я думала...
— Што вы думалі?
— Што вы адзін з тых, пра якіх ён, бывала, расказваў. Вельмі любіў паказваць. Вацю, вы памятаеце, як вы паказвалі аднаго студэнта, свайго таварыша, як ён, стоячы ў калідоры і ўспёршыся локцямі на акно, кілбасу есць?
Ваця раптам кісла адказаў:
— А вам ніхто ніколі пра мяне не расказваў?
— Не.
— Дрэнна.
— Чаму?
— От шкода, што я сам не магу сябе паказаць.
— От дзіўна, ха-ха!
— Давайце будзем спяваць.
Ваця папрасіў гітару, паварушыў пальцы па струнах і заспяваў:

Канаў пад ціхім небам дзень,
І ў цішыні грымелі буры...

Голас яго быў моцны, чысты. Прыемным здаўся яго таварышу. Той падумаў: «Ніколі, колькі жыву з ім, не чуў, каб ён спяваў калі. Сапраўды, дзіўны нейкі». А Ваця спяваў, злёгку праводзячы пальцамі на струнах і перабіраючы дзве нізкія. Усе слухалі.

І ў папурасці была
Жыцця нязведаная сіла...

Як скончыў, дзяўчына ў белым запытала:

— Што гэта за песня, Ваця?

— Яшчэ студэнцкая.

— Ніколі рапей вы яе не спявалі.

— А можа, і не студэнцкая. Забыўся.

Дзяўчына зарагатала:

— Ой, які вы смешны, Ваця. Ну гаварыце, чаго прыехалі. А то...

— А то што?

— Нічога. Не скажу, калі гэтакі.

— Які?

— Таксама не скажу.

— Капрызуля.

— Хто?

— Вы.

— От ужо і пасварыліся,— сказаў Лёнька.— Ты, Ваця, вазьмі ды вушы ёй пакруці за яе свавольства. От канешне ёй ведаць усё, дапытваецца. Заспявай яшчэ што-небудзь, Ваця.

— Больш нічога не ўмею.

У яго забралі гітару. Зноў па дзвюх гітарах зайгралі нешта вясёлае, гуллівае. Дзяўчына і хлопец — незнаёмыя — выйшлі на сярэдзіну саду, на выразаную ў траве шырокую дарожку і сталі скакаць. Постаці іх напалову хаваліся ў ночы, напалову асветлены былі невыразным, каляровым нейкім, святлом. Скакалі яны нядоўга, а пасля пайшлі па дарожцы, прыгожа абняўшыся сярод гэтых задумёных і чулых ценяў ночы.

— Пад дзень падбіраецца,— сказаў Лёнька.— Хадзем глядзець туман над паплавамі.

І растлумачыў Ваціпаму таварышу:

— Там за станцыяй у нас чыгупачны склад, і гараць чатыры вялікія і высокія белыя ліхтары. Вельмі прыгожа свецяцца ў тумане.

Усе адмовіліся ісці глядзець. Неўзабаве пачалі разыходзіцца. Лёнька запрапанаваў Вацю і таварышу яго:

— Пойдзем да мяне ў пакой, будзем спаць.

— Поезд праспім, не трэба.

— Днём паедзеце.

— Не, цяпер.

— Чаго ж ты, усё ж скажы, Ваця, прыязджаў... А мо-

жа, ты зусім не прыязджаў, а жывеш тут дзе, зноў па якой практыцы ці на працы?

— Ну от, не верыць чалавеку.

Той доўга ўпрошваў:

— І Валя будзе рада. І нашы ўсе... Валя!

Падышла Валя, у белым плацці. Ваця аглядзеў пустую лаўку і сказаў:

— Мы да вас прыедзем пеўзабаве па больш часу. А цяпер паедзем, раніцаю трэба па рабоце быць. Людзі прыйдуць, нядобра. А мы прыедзем.

— Скажы, калі? Можна будзе маёўку зрабіць.

— Я паведамлю лістом або тэлеграмай.

Ён паціснуў Лёньку руку, паглядзеў у зялёны ад ценяў почы твар Валі. Рука яе была халодная, кволая. Адну хвіліну цяпер хацелася яму застацца, каб пагуляць яшчэ з Валяю па садзе або па станцыі. Але перамог гэтае сваё жаданне. Удвух з таварышам выйшлі яны з апусцелага саду. Павольным спацырам выйшлі на станцыю. Гэтая цішыня і навіна абставін нервова ўзбуджалі іх. Пад нагамі ціха трашчаў пясок. На пероне гарэлі два высокія ліхтары. Нудная постаць цямнелася каля балясаў. От яна заварушылася, навярнула твар. Гушчырня і веліч зблытаных вусоў рабілі ўвесь твар як бы мізэрным і зусім непатрэбным. Хіба карысным дзеля таго, каб на яго дробных рысах больш яшчэ маглі кідацца ў людскія вочы вусы.

— Ці скора, грамадзяне, поезд будзе?

— Скора.

— Дзякую, грамадзяне.

— Калі ласка.

— Білетнае касы, гады, не адчыняюць. Парадкі!

— Сапраўды, нядбайства. Як гэта білетнае касы не адчыняюць?

— Бюр-ракратызм.

— І самы, ведаеце, рэакцыйны.

— Неміласэр-рны бюракр-ратызм.

Ваця гатоў быў ужо развесці гаворку і можа нават набыць сабе песпадзяванага прыяцеля. Таварыш яго ўзяў пад руку, пацягнуў у будынак.

— Ён жа не цвярозы. Ты не бачыш, ці што?

— Ну дык што, калі не цвярозы; тым лепш. З вамі, цвярозымі, прападзеш.

Скептычна ўсміхнуўся. Змяіная ўсмешка гэтая пакрыўдзіла таварыша.

— Ты ж сам не верыш таму, што гаворыш.

— Ну, ціха ты. Шкадуеш, што прыехаў?

— Не.

Адчынілі білетную касу. Купілі білеты. Чакаючы поезда, зноў выйшлі на пашарэлы трохі ад блізасці дня перон. Моўчкі хадзілі. Ваця слухаў нячутныя ўздыхі ночы, трэск пяску і бетону пад нагамі. Задумёным стаў. Раптам, узбуджваючы чуласць таварыша, зашаптаў моцна:

— Я, ведаеш, хацеў бы цяпер быць у кампаніі толькі з адным чалавекам. З ім толькі адным.

— З кім?

— З Радзівонам Цівунчыкам. З тым, пра якога я табе тагды цэлы вечар расказваў. Памятаеш?

— Памятаю.

— З ім толькі з адным. На нейкі час, каб нікога больш не было каля мяне. Мы б з ім тут пахадзілі б, сядзелі б, можа, тут на гэтым пероне, падкурчыўшы ногі, ці як. Можа, выпілі б — як і што прыйшлося б. І гаварылі б. Мы б з ім гаварылі б аб тым, аб чым ні з кім не гаварыў ніколі і не чуў, каб калі хто гаварыў. І гэтак жа гаварылі, як ніхто са мною не гаварыў. Гаварылі б аб гэтым пяску пад нагамі, аб гэтай вусатай постаці, аб тым, што цяпер от уночы, пад дзень, пахне нейк адмыслова гэтая станцыя, а мы на ёй удвух чакаем поезда. Аб гэтых от балясах, аб чорным над станцыяй небам, аб рэдкіх зорах, тумане над паплавамі, аб гэтым адзінокім, забытым тут таварным вагоне...

Гулі ўжо і дрыжалі рэйкі. Гул ішоў з ночы, з яе пустых і вольных нетраў. Памахваючы ліхтаром, выбег на перон дзяжурны. Франтаваты тэлеграфіст з'явіўся тут жа. Вусатая постаць нудна трымала пад пахаю тоўсты чамадан. Чырвоная шапка дзяжурнага была тут якраз дарэчы — яна давала разпавіднасць колерам сярод блізкага ўжо жалезнага гулу. Тры нерухомыя агні выкінуліся з ночы і з громам імчаліся сюды.

## IX

«Паважаны дзядзька Цівунчык! Я цяпер знаходжуся на рабоце ў лясах. Мераю лес і вылічваю, колькі яго там ёсць. Лесу многа. Жывецца ніштавата. Я пасля таго нейк адразу і выехаў, як мы з вамі, калі не забыліся вы, выпівалі вечарам, а перад тым удзень я заходзіў да вас на кватэру. Дык пасля таго я і паехаў. І ад таго не быў у гора-

дзе. Калі прыеду — не ведаю. Але напэўна, што пад восень буду ў горадзе. Тады, калі жывы і здаровы будзем, зайду да вас. Пабачымся. Успомніў вас і напісаў. Бывайце здаровы. Жадаю вам усяго самага найлепшага. Калі цырульнік Абрам Ватасон жыве яшчэ ў вас, дык скажыце яму, што я раблю, грошы маю і вясёлы. Бывайце. Ваця Браніславец. 8 траўня».

Перш за ўсё ліст гэты перачытаў таварыш:

— Нашто ты гэта напісаў? Ты ж з гэтым Цівунчыкам не гэтак знаешся, каб ні з таго ні з сяго пісаць яму лісты. Нашто гэта ты робіш? Ты падумай. Што гэта, насмешка?

— Якая насмешка?

— Ну, не вычварайся гэтакім.

— Якім?

— Ды ты сам ведаеш і разумееш, што я гавару. Добра ведаеш. Скажы, нашто ты напісаў?

— Хацелася напісаць гэтаму чалавеку.

— А што ён падумае?

— Будзе рад.

— Ты думаеш, што будзе рад?

— Будзе рад. Таксама як я быў рад, пішучы гэта. Але я не гэтак трохі гавару. Не рад, а нешта лепшае, іншае.

— Ліха цябе ведае, які ты дзіўны.

— Чаму гэта, па-твойму, я не магу напісаць яму? Што патрэбна дзеля таго, каб пісаць чалавеку?

— Ну, блізасць, нейкае добрае, не звычайнае, знаёмства, нейкая агульнасць у якіх-небудзь справах...

— А тут ніякіх спраў у нас з ім няма і не было. Я табе расказваў, здаецца, усё, як было...

— Таму ж я і здзівіўся.

— Але я табе на станцыі гаварыў, аб чым я з ім і як гаварыў бы, гаварыў і магу гаварыць.

— Не забывай жа, што ты хітрэйшы за яго.

— Як гэта?

— Вы тут не роўныя ўва ўсім гэтым.

— Чаму і як?

— Бо ты яго навылёт, а ён цябе не. Ты з ім гэтым сваім лістом, як з цацкаю, гуляеш, а ён зусім не бачыць цябе сапраўднага. Смешны ты. Ты страшна памыляешся, думаючы інакай. Ты ведаеш, разумееш, што я гавару, ці не разумееш? Ён жа ў тваіх руках цацка нейкая.

— Не.

— Ну, як не!

— Я ніякае хітрасці перад ім не маю. Мне шчыра хочацца пагаварыць з ім, пра што ён сабе хоча.

— Але вы не роўныя.

— Не ў гэтым тутака музыка.

— Якраз у гэтым. Іначай быць не можа. Ты лепш бы гэтага ліста не пасылаў. Або палажы гэты ліст па колькі дзён, няхай паляжыць, а тады прачытаеш і не пашлеш. А то — будзе табе пасля самому брыдка перад сабою за гэты ліст, калі ты пашлеш яго.

— Пашлю цяпер.

— Як хочаш, справа твая. Але, успомніш маё слова, што некалі будзе табе нядобра перад самім сабою. Фактычна, гэта здзек твой над гэтым старым Цівунчыкам.

— Вы ўсе прывыклі да гэтых умоўнасцей — гэта здзек, гэта грэх, гэта не можна, а гэта дапушчана законам або нейкімі там маральнымі ўстанаўленнямі...

— Як сабе хочаш. Нічога больш пра гэту справу я табе гаварыць не буду.

— Тады, калі ўжо сказаў усё.

— Каб ведаў, не гаварыў бы. Рабі, як хочаш, а то яшчэ возьмеш ды пакрыўдзішся.

— Ты, можа, шкадуеш, што і на станцыю тагды са мною ездзіў, тагды ўночы?

— Не. Не шкадую.

— Чаму?! Гэта ж таксама нічым не апраўдана. Дзе гэта хто калі бачыў, каб без дай прычыны праехаць некалькі станцый толькі дзеля таго, каб зараз жа завярнуцца і ехаць назад. Ну, як гэта па-твойму? Скажы мне.

— Там не былі пабочныя людзі ўмешаны.

— А каб былі ўмешаны?

— Дык, можа б, было гэта ім непрыемна.

— Гэты ліст узрадуе Цівунчыка.

— От ізноў вярнуліся да старога! Вы не роўныя тут, яшчэ раз гавару табе. Як ты не можаш зразумець?!

Ваця палажыў ліст у стол і пайшоў з хаты. А праз паўгадзіны вярнуўся, напісаў адрас і занёс ліст на станцыю. І не гаварыў таварышу нічога.

Атрымаў гэты ліст Радзівон Цівунчык пад вечар, калі, закончыўшы дзённыя клопаты свае, выходзіў на мост глядзець адыход поезда. Прыйшоў дадому і ўбачыў канверт, засунуты лістаносцам у шчыліну дзвярэй. Загаварыў сам з сабою:

— Ад каго ж гэта можа быць? Насця ж кагадзе пісала. Хіба што здарылася там у яе, крый божа, якое няшчасце. От будзе бяды, не дай божа чаго!

Пасля, разгледзеўшы штэмпель:

— Не, не ад Насці. Хто ж гэта мне можа адкуль пісаць? Што ж гэта можа быць?

Ліст узнерваваў і ўзрадаваў яго. Доўга ён гаварыў сам з сабою, тупаючы па хаце:

— Я такі адразу ўбачыў, што гэты Браніславец людскі чалавек. Адразу ўбачыў, як адно паглядзеў на яго. Ну што яму я! Як той казаў, дзяцей разам не хрысцілі, кантрактаў разам ніякіх не рабілі, а от бачыш ты — узяў ды напісаў. Успомніў. Ну, дзе ж гэтакі чалавек ёсць? От-бо, ёсць людзі на свеце. Цяпер гэтакія зводзяцца. От-бо чалавек, от-бо чалавек! І адрасу не напісаў. Або забыўся, або так здураваў. Каб быў адрас, я адпісаў бы яму адразу. Ну, некалі будзем, добра кажа, жывы-здаровы, дык убачымся. А-яй, як жа гэта здураваць ды адрасу не напісаць! Гэта ж трэба! Забыўся, мусіць. А можа, і нарочна; але чаму? Раз ён мне пісаў, дык павінен быў адрас свой даць. Што гэта і чаму гэта, дык хто яго ведае. От-бо чалавек!

Ён тупаў па хаце, гаварыў усё. Пасля замкнуў хату, выйшаў на вуліцу:

— Піша, каб сказаў Абраму Ватасону, цырульніку. Скажу, а як жа. Убачу і скажу.

Адышоўся да паваротні вуліцы з Койданаўскага тракту да вакзала. Стаяў там, глядзеў, як меркнуў і запальваў агні вячорны горад. Слухаў чулую радасць і ўздым зямлі і неба. Каменне пад нагамі яго было вільготнае ад дзённых дажджоў. Цяпер неба запальвала сіратлівыя хоры. Людзей хадзіла мала. Адно на мосце — пад ліхтарамі відаць было — стаялі, пазвешваўшы твары ўніз, глядзелі, як хадзіў унізе таварны поезд. З горада дабягаў вячорны гул. У Цівунчыка з'яўляцца пачалі жаданні пайсці туды, дзе гэтак роўна гарэлі агні на скрыжаванні трох вуліц. Неба ўсё запальвала сіратлівыя зоры.

## X

Нечаканая смерць Цівунчыкавае сястры здарылася якраз напярэдадні выхаду студэнта Макарчука з бальніцы. Яна, памытая і прыадзетая суседкамі, начавала дома,

а назаўтра Радзівон Цівунчык, як мог, хаваў яе. Насця не прыехала. Цівунчык разважаў:

— Тэлеграму я даў ёй — каб ільга было ёй, дык нейк жа прыехала б. А калі не прыехала — значыцца, нельга было ёй.

Пасля думкі яго пайшлі ў іншы бок:

— Як гэта так — колькі год не было Насці, не бачыўся гэтулькі часу; вельмі далёка заехала яна, а гэта раптам магла б прыехаць. Значыцца, яна і так можа прыехаць, каб хацела адно мяне старога пабачыць... Забываюць цяпер дзеці бацькоў.

Яму стала горка, і ён пачаў глядзець, як чорна каля куткоў рота ў пябожчыцы. На могілках ён застаўся адзін пасля ўсіх, агледзеў пязграбна насыпаную магілу, па-гаспадарску абышоў яе і выклаў на халодным жвіры з каменчыкаў крыжык. Ішоў дадому паволі, нічога не думаючы і адчуваючы ўсё надзвычайна лёгкім, прасторным і пустым. А дома застаў кватаранта свайго Макарчука. Узрадаваўся:

— А божа ж мой, гэта ж вы ўжо дома.

Пасля ад дабраты свае падумаў, што таму, можа, не зусім добра бачыць яго такім гаваркім пасля пахавання. І сказаў:

— З могілак прыйшоў, сястру сваю хаваў. Гэта, што па Прыбярэжнай вуліцы была.

— А з чаго ж яна памерла?

— Хто ведае! Прыйшла пара памерці, мой божа. Днём рабіла, а вечарам жывот ёй нешта забалеў. А назаўтра гарачка падскочыла. Чатыры дні паляжала і богу душу аддала. Шмат хваробы чалавеку не трэба, калі на смерць ідзецца.

І цяпер яму зусім стала горка і крыўдна:

— Гэтая, хоць і сястра мая — жыла, гаравала, прасветлае часіны ніколі не бачыла, а як памерла, дык і хавалі чужыя людзі. Усяго адзін я і быў, брат родны. Сын недзе ў Польшчы, другога — жывога няма. Божа ж мой, божа... А вы як?

— Папраівіўся.

— Значыцца, зусім з бальніцы прыйшлі?

— Зусім.

— Будзеце давучвацца?

— Але.

— От і добра. А мне той, што заходзіў тады раз, ліст прыслаў. Успомніў мяне, старога.

— Хто?

— Я і забыўся, як ён завецца. От пачытайце.

Ён даў Макарчуку прачытаць ліст Ваці Бранілаўца.

— Чаму гэта ён вам піша?

— А от гэтакі чалавек. Далікатны. Праўдзівы. Успомніў мяне. Гэтакіх людзей цяпер мала.

Раптоўна ўспомніў:

— Тут ваш белы хлеб быў застаўся пасля таго, як вас у бальніцу забралі. Дык я яго на сухары высушыў, а то ён дагэтуль сцвіў бы. Сапсаваўся б. Я вам прынясу.

Ён пайшоў у сенцы і прынёс адтуль талерку з дробнымі белымі сухарамі.

— Можаце есці. Зусім як свежыя. Тут адзін былі мухі запэцкалі, дык я яго, прызнацца, выкінуў. А рэшта — усе цэлыя. Вам цяпер правіцца трэба. Бач, які худы. Састругала як хвароба. Хвароба — не свой брат, хоць каго высушыць. Я от нагрэю вам гарбаты. Ды, прызнацца, і сам разам з вамі шклянку вып'ю... От табе і на, от і адзін зусім я на свеце застаўся. Няма, мой божа, і пайсці да каго, парадзіцца каб прыйшлося ці што якое іншае. Нікога свайго не засталося тут у мяне. Жыла-жыла, ды і памерла. Чалавечая доля. І ніхто ўсё роўна, каб і хацеў, не перайначыць. Вы дзе будзеце гарбату піць — у сябе ці, можа, у кухні са мною?

— У кухні з вамі.

— Добра, я адно трохі з стала тут прыбяру. Вельмі ж рыштункаў усялякіх повен стол. І адкуль яно бярэцца, ліха яго ведае. Здаецца ж, я стараюся ўсё па свае месца класці... Вы добра ведаеце гэтага, што напісаў мне ліст? Гэтага...

— Вацю Бранілаўца?

— Але, гэтага Вацю Бранілаўца.

— Не то што добра, але трохі ведаю.

— Можа, гэта ён зноў сюды ў горад прыязджаць думае, дык калі патрэбна яму кватэра, дык няхай бы ў мяне тут асталяваўся, калі выгодна яму тутака будзе. Я ж кажу. З гэтакім чалавекам і пажыць разам добра. А то часамі пападзецца такі, што ты дня з ім не ўбудзеш. На добрага чалавека ты мала дзе трапіш. Ён-та табе ўсякі будзе добрым, калі ведае, што ў цябе грошы ёсць. А ты вазьмі ды так мне будзь добрым. Без грошай. Тады я скажу, што

ты сапраўды добры. Праўда ці не? А гэта чалавек, калі ён мяне ўспомніў...

Пасля зноў па яго найшла хваля горнасці з прычыны смерці сястры. І да самага вечара ён горніўся, бедаваў, тужыў. Алесь Макарчук пад вечар пайшоў паволі ў бок горада, і Цівунчык, стоячы ў браме, гаварыў яму ўслед:

— От пацягнуўся. Няма каб адпачываў пасля хваробы, дык не. Што ты яму зробіш...

Глядзела скрозь ветравыя хмары сонца на зямлю. Апошнія гадзіны дня паглыблялі ўтрапенне Цівунчыкавага настрою. От ужо берагі неба засінелі вечарам, але сонца яшчэ ляжала на сцяне Цівунчыкавае кухні. Ува ўсім доме была цішыня. І на двары было ціха. Дзіцячыя галасы адно павялічвалі гэтую цішыню. Цівунчык доўга стаяў пасярод кухні, залажыўшы рукі ў кішэні. Варушыў тварам і дробна міргаў вачыма. Сіняя муха, што ўляцела знадворку, сіратліва білася ў сонечную шыбу. Цівунчык, раздражнены гэтым гулам яе, замахнуўся на яе ручніком. Яна адлящелася ад акна. Тады ён адчыніў акно і выгнаў яе тым жа ручніком. Праз акно дыхнула пахам гарадской травы. Цівунчык сеў на лаву за сталом, палажыў рукі на стол і моцна засумаваў.

# ЧАСТКА ЧАЦВЁРТАЯ

## I

Даўно прайшоў той дзень, калі конка прывезла была да вакзала Казімера з лістом да Мані. Даўно адышлі ў вечнасць хвіліны першай сустрэчы іх — Казімера і Мані. І дым ад паравікоў над вакзалам М.Б.Б. ужо раставаў не ў веснавым чыстым небе, а ў шырокім — цяжкім — летнім. Колер гэты неба сведчыў аб блізкім канцы лета.

Радзівон Цівунчык даўно пакінуў сваю кватэру пад нагляд студэнта Макарчука, а сам падаўся некуды ў сады вартаваць яблыкі. Раз у два тыдні з'яўляўся ён дадому — выпіць з Макарчуком піва ў прывакзальнай піўной і пасля доўга гаварыць яму аб выгодах і невыгодах жыцця.

За ўсё лета ён, апроч Макарчука, толькі і бачыў аднаго знаёмага. Раз — гэта Абрама Ватасона, былога кватаранта свайго. Той некуды спяшаўся, выціраючы на хаду хусткаю спацелы лоб. Гэта было ў нядзелю. Цівунчык, адвартаваўшы ноч, адпрасіўся да вечара дадому. І цяпер, у гарачы поўдзень, стаяў на вуліцы, раздумваючы, куды б падацца. Абрам ішоў па другім баку вуліцы. Цівунчык гукнуў:

— Пачакайце!

Абрам азірнуўся і падышоў.

— Хаця скажыце, дзе ж вы цяпер паварочваецеся?

Абрам нешта сказаў аб сваёй новай рабоце, даведаўся, што Цівунчык вартуе цяпер яблыкі, і хацеў ісці. Цівунчык пакрыўдзіўся:

— Што ж вы гэтак уцякаеце адразу? Гэтулькі жылі разам і гэтулькі не бачыліся. Як жа вам жывецца цяпер? Ці добрую кватэру маеце? Чаму ж не хваліцеся?

— Кватэра нішто.

— А ў драўляным доме ці ў муры?

— У муры.

— От гэта нядобра.

— Чаму?

— Зімою вільгаць будзе. Няхай бы вы дзе стараліся сабе кватэры ў драўляным доме.

— Там добры мур.

— Мала, што ён добры. Але ж цэгла, якая б яна ні была, трымае ў сабе холад.

Ватасон хацеў нейк апраўдацца перад Цівунчыкам за тое, што не жыве ён у драўляным доме, але нічога ў яго не выйшла, і ён, спяшаючы, развітаўся і пайшоў. Цівунчык развёў рукамі яму ўслед.

— Так, забыўся, значыцца. Чалавек!

Пасля дадумаўся:

— Цяперашні — дык у яго гэта няма, што там свой ці не свой; знаёмы ці не знаёмы. Усялякі ў яго можа быць прыяцелем і ўсялякага ён можа заўсёды забыць і нават не пазнаць пасля.

Пасля таго дня ён вельмі доўга не мог быць дома і ўвесь час меў у сабе крыўду на Абрама. І ўсё параўноўваў яго з Вацем Браніслаўцам, расказваючы вартаўнікам суседніх садоў, як ён прыслаў быў яму ліст — хоць і вучоны, але без ніякага гонару, па-прыяцельску.

Доўга яшчэ трэба было быць яму ў садзе, да самых замаразкаў. І чамусьці не цягнула яго нікуды цяпер адтуль. Ён адчуваў нейкую стомленасць усё лета. Адно пад восень стала яму лепш.

У той самы час на яго кватэры студэнт Алесь Макарчук рыхтаваўся канчаць універсітэт. На гэтай пустой кватэры збіраліся студэнты, што засталіся летаваць у горадзе. Утомленыя за мінулую зіму, яны стараліся цяпер як мага хутчэй скончыць сваю кніжную работу.

Адзін раз Макарчук сядзеў адзін дома. Адчыніўшы акно, ён слухаў, як да вакзала з'язджаліся з горада людзі,— к вячэрняму поезду. Тады з'явіўся перад акном Вацfolder Браніслаўца. Яны спаткаліся суха, як малазнаёмыя. Вацяя гаварыў:

— Праўду кажучы, дык я гэта хацеў бы пабачыць самога гаспадара — Цівунчыка.

— А ён недзе сады вартуе. Няма яго.

— І не будзе сёння?

— Не.

— А я думаў, што напачую ў яго. Прызнацца, як

ад'язджаў, дык з гаспадыняю пасварыўся быў. Нядобра ісці цяпер... Ну, добра, пайду ў горад. Бывайце.

Макарчук затрымаў яго:

— Дык вы пачуйце. Цівунчык нават і ўспамінаў, што калі, кажа, будзе, дык няхай бы па кватэру застаўся. Ліст усё паказваў той. Вельмі рад стары.

Ваця пачырванеў і пайшоў у кухню. Гаварыў:

— Паслязаўтра зноў паеду назад. Пабуду два дні... Ішоў дзесяць вёрст пехатой — лясы прыгарадныя аглядаў. Стаміўся вельмі. Паспеў толькі папалуднаваць у піўной.

Змяркалася. Ён сеў на запасны ложак каля куханнай сцяны і пачаў раздзявацца. Макарчук пакінуў яму ключ ад кватэры.

— Куды?

— Прайдуся пайду. Калі што якое, дык ключ можна з сабою ўзяць — у мяне другі ёсць.

— Я нікуды не пайду.

— А я, мусіць, не забаўлюся ў горадзе.

Аднак Макарчук прыйшоў позна. Ваця з самага вечара спаў, пасля прачнуўся і ўвесь час не мог заснуць. Усялякія думкі лезлі яму ў галаву. Цішыня пустой кватэры варушыла ў ім усе глыбіні чуласці яго. Зноў захацелася яму заставацца тут у горадзе і зрабіць тут нейкі парадак у жыцці сваім. За ўвесь час лясной работы свае ён пацвярдзеў і нават сам бачыў гэтую змену сваю: здавалася яму, што не так успрымае ён нават усё тое, што раней магло даводзіць яго да ўсялякае вастраты настрою.

Ён доўга ляжаў, шырока расплюшчыўшы вочы і прыслухоўваючыся да цішыні. Мусіць, было позна, бо каля вакзала і па вуліцы не было аніводнага зыку. Патроху ён зноў пачаў драмаць, аднак задрамаць зусім не давалі яму думкі. Тады за сцяною раптам пачалі хадзіць, нечым стукаць, весела гаварыць. Адзін голас быў яму вельмі знаёмы, і аднак не мог ён ніяк прыпомніць цяпер, хто гэта. Другі голас быў незнаёмы, але нагадваў ён нешта чутае калі ці бачанае. Гаварылі аб нейкім здарэнні, якое, мусіць, вельмі цікавіла іх:

— А ўсё ж ён дурны.

— Я гэтага не сказаў бы.

— А я скажу.

— Але чаму?

— Гэтулькі пакутаваў, стараўся, а калі дайшло да справы, дык адразу ўзяў ды і здрэйфіў.

— Можа, добра і зрабіў.

— Гэта іншая справа. Усю дарогу з-пад самага Мілітопаля выхваляўся, а пасля і змоўк. Бабы спалохаўся.

— Не, тут не то, што ён гэта спалохаўся.

— А што?

— А от гэта ж і самае важнае. Разбяры тут.

Нечым зазвінелі. Сон у Ваці зусім прайшоў. Было толькі жаданне прыпомніць, чый гэта гэтакі знаёмы голас.

Усё высветлілася нечакана. Толькі што ўвайшоў Макарчук і запаліў святло, як нехта застукаў у дзверы. Той самы знаёмы голас, заікаючыся, гаварыў нешта ў кухні Макарчуку. Пасля Макарчук падышоў да Ваці:

— Суседзі запрашаюць адсвяткаваць іх прыезд.

— Адкуль?

— З Каўказскіх гор.

Ваця прыпомніў тую ранейшую выпіўку тут, за сцяною.

— Мяне запрашаюць?

— Нас абодвух.

— Як жа яны даведаліся, што я тут?

— Я сказаў.

З кухні знаёмы голас дадаў:

— Ён мяне паінфармаваў.

Ваця ўсхваціўся, абцягнуў зашмальцаваныя свае галіфэ, нейк устрапянуўся ўвесь і сказаў:

— Чаму не пайсці.

Макарчук згадзіўся:

— І я так думаю.

У кухні знаёмы голас абазваўся:

— Душу адвесці.

Ваця кпліва пажартаваў:

— Хаця аджыць, хоць на адну ноч.

Той у кухні загаварыў:

— Гэта ты дарэмна. Аджыць? Ад чаго аджыць? Хадзем, бо там чакаюць. Макарчук!

Ваця гукнуў:

— Чаго ты стаіш там у кухні? Хадзі сюды!

Той з'явіўся ў дзвярах. Ваця прывітаўся з ім. Рука ў таго была гарачая, мяккая.

— Суджана нам ізноў спаткацца.

— Але ж.

Ваця акінуў яго ўзрокам з ног да галавы, заўважыў, што той вельмі цесна падпярэзаны, запытаў:

— Пішаш усё?
— Пішу.
Замкнулі кватэру і пайшлі. І там, у гурце незнаёмых, Ваця Бранiславец заўважыў таго самага вайсковага, які ў вагоне тлумачыў яму пра лыжны спорт, калі ехаў Ваця ў свае лясы.

## II

Так ён і пражыў на Цівунчыкавай кватэры тры дні. Там за сцяною праседзелі да добрае раніцы, і не было цяпер ахвоты Ваню гэтак, як тагды, здзекавацца над гаспадаром гэтае вясёлае, а можа, больш сумнае, чым вясёлае, кватэры. Ваця маўчаў увесь час. Адно папытаўся ў вайсковага:
— Як вы трапілі сюды?
— Чаму?
— Вы знаёмы з імі?
— Едучы, у вагоне пазнаёміліся. Яны ехалі з Каўказа, здаецца, а я з водпуску. От і пазнаёміліся. А вы тут жывеце, ці як?
Ён не пазнаў Ваню, і Ваця не прызнаўся яму, што быў ужо з ім знаёмы раз. Адышоўся ад яго і збоку глядзеў, як усе расказвалі вясёлыя гісторыі і рагаталі. Таксама шчыра рагатаў, падпіўшы трохі, і студэнт Макарчук.
А назаўтра не ведаў, што рабіць, Ваця. Пасля паўдня, вольны ад усіх справаў сваіх, сам не ведаючы чаму, пайшоў шукаць Казімера. Знайшоў яго ў клініцы і больш паўгадзіны чакаў, пакуль тоў вызваліцца ад работы. Ішлі з клінікі разам, і Ваця, слухаючы Казімера, ніяк не мог уведаць, ці гэта рад Казімер бачыць яго, ці толькі гэтакім далікатным хоча быць. Увайшлі яны ў вельмі вузкую і зялёную ад каштанаў і клёнаў вулічку.
— Ты ўжо тут жывеш?
— Тут, пераехаў.
Увайшлі ў светлую кватэру з двух пакояў. Большы пакой быў застаўлен сталамі з доктарскімі прыладамі, паліцамі з кнігамі. Нефарбаваная падлога была чыстая, заслапая каля большага стала шэрым палатном.
— Тут сяджу і працую.
— Над чым працуеш?
— Над чалавечым сэрцам. Аперацыі сэрца. Вельмі цікавая і страшная работа.

— Страшная?

— Я ж, паогул кажучы, не прывык, як сам ведаеш, рабіць і больш простыя аперацыі...

— А што ж у сэрцы страшнага?..

Казімер падсунуў яму крэсла. Холад гаворкі іх усё больш павялічваўся.

Нарэшце Ваця сказаў:

— Вясною бачыўся з Маняю.

— Дзе?

— У Дарагапаве. Сама туды прыязджала.

— Да Анці?

— Але.

— А ты чаго быў там?

— Я там жыву. У Анці і жыву якраз.

— У Анці?

— Лясы мераю.

Казімер нахмурыўся.

— А што ж расказвала Маня?

— Хіба ты яе не бачыў?

— Чаму?

— Што пытаеш?

— Бачыў.

Казімер востра паглядзеў на Вацю. Больш пра Маню яны не гаварылі. І Ваця адчуў, як вялікая варожасць зноў расце ў яго да Казімера. І яшчэ з'явілася ў яго нейкае горкае пачуццё, якое магло быць тады, калі б Маня была ў нейкай змове з Казімерам супроць яго. І гэта страшна калола яго, бо, як здавалася яму, нават тая халоднасць, з якою Маня была тады развіталася з ім на станцыі, шмат абяцала яму. Гэта цяжка было выразна ахваціць разуменнем, але гэта ляжала на дне істоты яго. З таго часу гэта прытупілася, улягглося, але не згінула і вельмі часта, на моманты, выплывала наверх.

— А ты што цяпер робіш?

— Я ж табе казаў — лясы мераю. Зараз паеду назад. І падумаў: «Чаго нам быць адзін з адным гэтак. Што нам дзяліць?»

Устаў, падышоў да стала і пачаў аглядаць Казімеравы кнігі і прылады.

— Будзеш абедаць у мяне?

— Не, я пайду зараз. Там мяне чакаюць якраз абедаць... Ты не збіраешся ехаць у свой бок, дадому?

— Я заязджаў туды ў пачатку лета. Быў там трохі.

Праехаў дзеля разрыўкі. Родных там цяпер нікога няма ў мяне...

— А Ватасон дзе цяпер?

— Даўно не бачыў. Працуе недзе...

— Што ты, не дружыш з ім?

— Холадна нейк усё між намі цяпер.

— Што вам дзяліць?

— Няма агульнага ў інтарэсах нашых. Разумееш?

— Так як у нас з табою?

Казімер паглядзеў на Вацю, закурыў і рашуча сказаў:

— Можа, і так.

— Я цяпер лепш адчуў сябе ў цябе, калі шчырае слова пачуў.

Абодва ўсміхнуліся. Абодва адчулі, як нешта непрыемнае парвалася між імі і лепш стала ім.

— А можа, застанешся абедаць?

Вацю падумаў:

— Давай будзем абедаць.

Ваця скінуў плашч. Казімер пайшоў, сказаў гаспадыні, каб давала абед.

— З Маняю часта бачышся?

— Яна табе не гаварыла, як бачыліся ў Дарагапаве?

— Тое было вясною. Даўно.

— Я жыў у яе ў школе, калі падыходзіў канец водпуску. Пра цябе яна нічога не ўспаміпала мне.

— Няма, значыцца, чаго ёй успамінаць пра мяне.

Толькі падумаў гэта і сказаў моцна, сам сабе. Казімер заўважыў яго смутак ад гэтага і некалькі хвілін не зводзіў з яго вачэй. Перасядаючы ў другі пакой да стала, Ваця адчуў, як хочацца яму хутчэй выйсці адгэтуль, перарваць усю гэтую фальш, якая сама з'явілася, усё вырастала, і ніяк ад яе нельга было пазбавіцца.

— Можа, гарэлкі вып'ем, гаспадыня можа прынесці.

— Няхай прынясе.

Казімер на хвіліну выйшаў.

Вельмі добра і цёпла развітаўся Ваця з Казімерам праз непаўгадзіны. І заўважыў, што Казімер увесь час думае нешта сваё. Што моцнае нешта і важнае, можа, адзінае для яго, пануе над ім. Ён, развітваючыся, адчуваў, што зараз, застаўшыся адзін, Казімер забудзе ўсё дзеля свае справы.

І Ваця сказаў на адыход:

— Садзіся, працуй.
Казімер ажывіўся:
— Я сяджу да позпяе ночы. А перад сном выходжу на вуліцу. Праходжу некалькі разоў уздоўж дому, часам абыду некалькі вуліц...
Памаўчаўшы:
— Добра.
Ваця пайшоў, ведаючы, што адмяжоўваецца ён ад Казімера сваёю неспакойнаю дарогаю. Тады, калі ў Казімера ўсё спакойна і вырашана, дзеля таго, каб вырашаць тое, вырашэнне чаго стаіць перад ім як мэта ўсяго жыцця.
І застаўся Ваця да канца таго дня хадзіць па вуліцах.
І ўсё перадумваў:
— Казімерава дарога разышлася з маёю. Таксама і Ватасонава. Што было ў дзіцячыя гады, пасля жыло, сагрэтае першым юнацтвам, халадзее, калі прыходзіць разважанне жыццёвае спеласці. І тыя хваляванні апошняга часу былі мяжою на канцы юнацкай кіпучасці.
Ён пайшоў начаваць сваю апошнюю ноч на Цівунчыкаву кватэру. І была там неспадзяванасць: Цівунчык сядзеў за сталом і выскрабаў відэльцам з скаварады астаткі нейкага смажэння. Твар яго быў утомлены, валасы на галаве, рэдкія і мяккія, растрапанасцю сваёю закрывалі лысіну. Ён усхваціўся Вацю насустрач:
— Сядайце, сядайце...
— Як жа гэта вы?
— Яблыкі прывезлі прадаваць. Я, мусіць, пабуду тут з тыдзень, пакуль зноў не падвязуць. Тады з фурманкамі паеду назад.
— А я тут без вас прыстроіўся на кватэры. Заўтра паеду. Вы выбачайце.
— Што гэта вы, бог з вамі. От маладцы, што засталіся. Што хаты мае, як той казаў, не мінаеце.
Недалёка было да змяркання.

## III

Казімер выйшаў на ганак спаткаць Маню. Яна ўваходзіла ў дом яго вясёлая, злёгку задумёпная.
— Паправілася ты як з таго часу, як быў я ў цябе.
Яна смяялася:
— Можа.

— Пажыві тут, што табе рабіць там адпой.
— Толькі ўгавор.
— Які?
— Ці не перашкоджу табе?
— Як гэта ты ўсё напярэджваць павучылася.
— Я застануся.
— Тыдняў тры таму Браніславец да мяне заходзіў, расказваў, што з табою ў Анці бачыўся. А ты нічога тады мне пра гэта не ўспаміпала.
— Да мяне цяпер настаўнік пазначаны новы — Макарчук. Прыязджаў. Слаўны такі.
— Я ведаю яго. Я яму гэтаю вясною аперацыю рабіў. Жыў у адной кватэры з Абрамам.
— А дзе Абрам цяпер?
— Кінуў сваё цырульніцтва.
— А што робіць?
— Над перабудоваю горада галаву ломіць. План цэлага прыгараду абдумвае цяпер.
— Бачыш яго?
— Не часта.
— У N. ён быў адзіным прыяцелем мне.
— А мне тады, на хутары, калі абодва мы падраслі. Доўгі час, тады, як маці яго памерла. Асабліва тады. Душыць мяне нешта, калі ўспамінаю тыя часы.
— А цяпер як вы з Абрамам?
— Халодныя прыяцелі.
— Чаму?
— Нічога дрэннага між намі няма і не можа, здаецца, быць.
— Вы ж раней вельмі блізкімі былі.
— Былі.
— Дзіўна.
— Няма, разумееш, таго, што да глыбіні душы зближае. У маленстве гора звязло было нас...
— А цяпер?
— А цяпер наша праца не дазваляе нам часта бачыцца, а яшчэ — выразна — гэта не агульная работа.
— Няўжо ты такі сухі?
— Чаму?
— Ці вы абодва гэтакія сухія?
— Гэта што, толькі праз агульнасць інтарэсаў блізкімі можам быць?
— Але.

— Можа, я не так сказаў... І сам я выразна сказаць не магу, але няма між намі тае рапейшае блізасці. Ён жа вельмі слаўны, добры, разумны. Мы нават і дружым, калі па тое пайшло, але нават часам і не зусім шчырымі адзін перад адным можам быць. Гэта патроху заўважылася нейк.

— І, мусіць, да таго часу, калі што-небудзь не звядзе вас разам.

— Можа.

— Табе, можа, не хочацца пра ўсё гэта гаварыць?

— З Вацем можа быць іншая справа.

— Як?

— З гэтым ільга зусім быць блізкім, вельмі хутка здружыцца з ім, але ж таксама хутка і разысціся, нават ворагам стаць... Я ведаю, ён прагнуў цябе ўбачыць, сам шукаў цябе. Нават, ведаю я, збіраўся да цябе ў N. ехаць. Што ж ён гаварыў табе, убачыўшыся?

— Я бачыла, што ён вельмі рад быў.

— І не гаварыў доўга?

— Ты ўгадаў. Ён быў неспакойны нейкі. Праводзіць мяне хацеў да мае станцыі, але мне, чамусьці, самой нядобра нейк перад ім было. Я папрасіла яго не праводзіць мяне зусім. І цяпер шкадую — мусіць, я пакрыўдзіла яго гэтым. А гэтага я не хачу. Ён добры. Нават больш за гэта. Бадай-што ён лепш тут за ўсіх. І за цябе нават. Усё ж ты сухім стаў цяпер. Таксама як, мусіць, і Абрам. А можа, у вас гэта ідэя якая ці мэта ў кожнага засланяе сабою ўсё іншае?

— Найлепш, як Ваця, без ніякае мэты. Ён добры і слаўны, ты ацаніла яго, але слабы ён, як саломіна, як вялая цівіна.

— Наадварот. Ён вельмі моцны. І ён ідзе па сваёй дарозе.

— Няпэўна.

— Ідзе да свае пэўнасці.

— А мабыць, пакуль што без дарогі?

— Важна тое, што ён дамагаецца сэнсу ўсяго дзеля сябе, шукае.

— Шукае тое, што даўно знойдзена.

— Можа, не зусім?

— Больш за ўсё гэтак у яго... Ён дамагаўся ўбачыць цябе, а раз убачыўшы, ні аб чым не пагаварыўшы, не ска-

заўшы таго, што, мусіць, меў сказаць, знік ад цябе і ўсё гэтым скончыў.

— А я думаю, што гэта далікатны ён. Думае, што зусім не хачу бачыць яго, і не надазаляе. Я думаю, што гэта ў яго.

У пахмурны Казімераў твар глядзела Маня. Казімер маўчаў, вадзіў пальцамі па стале.

— Сухія, сухія вельмі вы ўсе. Жывое душы больш патрэбна чалавеку...

Маня гаварыла доўга, будзячы раптам у Казімера мінулыя даўно хутарскія дні.

## IV

Восень падыходзіла ўпарта.

Інакш свяціла сонца над горадам. І ночы станавіліся звонкія і глыбокія.

Маня збіралася на ўсю зіму засесці ў сваёй школе, разлічваючы пасля зімы некалі канчаць сваю асвету. Яна дажывала свае апошнія дні ў горадзе. І цяпер сама хацела пабачыцца з Вацем. Каб дагаварыць тое, што тады не пачата нават было ў гаворцы. Яна лічыла гэта і сваім абавязкам, і нават цікавасць была да гэтае, новае гаворкі, а часамі нават даходзіла гэта да мяжы з нечым большым.

Адзін раз вечарам яна вярнулася з Казімерам з Цівунчыкавых кварталаў — праводзілі Макарчука, які зусім сабраўся ўжо на тую станцыю. Маня збіралася ехаць неўзабаве.

Дома чакаў Абрам:

— У школу зноў?

— Зноў.

— Хіба не можна тут застацца?

— Не хачу цяпер.

— Чаму?

— Я і там патрэбна.

— Тут таксама патрэба ёсць. Тут жа і працаваць лепш, у горадзе.

— Можа, там затым мне і лепш, што там цяжэй.

І Казімер і Абрам змаўчалі. Яна паглядзела на іх абодвух і мяккім матчыным голасам зноў, як тады, сказала:

— Душы жывой больш, родныя мае!

І правялі яны той вечар ціха і радасна. У той вечар як бы тым далёкім хутарам павявала на іх.

А назаўтра, пад вечар, Казімер яе праводзіў на вакзал. Пасля адыходу поезда ён моўчкі прайшоў з перона праз непрытульную залу, праціснуўся на ганку скрозь натоўп і раптам заўважыў шчуплую постаць старога чалавека. Чалавек стаяў наводшыбе ад усіх і нешта думаў, разглядаючы брычкі і фурманаў уздоўж напурай драўлянай загарадзі.

Заўважыўшы Казімера, чалавек устрапянуўся, падазрона агледзеў яго і пайшоў насустрач. Казімер пазнаў старога Цівунчыка. Той ужо падаваў яму руку:

— А студэнт мой паехаў учора. Зусім, небарак, працаваць паехаў.

— Я праводзіў яго.

— Я, такі, пазнаў вас адразу. Гляджу сабе стоячы — аж гэта вы. Гэта ж вы доктар? Што тагды прыходзілі?

— Я.

— Я ведаю. Тагды гэта што да цырульніка заходзілі. Вы з ім, мусіць, дружыце?

— Дружу.

— Але, вы з ім дружыце. І, скажу я вам, гэта цяперашнім светам, можна сказаць, навіна. Цяпер — сёння дружыць, а назаўтра прыгубіць гатоў. Гэта, я вам скажу, факт.

— Чаму вы гэтакі недаверлівы да цяперашніх людзей?

— Не то, што гэта я да людзей. У мяне дачка, дык — я не патрабую лішне ад яе, каб яна там памагала мне, але каб хоць пісала часцей. Божа мой, божа. Я адзін на свеце застаўся... што ты зробіш... Напіша гады ў рады, і больш нічога... Вы павінны ведаць ляснічага Браніслаўца. Ён з цырульнікам трохі дружыў.

— Ведаю.

— Гэта дык чалавек!

— Добры?

— Найлепшы. Ён мне ні сват, як той казаў, ні брат. Як кажа прыказка, мы з ім дзяцей не хрысцілі. А — чужы-чужаніца — успомніў мяне. Даўно ўжо было гэта. Я вам раскажу.

Ён доўга расказаваў аб Ваціным лісце, радаваўся, тужыў. Казімер спакойна слухаў яго. Яны паволі ішлі змрочнаю вуліцаю. Цівунчык спяшаўся, каб паспець усё расказаць.

—...таксама яшчэ гэты студэнт мой добры, што жыў у мяне.

— І я яго люблю.

— А Бранiславец, ляснічы гэты, пераязджае на зіму ў горад і зноў мне ліст прыслаў — на кватэру просіцца. Я і рад, што гэтакі чалавек. А то пусці якога-небудзь, дык пасля сам не рад будзеш... Я гэта пазаўчора вярнуўся дадому. Зусім вярнуўся. Ночы, сказаць, халодныя пачынаюцца, дык па двару пачаваць мне ўжо не гады. Мінулася тое, што бывала холад ці не холад, а я магу, дзе хочаш і як хочаш. Дык я вярнуўся дадому,— бачу студэнт мой патроху ў дарогу збіраецца і гаворыць мне — ліст, кажа, да вас прыйшоў. Хадзем, самі прачытаеце яго лісты, калі хочаце.

— Яно-то можна, але я спяшаю вельмі.

— Ну, то няхай другім разам калі... Цырульнік гэты таксама — некалі мы з ім гэтак жа добра жылі, а гэта ўлетку нейк спаткаўся быў я з ім, дык ён нагаварыў са мною адчэпнага і падаўся як мага хутчэй у свой бок, нават не развітаўшыся па-людску... Заходзьце калі-небудзь. А пасля, я ж кажу, ляснічы гэты перабярэцца. Будзем патроху меркавацца. А можа, зойдзем? Няўжо вы так спяшаецце?

Казімер развітаўся з ім. Ветліва і далікатна.

Радзівон Цівунчык застаўся глядзець, як Казімер пайшоў шпарчэй. Сказаў сам сабе:

— Што ж тут рабіць? Куды-небудзь хіба падацца трэба. А то — спаць пайсці легчы, ці што.

Павярнуўся і знік недзе сярод растрэпаных почаю будынкаў. Адно кашлянуў суха і дробна, з свайго двара. Пасля загаварыў, узыходзячы на ганак:

— Развальваецца ўсё, раскідаецца. Што ты зробіш. Мне правіць? Здароўе не дазваляе, не гады мне. А нехта ж потым застанецца гаспадаром пасля мяне. Нехта застанецца. Божа ж мой, божа — пажыву я яшчэ ці не? Хто ведае. Ніхто нічога не можа ведаць.

Пастаяўшы на ганку:

— Калі ён застанецца гаспадаром, дык раней усяго яму трэба будзе браму новую паставіць. Бо з такою брамаю — гэта смех адзін. Гэта не брама, а слёзы. Але, але, гэта слёзы... Ганак таксама прыйдзецца яму паправіць. Дошкі гэтыя яшчэ, можа, і трымаліся б, дык падваліны

згнілі. А раз падваліна згніла, дык дошка табе трымацца не будзе. На чым жа яна будзе трымацца? Пасля, мусіць, яму давядзецца яшчэ ўвесь дом перакрыць...

Казімер ішоў шпарка, раздумваючы аб сваіх упартых практыкаваннях.

## V

Восень неўзаметкі асталёўвалася над горадам. Тут яна і прыметна была, можна сказаць, толькі ў застыглых колерах слаўнага неба, чыстага па дзіва.

Каломенскі ж скверык упарта зеляніўся, дрэвы яго не хацелі жаўцець. Дзьмулі вятры і шасталі ў лісці; часам яно, жоўтае,ападала. Але так было тут яго мала, што часамі і ўлетку па якім-небудзь хваравекаватым дрэўцы яго менш не бывае.

Ваця выстраіўся ў гарадскі гарнітур. Ванзэлкі яго ўжо трэці дзень стаялі нераспакаванымі, а ён сам ужываў асалоду радаснага заспакаення свае бунтоўнае душы. Пяць дзён было яшчэ вольных, пакуль трэба было на цэлую восень і зіму брацца за ляснуюработу ўва ўсякіх канторах і кіраўніцтвах. І кожны дзень, пад вечар, ён падоўгу праседжваў цяпер на сваім улюбёным месцы — на Каломенскім скверыку. На кватэры ў Цівунчыка ён усё ж не застаўся: спалохаўся вельмі вялікае, аж празмернае таварыскасці і нескапчонае гаворкі самога Цівунчыка. Паўтары добы бесперастанку перагаварыўшы з ім, ён пад вечар нейк неспадзеўкі наняў пакой каля Віленскага вакзала і забраў туды рэчы. Але давялося яму схлусіць перад Цівунчыкам, каб не пакрыўдзіць яго.

— Чаму ж вы ўцякаеце?

— Там мае сваякі, дык я ў іх буду жыць. Самі запрасілі.

— Блізкія сваякі?

— Не вельмі блізкія, але...

— Ну, пэўна, якія б сваякі ні былі, а ўсё ж сваякі. На гэтым, можна сказаць, свет стаіць...

Ваця да канца не даслухаў, і Цівунчык падумаў, што трэба будзе калі-небудзь выказаць усё гэта яму да канца. Адно каб не забыцца яму, старому, заклапочанаму тым, што жыве ён на свеце.

Ваця ж сумаваў толькі аб адным, што не ўдалося перад асенняю працаю ў горадзе пабачыць бацьку. Ліст ад яго ён некалькі разоў перачытваў, седзячы на сваім улю-

бёным скверы. Пакручастыя і няемелыя літары старога не давалі яму забыцца на тую старую, трухлявую хату: «...а яшчэ, сынок, паведамляю табе, што трэба было б канька змяніць, а то ўлетку дык яшчэ сяк-так, а зімою бяда будзе з ім. І здароўе маё папсавалася зусім. Няхай бы ты даведаўся дадому, можа, там будзе калі выдарыцца часіна якая. Дык даведайся. У хаце пад вокны трэба будзе на вясну па вянку падкласці і страху перакрыць... Улетку нешта парсючок не ўзяў есці, дык дакалоць прыйшлося. Кілбасы, колькі было, захавалі на зіму, дык, калі будзе як, я табе з пару якую прышлю. Вельмі ж высахлі добра, пад страхою вісючы. Можа, ты даўно свойскіх кілбас не каштаваў...»

Гэты ліст прымусіў яго паслаць бацьку грошай, колькі можна было. І нейкі глыбокі след на сэрцы, як плуг баразну на гладкім полі, рабіў гэты бацькаўскі ліст.

Мяккі, як воск у душнай цеплыні, Ваця перабіраў пальцамі запэцканы мухамі, парыжэлы ад сонца, пакуль надышла пара спатрэбіцца яму, кавалак паперы.

Вецер гойдаў над галавою яго купчастае голле дрэў, радасным шастаннем трывожыў ціхую тут вуліцу. Па ўтаптанай даўно, за доўгія гады, пляцоўцы сквера праходзілі людзі. Ваця сумаваў па старым сваім бацьку і не стараўся ахваціць думкамі сэнс усяго, як гэта заўсёды раней, калі быў так узбуджаны. Перад самым змрокам, калі трывожней нейк зашумеў вецер у дрэвах, знаёмы голас усхваляваў яго:

— Ваця?

Тады ён устрапянуўся. Маня стаяла перад ім, і бляск вачэй яе сведчыў аб нявысўленай па твары ўсмешцы. «Чаго яна смяецца»,— падумаў Ваця. А яна падышла бліжэй, паклала на край лаўкі невялічкі свой папяровы пакунак і сама села наводдаль трохі ад Ваці.

— Маня.

— Вы так аб нечым моцна думалі, што не чулі, як я клікала вас. Я два разы клікнула.

Ваця трохі збянтэжыўся, папрабаваў усміхнуцца, павінаватаму сказаў:

— Вецер навеяў дрымоту.

— Не выспаліся?

Яна смяялася ўсімі рысамі твару свайго, але губы былі ў халодным спакоі. Яна як бы прайшла вялікую дарогу па ветры ў чыстым полі — нейк гарэлі яе вочы, і нават,

здалося Вацю ў першы момант, адзенне яе было трохі запыленым.

— Выспаўся.

Цяпер яна засмяялася:

— Ну добра...

— З чаго вы? Што вы тут робіце?

— Колькі ўсялякага дробнага клопату. Паслязаўтра паеду ў сваю школу. Яшчэ да Панкрата заўтра зайду. А вы больш у Анці не будзеце?

— Ужо не. Тут застануся на ўсю зіму.

— Дык я пайду.

— Сядзеце.

— Правядзеце мяне?

— Можна.

Але Ваця не быў гэтакім спакойным. Калі ішоў поплеч з ёю, радасная блізасць яе поўніла яго бурным неспакоем. Зноў пачаліся вялікія хваляванні.

— Маня.

— Што?

— Ведаеце... я даўно сказаць вам хацеў...

Твар яе зрабіўся сталым надзвычайна.

— Увесь час, і тады ў Анці калі былі спаткаліся, і раней... увесь час...

Яна маўчала.

— Я хачу быць блізкім да вас.

— Можа, мы і ёсць блізкія.

— Можа, але не гэтак.

— Вы любіце мяне?

— Даўно.

Абое маўчалі. Пасля, як бы скрозь вялікую задумёнасць, яна сказала, не гледзячы на яго:

— Слаўны, слаўны вы.

— Больш вы нічога мне не скажаце?

— Не ведаю... не знаю... Вы не пытайце больш. Мы ж яшчэ і пасля не раз будзем бачыцца. Але цяпер лепш аб чым іншым давайце пагаворым. Я прашу вас...

— Я вам усё сказаў.

— Дык што мне сказаць вам?

— Нічога ў вас няма сказаць мне?

— Не, не тое, не... Не гэтак вы зразумелі. Не гэтае я хацела сказаць вам...

Глядзела яна сабе пад ногі, на пыльны тратуар. Пайшла

неўзаметкі хутчэй. Ваця маўчаў цяперака да самае яе вуліцы. Сказаў адно перад развітаннем:

— Дык паслязаўтра паедзеце?

— Але.

Моўчкі яны развіталіся. Пасля яна азірнулася на яго і як бы прыпынілася на момант. І ён заўважыў гэта. Мора хваляванняў ахапіла яго. Пастаяўшы з паўхвіліны, пайшоў ён паволі назад, на свой улюбёны сквер. У вячэрніх абдымках жыў горад.

## VI

У тыя дні Ваця бачыўся яшчэ з Абрамам Ватасонам. Спатканне іх было нечаканым і гаворка кароткаю. Убачыліся яны каля міліцэйскай управы, адкуль Ваця выйшаў з дамавою кніжкаю.

— А-а! — сказаў суха Абрам.

— Ага,— адказаў таксама Ваця.

— З міліцыі?

— Заяўляўся.

— Гэта ж справа гаспадыні.

— А хто яго ведае, дзе чыя справа. Часамі ўсё падлічанае і вымеранае пакідае ісці як па масле, і трэба нанава пералічваць і перамерваць.

— Некалі і я такою філасофіяй займаўся.

— Можа, і лепш рабіў.

— Чаму?

— Як цырульнікам быў.

— Але чаму?

— Тады хоць з-пад рук у цябе работу відаць было.

— А цяпер?

— А цяпер от усё бегаеш па вуліцах. Колькі разоў я ўжо цябе бачыў так. І стары Цівунчык нешта на цябе пакінуў вока мець.

— А ты?

— Я зараз за работу засяду.

— А я па-твойму?..

— Бра-атка, мне што! Жыві здароў...

Памаўчаў і дадаў далікатней:

— Працуй.

— Чаго, кажаш, стары на мяне крыўдуе?

— Нешта ты з ім абышоўся быў гэтак, што яму не спадабалася. Ці, можа, проста пакрыўдзіў якім-небудзь

словам. Ён жа да ўсялякага слова па-свойму адносіцца.

— А ўрэшце!..

— Ды табе чаго бедаваць па гэтым. Ты што ж, працуеш?

— Працую.

— Можа, ездзіў куды?

— Куды?

— На курорт ці куды.

— Не. Чаму ты пытаеш?

— Бо іншы, дык трасе яго там, ад страху зубамі ляскае, каб не задавіла, а едзе кожны год. І здаровы як бык, а от ты яму Ялту, канечне, дай, а то жыў не будзе...

— Мода пайшла.

— Но але. Мы, кажа, заваявалі сабе і курорты і ўсё. Як жа ты тутака не паедзеш.

— А я неўзабаве ў N. еду.

— Чаго?

— На працу. Зусім.

— От як?

— Прызнацца, я рад. Даўно не быў там. І даўно і нядаўна, усё здаецца хвілінаю.

— Добра, ты сабе едзь у N., а я застануся тут. Пайду, спяшаю вельмі. Бывай.

Абрам здзіўлена працягнуў яму руку і прапізаў яго холадам вострых сваіх вачэй. Ваця пайшоў у свой бок, сам не ведаючы чаму, несучы ў сабе варожасць да Абрама. «Яшчэ не хапала мне з Казімерам спаткацца,— надумаў ён, усміхнуўшыся.— Чаго яны хітруюць, што ім са мною дзяліць?»

Аднак, як ніколі раней, чуў свой духовы парадак. Як бы стаяў там, дзе яму трэба стаць і куды вельмі доўга і пакутна імкнуўся. Цеплыня пачуццяў пры ўспаміне аб невыразных Маніных словах туманіла яму галаву. Думалася яму цяпер, што толькі адзін чалавек ёсць — стары Радзівон Цівунчык, які несвядома разумеў самую сутнасць сутнасці тых, з кім сустракаецца. І з ім Вацю можна было б гаварыць або хоць моўчкі сядзець доўга і прыемна.

Тады яшчэ з большаю непрыязню да Абрама і нават, у звязку з гэтым, да Казімера, пайшоў.

Быў час пасля абеду. Горад купаўся ў пыле і сонцы. Асеннія дрэвы, здаецца, пакутавалі ад яскравасці фарбаў

гэтае пары дня. Пыл стаяў над будынкамі, перамешваўся з дымам, трымаўся ў паветры.

Ваця адчуў, як усё лягчэй яму робіцца, як бы нешта цяжкае губілася, па меры таго як ішоў ён пыльным тратуарам. Як бы Абрам панёс з сабою нешта непрыемнае, што стаяла між імі і між ім і Казімерам. «Куды зайсці — усё роўна»,— думаў ён.

З малых вокан смешнага двухпавярховага дома ліпуліся на яго зыкі раяля. Яны доўга віселі і скакалі адначасна ў паветры, ападалі вясёлымі акордамі. Весялосць іх была лагоднаю, патрэбнаю. Несвядома Ваця прыпыніўся паслухаць гэтую простую мелодыю. І ўсё думкі былі аб нечым дарагім, што пакінула ў душы яго Маня, калі апошні раз бачыўся з ёю. Цяпер усё гэтае здавалася інакшым, як тады, у першую хвіліну.

— Ваця!

Знаёмы голас прымусіў яго пайсці наволі. Музыка была чуваць увесь час.

— Чаго там стаіш, Ваця?

Ваця агляпуўся.

— Сюды, сюды.

Толькі цяпер заўважыў ён, што стаяў насупроць нецікавае нейкае сталоўкі. «Піва, снеданне і вячэра»,— прачытаў абадраную шыльду.

— Можа, зойдзеш?

У акно глядзелі хлопцы, былыя таварышы па працы ў лясным кіраўніцтве і раней па інстытуце.

— Зайду.

— Заходзь.

На момант Ваця прыпыніўся, убачыўшы ў акне твар былога таго члена мясцкома ці сакратара. Але пядоўга была ў ім гэтая нерашучасць. Той сам засмяяўся ў акне.

— Успомніў што ці так баішся?

— Памятаю.

— Зноў у піўной намог бог спаткацца!..

Ваця ўваходзіў у брудны, гарачы калідорчык, поўны нейкай паперы і кіслага паху. На ганку стаяў вялы нейкі чалавек, трымаў рукі ў кішэнях і прапусціў міма сябе Вацю, агледзеўшы яго з ног да галавы. Пасля, у дзвярах, было яшчэ некалькі тыпаў, некалькі так сабе чалавекаў, дзве жанчыны сядзелі ў кутку за брудным столікам.

Вацібы прыяцелі сядзелі за большым сталом, навод-

пыбе, але папалову адгароджаныя накрыўленымі рамамі, абцягненымі парвапым зялёным мультапам.
— Сюды, сюды, Ваця.
Ваця накіраваўся да іх.
— Садзіся.
— Ты чаго папробуеш?
— Усё роўна.
— Вельмі ты сёння дружны, Ваця.
— Здаецца, ніякіх камедыяў няма ў табе сёння.
— Можа, ажаніўся, Ваця?
— Даўно не бачыліся.
Ваця сеў, і не спадабаўся яму ўвесь гэты вэрлах:
— Можа, цішэй крыху можна?
— Чаго ты баішся?
— Ці гэта, канешне, баяцца?
— А што?
— А гэта цікава,— не сцярпеў член той ці сакратар з сваёю філасофіяй — цікава тое, што ён свет падзяліў на дзве часткі — баяцца і не баяцца. Адны баяцца, а другія не. Сярэдзіны няма. Так, Ваця, ці не?
— Сціхні ты.
— Але ты так маеш на ўвазе?
— Дай ты яму ачухацца.
— Не, ты пастой.
Ваця глянуў на таго.
— Колькі ты паспеў выпіць?
— Не ў гэтым справа.
Таму заткнулі рот шклянкаю піва, і ён толькі сказаў:
— От зараз я папробую давесці.
Ваця схіліў галаву і паволі еў з малое, расколатае талеркі, збянтэжаны ад усяго гэтага наспадзяванага тлуму. Чужым да ўсіх іх раптам вельмі глыбока адчуў ён сябе.
Той зноў пачаў нешта даводзіць. Ваця выпіў, пасядзеў, адчуў прыемны шум у галаве. Смеючыся сказаў, глытаючы словы:
— Слухай, ты, сакратар.
— Ну, ну, разбі мае палажэнні.
— Ніякіх спрэчак распачынаць не буду.
— Чаму?
— Не хачу.
— Як гэта?
— Няма патрэбы.
— Не знаходзіш патрэбным?

— Не хачу займацца непатрэбным.
— А раней?
— Кажу, што даволі!
— Як хочаш!..
— Седзячы тут, лепш гаварыць пра гатупак піва ці мацунак гарэлкі.
— Ага.
— А ўрэшце можаш пагаварыць.
Вакол стаяў тлум і непарадак.
Ваця яшчэ раз гукнуў:
— Няма дзеля чаго спрачацца.
І загадаў музыкантам іграць. Яны — дзве скрыпкі і гармонія — грунулі нешта баявое. Скрыпак не было чуваць за гармонню, раўла толькі яна адна, як бы для таго, каб давесці — «Усё заглушу, ніякі гук не выжыве пад маім рыканнем. Аніводзін зык». Скрыпачы дарэмна выцягвалі шыі, адзін аж прысядаў на адно плячо. Ваця глядзеў на іх, нічога не думаючы, адчуваючы лёгкасць і прылівы весялосці.

## VII

«Доўга яшчэ ён будзе варушыцца на зямлі»,— думаў Ваця, гледзячы зверху, з моста, уніз на Панкрата Малюжыча. «Доўга ён яшчэ будзе радасцю сілы свае поўніць усё, да чаго стаіць блізка».
Зверху ён бачыў, як прыязджалі да вакзала пасажыры, як наязджалі з разгону адзін на аднаго возніки.
«З кватэры Панкрата Малюжыча будзе ісці яна,— думаў яшчэ Ваця, лёгка ўзлягаючы локцямі на чыгунныя парэнчы.— Колькі яшчэ часу тут прастояць мне?»
Дзень хіліўся да змроку. Вакзал запальваў свае агні там, адкуль адыходзіць збіраўся поезд. Спакойна ўстрывожаныя людзі клапаціліся там.
Ваця глядзеў, як лінуўся натоўп праз вузкія дзверы да вагонаў, і ўстрывожана заўважыў — Ватасон з партфелем і вялікім клункам уваходзіў у вагон. «Не хачу спатыкацца»,— устрывожыўся Ваця і адумаўся — той быў ужо ў вагоне, і нейкая жанчына — добра бачыць яе здалёк цяжка было — нешта гаварыла яму праз адчыненае акно.
— Ага! — сказаў моцна Ваця.
На момант выбухнула зларадная думка:
«Жанчынаю абзавёўся. І маўчаў. А можа, сястра якая ці цётка знайшлася».

І праверыў сябе:

«А чаму павінен быў спавядацца мне?»

Пастараўшыся выкінуць усё з галавы свае, нецярплі-ва чакаў адыходу поезда, як бы з поездам адысці павінна было нешта, што ў нечым перашкаджала яму.

Думаў:

«Няхай едзе, сустрэнемся калі ці не — усё роўна».

Чамусьці ўспомніў пядаўнюю гаспадыню сваю Анцю, пасля — цяперашняга спадарожніка Маніната ў працы — Алеся Макарчука.

«Казімер, напэўна, праводзіць жа Маню прыйдзе, а не хочацца спатыкацца і з ім. Усё роўна далёкія мы адзін ад аднаго. І хто яго ведае, што ён такое».

У такіх думках прастояў доўга. Аж пакуль не стаў на сваім месцы другі вячэрні поезд.

Змрокападаў хутка. Горад гарэў нерухомымі агнямі. Тады Ваця пайшоў насустрач.

Маня спяшалася ўжо. Ваця ўзяў з рук яе клунак. У змроку бачыў, як яна ўстрывожана нечым. І нейк дзіў-на на момант стала яму, што нясе ён яе клунак, а яна ідзе поплеч і маўчыць.

У тым жа месцы, дзе спускацца трэба было па ўсходах уніз, яна спынілася і забрала клунак:

— Тут развітаемся.

Ён змаўчаў.

— Як вы ведалі, што я тут буду ісці, ці гэта так зда-рылася?

— Вы тады ж сказалі, што адсюль паедзеце.

— А-а.

— Забылі?

— Успомніла... Не забыла.

— Чаму вы так?

— Што?

— Забываеце.

— Не.

— Што?

— Не, не забыла, я ж гавару.

З папрокам Ваця глядзеў на яе.

— Прыехаць да вас?

Яна маўчала і глядзела сабе пад ногі.

— Прыехаць?

Раптам яна паставіла клунак на зямлю, падышла да яго цесна. У вячорным змроку адчуў ён іскры яе вачэй.

Яна схапіла рукамі галаву яго і пацалавала ў лоб. Узяла клунак і пайшла, кіўнуўшы яшчэ яму галавою.

Ачомаўшыся, ён гукнуў ёй услед:

— Маня!

Здалёк яна азірнулася:

— Бывайце. Мы ж убачымся?

Ён збег уніз.

— Там Казімер будзе мяне праводзіць, можа, яшчэ хто. Можа, вам не ісці.

— Убачымся ж?

— Убачымся.

Далей ён зноў стаяў высока, бачачы, як уліваўся ў вагоны чалавечы натоўп.

Радасць існавання жыла ў ім вялікімі навальніцамі.

Павалі ён сышоў уніз, павалі ўвайшоў у вакзальны будынак, купіў білет на перон і выйшаў. У дзвярах спаткаўся з Панкратам Малюжычам. Той бег да паравіка, з вечным сваім скураным, малым, зашмальцованым чамаданчыкам. Кіўнуў, бегучы, галавою.

— Праводзіце каго?

— Праводжу.

— Ага.

Прыпыніўся ў нейкай няёмкай нерашучасці.

— Спяшаеце? — сказаў Ваця.

— Але. Бывайце.

Неўзабаве ён схаваўся недзе каля чорнага абрысу свае машыны.

Ваця прайшоў да канца поезда. Поезд рушыў.

Ваця спяшаў назад, пакідаючы за сабою Казімера. Казімер яго, мусіць, не заўважаў, ішоў упоперак па рэйках, залажыўшы рукі ў кішэні.

Ваця з вялікім задаваленнем паслухаў спрэчку вознікаў каля вакзальнага пад'езда. Ківаючы барадою, сівавагы дзядзька даводзіў:

— Павінна быць правіла.

— Якое?

— Такое.

— Якое гэта?

— А такое. Павінны парадкам пад'язджаць, а не то што, хто як і куды хоча...

Ваця пайшоў да процілеглых тратуараў і, успомніўшы, пайшоў да старога Цівунчыка. Той вельмі ўзрадаваўся. Частаваў нейкім адмысловым тытунём, дапытваўся, чаго

гэта хадзіць тут трэба, можа, праводзіць каго давялося.

Ваця пакідаў гэтую слаўную кватэру, радасна ўзцерваваны.

Следам за ім ішоў стары Радзівон Цівунчык як неадменны спадарожнік Вацінае душы.

«Можа, і я гэтакім пад старасць буду»,— думаў Ваця, стараючыся прапусціць Цівунчыка наперад.

Цівунчык не спыняў гаворкі:

— Дык, кажаце, нішто жывецца вам цяпер?

— Нішто.

— Добра?

— Добра.

— А што ж, жывы чалавек заўсёды павінен знайсці сабе які-небудзь спосаб. І знойдзе, заўсёды знойдзе. Памятайце мае словы, што знойдзе.

— Буду памятаць,— не то жартаўліва, не то стала сказаў Ваця.

— Памятайце. От я стары, немагушчы, але от жыву. Жыву ж я. Ці кепска, ці добра, але жыву...

Ваця адчуваў нешта новае, лёгкае і добрае. Радасная думка аб Мані напавала ў ім, узнімала яго ўсяго на няведаныя дагэтуль высоты.

Думаў ён:

«Убачуся з ёю хутка, ці не хутка, ці зусім не ўбачуся — можа, гэта ўсё роўна цяпер».

Як бы самае важнае ёсць для яго.

У гэтым разабрацца цяпер не мог ён. Адчуваў толькі, як расце ён для жыцця ў вялікую і патрэбную сілу.

Цівунчык правёў яго да першае папярочнае вуліцы. Пацiснулі яны адзін аднаму рукі. І Цівунчык доўга глядзеў, як патроху гублялася ў вячэрняй гушчыні Ваціна постаць.

Пасля стаяў адзін, глядзеў, як неба ачышчалася ад лёгкае павалакі хмар і як запальвала яно на ўсю ноч свае зоры. У водблеску ліхтара твар яго жыў заспакоенай перковасцю, як бы ўся істота яго хацела сказаць — у навальніцы ўсялякага ператварэння, у радасці і ў горы — доўга яшчэ буду я жыць на свеце.

Любаму брату Юрасю

# ЧАСТКА ПЕРШАЯ

## I

Пяць дзён свяціла сонца, дарогі ўсе пахлі вільгаццю пасля дажджоў — чорныя з жоўтымі адценнямі гліны. Іржышча было такое пустое і такое ціхае. І ад сонца здавалася шырокім усё: і глыбокае неба, і спустошаная на зіму ўраджаем зямля, і нават дробны камень пасярод палявой травы і зрэзанай саломы,— усё да туманавай сіні блізкіх лясоў, да рэчак і азёр, да дзеравяных хат і мураваных будынкаў, да ўсяго малога і вялікага, сярод чаго так пазнаны былі вялікія бунты радасці і смутку.

Позняе лета назаўсёды заснула на вясёлым іржышчы.

На выгане, на самых каляінах дарогі, на зарослых сухіх канавах цвітуць, шмат яшчэ, дзікія кветкі — пазгорталі па поўдні жоўтыя галоўкі і застылі так нерухома, надаюць яны зямлі выраз жывога твару, як і лагоднасць паблеклага ўвосень сонца.

Сіняватая ад глею дарога ідзе паміж тарфянога балота і поля. Цыбатыя птушкі скачуць між куп'я, скачуць, крычаць. Зусім блізка дабягаюць яны да падгнілых платоў, дзе дарога робіцца пыльнай і бруднай і дзе густа стаяць нізкія хаты; шмат іх паўрастала ў зямлю, шмат новых пахнуць яшчэ свежай смалою. Двары каля хат застаўлены драбінамі, паабрасталі дрэвамі; малыя сады каля іх паціху абсыпаюць жоўтым лісцем стрэхі гумен. Сонца кіпіць на пярэстых колерах зямлі і дрэва. Вялікай лагоднасцю ляжыць дзень на зямлі. І на далёкі размах вакол пахне зямля і свеціць сонца.

Так хутка будзе канчацца дзень.

Тут, у канцы вуліцы, пачынаюць збірацца людзі. Пастаяць некалькі чалавек каля канцавой хаты ды ідуць да-

лей — у новы дзеравяны дом з белымі вокнамі ў поле. Доўга збіраюцца людзі. Варочаюцца назад па два ці па тры чалавекі, пасля зноў ідуць; і толькі, як ранняя ноч агарнула зямлю, поўна стала людзей у вялікім пакоі местачковай школы.

Чырвапаватае святло малой лямпы лягло на твары людзей.

— Чаго я, браткі, сабраў вас!

Грубы і роўны голас чалавека ў шыракаплечай браварцы, пацягненай ні то жоўтым, некалі, ні то зялёным, а цяпер аблезлага няпэўнага колеру сукном, прагучэў цвёрда і патануў у агульным шуме і непарадку. Чалавек глядзеў на ўсіх утомленымі вачыма. Курачы праз вішнёвы папяроснік, ён не варушыўся, стаяў перад усімі і з усімі, падставіўшы пад дробныя пераліва скупога святла твар свой, густа аброслы цёмнымі валасамі з моцнай сівізной. І твар яго быў грубым, нібы без асаблівага старання высечаным з простага каменя або з цвёрдага шэрага дзерава — твар быў шырокі, буйны і стары. Тоўстая барада абы-як разгладжана і сівізна ў ёй кавалкамі. Ён усё курыў і стаяў, упёршыся рукамі ў стол.

— Хлопцы, ну то давайце гаварыць!

— Дык мы ж от гаворым,— пажартаваў з кутка малады голас.

Тады і сам стараваты чалавек, закурваючы нанава, уцягнуўся ў адну з гаворак, што шумна вяліся паабапал яго.

За вокнамі збіраўся вечар, вечар першых дзён восені; лета прайшло назаўсёды, але на ўсім і ўсюды застаўся яшчэ яго радасны подых, і сум па леце пануе, калі вечарамі і ў месячныя ночы стукаюць аб зямлю яблыкі, падаючы з дрэва, поле і паплавы дыхаюць неабдымным прастором, кусты ядлоўцу ды крушыны маўчаць і пахнуць. І нават па змярканні нагрэты за дзень моцным яшчэ сонцам камень грэе ў падэшву твае босыя ногі.

Блыталіся і гулі гаворкі людзей.

— Ну то, мужчыны, можа, пачнём ужо?!

Стараваты чалавек пабарабаніў косткамі кулака па стале. Цяпер ён стаў трохі паводшыбе, і каля яго апынуліся раптам двое — танканосая, не зусім маладая дзяўчына і шыракатвары хлопец з цёмнымі, нявыраслымі яшчэ, але скрозь запушчанымі, не вельмі прыкметнымі вусамі. Мужчыны сталі збірацца гусцей каля стала.

— Дык от, мужчыны, чаго я вас сабраў!

— То ты гавары, чаго ты сабраў нас, а то ты толькі марудзіш. Гэта раз...

Белабароды, баявы і моцны стары выткнуўся бліжэй і, выткнуўшыся, глянуў у твар стараватаму чалавеку за сталом:

— ...гэта раз. Я табе, Тамаш, скажу ў вочы,— не мог ты, ліха табе, падабраць іншага якога, святочнага, скажам, дня, а то напалі моду адрываць людзей ад работы.

Тамаш, прыкурыўшы з лямпачкі, апраўдаўся:

— А я табе, Павал, скажу толькі адно, што раз мне сказалі сабраць сход, дык я і збіраў,— от што, калі ты хочаш ведаць. А тым часам, калі ўжо я гэтак адарваў цябе ад работы, дык можаш сабе ісці дадому, я табе слова і не скажу. Вер майму сумленню. Не ў тым дзела, што я гэта тут збіраў, ці не я. Раз патрэбна, дык патрэбна. Няма чаго абціраццa па завуголлю. Я гэта кажу, казаў я, казаць буду, калі ты хочаш ведаць. От што. І скончана дзела.

Павал напоўніўся раптам крыўдаю. Паварушыў шырокімі і кантовымі, падагнуўшымі наперад ад старасці плячыма, узняў накіраваны ўніз барадаты твар і падышоў да самага Тамаша з такім выглядам, як бы Тамаш быў вінаваты ва ўсіх бядотах, якія калі хто-небудзь перажываў.

— Я табе павінен расказаць, раз цябе выбралі. Мы табе, Тамаш, даверылі, калі выбралі, значыць, цябе. Дык я табе і скажу, як я цярпеў і цярплю...

— Ты мне не гавары, што ты мне гаворыш! Я тут ні пры чым. Маё дзела — старана.

— Як старана тваё дзела? Тамаш, кепікі з мяне строіш! Раз ты сельсаветчык, то ты можаш распараджэнне даваць...

— Якое распараджэнне? Што ты гэта! Што я начальнік які, ці што! Я просты чалавек. Мала што мяне выбралі.

— Ты маўчы. Раз ты стаіш бліжэй да справы, дык ты павінен ведаць. Што ты не бачыш, як хто жыве?.. Як я гарую?!

Хлопец з маладымі вусамі папрабаваў уняць Паўла:

— Ціха, дзядзька. Пачакайце, трэба сход пачынаць.

— Сход пачынаць! А калі я хачу сваю крыўду выказаць!

— Дык вы пасля выкажаце.

— Пасля... Дык гэта значыць працоўнаму чалавеку не даецца слова выказаць... затыкаецца рот?!

— Ніхто нікому рот не затыкае.

— Я ўсё-ткі цябе, Алесь, люблю. Твой бацька быў рамеснік, вечны яму пакой на тым свеце. Я гэта табе заўсёды скажу,— ты хлопец, Алесь, з толкам у галаве. Ты от паглядзі на Яўхіма Петрапчуковага. Што, на яго як палежыць паклалі падатак ці не? Скажы, ты ж таксама ў сельсавеце. Ты маладзейшы за Тамаша. Калі ты пра падатак не даеш веры, дык от табе Сабастыян можа пацвердзіць. Ты думаеш, тут сваяўство ў мяне з ім, дык ён будзе гаварыць, не ведаючы? Не такі ён чалавек. Гэта нічога, што нашы дзеці пабраліся. Тут гэта ні пры чым. От што... Сабастыян, хадзі сюды!

З натоўпу мужчын вылез буйны чалавек, з вясёла-напурым поўным тварам і вялікімі вусамі.

Алесь пастараўся не заўважыць яго і пачаў сход. Сабастыян выплішчыўся на самы перад, не даючы Алесю гаварыць:

— Алесь, я табе раз назаўсёды скажу, не будзь ты такім. Раз чалавек хоча выказаць, то ты чаму яму слова не даеш?..

Раптам ён звярнуўся да тапканосай дзяўчыны:

— Вы ў нас у сельсавеце ўжо другі год; паставілі вас, значыць. Дык вы павінны ўзяць, мадам-таварыш, на ўвагу, што тут слова не даюць. Выказацца народу не хочуць даць.

Тут заўважылі, што Сабастыян п'янейшы за Паўла.

— Я, мадам-таварыш, кажу проста, бо я і сам, можна сказаць, чалавек просты і шчыры. Гэта правільна робіцца, ці не?

— Што?

— Усе гэткія парадкі. Хто скажа, што я не пацярпеў, як былі тут немцы. Хто скажа? А цяпер ніхто і вухам не вядзе, калі прыйшлося да справы. Усякі хвастом пакрываецца, каб яго ўжо нечага векам з новых дошчак пакрылі. Чулі ці не?

Ён пахіснуўся ўбок, аднак моцна адзержаўся на нагах. Павал радасна глядзеў на яго, чакаючы, што ён як мае быць выкажа ўсё — і за сябе, і за яго. Раптам Сабастыян, забыўшы, што гаворка пачалася пра падатак, звярнуўся да сходу, раз-поразу паглядаючы на Тамаша, Алеся і дзяўчыну:

— ...Нічога з гэтага ўсяго не было і не будзе. На такіх парадках далёка не заедзеш. Тут дзела не толькі ў тым,

што Павал пацярпеў пры немцах — і ён пацярпеў і я пацярпеў. А ўвагі, добра кажа, ні на грош. Я вам скажу, браткі, усім адкрыта, што я і дагэтуль свайго ніяк не магу спагнаць.

— Чаго?

— Я вас пытаю: Андрэй магнат ці не? Магнат! А майго гусака забіў, і я дагэтуль ніяк спагнаць не магу. Мне гусака не шкада. Каб на добры лад, дык я магу яму падараваць жывога гусака, от і ўсё. Чорт яго бяры з гусакамі разам. Але тут дзела важна, чаму я спагнаць не магу, чаму?

Тады раптам Павал падняў лямант з левага боку стала:

— Мы без дроў чэзнем! Няма чым, прыйдзецца зімою, душу абагрэць. Чаму дроў не адпускаюць? Гаварылі, што дроў дадуць, а гэта хвастом пакрыліся. От чалавек, які летась плот разабраў ды спаліў, Сабастыянаў брат, Мацвей.

Шэрая сцяна людзей цяпер шчыльна абкружала стол. Твары людзей, і хмурныя, і вясёлыя, і з спачуваннем, і з смехам, глядзелі па Мацвея. Мацвей вылез наперад: шчуплаваты чалавек з васпаватым ілбом, у кароткай салдацкай вопратцы і вельмі падраных і дрэнна палатаных портках; трымаў шапку ў руках; пробаваў гаварыць пяроўным голасам, трохі заікаючыся:

— ...Летась у мяне было тры вішні ў агародзе, дык я іх спаліў у печы, а пасля ад вулачкі плот разабраў, так што людзі даўно пасеялі агароды, а ў мяне пустка была, свінні цэлую вясну спацыравалі, каб яны павыдыхалі; не абагнацца ніяк. Колькі я разоў табе, Андрэй, гаварыў, каб ты сваіх свіней не пускаў.

Андрэй утуліўся ў ватовую жакетку і падаў голас:

— Чаму гэта ўсё я вінават? Што я за грэшнік гэтакі? У таго гусака нехта забіў, дык ён да мяне чапляецца, у гэтага свінні агарод парылі, дык таксама я вінават. Што вы маеце да мяне? Я богу душою не вінен! Можа, яшчэ я вінават, што ў цябе дроў не было? Унь людзі панавозілі — калі хто не вяршаліп, дык галля тоўстага, што цэлую зіму паліў ды бога хваліў. Нават жа паўсажонкі адпускалі, а хто табе вінават, што ты нядбайны!

— А на чым я прывязу, калі ў мяне конь ледзьве ногі цягае. Есці нічога не хоча. Што я жонку запрагу ў драбіны, ці што? Можа, у каго браты ці сваты памагаюць, а ў

мяне брат такі, што каб ён мне калі па макавае зерне памог!

Тут Мацвей глянуў на брата Сабастыяна. Бачачы, што справа пайшла зусім у іншы бок, вакол зарагаталі. Сабастыян падышоў да брата і палажыў руку яму на плячо. Мацвей застаўся стаяць так, не пакідаючы гаварыць. Голас яго гучэў пяроўна і з перапынкамі:

— Я тут скажу перад усім народам. Ты, Сабастыян, не па-брацку робіш. Брат гэтак не робіць. Ты багацейшы за мяне. У цябе двое коней летась было, а дзяцей малых пяма. Што табе адходзіць. Ты застаўся жыць на бацькаўшчыне, а мяне аддзялілі...

— Бо ты змоладу па свеце бадзяўся, а я ўвесь час рабіў на гаспадарцы... Ты не забывай, што я табе сплаціў за пляц, хоць ты і забраў другую хату...

— ...У цябе паплавец за гумном і гумно...

— У гэтым самым гумне ты збожжа складаеш. Я табе і слова не кажу...

— Я тут перад усімі табе ў вочы скажу, я таіцца не буду. Я люблю праўду, от што! Няхай людзі скажуць.

— Ідзі, Мацвей, дадому, ляж ды праспіся, не смяшы людзей. Ідзі, і я пайду з табою.

— Ідзі сам, калі табе трэба!

Сабастыян з Паўлам адвялі Мацвея назад. На вачах у Мацвея блішчэлі слёзы. Выціраючы іх каравым рукавом, Мацвей стараўся давесці:

— Дайце, браткі, мне крыўду выказаць. Сабастыян, дай я выкажу перад усімі людзьмі, хачу сказаць, ці то што... Дзядзька Павал, пусці. Сабастыянка, братка, куды ты цягнеш мяне. Чаму ж сам ніколі ў крыўду не падаешся, а брат, па-твойму, павінен загінуць, ці што?.. От ты які... няхай жа людзі ведаюць. Ты не па-брацку робіш, ты гад!

— Мацвейка, ідзі, я цябе дадому завяду. Ідзі спаць ляж.

— Сабастыян!

Тады пачуліся галасы з усіх бакоў:

— Пасадзіце яго, няхай падрэмле трохі, ды ачухаецца.

— Дадому яго завесці трэба.

— Няхай пагаворыць, калі яму так хочацца.

— Няхай выкажа чалавек, калі патрэбу мае. Нашто яму рот затыкаць. Няхай гаворыць, калі якая бяда ў яго ёсць. Гавары, Мацвей.

Аднак Мацвей неўзабаве ціха ўжо сядзеў на лаўцы каля сцяны. Сабастыян стаяў каля яго, стараючыся сціпыць яго:

— Чаго ты ўскіпеў, дзівак! Калі ты лічыш, што я цябе пакрыўдзіў, то падавай у суд на мяне, калі што з мяне спагнаць думаеш. Суд прысудзіць з таго, хто вінаваты. А то ты — халера цябе ведае, чаго ты хочаш, што ты мяне абармотам робіш перад усімі людзьмі! Чаго ты ад мяне хочаш! Дурань!

— Брат, ты абармот!

— Ты гавары больш выразна.

— Ты багацейшы, а ці памог ты калі мне?!

— Не крычы гэтак. Няма чаго. А мне калі хто памагаў, калі на тое пайшло?..

— Я табе скажу толькі адно: багаты беднаму ніколі таварышам не будзе. Сабастыян, брат!

А тым часам Павал стараўся ўсіх перакрычаць, даводзячы аб сваёй крыўдзе.

Тады Алесь стукам рукі па стале сцішыў агульны шум і непарадак галасоў. Вакол стала цішэй, і нават Сабастыян з Мацвеем панізілі свае галасы. Тамаш зноў пробаваў растлумачыць, чаго ён сабраў сход, што яму было загадана збіраць, аднак жа ён не скончыў растлумачвання свайго, бо Алесь, не слухаючы, мацней за яго сказаў, аб чым будзе сход.

Раней, перад гэтым, кагадзе, вакол вяліся гаворкі, спрэчкі аб тым, пра што павінен быў гаварыць сход. Нават сам Тамаш, калі адыхоўдзіўся ў бок, ад стала, даводзіў, што якраз цяпер самая пара пачынаць работу — да зімы яшчэ можна паспець, а тым часам якраз і каморніка можна затанна дастаць,— якраз тут нейкі практыкант жыве і яшчэ месяцаў са два будзе жыць. Тады гаворкі пра гэта вяліся моцна, але няпэўна. Цяпер жа пачалі гаварыць адзін аднаму цішэй, але цвёрда і ўпэўнена. І хоць даўно ўжо, з самай вясны, нагаварыліся пра гэта, аднак і цяпер здавалася, што толькі пачулі пра гэтую справу. Усё пачалося нанава. І вось пасля таго, як Алесь прагаласаваў і большасць галасоў паказала, што ўсю прыбалотную зямлю трэба перамераць і перарэзаць, тады падняў галаву Мацвей. Твар яго быў узбуджаны:

— А я магу сказаць, што гэта толькі згуба і больш нічога.

— Чаму?

— Бо каморнік дарэмна мерaць не будзе. Дык багатаму — чорт яго не возьме, табе, Сабастыян, якое ліха адходзіць. Ты памятаеш, як Наталя памерла, дык у цябе дошчак поўнае застрэшша, добра табе было выгаворваць мне, што я пальца не прыклаў да пахавання сястры. Мала ты тады папатрубіў людзям?!

— Калі гэта было?!

— А ў Юліка, як гумно перакрывалі; людзі чулі.

— А ты чуў?

— Я ўсё роўна як чуў. Юлік яшчэ, здаецца, ніколі не хлусіў... Можна зараз жа пайсці да Юліка. Ён пры сведках скажа. Хадзем да Юліка!

Алесь і нават Тамаш сцішалі іх, аднак Мацвей паспеў выказаць:

— Па мне, як сабе хто хоча, а я дык скажу кожнаму ў вочы проста і адкрыта. Чорт яго тут усім выстарчыць. Яшчэ нейкі каморнік з'явіўся, яшчэ і яму плаці. Тут гэта назнарок падстроена багатырамі,— калі ён дасць колькі рублёў, дык гэта яму, як пугаю па вадзе; ды разам з сабою беднякоў у адну кучу згалабурдзяць, хочуць на чужым карку ў раі уехаць. Хваробы! Я такі чалавек: для мяне родны брат — не брат, калі ён мне не спагадае.

Не гледзячы на стук Алеся кулаком па стале, Сабастыян падняў лямант:

— А чаму гэта ты забыўся на тое, што я табе памог каня купіць; чаму гэта ты забыўся?..

— Той конь здох. От што!..

— Але ж я табе памог яго купіць...

— Шкадаваў, памагаючы, дык от конь доўга на свеце ў мяне і не папарыўся. Каб ты ад шчырага сэрца памагаў мне, дык я і дагэтуль рабіў бы гэтым канём.

Тамаш, седзячы збоку на лаўцы, схаваў пальцы рук у рукавы і зарагатаў. Рогат пачаўся з усіх куткоў. Тады і Алесь глядзеў і слухаў Мацвея:

— Сярод такіх людзей не выжывеш, гэта не людзі, а азіяты. Каб чалавек канаў, ніхто табе не паможа, яшчэ рады будуць, каб іх, бог даў, скрышыла ўсіх да аднаго.

— Каго гэта? — пачуўся голас.

Мацвей панізіў голас, але не спыніў гаворкі:

— У людзей, калі радня, дык радня — ад яе можна помачы чакаць, а ў мяне дык усе жывуць сабе, маюць хлеба і да хлеба, а я — хоць прападай. Нават хворую Наталю

хацелі мне прыпаручыць. Я гэта перад усімі людзьмі скажу.

— Ніхто табе яе не прыпаручаў, бо яна да цябе і не наішла б,— ты ж яе раней пары забіў бы. Мала ты яе папабіў змоладу?!

— А ты цяпер біў яе.

— Брэшаш!

— Людзі могуць сказаць.

— Брэшаш!

— Я не брашу. Мала яна, жывучы ў цябе, папатуляла па завуголлю! Ад добрага брата туляцца не будзе. Каб ты быў людскі ды добры, дык яна і дагэтуль жыла б.

— Дык, па-твойму, я яе ў магілу звёў, ці што?

— Ты яе не звёў, але яна яшчэ жыла б, каб ёй добры догляд.

— То чаму ж ты не даглядаў, калі ты мяне ўпікаеш, што сухотлівая сястра без догляду зайшлася.

— А чым я мог яе дагледзець. У мяне не было ёй чым правіцца.

— Ну дык што ты маеш да мяне?

— Маю і мець буду.

Тут умяшаўся Павал. Трасучы белаю барадою, пагойдваючыся здаровымі яшчэ сваімі плячыма, ён падышоў да Мацвея. Вочы яго гарэлі вострым агнём нявыказанай крыўды, і губы трасліся. Ён упёрся барадою ў грудзі і, ад спяшання не дагаворваючы да канца слоў, сказаў:

— Што ты Сабастыяна вінаваціш, а сам ты што!.. Шмат ты зрабіў Наталі дабра? Колькі ты яшчэ яе дабра спажыў! Гад, абармот!

— З якога гэта часу вы ў адну дудку граць пачалі? Усё дабро засталося ў Сабастыяна. Нават не даў мне старога картовага Наталінага каптана. Калі б жонка мая не знасіла, дык дзяўчына гусі ў ім пасвіла б. А ён, магнат насупроць мяне, дзедзіч, старога каптана пашкадаваў мне, брату роднаму, каб яму бог здароўя пашкадаваў. У чужой справе і ты асэсар знайшоўся. Над чужою душою камандаваць дык і ты майстар. Табе душа не баліць, калі маё дзіця мерзне. Калі летась у замаразкі мой хлопец паадмарожваў ногі, бегаючы босы, дык цябе гэта мала абыходзіць!

— Няўжо ж ты хочаш, каб я твайго хлопца абуваў?

— Дык і не лезь у чужую справу.

Тут Мацвей скрывіў набок твар. Левы куток губ ад'-

ехаў уніз, і ён пачаў плакаць. Слёз у яго было мала, толькі чырвань з'явілася вакол вачэй, і ён некалькі разоў чмыхнуў у нос, гаворачы:

— Наталька, і на тым свеце не дадуць, гады, паляжаць табе спакойна; нават чужыя абармоты косці твае варушаць. Як на гэтым свеце не было табе спакою, так і на тым паляжання табе не даюць, каб ім бог шчасця не даў.

Раптам Сабастыян, расчуліўшыся, далучыўся да Мацвея, сам не далёкі ад таго, каб заплакаць.

— Жыла-жыла, гаравала-гаравала, працавала і памерла ліха ведае як... Мацвейка, хадзем дадому...

Нехта недзе ўздыхнуў, нехта засмяяўся, і вакол была цішыня. Вялікі сход маўчаў. Толькі зрэдку чуўся шэпт сярод людзей.

Вечар быў ціхі і лагодны. Спакойная змрочнасць яго прыпала да акон, за вокнамі ж чуўся гэты спакой. За вокнамі над апусцелым полем — праз вокны відаць было — неба ўзняло некалькі малых і чырванаватых хмар, на захадзе краі іх яшчэ ледзьве прыкметна залаціліся белаватымі колерамі і сплывалі яны за рысу зямлі і неба. На фоне іх выраставалі чорныя вялікія дрэвы, і драмалі яны чула і радасна.

Нейкі час на сходзе маўчалі, пакуль, патроху, зноў не ўзняліся гаворкі. Алесь панава павёў сход.

Сход цягнуўся да самай поўначы... Пад поўнач жа моцна стукалі яблыкі, ападаючы з дрэў, моцна грукалі коні ў хлявах, жуючы і труччыся аб сцены і жалабы. Востра пахла ўсё. Сход разыходзіўся шумней, чым збіраўся. Мацней ад усіх чуўся голас старога Паўла. Голас быў празлівы і ўзбуджаны:

— Як мы мучымся — дык не дай бог. Колькі на ўсё трэба будзе выстарчыць, дык а-яй! А ён яшчэ — гэта ж падумаць — заяўляе, каб кожны па рублю даў капэлю пажарную зрабіць ці папяць, чорт яго душу ведае. Музыкі ўжо захацеў, каб ён душою заграў. Ці даўно без хлеба сядзеў!

— Хто гэта?

— А гэты жэўжык Марцінюкоў — дадумаўся, ліха яму, па рублю з гаспадара; от абы здзерці. Выдумаў.

— Калі ж ён гаварыў пра гэта?

— А ў тую нядзелю, як спіскі рабіў, па хатах ходзячы,

у кожнай хаце плёў, пакуль я яго не аблаяў. І сягоння ўсё каля стала пакручваўся, думаў, мусіць, ушчаць работу гэтую сваю. Няхай бы ўшчынаў, трэба было б асекчы дурня гэтага. Тут хлеба няма, а яму капэля. Музыкі, я ж кажу, захацеў.

Вясёлы голас з лёгкім рогатам заўважыў:

— Дык жа, калі сядзіш галодны, то тады і музыка добра — забываеш па голад.

Тады яшчэ адзін голас пачуўся задумёна:

— А за граніцаю, калі ў каго пястраўпасць, дык лечаць музыкаю. Проста над вухам у яго рэжа музыка, дык кажа, ліха яму, так адразу ў жываце ўсё і пераатравіць.

— Ну добра, а калі прыйдзецца часамі так, што ў душу кавалка хлеба не ўбіць. То таксама з музыкаю пхаюць сабе ў горла?

— А чорт яго ведае.

— Ты ж быў там. Ты ж павінен ведаць.

— Чорт яго ўсё ўведае. Свет вялікі, а галава малая, дый тая ўсяго адна.

Раптам пачуўся Тамашоў голас:

— Хлопцы, а каб гэта і сапраўды музыку сваю завесці.

— Заводзь. Хто табе не дае. Пайдзі ў Шалавічы — там, кажуць, вельмі капэля лоўкая, наймі ды пяхай сабе граюць табе. Ляж на палаткі, паплёўвай у столь дый слухай. От выгаду мецьмеш!

Тамаш больш не гаварыў. Толькі, калі цвёрды і заклапочаны голас Алеся ў дзесяты раз пачаў даводзіць неабходнасць перамеркі зямлі, Тамаш памог Алесю:

— Я вам, хлопцы, давяду гэта прыкладам. Справа была ўлетку. А вядома, улетку ноч, як у зайца хвост,— калі твая галава чым вельмі забіта, то ты яе і не прыкмеціш. Я ўстаў быў яшчэ на рассвітанні, а дзень тады, як год, так што часу было — на ўсялякую работу хопіць. Ну, устаў я гэта сабе нацямочку, яшчэ нават сцежкі пад нагамі не відаць...

Голас яго доўга гучэў. Пасля ён адзін пайшоў у свой далёкі канец вуліцы. Ступаў ён цяжкімі ботамі сваімі цвёрда і няроўна, моцна асядаючы плячыма ў такт сваім крокам. Шырокая постаць яго сіратліва варушылася на змрочным фоне вясковай ночы. Напроці сваёй хаты ён прыпыніўся, пачухаў шыю і пайшоў да студні. Выцягнуў вядро вады і, разліваючы на дубовы зруб і сабе на боты, доўга піў, прыпаўшы губамі да халодных клёпак слізкага вядра. Ва-

да плюхала моцна і доўга, пасля, як пайшоў ён, вядро, гойдаючыся на жэрдцы, стукалася аб зруб. І гэта былі адзіныя зыкі безутрапёнай ночы.

## II

Вецер плыў з надхмарнай вышыні. Шырокасць і напорнасць яго весяліла сэрцы. Весялілася ж і зямля ў пустэчах палявога ржышча. Каля кустоў птушкі ўзнімаліся і гойдаліся ў неабдымным імчанні паветра. Сінія далягляды былі маўклівымі і думнымі, як і той дзень, шумны толькі ветрам ды жоўклым лісцем на кустах і сухім, раскіданым па траве пад імі. Аўсянае ржышча хмурна жаўцела; зелянілася густым каліўём згрызенай травы і палявога зелля. Дарэшты высыхаў апошні авёс; мала яго засталося на полі, і мяцёлкі яго шумелі суха і сіратліва. Коней цягнула да гэтых прывабных мэтлікаў.

Ападаў ветравы холад і цяплела надвор'е.

Аднак жа вецер густа халадзіў цела, і Мацвееў Юрка ўтульваўся ў свой кажушок. Ён стаяў пад жоўтаю, выгінастаю крушынаю, тонкаю і малою, і глядзеў на поле. Дробнае лісце сыпалася на яго. Тамаш — грузны і раскудлачаны, сядзеў каля кустоў, курачы з вечнага свайго вішнёвага папяроснiка; моцна адхаркваўся і пляваў на траву. Вецер шавяліў яго бараду і развяваў сіні дым яго папяросы. Прачышчаючы саломінаю папяроснік, Тамаш жартаўліва сказаў:

— Дзе ты, сынку, каўнер свой падзеў?

Моцна пацягнуўшы чырвоным ад ветру носам, Юрка адказаў:

— Чорт яго ведае, недзе адарваўся.

— Трэба прышыць, сынку. Бо кажух без каўняра, усё роўна як певень без хваста.

— І так даносіцца. Стары ўжо.

Юрка па-вінаватаму ўсміхнуўся.

Тамаш паджартоўваў:

— Што ж ты без каўняра ходзіш, скажы, няхай табе дома прышыюць. Як жа ты так да дзяўчат ходзіш?

— Я яшчэ не хаджу.

— Чаму ж ты не ходзіш?

— Бо яшчэ не вырас.

— І-і-і, дзівак. Я ў твае гады, бывала, дык уг-га... Колькі табе год цяпер?

— Я добра не ведаю, здаецца, дванаццаць — трынаццаты.

— Дык ты неўзабаве гаспадаром будзеш!

Юрка маўчаў, стараючыся схаваць кулакі ў вузкія рукавы аблезлага кажушка.

— Чаму ты такі, сынку, нясмелы?

— Я не ведаю... Хіба я нясмелы?.. У вас, дзядзька, запалкі ёсць?

— Нашто табе?

— Гэта я хачу агню накласці.

— Кладзі... На табе запалкі.

Тамаш кінуў запалкі на траву, Юрка ўзяў іх, паглядзеў і сказаў:

— Адсырэлі.

— Якое адсырэлі, калі я іх у кішэні трымаў!

Аднак Юрка падсушыў запалкі: расшпіліў кажух і падлажыў іх пад паху. Мільгнула з-пад кажуха пафарбавапае начорна зрэб'е верхняй сарочкі і жоўтая бляшка вузкага раменьчыка-падпяразкі. Пад кажухом Юрка быў тоненькі і кволы.

— Але ж твой і кажушок выліняў, голы, як бубен.

— Гэта мне і пашылі гэтакі.

— Дзе ж вы такіх аўчын дасталі?

— Гэта з старога татавага перашылі.

— І без каўняра шылі?

— Не, адарваўся.

— А я думаў, што без каўняра... Бяжы, сынку, коні адвярні ад аўса. Бач, як знюхалі, падлы... Эй, куды, каб цябе ваўкі ўклалі!

Голас Тамашоў гучна разыходзіўся з ветрам. Сядзеў ён, як моцна ўрослы ў зямлю і траву,— шырокі постаццю і ўзлахмачаны валасамі і адзежаю. Юрка сваім дзіцячым голасам, тонкім і няроўным, адварочваў коні. Ён бег па ржышчы, махаючы аброццю. Коні,— Тамашоў лепшы, яго горшы, нават зусім дрэнны — на адно вока сляпы, стары і худы,— пехаця адскочылі ад аўса, успеўшы, аднак, скубянуць яго. Тамаш весела гукаў:

— Дагані, дагані, сынку, ды цуглямі па хвасце ўклей!

Юрка адагнаў коні ў кусты і падышоў назад. Тамаш зноў курыў, моцна харкаючы і плюючы. Юрка збіраў ужо лом для агню, але тут белабароды Павал выехаў на белым кані куставою дарогаю з кустоў. Седзячы на высокім кані, ён сам здаваўся вельмі буйным і здаровым. Барада яго,

як і заўсёды, упіралася ў грудзі, узбуджаны твар чырванеў. Торкаючы абцасамі зрыжэлых ботаў каню пад чэрава, ён пад'ехаў да самага Тамаша і Юркі. Прыпыніў каня і нарабіў крыку:

— Вы думаеце, калі я не ўспеў прыбраць усяго свайго аўса, калі я трохі запазніўся з аўсом, дык думаеце, я так і пакінуў на патраву вашым коням, каб вы іх павывалаквалі?! Вы думаеце, я нічога не бачу і не ведаю?! Нашто авёс коньмі травіце? Вы! — сабраліся ўдвух, малы і стары.

Тамаш, не ўстаючы з свайго месца, растлумачыў яму:

— Чалавек з цябе, што ты выдумаў? Чаго ты крычыш; што гэта не бывае, што конь калі ў патраву ўскочыць? Гэта ж не назнарок: што гэта мы азіяты якія, што будзем твой авёс травіць?! Што ты розуму не маеш у галаве, ці што?!

— Травіш авёс ды яшчэ мяне дурным робіш?!

І Павал рушыў забіраць коні. Перапалоханы Юрка схваціў свайго каня за грыву і пацягнуў у кусты, Тамаш стаў і засмяяўся:

— Ты звар'яцеў, Павал, ці што?

Лямант гэты чуўся на той бок вузкай істужкі кустоў. І вось выйшаў адтуль Алесь, абветраны і вясёлы. Пасля выйшаў Сабастыян, пануры, шчыльна падперазаны на доўгім халаце. Яшчэ адзін — кульгавы трохі на левую нагу, нізкі, з рыдаўна голенаю барадою. Папраўляючы шапку, ён бліснуў шырокаю лысінаю. Алесь смяяўся:

— Вы, дзядзька Павал, усё роўна як камандзір які, на белым кані. Толькі нешта вашага войска нідзе не відаць.

— Што ты з мяне, старога, кпіш, знайшоў таварыша!.. Унь авёс травяць, а я павінен маўчаць? Дабралі розуму!

— У нас ён, браце, спрадвеку гэты розум ёсць.

Тамаш сказаў гэта і ўзрадаваўся новым людзям, што яшчэ выходзілі з кустоў. Юрка зноў стаяў тут, хаваючы рукі ў рукавы.

— Дзе ж ты, сынку, запалкі падзеў?

Юрка пашукаў у кішэнях, пачаў абмацваць за пазухаю.

— Што ж ты гэта нарабіў? Падняў крык на нас без дай прычыны, і цераз цябе хлопец мае запалкі згубіў.

І Тамаш зарагатаў. Алесь, сеўшы на зямлю, пастараўся заспакоіць Паўла.

— От пускайце, дзядзька, каня ды пасецe з намі.

Павал моўчкі злез з каня. Кульгавы і лысы заўважыў:

— Калі бо накідаюць ліха ведае нашто снапы на полі, усё роўна як пазпарок. У людзей дык даўно ўсюды чыста, а гэта выткне з наўкапы снапоў, што няма ніякага разгарнення.

Павал, не пакінуўшы яшчэ злаваць, закрычаў:

— Мне тваіх парадаў не патрэбна. Я сам ведаю, што раблю. Калі мне не выпадала гэты авёс раней забраць, дык няма чаго тут мне памагаць языком.

— Чаго ж ускіпеў так. Хіба я не праўду кажу? Кручаны нейкі дый годзе. Чаго ты крычыш?

Павал спачатку змоўчаў. Пацерабіў бараду, падумаў нешта, гледзячы ў зямлю, і паспакайнеў раптам:

— А ты, Юлік, нелішне тут паказвай мне, як мне маю гаспадарку весці. Я і сам ведаю. Глядзі сябе.

— Я табе і не збіраўся паказваць.

— І добра рабіў. Кожны павінен глядзець свайго.

— Добра таму і глядзець, хто можа.

— А што, ты не можаш?

— Папробуй ты з гэтакаю нагою, як у мяне.

— На гэтакай назе можна яшчэ жыць. Ты ж, можна сказаць, зусім проста ходзіш. Яна ж у цябе здаўных.

— Мала, што я часам накульгваць пакідаю, але абы натружу яе трохі або вільготнае надвор'е, дык проста мне аж да сэрца боль даходзіць.

— То трэба лячыцца.

— Трэба лячыцца! Ты думаеш, я сам не ведаю, што трэба лячыцца?.. Я лячыўся спачатку, але гэта такая хвароба, што заўсёды трэба яе падлечваць. А ўвесь век лячыцца — дык на гэта трэба быць князем Радзівілам, а не мною — Юлікам Барановічам. Гэта трэба мець панскую кішэню.

— Ну то чаго ты енчыш, я табе тут нічога не памагу. Ты адно чужое бачыш: калі я аўса не прыбраў, дык ты мне выгаварваеш, што няма табе разгарнення, што табе свае ўласныя коні трэба пасвіць. Калі я хацеў заняць кагадзе з аўса, з свайго ўласнага аўса коні, дык вы ўсе вэрлах паднялі. Ты не спагадаеш, што, можа, мне не выпадала яго забраць. А сам дык раз'енчыўся тут перада мною. Ты думаеш, адно табе баліць? Усякаму баліць. Не нага, дык якая-небудзь іншая трасца. Ты гэта сам павінен ведаць... От пазаўчора на сходзе, калі я хацеў заступіцца

за ўсіх, дык мяне паднялі на смех. Ты ж сам усміхаўся, седзячы ў кутку. Ты думаеш, я не бачыў? А ці сказаў ты хоць слова, каб абараніцца.

— А ты мне скажы, які гэта ўжо ты там абаронца быў? Ты толькі і абараняў нейкага свайго гусака.

— А што ж, ты за мяне не заступішся?

— Ну дык і не гавары, што ты вельмі ўжо заступаўся за ўсіх.

— А што ж, не?.. Хто, як не я, сказаў першы, што перамер зямлі — гэта згуба.

— Гэта і я гаварыў.

— Хто гэта чуў?

— Той, хто чуў, той і чуў. Ты думаеш, мне гэты перамер цацка вялікая? Хто асеўся на гаспадарцы, нават гэтыя сцягачы, якім зямлю гэтымі гадамі падавалі, няхай от яны скажуць! Павыраблялі зямлю, паўгнойвалі, а гэта зноў пачнецца нанава. Ізноў, трасца іх матары, кашу заварацць. Няма, каб было спакойна і ціха — жыві сабе і рабі. Дык не! А мы — дык няхай як сабе хочуць. Ніхто мяне з маёй зямлі не спора, на якой я спрадвеку сядзеў. Не маюць права.

— Цяпер гэтакае права — ніхто ў цябе пытацца не будзе.

— Але, цяпер, добра кажа, гэтакае права.

— Дык жа гэта не ўсю зямлю, а толькі прыбалотны клін. Колькі там тае зямлі! Больш там з яго таго клопату, чым тае карысці, пакуль яна будзе так ляжаць і пакуль яе не ўлегаваць як мае быць. Дзе ж вашы вушы былі, як гаварылі пра гэта?!

— Мае вушы былі там, дзе яны павінны быць. Я хоць не чуў, можа, але сам ведаю лепш за цябе. У гэтым будзь пэвен.

Юлік Барановіч пачухаў хворую нагу і сагнуў шыю, прыстройваючыся пад кустом. Твар яго быў заклапочаны; чухаючыся, ён збіў шапку на патыліцу, і высокі лоб, пераходзячы ў жаўтаватую лысіну, абвяваўся ветрам і блішчэў. Ён так ляжаў, упёршыся ў зямлю левым локцем, і раскідаў думкамі, як яно лепш і як горш. Ён паглядаў на Паўла, які так прыкра кагадзе гаварыў з ім, аднак, чуў, мусіць, у ім нейкага прыхільніка свайго. Неўзабаве ён зусім мякка заўважыў Паўлу:

— Горш за ўсё, дык гэтыя сцягачы. Крыўдна, а-яй як крыўдна, ліха на яго. Панасцягваліся з усяго свету і ця-

пер камандаваць пруцца. Унь іншы, можа, дзе якім паскудствам займаўся, па свеце валачыўся, а гэта прыблытаўся сюды, зямлі ўхапіў і ўжо адразу, як роўны з усімі, разявіў горла арудаваць. Што, не праўда?

Павал сядзеў на траве, падагнуўшы пад сябе ногі. Трымаў на каленях аброць і ціха пагойдваўся ўзад і ўперад. Тамаш, зноў пачынаючы курыць, сказаў:

— Ён-то ўсякі з іх цягаўся па свеце. Брадзяжыў. Але цяпер, як асеўся на зямлі, дык от будзе сядзець і рабіць. Што ён вінават, што нідзе прытулку не меў. Усякаму жыць трэба. Папробаваў бы ты на яго месцы... Як табе вельмі крыўдна, што чалавек жыць пачаў па-чалавечы! Ах, як табе крыўдна!

Павал бліснуў вачыма і ўскіпеў:

— А чаму гэта канешне мы павінны ўсіх у людзі выводзіць? Чаму гэта мы павінны быць такімі міласэрнымі? Добра двум-тром, а гэта чалавек дваццаць прытулілася тут. Як каторы, хоць блізкі які, а як гэты вунь Канапацкі, дык аж з-пад Смаленску аднекуль прыблытаўся, ці якое яму ліха. Чэрці яго ведаюць, што ён рабіў там, можа, сабак лупіў!

— А што табе, што ён там рабіў? Няхай сабе лупіў, абы не ты.

— От нехапала яшчэ, каб я сабак лупіў!

— А чаму? Уг-га! Чым кепска. Ёсць людзі, што і з гэтага хлеб ядуць.

— Згарыць ён няхай з сваім такім хлебам. Чаму ж ён адцураўся гэтага свайго хлеба ды падаўся сюды, зямлі захацеў?

— Ты гаворыш усё роўна як бы ён і сапраўды сабак лупіў.

— Чаго ты за яго так абстойваеш. Чаму яму канешне ў нас прытуліцца, а не дзе інакш?

— Чаго ты на яго напаў?

— Я не на яго. Я на ўсіх. У нас зямлі і так нехапае, а гэта яшчэ некага ўспамагай.

Тамаш глыбакадумна абцёр губы вялікім пальцам правай рукі і змоўчаў. Юлік Барановіч пацвердзіў Паўлаву гаворку:

— Ёсць, вядома. І не было б крыўды, каб ён хоць сядзеў ціха, а то ўсё наверх стараецца выбрацца. Дзе які камітэт, дык ужо і ён там! Адразу! Ён ужо камітэтчык! Не дай бог, што за асэсар!

Тамаш зноў не сцерпеў:

— Ну, бо і добра робіць. Ён хоць абзавецца дзе трэба. Карысць вялікая, што ты ад усякіх, як ты кажаш, камітэтаў рукі атрэпаеш, як ад чаго ліхога. І калі дзе прыйдзецца, дык слова з цябе не выцягнуць, як бы табе цяляты язык аджавалі. А от тут пад кустам або па завуголлю дык ты вельмі ж бойкі. Табе ніхто не ўпаровіць.

— А ты што, сам у камітэтчыках думаеш век векаваць? Пачакай перавыбараў, другі раз у сельсавет наўрад ці пройдзеш!

— Тады ўжо ты пройдзеш.

— А што, ты думаеш, я дурнейшы за цябе? Ты думаеш, я дзела не павёў бы? Але я маю чалавечую натуру. Я не магу звягаць на кожнага па падвоканню — таму падатак, таму нядоімка... На чорта мне сварыцца з суседзьмі, навек ворагаў нажываць. Я люблю глядзець свайго. Я гаспадар.

— Ты думаеш, адно ты гаспадар знайшоўся? Усякі з нас гаспадар, хто лепшы, хто горшы. А сельсавецтва гэтае для мяне непатрэбна. Як бы я ўспамогся вельмі ім! Вялікае шчасце лазіць па дзесяць разоў да яго пад акно, выцягваць яго на сход. Парабка знайшоў ды яшчэ кпіны строіць. Падзякаваў бы, зараза.

— Дзякуй табе.

Тамаш падняўся і пайшоў у кусты: Алесь засмяяўся, паглядаючы на Барановіча. Павал весела кіўнуў яму:

— Зазлаваў... што яго гаспадаром не назваў.

— Ён-то гаспадар, на яго няма чаго казаць. Хто на яго што кажа. Але вельмі ўлазіць, куды яму не трэба. Унь у гэтыя камітэтчыкі як улез, дык і гаварыць не даецца. Такі ўжо адразу пралентар стаў, што хоць ты перад ім вазьмі ды скачы... Гэта ж ён Мацвею, Сабастыянаваму брату, выстараўся шэсць пудоў аўса. Дык той — ні так насеяў, як канём скарміў.

— Шэсць пудоў?!

— Шэсць. А можа, нават і больш яшчэ. І зусім. І аддаваць не трэба.

Юрка выйшаў з кустоў і стаяў збоку каля іх. Ён змёрз і ўсё чмыхаў сваім малым пачырванелым носам. Сваім дзіцячым — няроўным і таўклявым — голасам ён умяшаўся ў гаворку. Ад холаду голас яго быў яшчэ тапчэйшы:

— Ды не, тата капём скарміў усяго пуд аўса. Можа нават і менш. А то ўсё пасеяў. Я сам бачыў.
Маўклівы цяпер Алесь глянуў па яго. Мужчыны не звярнулі на яго ўвагі. Павал гаварыў:
— Якое ім ліха адходзіць. Робяць мала, клопату ў галаве не многа, а ты ім давай. Чаму не, ага! Гэтакім пралентарам і я магу зрабіцца. Што гэта — дрэнна гатовае браць? А хто ж табе вінават, што ў цябе не гаспадарка, а халера ведае што? Што ты сваю гаспадарку да торбы давёў?! Гультаёў на свеце колькі хочаш. Памагай толькі кожнаму, давай гатовае, дык іх табе яшчэ больш напладзіцца.
Узбуджаны Алесь моцна сказаў:
— Мацвей хворы. Як ён табе будзе гаспадарыць.
— Ён не так хворы, як рабіць ляпуецца. Нядбала.
— Нядбала? Папрабаваў бы хто іншы на яго месцы. Няхай паскакаў бы.
Юлік Барановіч заварушыўся і падсунуўся бліжэй да Алеся:
— А я не хворы? Я, можна сказаць, на адной назе скачу, аднак жа гаспадарку вяду — ніхто не скажа, што горш за людзей.
— У вас хлопцы зараз павабрапцамі будуць.
— Але ж я іх павыгадоўваў!
— То тады вы яшчэ рабіць маглі як мае быць. Нашто вы, канешне, усюды сябе ўтыкаеце? У вас зусім іншая справа.
Павал паспакайнеў трохі. І гаварыў спакайней:
— Ён заўсёды крыўдзіцца. Нават да мяне нешта мае.
— Хто гэта?
— Мацвей... Яму і брат не добры, яму ўсе брыдкія... Што ён да гэтага Сабастыяна мае? Што той вінават, што лепш жыве за яго. Здаецца ж, бацькаўшчыну без крыўды падзялілі... Або хоць з гэтаю Наталяю. Тая даўно касцьмі зямлю парыць, а ён усё, каб прымеў, дык выдраў бы вочы Сабастыяну за яе. Ты, кажа, ёй есці шкадаваў, ты яе ў магілу жыўцом увагнаў. Есці шкадаваў! Як ужо ён яе пакарміў бы! Злітаваўся! Агледзеўся, што сястра на свеце была! Знайшоў час шкадаваць, як тая ўжо згніла даўно...
— Што гэта вы, дзядзька, над Сабастыянам вельмі апекавацца пачалі? Мусіць, вам шкада, што Мацвей яго крыўдзіць, небараку?
Павал толькі глянуў на Алеся:

— Па-мойму, дык жыві ты сабе, а брат няхай жыве сабе. Дык не! Яму коле ў вочы, што брат багацейшы! Будзь сабе ты багацейшы, хто табе не дае?! Хто табе вінават, што ты не ўмееш жыць?! Каторы год, як на каня не можа ўзбіцца! Купіць падлу за пяць рублёў, а пасля той здохне, дык ён яшчэ горшага купляе. Быць не можа, каб так ужо дайшло, што ніякае рады. Пасядзеў бы без хлеба, а каня ніштаватага прыдабыў бы! От як!

Юрка адышоўся да кустоў. Перакінуўшы цераз плячо аброць, ён падаўся на блізкую дарогу, аброслую ў кустах мятліцаю і трыпутнікам. Мятліца паасыпалася і тырчэла белаватаю травяною саломаю. У глыбокіх каляінах хавалася размешаная каласьмі гразь. Пазвоньваючы цуглямі, ён выйшаў на той бок кустоў. За паплавамі голае поле злівалася з небам. Неба на захадзе прачышчалася. Сінія хмары бурна падалі за чорную рысу далягляду і там, дзе яны, пазаўсёды разарваўшыся, імчаліся ў сваё бяздонне — зялёная сінь неба веяла бяззменнай далечынёю. На зямлі было пуста і прасторна.

Юрка глядзеў на чорную раллю за паплавамі, гладкую і не ўкрытую яшчэ першымі ўсходамі жыта, падышоў паплавамі да вузкай і чыстай рэчкі і раптам заплакаў. У вачах яго стаяў вобраз памерлай летась цёткі Наталі і паўставала тая горкая хвіліна, калі бацька яго даў быў ёй раз хамутом у плечы. І яшчэ большае нешта выплывала ў памяці: як пасля бацька тужыў і нудзеў аб гэтым, запрагаючы каня, каб адвезці Мікалая крываносага на магілкі, капаць ёй яму. У хаце тады і па двары было пуста — усе пайшлі да дзядзькі Сабастыяна наведваць памерлую.

Яшчэ злосны твар старога Паўла і жорсткія вочы Юліка Барановіча з'яўляліся ўваччу яго. Глыбокая нянавісць да іх душыла яго. Ён не думаў, а свядома разумеў сэрцам, што ўсе гаворкі чужых людзей надзвычайна далёкія ад усёй той праўды, якая была, ці магла быць ва ўсёй гэтай жыццёвай справе.

### III

Мікалай крываносы сядзеў на прызбе і паплёўваў сабе пад ногі; глядзеў на раскалочаную каласьмі гразь. Дрэнна ўшытыя ў плечы рукавы рудой жакеткі яго неміласэрна адтапырваліся каля плячэй усёю тоўсцю самаробнага сукна. Ядлаўцовым пугаўём ён пахвостваў па зямлі каля ног сваіх. Левае вока яго, як і звычайна, было пры-

плюшчана. Пад нагамі яго цвёрдая і прасохлая была зямля; з-пад разломанага тратуара ў два аполкі вылазілі пакалечаныя каліўы шчуплай травы. У канцы вуліцы бялела голае поле, і ясныя адценні вячэрняга сонца, хмарнага, кагадзе вызваленага з-пад хмар, кладліся на яго радасную прастору вясёлым хараством. Адвячорак рабіўся ясным і халодным. Мікалай пачаў наспеўваць сабе пад нос нешта без слоў — ціхае і доўгае.

Па вуліцы ішоў рыжы Хоня — нізенькі і рухавы. Ішоў няроўна і чухаў шыю пад гаматным каўняром палатнянага фрэнча.

— Мікалай, а Мікалай!

— Чаго ты?

— Ты не бачыў рыжага пеўня?

— Не, не бачыў.

— Ой, дзе ён дзеўся, чорт яго ведае?!

— Пашукай.

Хоня пайшоў далей. Праз хат чатыры прыпыніўся каля студні і пачаў піць ваду з вядра, шырока растапырыўшы боты, запэцканыя ў гліну. На вуліцу выткнуўся Алесь, без шапкі і ў сініх портках.

— Нашто ты, Хоня, так многа вады п'еш?

— Нездароў я.

— Што ж табе?

— Я не ведаю.

— Дык гэта ад хваробы табе вады хочацца?

— Я два гуркі з соллю з'еў.

— То калі ты хворы, дык скажы жонцы, каб табе курыцу зарэзала.

— Я курыцы не жадзён. Ты думаеш, я жадзён курыцы? Я цяпер, дзякуй богу, зарабляю. Добра, што конь пакінуў кульгаць.

— Зараз зноў пачне, калі будзеш такія вазы велізарныя класці.

— Ат, не пачне... Чорт яго не возьме.

Хоня пайшоў далей. Мікалай, моцна плюнуўшы пад ногі сабе, падаў голас:

— Каб ён так жыў, як у яго гэты конь доўга выбудзе, ён яго як бачыш згаблюе. Балагольскае сэрца каменнае. Ён да каня літасці не мае...

Мікалай дастаў з кішэні пачак махоркі і пачаў круціць папяросу. Крывы нос яго чырванеў, вока ён больш яшчэ прыжмурыў.

— Чаму ты, Алесь, так рана сёння каня прывёў? Хіба ехаць куды сабраўся?
— У сельсавет трэба ісці.
— Чаго?
— Каморніка гэтага гадзіць будзем.
— Гэта ўжо цяпер?
— От, якраз цяпер і добра, да снегу каб скончыць.
— Наймеце мяне тычкі ставіць. Я затанна згаджуся.
— Грошай няма. Няхай усякі сваю чаргу адбудзе.
Алесь падышоў да Мікалая. Мікалай думаў ці так маўчаў. З завулка ехалі конна хлопцы і мужчыны. Белабароды Павал ехаў наперадзе, наводшыбе ад усіх — конь яго меў самы шырокі крок. Па самым задзе гойдаўся Тамаш, з'ехаўшы па вострай спіне свайго каня на бок, каб не замулявца. Шчуплы Юрка ліпеў на худым кані сваім, падкурчыўшы ногі. Хлопцы густою сцяною ехалі на конях. Голас аднаго з хлопцаў быў вясёлы і жартаўлівы:
— Чаму ты, Мікалай, так вока прыжмурваеш?
Алесь весела растлумачыў:
— Ён думае — на гэты брыдкі свет даволі глядзець і адным вокам, на большае ён не заслугоўвае.
Праехалі далей. Юрка непадалёку завярнуў налева ў свой двор.
Алесь збавіў жартаўлівы тон:
— Праўда, чаму ты, Мікалай, вока прыжмурваеш?
— Кантужаны быў на вайне.
— Але ж ты на яго бачыш?
— Бачу.
— І здорава цябе кантузіла?
— Не. У левую палавіну твару зямлёю дало.
Яны намаўчалі. Мікалай зноў зацягнуў сваю вечную аднатонную мелодыю. Пасля сказаў:
— Чорт яго ведае... От так жывеш чалавек. Прывыкаеш.
— Да чаго?
— Да ўсяго. Быў там на Горадзеншчыне... а гэта тут.
— Ну і што?
— Нічога. Здаецца тут і радзіўся.
— Ты жаніцца не думаеш?
— Ліха яго... звязацца. Звяжыся, а пасля не развяжашся.
— Ну пэўна, калі звязвацца для таго, каб развязацца, то лепш зусім не.

— Як каму іншаму, от як табе, дык чаму не. А гэта, дзе я гэтую жонку дзену... Жаніся, кажа, каб дурні не звяліся. Пражыву і так. Лепш, хоць вольны чалавек. Куды ні глянеш, усюды можаш пайсці. Можа, ты нікуды ніколі і не поїдзеш, але табе так здаецца. Душа ў цябе вольная. Прасторная.

— Куды ты поїдзеш? Ты на гэтай прызбе век праседзіш.

— Мала што праседжу. Але мне жонка не выйдзе і не скажа — даволі табе сядзець. Ідзі рабі што або спаць кладзіся. Зноў жа яно не страшна, што жонка скажа. Я магу без нічые гэтае казкі ўзяць ды пайсці. Але тут уся музыка ў тым, што от жа ніхто мне не скажа.

— Ну, а як пастарэеш, хто цябе тады дагледзіць?

— Тады тое і будзе. Навошта ламаць галаву пра тое, што некалі будзе. Навошта псаваць сабе сэрца... Што чалавеку трэба? Чалавеку трэба, каб душа была на месцы, от што яму трэба. Калі ў чалавека душа на месцы, тады яму і свет міл. Я лепш пасяджу галодны дзень, але каб я спакоен быў і каб ніхто мне не мог слова сказаць прыкрага.

— Ну, добра, а калі ты, скажам, цяпер па чужых хатах прытульваешся, дык, гэта значыць, ты маеш спакой і волю?

— А што. Калі мне гаспадар што буркане калі, дык чорт тваю матары бяры, я табе не прысягаў канешне жыць у цябе. Згары ты пяхай,— плюну ды пайду. Адна галава не бядна. От як... Можа, мне калі захочацца пабрадзяжыць, ну то я ўстаў, адзеў шапку і марш, і ніхто мне слова не скажа.

— Жыў жа ты некалі там на Горадзеншчыне гаспадаром.

— Тады тое і было. Я пры бацьках жыў і рабіў. Маладым хлопцам быў.

— А колькі цяпер табе год?

— А нешта за трыццаць пяць... Ты кажаш, што я туляюся, як ветрагон, а от мяне як было кантузіла на пазіцыі, дык я тады, у першую ж тую хвіліну і падумаў — добра, што хоць няма ў мяне нікога, а то сам прападаю і яшчэ там нехта будзе прападаць з жалю, ды, можа, ад голаду. Самому пакута не страшна. Страшна, калі хто блізкі пакутуе. Гэта куды страшней. Я гэта сам па сабе памятаю, як бацькі старыя ў бежанстве ўміралі,

а я ваяваў, халера яго ведае за што. Я ні то што хачу, канешне, каб мне хто якую награду даў за тое, што я ваяваў — от на табе, браце, ты ж кроў праліваў,— але тут крыўда, разумееш?!.

— Ты можаш іначай... Сам вазьмі сабе награду. Бяры кавалак зямлі, прырэжам, і пачынай жыць папава.

— Ды ўсё гэта не пра тое. Я не пра сябе гавару...

— Дык гэта ж усім і так вядома, што з немцам ваявалі немаведама за што. От так сабе, з ласкі на пацеху некаму... А ты якраз гавары пра сябе. Калі ты загаворыш пра сябе, тады, значыць, і пра ўсіх загаворыш.

А то ты сам брадзягаю жывеш, а пра іншых клапоцішся...

— От я ж табе скажу. Ты з немцам не ваяваў?

— Не, недарос быў.

— А Варшаву браць хадзіў?

— Хадзіў.

— І можаш сказаць усякаму шмэндрыку, які часам цяпер над табою арудаваць хоча,— а дзе ж ты, трасца тваёй матары, тады быў, калі мы галодныя і босыя порах нюхалі?

— Магу.

— Дык от. Ты і ёсць гаспадар тут. Сіла твая. Ты малады і здаровы. Дык табе так і здаецца ўсё. Праўдзіва здаецца — сам будзь гаспадаром, а калі няма табе награды, хоць бы, скажам, за тое, што кроў праліваў, дык сам зрабі гэтую награду, вазьмі сабе і яшчэ другому дай. Так гэта ці не, ты думаеш?

— Так.

— Ну, дык от. А я чалавек скалечапы. Што мне засталося? Глядзець, каб душа была несапсована. Жыць. Ты думаеш, калі я тут з табою разам на сходы хаджу і косячы не адстаю ад цябе, дык я ўсё і магу, так як ты? А ці ведаеш ты, як гэта можа стыць душа, калі сам сядзіш пад смерцю ў загаджаных акопах, з галавою, аглушанаю пудам зямлі, і ведаць, што ў гэты ж самы час канаюць за тысячы вёрст старыя бацька і маці з голаду, з вошай, выгнаныя з хаты, недагледжаныя валацугі... Канаюць, можа дзе адны, сам-пасам, дзе-небудзь на сметніку або на бітай дарозе. А сам, пасля ўсяго, страціўшы здароўе, не ведаеш куды падацца? Каб да маіх год ды яшчэ здароўе, дык я табе тут горы варочаў бы... А можа ў мяне ад усяго гэтага натура стала іншая, ці як іначай — усё стала ін-

шым. Людзі бываюць усякія. Ад чаго яны робяцца ўсякімі, гэта тут мы гаварыць не будзем. От я цяпер пачую ў Мацвея. Дык я тут табе скажу, што каб яго зрабіць іншым, дык трэба капыл новы. А так нічога не будзе. Так, дык ён табе будзе да канца дзён сваіх так гібець, прападаць, колькі ты яму ні памагай, колькі ты яму ні давай. Усё — як вада ў рэшата. Як у тхлань. Калі ў чалавека капыла няма, такога, які патрэбен. От як. Гэта я каму хочаш скажу. Што ж ён, з малых дзён ніколі не з'еў па-чалавечы, ні то што іншае. А цяпер, дык ён прывык і яму самому здаецца, што іначай і нельга. Не то што ён дажывае веку, а так жыве. Можа, часам ён што і зрабіў бы як мае быць, дык жа не прывык ён. Тут трэба, каб штурхануць яго як мае быць, каб у яго аж душа затраслася. Тады ён табе інакшым зробіцца. На новы капыл яго нацягнуць трэба. Бо ззамаладу, што б ён ні пачынаў рабіць, дык усё яму рукі абцінала. Урэшце ў яго і выходзіць, што дзень пражыў, то і дзякуй богу... На, куры, Алесь.

— Пра капыл, дык гэта праўда, што па новы капыл трэба яго нацягнуць. Але разам з ім і цябе. Каб і цябе штурхануў добра, дык і ты страціў бы гэтыя свае мудрагельствы.

Мікалаевы вочы бліснулі ўсмешкай.

— Чалавек жа без мудрагельства нічога не варт... Ні то што не варт ён, але нецікавы ён.

— А якое табе цікавасці трэба?

— Як якое?! Чалавек трэба, каб быў цікавым, каб ён быў сам сабою!

— А што з яго за карысць, калі ён толькі і займаецца тым, што мудрагеліць.

— О гэтак, як я,— хочаш сказаць ты.

— А можа, нават гэтак, як і ты. От узяў бы ты кавалак зямлі, ды жонку — бабу здаровую. Што, ты б з ёю не справіўся? Дарма што ты вока прыжмурваеш, а ты яшчэ здаровы, цягавіты...

— Ну то што тады было б?

— Тады ты якраз на той новы капыл нацягнуўся б, пра які ты кагадзе гаварыў. Жыў бы тады як мае быць і забыўся б адразу на ўсе свае мудраванні.

— Адразу нічога не забудзеш. Ты гэта гаворыш, не маючы практыкі.

— Няхай сабе не зусім адразу...

— А хіба я жыву не так, як мае быць? Аднаму здаец-

ца так, а другому гэтак. Тут што галава, то розум... Так цяпер мне вальней.

— Што табе з гэтае волі. Усё роўна далей гэтае прызбы ты з ёю нікуды не рушыш. Далей яна цябе нікуды не завядзе. Я от колькі да цябе не прыглядаюся, дык ты ўсё на гэтай прызбе сядзіш ды плюеш сабе пад ногі.

— Я ж табе гаварыў кагадзе. Не думай ты, што воля толькі ў тым, што чалавек цягаецца па свеце, што паўсвету пройдзе. От я прайшоў быў паўсвету, ваюючы; куды мяне толькі не заганялі! Што дзень, то новая сотня вёрст. Але хіба гэта воля была? Седзячы кожны дзень на гэтай прызбе, можна чуць у сабе самую страшэнную волю...

Ён некалькі разоў засаб плюнуў пад ногі сабе і зноў пачаў курыць. Пачынала цямнець. Рыжы Хоня ішоў назад па вуліцы.

— Ну што, знайшоў пеўня?

— Не, прапаў недзе.

— Хадзі сюды.

— Ну, чаго?

— Хадзі, не бойся. Як ты думаеш?..

— Што?

— От Мікалай гаворыць, што ён вельмі вольны цяпер, седзячы тут на прызбе. Што такое волі свет нідзе не бачыў.

— Вольны? Як у полі вецер. Ні галавы, ні хваста. Хе-хе-хе.

— Ну так, як у полі вецер. Дзівакі вы абодва.

Хоня паглядзеў на Мікалая з крывою ўсмешкаю:

— Што гэта за воля, калі ты часам кавалку хлеба жадзён.

— Як ты ведаеш, што я жадзён?

— Ну гэта гэтак гаворыцца. Ты зарабі, то ты мець будзеш. Каб я жыў! А калі ў цябе будзе жонка і дзеці, то ў цябе сям'я будзе. Тады ты будзеш як трэба. Сталы чалавек. А то ты, Мікалай, жывеш — уй! — жывеш сабе і старэеш. Гады праходзяць, а як пройдуць, тады не ажэнішся.

— Што ты мне за свата хочаш быць, ці што?

— Не, нашто мне быць каму за свата. Няхай бог крые.

Хоня пайшоў. Алесь, яшчэ стоячы тут, закурыў папяросу. Мікалай бяздумным вокам сваім глядзеў недзе на той бок вуліцы.

## IV

«Кладучыся спаць, трэба будзе памыць ногі»,— думаў Юрка, упускаючы ў хлеў каня. І ў варотах хлява, знімаючы аброць, у маўчанні перадвячэрняга змроку, убачыў: вока ў каня маўклівае і глыбокае, чыстае, як крыніца ў наплавах. Пад вокам закарваў жаўтаваты гной.

— Чаго ты плачаш? — сказаў Юрка.

Конь падышоў да жолабу. Абмацаўшы ў жолабе, Юрка заўважыў:

— Адны цырбуны.

Павыкідаў іх пад ногі, пайшоў у агарод пад купчастую грушу і ўзяў бярэмя накошанай асакі. Асака весяліла яго пахам балота. Асеннімі днямі яна не хацела вянуць — была такая ж жывая, як і некалькі дзён таму на балоце.

— На, еж,— сказаў Юрка,— кладучы траву ў жолаб.

Конь панюхаў, уздыхнуў, папробаваў жаваць і пакінуў.

«Не хоча есці,— думаў Юрка,— дзіва, што ён худы такі. За век зубы свае паз'ядаў».

Ён пагладзіў каня па шыі. На седале пад страхою дрымотна абазвалася перапалоханая курыца. Кісла пахла конскім гноем і дрывамі. У варотах запахла хамутом. Зачыніўшы хлеў, Юрка пагнуўся і разглядзеў ногі. Яны былі чорныя ад засохлай балотнай гразі. На левай назе каля вялікага пальца было абадрана аб травяны корч на мяжы і крыху балела. Юрка пайшоў у хату. У сенцах Мацвей падсяваў у рэшаце жыта.

— Трэба прасушыць жыта,— сказаў ён,— ды заўтра змалоць у жорнах на хлеб. Сёння акалаціў пятнаццаць снапоў.

— Трэба будзе абмалаціць больш ды ў млын завезці.

— Чорт яго ўсё зараз паробіць. Хаця каб як на насенне паспець. Тады ўжо будзем думаць пра млын.

— А, можа, каб нам з вамі хоць акалаціць капу ды змалоць у млыне, дык было б лягчэй і скарэй.

— А дзе я грошай вазьму на млын! Ты яшчэ малы бацьку ўказваць, бацька і без цябе ведае. Ты яшчэ не зарабіў!

Юрка ўвайшоў у хату і запаліў газоўку. Цьмянае святло заліло сцены і згусціла цені ў кутках. Дзве малыя сястрычкі яго сядзелі на ложку, цесна прытуліўшыся адна да адной.

— Чаго вы сядзіце апоўначы?

— Мы думалі, мама зараз прыйдзе або тата ўвойдзе і запаліць газоўку.

— А куды мама пайшла?

— Мама пайшла да Юзікавай цёці пазычыць хлеба, бо мы не ўспелі напячы. Заўтра малоць будзем муку... Не стой, Юрка, босы доўга на зямлі, а то скочкі на цябе наналазяць, дык заснуць не дадуць.

— Не твае дзела. Няхай сабе паналазяць. Абы не на цябе.

Аднак жа ён не злаваў, хоць і гаварыў так жорстка. Папурая раздражнёнасць толькі была ў яго. Словы бацькі — «ты яшчэ не зарабіў» — мучылі яго. Невыразны боль і трывога клаліся на сэрца, крыўда пачала межавацца ў ім з безнадзейнасцю.

— Што ёсць вячэраць? — запытаў ён.

— Мама казала, што на лаве ў мыцельніку гуркі ў збанку і расол.

Ён наліў у міску расолу і ўкінуў гурок. На стале пад настольнікам знайшоў акраец хлеба і пачаў есці, гойдаючы пад сталом зложанымі нагамі.

Маці прыйшла неўзабаве. Яна падышла да стала, палажыла хлеб і сказала Юрку:

— Няхай бы ты пачакаў трохі, я звару бульбы.

— Я выгаладаўся. Вы мне бульбы трохі пакінеце ў гаршку.

— А куды ж ты пойдзеш?

Ён падумаў трохі і сказаў:

— Да Юзіка, Юзік дома?

— Дома.

— Што ён робіць?

— Вельмі я ведаю, што ён робіць. От бачыла, што аціраецца каля ганку. Чаго табе цягацца вечарам! Кладзіся спаць павячэраўшы, дык здаравейшы будзеш.

Ён нічога не адказаў і даеў з міскі расол.

— Можа, табе яшчэ падліць?

— Даволі.

— Чаму? Дурны, еж ды праўся. А то вельмі ж худы... Пачакай бульбы, я не забаўлюся. Тады сабе пойдзеш, яшчэ рана.

— Ай!

Ён надзеў шапку і свой кажушок. І пайшоў на двор. Услед яму маці ціха сказала сама сабе:

— Гадуюцца, як парасяты. Ядуць у шапках, богу ніко-

лі не моляцца, зараз мыцца пакінуць. Проста аж страшна.

Ён пачуў, але пайшоў моўчкі далей. Мацеры ён шкадаваў, тады як бацькі толькі баяўся.

На двары каля варот ляжалі зялёныя цырбуны з бульбяніку. Ён абцёр аб іх ногі і падумаў: «Няхай высахнуць, тады ў хлеў укінецца», і раптам забыўся на гэта, выходзячы на вуліцу.

Прарэзліва крычалі недзе гусі, скрыпела студня і рыкала карова. Абрысы вуліцы губляліся ў змроку. Змрок быў белаваты, сухі, асенні. Асцерагаючыся ступаць, каб не ўразіць абадранай нагі, ён прайшоў некалькі крокаў, мінуў сваю хату і прыпыніўся каля адчыненых варот суседняга двара.

— Юзік!

У адказ нехта коратка свіснуў.

— Дзе ты?

— У цэбры ногі мыю! Ідзі, калі хочаш, і ты памый.

Цэбар стаяў у глыбіні двара, каля саламянай павеці. Вады ў ім было да краёў, вада была дажджавая, прытухлая. Юзік сядзеў на непілаваных дрывах, пахнучых мохам і смалою, і боўтаў у вадзе нагамі.

У Юзіка быў шырокі твар і сінія вочы. Цяпер толькі шырокі казырок памятай шапкі чарнеў у яго над тварам.

Юрка сеў побач з ім і апусціў ногі ў цэбар. Юзік высмаркаў нос, плюнуў на той бок цэбра і запытаў:

— Ваш конь пакінуў кульгаць?

— Не, яшчэ горш.

— Чаму ж вы яго не прадаеце?

— Ніхто за яго нічога не дасць. Раней тата хацеў прадаваць, а цяпер раздумаўся. Я яму кагадзе палажыў травы з балота, дык ён не есць.

— Бо ён, можа, па пашы наеўся.

— Не, у яго зубоў няма.

— А як жа ён на пашы есць?

— Ён дзяснамі цісне. Дык яму дзясна як забаліць, дык ён тады так стаіць. Вядома — мяса.

— А ці гэта праўда, што яму раз хлопцы хацелі хвост адрэзаць?

— Праўда. Але я схваціў за грыву ды ўцёк з ім.

— Ды ты нават плакаў, праўда, Юрка?

Юзікавы вочы бліснулі белым хітраватым колерам Юрку ў твар. Юрка адвярнуўся і сказаў:

— Не.

Але вінаваты і збянтэжаны тон голасу паведаміў, што плакаў ён. І раптам абодвум ім стала няёмка. Яны моўчкі кончылі мыць ногі, і Юрка сказаў.

— У мяне, мусіць, надрываць каля пальца будзе. Вельмі ж балець пачынае; я назаўчора па мяжы нагу аб нейкі корч абадраў.

Юзік моўчкі выслухаў і сказаў:

— Хадзем куды.

— Куды?

— Куды-небудзь.

Пасля, падумаўшы, здагадаўся:

— Хадзем у сельсавет.

— Чаго?

— Там рапяціца нейкая ідзе... хадзем вулачкаю. Калі Хоня дзіркі ў плоце не загарадзіў, дык, можа, можна будзе ў ігрушы ўскочыць. Вельмі ж ігрушы, братка, а-яй! От смачныя!

— Я еў.

— Калі ж ты еў?

— Мне раз быў Хоня даў.

— Хлусіш. Хоня нікому груш не дае. Недзе ўскочыў быў ды налаташыў.

— Яй-богу не. Каб я так жыў.

І цяпер зноў абодвум ім стала няёмка.

Яны ішлі цёмнаю вулачкаю. Пахлі гнілыя платы. Юрка сказаў:

— Хоня, мусіць, загарадзіў плот.

— Адкуль ты ведаеш?

— Бо каб не загарадзіў, дык свінні папалазілі б.

— Можа, яны і папалазілі былі.

— Не.

— Чаму?

— Бо, мусіць, плот загарадзіў.

Каля Хоневага плота яны прыпыніліся.

— А што, я казаў, што загарадзіў.

Стоячы, яны пасвісталі трохі і пайшлі далей.

Прэла пад нагамі лісце. Плыў пах, густы і вясёлы. Юзік заўважыў:

— Каб у нас былі свае грушы, от я напаеў бы.

Холадна і спакойна Юрка адказаў:

— Яблыкі лепш за грушы. От як у папа яблыкі — тыя чырвонабокія, віннья, дык лепш за ўсякія грушы.

— Вельмі ты еў іх!

— Уга, я іх чорт ведае колькі папасў. Нават летась яшчэ.

— Летась па іх яблык яшчэ не было. Гэта ж маладыя яблыкі, кагадзе шчаплялі іх. А для яблыні нядобра, калі вельмі рана яблыкі пачынаюць расці. Калі яблыня добра ўмацуецца, дык тады лепш, даўжэй радзіць будзе... У гаспадарцы добра, як у каго яблыні ёсць...

Маўчалі платы. Чарнелі стрэхі.

## V

У меншай палавіне дома, ад двара, жыў поп. У большай, ад саду, быў сельсавет. Два пакоі былі асвечаны вялікімі лямпамі. На падлозе насыпаны былі пілавіны, сталы былі пазаліваны атрамантам і голыя. У палітураваную шафу былі прыроблены грубыя дзверы з дрэнна абгаблёваных дошчак. Вялізны замок адцягваў тонкі прабой з двух драцяных сагнутых цвікоў.

У пустым, меншым пакоі дагарвала ў лямпе газа. У большым — хлопцы мазалі насценную газету. Вокны былі адчынены ў сад. Ліст паперы ляжаў на стале, удвух размалёўвалі яго. Вакол шчыльна панавісалі хлапячыя твары. Каля дома, у выгараджаным у садзе двары поўна было хлопцаў і дзяўчат. Юрка і Юзік уціснуліся між чужых локцяў да самага стала.

Чорны, як смоўж, Максімаў Петрык спрачаўся:

— А от я калі захачу, дык і яшчэ нап'юся. Ніхто мне не забароніць. Я сам за свой заработак. Я сам адзін усю гаспадарку ўпраўляю, ды каб яшчэ не пагуляць?

— То ты не крычы тут.

— Я гавару.

Яго адазвалі ўбок, пасля некалькі хлопцаў выйшлі з ім у сад. Юзік і Юрка рушылі за імі. У садзе, узлёгшы на плот, Петрык даводзіў:

— Маладыя гады неўзаметку пройдуць. І не агледзішся. Я праз два гады ў навабранцы пайду. А пасля салдат зусім другое; можа, я тады ажанюся, дык і мінецца ўсё. А цяпер хаця пагуляць гэтымі гадамі. Колькі тут засталося, гадоў два якіх. Ты, братка Клемусь, сам павінен ведаць.

— Клемуся тут няма.

— А дзе ж ён? Клемусь!

Спатыкаючыся па няроўнай зямлі, Петрык пайшоў у бок вуліцы. Юрка шапнуў Юзіку:

— Петрык жа з Макаркаваю Волькаю гуляе.

— Ну-у?

— Яй-богу. Я нават сам бачыў.

— Што?

— Як яны вечарам пад ручку ішлі. Ідуць, баючыся, каб ніхто не ўбачыў, а я гляджу з свайго двара. Яй-богу ж праўда!

— От дурны, чаму ж ты не гукнуў на іх. Або няхай бы свіснуў моцна.

— Ну але, трэба было свіснуць.

Клемусь — белагаловы і цыбаты — пералез цераз плот аднекуль з папоўскага двара. Ён падышоў да хлопцаў і ляпнуў Юзіку па плячы. Юзік спрытна вылузаўся з-пад рукі з дробнаю вясёласцю ў голасе:

— А-я-яй! Братка Клемусь, не чапайся!

Клемусь, гойдаючы каленьмі, цесна абацягненымі чорнымі порткамі з прыточанымі ўверсе галіфэ, адказаў:

— Я чуў, што твой бацька хоча, каб ты ажаніўся.

Юзік пастараўся не зразумець:

— Хто?

— Ты. Табе ж бацька казаў, каб ты шукаў сабе якое-небудзь кабеціны.

Юрка зарагатаў, Юзік з раздум'ем плюнуў сабе пад ногі. Хлопцы засмяяліся і пачалі гаварыць пра капэлю. Гаварыў Клемусь:

— ...Нават каб мы пасля, злаўчыўшыся, пачалі вясел-лі граць, дык па тое выгадалі б. Гэта каб адно цяпер купіць струмант.

— А хто ж цябе граць навучыць.

— Не святыя гаршкі лепяць... Можна было б на месяцаў два наняць якога-небудзь капяльдудкіна. Няхай бы вучыў.

Хлопцы зарагаталі. Гаворка пайшла далей:

— А каб гэта кожная хата дала частку на арганізацу капэлі. А рэштку дала б пажарная дружына, бо на ўсё дык у яе не хопіць грошай. Нічога там няма.

— Ну то і не дасць жа ніхто табе! Ткніся адно ў якую сабе хочаш хату, дык пакажуць табе такую музыку, што не рад будзеш. Цябе за гэтую выдумку кожная баба памыямі абліе. Твайму або майму бацьку патрэбна музыка?

На чорта яна яму. Ён, мусіць, як і маладым быў, дык не вельмі быў ахвоч да яе.

— Хто?

— Твой бацька.

— Мой бацька сам музыкантам быў.

— Яго ж бацька ў дудку свістаў. Тут жа, кажуць, свая капэля была — дудкі і два бубны.

Хлопцы зарагаталі.

— Чаго ж вы? Яй-богу. Мой бацька расказвае. Адзін бубен малы, а другі вялікі. Ты думаеш, што твайму бацьку непатрэбна музыка? Грошай у яго няма, от што. А спраў ты музыку, дык ён сам рад будзе.

— Але ўсё роўна ніхто табе на капэлю грошай не дасць.

— Ну, не дасць... А каб гэта нам самім. Мы ж самі гаспадары. Каб гэта кожны з нас прадаў, можа хоць і цішком ад бацькі, па пудоў колькі жыта ды самім справіць струмант, а пасля ўсё вярнулася б нам. Пачалі б вяселлі граць. Зарабілі б.

Тамаш і Алесь выйшлі з бакавога пакойчыка сельсавета. Грукаючы ботамі па сашморганых дошках ганка, Тамаш пачуў канец гаворкі і сказаў:

— Дык жа ты граць не ўмееш, смаркач ты.

— Папрашу, дзядзька, цябе, каб ты наўчыў.

— Ты хочаш, каб я цябе граць вучыў? Чаму іншаму, дык я магу. А граць, дык няхай ужо цябе які іншы махальнік навучыць.

І разам з Алесем убіўся ў кучу хлопцаў.

— А чаму ж ты, дзядзька, мяне іншаму можаш наўчыць.

— Чаму іншаму? Хэ-хэ. Дзівак!

І густа адхаркваючыся, стаяў і курыў. Максімаў Петрык падышоў з боку вуліцы. Клемусь гаварыў:

— Дык давайце, хлопцы, складомся.

Тамаш сказаў:

— Складомся ды вып'ем.

Клемусь адказаў:

— Куды табе, дзядзька, піць з намі, з гэтакаю блазнотаю.

— А чаму не, уга!

І, памаўчаўшы, дадаў:

— Даўно я не піў. Яй-богу. Ужо месяцаў са два будзе. Хочацца выпіць, яй-богу.

— Ну то чаму ты, дзядзька, не віп'еш?

— Часу няма. Гэта такая справа, што калі выпіў, дык за работу насля не возьмешся. Гэта хіба, каб калі святы дзень падабраў. Ды сказаць і капшані няма. От што. Гэтыя ж усе, абы вып'е, дык адразу або пачне цалавацца лезці, або біцца. А пайчасцей, дык усё крыўду сваю выказвае. А тут, як ты з ім цалавацца будзеш, калі на іншага і на цвярозага гадка глянуць. Няхай ён прападзе, няхай ён.

Клемусь зноў пагойдаў каленьмі і сказаў:

— Ну то як будзе? Будзем складацца ці не?

Раптам ён заўважыў: Юзік — малы і смешны — тут, у Тамаша пад локцем, пробаваў зацягнуцца на поўныя грудзі махоркаю. Клемусь сказаў:

— А, браткі, сам, як вош, а папяроса, як дручок па губе ляжыць.

І зацягнуў высокім голасам:

Над зялёнаю лукою
Ходзяць мухі талакою...

Тамаш падумаў і сказаў:

— От у мой час песню спявалі.

— Якую?

— «Ах, мой божа, сівы конь стаіць!»

— А якая гэта песня?

— А гэта значыць, паехаў хлопец ваяваць, а яго забілі. Дык конь адзін без яго і прыбег дадому. Больш тысячы вёрст бег, а дадому трапіў. Прыбягае ён дадому, бачыць — вароты зачынены, у двор не ўвойдзе. Ён пацёрся мордаю ў акно, а маладая жонка таго хлопца, з якою ён пажыў усяго адзін дзень, не пускае таго каня ў двор. Кажа — калі ты хоць нежывога яго не прынёс дадому, дык няма табе месца больш тут. А конь разумее ўсё, ды, вядома, расказаць нічога не можа. Так стаіць і нудзіць. Хоча заплакаць, ды слязы не можа выпусціць. Так і стаяў увесь час каля зачыненых варот, пакуль тая маладая ламала рукі, на ганку стоячы.

— Ну, а далей што?

— Далей у песні нічога не гаворыцца... Ну ды от і спяваецца: «Ах, мой божа, сівы конь стаіць».

Тамаш выдзьмуў спрытна з папяросніка недакурак. Клемусь зноў зацягнуў:

Над зялёнаю лукою
Ходзяць мухі талакою...

З радасным захапленнем усе, хто быў тут, гукнулі:

Пад гарою й на гары
Таўкуць кашу камары
Ай!
Ф'ю-ю-ю!..

Тамаш паварушыў плячыма, уткнуў галаву ў грудзі і пайшоў раптам адсюль. Мінуўшы браму, заспяваў ціха:

Той прымчаўся конь дадому.
Ах, мой божа,
Сівы конь стаіць!

І ішоў далей, аглядаючыся, каб ніхто не ўбачыў і не пачуў.

Юрка адышоўся ад брамы і, слухаючы, раптам прыпомніў і ўявіў: вока ў кульгавага каня глыбокае і не міргае ў ім затуманены смутак. Адышоўся яшчэ далей, палажыў бараду на сукаватую жэрдку нізкага плота і запаліў у вачах агні ад страшнай навалы вострага смутку.

## VI

Алесь быў у вялізных ботах і палатняных портках, пафарбаваных пачорна. Тамаш — у сваёй рудой вопратцы на кажусе і босы; калошы кортавых портак былі падвязаны.

Зноў быў вецер і зноў было хмурна.

Яны ўдвух сядзелі ў полі на мяжы, утомленыя аглядам балота і поля, і Тамаш гаварыў:

— Самае горшае дык гэта, што каторую пору па боты ніяк не ўзбіцца. Проста аж надакучыла, кожны месяц правячы іх. Няхай іх немач. Зусім распорваюцца, падлы. А гэты, трасца яму, Хонеў швагер падвёў — я яшчэ пазаўчора занёс іх яму — дзве латкі трэба прыставіць, дык ён яшчэ і сягоння не зрабіў... Трэба будзе на зіму якнебудзь агораць ды галоўкі прыставіць — халявы ў іх яшчэ добрыя... Халявы, я ж кажу, добрыя, салдацкія.

Ён прачысціў саломінаю папяроснік і гаварыў больш:

— Гэта, каб на зіму валёнкі справіў. Рапей, дык я мог і ў абыякіх ботах зімаваць, а гэта ўжо летась зімою чую — не тое. Ні то, што мне ногі карчанеюць, не, але

абы хоць чуць прабярэ холадам, дык проста нейкая, ліха ёй, слабасць нападае. Леташнюю зіму, пад вясну, я ў лесе прамок быў, дык дома вечарам адразу ногі самлелі былі, у каленях пачало ламаць. Што ж, браце, гады... От я стараюся тут з табою, а наўрад, госпадзі, і я прычакаю ўбачыць усю гэтую фармальную перастройку. Йй-богу. Але от варушыся... Весялеі жыць... Унь тоі лог, каб забараніць грузіць каровамі, дык там сенажаць буяла б. А то — чорт яго ведае што. Праўда ці не? Але з нашым народам нічога не зробіш. Няхай яны папраўляюцца скрозь зямлю, гэтакія людзі... Чаму ты, Алесь, не жэнішся?

— Можа, ажанюся.

— На якое ліха ты чакаеш. Ты, ужо сказаць, у розуме, прызвы адбыў... Ды якія к чорту прызвы, напаваяваў, можна сказаць, у сваю ахвоту... І гібееш так без жонкі... От яшчэ год, яшчэ два, дык жа ты тады да марцовых кавалераў дарасцеш... Колькі табе год?

— Дваццаць сем.

— Ну от бачыш... Цяпер жа табе заводзіць гаспадарку і жыць за пане моі. А што ты без бабы. Ты без бабы і ў хаце ні госць, ні гаспадар. Праўда ці не?

— Я гэта і сам ведаю.

— Мала ведаць, трэба дамагацца, раз ты чаго хочаш. На гэтым свет стаіць і стаяць заўсёды будзе.

— Дык тут жа гэтакае дамаганне — узяў ажаніўся і скончана дзела.

— Жаніся, а то гады праходзяць. Маладыя гады пройдуць, тады не вернеш. І час такі, пакуль што спакойны... Я от думаю — каб быў я малодшым, дык я тут бы цяперашнім светам чорт ведае чаго нарабіў бы. Я от і цяпер думаю — трэба будзе зімою зрабіць алейню. Калі ўжо, як тоі казаў, ніскоит рады не будзе, дык падгаварыць мужчын ды скласціся. Я пра гэта ўжо думаў... А ты, браце, жаніся. Ты, можа, пакрыўдзішся, што я ў твае справы ўмешваюся, але я скажу. Я чалавек стары і маю практыку, дык яно, можа, і можна мне гаварыць табе. Ты ўжо от другі год валаводзішся з Барановічаваю гэтаю дзяўчынаю, дык я табе скажу, што даволі табе з ёю ўжо важдацца, бяры ты яе замуж. А то — яна дзяўчына зграбная, трохі вучаная, дык глядзі, каб ты яе з рук не выпусціў.

— А я табе, дзядзька, калі ўжо на тое пайшло, таксама шчыра скажу, як старому чалавеку, што я вясною

ўжо быў памерыўся брацъ яе, але яна сама ўсё адцягвае.

— А што, не казаў я?

— Што?

— Што ты яе гатоў з рук выпусціць. Яна сама сабе верыць і не верыць. Што ж, яна там трохі навучылася ў горадзе, дык ёй цяпер здаецца, што свет — гэта не свет, а яна — гэта не яна. Яна і за цябе згодна пайсці і, разам з тым, некага іншага чакае. От як. А цяпер каморнік гэты ў іх закватараваў — мераць пачне праз тыдзень, а з'явіўся ўжо ўчора. За месяц ён работу скончыць, тады паедзе, але ты глядзі, каб ён і за месяц гэтую дзяўчыну з розуму не звёў. Возьме ён яе ці не возьме, а з толку збіць можа. Сёння днём стаялі яны пасярод двара і смяяліся, гледзячы адно на аднаго. Як ішоў я вуліцаю да цябе, дык бачыў.

Устрывожаным голасам Алесь запытаў:

— Ён у Барановіча закватараваў?

— У Барановіча... Я табе раджу, як добра, калі не хочаш страціць дзяўчыну, дык адразу ж скажы ёй: альбо — альбо. Альбо так, альбо сяк. Бяры яе да сябе зараз жа. А яна, сказаць, дзяўчына добрая, няма што на яе казаць. Абжывецца, абсталее, дык і гаспадыня будзе добрая.

— Яна і цяпер сталая.

— Сталая, я не кажу... Дык от пра гэтую самую алейню. Што ты на гэта скажаш?

— Трэба падумаць.

— Тут лішне і думаць няма чаго. Толькі што грошай няма і ндзе ты іх, мусіць, не выкалупіш. Чуў, які крык быў, калі давялося на каморніка збіраць, які гвалт?

— Я ж кажу, што трэба падумаць.

— Цяпер то ты зусім з іншае прычыны думаць не можаш.

— З якое ж?

— З-за дзяўчыны гэтае ўстрывожыўся. Як бо яна завецца?

— Ганна завецца.

— Слухай мае парады... Ты з бацькам яе гаварыў?

— Не.

— А сам ён ведае?

— А хто яго ведае, мусіць. А ўрэшце, ліха яго бяры, як сабе хоча. За пасагам я не ганюся.

— Ну ён і пасагу дасць.

— Няхай дасць, калі хоча. Я вазьму.

— Сёння ж вечарам пагавары з ёю... Хадзем... Ты выбачай, браце.

Яны пайшлі ўздоўж паўз мяжу. Тамаш сказаў:

— У босыя ногі ржышча колецца... хал-лера... Трасца яму, ботаў не правіць. Трымае трэці дзень...

Алесь ішоў паперадзе і маўчаў.

Шумелі заспакоена кусты пры дарозе, вецер плыў і плыў. Моцна пах ядловец на ялавіне. Ціха было і хмурна.

Тамаш яшчэ сказаў:

— У ногі холадна, ліха яму.

Алесь маўчаў.

— То чаго ты занудзеў раптам?

— Я не занудзеў.

— Што ж, я не бачу?

— Я думаю.

— Пра што ты думаеш?

— Пра ўсё... От, здаецца, і ўсё добра. Робім, папава перарабляваем, усё як мае быць, а раптам з'явіцца нейкая прычына, дык усё іншым можа здацца.

— Ты гэта пра бабу?

— Ні то што пра яе...

— Плюнь, яй-богу. Што ж ты за хлопец! Няможна так маладому хлопцу. Эх ты, свет цяпер пастаў. Людзі пайшлі. Хлопец павінен быць казаком, калі давядзецца, каб і на кані і пад канём мог арудаваць.

— Я ўсюды быў.

— Ну, дык глядзі весялей.

Пыльнаю дарогаю падышлі яны да мястэчка. Тут было зацішней і цяплей. На вуліцы зморшчаныя лісці клёнаў суха шараваліся пад ветрам аб зямлю.

## VII

Юлік Барановіч устаў досвіткам. Да рассвітання было яшчэ далёка. Ён паволі, стараючыся не стукаць, усцягнуў на ногі боты і накінуў на плечы парваную вопратку. Ад печы ішло цяпло па ўсю кухню. Было душна. Ён падышоў да печы і пацікавіўся: прылажыў руку да печы і падумаў: «Мусіць, на двары цёпла, калі печ за ноч не астыла. Вецер сціх — не чуваць, каб шумеў гэтак, як учора». Жонка пачула, як тупаў ён па кухні, і моўчкі пачала ўставаць. Запаліла лямпачку і паставіла на прыпек.

— Хіба адчыні ты комін, — сказаў ён.

— Нашто?

— Горача вельмі.

Яна адчыніла комін, выцягнула з-пад лавы кош бульбы і стала абіраць яе.

На сцяне чарнелі хамуты і густа пахлі дзёгцем.

У хаце нехта заварушыўся — моцна зашумела салома ў сенніку. Ён падышоў да хатніх дзвярэй і паглядзеў. Каморнік, лежачы на ложку пад акном, чухаў пад вухам даўгаватую сваю галаву; святло кухоннай лямпы падала на яго чырвонаю істужкаю праз адчыненыя дзверы. Убачыўшы гаспадара хаты, ён перавярнуўся на другі бок, тварам да сцяны, моцна кашлянуўшы. Юлік Барановіч хацеў нешта сказаць яму і не сказаў,— з сярэдзіны хаты вярнуўся назад у кухню. Падышоў да жонкі і зашаптаў над яе галавою:

— Ты наглядай за імі.

— За кім за імі?

— Ну, за Ганнаю і за ім.

— А што, я сама не ведаю, ці што.

— Ну, дык я ж і кажу. Наглядай, каб, барані божа, чаго не выйшла. А так, дык няхай сабе гуляюць. Можа, ім і суджана.

Жонка, моцна ўздыхнуўшы ад сваёй жаночай прывычкі, сказала:

— А бог іх ведае... Што каму суджана, што не суджана. Хто яго ведае, што ён за чалавек. Мы ж усяго першы тыдзень яго бачым.

— От нічога. Відаць — ён хлопец разумны і сталы. Гэта чалавек.

Ён павысіў голас. Яна спыніла яго:

— Цішэй ты. А то пачуе яшчэ. Дай яму заснуць. Ідзі будзі Ганну.

— А Ганна таксама — дзяўчына не дрэнная. Няхай папрабуе знойдзе дзе лепшую. Яна і да работы, і вучаная. Няхай, я ж кажу, пашукае лепшае.

— Чаго ты раней пары клапоцішся.

— Клапаціцца трэба заўсёды раней пары. Бо, як пара пройдзе, тады ніякі клопат не паможа.

— Яна ж з Алесем усё валаводзіцца.

— Мала што. Алесь таксама хлопец не кепскі. Хто па яго што скажа. Але, што ж ён — просты гаспадар, ды яшчэ і бедны. Будзе за ім увесь век у гнаі корпацца і больш нічога.

— Цішэй ты, паабуджваеш усіх. Чаго ты балбочаш, як цецярук!

У падпечку заспяваў певень. Недзе за сцяною, на двары, у хляве, мусіць, следам за ім абазваўся другі.

Жонка сказала:

— Яшчэ гэты гарлач, каб ён здох, зараз усіх на ногі ўзніме сярод ночы. Горла! Выпусці яго вон.

— Цёмна яшчэ... Пачакай, няхай развіднее трохі.

Ён пераставіў лямпу на лаву і выпусціў з падпечку куры. Пасля сыпануў ім з збанка ячменю. Паглядзеўшы, як ядуць куры, дрэнна бачачы пры лямпавым святле і палохаючыся ценяў, ён пайшоў на двор.

Было цёпла і вільготна. Яму даў у нос густы пах прэлай восені: пад нагамі ў двары макрэла жоўтае лісце з яблыні, пад платамі нудзела зелле. Стог саломы бялеў у глыбіні двара за нізенькім платцом. Пачынала развідняцца. За гумнамі бялела цёмнае неба; цяжкія дзяругі хмар раставалі і гінулі. І цераз агароды з поля веяла радасцю прасторнай цішыні.

Ён падышоў пад гумно, нагроб з стога пярэбірак аўсянай саломы, ператрос на таку з сенам і занёс каровам. За дашчанаю перагародкаю ў хляве абзываліся гусі, пад нагамі заміналі авечкі.

Ён павольна ўпраўляўся, паціху гаворачы сам з сабою і з жывёлаю. Закідаючы каровам трасянкі, ён сказаў:

— Ежце, падлы. Няма чаго лішняе перабіраць. Стаўшы вас карміць адным сенам, дык да каляд можна ўсё скарміць. Унь людскія каровы ядуць чыстую аўсяную салому. І малака даюць.

Ён адапхнуў з-пад ног авечку і сказаў:

— Зараз і вам дам. Пачакаеце.

І яму весела было, як вакол у суседніх хлявах спявалі пеўні.

У конскім хлеве ён агледзеў жалабы, дрэнна бачачы ў змроку і абмацваючы каструбаватыя дошкі. Пагладзіў па шыях коні, падлажыў ім сена і пастаяў каля іх, слухаючы, як яны ядуць. Весяліў яго гэты стук і шум. Усё яму здавалася добрым, толькі нездаваленне было тым, што Мікалаю крываносаму было пераплачана за малацьбу. «Лішнія сорак капеек аддаў,— думаў ён,— не варта было даваць, мала што ён звягаў. Так і прайшло б, а то — чорт ведае якую цану здзёр».

Развідпялася хутка. Лісце і зелле відаць стала выразпа. Два высокія клёны каля гумна здаваліся сінімі і мокрымі. Відаць былі на іх яшчэ чорныя камякі сонпых варон.

Ёп павольна хадзіў па прыгумепні, падцягваючы сваю хворую пагу і ўсё гаворачы сам з сабою. Насыпаючы ў мяшок мякіну, ён гаварыў:

— Чэрці яго ведаюць, можа, ён і сапраўды гэта кашу заварвае, гэты хлопец. Што ж, ён каморнік, невялікі лішпе пан, сам, мусіць, з мужыкоў. Але вельмі скора нешта, усяго тыдзень, як жыве, а разам ходзяць, хіба ён рапей якім-небудзь парадкам Гапну ведаў? Усё можа быць... Каб гэта напраўду ён, дык пяхай бы ішла. Невялікая раскоша пайсці за якога-пебудзь Алеся. Ён-то хлопец, можа, і нішто, бацька яго быў рамеснікам і ён да ўсялякае работы здатны, але ж вельмі галетнік. Пакуль ён на гаспадарку ўзаб'ецца. А гэта пе чалавек, а гатовая крупа. Пройдзе месяц — рабіў не рабіў, а пенсію — на! От няхай бы жылі, здаровенькія. Калі дом дзе захацелі б сабе пабудаваць, дык я памог бы. І грашыма і коньмі. Няхай бы ішла... А Алесь — напэўна гэта ён па пасаг гоніцца. Ён ужо двое коней у мяне ўгледзеў і жарабіцу трэцюю, а-яй! Разявіў горла. Галетнік!

І злосць на Алеся немаведама чаго пачала апаноўваць яго. І пакуль ён нанасіў з-пад калодзезя цэбар вады, зусім ужо быў злосны на яго.

Развіднелася зусім, калі ён, управіўшыся, выйшаў на вуліцу. Цяпер засталося толькі напаіць коні. Ён стаяў напроці свайго двара і глядзеў, як з коміна суседняй хаты ўзнімаўся дым і, не ўзняўшыся высока, ападаў уніз і слаўся па страсе. «Ці не пойдзе дождж»,— падумаў ён, жуючы саломіну і пакручваючы ў руцэ трухлявы відук, адарваны дзецьмі ад плота. І раптам прыпомніў зноў, што пераплаціў Мікалаю за малацьбу сорак капеек. І тут ён не мог змоўчаць:

— Ліха яго матары, падла крываносая... Пайду згаджу яшчэ на які тыдзень, няхай малоціць, а пры расплаце гэтыя сорак капеек я з яго вылічу.

І ён пайшоў да Мацвеевай хаты, дзе жыў цяпер Мікалай.

У хаце было цесна і брудна. Не падмецена пасля ночы. На зямлі пацярушана была салома, дзве курыцы грабліся ў ёй. Каля дзвярэй застаўлена было кашамі і

вёдрамі. Мацвеіха абірала бульбу, седзячы на зямлі. Мацвей стаяў пад дзеравянаю скрынкаю, поўнаю старых чаравік, падэшваў і абрэзкаў з старых халяваў, і выбіраў кавалкі, мусіць, на пейкія латкі. Дзеці сядзелі на печы, Мікалай на лаве — курыў і гойдаў нагамі.

— Дзяндобры ў хату,— сказаў Юлік Барановіч.

— Дзяндобры,— адказаў Мацвей.

— Добра здароўе,— адказаў Мікалай.

— Але ж на дварэ цёпла стала,— сказаў Юлік Барановіч.

— Але,— адказалі ўсе гуртам.

Юрка ўвайшоў у хату і паскардзіўся:

— Конь нічога не есць.

Мацвей паглядзеў на Юрку і даў загад:

— Завядзі яго на паплавы, няхай жывіцца. За дзень пад'есць трохі. Толькі не выпускай на вуліцу, а завядзі, бо ён сам усё роўна не пойдзе, падла, воўчае мяса... Дай яму вады.

— Даваў. Дык ён адно губы намачыў і не піў.

Юрка пайшоў з хаты. Юлік Барановіч залажыў рукі ў рукавы і стаяў так пасярод хаты. Заўважыў на стале нож-сцізорык, паглядзеў і сказаў:

— Які нож, з якімі цацкамі!

— Гэта дзеці знайшлі,— заўважыла Мацвеіха.

— У мяне быў такі самы, але я ехаў раз улетку ды згубіў з кішэні. Толькі мой большы быў... Ведаеш што, Мікалай?

«Трасца яго матары, сарака капеек будзе дапамінацца»,— падумаў Мікалай і прыжмурыў вока.

— Можа ты яшчэ ў мяне тыдзень намалоціш — хлопцы цяпер у лес ездзяць, а ты патроху грукаў бы... А то мы з табою і ўдвух патроху цупалі б — мне кулі патрэбны, дык трэба жыта перамалочваць; ярына няхай застаецца надалей.

— Малаціць то можна, але каб ты мне наперад даў грошы, вельмі ж мне цяпер грошы патрэбны.

«А халера ж на яго, які хітры»,— падумаў Юлік Барановіч.

— Нашто ж табе так адразу грошы?

— Боты шыю новыя.

— Дык няўжо ж у цябе ўжо на гэта сышло? Адзін душою — табе б, здаецца, можна заўсёды грошы мець у кішэні. Ты ж работу заўсёды маеш.

— Адкуль у мяне грошы!.. А ўрэшце, як сабе хочаш... Я пайду паўсажонкі ставіць.

Юлік Барановіч абмацаў у кішэні кавалак саломіны, узяў яе ў зубы і пачаў жаваць.

— Ну, то як будзе?

— Я ж табе сказаў.

— Што ты за чалавек! Няўжо ты думаеш, я табе скручу?

— Ты мне не скруціш, але мне цяпер грошы патрэбны.

— Ну то я табе дам наперад палавіну.

— Дай усё, дык я табе зараз жа за цэп вазьмуся.

Юлік Барановіч падумаў і сказаў:

— Няма ў мяне цяпер грошай... Дзівак ты... Мне ж усё роўна плаціць. Каб былі грошы — ты думаеш, я табе не даў бы наперад?

Мікалай пачаў круціць новую папяросу. Юлік Барановіч паглядзеў на курыцу і сказаў:

— Ці не курч гэта на яе напала, вельмі ж яна ступае неяк фацэтна, прысядаючы.

Мацвеіха адарвалася ад работы:

— Не, гэта яна і ўрадзілася такою.

Юлік Барановіч пайшоў з хаты, несучы ў сабе веліч нейкіх туманных і радасных надзей.

## VIII

Каморнік быў малады і даўгатвары.

Ужо добра развіднела, як ён устаў. «Спяшацца мне няма куды»,— думаў ён, разглядаючы касцяныя гузікі зялёнага фрэнча. Ён доўга прыладжваў на нагах шчыгульныя гетры, дасціпна абцягваў іх рамянямі. Яшчэ даўжэй ён мыўся ў кухні, сам не ведаючы чаму і перад кім стараючыся быць дасціпным.

У кухні нікога не было. У печы датляваў жар, два хворыя вазончыкі на акне пахлі на ўсю кухню.

Ён прычэсваў ужо стрыжаныя свае валасы, стоячы ў хатніх дзвярах, як Ганна ўвайшла з падворку з дайніцаю малака. Яна пачырванела, глянуўшы на яго і адказваючы ўсмешкай на яго вясёлы выраз твару.

— Чаго вы пачырванелі? — сказаў ён.

— Я не пачырванела.

— Пачырванелі.

— А чаго вы смяецеся?

— Хіба ж я смяюся?.. Чаму вы так позна каровы доіце? Гаспадыня з вас, як...

— Як з вас каморнік.

І яны абое засмяяліся. Трымаючы твар уніз, яна бліснула па яго востраю прывабнасцю шырокіх вачэй сваіх. Ён колькі хвілін моўчкі глядзеў на яе, поўны жадання не адходзіць ад яе.

— От замест таго, каб так прыглядацца, дык памаглі б мне.

— Няўжо вы самі не справіцеся, што яшчэ памагаць вам. Гаспадыня!..

— Ды я то спраўлюся.

— Дык нашто ж вы просіце, каб я памагаў вам?

— Не люблю, калі хто без работы стаіць!

— Ах, як ужо вы вельмі работу любіце.

— Бо і люблю.

— З вялікіх любошчаў да работы сягоння спалі чуць не да поўдня.

— А вы!.. Я ўжо колькі работы зрабіла, а вы кагадзе ўзварушыліся.

— Я раней за вас узварушыўся.

— Дык відаць жа. Добрыя людзі напрацаваліся ўжо, а ён яшчэ нават не прыбраўся як мае быць.

— Я ж вядомы для ўсіх гультай.

Яны ізноў засмяяліся, гледзячы адно на аднаго. І тут ён падышоў бліжэй да яе, гаворачы:

— Каб вы ласкавейшыя былі, дык я памагу вам.

— Не трэба.

— А вы ж кагадзе прасілі.

— Ну памажэце.

— Толькі што ж мне рабіць тут трэба?

— Дзяржэце збанок... Ды не так... Я ж казала вам даўно, што вы няўдалы.

— Як вы маглі мне даўно гаварыць, калі ўсяго тыдзень, як я жыву ў вас.

Ён пачаў траціць адценні жартаў у голасе. Тое ж самае пачало рабіцца і з ёю. Яна сказала:

— Я вам даўно гэта гаварыла.

— Калі?

— Яшчэ ў горадзе.

— Мы там усяго разоў тры бачыліся.

— І нават амаль што не былі знаёмымі.

Яна ў раздум'і памаўчала і адзначыла факт:

— Ідзіце вы прыбірайцеся, зараз снедаць будзеце.

Ён не адыходзіў і раптам тон яго голасу зусім змяніўся.

— Вы не скончылі школы?

— Не.

— Чаму?

— Не было як ад дому... Не было каму рабіць дома.

— А канчаць не думаеце?

— Не... дзе ўжо там.

— А вы даўно былі ў горадзе?

— Даўно... Некаторага году з татам праднагог завозіла.

Цяпер пачалася маўчанка. Яна была прыкраю. Жадаючы зноў узбіцца на той ранейшы жартаўлівы тон, яна сказала:

— Не ўмееце вы збанка трымаць.

— Пакажэце, як.

— Дзяржэце вышэй.

Яго рука паднялася вышэй. Яна ўжо вылівала апошняе малако на цадзілку. Пальцы яго рукі ляглі на яе руку. Яна паставіла дайніцу і пачырванела. Тады ён прытуліўся тварам да яе валасоў. Яна маўчала, і толькі чуваць стала яму, як у яе стукала сэрца.

Яна глядзела недзе сабе пад ногі. Ён прынаў губамі да яе валасоў.

— Пусціце,— сказала яна,— зараз прыйдуць.

— Не прыйдуць.

Зноў памаўчалі.

— Ідзіце, будзеце снедаць.

— Я пасля буду снедаць.

— Не, вы цяпер ідзіце.

— Чаго вы мяне гоніце?

— Я вас не ганю.

Чырвань залівала яе твар. Чорны каўнерык яе рудоі сукенкі варушыўся ніжэй шыі, так яна моцна дыхала. Ён стараўся глянуць ёй у вочы, а яна ўпарта глядзела ўніз.

— Ідуць, пусціце, ідзіце,— сказала яна.

Голас яе быў няроўны, у гэтую хвіліну хрыплаваты. Апошняе слова яна сказала моцным шэптам.

На ганку пехта стукаў ботамі.

У маўчанні яны моцна прыціснуліся адно да аднаго і разышліся, несучы ў сабе вялікую буру радаснай трывогі.

## IX

На стале ляжалі планы і каморнікавы рысункі; у хаце было накурана; каля стала стаялі заслоны і некалькі старых, выпадкова падабраных, крэслаў. Мужчыны разышліся ўсе разам; сядзелі ж яны тут доўга. Кожны заходзіў «на пяць хвілін», а сядзеў больш гадзіны.

Тамаш, даводзячы, што мераць трэба пачаць чым раней, расказаў шмат здарэнняў з сваёй моцнай жыццёвай практыкі,— з кім ён калі, дзе і куды ездзіў у фурманкі, калі былі халодныя зімы і неўрадлівыя гады, хто з кім, калі і за што судзіўся... Мацвей слухаў і быў згодзен з усімі, Юлік Барановіч — гаспадар хаты — хітравата глядзеў на ўсіх.

Алесь застаўся адзін, вясёлы і жартаўлівы. Пальцы яго рук, назаўсёды зачарнёных работай, перабіралі алоўкі, цыркулі і ўсякія іншыя дробныя каморніцкія прылады на стале. Каморнік здаваўся яму вясёлым хлопцам-дружакаю, з якім можна і пажартаваць і пагуляць.

Юлік Барановіч цяпер некалькі разоў выходзіў у кухню і зноў уваходзіў у хату, хвалячы надвор'е, хвалячы чырвоную кабылу, ганячы Мікалая, хвалячы мурожнае сена для коней...

— Я маю двое коней,— сказаў Юлік Барановіч,— а жарабіцу трэцюю. Мяне раней усе лічылі кулаком, цяпер лічаць серадняком. А гэта што значыць? Гэта значыць, што я чалавек. Я сабе маю гаспадарку, гляджу яе, маю што мне трэба і нічые ласкі не прашу, калі ўсе такія разумныя пайшлі. Не дай бог як ззамаладу я мучыўся.

— Як жа вы мучыліся?

— Хлеба кавалка не было... А цяпер трое коней маю. І ніхто мне не памог на макава зерня... А цяпер — кулак, серадняк... Чорт вашу матары бяры, як сабе хочаце, я ёсць сам сабою! Нялішне да каго прыслухоўваюся. Калі тут, сказаць, няма каго лішне прыслухоўвацца,— у іх што гадзіна, то навіна... Як па-твойму, Алесь, я — кулак ці серадняк? Ты мне скажы!

— Па-мойму, серадняк.

— А зашто мяне ўсе гады лічылі кулаком?

— Хіба не падабаецца?

— Мне ўсё роўна. Няхай мяне хоць чортам лічаць, да мяне нічога не прыстане. Я нікога не забіў і не аграбіў. Іншы не мае — бо рабіць ляпуецца. Абібока або дурня ніколі кулаком не пазавуць.

— Няўжо ўсе бедныя — абібокі, гультаі?

— Ні то што ўсе. Не, не ўсе. Нашто казаць. Але ёсць і такія, што на палатках ляжыць і сніць, што яму гатовыя кавалкі зараз будуць у горла валіцца.

Каморнік глядзеў у акно і курыў. Сіні дым папяросы густа цягнуўся на ўзроўні яго галавы ў адчыненую фортачку. На вуліцы было ціха, і прыемна пахла ў хаце гэтым дымам.

— Я гляджу гаспадаркі, бо хачу жыць на свеце, а не прападаць. Унь я і дзяўчыну сыскаў з навукі дзеля гэтага. Мне і шкада яе было, от што, але я не глядзеў на гэта. У мяне сэрца таксама ж не каменнае і мне таксама хацелася, каб мая дачка выўчылася і была паняю, але што ж ты зробіш. Не даўчылася. А тут, калі што якое, дык адразу: кулак, кулак. Як бы гэта ганьба, што чалавек мае. Няўжо ж, каб усе нічога не мелі. А калі і кулак, ну то што!.. Трасца матары іх!.. Які я кулак!.. Я — трудзяшчы пралентарыят. І больш нічога, калі яны хочуць ведаць!

— Вам цяпер далі скідку з падатку на канюшыну?!

— Далі. Бо паразумнелі. Бачаць, нічога не выходзіць, на галетніку далёка не заедзеш. Адразу і мяне серадняком зрабілі... Як гэта ўсё лоўка робіцца ў іх! А-яй, што за майстры!

Патроху Алесеў твар пачаў рабіцца нудным. Каморнік усё курыў каля акна, зрэдку ўстаўляючы слова. Алесь азіраўся на кухонныя дзверы, каля печы там мільгацела ўваччу яго рудая сукенка Ганны.

Каморнік усміхнуўся, азірнуўшыся на Алеся. Алесю вядома стала, што каморнік здагадваецца, што яму раптам захацелася, каб пайшоў адсюль сам гаспадар Барановіч, і Алесь падышоў да акна і стаў побач з каморнікам. Каморнік быў ростам роўны з Алесем, толькі шчуплейшы за яго. І маладзейшы. На малым пальцы ў яго быў адгадованы вялізны пазногаць, роўна падрэзаны і падскрэбены.

Яны абодва глядзелі ў акно.

— Сёння субота,— сказаў каморнік,— можа, дзе гульнём вечарам.

— Можна будзе гульнуць,— адказаў Алесь.— Табе яшчэ надоўга водпуск?

— Мне яшчэ паўтара месяца.

Алесь глядзеў на жоўтую сцяну новай хаты на той бок вуліцы. Яму яшчэ няёмка было называць яго «на ты». Першы раз гэта было — пазаўчора вечарам, калі пасля кароткай нарады наконт дня, у які трэба было пачаць на полі працу, яны ўдвух пайшлі да дзяўчат. Каля крайняй хаты ціхай вуліцы рагаталі хлопцы і дзяўчаты.

— А праз паўтара месяца куды?

— Дыпломную работу здаваць паеду і справаздачу аб практыцы.

— А гэтая наша работа будзе табе залічана ў практыку?

— Думаю, што будзе.

Юлік Барановіч пасядзеў трохі на лаве, пабарабаніў пальцамі па стале і пайшоў недзе ў кухню, дзе ўсё яшчэ ўпраўлялася каля печы з мацераю Ганна. Алесь і каморнік, стоячы каля акна, абодва туманна адчувалі яе блізкую прысутнасць і, як бы бачачы адзін аднаго навылёт, не глядзелі адзін на аднаго. На абтынкаванай сцяне прарэзліва стукаў танны гадзіннік. Ясны дзень.

— Ты вучыўся дзе? — раптам запытаў каморнік.

— Вучыўся трохі...

— Дзе?

— Гарадское вучылішча скончыў... чатыры класы.

— У які гэта час?

— У першыя гады рэвалюцыі.

— А пасля?

— А пасля ваяваў з палякамі.

Цяпер яны абодва маўчалі.

Акно выходзіла на вуліцу, у цесны агародчык для кветак і расады, абгароджаны негаблёванымі вузкімі дошкамі. Пад самым акном зелянела і цвіла сакаўная вяргіня, глушачы пад сабою ўсялякае дробнае зелле. У хаце каля акна было прытульна, ціха і весела. Цішыня вуліцы звала ў поле, у прасторы ржышча, у бяскрайнюю волю чорнай раллі і неба над ёю.

Алесь надумаў пра недасеяныя кавалкі жыта і пайшоў у кухню прыкурыць. Запалкі дала яму Ганна, разагрэтая каля печы, з ружовым тварам.

— Гаспадыня з цябе,— пажартаваў Алесь.

— А можа, скажаш, дрэнная гаспадыня?

— Да поўдня каля печы кошкаешся.

— Ну то і добра,— адказала яна з вострай дзявочай усмешкай і чорным бляскам вачэй. Несвядома-хітраю жаночаю засмучонасцю вабіла яна да сябе.

— Вечарам я прыйду да цябе,— сказаў Алесь ціха, аглядаючыся на прычыненыя дзверы ў хату.

— Прыйдзі,— сказала яна.

— Ты будзеш мяне чакаць?

— Буду.

Аднак твар яе пабялеў, і яна стала глядзець у печ, дзе датляваў пад беллю жывога попелу жар. Алесь заўважыў гэта і паглядзеў ёй у вочы. Зірку іх злавіць нельга было. Узяў яе за руку — рука была вялай і бязвольнай. Ён пагладзіў далонню рукі і пайшоў назад да каморніка. Той, прысеўшы на край ложка, папраўляў на нагах гетры.

— Дык вечарам пагуляем дзе? — зноў сказаў каморнік.

— Хіба дзе так збяромся ды паспяваем.

— Спяваць я не магу. Голас у мяне...

Алесь падаў яму руку. Юнацкі твар каморніка ўпаў у акно на вуліцу. Алесь моцна стукаў ботамі па разламаным тратуары з аполкаў. Ганна падмятала кухню.

— Ведаеце што?..— сказаў каморнік, з'яўляючыся ў дзвярах.

— Не, не ведаю,— засмяялася Ганна.

— Дык я ж вам скажу... вечарам давайце мы з вамі пойдзем гуляць.

— Ну куды ж?

— У прысады пойдзем...

— Я не ведаю,— пачырванела яна.

— Чаму вы не ведаеце?

— Не ведаю.

— Не ведаеце, чаму не ведаеце?

— Пад вечар будзем бачыць...

І яна пайшла ў сенцы.

— На пагоду выбіваецца,— сказаў Юлік Барановіч, уваходзячы ў кухню.

## X

Пад вечар выбілася з-за хмар сонца, і зноў летнім тварам зарадавалася зямля. Была ў гэтай радасці задумёнасць жоўтых далей апусцелага поля і трывога шуму сініх кустоў. Але клалася цішыня вопкавай безутрапёнасці, і радасць зямлі была магутнаю і неабдымнаю. Чар-

нелі дарогі вільготнай глебай, і асенняй травой зеляніліся іх каляіны. Жоўты ліст прынадаў да травы, чуючы пад ёю зямлю, і разам з усім, што было навокал яго — шэрым і яскравым, нязграбным і прыгожым,— маліўся вялікай радасці.

Неба сінела. Сонца абнімала захад. Далі зямлі вабілі жыць.

Летняя шырыня! І восень, восень!

Пахла поле і паплавы, і аброслыя мохам платы, і кара абветраных дрэваў.

Дзяўчына хадзіла босая па траве. Лёгкі холад жоўтага лісця пад нагамі быў прыемным. Слаўна цямнела рудая сукенка яе сярод тонкіх садовых дрэў і шэрых сцен. Салома шумела пад рукамі ў дзяўчыны і, перамешаная з зяленівам сухой травы, весяліла дзяўчыніны вочы. І вочы гарэлі чорнай глыбінёю, і ўсё было ў іх: як бы свет адлюстраваў у іх усе глыбіні характва, радасці і смутку для паказу таго, што самае жахлівае ў юнацкім смутку — гэта дзяўчыніны вочы.

На сканчанні дня, упраўляючыся тут, чула яна, што сумуюць па ёй двое. Алесь быў моцным і прывабным. Каханне першых часоў прытупілася за год, але з'яўляцца пачало нешта падобнае на прывычку да яго. Аднак жа вострыя хістанні надыходзілі вельмі часта, і раптам неспадзяваны кватарант, раней бачаны некалькі разоў у горадзе і ледзьве знаёмы, узняў цэлую буру і парушыў усё. Вобраз Алеся стаў блёклым і затуманеным, шэрым. Днём білася ўстрывожана сэрца, калі кватарант памагаў цадзіць малако; дужа ж хвалявалася горасцю ўтрапення пачуццяў, калі Алесь стаяў каля яе ў кухні. І цяпер цвілі ў душы піжмы і палыны. Бездапаможнасць і нават безнадзейнасць нанавалі над ёю.

Скрыпела вочапам студня, і паволына званілі ў царкве; амаль скапаў дзень — тады яна ішла з прыгумення ў хату. Трывожна было і страшна ісці туды: мусіць, чакаў там, каханы нават цяпер ужо, кватарант — ісці гуляць куды. І Алесь жа чакаў недзе, ці меўся прыйсці.

Шастала пад нагамі салома, пахлі — трава, вечар і восень. Калаціўся ў апошніх хвілінах сваіх дзень. У змроку навіслых голлямі дрэў плакала дзяўчына.

У царкве ўсё званілі. Бацькавы крокі чуваць сталі па двары. Дзяўчына зняла з галавы хустку, выцерла твар і пайшла насустрач.

Бацька быў у новых ботах і зусім не кульгаў.

— Надвор'е нагодлівае стане,— сказаў ён,— нага ў мяне зусім здаровая чуецца.

— Хто ў хаце? — запытала дачка.

— Нікога.

— Дзе ж мама?

— Хто яе ведае, куды яна пайшла... А каморнік на вуліцы сядзіць на лаўцы.

Яна цішком увайшла ў сенцы, спяшаючыся памыла ногі і абула чаравікі. Ускінула на плечы вялікую хустку і пайшла агародамі, каб ніхто не заўважыў яе.

— Куды ты, Ганна?

Бацька замыкаў гумно і распускаў дзягцяны пах ботаў.

— Гуляць пайду з дзяўчатамі.

— То чаму ты вуліцаю не ідзеш?

Яна нічога не адказала. Бацька паглядзеў на яе і сказаў сам сабе:

— Дурыць дзяўчына, сама не ведае, чаго хоча.

Ён доўга глядзеў ёй услед, аж пакуль не знікла постаць яе ў змрочных агародах. Выйшаў ён за гумно і бачыў, як меркне поле, чуў, як маўчыць балота; і ўсё глядзеў, як блёкнуць густыя колеры захаду. Пасля, зняўшы шапку і пагладзіўшы лысіну, пасвістаў: «фюй-фюй...» і рушыў у двор і на вуліцу. Каморнік усё сядзеў на лаўцы.

— Вы пойдзеце куды ці будзеце дома?

Каморнік залажыў нага на нагу і паглядзеў з маўклівым запытаннем яму ў вочы.

— Я гэта таму гавару, што нікога дома няма, а я таксама падацца куды-небудзь думаю.

— І Ганны няма?

— Пайшла.

Каморнік памаўчаў і пайшоў вуліцаю.

— Добры хлопец,— сказаў, гледзячы на яго, Юлік Барановіч.

Увайшоў у двор, замкнуў сенцы, падлажыў ключ пад ганак і павольна закрочыў змрочнаю вуліцаю. Неўзабаве павярнуў ён на рыначны пляц. Каля пануранага будынка народнага дома быў крык і рогат. Юлік Барановіч падышоў бліжэй і пільна разглядзеў, як белагаловы Клемусь працускаў у сярэдзіну людзей. З застылаю ўсмешкаю аб печым марыў каля ганка міліцыянер.

— Што гэта будзе тут? — запытаў Юлік Барановіч.

Міліцыянер перакруціўся на адной назе:

— Спектакль... «Асінае гняздо» ставіцца.

— Асінае гняздо?

Юлік Барановіч пайшоў далей, ціха пасмейваючыся:

— Асінае гняздо?.. Шпільтак... Шпільтак нейкі, трасца іх матары. Шпіталь вар'ятаў!

Праз хвіліны дзве ён увайшоў у царкву.

У прытворы гарэла тоненькая свечка. Маўклівы твар Хрыста глядзеў у бяздоппе чорных сцен. Пахла залежаласцю і спакоем, без бур і трывог. Спакой гэты межаваўся з неіснаваннем.

Ён пацалаваў у халоднае дрэва, дзе абшморгана была людскімі губамі нага Хрыста, і паправіў свечку перад Хрыстовым тварам.

У царкве, скупа асветленай, дзяк чытаў кафізмы. Налева, каля сцяны, кум прадаваў свечкі. Юлік Барановіч падаў куму руку:

— Як маецеся?

— Дзякуй богу. Як вы?

— Дзякуй за памяць...

— Што гэта за гвалт такі чуваць?

— Гэта ж, адпусці бог грэх, шпільтак.

— Ага.

— Ну але. Асінае гняздо.

Яны яшчэ пашапталіся пра цану на позпія гуркі, пра нямецкае войска і пра новую кадушку, якую кум пазаўчора купіў на капусту. Пасля ўдвух запалілі яны панікадзіла і зноў пачалі перашэптвацца. А палове службы сабралася трохі народу, тады Юлік Барановіч заўважыў куму, што ў панікадзіле адна свечка пахілілася на бок. Яны ўдвух выйшлі на сярэдзіну царквы і агледзелі панікадзіла. Моцным шэптам, каб чуў народ, кум сказаў:

— Будзе гарэць... нічога.

Юлік Барановіч не згадзіўся:

— Аплыве.

— Не, не аплыве.

— Я кажу, што аплыве і падлогу закапае.

Аднак ён быў далёкі ад таго, каб спускаць панікадзіла і папраўляць свечку. Так яны памеркавалі і, паглядаючы на ўсіх, падаліся назад да свечпай шафы.

Пасля службы яны прайшлі з дзякам пад дзякаўскі дом і пастаялі ўтрох каля варот. У агародчыку перад вокнамі чарнела вяргіня і гусцілася каля сцяны і плота мята.

— Цёпла,— сказаў дзяк.

— Ну але, цёпла.
— А я хрыпаю.
— Што ж такое?
— У мяне была спеўка перад нядзеляю, дык я ўпацеў і адчыніў акно. От мяне і прабрала.
— Спацець трэба.
— Я пацеў, але хрыпата не праходзіць.
— Як жа вы спяваеце?
— Я перад тым, як ісці па клірас, выпіваю штукі тры яец.
— А я вам параю гарэлкі з мёдам... Самагонка добра... Ачышчае голас нават і чыстая, без мёду.
— Чыстая яшчэ лепш,— пацвердзіў Юлік Барановіч,— я даўней як ахрыпну, дык чарак дзве выпіваю, дык яно і разаграе чалавека, і голас ачышчае. А вам, пры вашым, можна сказаць, рамястве, дык пяйпачай трэба для ачысткі голасу мець рацэпт.
— Дык, як вы кажаце, чыстая самагонка?
— Ну але, чыстая самагонка. Дык не трэба вам, я ж кажу, ні яец, ні шмаец. Я спрактыкаваўся.
Чорны быў вечар. І весела было гаварыць тут ім утрох.
— Калі ў вас няма, дык я магу дастаць вам самагонкі,— сказаў Барановічаў кум.
— Знойдзецца,— адказаў дзяк.
Быў ён сутулаваты і вясёлы, з выцягнепаю ўніз барадою. Развітаўшыся з ім, Юлік Барановіч ступіў колькі крокаў, азірнуўся і сказаў куму.
— Можна сказаць, самавіты ён чалавек, яй-богу.

## XI

Нібы лета імкнулася нагадаць сонечныя дні.
Пакоша па паплавах паабрастала сіняватай атавай; дзе была скошана — зноў пачынала адрастаць. Нават і птушак з'явілася шмат за апошнія пагодлівыя дні. Падыходзіла да канца сяўба. Месцамі ж зелянела і сінела чырвапаватая, кволая жытняя рунь.
І маўчала, і шумела, і думала ўсё, аддаючыся апошнім лагоднасцям сонца.
Вялікая шырыня ляжала на ўсім.
Сонечнаю раніцаю на вуліцы рыкалі каровы, і ніводнага зялёнага лістка пе было на дрэвах. Радасна пахла полем. У садзе пад нагамі шумела маўчаннем лісце.

Сінія Юзікавы вочы гарэлі глыбінёю думак. Юрка, прыпёршыся плячом да разгатае грушы, расказваў:

— ...Я адно як падрасту, дык усё будзе іначай... Калі ж тата вельмі сярдзіты пейкі, што ты яму ні скажаш, дык ён калі закрычыць!

Юзік задумёна сказаў:

— Ну, бо ты яшчэ малы. Вельмі ён цябе будзе слухаць!

— Няхай сабе я малы, але ж за што па мяне крычаць? Што я вінават?

— І на мяне тата крычыць. Пазаўчора мне вельмі захацелася было сала, дык я сам палез у суднік ды адрэзаў сабе кавалачак, дык тата калі ўбачыў, дагнаў мяне каля хлява, ды калі дасць мне нечым па руках, дык я аж заплакаў. Яй-богу.

— А ў вас сала многа?

— Нашто ён мяне біў? Я ж і сам бачу, што сала да каляд засталося толькі адзін кавалак, ну, можа, там на якіх дзесяць гаршкоў будзе на акрасу... Але ж мне вельмі захацелася было сала. А-ей як. Я вельмі даўно не еў сала.

— А з чым вы варыце?

— На абед дык крупнік з малаком або картопля з малаком. А раніцаю — дык у нас расол ёсць і гуркі.

Юрка памаўчаў і зноў пачаў гаварыць:

— Каб я адно скарэй вырас, дык от паглядзіш, што іначай я ўсё буду рабіць. А то — што гэты крык заўсёды ў хаце, часам аж страшна ў хату ісці, яй-богу. Ні то што я бацькі баюся, але калі пачне сварыцца з мамаю ды як паднімецца па ўсю хату гвалт, дык, здаецца, на свеце не жыў бы. Яй-богу, праўда. Дык я тады стараюся з хаты ўцякаць. Каб я так жыў.

— А я дык свайго таты баюся.

— Ну, бо твой тата б'ецца.

— Ён мала калі і б'ецца, але так я неяк...

— Мой тата дык думае, што ён вельмі разумны і спрытны, лепшы за ўсіх. А тут сам не ведае, што як пачне ён гэты свой розум паказваць, дык аж смешна робіцца.

— Мой таксама вельмі мацак вялікі ў сваёй хаце, а калі прыйдзецца дзе перад людзьмі абазвацца, дык увесь гэты яго мацупак прападае. А ў хаце сваёй дык ён вельмі храбры, аж страх.

— Або мой тата, калі пачне праклінаць усіх! У нас гэта што грэчкі трохі згніло на полі пад дажджамі, дык

ён нават мяне кляў, адно што не біўся. Летась, я памятаю, не ўспеў усяго гною павазіць увосень, дык мама нешта сказала, а ён калі дасць маме па галаве. Дык я гавару: «Тата, не бецё мамы»,— а ён на мяне калі крыкне: «Маўчы, бо і табе дам!» Я свайго бацькі не люблю. А калі ён захварэе, дык мне так шкада яго, што не дай божа.

— Бо, вядома, бацька.

— Ну але.

Нейкі час яны маўчалі, Юрка разглядаў сінюю асеннюю муху ў сябе на назе.

Юзік стараўся збіць тонкім дубцом каліўё сухога зелля. Абодва слаўна адчувалі ласкавую цеплыню асенняга сонца. Памаўчаўшы, Юзік сказаў:

— Юрка, каб гэта ўзяў ды ў камсамол запісаўся.

— Ну але, каб гэта ўзяў ды запісаўся.

— Давай запішамся.

— Нас не прымуць, бо мы яшчэ малыя.

— А ў піянеры?

— У піянеры — вялікія. Хіба як падрастом, дык тады ў камсамольцы пазапісваемся.

— Тата будзе крычаць.

— Ну але, будзе.

— Нічога, запішамся.

— А Хоня свайго хлопца кожны дзень лупцуе, калі ён позна дадому прыцягнецца. Ён жа прыходзіць чуць не кожны дзень позна ўночы.

— А дзе ж ён цягаецца?

— От, то ў клуб пойдзе, то яшчэ куды.

— Ён жа ўжо камсамолец.

— Не, ён яшчэ піянер.

— А ну але, піянер. Гэта я забыўся.

Яны зноў памаўчалі. Юзік дашчэнту збіў каліўё і разам з ім схвастаў дубец. Раптам Юрка, як бы што прыпомніўшы, дзіка глянуў на траву і сказаў ціхім голасам:

— Мая мама хворая.

Юзік працягла спытаў:

— Хворая?

— Хворая.

— Яна ж ходзіць і робіць усё.

— Мала што ходзіць і робіць усё, але хворая. Яна раніцою як устае, дык заўсёды енчыць, што галава баліць... А часамі і жывот ёй баліць. Кажа, што ёй у вачох цёмна. Галава кружыцца, калі яна падымае што цяжкое або па-

сядзіць доўга ды ўстане. Вельмі ж ёй цяжка даставаць з пограбу картоплю.

— Ну дык чаму ты ёй не памагаеш?

— Я ж памагаю. Але калі яна нейкая... От калі запатурыцца, дык не хоча, каб я памагаў ёй,— я, кажа, сама, Яна мяне шкадуе.

— А чаму твой тата не памагае ёй даставаць з пограбу картоплю?

— Тата часам памагае, але вельмі яму час ёсць або ў галаве гэта яму. Ён жа такі.

— Які?

— Ён адно крычаць умее.

— То няхай бы твая мама пайшла да доктара.

— Вельмі ёй час ёсць. Яна ж дурная, не хоча кінуць работы, ды не пойдзе...

Падумаўшы, ён дадаў:

— Я ёй скажу, каб яна пайшла да доктара... Я ўкраду, каб тата не бачыў, жыта, ды прадам, ды дам грошы на доктара.

— А хіба тата шкадуе ёй на доктара?

— Ён то не шкадуе, але цішэй у хаце будзе, калі ён бачыць не будзе.

— От дурны твой тата.

— Дык ён жа не шкадуе, яй-богу не!

— А чаго яна хворая?

— Дзіва што будзе хворая, гэтак жывучы. Ніколі не выспіцца, не пад'есць. Ды заўсёды яшчэ ў жорнах меле.

Недзіцячы бляск раптам з'явіўся ў Юркавых вачах. Вострым агнём загарэліся яны. І адзнакі непераможнага жадання прайсці скрозь усе ўскалыхнулі рысы яго дробнага твару. Так ён стаяў, шчуплы і ўзбуджаны, поўны немымі бурамі.

— Юзік!

— Чаго ты?

— Хадзем пад рэчку.

— Чаго?

— Рыбу лавіць.

— Не будзе брацца.

— Будзе... Хадзем.

— Ну хадзем... Але я яшчэ не снедаў.

— Дык я цябе пачакаю.

— Добра, пачакай.

— Дык ты ідзі хутчэй.

Юзік пайшоў. Юрка застаўся адзін. Ён усё глядзеў на свае ногі, чорныя і патрэсканыя.

Раніца рабілася позняю. На вуліцы чуліся святочныя гаворкі.

Юрка ўсё стаяў адзін. Пахла трава і лісце, і сонца адчувалася ўсёю істотаю. Вострае было яно і поўніла душу радасцю святла і волі.

Юрка пайшоў да плота, узлёг грудзьмі на пералаз, глядзеў у вулачку між гумён і платоў, усю аброслую зеллем і закіданую жаўцізною лісця. Так глядзеў на ўсё, што было перад вачыма, і чуў наскрозь, навылёт, ад карэнняў да верхавін, ад пачаткаў і да канцоў. І вялікае кіпенне поўніла ўсё: усё бачанае і нябачанае і разам з усім яго.

Каля рэчкі яны былі доўга. Адрослая і зноў збітая быдлам накоша рачных берагоў весяліла іх, і яны забываліся на ўсё. Хадзілі паўз рэчку, кідалі ў яе чыстую ваду траву, пробавалі купацца, ды вада была вельмі халоднаю. Нявыказаная воля душы ўзбуджвалася прасторамі паплавоў і поля, густою жаўцізною пахучых кустоў. І ўсё пахла, востра і шырока. І ўсё калацілася незвычайнай чуласцю ва ўспрыйманнях.

Крываносы Мікалай ішоў аднекуль з таго боку рэчкі.

— Дзе тут, хлопцы, кладка ёсць?

— А дзе вы былі, дзядзька?

— У Чучаны хадзіў.

— Чаго?

— Трэба было... Ах, які ты цікавы.

— Тут няма нідзе кладкі.

Яны глядзелі, як Мікалай пераходзіў бродам рэчку, пасля глядзелі яму ўслед, як ён ішоў, проста трымаючы свае пляскатыя плечы. Сонца, белаватае ад восені, шырыла далягляды. Зямля была ў дрымоце і салодкім забыцці. Аддаўшы ўраджай, яна поўнілася цяпер глыбакадумным харaством бурнай цішыні.

— Мікалай у нас жыве цяпер,— сказаў Юрка.

— Ведаю.

— Яму Юлік сорак капеек пераплаціў, як ён малаціў у яго.

— От добра, што скупяньдзя гэтая пераплаціла.

— Хадзем дадому.

— Пачакай яшчэ трохі.

— Я ўжо есці захацеў. Хадзем, покуль зойдзем...

Яны ішлі куставою дарогаю. Крушына і алешына абсыналі іх багаццем жоўтага багацця свайго. Лісце на дубовых кустах трымалася яшчэ моцна. За кустамі журылася поле; іржышча і ралля межаваліся з чырвапаватаю жытняю рунню.

— Вы ўжо, Юрка, усё сваё жыта пасеялі?

— Не, яшчэ, можа, з які пуд пасеем.

— А мы ж ужо ўсё.

— Бо у вас конь лепшы... Каб у нас быў добры конь, дык я адзін усё парабіў бы.

— Ты яшчэ малы.

— Але я падростаю... От каб гэта конь добры. Каб скарэй адно я падрос! Няхай сабе тады бацька што хоча робіць. Яй-богу ж праўда. От паглядзіш. Ты думаеш, не?

— Унь, Юрка, твая мама.

— Дзе?

— Унь каля рову каровы гоніць.

Жанчына была адзета ў ватовы кароткі руды каптан і паволі падганяла карову.

— Пастухі забыліся выгнаць,— сказала яна.

— Давайце я заганю.

— Ідзі, сынок, гуляй. Ты ў будзённы дзень напрацуешся, то хаця сёння пагуляй. Ідзі сабе. Ідзі паабедай, дома ў печы знойдзеш. Я заганю і вярнуся скора.

Юрка азірнуўся некалькі разоў на маці і ўсё ішоў, гледзячы на свае ногі.

— Чаго ты, Юрка, азіраешся?

— Так.

Але ён яшчэ больш пільна паглядзеў на свае ногі, і раптам твар яго загарэўся вастратою чалавечых глыбінь. Недзіцячым на некалькі момантаў зрабіўся гэты твар.

— Унь поп ідзе,— заўважыў Юзік.

Нізкі чалавек клапаціўся каля платоў.

— Што ён тут робіць?

— Мусіць, аглядае, каб дзірак не было ў плоце.

Яны прайшлі паўз нізкага чалавека, маўкліва пазіраючы на яго.

— Трасца яго матары,— сказаў Юрка,— і ён мне раз чуць быў вуха не адарваў.

— Гэта тады, калі ў яблыках быў злавіў?

— Ну але, тады...

Дайшоўшы да канцавой хаты, Юзік яшчэ раз азір-

нуўся на нізкага чалавека і дробна заміргаў вачыма. Вочы сталі раптам чырвонымі і твар пабялеў.

— Чаго ты, Юзік?

— Я памятаю, як ён спавядаў маму, як яна ляжала і як хворая памерла.

І пастараўся забыцца на гэта, подбегам ідучы па вуліцы.

## XII

Сабастыян быў рад. У адчуваннях цеплыні жыцця была яго радасць. З самага ранку загадаў ён пастушку, якому была чарга цяпер тыдняваць у яго, падмесці двор. І з самага ж ранку, пазіраючы гаспадарскім вокам за цішынёю ў двары і гумне, слаўна адчуваў лёгкасць чыстых ануч на нагах у новых ботах. Тупаў каля хаты, падглядаў, як клапаціліся каля печы жонка з нявесткаю, і стала накручваў вусы.

Госці павінны былі сабрацца па поўдні, калі скончыцца абедня.

Ужо званілі ў царкве, як быў ён у Мацвея. Мацвей сядзеў на парозе сянец, босымі нагамі на двор і чухаў іх.

— От ты ўжо і ўнука прыждаў,— усміхнуўся Мацвей, гледзячы брату ў твар.

— Але... Прыходзь на радзіны сёння.

— Калі?

— Так, пад абед.

— Гэта сёння гуляць хрысціны будзеце?

— Але... ці не дастану я ў цябе паўпрыцы. Раскідаліся жорна, хоць ты што хочаш. А заўтра чуць свет трэба будзе вобмешкі ўмалоць. У цябе, здаецца, паўпрыца другая была.

— Можна... Юрка, дзе наша паўпрыца другая?

Юрка выскачыў з хаты і адразу ўспомніў:

— Наша другая паўпрыца на гары каля коміна. Дастаць?

— Дастань.

Сабастыян сеў на парог.

— Ну, як твая маецца? Нездарова нешта была, мая гаварыла.

— Нешта ўсё ёй далягае, ніяк адолі не возьме.

— Дык так, пад абед, падыйдзі, братка...

— Толькі от што ты мне так позна гаворыш, усё роўна як чужому. Мая ж там памагла б што-небудзь каля печы, каб ты раней сказаў, а то нічога не гаворыш, хто там вас ведае... Ты сказаў бы дзён за два, дык я прыгатаваўся б, а то як жа гэта з пустымі рукамі ісці...

— Ат, нічога. Мы ж з табою родныя. Не ў тым тут музыка, што з пустымі рукамі, ці не з пустымі. Мы з табою браты... Жыта адсеяў?

— На гэтым тыдні яшчэ клінок пасею. Нямнога там засталося. Неяк сяк-так паадсяваў... Колькі там, праўда, тае сяўбы ў мяне! Яно, каб добры конь, дык гэтая мая сяўба — плёвая справа. Гуляючы, можна адсеяцца — і скончана дзела. Гэта ні то што...

— Ну пэўна... Дзе ты сабе дубка такога дастаў?

— Дастаў. Шула ў пограбе настаўлю, а то столь гатова ўламацца. Спарахнела ўсё. На той год, калі жывы будзем, трэба будзе пограб новы майстраваць. От тут каля гэтае грушы выкапаю, а то ў сенцах вельмі ж нявыгадна. Цесна, не павярнуцца.

— Ну пэўна што.

Сабастыян узяў паўпрыцу, паважыў у руцэ і падаўся дадому. Сонца стаяла над асенні поўдзень. У царкве званілі ў адзін звон. Высокі гук доўга пудзіўся і, як канчаўся, нараджаўся зноў.

— На «верую» звоняць,— сказаў Сабастыян у хаце,— зараз абедня скончыцца.

І павысіў голас да жонкі і нявесткі:

— Ці ўправіліся вы?

У бакоўцы, адгароджанай у хаце цалёўкамі, заплакала дзіцянё.

Сабастыян быў рад. Спакойная вясёласць апанавала ім. Такім ён сустракаў і частаваў гасцей.

Поп прыйшоў пазней за ўсіх.

— А мы не маглі прычакаць,— сказаў Сабастыян, гледзячы захмялелымі вачыма на паважнага госця.

— Добра што і не чакалі.

Ён прытрымаў рукаў расы і блаславіў Сабастыяна, пасля адшукаў вачыма гаспадыню і блаславіў яе.

І раптам зноў стала шумна. Неўзабаве поп весела ўжо грукаў басам:

— Гэта нічога, гэта нічога не парушае. Хрысцілі ў тую нядзелю, хрысціны спраўляем у гэтую,— гэта і вяселей. Таінства савершано, гулянь можна калі хочаце.

У другім кутку дзяк, не менш грымучым голасам, даводзіў:

— Я гэтага не цярплю. Трэба выпіваць да дна. Калі вам страшна, вы разам хлопніце — і дзелу канец. Смела!

Дзяўчына, пачырванелая і прыгожая, сарамліва адмаўлялася.

— Я ж вам кажу, вы смела, разам. Яй-богу!.. Дзівачка вы!

— Я лепш другім разам.

— Што значыць — другім разам?

Раптам дзяк, стараючыся трымаць галаву роўна, грукнуў вясёлаю актаваю:

— Гор-р-р-ка-а-а!

— Ціха ты,— штурхануў яго ў локаць белабароды Павал,— тут табе не вяселле. Што ты, чалавеча, ацапеў?

— Выбачайце, я ўпусціў з віду,— сказаў дзяк і ўспомніў перарваную раней гаворку:

— Кабыла? Што кабыла! Што значыць кабыла! Раз яна добрага заводу, тады яна і добрая будзе.

Белабароды Павал таксама ўспомніў перарваную на паўслове гаворку:

— Завод, кажаш? Калі ты добры гаспадар, дык табе і завод ні пры чым.

— Правільна! Калі ён добры гаспадар, тады ён і коней трымае добрага заводу.

— Не гэтак.

— А як?

— А так, што калі ты добры гаспадар, дык у цябе і дрэнная кабыла будзе добраю, бо яна ў цябе заўсёды дагледжана будзе.

— Падлу колькі ні даглядаї, яна на век-вечны падлаю застанецца. З паскуднае кабылы толку не будзе. Гэта факт.

— Я табе таксама пакажу факт.

— Пакажы... Толькі цвёрды факт.

— Пакажу цвёрды.

— Які факт? — падаў голас Сабастыян.

— Ці можа з паскуднае кабылы толк быць?

— З паскуднае кабылы толк?.. Бацюшка, як вам здаецца?

— Што?

— Пра кабылу гаворка ідзе.

— Пра чыю?

— Пра завадскую і простую.
— Раней вып'ем яшчэ па адзінай.
— Ну але, госцейкі,— заклапацілася Сабастыяніха.
— Чаму не па дзве? — усхваціўся Сабастыян.
— Раней закусім, а тады па другой. Блаславуляю. Бо і ў пісанні сказана,— не выпіўшы — не закусвай.
Белабароды Павал раптам устрапянуўся:
— Хоць ты і бацюшка, але я не пабаюся сказаць табе ў вочы — бязбожнік ты, мяцежнік! Дамакрат!
Поп пакінуў есці, уцягнуў галаву ў плечы і, як злосны кот, утаропіўся вачыма ў Паўла.
— Бязбожнік! Кагадзе абедню адслужыў, а сам што гаворыш?.. Што ты з святога кніны строіш. Не можа быць, каб у пісанні так было сказана. Пакажы мне зараз жа. Усенародна пакажы, дзе гэта сказана, ткні пальцам, і больш нічога.
— Ты мяне папракаць яшчэ ўздумаў? А сам колькі год у споведзі не быў?
— Не тваё дзела.
— А чыё ж дзела?
— Не тваё. Канаць буду, а да такога азіята, як ты, да споведзі не пайду. Я даўно чакаў прычыны выказацца пра цябе ўсенародна. Кат ты!
— Ты чаго хочаш? — страшна ўскіпеў поп, усхваціўшыся за сталом.
— Згубіцель ты! Ты ўсё мястэчка прыгубіў! Нашто ты лес спляжыў?..
— Бо лес тады быў мой. А пасля рэвалюцыі, калі ён стаў ваш, я іводным дубцом з яго не пакарыстаўся.
— Не твой, а царкоўны. А царкоўнага секчы не меў права.
— Не царкоўны, а мой!
— Не віляй... ты гавары — нашто лес спляжыў?
— Нашто? Пры мне быў яшчэ цэлы, а от як вам у рукі папаўся, дык цяпер нават дубца на венік не засталося.
— Пры табе быў цэлы лес? Каб твая галава была такой цэлай, як гэты лес быў пры табе цэлым.
— Галавы мае не чапай. За зняважу будзеш адказваць перад судом. А што я пажартаваў словам, успомніўшы свяшчэннае пісанне, дык у царкве — я свяшчэннаслужыцель, а тут — я такі самы чалавек, як і ўсе.
— Бацюшка, сядзьце вы,— угаварвала Сабастыяні-

ха,— вядома п'яны. Ён як працвярэзіцца, дык прабачэння папросіць.

Павал пачуў:

— Што, я ў яго буду прасіць прабачэння? Не даждаў ён, каб я ў яго прабачэння прасіў. Рызыкант. Ён думае, калі дачку аддаў за армейскага камандзіра, дык ужо вельмі вялікі асэсар? Многа я іх бачыў. Я яшчэ з яго спаганю тыя два рублі, якія ён з мяне здзёр.

— Брыдка, Паўла. Ты ж сам ведаеш, што твае каровы парабілі ў мяне ў агародзе шкоды не на два, а на дзесяць рублёў. Пабойся бога, трэба ж мець сумленне. Што ты, не маеш бога ў сэрцы?

Паўла сілком пасадзілі на лаву. У агульным тлуме поп вылез з-за стала, збіраючыся ісці. Некалькі мужчын і баб упрошвалі яго.

— Бацюшка, плюньце вы.

— Ліха яго бяры, от ён ужо зусім зваліўся. П'яны ж ён.

— Пабудзьце хоць трохі.

Раптам дзяк зноў пачаў гаворку пра кабылу.

— Не, не, я табе дам на рукі факт,— блытаў словы Павал, стараючыся пачухаць перапоссе.

Поп сеў на сваё месца.

— Ты для мяне ноль! — раптам схіліўся да яго Мацвей,— чуеш? Ты для мяне ноль. От што!

— А ты яшчэ чаго?

— За дзяцей сваіх, от што! Ты нашто майго хлопца за вушы круціў?

— А ты не прывучай свайго хлопца да зладзейства.

— Што ён у цябе ўкраў?

— Мала ён у мяне яблык папакраў?

— Ён у цябе яблык калі і ўкраў, дык на капейку.

— Я яго і за вушы накруціў не больш, як на капейку.

— Не, ты не жартуй. Калі ты яго злавіў, дык пяхай бы ты прыйшоў ды мне сказаў. Я яго сам бы ўшчунуў, калі трэба б было.

— Ты, Мацвей, не рабі капеечных крыўдаў.

— Мне і капейка дарага. Гэта табе, мажа, капейка нічога не варта. Якое табе ліха адходзіць. Я цябе не пасаромлюся і не пабаюся. Ты для мяне ноль!

— Яно так,— гаварыў кум Юліка Барановіча, адапхнуўшы Мацвея.— Я ж кажу. Тут, бацюшка, такая справа, што, тымчасовае, народ наш, можна сказаць, цём-

ны. Гэта цемнікі, а не людзі. Кожнаму ўсё мала. Кожны ўсё, разявіўшы горла, стараецца ўварваць дзе толькі льга. Няма, каб, тымчасове, усё рабілася памяркоўна, па-чалавечаму і па-божаму. Я, бацюшка, такі чалавек — мне няхай сабе хто што хоча, а я, калі пэвен у чым, дык знімай ты мне галаву, а я не адступлюся. Я люблю, можна сказаць, праўду і парадак. У Сабастыяна нарадзіўся ўнук, то няхай бог гадуе. Сабраліся, тымчасове, як добрыя людзі, выпілі, закусілі, пагаварылі сабе — а нашто вэрлах паднімаць?!. Нашто паднімаць, тымчасове, вэрлах? Праўда ці не? На чорта гэтая работа? Раз ты чым нездаволены — падавай у суд. А ні то што. Ён мне ўзнімае лямант! Няма, каб усё памяркоўна... Я, калі хочаце, бацюшка, устрою штуку — Павал зараз жа будзе ў вас прабачэння прасіць.

— Не трэба. Ніякіх штук не трэба.

— Чаму? Я на яго націсну, калі хочаце... А ты, Мацвей, таксама.

— Што?

— Не ўмееш ты трымаць сябе ў кампаніі.

Дзяк глянуў цераз стол наўскасы і сказаў:

— Весела жывуць... Забіяцкі народ.

Пачуўся голас:

— Які ён забіяцкі. У нас народ запечны. Гэта толькі здаецца. Толькі слава тая, што народ!

Дзяк падаў тлумачэнне:

— Ну, пэўна, што няма тут сярод нас вельмі выдатных герояў.

— А дзе яны ёсць вельмі тыя героі?

— Чаму, яны ёсць... Ёсць такая казка — наеўся цыган кіслага малака ды вельмі ж бараду ў гэтае малако абрабіў...

Барановічаў кум раптам зацікавіўся:

— Хэ-хэ, няхай ён запаветрае са сваёю барадою. Няўдалы нейкі, хэ-хэ.

— ...Ну, абліў ён, значыць, кіслым малаком бараду і лёг спаць на дарозе. А сонца калі прыпякло, дык на гэтую яго бараду нешта з семсот мух села...

— А хто гэта вылічыў, што якраз семсот? А можа, там было ўсяго сто. Хто гэта знайшоўся такі, што якраз бо вылічыў?!

— Пачакай ты, дай чалавеку сказаць.

— ...Дык мухі сабе сядзяць ды жывяцца ў цыганскай барадзе. А цыган, калі чамярахнуў рукою!..

— Не з гэтага расказваць пачаў, гэта пасля ўжо ён малако еў...

— ...Дык ён калі чамярахнуў, дык іх усе і падушыў.

— Усе зараз? Семсот?!

— Так зараз піша на паперы — за адным махам семсот галоў пабіяхам...

Кум узнепакоіўся:

— Цьфу! Нашто за сталом усякае паскудства гаварыць. Пакіньце!

— Няхай раскажа.

— Нашто, тымчасове, я ж кажу, за божым, можна сказаць, дарам пра ўсякае паскудства...

Дзяк вычысціў вусы і ўстаў.

— Куды ж вы?

— Каня трэба напаіць ісці.

І пайшоў, вясёлы і спрытны.

— Можа, і нам пайсці,— сказала Мацвеіха,— даглядзець там усяго дома. Вечар на двары.

— Хадзем,— сказаў Мацвей, вылазячы з-за стала.

Госці пачалі разыходзіцца, каб праз гадзіну сабрацца зноў.

## XIII

Сонца блізка стаяла да заходу свайго. Святло яго было блёклае і ціхае, як бы яно нудзілася і сумавала па тых днях, калі бурнаю радасцю шырокага лета раскашэльвалася яно ў палях.

Вуліца была сухая, з пагодлівым тварам.

— Мікалай казаў, што заўтра будзе вецер,— сказаў Юрка, сустракаючы ў варотах бацькоў.

— Як гэта ён пазнаў?

— Паглядзеў на неба дый пазнаў.

Мікалай крывапосы сядзеў у двары на прызбе. Мацвей пайшоў упраўляцца каля жывёлы. Мацвеіха ўправілася хутчэй.

— Зноў, мусіць, пойдзеце да Сабастыяна? — запытаў Мікалай, гледзячы сабе пад ногі.

— Пойдзем яшчэ,— адказала Мацвеіха, садзячыся на сонечны парог.

— Шмат гасцей на радзінах?

— Уся радня, і так... суседзі, знаёмыя...

— Мусіць, выпіўкі здорава?!

— Шмат, няхай яна прападзе. Мяне сілком прымусі-

лі выпіць — цяпер яшчэ ў галаве кружыць, як у дурное.

— Ды пэўна, што Сабастыян гарэлкі ўжо не пашкадаваў. Ён рад, што ўнука прычакаў. Мусіць, рад вельмі Сабастыян. Вельмі весела вусы падкручвае — бачыў я яго сягоння каля крам. Зранку...

Апошнія словы сказаў ён ціпэй, сам сабе. І, сказаўшы, пачаў зацягваць сабе пад нос сваю песню — доўгую, як сумныя дні, без слоў, пачатку і канца. Варушыў наском правай нагі і ўсё цягнуў, ні на кога не гледзячы.

Юрка пакручваўся каля мацеры. Дзве дзяўчынкі селі каля яе на парозе. Сонца пачынала заходзіць.

— Мама, вы зноў з татам пойдзеце да дзядзькі? — запытаў Юрка.

— Пойдзем.

— І я пайду з вамі.

— Чаго ж ты, сынок, пойдзеш. Там тваіх таварышаў няма. Там усе старыя. Ты от лепш пайдзі да Юзіка ды пагуляй трохі, а пасля неўзабаве прыходзь ды кладзіся спаць... Кладзіся сёння ў хаце, бо, мусіць, ноч будзе здаровая.

— Не, я ў адрынцы. Там мне цёпла, у сене.

— У сене цёпла і здаравей,— заўважыў Мікалай, не пакідаючы варушыць ботам. І зноў заспяваў.

Дзяўчынкі прытуліліся да мацеры.

У хлеве Мацвей крычаў на каня. Палахліва засакатала на цёмным седале курыца. Мікалай падаў голас:

— От бо чалавек! Крычыць на ўсе жылы, не можа цішком каня дагледзець. Аж страх. Удзень не шкадуе пугі, а ўвечары крыку... Вельмі ж гаспадар, а-яй! От бо...

— Не крычы ты гэтак сіберна,— сказала Мацвеіха.

Але Мацвей, мусіць, не пачуў у хляве. Юрка сеў каля мацерыных ног на камені. Маці пачала гладзіць па галовах дзяўчатак. Меншая ўзлезла ёй на калені. Большая прысунулася бліжэй. Маці глядзела на іх белыя галовы, на чорныя Юркавы ногі. Сказала:

— Няхай бы ты, Юрка, ногі памыў.

— Я іх некаторага дня мыў з Юзікам у цэбры.

— Дык ты іх зноў памый.

— Чорт іх...

— Падрывае?

— Падрывае. Вельмі ж тузае.

— Прамый ды завярці, я табе чыстае анучкі пашукаю.

— Не трэба, і так зажыве.

Ён выцягнуў нагу, нагнуў твар да яе і стараўся разгледзець больку. Разгледзеўшы, сказаў:

— Нічога, зажыве.

— Пакуль жаніцца, дык загаіцца,— сказаў Мікалай.

І звярнуўся да Мацвеіхі:

— Яму варта было б з старых халяваў лапцікі пашыць на восень, па полі хадзіць. Здаравейшыя ў яго ногі былі б... Дастань з гары халявы, дык я яму заўтра пашыю.

— Халяў няма.

— На гары ляжаць... старыя.

— Гэта на зіму яму прышвы будуць. Без ботаў жа ён зімаваць не будзе.

— Не трэба псаваць халяў,— сказаў Юрка,— на зіму боты мне прышыюцца. Тата сам гаварыў. На чорта мне тыя лапці. От, не бачыў лапцей. Я не хачу.

— Ніхто цябе сілком не прымушае.

І Мікалай зноў зацягнуў свой бясконцы матыў.

Навокал ціха было. І прытульна ад асенняга вечара. Пахлі асеннія грушы. Сумавалі платы. Весяліўся ў ружовасці захад.

Мацвеіха ўсё бліжэй прыгортвала да сябе дзяўчатак. Востра глядзела на іх. Сказала:

— Галава кружыцца.

— Чаго? — запытаў Юрка.

— Гарэлкі выпіла ў дзядзькі.

І, гладзячы меншую дзяўчынку па галаве, заспявала:

Весялушкі ж мае,
Дробны птушачкі.
Шчабятушкі ж мае,
Шчабятушачкі.

Голас яе быў сумным, непрывычным для дзяцей.

— Мама, не спявайце,— заплакала большая.

Маці сціхла. І глядзела на процілеглую сцяну, за грушамі. Вочы яе блішчэлі ад слёз.

— От, дзеткі,— сказала яна ціха,— у жываце ў мяне баліць, у грудзях... І так усё нядобра мне...

— Бо нашто вы ў дзядзькі гарэлку пілі,— сказала большая дзяўчынка,— няхай бы сам піў, калі гэтакі разумны.

— Хто?

— Дзядзька... Канешне прымушае піць...

Юрка ж зразумеў усё. Паглядзеў у мацерын твар, вы-

цягнуў шыю і, усхваціўшыся, пайшоў у хату. Паглядзеў з цёмнай хаты праз акно на вуліцу і зноў выйшаў на двор. Не ведаючы, дзе дзецца, ён патупаў каля мацеры і выбег на вуліцу. І там не ведаў, што рабіць яму. Стаяў каля варот і чуў, як нешта цвёрдае і цяжкае сціснулася ў яго ніжэй грудзей і не давала дыхаць.

— Чаго ты, Юрка, месца сабе не знойдзеш? — сказаў Мікалай.

— Нічога.

Мікалай устаў з прызбы і выйшаў на вуліцу.

— Дурны ты, малы.

— Чаму?

— Дурны ты, мала што калі, каму, што забаліць. Маці паправіцца. Якая там хвароба. Яна ж ходзіць і робіць усё. Ты ж сам бачыш. Гэта ж не дзіва, што чалавеку забаліць што.

Юрка раптам кінуўся на вулічную прызбу і закалаціўся ад слёз.

— Чаго ты, дурны?

Мікалай падышоў да яго бліжэй.

— Я ведаю, што яна доўга не пажыве.

— Адкуль ты дазнаўся... Выдумляеш.

— Яна пазаўчора вечарам у каморы плакала і гаварыла, а я чуў праз сцяну, сплючы ў адрынцы.

— Каму яна гаварыла?

— Сама сабе.

— Выдумляеш ты.

Юрка сядзеў некалькі хвілін на прызбе. Пасля ўстаў, паглядзеў на Мікалая і пайшоў вуліцаю. Мікалай застаўся адзін стаяць ля варот. Цямнела раптам. Мікалай пастаяў, пакуль Мацвей не пайшоў да Сабастыяна.

— Адзін ідзеш? — сказаў Мікалай.

— Адзін. Ёй няма як ад дзяцей.

— Чаму ты яе да доктара не выправіш? Яна ж нездарова.

— Няўжо ж я яе не пускаю? Можна падумаць, што я азіят які.

— Дык ты яе выпраў.

— Як жа ты яе выправіш; яна сама не ведае, ці што? Што гэта, дзіцянё малое, што трэба выпраўляць?

— Яно, можа, і так.

Мацвей пайшоў, а Мікалай увайшоў у хату:

— Ідзі ты заўтра, Наталя, у амбулаторыю.




Вокладка рамана «Зямля».



Брат К. Чорнага — Г. К. Раманоўскі, якому аўтар прысвяціў раман «Зямля».

— Пайду.
— Пайдзі, ратуйся ты.
— Трэба якога рубля грошай.
— На чорта той рубель, не трэба. Так павінны лячыць.
— Не вельмі ён так налечыць. Дасць якіх парашкоў адчэпнага... можа, хіба яму каўбас з пару занясці...
— Дай лепш няхай дзеці з'ядуць.
— Пайду, заўтра пайду.
Яна прыставіла з коміна на прымурку газоўку і стала палівадь дзецям вячэраць. Мікалай зноў выйшаў на вуліцу. Стаяў і глядзеў у асенні змрок.

## XIV

Жыта скончылі сеяць да поўдня. Вецер абвяваў сонечную раллю, мякка выбаранаваную, і абвяваў Юркаў твар, прывыклы да ўсялякіх ветраў і дажджоў. Юрка патузваў лейцы, гукаў на каня і ўслед за ім, вельмі паволі, хадзіў за бараною. І думаў, ці пайшла маці да доктара, ці не. Паснедаўшы, як выбіраўся ён з бацькам ехаць на поле, яна выбіралася ісці.
Вароны падляталі ўслед за бараною, крычалі ж яны і пад блізкімі абветранымі кустамі.
Пасля баранавання конь пойдзе на пашу. Дома, паабедаўшы, абіраць ігрушы прыйдзецца. Весела было б, калі б не гэтая справа з маткаю.
А матка скончыла паліць у печы, падмяла хату і выбіралася.
Амбулаторыя стаяла за мястэчкам, дзе пачыналася голае цяпер поле. Некалькі фурманак стаяла каля брамы. Чакаць давялося нядоўга.
Пах лякарства закружыў ёй галаву. Галава кружылася ўвесь час, пакуль сядзела яна перад доктарам на нізенькай канапцы, сядзела і думала — ці страшнае што скажа доктар, ці не. Доктар жа пачаў пісаць рэцэпт.
— Вельмі страшна гэта ў мяне?
Доктар моўчкі скончыў пісаць, паправіў на носе акуляры і пачаў гаварыць. І зусім нельга было зразумець — злуе ён ці заўсёды гэта ён так гаворыць.
— Заўсёды трэба берагчыся. А то ў вас робіцца так — калі сёння здароў, дык і заўсёды думаеце так будзе. Не, згубленага здароўя не вернеш. Вам трэба было адразу пачаць лячыцца, калі не маглі вы ўберагчыся. Вам зда-

роўе сапсавалі пяўмекі. Вы не сцерагліся. А цяпер — скажаце, я вінават, не ўмею лячыць! Колькі ў вас дзяцей?

— Трое..

— А колькі ўсіх было?

— Шасцёра.

— А колькі вам год цяпер?

— Трыццаць восем.

— Не трэба вам цяпер нічога паднімаць цяжкага, не таміцца, мала рабіць, добрую і лёгкую яду ўжываць. І лячыцца. Праз нейкі час вам трэба будзе аперацыю рабіць. А цяпер вы бярыце гэтае лекарства і два тыдні ляжыце ў пасцелі.

— Як жа я вылежу, няма ад каго.

— Ну, а што ж я вінават. Трэба ляжаць.

— Я на поле не пайду, а па хаце буду паволі соўгацца. Памалу і ў печы выпалю... Дзеці памогуць. Нічога цяжкага я паднімаць не буду. І лякарства буду браць. Толькі ў хаце буду паволі варушыцца.

— Не можна і так. Зусім ляжаць трэба. Каб вы пры радох берагліся, каб гэтыя вашы бабы не памагалі вам... Для гэтага ёсць акушэркі і дактары.

— Дык гэта ж усё грошы каштуе, а я бедна жыву.

— У вас калі апошняе дзіця было?

— Пазалетась.

— Акушэрка была?

— Не.

— Чаму?

— Усё роўна ўжо я і так хворая ад ранейшых дзяцей. А тады гэтае акушэркі зусім тут нідзе не было. А прывезці якога доктара ці каго — дык дзе ж грошай набрацца.

Доктар сціснуў губы і працёр акуляры.

— Індыкі на градах кветкі пасклёўвалі,— сказала работніца, адчыніўшы дзверы.

Доктар глянуў паверх акуляраў і выйшаў. На хаду ён сказаў:

— Я працую на чатыры гадзіны ў суткі больш, чым мне належана. Так, так, чатыры гадзіны. І не магу я за ўсякімі індыкамі наглядаць. Вы за мяне аглядаць хворых не будзеце, а я за вас павінен мець клопат — індыкоў адганяць з кветніку. Можаце ісці стаць на маё месца ў амбулаторыі!

Работніца ішла наперадзе. Яго не было хвілін дзесяць.

Доўгімі яны былі. На сцяне нудна і роспачна цікаў гадзіннік.

— Божа ж мой,— уздыхнула жанчына і заплакала.

Прыйшоўшы, доктар пачаў нанава перачытваць рэцэпт. Жанчына падышла да яго:

— Падлячыце мяне хоць трохі, хоць так, каб я ў хаце магла сёе-тое рабіць. Цяжкое работы я не буду рабіць... Абы ў хаце. Я буду старацца, як мага, аддзякаваць вас...

— Прычым тут просьбы,— сказаў доктар,— я павінен паводле абавязкаў службы лячыць вас. А цудаў я не раблю. Наколькі навука ў сілах зрабіць, усё будзе зроблена.

У жанчыны прыкметна падняўся настрой:

— Можа, гэта і не ад гэтага. У мяне суседка, дык таксама без ніякіх акушэрак і дактароў, тая самая баба была, што і ў мяне, аднак здаровая, як бура, і дзяцей не менш, як у мяне.

Доктар паглыбіўся ў тоўстую кнігу, і жанчына выйшла.

— Ну, што ён сказаў вам? — абступілі яе хворыя.

І яна пачала расказваць.

Дома ж не было нікога. Дзеці гулялі па агародзе. Хата была асвечана сонцам. Яна дастала з печы чыгун паранай бульбы, насекла ў карыце і замяшала свінням. «Доктар сказаў не падымаць цяжкага»,— падумала яна і не выносіла карыта на двор, упусціла свіней у сенцы і, седзячы на парозе, пачакала, пакуль яны з'ядуць. Тады, выгнаўшы іх, зачыніла сенцы, пайшла ў камору і лягла на палку пад цёмным аконцам. Сонца залатою істужкаю лілося праз аконца на процілеглую сцяну, некалі моцную і смольную, з запыленымі махрамі высахлага моху. Пры ёй на паліцы ляжалі дзве булкі хлеба, стаялі збанкі і на ржавым цвіку віселі пучкі сухога, свянцонага і несвянцонага зелля,— піжмы, чабору і цантуркі. Пук сухой мяты ўткнуты быў у аконца.

Адчуваючы слабасць, яна драмала і ўсё думала. Вострая ўзбуджанасць думак не давала ёй забыцца па ўсё ў моцным сне. Юрка стаяў уваччу яе, з чорнымі і нямытымі нагамі, сіпявокі, шыракатвары, малы.

— Хоць бы прыждаць, калі ён як мае быць узнімецца на ногі,— сказала яна моцна і сама спалохалася свайго аслабелага раптам голасу.

Пасля ўсё ж ёй удалося заснуць. Спала яна больш гадзіны і ўстала пад самы вечар. Юрка распрагаў на

двары каня. Мацвей там жа стукаў печым і гаварыў з Юркам.

— Былі ў доктара? — запытаў Юрка, калі яна выйшла на двор.

— Была.

— А што ён сказаў?

— Нічога. Казаў, што ўсё зараз пройдзе.

— Скажыце праўду.

— Дык праўда ж.

Юрка весялей глянуў на яе і павёў паіць каня. Мацвей падышоў да яе.

— Ну як?

— Казаў нічога цяжкога не падымаць, цяжка не рабіць.

Мацвей дзіка глянуў вакол.

— Нічога, тады папраўлюся.

Мацвей нічога не сказаў і пацягнуў саматугам пустыя драбіны ў агарод пад ігрушы. Яна глянула на вуліцу і бачыла, як Юрка весела смяяўся з хлопцамі пад калодзезем. Такім жа вясёлым ён прывёў каня дадому і такім быў усе наступныя дні.

Пагодлівыя і ветраныя ж былі яны, гэтыя дні. Два тыдні стаяла гэткае надвор'е. Увесь гэты час выбіралі бульбу. Мацвеіха чула сябе лепш і была на полі. Юрка гробся ў зямлі побач з ёю. Гаварылася неяк мала. Мацвей моцна крычаў на каня, які не мог браць цяжкіх вазоў.

Пыл узнімаўся па прысохлай раллі. Пылелі ж і дарогі. І шумелі кусты.

Бульба была выбрана ў канцы другога тыдня. Надвор'е не змянілася. Здароўе ж Мацвеіхі пагоршылася.

Мікалай крываносы, прыходзячы вечарам з падзённай работы, гаварыў:

— Не варта было табе, Наталя, на поле ездзіць. Выбралі б гэтую бульбу і без цябе. Што ты, Мацвей, за чалавек. Каменнае сэрца ў цябе, халера цябе ведае. Дапраўды.

Мацвей пачухаў шыю.

— Я і сам не ведаю, што мне рабіць.

— От як прыйдзе бяда, тады навучыць, што табе рабіць.

— Добра...

— Што добра... Да чаго ты гэта дапускаеш.

— Я ж кажу, што добра... Кончана. Цяпер няхай ляжыць, няхай нічога не робіць.

Мікалай яшчэ нешта гаварыў, але Мацвей, каб не чуць і каб забыцца на ўсё гэта, узяўся на двары за нейкую работу.

З таго дня Наталя ляжала. Дзень было ёй лепш, дзень было горш. І ўвесь час пагодлівым стаяла надвор'е. Пасля некалькі дзён засаб было ёй горш.

— Ну, як вам? — пытаўся Юрка, даючы ёй адварапую бульбу, хлеб і паранае малако ў шклянцы.

— Мне добра, неўзабаве папраўлюся.

Юрка бег гуляць на вуліцу. Работы цяпер было яму менш. Ночы былі месячныя. У белай віднаце маўчала і пахла ўсё. І ўсё клікала радавацца ды жыць.

## XV

Уночы конь вельмі чухаўся аб сцяну і моцна грукаў нечым на ўвесь хлеў. Аж у хаце чуваць было. Мацвею не спалася. Кагадзе ён даваў Наталі малако і пасля таго ніяк не мог заснуць. Варочаўся на свежым сенніку і прыслухоўваўся да стуку ў хляве.

Месяц быў поўны і белы, дзве лапіны святла яго ляжалі ад вакон на зямлі, і ў хаце быў белы змрок.

Наталя была зусім слабаю; трэці ўжо дзень ёй было ўсё горш.

Юрка з Мікалаем спалі ў каморы разам.

Наталя застагнала, у хляве застукала мацней. Мацвей устаў, ускінуў на плечы світку і выйшаў на двор. Маўчалі грушы каля суседняй сцяны, пахла над імі вялая трава. Мацвей увайшоў у цёмны хлеў і вобмацкам знайшоў каня. Конь усё дзёрся шыяю аб сцяну і жолаб.

— Мала яшчэ, дык от караста, мусіць, напала,— сказаў моцна Мацвей,— і так падла была здохлая.

Пастаяўшы так трохі, ён пайшоў назад і ўжо ў сенцах пачуў, як варушылася Наталя на сенніку.

— Можа, трэба што? — запытаў ён панурым голасам.

Ніхто нічога не адказаў.

— Наталя!

І ён запаліў газоўку. Падышоў да жопкі — яна выцягнулася ўся, шырока глядзела ў сцяну над печаю, і рот у яе быў так, як ніколі, разяўлены.

Мацвей зразу не зразумеў, пасля ж кінуўся да стала запальваць лямпу. І пакуль запаліў, Наталя захрапла

разоў тры, і вельмі хутка кончылася. Мацвей моцна застагнаў; на печы заварушыліся дзеці, тады ён рантам уцяміў усё становішча рэчаў; агледзеўся вакол, уссунуў на галаву шапку, выйшаў на двор і замкнуў сенцы. Да Сабастыяна ісці было недалёка. Ён пастукаў у акно. З хаты пачуўся голас:

— Хто?

— Сабастыянка, братка, выйдзі сюды.

— Мацвей?

— Але.

Сабастыян выйшаў у сенцы.

— Памерла.

— Наталя?

— Але, кагадзе што.

Сабастыян выткнуўся на двор, паглядзеў на неба, на вуліцу, на новыя весніцы і сказаў:

— Ты от што... Ідзі ты дадому і распараджайся там. Напрасі мыць, а выкапаць дол і зрабіць труну я паклапачуся. Як развіднее, я падыйду. Неўзабаве світаць пачне. Я зараз бабу прышлю сваю.

— Ну але, зараз дзень нахопіцца.

Дома Мацвей пабудзіў кватаранта свайго Мікалая. Юрка пачуў гэты незвычайны клопат:

— Што?

— Нічога, ты спі сабе.

І Юрка заснуў. Мікалай пачухаў галаву і стаў усцягваць на ногі боты.

— Усё ў іх у сярэдзіне паадрывалася,— сказаў ён.

— Дзе гэта? — запытаў Мацвей.

— У ботах, няхай на іх паляруш, на нагу не ўсцягнуць. Трэба хутчэй новыя спраўляць.

І яны ўдвух пачалі клапаціцца. У хаце ўжо Сабастыяніха грэла на комінку ваду. Мацвей пазваў двух суседак, і Наталю пачалі мыць.

— Худая якая,— сказала Барановічыха, мочачы Наталі плечы.

— Гаравала, небарака,— адказала Сабастыяніха.

Трэцяя жанчына дадала:

— Не дай божа. Дзеці засталіся дробныя, як боб.

І ўвесь час, пакуль абмывалі, гаворка не спынялася:

— Гэта ні то што, як у каго пасля смерці дзеці застаюцца дарослыя...

— Унь як Паўліха памерла, дык там дзеці, як той ка-

заў, у крапіву не папаўзуць, а гэта не дзеці, а гарох.

— Дый гарох пры дарозе, хто ідзе, той і ўскубне.

— Ну, дзякаваць богу, бацька ж застаўся, у крыўду не папусціць.

— Ат, гэты бацька сам заўсёды ў крыўду падаецца. Хлеба кавалка на стале не мае. Ужывуць небаракі-дзеці гора без маткі.

— Яе, небараку, жывот часта хватаў.

— Гэта яшчэ ад першага дзіцяці. Не сцераглася...

— Бо не было пры кім і пры чым вельмі тут сцерагчыся...

— А ён жа не спагадае... Дый што мужчына ведае вельмі ў гэтых справах... Яму што...

— Раз ажаніўся — павінен ведаць!

— Ён то павінен, але каб яны гэтак жылі, як гэта ім у галаве. Унь Мацвей, здаецца, пязграбны, няздатны нейкі, а да Каршуковае Настасі пробаваў даходжваць, пакуль людзі не пачалі гаварыць.

— Ну, а твой Юлік! Дарма што кульгавы і дачку пара замуж аддаваць...

— Ну, а твой Костусь!

— Ну, і мой Костусь. Я гэта сама скажу, мы, суседкі, разам жа і гадаваліся, раслі разам, гулялі пекалі... Тут між намі можна ўсё сказаць...

І пакуль памылі, перагаварылі ўсё.

На двары хутка развіднялася. Юрка ўстаў і, не ўваходзячы ў хату, павёў пад калодзезь напаіць каня. Вярнуўшыся назад у двор, убачыў, як Мікалай разглядаў у агародзе дзве рыдлёўкі. Мацвей неўзабаве прынёс адпекуль трэцюю.

— Гэта лепшая,— сказаў ён,— я ў Юліка ўзяў. А гэта Сабастыянава — дрэнь. Капаць табе паможа Тамаш, я папрасіў...

— Няхай бы ты Алеся папрасіў — гэты маладзейшы.

— Я думаю папрасіць Алеся, каб памог труну рабіць. Робіць яе Сабастыян з сваіх жа дошчак, дзякуй яму, і толькі трэба яму на помач каго пазваць.

— Ну, вядома, хто ж паможа, як не брат.

Узышло асенняе сонца, агарод і двор быў ясным і здаваўся прасторным.

У Юркі раптам нешта сціснула за горла, дыхаць стала цяжка. Страшная здагадка шавяльнулася ў ім. Ён, як стаяў, павярнуўся і роўна пайшоў у хату. Спачатку, сто-

рапу, нічога і не заўважыў. Толькі дзіўна было — чаму гэта цётка Сабастыяніха паліць у печы. Яна скварыла сала на вялікай скавародзе. На палку, каля печы, сядзелі дзве сястрычкі, прыціснуўшыся адна да адной і, нічога не разумеючы, маўкліва глядзелі на цётку. Цётка ж, расчырванелая каля агню, гаварыла ім:

— От зараз, дзеткі, я дам вам паснедаць картоплі з скваркамі. Вы любіце гэтую яду?

— Любім.

— А тады вы пойдзеце на агарод гуляць. Сёння свеціць сонейка, цёпла будзе. Там жоўценькі пясочак у вас у агародзе насыпаны, будзеце сабе гуляць, там, на сонейку, у зацішку.

— Мы і ўчора там гулялі.

— Будзеце гуляць сабе там... Паснедаўшы...

І раптам Юрка ўбачыў: на покуці, непрывычна чыста адзетая, вялікая нейкая, белая, незнаёмая ляжала маці. Ногі яе былі яшчэ босыя, але адзетая яна была ў той цёмны гарнітур, які надзявала на вялікдзень, калі ішла ў царкву або да дзядзькі Сабастыяна ў госці. Твар быў белы і чуць зеленаватым здаваўся пад адценнямі белай жа хусткі на галаве. Дзве асеннія мухі поўзалі па гэтым новым твары; сонца ляжала на цёмным гарнітуры, пакідаючы твар у сіняватых ценях. І страшны неспакой, так нявыкананых жаданняў і мэтаў — пазаўсёды ляглі на твар страшнай застыласцю.

Юрка ўтаропіўся вачыма ў гэты нябачаны ніколі і нечападзяваны малюпак. Пачаў паволі падыходзіць да покуцця, роўна, не гойдаючыся ў бакі і не ківаючы галавой.

І раптам з немым енкам кінуўся на яе босыя — такія белыя, такія чыстыя ногі.

## XVI

Гэтая гаворка адбылася ў тым жа пустым, асветленым сонцам, Мацвеевым агародзе, дзе гулялі на пяску дзеці. Мацвей сядзеў каля суседняй сцяны на старым бервяне і глядзеў на драўляную барану, прыстаўленую да плота. Кагадзе прыходзіў Алесь і сказаў, што трупа гатова. Сабастыян прыйшоў з дому, убачыў у агародзе Мацвея, падаўся да яго, сеў побач з ім, спусціў вочы між сваіх калеп у зямлю і сказаў:

— А я кагадзе дома каровам сечкі ўрэзаў, салому папалам з канюшынаю мяшаў... Пайдзі ты цяпер вальнейшаю часінаю да папа, пагавары з ім, патаргуйся.

Мацвей маўчаў.

— Скажы, што так і так, няма тут лішне з чаго вельмі даваць, папрасі, каб лішняга не браў. Каб па-божаму... Ды ён і сам, праўда, ведае, што яму тут лішняе гаварыць. Не павінен і сам дорага браць...

— Не пайду,— панура перарваў Мацвей Сабастыянаву гаворку.

— Чаму?

— Чорт яго пойдзе.

— Ну, а як жа будзе?

— Няхай як хоча, так і будзе.

— Ты што гэта, з глузду з'ехаў?

— А чорт яго ведае, ці быў яшчэ ў мяне той глузд. Можа, тут не было з чаго і з'язджаць. Няхай яно, бог дасць, выгарыць.

— Чаго ты праклінаешся. Нічога гэтым не паможаш.

— А ты мне парай, чым памагчы.

— Не гарачыся. Будзь трохі халаднейшым. Халаднейшым будзь, я табе кажу. Будзь халаднейшым. Ідзі дагаварыся з папом. Слухай мяне.

— Не буду я ні з якім папом дагаварвацца.

— А як жа? Так?

— Як будзе, так і будзе. Неяк жа будзе.

— Без папа?

— Няхай сабе і без папа.

— І без крыжа? Без царкоўнага звону? Як нехрысць? Як жывёліна якая? Як не чалавек, не раўнуючы, ліха ведае што?.. Ты рад, што яна памерла? Азіят ты! Ты якога-небудзь пуда жыта не хочаш на яе ў апошні раз патраціць! Гэта ж ужо апошні раз. Разумееш?.. Апошні раз!

— Нічога не памагло ёй жывой, не паможа і памерлай.

— Мацвей!..

— Ніхто не памог ёй жывой, ніхто не паможа і нежывой.

Сабастыян пільна агледзеў халодныя рысы Мацвеевага твару і павольна пачухаў калена. Устаў і пайшоў да папа. Збіраліся людзі. Алесь з Тамашом прынеслі труну. На двары неўзабаве стала цесна і шумна. У хаце Юрка не адыходзіў ад мацеры і не мог ніяк выплакаць усіх слёз сваіх. З самага ранку ён усё стаяў тут, калаціўся ў немай

роспачы, і несупынныя слёзы яго былі то ціхімі, то бурнымі. Босыя ногі яго былі, як і заўсёды, непамытымі, у засохлай зямлі. Сабастыяніха ціпіком падышла да яго:

— Ідзі абуйся, сынку, зараз у царкву за маткаю пойдзеш.

Ён маўчаў, нічога не зразумеўшы. Тады яна раптам успомніла ці здагадалася, што ў яго няма чаго абуць на ногі. І яна сказала:

— Памый, сынок, ногі, я табе налью ў ночвы вады, а то нядобра ісці ў царкву з такімі бруднымі нагамі.

Ён паслушна пайшоў у камору, пабоўтаў трохі нагамі ў вадзе, абмачыў унізе калошы палатняных портак сваіх і не мог сабраць сваіх думак аж да самай ночы. Толькі, як ішоў ён за трунаю ў царкву, перадвячэрняе паветра трохі асвяжыла яго. Ён пачуў, што баліць галава. Ён некалькі разоў выходзіў з царквы і назад уваходзіў. І ў гэты час пачала ажываць і вырастаць у ім пачуццёвая свядомасць, што жыве ён сярод усіх гэтых людзей адмысловым нейкім, асобным, напружаным жыццём. Бачыў ён, як бацька стаяў каля прытвору, з халоднымі рысамі твару, чуў, як кум Юліка Барановіча стукаў ботамі, узлазячы на званіцу, і як пазваніў трохі ва ўсе званы. Пасля, злезшы з званіцы, падышоў да натоўпу мужчын каля цвінтарнай брамы і гаварыў пра нейкія папары:

— У нас папарцы смачныя, так што нам не трэба балота пускаць пад пашу. Нам сена, тымчасове, патрэбна.

— Папару мала, і нічога ты на іх не пасееш,— чуўся голас Тамаша.

— Папараў мала? Можна зрабіць, каб было больш. Пад жыта, тымчасове, добра.

— Нічога не добра.

— Я вам, мужчыны, скажу, што, запусціўшы папарэц, ды, тымчасове, калі бог дасць здароўе...

— А Алеся няма,— сказаў нехта з мужчын,— у царкву нават і носа не ткнуў.

— Ён жа труну рабіў.

— То што, што рабіў. Мог бы надыйсці разам з усімі, як бы яму самому ніколі не давядзецца ўміраць.

— Куды ён табе пойдзе. Камуністы ў царкву не ходзяць. Не маюць, тымчасове, права. У іх такі закон, калі пайшоў раз у царкву, выкідаюць, значыць, з гэтага іхняга цэху. Няможна! Тымчасове, як жа ён табе пойдзе. Труну — дык ён намог зрабіць. Гэта дык нічога — гэта ў іх

можна... Тымчасове, зараз трэба лезці будзе па званіцу, на вечную памяць пазваніць.

— Кажуць, што Мацвей не хацеў у царкву нясці, так хацеў пахаваць.

— Ну але, не хацеў, гэта ўсё Сабастыянаў быў клопат, а яму мала гэта абходзіла. Сабастыян сам казаў. Не памог ёй, кажа, ніхто жывой, не паможа ніхто ёй і памерлай. От як!

— Хто яго тут разбярэ, можа, яно трохі і праўда. Ёй ужо ўсё роўна, як ты па ёй не спявай і куды ты яе не нясі.

— Ну так, але для людскога вока патрэбна ж нешта, каб было. Як жа ты так пахаваеш, без нічога, узяў ды закапаў, як жывёліну якую. Гэта ж табе чалавек.

— А калі чалавек грэшны, то трэба ж, тымчасове, памаліцца.

— Якія там у яе грахі! Адкуль яны ў яе?

— Добра, кажа, адкуль тыя ў яе грахі.

— Чаму, усякі чалавек грэшны. Няма нікога без граху.

— Ат, хто яго ведае, што тут грэх, а што не. Разбяры тут.

Кум Юліка Барановіча раптам зноў загаварыў пра гаспадарскія справы:

— Тымчасове, я зноў пра гэтыя самыя папарцы. Яны ў нас такія, што нашы з іх павінна хапіць — уг-га! На чорта нам гэтыя выдумкі — папары заўсёды былі. І нашто гэтую моду ўзводзіць, каб без папараў заставацца... Што галава — то розум. Яны хочуць давесці гаспадарку чорт ведае, тымчасове, да чаго. Сказаць, поле добра ты вырабляй, угнойвай яго, не лянуйся, дык радзіць будзе. Я сам нажынаю, тымчасове, жыта — на маю сям'ю даволі. А ёсцека людзі, што і набольш поля маюць. Нашто тут лішне мудрагеліць. Хто гэта выдумаў, каб папары зводзіць?.. Калі ты добры, я ж кажу, гаспадар...

— Ну, а калі не гаспадарыцца — усё з рук валіцца.

— Чорт яго не возьме, не валіцца ўсё з рук. Не выпускай з рук, калі яно ў цябе валіцца.

— А калі не ўтрымаць? Упь Мацвей, жонку на гэтым свеце ўтрымаў ці не? Утрымаў?!

— Ну, бо тут гэта суджана. Што суджана, тымчасове, чалавеку, то тут нічога чалавек не парадзіш. От што! Гэта, як свет светам і бог богам, дык гэта заўсёды было і будзе.

— Ну, а калі б ён жонку вылечыў, то як бы тады з гэтым суджаным было? Як бы тады з ім?!

— Ну, то тады, значыць, было б суджапа яму вылечыць яе. На паправу тады б усё пайшло б у яе... Дык памятайце, мужчыны, што няма нам тут лішне чаго чыіх галоў слухаць — папары павінны быць, як і былі. Як табе, Тамаш, здаецца?

Тамаш нічога не адказаў, прадзьмухаў вішнёвы свой папяроснік і закурыў.

— Што ты Тамаша чапаеш, Тамаш у камуністы сам думае зараз падавацца. Ён напава зараз гаспадарыць пачне. Яшчэ ажаніцца гатоў.

— Што мне, колькі там мне засталося пажыць. Ты ведаеш, колькі мне ўжо гадоў?

— Можна, тымчасове, дагадвацца.

— Ну, от жа. То што ты маеш да мяне?

— Нічога. Што мне да цябе мець. Жыві сабе на здароўе.

— Я і жыву.

— Добра робіш. Адно не баламуць лішне светам.

— А што я дзе баламучу?

— З Алесем разам баламуціце. Таварышы, тымчасове, знайшліся! Можна сказаць — аднаму жаніцца пара, а другому — уміраць. Хэ-хэ! Фацэця дый годзе. Тымчасове, усялякія перарэзкі і перамеркі — гэта ж з вас усё свет гарыць.

— Папытайся, што Мацвей на гэта скажа.

— Мацвею гэта, можа, выгадна. Што ён згубіць?! У яго ўсё роўна не родзіць. І радзіць ніколі не будзе, бо ён такі гаспадар.

— Які ж ён гаспадар?

— Нядбайны.

— Нядбайны? Памагчы яму трэба, тады ўсё яго нядбайства ліха ведае куды дзенецца. Пасадзі цябе на яго месца,— пабачым, як ты тады паскачаш. Паспрабуй.

— Я да гэтага не дапушчуся, каб ты і хацеў.

— Каб я хацеў? Я хачу?

— А хто цябе ведае, што ты, тымчасове, думаеш.

— Я думаю тое, чаго табе ніколі не думаць.

— Які ты ўжо думальнік вялікі!

Тамаш адвярнуўся і пачаў глядзець цераз паркан на вуліцу.

— Ты думаеш! А хто дык не думае. Ты адзін за ўсіх думаеш. Дзякуй табе.

— Спажывай на здароўе.

— Ты ўсё аб нечым дбаеш. А ў самога боты на нагах —

адны чарапкі. Як ты іх на ногі ўсцягаеш. А ўсё думаеш, а ўсё дбаеш, я ж кажу, тымчасове, аб нечым... Яшчэ ён вучыць будзе некага, як жыць! І без цябе пражывом. Спраў боты хаця сабе... Тымчасове, гэта ўсе людзі скажуць... Ты ўсё спадзяешся нейкага дабра, усё дбаеш, гаворыш... Чалавек!

Тамаш раптам адарваўся ад паркана:

— Дабра?! Дбаю? Кажаш, боты пашыць?! Я, можа, іх не пашыю, можа, і Мацвей не пашые, а хлапчук яго, што вунь босы за нежывою маткаю ў царкву прыйшоў,— той пашые. І такія боты, пра якія ніхто з нас ніколі і не сніў. Чуеш?.. Пашые! Шкада, што не дажыву хоць паглядзець на яго тыя новыя боты... Не дажыву...

— Ну, пэўна, калі заробіць на боты, дык і пашые. Падрасце, заробіць,— чаму!

— Не дажыву да тых яго ботаў. Стары я чалавек... Не дажыву... Ай, не дажыву! А пасля мяне, пасля нас — у добрых ботах будуць людзі хадзіць... Жыць будуць!..

І Тамаш пайшоў паволі па цвінтары да брамы, пасля ўбачыў Юрку, які пайшоў з-пад брамы ў прытвор, і сам застаўся стаяць каля ганка. Юрка як бы паспакайнеў і стаў халодным і маўклівым.

Труну хутка паставілі на воз. Барановічаў кум зноў трохі пазваніў, Сабастыян з Мацвеем і Юркам селі на драбінах па аглабіны, Сабастыянаў конь пайшоў размашнымі крокамі.

Заходзіла сонца, як яны апускалі труну ў зямлю. Крываносы Мікалай чакаў каля выкапанай ямы.

— Выгаладаў? — запытаў Сабастыян.

— Але,— адказаў Мікалай,— нічога... Таго, другога, я даўно адправіў.

— На пахаванні быў.

Рэшту часу яны маўчалі. Моўчкі апусцілі труну ў зямлю. Першая рыдлёўка пяску стукнулася аб новае века цяжка і гулка.

Заходзіла сонца, маўчалі могілкі, сінела і туманілася асенняя трава. Зелянілася трава пад асеннім сонцам. Позняе зелле цвіло ў позную восень.

Юрка бачыў, як засыпалі труну.

Крываносы дзядзька Мікалаї утомлена кідае зямлю; засопся і з натугай паглядае пад ногі свае. Таксама павольна б'е рыдлёўкаю ў зямлю дзядзька Сабастыян. Бацька нешта заклапаціўся каля каня, каля пустой фурманкі. От

яны ўсе зліваюцца ў адно — варушацца, дзейнічаюць, нешта надпачальваюць, некаму надпачальваюцца...

От яны ўжо селі на воз, на памятую, пацёртую салому. Чакаюць яго — малога, маўклівага. Ён жа глядзеў, як яны клалі на воз рыдлёўкі... Падышоў да пасыпанага пад зямлёю жвіру, як стары, агледзеў яго і кінуўся на яго тварам...

Пахнуў пясок і трава каля яго, і восень, і зямля.

Як-жа яна пахла — зямля!

# ЧАСТКА ДРУГАЯ

## I

Усё ў тым жа самым школьным будынку збіралася некалькі чалавек. Алесь на ячэйку пазваў Тамаша і настаўніка. Тамаш запазніўся. Настаўнік — васпаваты, вастраносы чалавек, худы і высокі, нервова паварушваў праваю палавінай твару і, цярэбячы на галаве «вожык», гаварыў Алесю:

— У горад хачу паехаць на які тыдзень, праветрыцца трэба, ды не прыбяруся ніяк. Гаспадарка заядае... Заядае... Гарбузы палажыў на страху, кожны дзень зпімаць іх паноч часу няма і ахвоты, больш тае работы будзе, як тых гарбузоў. А так, падпільноўваць трэба, а то пазвалакаюць уночы са страхі, і прапала ўся мая, так сказаць, гарбузовая палітыка.

— Палітыка?

— Палітыка. Я мяркую — выспяліць гэтыя гарбузы — р-раз...

Пры слове «раз» настаўнік пальцам правай рукі прыгнуў самы меншы палец на левай руцэ.

— ... Пасля гарбузоў — у мяне другое: пудоў шэсць з агароду аўса будзе, гэта два. З двух яблынь будзе трохі яблык, гэта тр-ры. З гэтага месяца пачынаю адкладаць па чатыры рублі з пенсіі — гэта чацвёртая даходная станцыя. Цяпер, каб як вынайсці пятую якую, так сказаць, даходную станцыю. Каб як хоць на рублёў дванаццаць адшукаць, дык да новага года льга было б паліто справіць. Чацвёрты год збіраюся... Дык трэба гарбузы спяліць, жонка паехала да радні... А гарбузы, не падпільнаваўшы, прападуць. З агароду яшчэ пробавалі іх цягаць дзеці на гарбузікі... От як... Можа, пачнём, а то я яшчэ думаю да вечара капусту ў агародзе пазрэзваць.

— Павінен прыйсці Тамаш зараз.

— Вы бачылі сёння яго?
— Сягоння.
— Дома ў яго былі? Можа, паслаць каго?
— Дома. Прыходзіў, а ён сядзіць на парозе і ногі чухае. Моцны стары, здаровы.
— Здаровы?.. Ён не здаровы. Зусім не. Гэта, так сказаць, здаецца толькі. Затым што ён рухавы такі. Ён, так сказаць, як грыб стары, які ў сярэдзіне згніў увесь, а толькі зверху здаецца цэлым і нечарвівым. Ён жа зусім стары. Я год дзесяць, як сюды пераехаў, дык як і запамятаю — ён усё такі рухавы і сіваваты... Усё з сваім вішнёвым папяроснікам... І ўсё босы, з надвязанымі калошамі. Ходзіць і глядзіць на ўсё, як бы чаго дзе забыўшыся. Я яго адразу заўважыў тут. Знакаметны нейкі чалавек... Твар у яго такі.
— Мы то можам і не чакаць Тамаша. Пагаворым з вамі, давайце цяпер...
— Я слухаю.
— Гэта яна ў нас па гэтых справах.
Алесь паглядзеў на вастраносую дзяўчыну. Дзяўчына падышла да іх.
— Я слухаю,— зноў сказаў настаўнік.
— Мы думаем вас скарыстаць для адной справы.
— Для якое?
— Каб вы загадвалі рэпертуарам. Каб п'ес добрых маглі адшукаць. А то ўсё ў нас выпорваюць застарэлыя — з порахам, з вінтоўкамі. Трэба якую-небудзь новую п'есу, каб з людзьмі...
Настаўнік раптам ажывіўся:
— Ага, з людзьмі? Вітаю гэта, так сказаць, пачынанне. Патрэбны жывыя людзі, а не порах. Порахам чалавека не падменіш. Порахам, так сказаць, чалавека можна знішчыць, а каб паказаць яго жывога, дык гэта куды цяжэй. Тут патрэбна культура. Культура патрэбна! І гэта самае важнае, што мы ўжо загаварылі пра гэта. Сам-мае важнае, таварышы. У нас, так сказаць, гэтай культуры не было. Калі можна так выказацца, мы адмаўлялі культуру. І, нарэшце, мы зразумелі. У нас заўсёды так — мы можам зразумець толькі нарэшце. І добра хоць гэтак... Нарэшце! Што значыць гэтае нарэшце? Гэта значыць, пасля таго, як мы ўбачылі, што нічога не выходзіць, што трэба ўзяцца за культурнае выхаванне...
Вастраносая перабіла яго:

— Рапей нам трэба было замацаваць пазіцыі.
— Не спрачаюся. Трэба было. Але занадта пораху ў нас там, дзе яго зусім не трэба. Порахам чалавека не выхаваеш. Гэта павінна быць ясна, як два ды два, так сказаць, чатыры. Вы мне выбачайце, я праз хвілін пятнаццаць вярнуся,— залажу пайду разгародку ў плоце, баюся, каб гусі капусты не папсавалі.

Ён некалькі разоў засаб варухнуў палавінаю твару і выйшаў. Вастраносая дзяўчына адышлася ад акна. Алесь пайшоў за ёю. Пусты агарод і за ім іржышча былі перад акном. Вуліца рабілася палявою дарогаю і ішла пад гору. За агародам сірацела капліца. Неба было чыстым і высокім. Дзяўчына глядзела на сінія істужкі далёкіх лясоў.
— Чаго ты сумуеш, Волька?

І Алесь стаяў поплеч з ёю, успёршыся локцямі на адчыненае акно.
— Чаго ж мне сумаваць?
— А хто цябе ведае... Ты нейкая невясёлая, ці, як сказаць...
— Так сказаць, як гаворыць настаўнік Цімашук,— нажартавала яна, сумна ўсміхнуўшыся.
— Не, ты скажы, чаго ты сумуеш?
— Я сама не ведаю, ці гэта я сумую, ці гэта так я... Нешта ўсё... Ліха яго ведае... Сама не ведаю...
— А хто ведае?
— Можа, і ніхто не ведае.
— Скажы, дык от я ведаць буду.
— А нашто табе ведаць.
— Ты што, закахалася ў каго, ці як?
— Ні то што закахалася...
— Ну, а як жа?
— Так неяк... Нашто ты дапытваешся?
— Ну то я не буду.

Некалькі хвілін маўчалі. Волька задумёна вадзіла пальцам па аконнай шалёўцы. Пасля сказала, не гледзячы на Алеся:
— А як у цябе справы з Барановічаваю Ганнаю? Ты ж яшчэ вясною гаварыў, што будзеш жаніцца?
— Я і сам не ведаю, якія ў мяне цяпер з ёю справы.
— Каханне прапала?
— Не, яшчэ больш. Вось жа і бяда ўся ў гэтым.
— Яна кахаць пакінула?
— Нічога не ведаю. Не магу разабраць, што з ёю ро-

біцца. Са мною, здаецца, такая сама, як і была, толькі часам... як калі...

— Я чула трохі. Гаворкі ходзяць. З камортнікам гуляе яна цяпер вечарамі. Ты яе даўно бачыў?

— Дзён чатыры не бачыў.

— Дурны, чаму ж ты так. З дзяўчынаю нямонжа нікалі так. Каб каморнік хутчэй выехаў, тады б усё і скончылася. А цяпер ты, калі не пойдзеш нейкі час, дык горш будзе. Таго яна не любіць, а, мусіць, падабаецца ён ёй. А гэта самае страшнае ў яе гады, калі хто ёй падабаецца. Год праз пяць яна пачне любіць іначай, а гэта ў такім узросце, яна сама ў сабе разабрацца не можа. Ты толькі ласкавым будзь з ёю, каб яна аж раставала пры табе.

— Дзякуй, сястрыца, за навуку.

— Ты не смейся. Я такую пору перарасла, я ведаю. У такім узросце — чорт яго ведае, што робіцца. Калі і цяпер...

— Калі і цяпер сумуеш каля акна.

— Чаго ты ўсё жартуеш?

— А што ж мне, плакаць?

— Плакаць не трэба, але чаму не быць трохі далікатнейшым.

— Ты выбачай, я ж сам кагадзе гаварыў табе аб кахanні... Дык чаго ты сумуеш? Ты скажы выразна, па-таварыску.

Волька пільна паглядзела яму ў вочы і, падумаўшы, сказала:

— Кахання хочацца... Каго-небудзь кахаць хочацца.

— А каго, не ведаеш?

— Не ведаю. Выразна — нікога няма. Так пачуццё кахання мучыць. Разумееш ты гэта? Ведаеш?

— А ты каго-небудзь кахала калі?

— Кахала... А можа, і не. Прайшло. Дык цяпер і разабрацца цяжка — ці гэта каханне было, ці гэта так. Можа, і каханне... Усё праходзіць... А калі ўсё праходзіць, дык, можа, і каханне гэта было.

Чалавекі тры сядзела на ганку і чуваць былі іх галасы. Тамаш прыйшоў позна, калі ўжо ўсім надакучыла чакаць яго. Ён быў у новых ботах і трохі захмялелы. І гаваркі:

— Ты, браце, Алесь, выбачай...

Пасля звярнуўся да Волькі:

— Выбачайце і вы.

Памаўчаў і адвёў Алеся ўбок:

— Я табе, браце, раскажу, як гэта ўсё было. Зроду на мяне ніхто ніколі не чакаў... Доўга мяне чакалі?

— А так, нішто.

— Ну от бачыш... Прынёс боты Хонеў швагер. Я яму казаў — калі, кажу, пашыеш боты добра і за тры дні (каб я, значыць, босы не хадзіў доўга), дык барыша пастаўлю. Я думаў, што ён і да барыша такі самы нядбалы, як і да ўсяго. Аж ён узяў ды пашыў, як на тое ліха, пастараўся. Так дык ён шые боты тыдняў два, а я думаю, калі скажу яму пра барыш за тры дні, дык, можа, за якіх дзён дзесяць пашые. А тут от як — ты толькі ў мяне з хаты пайшоў, аж ён — тыц у хату з ботамі. І добрыя боты пашыў. Дык я і паставіў барыша. А пасля сон мяне змарыў, я лёг і заспаў, прызнацца. Прачнуўся, бачу вечарам пахне... Бач, якія галоўкі прышыў. Добры тавар. Надточкі падаваў. А халявы старыя, але моцныя. Будуць насіцца, чорт іх не возьме... І пашыў зграбна. Бачыш?

Астаткі хмелю ў яго шпарка прападалі.

На сходзе было сем чалавек. Настаўнік і тут не мог ніяк згуляць, ён стаяў каля адчыненай шафы і парадкаваў кніжкі. Пасля сходу Тамаш чуў у сабе нездавальненне нейкае.

Ужо разышліся ўсе, толькі Алесь ды Волька засталіся, як ён сказаў Алесю:

— Стары, браце, я зусім.

— Бачу, што не малады.

— Дык я да таго гэта гавару, што цяжка мне жыць на свеце цяпер. Як быў я малодшым, дык — недастачы якія — гэта для мяне ноль, можна сказаць. Еў я ці не еў, але вясёлы і моцны. А гэта сёння ад трох чарак гарэлкі з ног зваліўся... Можа б, мне ў гэты камітэт не ўлазіць. Усім не ўнаровіш, на старасці год ворагаў сабе нажываю...

— Нравіць усім і не трэба...

— Нажываю сабе ворагаў. Каля царквы, як Мацвеіху хавалі, дык мяне аж лаяць пачыналі...

— Няўжо ты, дзядзька Тамаш, здрэйфіў?

— Не, браток, не здрэйфіў, але...

— То ты б, дзядзька, і гаварыў проста, што табе не пад сілу займацца гэтымі справамі, што адпачываць табе трэба...

— Ні то што адпачываць, і ні то што я не здолею, чаго

там, але, ліха яго ведае, думаў, што на старасць прычакаю чаго лепшага.
— А хто з тваіх таварышаў...
— Ведаю, што хочаш сказаць. Усе гэтак... Нішчымніцаю ўвесь век душыліся і — той памёр, а той...
— Ты, дзядзька, усялякую веру згубіў і ў сябе і ў людзей.
— Не згубіў я.
— Памятаеш, як мы ўсё мястэчка ўзварушылі на перамер зямлі. Колькі ворагаў мы пажылі?.. А гэта да канца падыходзіць перамер гэты, і неўзабаве нам жа дзякаваць будуць.
— Будуць, гэта правільна.
— Само ж нічога ніколі не зробіцца. Нічога не рабіўшы, дык так і пасля нас будзе ўсё гібець век.
— Не гавары ты мне гэтага. Што ты мяне, як малое дзіця, угаворваеш. Я стары чалавек, і раз я прыстаў да вас, маладых...
— Я нічога дрэннага не падумаў...
— Я не кажу, што ты падумаў... Я казаў каля царквы, як Мацвеіху хавалі, казаў усім, што мы не дажывом, можа, а Мацвееў хлопец некалі ў добрых ботах хадзіць будзе. Добра будзе жыць некалі. Я згубіў веру? Што я не працую?!
— Табе, дзядзька, адпачыць трэба, гэта відаць.
— Магу і не адпачываць. У труне неўзабаве адпачну.
— Што цябе, дзядзька, за думкі сёння апанавалі?
— Крыўда ў мяне сямейная. Калі я сёння паставіў барыша Хоневаму гэтаму швагру, дык і дачка і сын, як выходзіў з хаты сюды ісці, аблаялі мяне за гэта, збэсцілі. От што. Ты не ведаеш гэтае крыўды. Некалі ўведаеш.
— Можа, і не ўведаю. Як буду я старым, тады людзі жыць будуць іначай.
— Можа, і не ўведаеш. А ў нас цяпер народ жыве,— божа мой, міленькі! Страхоцце, а не жыццё... Колькі гэта ўжо будзе год, як твой бацька памёр?
— Чатыры гады.
— Я от табе хачу ў вочы сказаць. Быў твой бацька рамеснікам, пражыў век — і калі ён дабро тое бачыў? От ты мне што скажы. Я табе скажу адкрыта. Мы тут мераем зямлю, камітэты гэтыя, значыць, робім, каб намагаць каму трэба, я нават стары ў гэтую кашу ўмяшаўся...
— Шкадуеш, дзядзька?

— Не шкадую, дай ты мне сказаць... Дык от робім усё, стараемся, каб як найлепш, і будзе лепш, адпак жа от, скажам, сын мой ці дачка — усё роўна будуць грызці мяне, як іржа жалеза, хоць каб і прычакалі мы найлепшага ўсяго. Што ты іх, перародзіш папава, ці што?

— Самі тады перародзяцца.

— Можа, і перародзяцца, хто яго ведае... Вам, маладым, відней... Я, дык хто яго ведае, я ж кажу... Галава мне баліць, выпіў, лёг, заснуць не засну, адно сон перабіў... Цьфу... Няхай яно, дасць бог, праваліцца скрозь зямлю...

— Што?

— Ды от усё. Дома мяне вылаялі дзеці, вакол усе, як на воўка пазіраюць...

— Страшна?

— Ні то што страшна.

— Ну дык што?

— Не страшна. Не. Весела, як мы гэта арудуем. Зямлю ўсю перамерылі, увесь, можна сказаць, народ узварушылі. Толькі што от стары я. Эх, браток жа ты мой, каб я быў малодшы. Каб мне хоць год дзесяць назад вярнуць. А-я-яй! Родненькі мой! А то, ты думаеш, я доўга пажыву на свеце?

— Невядома.

— Што ты мяне, як малога, цешыш?

— На цябе сёння, дзядзька Тамаш, найшло нешта.

— Нічога на мяне не найшло. Так гэта ўсё. Бывае гэта ў чалавека; у думкі лезе ўсё... Жаніцца ты збіраешся?

— Не ведаю і сам.

— Можа, не хочаш ты пры Вольцы гаварыць?

— Я і ёй, загадзе, гэтае самае казаў.

— Дурыш ты, хлопча. Я табе казаў і кажу: не траць сілы дарэмна, бяры хутчэй дзяўчыну якую сабе. Бяры ды жыві здароў. Дзівак ты, чаго ты чакаеш. Я табе яшчэ раз кажу — упусціш ты з рук Ганну, а тады за хвост не зловіш. З дзяўчынаю няможна так кошкацца... З дзяўчынаю — не спі ў шапку. Жанiся, ды от пакуль яшчэ я жыў, дык мы з табою справаў наварочаем... Я от усё пра алейню думаю, няўжо мы яе не скляпаем?.. Жаніся ды дзяцей гадуй...

Раптам Тамаш памаўчаў з хвіліну і заклапаціўся.

— От разышліся ўсе, забыўся я сказаць перад усімі.

— Што?

— Чаму гэта ніхто гэтае плоймы не ўніме.

— Якое плоймы?

— Урвіцеляў гэтых, камсамольцаў. Яны, праўда, не ўсе

такія, але ёсць, што каб па іх паморак, каб па іх. Упь гэты Валька, нярвейшы басяк, фулігант, а ўсім заправуляе. Я яго так бы заправіў, што ён назад не выбраўся б ніколі... Ён гэта з табою, здаецца, Волька, цягаўся пазаўчора вечарам па прысадах... Нашла з кім валачыцца, сталая дзяўчына. Ты, канешне, на мяне можаш і злавацца, але, Волечка ты мая родненькая, ці табе з ім хадзіць...

Ён памаўчаў.

— Алейню, дальбог, зрабіць трэба.

— Трэба.

— Ты от адно ў гаворцы — трэба ды трэба, а ніколі нідзе слова пра гэта не закінуў.

— Раней з зямлёю скончым.

— Скончылі ўжо, колькі там засталося. Ён жа і выязджае гэтымі днямі, каморнік гэты. У нядзелю паедзе... Ты от глядзі, каб ён тваё дзяўчыны не павёз з сабою, ты глядзі. Што ты за хлопец, яй-богу... Я пайду.

Тамаш выйшаў і каля самага ганка, на вуліцы, спаткаў Барановічавага кума. Той гнуўся, несучы на спіне папаковапы печым мяшок. Моцна ступаў звязістымі нагамі.

— Што ты гэта валачэш?

— Капусту ад бацюшкі.

— Гэта табе бацюшка капусту дае?

— Гэта я яму памагаў высякаць.

— А-а-а, гэта ты яму памагаў высякаць, значыць.

— Але, памагаў... А ты што тут рабіў у школе?

— А гэта быў сход, каб алейню зрабіць сваю.

— Ну і што?

Тамаш хітра прыжмурыў вока і знячэўку спалохаў Барановічавага кума:

— Па рублю з хаты, і будзе алейня.

— Гэта ўжо напэўна?

— Як два ды два — чатыры.

— Гэта каму алейня гэтая патрэбна, табе?

— І мне таксама патрэбна, думаеш адно табе?!

— На чорта яна нам, тая алейня. Калі ў каго які з гарнец канапель ці семя ёсць, дык ён выцісне якую бутэльку алею і ў Тадулічах. Завязе і выцісне. Колькі нашаму пароду таго алею патрэбна.

— Нічога, будзем пабольш алею гнаць.

— Як ты ўжо, ліха табе, алею захацеў? Мала табе, не наеўся. Яшчэ па рублю з хаты! Дакуль ты будзеш кру-

ціць светам? Чалавек! Пражыў ты век, і нашто табе на старасць тая алейня. Колькі табе таго алею трэба!

Пасля, як Тамаш мінуў яго, ён паставіў мяшок на зямлю, падапёр яго каленам, высмаркаў нос і казаў:

— Каб цябе чэрві, бог даў, елі гэтакага чалавека, як ты гэтага алею не паесўся за ўвесь свой век. Па рублю з хаты, жартачкі!

І, увайшоўшы ў свої двор, яшчэ паглядзеў, як Тамаш, далёка ўжо, ішоў вуліцаю, у такт крокам варушачы шырокімі плячыма сваімі.

Пачынаўся вечар. Тамаш пайшоў у прыгрэбку і да цямна ўспеў яшчэ павысыпаць з мяшкоў у пограб бульбу. Змрокам ужо выйшаў ён за гумно на агароды, пазабіраць калкі з разгароджанага плота. Ледзьве прыкметная плынь паветра з паплавоў абвеяла яго лёгкім холадам. Ён скінуў шапку і правёў пальцамі ў густых валасах сваіх. Моцна харкаючы і адплёўваючыся, пайшоў назад. Галава пакінула балець і сплываў цяжкі настрой, што быў днём. Балелі ногі, трохі муляўся ў пальцы левы бот, але ўсё адчувалася лёгкім. І ўжо не думалася аб старасці.

— Дзе гэта калкі з-за гумна падзяваліся? — запытаў сына, уваходзячы ў адчыненыя сенцы.

— Я ў прыгрэбку пазносіў,— адказаў той панурым басам і падцягнуў угару высокія халявы ботаў, стараючыся, каб яны былі вышэй калеп. Халявы зараз жа зноў аб'ехалі ўніз.

— Куды б тут пайсці, хіба да Алеся,— сказаў Тамаш, калі павячэраў.

— Знайшоў таварыша,— адказала нявестка,— да Алеся ён пойдзе. Патрэбен ты Алесю. Той да дзяўчат пэўна недзе пайшоў. Будзе цяпер Алесь дома сядзець!.. Да Алеся ён пойдзе!

— Ты мне не ўкажаш куды ісці,— абазваўся Тамаш. Выйшаў на вуліцу і не сцярпеў:

— Каб на яе немач, на гэтую кабеціну, от заўсёды, ліха ёй, душу сапсуе.

## II

Яшчэ завідна Алесь прыйшоў дадому. Маці сядзела каля акна і латала кашулю. На ложку сядзела Барановічыха і расказвала, як Хопеў хлопец быў ускочыў у цэбар з лугам і не апарыўся толькі затым, што луг быў халодны.

У хаце цямнела. Каля печы задзіраў галаву певень і раз-поразу спяваў.

— На перамену надвор'я певень спявае,— заўважыла Барановічыха і зноў расказвала пра хлопца і пра халодны луг.

Сагнуўшы левае плячо, у хату, бокам неяк, увайшоў старац. Яшчэ па дарозе пачаў спяваць:

Пакрый, госпадзі,
Зямлю травою,
Мора вадою,
Рыбу лускою,
Неба зорамі,
А чалавека шчасцем...

І раптам перарваў сам сябе:

— А-а-а, добра ваш певень спявае.

— Нішто сабе спявае,— адказаў Алесь.

Старац спяваў далей, таксама перарываючы сябе:

Памяні, госпадзі,
За галоснымі званамі,
За яснымі свячамі...

— Мусіць галагуцкага заводу ваш певень?

За бажасцвеннымі імшамі,
За добрымі душамі...

— Ці няма ў вас кіслае стравы?

Каб іхнія душачкі адпачывалі,
І каб усім жывым шчасце прыгукалі...

— Гэта што луг быў халодны, не мог ён бяды сам сабе парабіць, ускочыўшы ў яго. А от у Астраўку была штука — дзяўчына лыткі апарыла...

І каб таму злыдню памерці,
Хто не мае бога ў сэрцы.

Тут ужо Барановічыха перарвала яго песню:

— Ну і што ж было з тэй дзяўчынаю?

— Нічога. У бальніцы пакачалася трохі, а пасля ўсё зажыло... Апарыць, дык апарыла, можна сказаць, пііітавата, да самых цягляў заняло... Ці няма ў вас кіслае стравы?

— Ёсць.

— Ці не ўлілі б мне, калі ласка ваша, сербануць з лыжку якую?

— Пачакай, я зараз увалью.
— А ці не пусцілі б перапачаваць?
— Начуй.
— Няхай вам пан бог пашле збавенне, шчасце і долю, каб вы мелі заўсёды тое, чаго самі ад бога найвышшага хочаце... Тут у адной хаце мяне прагналі — няма чым, кажа, дарыць, няхай твая торба згарыць. Усялякія людзі ёсць на свеце. Свет вялікі, але і людзі на ім! Не было яшчэ такое галавы, каб пералічыла ўсіх... Што чуваць на свеце, людзі добрыя, можа, вайна будзе, не чулі?
— Не чулі,— адказала Барановічыха,— а хіба вайна маецца быць? Ты па свеце ходзіш, то табе лепш і павінна быць вядома.
— Чаго не ведаю, таго не скажу. Пра вайну нічога не чуў. Мусіць-такі, не будзе яе, нешта не чуваць нідзе нічога.
Яму налілі есці, і ён сцішыўся ў мыцельніку на лаве, пільна ўслухоўваючыся, што гавораць у хаце. Алесь дастаў з камінку тытунь і стаў закурваць. Запалілі лямпу, паставілі яе высока, на край печы, каб святло было па ўсёй хаце. Тады і прыйшоў да Алеся Тамаш. Барановічыха пачала расхвальваць кватаранта свайго:
— Гэты наш каморнік, дык гэта залаты чалавек. Спакойны, добры, далікатны. От ён жыве ў нас ужо каторую пору, а каб калі ён нам надакучыў чым?! Усё роўна, як свой родны... А прывыклі ж мы як да яго. Проста шкада, што ад'язджаць яму трэба. Ён жа па нядзелі паедзе ўжо. Ведаеце?
— Чулі.
— А як жа, па нядзелі паедзе! У горад паедзе. Ён жа там служыць. Ён там па земляной часці начальнікам.
— Ведама, каморнік.
Барановічыха паглядзела на Алесеву мацеру:
— Апроч таго, што каморнік, дык ён яшчэ і так, гэта яму цяпер новую пасаду далі... Ён жа толькі што ў гэтым годзе вучыцца скончыў, яшчэ нават казаў нашай Ганне, дзюплёму нейкую будзе здаваць гэтаю зімою, а ўжо і начальніка яму далі... Залаты чалавек.
Барановічыха ўсё паглядала на Алеся. Тамаш заўважыў гэта, дзьмухнуў у папяроснік і сказаў:
— Хто яго ведае, ці ён залаты, ці не залаты, гэты каморнік. Але што ён панаваты, то гэта відаць. А раз панаваты, то і свінаваты.

Барановічыха пакрыўдзілася:

— А дзе гэта відаць, што ён свінаваты? Дзе ён што насвініў каму?

— Ён панаваты. А панаватыя заўсёды свінаватыя бываюць. Ну, можа, ён і не такі. Я не ўручаю. Можа, і не.

— Такога чалавека пашукаць. Ён жа з простых людзей, а да чаго сам дайшоў. На каморніка выбіўся.

Відаць, што Барановічыха раззлавалася на Тамаша, паглядзела на Алеся і сказала:

— Дабранач.

— Хадзеце здаровы,— адказаў Тамаш, зацягваючыся Алесевым тытунём.

Старац пазіраў на ўсіх і моўчкі даядаў з міскі. Тамаш глядзеў на свае ногі і гаварыў:

— За зяця, мусі быць, прагне ўзяць яго. От абы толькі панадуць каго, дык адразу і старыя і малыя ліпнуць, як мухі, шануючы вас, на гэтае самае... Развяла гаворку баба — а залаты! а спрытны!.. Ах, як ужо там спрытнасць у яго, дык аж зайздрасць бярэ... Залаты чалавек, ай-яй! што там за золата ўжо!

— Вядома, што залаты,— сказала Алесева маці,— вучоны, грошы бярэ, далікатны, чыста адзеты...

— Няхай сабе будзе золата, мне што.

— Добры вечар!

Нечакана з'явіўся ля парога дзяк з басавітаю сваёю гаворкаю:

— У самы раз папаў. Гэта ж і вы якраз тут.

— Якраз тут,— адказаў Тамаш, працягваючы яму руку.

Дзяк патрос усім рукі, сеў на лаву і палажыў на стол жоўты партабак:

— Закурвайце... Табак першага сорту. Два гады ляжаў, усё мацунку набіраўся. Цяпер выйшаў не табак, а адэкалён. Пахне... Табаку, дык няма чаго грашыць, маю. Агарод ёсць, сам стараюся... А ўсё іншае, дык праваліцца яно няхай. Жыцця няма. Жыць цяжка. Што ж я, сярод духавенства я пралетар. Бо і сапраўды, што такое дзяк?! Я з вялікаю радасцю кінуў бы ўсю гэтую работу. Даволі. Адмаўляюся ад усяго. Надакучыла быць бяспраўным; голас хачу мець. Які я к чорту духоўнік, думаеце што?! Я да дзякоўства,— чым я займаўся? Музыкантам быў, капэляю кіраваў, вяселлі граў, на сцэне выступаў колькі раз. Скрыпка і флейта — от на чым я выязджаў. Гэта мой

канёк. Я і цяпер пра гэта думаю — нашто, каб мне хто ў вочы пальцам пароў, што я дзяк. Я ж кажу, падакучыла гэтае бясправўе, хачу рэальную карысць прыносіць. У мяне шэсць душ сям'і, а каб мне хоць бы зямлі далі па душ дзве-тры. А там я, можа, як-небудзь падабраў бы хлопцаў ды зноў бы капэлю скляпаў бы, заняўся б сваім даўнейшым талентам. Жыў бы... Дзякоўства па баку. Даўно ўжо ў мяне пераварот адбыўся.

— Нашто ж вам шукаць якіх-небудзь там хлопцаў для капэлі, калі тут гатовае ўсё ёсць.

— Што гатовае?

— Струмант хлопцы нашы справілі духавы і не ведаюць, што рабіць з ім. От бярыцеся наўчыць іх граць.

Дзяк больш яшчэ ажывіўся:

— Дзякоўства дык я кіну, пяйначай. Гэта ўжо як бог свят. Кончана, гавару адкрыта. А капэлю, дык гэта раз-два і можна арганізаваць. У мяне нават і ноты ёсць. Я ім усю тэорыю і практыку... Рэгулярна ўсё будзе ў мяне... Магу!.. Справілі струмант?

— Купілі на восем чалавек.

— На казённыя грошы ці склаліся?

— Ад спектакляў даход быў, пажарная дружына памагла, трохі склаліся...

— Дык гэта, значыцца, грамадская капэля? Гэта яшчэ лепш. А пра маё дзякоўства, дык я магу публічна заявіць, перад усім народам. Магу напісаць і перачытаць перад усімі, перад сходам.

— Толькі трэба гэта падумаць, каб назад пасля не варочацца.

— Дзе вы бачылі. Раз толькі я займуся грамадскаю працаю...

Ён доўга яшчэ грымеў вясёлым басам, пастукваючы пальцамі па жоўтым вечку партабака свайго. Накурыўшыся і нагаварыўшыся, дастаў з кішэні гадзіннік:

— Сем, от бо вечары доўгія ўжо.

І пайшоў, лёгка і спрытна.

— Што ты на гэта скажаш? — міргануў Тамаш Алесю.

— Няхай навучыць хлопцаў іграць.

— А пра зямлю?

— Пагаворым... Чаму яму не даць, калі так. Патрэбным чалавекам можа быць.

Алесь адзеў жакетку і шапку.

— Ідзеш?

— Пайду.

— Хадзем.

І яны з Тамашом пайшлі з хаты.

— Я цяпер выпіў бы зноў,— сказаў Тамаш,— адну чарку. Тады днём нашча піў, а цяпер бы нічога... У тваіх гадах я любіў часам пацягнуць. А цяпер аслабеў, чорт яго ведае.

Ён пайшоў далей вуліцаю, у свой бок, моўчкі кіўнуўшы Алесю галавою. Алесь завярнуў у Барановічаў двор. У хаце было цёмна. Кухоннае ж акно было асветлена. Асветлена было перад ім на дварэ непадмецепае смецце — дробна скрышаны сухі лом, сухое вецце і кара. У кухні, напроці акна, Ганна нешта разглядала на стале, прыгнуўшыся над ім. Яна была адна і ўздрыганулася знячэўкі, калі Алесь стукнуў дзвярыма. Азірнулася на яго і ўстала насустрач.

— Я думала, мама... Яна да вас пайшла.

— Пайшла ўжо ад нас... Ты адна?

— Як бачыш.

— Рада, што я прыйшоў?

Яна паглядзела ў вочы яму, і каб не думаў ён пра каморніка, быў бы ўпэўнены, што рада яна яму.

Цікаў павольна за сцяною гадзіннік, каля печы ляжалі вяслы цыбулі. Ціха было.

— Я цэлы дзень цыбулю сёння звязвала,— сказала Ганна, і голас яе злёгку дрыжэў.

— А я зранку зямлю мераў.

— А днём?

— На сходзе быў... А вечарам да цябе прыйшоў.

— Бачу, што прыйшоў.

— Рада?

— Нашто ты пытаеш.

— Бо ты стала зусім іншаю, як раней была... Ты ж сама павінна ведаць. Ну прызнайся... Гэта ж так?

Моцна цікаў гадзіннік за сцяною.

— Хіба ж я не праўду кажу?

— Якую праўду?

— Нашто ты перапытваеш? Ты ж добра ведаеш, пра што я гавару. Ты ж ведаеш... Ведаеш.

— Алесь...

— Што, Ганна?!

— Ты... пачакай.

— Што?.. Нашто?..

Надзвычайна моцна цікаў гадзіннік у цёмнай хаце, недзе па той бок адчыненых дзвярэй. І ўсё ж было ціха, надзвычайна ціха. Цішыня гэтая стаяла па кутках, стаяла каля адчыненых і зачыненых дзвярэй, ляжала на сценах, была ў чырвоным святле малой лямпы. Доўгаю яна была і нерухомаю, і яшчэ большаю стала, калі Ганна заплакала. Ганна лягла лбом на зложаныя на стале рукі.

— Ты скажы, Ганна, і я пайду... Ты скажы... Не плач ты, не маўчы... Скажы... Гавары...

Ганна нічога не сказала. Бялела яе шыя пад адценнямі валасоў, над тым жа знаёмым усё рудым каўнерыкам.

— Ну скажы... Ну я пайду... Іду...

— Не ідзі-і-і.

Ён палажыў ёй руку на галаву.

— Не ідзі ты, Алесь...

— Ганна, што з табою робіцца?.. Чаму ты такою стала?.. Ганна?..

— Нічога...

Яна выцерла рукавом вочы, паправіла лямпу. Устала з-за стала. Алесь стаяў блізка каля яе. Хмурны, пануры.

— Гэта я так заплакала, Алесь.

— Так не плачуць.

— Чаго ты раззлаваўся на мяне?

І яна маўкліва паглядзела на яго.

— Родненькая, не трэба так. Годзе ўжо...

Яна не дала скончыць. Падступіла на крок бліжэй, глянула роспачнымі вачыма ў твар яму. Тады ён узяў яе за плечы і прыціснуў яе да сябе, ілбом прытуліўшыся да яе растрапаных валасоў. І чуў, як стукала ў яе сэрца. Яна сама тулілася да яго.

— Ганна, ты ж такая, як і раней была. Нікога няма больш... Годзе чакаць ужо... Не трэба больш... Разам будзем. Ты скажы... Скажы ты. Ну?.. Ганна...

Галава яе зноў затрэслася ад плачу.

На двары нехта прайшоў цяжкімі крокамі.

## III

Аднак назаўтра Алесь быў повен узбуджанасцю трывогі. Як бы недавер'е было да Ганны ці адчуванне нейкай яе няшчырасці, незалежнай нават ад яе самой.

Быў той дзень апошнім днём перамеру зямлі. І, му-

сіць, адным з апошніх цёплых дзён. Ужо адчуваліся блізкія халады, і голыя дрэвы ў садах набывалі колер сухой глыбокай восені. Хоць і быў той дзень цёплым і ясным,— дзьмуў вецер.

Былі ўмяркаваны ўжо ўсе спрэчкі і нездаваленні зямлёю; з самай цеснай вуліцы некалькі хат згадзіліся высяліцца, некалькі чалавек чужых узялі зямлю і пляцы — і павінна была некалі на весну вырасці, трохі наводшыбе ад мястэчка, новая вуліца. Блытаная і цяжкая справа падыходзіла да канца.

Зранку прыйшоў белагаловы Клемусь — успеў дачуцца ўжо, што дзяк пачне вучыць граць; сам ён даўно ўжо выбраў для сябе кларнет. Прыйшоўшы, ён адразу пастараўся ўпэўніцца ад Алеся, ці праўду гаварыў учора некаму вечарам дзяк. Ён распытваў нават пра ўсялякія дробязі ў гаворцы з дзякам, курыў звыклыя камсамольскія «пушкі» і цыкаў сліваю праз зубы ў качэргі. Старац моўчкі заплятаў навітымі з мочанага лыка вяровачкамі пратаптаную дзірку ў лапці. Клемусь быў рад, не мог захаваць свайго захаплення. Маці паліла ў печы.

— Давай, Алесь, вып'ем,— сказаў Клемусь.

У Алеся і самога да гэтага быў настрой. Але ён сказаў:

— Вы, сукіны сыны, п'яце і падрываеце аўтарытэт.

Клемусь трохі засмуціўся, нават пачырванеў і адказаў:

— Хто табе сказаў?

— Гэта не важна — хто сказаў.

— Не, ты скажы, хто.

— А табе не ўсё роўна, хто сказаў.

— Брахня. Гэта мала калі бывае.

— Вы п'яце і чорт вас ведае, што робіце, п'яныя. Хуліганамі робіцеся, ліха вам... Тамаш гаварыў, калі ты хочаш ведаць! Пляваў, лаяў на чым свет стаіць. І праўда. Што гэта за работа, хлопцы! Ты гавары, што гэта было ў вас у тую нядзелю?

— У якую нядзелю?

— Што ты віляеш?

— А-а-а, у тую?

— У тую.

— Нічога не было. Мы з Петрыкам выпілі ды з дзяўчатамі дурэлі.

— А чаго Макаркава дзяўчына ўцякла адтуль з плачам?

— А чорт яе ведае.
— Дык от... Няможна так, браткі. Калі выпіў дзе, дык спаць ідзі, каб цябе тады не было ні відаць, ні чуваць...
Клемусю надакучыла гэтакая гаворка.
— Гэта сёння з зямлёю канчаецца?
— Сёння.
Алесь сеў абувацца. Клемусь усё цыкаў у качэргі сліпу. Алесь моўчкі накручваў на ногі анучы і ўсцягаў боты. Пахла ў хаце гарачымі бліпцамі і скваркамі. Ад агню ў печы грэла на ўсю хату.
— Гэта сёння гаспадынька з хлебам? — сказаў старац.
— Але, хлеб сёння пяку,— адказала маці.
Навала смутку па Ганне душыла Алеся. Падазронасць і трывога не прападалі. Вечарам думаў ён канчаткова сказаць, каб яна паведаміла бацьку пра вяселле.
— Алесь, давай вып'ем,— зноў падышоў да яго Клемусь.
— Давай,— сказаў Алесь.
— Я прынясу.
— Толькі — раз-два.
— Як бачыш.
Клемусь выскачыў з хаты і праз хвілін пятнаццаць прынёс у кішэні картовых галіфэ пляшку. Маці вынесла ў сенцы бліпцоў і скварак і сама разам з хлопцамі выпіла чарку. Хлопцы выпілі па дзве вялікія чаркі. Неўзабаве з'явіўся з мокрымі вужышчамі пад пахаю Тамаш і таксама выпіў чарку.
— Люблю скваркі салоныя,— сказаў ён, кусаючы бліпец.
— Дзе вы, дзядзька, вужышчы намачылі? — сказаў Клемусь.
— Забылі ўпесці ўчора ў гумно, пачавалі на прыгуменні, дык ці гэта ад расы якое, ці ад туману.
Раптам дзяк з'явіўся ў сенцах.
— Добры дзень!.. Снедаеце?
— Снедаем. Калі ласка.
— Ежце па здароўе... я вас доўга затрымліваць не буду. Я от заяву напісаў публічную. Я папрасіў бы вас на момант у хату.
Алесь увайшоў. Старац абуваў лапаць.
— От я прачытаю.
Дзяк дастаў з кішэні паперку і ціхавата прачытаў:

«Служачы дванаццаць год дзякам, я перакапаўся ў тым факце, што бога няма, а рэлігія з'яўляецца сродкам для атручвання народнае свядомасці. Хрыстос, калі б ён сапраўды быў, сам бы асудзіў дзеянні духавенства, якое, прапаведуючы бога, зусім аб ім не думае і ў сваім асабістым жыцці з'яўляецца фактычна паслядоўцам атэізму. Не хочучы больш з'яўляцца дапаможнікам атручвання народнае масы, я выракаюся рэлігіі, яшчэ раз пацвярджаючы, што яна з'яўляецца ашуканствам і дурманам для народа. Былы дзяк Якуб Скварчэўскі».

— Гэта мы выкарыстаем для антырэлігійнай прапаганды,— сказаў Алесь.

— Можна.

— Толькі каб трохі сталей напісаць як. Слова атэізм...

— Можаце перапісаць самі, а я падпішу. Як умеў, так пісаў. Што ж я — класаў не праходзіў.

— Ідзі, чалавеча, чарку на дарогу выпі і пагрэйся,— сказаў Тамаш, усадзіўшы галаву ў хату і зірнуўшы на старца.

Старац, як дуж, шмаргануў у сенцы. Там яму засталося яшчэ па дзве чаркі. Клемусь увайшоў у хату. Алесь апрануўся ісці на поле. Дзяк развітаўся і пайшоў.

— От каб была скрыпка, я вам заграў бы,— чуўся з сяпец голас старца.

Клемусь пачуў і выйшаў у сенцы:

— Я ад Юрася прынясу,— сказаў ён.

— Прынясі, сынку,— падаў голас Тамаш.

Праз дзве хвіліны Клемусь з'явіўся са скрыпкаю. Тамаш сеў на парозе і дастаў з кішэні вішнёвы папяроснік. Старац патрумкаў пальцамі, падкруціў струны, прыпёр скрыпку да жывата і даў паотліў смыка па струнах. Зайграў нешта падобнае да полькі і граў па двух струнах адразу. Клемусь сеў каля яго і пачаў пастукваць у такт нагамі. Утуруючы сабе на двух струнах, старац заспяваў:

Ды, божа ж мой вышні,
Ды ці я ж у цябе чалавек лішні,
Ды ці я ж калі ў царкве бываю,
Ды ці я ж калі карчму мінаю...

І раптам як бы надакучыла яму гэта. Сціх, падумаў і пачаў другое:

За гарою камяною
Расце жыта з лебядою,



Кузьма Чорны (першы рад, пяты злева) з групай беларускіх пісьменнікаў сярод байцоў і камандзіраў Чырвонай Арміі. *1925 г.*

А шапіца з асакою.
Там дзяўчына жыта жала,
Правай рукой серп дзяржала,
Левай слёзы выцірала...

І ўсё ўтураваў сабе па двух струпах.

— Зайграў бы ты што вясёлае,— папрасіў Клемусь.

— Вясёлае? Можна і вясёлае:

З-пад дубовага карэння
Ручаінай вада бегла...

— Хіба ж гэта вясёлае?

— А якое ж табе весялосці патрэбна?

— Каб усё ходырам хадзіла.

— Ходыра-а-ам? На табе ходырам:

Заскачу, заскачу,
За старога не хачу...

— О, гэта самы раз!

А той усё граў і нават паварушваў у такт плячом. А пасля і лапцямі пачаў паварушваць. У сенцы пачалі збірацца суседзі. Маці, дастаўшы з печы скавараду, высунула галаву ў сенцы:

— Ціха, вар'яты, у будзённы дзень гульню распачалі. Зараз усю вуліцу зберацс. Клемусь, гэта ўсё з цябе свет гарыць!

— Нічога, цётка, от няхай крыху падвяселіць народ. Нічога яму не зробіцца. Няхай грае.

І прыбраў з стала пустую бутэльку, закінуўшы яе на гару. У дзвярах чуліся галасы:

— От табе і музыка, хоць бярыся ў бокі ды скачы.

— Дык жа ён, падла, лоўка грае.

— Не так грае, як спявае.

— А што ён, можна сказаць, з спеваў гэтых сваіх ды з модлаў хлеб есць... Гэта ён сваю скрыпку носіць ці гэта тут дзе дастаў?

— Даўней, дык старцы з лірамі хадзілі, а гэта з скрыпкамі пачалі.

— Не, гэта Клемусева скрыпка.

— Але граць умее.

— Старцы да гэтага здатныя.

— От смыкам пілуе...

Старац тым часам ледзьве варушыў смыкам. Скрыпка кідала ўжо толькі кароткія, абрывістыя зыкі ўтуру, адзначаючы такт новай яго песні:

Маці, маці,
Салдат у хаце;
Грукае,
Стукае,
Не дае спаці.

Алесь стаяў, зусім апрануўшыся. Глядзеў з хаты ў сенцы. Клемусь варушыў у такт каленьмі, старац лапцем.

— Пакіньце, вар'яты,— угаворвала маці, завіхаючыся каля печы.

— Сапраўды, хлопцы, даволі,— сказаў Тамаш.

Старац палажыў скрыпку, устаў, паправіў на сабе порткі і нацадзіў з кагадзе прынесенай, амаль пустой бутэлькі яшчэ з чвэртку чаркі, сказаў вінавата, аглядаючыся на ўсіх:

— От яшчэ, з вашага дазволу, цмакану гэтую рэшту за ваша здароўе ды пайду сабе... Будзьце здаровенькі.

— На здароўе.

Выпіў, смачна кракгануў, абцёр губы і, жуючы на хаду падскварку, стаў начэпліваць на сябе пакрыж торбы. Падперазаўся па світцы вузкаю рыжаю папружкаю і падаўся з сяней.

— Бывайце здаровы, дзякуй, людцы добрыя, каб вы заўсёды мелі, уволю спажывалі і бедных надаралі. Каб вашым дзядам у зямлі лёгкае паляжанне, а дзецям і ўнукам па гэтым свеце панаванне. Жывіце здаровы, будзьце вясёлы. Заставайцеся здаровенькія.

— Хадзі здароў.

І ён пайшоў з двара, шкрэбаючы па зямлі сухою сваёй нагою.

— Ну, то хадзем,— сказаў Тамаш.

— Хадзем,— адказаў Алесь.

Людзі пачалі разыходзіцца. Ідучы поплеч з Алесем, Тамаш гаварыў:

— От усё і скончылася. Усёй нашай і камісіі канец. Да халадоў управіліся, перамералі, перарэзалі. Няхай цяпер, хто нездаволены, прывыкае. Прывыкне, палаецца, падзякуе... Страшна было, як браліся за работу, а гэта — неўзаметку прайшло... Ворагаў мы шмат з табою нажылі. Каб, скажам, палякі, ці што якое іншае, дык хоць і мне, старому, уцякай — з свету зжывуць; Барановіч першы ўзяўся б за мяне... Хоць ты яго дачкі не выпускай з рук, я табе апошні раз гавару.

— Страшна, што мы тут кашу гэткую варым?

— А пічога, добра. Што мне, я, можна сказаць, і пажыў толькі цяпер... Шкадую толькі аднаго — маладосці ніяк не вернеш. Немач мяне агортае, гэта я чую. Мацуюся-мацуюся, але і яна не паддаецца: хто каго! Старасць, браце, пічога не парадзіш.

— Цяпер дактары абмалоджваюць старых.

— Чуў я. Але дзе там к чорту ён абмалодзіць. Унь у іншага, як ідзе, дык ззаду парахня сыплецца. Як ён яго абмалодзіць к чортавай матары. Можа, ён што-небудзь такое і зробіць, надлечыць так яго на год ці два,— я не кажу, але каб маладым зрабіць!..

— Маладзеюць і з бабамі справу маюць...

— Эт, гаворка.

Дзьмуў вецер і халадзіў зямлю.

## IV

Сінь неба была чорнаю і густою. Усё больш ўзнімаўся вецер. Яшчэ трымалася цеплыня над зямлёй, але чуліся блізкія халады. Поле было пустое, абветранае. Пад ветрам шумела сухая трава, гойдалася піжма і пробаваў зеляніцца, яшчэ цвёрды, чабор.

Юрка з бацькам стаяў на каляіністай дарозе. Бацька гаварыў:

— Здаецца, гэты кавалак нам адзначылі?

— Гэты. Я на першай тычцы нажом знак зрабіў.

— Некалі вясною авёс пасеем.

— Авёс?

— Ва ўсіх ярына будзе... Хадзем.

— Я застануся.

— Чаго?

— Так.

— Заставайся, калі гэтак хочаш.

Юрка пайшоў да кустоў, дзе стаялі і сядзелі на зямлі мужчыны.

— Чаго ты, малы, трэшся тут,— жартаўліва сказаў Тамаш,— змерзнеш.

Юрка чмыхнуў носам і адказаў:

— Мне не холадна.

— Цяпер спраўляй, сынку, добрую снасць, набывай каня, ды...— бачыў свой кавалак?

— Бачыў. Я нават на тычцы нажом знак зрабіў.

— Маладзец, сынку.

Юрка сеў на травяную каляіну, поплеч з Тамашом. Тамаш даваў закурыць каморніку. Барановічаў кум збіраў і складаў каморніцкія прылады. Скручваючы сталёвую стужку, ён заўважыў:

— Чорт яго ведае, можа, яно і лепш будзе цяпер.

Тамаш не сцярпеў:

— А ты ж раней охкаў усё ды бедаваў.

— Не сказаць, каб я і охкаў лішне.

— Ну, то так лямант паднімаў.

— Калі гэта я паднімаў той лямант?!

Каморнік падышоў да Алеся і сказаў:

— Праз дзён чатыры я выязджаю. Трэба гэтымі днямі вам разлічыцца з сельсаветам.

Алесь вельмі панура зазначыў:

— Разлічымся.

Каморнік нагроб сухога лісця на дарозе і пачаў выціраць свае чаравікі. Жаўтаватая зямля расціралася па іх і высыхала.

Мужчыны разыходзіліся. Шмат хто, як бы за ўсё жыццё не наглядзеўшыся на зямлю, абыходзіў свой кавалак і аглядаў новыя межы, вызначаныя калкамі. Мужчыны хадзілі па полі. Барановічаў кум патупаў каля каморніка і сказаў:

— Вы таксама з нейкае вёскі родам?

— Ну так, я з сялян.

— І таксама бацькі займаюцца цяпер зямлёю?

— Таксама... Жывуць на зямлі па той бок граніцы.

— А вы адтуль родам?

— Адтуль.

— Дрэнна вам, што і паехаць туды не можаце ніяк.

— Так, хочацца бацькоў пабачыць.

— Бацькоў,— гэта, тымчасове, раз, а яно і гаспадарка ж там ёсць. Вы хоць і не маеце патрэбы ў гаспадарцы бацькаўскай, а ўсё ж яно смялей, калі за плячыма ёсць свой, можна сказаць, тымчасове, куток, дзе прыперціся ва ўсякую гадзіну льга. Гэта правільна. Вам цяпер, скажам, ідуць грошы кожны месяц, жывяце вы, дай божа на ўсякага добрага... Выбачайце, я, тымчасове, чалавек просты... Дык яно вам цяпер і не ў галаве... Чалавек вы малады... А тым часам ніколі не цурайцеся зямлі. Няхай яна будзе сабе ў вас за плячыма. Часам давядзецца, жывучы на свеце, прыперціся да яе. А яна заўсёды прыме, і не абы-як

рыме. Бо, можна сказаць, яна заўсёды гатова для чалавека,— прыйшоў да яе, не пашкадуй для яе поту, рук, і яна табе аддзякуе... Жывучы, чаго не бывае на свеце. Усё здараецца, тымчасове, з чалавекам. Дык прытулак заўсёды павінен быць, дзеля ўсякага здарэння.

Каморнік абкручваў папераю свае прылады.

— Унь у нас жыве тут Мікалай Жыгунец, можа, бачылі калі... крываносы такі чалавек. Дык ён, можна сказаць, чалавек, як верабей пад страхою, жыў, па свеце цягаўся, брадзяжыў, яго з бацькаўшчыны вайною выперлі. Рэзалі мы тут от зямлю гэтую, дык ён, тымчасове, і слухаць не хоча. На чорта мне тая, кажа, зямля. Я і так пражыву. Займацца гаспадаркаю трэба, заводзіць усё — а клопат, а небыт,— а так вальней. Я гляджу на яго, дый думаю сабе — пічога, чалавеча, тымчасове, з гэтае гаворкі твае не будзе. Пажывеш на свеце колькі год, дык сам тады пашкадуеш, што не ўзяў зямлі сабе кавалка, калі людзі добрыя давалі. Вядома што. От пакуль што жыве, а тады паскача, як прыйдзецца ў чужых людзей пад плотам уміраць. Як гэта жыць, каб свайго прытулку не мець! Гэта не чалавек, а пасвісцёл нейкі, бізун, бадзяга... Валацуга... Ён, праўда, не гультай, хоць бы сабе і гэты самы Мікалай крываносы. Жыгунец. Ён робіць, ён і мае. От ён боты сабе новыя справіў, ужывае добра, пасля работы заўсёды чарку вып'е, гэта то правільна. Але гэта пакуль ён яшчэ сілу мае і працаваць можа. Ну, а калі, скажам, немач яго якая агорне, ці што. Тады ж ён прапаў, як рызыкант на вяселлі. Гэта ні то што які-небудзь рамеснік, што ён мае да самае магілы свае талент у руках. Шавец, скажам, кравец... Ён сабе заўсёды сядзіць і калупаецца патроху. Калупаецца сабе. А ў гэтага — сёння работа ёсць, а назаўтра і няма. От што. Я ўсякае здарэнне бачыў на свеце, думаеце што?! Бачыў я, тымчасове, усялякіх. Іншы кажа, што ён — тое ды гэтае. А тут выходзіць, што толькі і цымусу ў яго, што ён, тымчасове, пагаварыць умее. Языком папрацаваць, дык у яго на гэта хапае досціпу. А калі дзе што якое, дык, тымчасове, клёку з яго жаднага няма. І быць не можа. Калі гэта ўсё нясталыя людзі! За плячыма павінна што-небудзь у чалавека быць, каб заўсёды прыперціся да чаго льга было...

Каморнік зляжыў прылады і разглядаў свае, абветраныя палявым пылам, гетры.

— Я чалавек, тымчасове, такі... Я, можна сказаць, па-

бачыў свету, пабачыў людзей... Я вас, таварыш каморнік, паважаю і нават гонар мне самому, што вы ў кума майго закватаравалі: не трэба вам цяпер гаспадарка, дык на ўсялякае здарэнне дрэнна, што няма як, значыць, трымаць звесткі з домам... Я, здаецца, нічога тут такога не сказаў, а ўсё, як найлепей... Ну, на вясну ярыну будзем сеяць. Памерана, здаецца ж, стараліся. Каму якая крыўда і ёсць, дык патроху забудзецца. Усё на свеце забываецца... от як мой Сымонка — сынок памёр, пухам яму зямля, дык думалася, што век нудзець буду, а тым часам усё неяк згладзілася, душа неяк паспакайнела. І цяпер шкада, шкада і горна часам бывае, але ўсё ж не тое. Я гэта адкрыта гавару, бо ўсякі ведае, што не вораг жа я свайму роднаму дзіцяці. Усё забываецца, праходзіць. Таксама і тут, і ўсюды. Будзем жывы — меркаванне нейкае прыйдзе.

Тамаш падаў голас:

— Гэта ты сам крыўду збіраешся забываць ці за нейкага іншага гаворыш?

— Я і за сябе і за ўсіх. Я то не крыўдую ні на кога. Зямля як зямля. Я толькі — гэта да слова прыйшлося.

— Ды табе то чаго крыўдаваць. Якраз бо табе папалася такое месца, што няма чаго крыўдзіцца.

— Яно чаму няма. Самы ўзгорак, а там жа пескавата, ліха яму. Каб трохі, дык адзін чвір.

— Дык, значыць, нядобра?

— Я не кажу, што нядобра.

— А як жа?

— Неяк жа будзем жыць і рабіць.

Каморнік апратаў свой плашч. Барановічаў кум зноў пачаў гаварыць:

— Ну, пэўна, што каб вельмі была мне вялікая крыўда, дык я сказаў бы. А калі там па які грош, як кажуць, мае пярэйдзе, дык таквеле бяды. Зноў жа, я не кажу, што мяне пакрыўдзілі. Я на цябе, Тамаш, і на цябе, Алесь, і на таварыша каморніка ды сказаць і на ўсю камісію не пакрыўдзіўся. Я нічога дрэннага не скажу. У мяне нават і ў думках няма...

Тамаш плюнуў:

— Цьфу, каб ты згарэў, гэтакі чалавек. От гаворыць ён, гаворыць, будзе цэлы дзень гаварыць, а нічога не скажа. Што ты мне тут зубы загаварваеш, ты мне гавары выразна.

Каморнік зарагатаў.

— Ты мне гавары выразна. Чым ты нездаволены?

— У мяне за ўзгоркам, у канцы кліна, лог нейкі. Жыта будзе пад мокры год вымакаць.
— То ты б так адразу гаварыў.
— Я ж гавару. Як жа табе яшчэ гаварыць...
— Колькі там таго логу, як старой бабе сесці. Крокаў пяць. Колькі там яго!
— Можа, там і пяцёх крокаў няма, але чаму гэта канешне, каб мне папаўся клін з логам? Што я за горшы? Няхай бы вы, тымчасове, далі каму іншаму, дык не. Канешне мне!
— Ну, то давай памяняемся.
— Нашто нам мяняцца. Няхай будзе пры свойцы.
— Дык як жа?
— А так, што нядобра вы, браткі, робіце.
Алесь раптам усхваціўся з зямлі:
— Падавай, дзядзька, на нас у суд ці куды іначай, што мы сабе лепшую зямлю пабралі, а табе і яшчэ каму самую горшую пакінулі. Падавай на нас, як на злачынцаў.
— Што ты, браце, пабойся ты бога. За што мне на цябе ў суд падаваць... На цябе ў суд? Няхай мяне бог крые.
— Ну, дык няма тут чаго лішне і разводзіць гаворку да поўдня, размазваць гэтыя свае крыўды.
— А што ж, маўчаць?
Каморнік зноў зарагатаў. Сеў на мяжу і пабліскваў вясёлымі вачыма ад рогату. Алесь заспакоіўся і пацвяліўся з Барановічавым кумам:
— Мы неўзабаве возьмем ды зноў перамер будзем рабіць, толькі іншы ўжо. Ніякіх нікому кліноў, усё будзе ўсіх.
— Гэта камуну, значыць, зрабіць?
— Камуну.
— З нашым народам гэтага не зробіш, бо ў нас народ вельмі сквапны на чужое. Усякі ўсё будзе цягнуць сабе, як найбольш.
— Адкуль жа гэта вядома?
— Як адкуль, не відаць, які ў нас народ, ці што?
Тамаш усміхнуўся:
— Яно відаць, чаму не!
Каморнік устаў ісці. Алесь заўважыў цвёрды рух яго постаці, яго дасціпнасць у адзежы і думаў пра ўчарашняе спаткание з Ганнаю.
— Пойдзем? — сказаў каморнік.
Тамаш на хаду пачаў закурваць. Юрка ішоў поплеч

з ім, перадумваючы гаворку, якую чуў кагадзе. Ішоў і пахвостваў дубцом па белай саломе высахлай мятліцы.

— Ты, сынку, заўсёды з старымі кампануеш,— сказаў яму Тамаш,— сталы ты хлапчук. Гаспадар з цябе добры павінен быць. Спакойны ты хлопец... Шкадуеш мамы?

— Шкадую.

— Нудзіш?

— А-ей як.

— Нічога, сынку, перажывецца. Выгадуешся, падрасцеш, будзеш жыць. Лепш будзеш жыць за нас усіх.

Юрка маўчаў.

— Вучыцца табе трэба.

— Я ж вучуся. Чытаць і пісаць ужо ўмею добра.

— Мала, трэба больш.

Каморнік і Алесь выперадзілі ўсіх. Ішлі поплеч па рыжых паплавах.

V

Яны адразу адчулі непрыемнасць блізкасці адзін да аднаго.

— Я спяшаюся чым найхутчэй выехаць,— сказаў каморнік,— я вельмі заняты цяпер. Што б там ні было, а ў панядзелак трэба ехаць. Так што ты, таварыш Алесь, націсні там на ўсе застаўкі ў сельсавеце, каб да нядзелі нам разлічыцца. Яно так і па ўмове выходзіць.

Алесь моцна сказаў:

— Няўжо ж не разлічымся!

Каморнік з непаразуменнем паглядзеў на Алеся. І раптам здагадаўся. Ён хацеў як-небудзь застацца пазадзе, каб ісці аднаму. Твар яго стаў такім, як бы ён не збіраўся больш сказаць ніводнага слова. Алесь толькі цяпер пачаў заўважаць яго простую постаць, моцную, сухую шыю, вастраваты твар. Ішоў ён спакойна, ступаў цяжка, хоць ногі меў тонкія і зграбныя. Зялёны гарнітур яго — галіфэ і фрэнч — прызначаны, мусіць, да працы на полі, у некаторых месцах пачаў выцірацца. Прыгожа вісеў цераз плячо скураны футарал з дробнымі каморніцкімі рэчамі.

Яны ішлі поплеч і маўчалі.

«Мусіць, голіць шыю»,— падумаў Алесь, гледзячы на стаўбунаватую каморніцкую шыю. Шыя ззаду была чырванаватая ад загару і палявых вятроў.

Усю дарогу не сказалі ніводнага слова. Вуліца была

пустою і шэраю. І раптам нудна стала ім — і аднаму, і другому. Як бы зусім не было кожнаму з іх за што рук заняць. Як бы ўсё было пустым і непатрэбным.

— Я пастараюся як найхутчэй, каб з табою разлічыцца,— востра сказаў Алесь.

— Вельмі будзе добра,— так жа сама адказаў каморнік.

І засталіся так стаяць некалькі хвілін напроці Барановічавай хаты. Абодва думалі пра адно. Цёмныя Ганніны валасы пад вузкім каўнерыкам рудой сукенкі яе на белай шыі былі ў вачах кожнага. Яна адчувалася імі абодвума — прывабная, вясёлая, сумная. Далёкая і блізкая. Усё было ў ёй, і яна была ва ўсім.

Алесь. Ён ведаў яе з маленства, пасля ж раз неяк нечакана адрозніў яе ад усіх іншых дзяўчат і тады пачаў гарэць ёю, радавацца і сумаваць.

— Я вельмі маладая, каб цяпер ісці замуж,— сказала яна раз яму,— можа, яшчэ пачакаем трохі. Пачакаем яшчэ, ну... да канца першае зімы.

Ён радасна схваціў яе на рукі і панёс некалькі крокаў.

Было гэта мінулай вясною.

Яна ж адчувала ў ім сілу, радасную блізкасць, гарэла яго блізкасцю.

— Можа, нам не трэба адкладаць на такі доўгі час,— сказаў ён,— можа, тады што-небудзь у нас пераменіцца.

— Можа і так,— адказала яна,— можа, і не трэба чакаць канца зімы... Можа, і раней трэба.

— Увосень,— папрасіў ён.

— Увосень,— сказала яна.

І з гэтага часу, калі ўсё ўжо было вырашана, яны пачалі прывыкаць адно да аднаго. Яна прыбягала роснымі агародамі і паплавамі да яго кожны вечар, ён абхватваў яе рукамі, раскідаў тварам яе валасы, несціў, насіў на руках, і яна ўся дрыжэла ад гэтай шалёнай блізкасці мужчынскай сілы, тулілася ўся да яго, маўчала, свяціла вачыма; рабілася тут каля яго малою і кволай; і разам з тым вялікай і моцнай жаночасцю сваёю.

Пасля ж, як устанаўляцца пачала прывыкласць, не так уже моцна гарэлі агні і не так востра хваляваліся буры.

— Трэба хутчэй,— гаварыў ён,— бо нешта халодзіцца між намі.

— Давай хутчэй,— адказвала яна.

Канец лета прынёс большую прывыкласць, а восень — адзнакі лёгкага суму, як бы па нечым далёкім, што толькі

наманьваецца, ніколі не прыйдзе, бо, можа, і не існуе, і прынесіць семнаццацігадовай дзяўчыне няведанне, чаго сама яна хоча.

А тут прыйшлі на дапамогу бацькі, пачаўшы нагаворваць ёй супроць Алеся. Што яна будзе гараваць за ім, што цяжка будзе жыць, бо ён толькі што гаспадарку заводзіць, што ён галетнік, што нават і пасагу шкада даваць яму.

Тады яна моцна пачала сумаваць.

Каморнік пазнаў яе днём на вуліцы, жывучы летам у суседняй вёсцы і прыйшоўшы раз у мястэчка. Назаўтра ён зноў, наўмысля ўжо, прыйшоў, каб пабачыцца з ёю.

— Мы з вамі былі знаёмыя ў горадзе,— сказаў ён.

— Былі трохі,— адказала яна.

Ён яшчэ некалькі разоў прыходзіў. Пасля ж, як пачаў тут мераць зямлю, закватараваў у яе хаце.

І сама яна тады не ведала, да катарага з іх цягне яе. Гэты быў заўсёды на вачах. Алесь прыходзіў часта. Яна поўнілася жаданнем кахання і здавалася было ёй, што кахае яна іх абодвух. Пра гэта ёй хацелася сказаць тады Алесю, калі застаў ён быў яе адну дома, і яна ўвесь час старалася адважыцца на гэта.

Пасля таго як пайшоў ад яе ў той вечар Алесь, яна сумавала адна на цёмным двара. З таго часу толькі дзень прайшоў і вельмі доўга цягнуўся гэты кароткі час.

Каморнік увесь час гэты адчуваў, як усё больш і больш вырастала ў ім жаданне, непераможнае і моцнае, быць з ёю. З таго часу, як бачыў ён у горадзе яе і мала заўважаў, яна вырасла, пахарашэла больш. Здалося яму (ці не заўважыў ён тады), што вочы яе пачарнелі, былі шырокія і вострыя адценнямі сваімі. Ён ведаў пра Алеся і быў упэўнены, што Алесь на другарадным плане ўжо ў яе. За апошнія дні ён часцей, як калі, памагаў ёй цадзіць малако, жартаўліва памагаў ёй і мацеры шаткаваць капусту і сваёй дасціпнасцю ўсё больш падабаўся ёй і заслапяў сабой Алеся. Яна менш неяк пачала гаварыць цяпер у хаце аб усялякіх хатніх справах. У гэты дзень, раніцою, маці заўважыла гэта:

— Што ты ўсё маўчыш... Нейкая ты маўклівая зрабілася...

— Чаму маўклівая... а што ж гаварыць...

Яна адышлася ад стала, на якім перабірала фасолю, і глянула як бы ненаўмысля ў хату з кухні. Спаткалася з

яго вачыма, і абое яны непрыкметна ўсміхнуліся адно аднаму.

Нядобра было ім абодвум маўчаць так і стаяць тут цяпер пасярод вуліцы, напроці Барановічавай хаты. Адзін аднаго бачылі і адчувалі навылет.

Каморнік тут, на вуліцы, ад усяго навакольнага вызначаўся сваім выглядам. І выцерты і запылены гарнітур яго заставаўся ўсё ж зграбным; дасціпным быў ён сам. Стаяў, зрэдку паглядаў на гетры, перацягненыя рамянямі, і не ведаў, што сказаць, каб толькі перарваць гэтую маўчанку. Алесь напроці яго здаваўся нязграбным, у вялікіх ботах, картовым, парыжэлым гарнітуры. Твар быў абветраны і загарэлы таксама, але не было на ім слядоў таго догляду, што вызначае твар чалавека, які мае час клапаціцца аб сваёй прыгажосці. І от патроху Алесю пачала падабацца гэтая маўчанка. Ён бачыў, што каморнік не ведае, як бы найхутчэй развітацца з ім і пайсці на сваю кватэру. Як бы гэта адчуў Алесь яго слабейшым за сябе і сказаў:

— Пачакаем мужчын, унь засталіся ў канцы вуліцы. Няхай падыйдуць, я пайду з імі разам... Пачакайма...

Каморнік нездаволена заўважыў:

— Яны стаяць там...

— Нічога, пастаяць ды падыйдуць.

І яшчэ, паглядзеўшы ў твар каморніку:

— Век стаяць не будуць.

Каморнік зразумеў і ўскіпеў. Працягнуў Алесю руку і сказаў.

— Часу мне няма чакаць іх. Бывай.

Алесь паціснуў яму руку і пайшоў назад, у канец, да мужчын. Каморнік увайшоў у вузкі Барановічаў двор. Адчуваў сябе лёгка, як чалавек, які скончыў цяжкую справу, і цяпер перад ім толькі добрыя вынікі. У адчыненых сенцах Ганна падсявала муку, запыленая ёю, рухавая, з голымі рукамі. Ён стаў на парозе, усміхаючыся ёй.

— Толькі не ўздумайце памагаць,— сказала яна жартаўліва.

— А от памагу.

— Ідзіце ў хату, а то я вас запылю ўсяго.

— Я не баюся.

— А от і пабаіцеся, як усяго абсыплю мукою.

— Абсыпце.

— Ах, які паслушны.

— Гэта як калі.

Памаўчалі.

— Сапраўды, ідзіце, а то...

— А то замінаю?

— Не...

— Не, не!..

Ён падышоў да яе і палажыў руку ёй на плячо, так, як рабіў часта, толькі цяпер больш рашуча. Гэтую цвёрдасць і сілу яго рукі яна адчула адразу... От ён палажыў абедзве свае рукі ёй на плечы. Яна неяк разам апусціла сіта на зямлю, апусціла ўніз вочы і загарэлася ўся яго блізкасцю.

— Запыліцеся, я ўся ў муцэ.

Ён моўчкі ахваціў яе рукамі.

— Ціха, зараз увойдуць.

— Не ўвойдуць, чаго ты баішся... любая...

Ён першы раз сказаў ёй «ты», і гэта канчаткова зблізіла іх. І цяжка было ўжо разбурыць цяпер гэтую блізкасць.

У наступныя хвіліны яна як мага хутчэй старалася дасеяць муку. Работа валілася ў яе з рук. Яна ледзьве прыбрала ў сенцах, хвалюючыся, блытаючы думкі, поўная трывогаю новага шчасця. Успомніла Алеся і адчула, як вялікі і тупы камень лёг на душу. Пайшла ў гумно падграбці з тока сена. Ускідала вілкамі на стоўп, маўчала, трывожылася. Пахла сена, пахла зялепіва сухой травы ў аўсяцай саломе. Вясёлаю вільгаццю пахнуў ток, і мышынаю ціпшынёю гучэлі саламяныя куткі ў гумне. За гумном, за гумнамі, па агародах, і за імі, у полі, у лясах, у надхмарных бяздоннях маўчала восень; весялілася, сумавала, радавалася. У садзе трымалася пад лісцем вільгасць, раскашэльвалася на голлі дзікае птаства. Нячутнымі вятрамі плакалі дрэвы, весела і прасторна.

Ружы, піжмы і палыны зацвіталі і адцвіталі, зеляніліся і вялі ў дзяўчыпіным сэрцы.

## VI

І хто гэта так выразна можа чытаць на людскіх тварах? Хто гэта так умее залезці ў чужое сэрца і дазнацца там пра ўсё? Можа, яшчэ і сама Ганна не ведала выразна, якая важная часіна ў яе жыцці падыходзіць, а ўсе ўжо ведалі. Ведалі больш за самую Ганну і гаварылі больш, як ведалі. Ведалі нават, што Ганна гатова адрачы-

ся нават бацькоў, калі не будуць дазваляць ёй ехаць разам з каморнікам, ведалі, з якога дня і як пачалося ў Ганны і каморніка каханне, ведалі, колькі каморнік будзе браць гэтаю зімою пенсіі і колькі будзе браць, паслужыўшы два гады, каб адно было спакойна на свеце. Выходзіла, што бярэ ён нешта чуць ні восемдзесят рублёў кожны месяц, і от пачалі зайздросціць і Ганне і Барановічу. Нават кум Барановічаў і той гаварыў раз:

— Я чалавек незайздросны. І нікому ніколі я не зайздросціў і зайздросціць не хачу. Якім я ўрадзіўся, такім і памру. Чужога мне не патрэбна, каб мне адно бог даў здароўе сваё спажыць. Але магу сказаць, што Юлік, хоць і кум мне, але чалавек ён от які! Не мог хіба каморнік да мяне на кватэру застацца, ці што? І ў мяне хата не горшая за яго. Дык не, паўзахапы пабег, каб адно чалавека да рук прыбраць. Ї прыбраў. Лепшага зяця са свечкаю не знойдзеш. А хіба мая дачка брыдчэйшая ці горшая за яго Ганну?

Праўда, гаварыў ён гэта толькі сваёй жонцы, аднак жа назаўтра Сабастыяніха, як сталая жанчына і гаспадыня, гаварыла суседкам:

— Бог з імі, на што мне ў чужыя справы ўмешвацца, не мая гэта справа. Каму якая справа да каго... Гэта, гэты самы Янка Вашыновіч, дык жа ён злуе на кума свайго Юліка, што той маецца аддаваць за каморніка дачку. Памойму, чаго тут злаваць, калі і сапраўды, там дзяўчына, як лялька, адно паглядзець на яе. Яна, як кветка, гэтая Юлькава Ганна. І вучоная, і прыгожая, і натуры добрае, і працавітая. Яна табе ўсё зробіць, усяго дагледзіць. У яе не будзе, як у іншае, у хаце непарадкаў. Гэта не дзяўчына, а золата. Ні то што я што-небудзь маю проці Вашыновіча ці проці яго дачкі, яны мне аднолькавыя прыяцелі, і Вашыновіч і Барановіч, і не люблю я ў чужыя справы ўмешвацца, або ў чужую гаворку язык утыкаць, але далёка яшчэ той да Барановічавае Ганны. Гэта не абсудак, а праўда. Я не кажу, мае родныя, што Вашыновічава дзяўчына дрэнная ці якая-небудзь няўдалая. Не, нашто гаварыць, нашто выдумляць. І тая — і зробіць усё, і паслушная, і ўмее ўсё. І не брыдкая. Але калі паставіць іх поплеч, дык вядома, што Ганна... Няма чаго і раўняць.

На гэтым гаворка спынілася, але жонка Барановічавага кума назаўтра прыйшла сварыцца да Сабастыяніхі:

— Нашто ты гаварыла, што мая дачка нікуды не варта.

Што яна і няўдалая, і дурная... І нічога рабіць не ўмее, і брыдкая.

— Калі гэта я гаварыла?

— Учора.

— Каму?

— Людзям. Думаеш, я нічога не ведаю?

— Бо і не ведаеш.

— Ведаю.

— А ты чула, як я гаварыла?

— Чула.

— Каб ты гэтак царкоўны звон чула!

— Каб гэтак і чула... Усе людзі чулі, як ты маю дачку бэсціла. Што табе мая дачка зрабіла, што ты яе абгавар-ваеш. Яна табе шкоды якое нарабіла, ці што? Або я табе што прыкрае зрабіла?

— Чаго ты вяжашся да мяне?

— Людзі добрыя! Апалосквае чужыя косці ды яшчэ чаго вяжашся! Якая ты, ліха табе, святая!

— Я про тваю дачку нічога кепскага не казала.

— А што ж, я гэта казала?

— А можа, і ты, чэрці цябе ведаюць. Чаго ты прыстала, як смала! Я да цябе не іду падпімаць у цябе ў хаце гвалт.

— Гадаўка ты, каб ты сваіх унукаў не аглядала.

— Заткні ляпу, я цябе не чапаю...

— Каб цябе сарочка не чапала.

— От зараз як зачаплю... За каўтуны ды з хаты.

— За каўтуны? Гэта ж ты каўтунаватая.

— Брэшаш, у мае радні ніколі каўтуна не было. Гэта ж пра твайго дзеда людзі гаварылі, што і памёр з каўтуном.

— Каб твае ўнукі, дай божа, абкаўтунелі!

І Вашыновічыха выйшла з хаты, моцна бразнуўшы клямкаю. Сабастыяніха нейкі час лаяла Вашыновічыху, пакуль даставала з печы хлеб, а пасля пайшла да суседкі скардзіцца.

Пра Алеся гаварылі менш. Можа, таму, што Алесь быў мужчына і, апроч таго, не заўважаў ніколі ніякіх гаворак і забываўся на іх. Усе шэсць дзён да ад'езду каморніка гаворкі гэтыя даводзілі Ганну да слёз. І найцяжэйшымі былі тыя хвіліны, калі пасля ўсіх гэтых гаворак прыйшоў Алесь і застаў яе дома. Раней два разы ён не мог усё застаць яе. Цяпер яна была на прыгуменні, а ён убачыў

яе з агародаў. Убачыўшы яго, яна засмуцілася, і вострая трывога яе павялічылася.

— Ганна, значыцца, усё... скончана.

Ганна маўчала.

— Канец усяму? Чаго ж ты маўчыш?

— Не папракай мяне так... Нічога не скончана... Чаго ты на мяне так глядзіш... Алесь... Ты паслухай...

— Ну што?

— Алесь, родненькі, ты паслухай...

— Ну, я слухаю... Слухаю я!

Яна раптам затрэслася ад моцнага плачу, прыпёршыся плячом да яблыні. Алесь стаяў, узлёгшы на пізкі плот, і глядзеў на яе. Усяго некалькі хвілін цягнулася гэта.

— Алесь.

— Ну?

— Чаго ты такі злосны...

— Нязлосны я.

— Чужы...

— А якім жа мне быць яшчэ?

Нешта яна як бы хацела зрабіць ці то сказаць. Памкнулася падысці да Алеся, зняла з заплаканага твару рукі. Алесь маўклiва і жорстка глядзеў на яе. І яна зноў уздрыганулася ад плачу і, кінуўшы ўсё, пабегла ў двор. Алесь тут доўга не стаяў. Было яму прыкра, нядобра. Вярнуўся агародамі назад, папрабаваў узяцца дома за работу,— усё валілася з рук. Тады ён адзеўся чысцей і пайшоў у ячэйку.

Волька пералічвала старыя нейкія, запыленыя паперкі і сшывала іх суравымі ніткамі.

— Нікога няма яшчэ?

— Рана ж яшчэ.

— Усе прыйдуць, не ведаеш?

— Адкуль жа я ведаю, мусіць, усе... Чаго ты такі?

— Які?

— Нейкі...

Ён сеў насупраць яе і заўважыў: нос у Волькі кароткі і прыгожы, чуць завостраны на канцы; вочы маленькія, рыжыя, твар з дробнымі рысамі. Як смяецца або гаворыць — відаць два рады густых зубоў, і наперадзе ўверсе аднаго зуба няма — цёмная дзірка.

— Чаму цябе завуць вастраносаю, у цябе не такі ўжо і востры нос. Хто гэта выдумаў на цябе?

— Чаму гэта табе раптам у галаву ўзбрыло?

— Няхай бы ты сабе зуб уставіла, а то аж прыкра. Свеціш чорнаю дзіркаю.

— Што гэта на цябе пайшло сёння?

— Няхай бы ты чысцей адзявалася, клапацілася трохі больш аб сваім хараство. Ты ж не брыдкая, ты ж нават прыгожая, каб ты адно адзелася як мае быць. Напрыклад, рудую сукенку з такім вузенькім паясом. Спрытны гэтакі, дасціпны гарнітур. З вузенькім каўнерыкам ніжэй шыі. Табе вельмі ішло б да тваіх чорных валос і рыжых вачэй. Слухаі, Волечка, пашый сабе рудую сукенку.

— Што ты выдумаў?!

— Ну куды табе гэтая блузка, па-мужчынску пашытая; аж каўнер карак падпірае. Адзенься ты па-жаночы.

— А што табе?

— Мне нічога.

— Дык нашто ты гэтак клапоцішся?

— Я так... Як сабе хочаш.

— Дык нашто так гаварыць?

— А ты ўжо так і зацікавілася. От баба.

— Пайшоў ты!

Раптам Алесь адышоўся да акна, паглядзеў на дрэнна збіты з ледзьве абгаблёваных дошчак стол і пачаў гаварыць ні то Вольцы, ні то сам сабе. Глядзеў у адно месца, паверх стала:

— Сам Тамаш падаў думку пра алейню. Даручым гэта яму. Няхай падумае. А я сам вазьмуся за сыраварню, ты разам са мною. Пра малочнае таварыства табе сярод баб давядзецца языком папрацаваць. Праз год ці два — новы перамер зямлі!.. Я яшчэ буду доўга жыць на свеце!

— Нашто новы перамер?

— Знойдзецца шмат, што ў калектыў пойдуць.

— Тут табе давядзецца языком працаваць.

— Тут языком мала што зробіш. Рапей зробім, а тады ўжо языком — «а што, бачыў, кум, сопца?..» А Клемусь няхай каля капэлі свае круціцца. Я яму дзяка прыпаручыў, няхай граюць... Адно што, сукін сын, п'е здорава Клемусь. Я яго адучу... Няхай выпівае патроху, калі яму так хочацца.

— У меры, значыць? Хе-хе.

— Чаго ты?

— Што ты яму дазволіў выпіваць у меру. Так сабе, трошкі. І бога хвалі і чорта не гнявi. Мерачка.

— Ніякай меркі, а павінен проста ўзяць сябе ў рукі.

Волька ўздыхнула:
— А ён добры хлопец.
— Клемусь?
— Але.
— Ну пэўна, адно што маладзейшы за цябе на гадоў, мусіць, восем.
— Ідзі ты!
— Дык, брат... Сёння ж пайду да Тамаша, няхай мне план разгорне пра гэтую сваю алейню, раз ён так з ёю носіцца. Чорт яго бяры ўсё. Усё не важна.
— Што?
— Усё іншае... Іншае ўсё... Родненькая ты мая.
— Што гэта ты?
— Волечка, ведаеш ты што? Ганна мяне адцуралася... Мусіць, з каморнікам паедзе. Каб ты ведала?..
— Я табе гаварыла.
— Нічога ты мне не гаварыла. І ніякія гаворкі тут ніколі нічога не зробяць. Я гэта ведаю, сам ведаю, што тут ні гаворкі, ні развага...
— Каму ж так ведаць, як ні мне. Ты мне от тлумачыш...
— Нічога я табе, сястрыца, не тлумачу.
— Вельмі сумуеш?
— Не ведаю, ці гэта сум, ці гэта толькі прыкрасць такая.
— Унь, здаецца, ідуць.
— Заўсёды позняцца.
— А нашто табе раней. От хаця пагаварыў са мною.
— Добра.
Пачала збірацца ячэйка.

## VII

Юлік Барановіч перагортаў падатковыя квіткі і паказаў іх Вольцы. Белабароды Павал таксама рабіў на сваіх квітках адзнакі. Углядаўся ў іх, моцна прачытваў друкаванае, а пісанага ніяк не мог расчытаць. Так і абмінаў; і нічога не разумеў, што ў квітку. Тодар мог чытаць лепш і разбіраў пісанае. Ён і тлумачыў Паўлу пра скідку, пра надбаўку. Павал адхаркваўся і пляваў. Волька адбірала квіткі і запісвала ў кнігу. Тамашу не было ніводнай патрэбы тут, але таксама, не маючы ніводнай работы дома, ён паддаваўся прывычцы даведацца ў сельсавет. Сядзеў каля акна і

маўкліва цягнуў з вішнёвага папяросніка. Юлік Барановіч, падцягваючы хворую нагу, падвалокся пад Тамаша, пачынаючы гаворку:

— Або сіберны холад пачнецца або мокра стане на дварэ.

Тамаш дзьмухнуў у папяроснік:

— Адкуль ты ведаеш?

— Нагу ў мяне зноў ламаць пачало.

— Чаму ж ты яе не грэеш як-небудзь, а па дварэ валочышся. Каб яна была ў цяпле, дык яна не так бы балела.

— Чорт жа яго ўседзіць у хаце. Жывучы, трэба варушыцца. А работа, сказаць, не цяжкая, падатковыя квіткі прыйшоў выправіць.

Белабароды Павал падаўся да Тамаша:

— Чаму гэта ты ў гэтым камітэце нічога не гэтае. Раз цябе паставілі, дык ты, пакуль цябе не знімуць, трэба, каб вёў дзела як мае быць, а ні то што.

— Чаму, а што ты нядобрае ўгледзеў?

— А што ж, гэта добра?

— Што?

— Чаму гэта Мікіта Базылёў мае права дарэмна мець карысць ад Паўлічыных агародаў? Калі Паўліха памерла, дык які гэта Мікіта асэсар, што яму спадчына застаецца без дай прычыны.

— А табе мала свайго агароду?

— Мне непатрэбна чужога, але я хачу дайсці праўды.

— Ну то як жа па-твойму?

— Няхай арэнду плаціць. Невялікую, але плаціць няхай.

— А ты за свой агарод каму арэнду плаціш?

— Ён мой, спрадвеку.

— А гэты цяпер Мікіты Базылёвага.

— Чаму гэта ты распараджэнні гэтакія даеш?

— Ніякіх распараджэнняў я не даю.

— А хто гэта?

— Чаго ты мяне дапытваеш?

— А чаму гэта Мацвей і вясною з камітэцкага аўса карысць меў і цяпер яму падсунулі два пуды грэчкі? Гультай, не хоча рабіць, а яму ўсё пхаюць. Што гэта за работа?.. Думаеш, я не ведаю, што Мацвею грэчкі далі камітэцкае.

— Ніхто з гэтым не хаваецца.

— Або чаму гэта яшчэ нідзе нікому нічога, а ён ужо

мае квіток па галлё з лесу? На чорта гэтыя хітрыкі.

— Тут без ніякіх хітрыкаў. Што ж, каб ён прападаў?

— Ты яму колькі ні давай, усё будзе, як вада ў рэшаце. Як у тхлань.

— Як ты зайздросціш яму на два пуды грэчкі!

— Я не зайздрошчу. Ён цяпер па Сабастыяну мне сваяком даводзіцца. Я нават рад, што яму помач ідзе.

— То чаго ты бунтуеш?

— Я табе сказаў, чаго.

— Нічога ты мне не сказаў.

— Хіба ў цябе вушы чым пазатыканы?

Юлік Барановіч засмяяўся, зрабіў твар радасным і нявінным, як у дзіцяці, і сказаў:

— А от нябожчык Сымон Скуратовіч заўсёды хадзіў з вушыма, пазатыканымі ватаю, а чуў лепш за ўсякага таго, хто з роду вушэй нічым не затыкаў. Хэ-хэ.

— А нашто ён ватаю вушы затыкаў?

— Халера яго ведае, дактары нейкую гэта раду давалі... Гадкі быў чалавек, каб яму калом зямля, нікому ніколі дабра не зрабіў. Усё ў сваю кішэню цягнуў. Паскудны чалавек! Хоць пра памёрлага і няможна так гаварыць. Але скажу, я добра яго ведаў.

Тамаш пусціў з рота дыму, падняў галаву і падзьмухаў у дым. І сказаў:

— То ты, значыцца, чалавеча, па камітэт крыўдуеш, што Базылец пляцам карыстаецца, а Мацвей два пуды грэчкі ўзяў?

Павал адказаў:

— Я не гэтае.

— Якое не гэтае, гавары мне выразна!

— Я не крыўджуся. Я пры свойцы застаюся. Ніхто нічога ў мяне не забраў, чаго мне крыўдзіцца. Адно што ўсе людзі гавораць.

— Тваім людзям, мусіць, лепш было б, каб які-небудзь Базылёў або Мацвей у вас пад бокам мучыўся ўвесь век.

— Ніхто чужое пакуты не хоча.

— Ну дык чорт жа цябе разбярэ, чаго ты хочаш. Чым табе я не ўпаравіў.

— Я на цябе жаднае крыўды не маю.

— Ну дык чаго ты звягаеш, чэрці цябе ведаюць. Што гэта за народ халерны. Трэба ж, каб дзела варушылася. Не буду я, будзе хто іншы.

— А пашто табе так многа? Ты і ў сельсавеце, ты і ў камітэце гэтым.

— Будзь ласкаў, стань ты!

— Дык не аб гэтым ход.

— А аб чым жа ход? Я ні там, ні тут грошай не бяру.

Пачуліся галасы:

— Што ты, Павал, светам брыдзіш! Што ты за чалавек! Ты выразна скажы, калі крыўду або патрэбу якую маеш, а то якраз, як Вашыновіч — гаворыць, гаворыць, а нічога не скажа.

— Чаго ты, Павал, галаву дурыш?

— Няўжо ж, па-твойму, бедняку прападаць трэба. Хітры ты вельмі. Ты ж сам не ведаеш, чаго ты хочаш.

— Чаму гэта я не ведаю?

— Ён-то ведае, чаго ён хоча.

— Ну, чаго ж ён хоча?

— Чаго хоча? Хоча, каб яго самога выбралі за камітэтчыка.

— Ён жа быў ужо камітэтчыкам.

— Калі?

— А як кагадзе, што слабода прыйшла.

— Дык гэта не такі камітэт. То быў лясны камітэт, а гэта для дапамогі бедным.

— Няхай сабе лясны, абы быў.

— І яшчэ як быў. Каму воз дроў, а сабе дык два. Яшчэ і цяпер бярозаю ў печы паліць. Бяроза, як звон.

— Каб ты гэтак жыў. Ідзі паглядзі, чым я ў печы палю.

— Чаго я пайду глядзець.

— Не, ты прыйдзі паглядзі. А то нічога не ведаеш, а язык так і матляецца за вушыма. Ты вазьмі сведкі і прыйдзі паглядзі.

— Чаго я пайду, чаго я не бачыў!

— Пайдзі, пайдзі да яго. Паглядзі пайдзі, як ён зрапку з бабаю перакідаецца.

— А ты што за правярайла гэтакі знайшоўся. Пры чым тут з бабаю. Што ты мяне, старога, бэсціш, смурод ты!

Хто зарагатаў, хто ўпурыўся ў каўнер. Падыходзілі ўсё больш людзі. З'явіўся Алесь. Клемусь стаяў, уціснуўшыся бокам між Юлікам Барановічам і белабародым Паўлам і, як звычайна, варушыў каленьмі. Волька зляжыла свае паперы і пайшла, і ўжо дзень пачаў братацца з вечарам. Тамаш некалькі разоў чуў скептычныя заўвагі пра алейню, пра сыраварню, пра малочнае таварыства. І нават,

нарэшце, пачуў, як Барановіч заўважыў некаму:
— Фацэтны чалавек. Стары, падла, а нейкі — чорт яго ведае. Унімку яму няма. На чорта яму гэтак старацца,— у трупу ўсё роўна нічога не забярэ.
— Ён яшчэ здаровы.
— Чорта ён здаровы, гэта адно здаецца.
Гаворка ішла наводшыбе ад усіх. Тамаш выйшаў. Алесь агледзеў натоўп і запытаў:
— Ну то ці будзем за алейню і сыраварню брацца, ці не? Усе ж чулі пра гэта, няма тут чаго тлумачыць.
— На чорта яна.
— Жылі, добра кажа, і так.
— Мала што яно добра. Добрага на свеце шмат, усяго не наробіш.
— Чаму не наробіш, захацеўшы ўсё можна.
— Можна? А грошы ты маеш?
— Гэтак сама, як і ты.
— Няма чаго лішне гаварыць. Узяцца, дык і зробім.
— Ну але, зробім.
— Гулу ты асмаленую зробіш. Ім што, Алесь — камуніст, яму, вядома,— ён гаворыць тое, ён гэтае, а мы павінны самі вымяркоўваць.
— Ну то што, калі камуніст?
— Раз ён камуніст, значыцца, ён на дабро дбае.
— А што я кажу? Я нічога і не кажу.
— А адкуль грошай узяць?
— Памеркаваць трэба.
— Больш мы мяркуем, як робім.
— А па-твойму, дык найлепш — ні меркаваць, ні рабіць?
— Чаму гэта ні рабіць? Я гэтага не гавару.
— Хто не робіць, той век прападае.
— Тут не пра гэтую работу гаворка ідзе.
— А пра якую ж?
— Пра якую!
Больш усіх крычаў белабароды Павал.
— Чаму на мяне ніякае ўвагі ніадкуль? Я арыштант! Я за праднaлог сядзеў чатыры дні. Але я за Савецкую ўласць. А на мяне ніхто і не гляне.
— Як жа на цябе глядзець?
— Мала што я не тады, калі гаварылі, падатак выплаціў. Але я выплаціў. Я гаспадарку сваю вяду лепш за ўсіх.

— Не хваліся.

— Я не гультаю, дык я і маю кавалак хлеба і да хлеба. Я не галодны, але я і не магнат, як іншы.

— Хто гэта?

— На каго гэта ты паказваеш?

— Нашто ты спавядаешся! Хто цябе просіць?

— Я не спавядаюся. Але я павінен жа, жывучы на свеце, выказаць, што мяне рупіць?..

— Ну, дык выказвай.

— Я ж выказваю.

— Нічога ты не выказваеш.

— Як то нічога?!

— Бо і нічога. Ты от гаворыш-гаворыш, а і сам не ведаеш, што ты тут выказаў, а чаго не выказаў.

Павал раптам памякчэў:

— Няўжо я так няўдала гавару?

— Хто цябе ведае. От я слухаў-слухаў, а не ведаю, чаго ты хочаш. Крыўда нейкая ў цябе ёсць. А якая, ніяк ты выказаць не можаш.

Гэта гаварыў Алесь. Павал паглядзеў на яго, паглядзеў на ўсіх, заміргаў вачыма і зноў загаварыў:

— Крыўда? Дзіва што крыўда. Ты думаеш, вы думаеце, што гэта тут тыя чатыры дні, якія я адсядзеў за прадце, што гэта тут тыя чатыры дні, якія я адсядзеў за прадпалог? Або той гусак, якога ў мяне Аляксандр забіў і за якога я з яго капейкі не магу спагнаць? Не гэта. Не гэта, браце! Усё тут. Усё! І гусак, і чатыры дні, і боль у сярэдзіне, і старасць, і ўсё, што толькі ёсць і можа быць. Усё, што было з малых дзён. Усе крыўды, усе сваркі, уся работа. Што зносілася на плячах... Ты думаеш, гэта я тут з раскошы вялікае гусака дамагаюся з Аляксандра? Што гэта мне на гэтага гусака сышло, ці што? Чорт яго бяры, з гусаком разам, згарыць ён пяхай. От што!

— Дык ты гавары, дзядзька, якая ў цябе крыўда?

— Усё.

— Ну дык раскажы пра гэтае ўсё.

— Дык я ж расказваю. Гавару, што ўсё. Усё, значыцца, уплялося сюды, ад самых малых дзён нараджэння.

— Жыў бедна?

— Жыў.

— Гараваў?

— Гараваў.

— Дабра шмат бачыў?

— Якога там дабра!

— Перад начальнікам усякім шапку скідаў?
— Скідаў.
— Спіну гнуў?
— Гнуў.
— Нітчымны хлеб еў?
— Еў.
— Дык от ты, дзядзька, і крыўду сваю выказаў?
— Можна сказаць, што і выказаў.
— Ну от. Дык у цябе, дзядзька, проста злосць, што век свой ты пражыў, дабра не бачачы. Праўда ці не?
— Можа, і праўда.
— Ну, а яшчэ што?
— От часам у вочы валяюцца.
— Хто?
— От, не той, то гэты.
— Як гэта?
— Ды от усяк бывае. Калі я цяпер узбіўся на добрую, можна сказаць, гаспадарку, дык ужо мяне багатыром лічаць. А тут усяго таго багацтва, што круглы год, як той казаў, хлеб маю і які кавалак сала. То што гэта, я багатыр? Магнат гэта я?
— Ды які ты там багатыр.
Мужчыны цесна абкружвалі ўзбуджанага Алеся. Алесь усё гаварыў:
— Дык як жа, значыцца, з малых дзён параджэння крыўда? Аж да злосці чалавека даводзіць?
— Даводзіць.
— Значыцца, нядобра?
— Нядобра.
— Іначай трэба?
— Можа, яно і трэба.
— Пабагацець цяпер трэба. Дык яно і мінецца ўсё гэтае, патроху. Праўда ці не?
— Я гэта і без цябе ведаю, што ты мне гаворыш.
— Дык чаго ж ты крыўдуеш?
— А што ж, мала я крыўды бачыў на свеце?
— А от я таксама хіба не бачыў крыўды? Але ж я не крычу на Тамаша і не злую ні на кога без дай прычыны.
— Ну, бо ты малады. У цябе іншая справа.
— Унь Тамаш стары, а хацяб каб вы ўсе гэтакія былі.
— Што ты нас старых перавучваеш.
— Хіба я перавучваю?

— І не перавучвай. Усё роўна нічога не будзе. Якім чалавек нарадзіўся, такім і памрэ.
— Ну, а сыны твае?
— Што сыны?
— Як яны? З табою ж, дзядзька, не ладзяць. Ці гэта яны такімі ўрадзіліся, ці гэта што іншае?
— Яны ўрадзіліся такімі, якім ім трэба было. А што не ладзяць з сабою і са мною, дык з салодкага жыцця сварыцца ні з кім чалавек не будзе. Я табе гавару.
— Значыцца, усё нанава трэба?
— Дык яно ж усё нанава і робіцца.
— Значыцца, лепш?
— Не спавядай ты мяне.
— Я так, пытаю.
— Нашто ты з мяне выцягваеш?
— Ды мне што.
— Гэта справа ваша, маладая.
— А каб гэта ты, дзядзька, абмаладзіўся?
— Бог ведае.
— А яно добра было б.
— Табе лепш ведаць.
— Чаму канешне мне, усякі павінен ведаць.
— Гэта як што.
— А ведаеш, дзядзька, у тваіх сыноў народзіцца слаўнае пакаленне. Непадобнае на нас. І гэта мы ўсё стараемся, каб яно было, гэтае пакаленне.
— Каб твае словы ды богу ў вушы.
— Значыцца, добра?
Белабароды Павал зноў паміргаў вачыма.

## VIII

У суботу пад вечар, калі заходзіла халоднае сонца, між Юркам і крываносым Мікалаем Жыгунцом адбылася гаворка. Мікалай дастаў з паліцы сыр, паскроб зверху нажом і пачаў есці. Юрка скроб моркву і храбустаў зубамі. Мікалай сказаў:
— Ідзі сыра пакаштуй.
Юрка каўтнуў сліну і адмовіўся:
— Я не хачу.
— Чаму?
— Так сабе.
— Ідзі, дурны.

Юрка падышоў да стала і смачна пачаў есці. Мікалай абуў новыя боты, добра нацягнуў угору халявы і дастаў з паліцы бубен. Адна бляшка на бубне была пагнутая, і ён пачаў адгінаць. Юрка запытаў:

— Нашто вы бубен асталі?

— Бубніць пайду.

— Калі?

— Як змеркне.

— Навучыце мяне бубніць.

— Вучыся.

Юрка памаўчаў і сказаў:

— Няхай яно згарыць.

— Што?

— Што ботаў няма. Тата ўсё кажа, што закажа прышвы, і не заказвае.

— От я ў папядзелак заплачу за кватэру, дык будзе і на прышвы.

— На гэта знойдзецца іншая дзірка.

— Я сам тату скажу.

— Хіба скажаце, а то тату нават і не ў галаве.

— Я скажу.

У хаце нікога не было. Кагадзе Юрка падмёў хату; трохі яшчэ пахнуў сухі пыл, але стала чысцей і прытульней. Водбліскі захаду жоўцілі зямлю і сцены. Мікалай паправіў бубен, патрос у руцэ, загрымеў па бубне вялікім пальцам, паставіўшы яго старчком, і міргнуў Юрку. Абуваючы мацерыны чаравікі, Юрка ўсміхнуўся.

— Куды ты абуваешся?

— Пайду пагляджу, як вы бубніце.

— Ідзі сабе паглядзі.

— А дзе гэта гуляць будуць?

— Куды паклічуць... Па мяне павінны хлопцы зайсці.

Хлопцы зайшлі яшчэ праз гадзін дзве. Мікалай сярод іх быў, як бацька; гаварыў ціха і ўсё падкручваў свае рыжыя вусы. Юрка не пайшоў услед, а выйшаў на вуліцу і выпільнаваў, куды яны пайшлі. І сам пайшоў, некалькі хвілін счакаўшы. Тады яшчэ музыкі не было, а два музыканты падкручвалі струны на скрыпках, просячы хлопцаў не падспеўваць і даць настроіць скрыпкі. Было холадна, так, як можа быць холадна ў месячны вечар апошніх тыдняў восені, калі і туман сядзе за ноч кроплямі вады на платы, і позція яблыкі чырвоняцца яшчэ на дрэвах. Зямля не мерзла яшчэ; была яна халоднаю, мяккаю, і пахла яна

моцна і востра. Пусты сад каля сельсавета здаваўся прасторным і белым. Бялелі платы, бялелі лаўкі, параблепыя хлопцамі летам. Шумна было.

Музыканты ўсё падкручвалі струны. Мікалай быў тут ціхім і нават сарамяжным мог здавацца. Вакол яго былі ўсе маладымі і вясёлымі.

— Зараз пачнуць граць? — запытаўся Юрка, аціраючыся каля Мікалая.

— От, можа б, табе дадому пайсці,— адказаў Мікалай,— чаго табе тутака таўчыся, ці гэта твая кампанія? Дома бацька шукаць будзе.

— Я зараз пайду,— адказаў Юрка і ўшыўся ў кучу хлопцаў і дзяўчат.

І нечакана знайшоў там Юзіка. Той пабліскваў вачыма і глядзеў, як Клемусь трымаў за рукі Барановічаву Ганну.

— Здароў, Юзік,— сказаў Юрка.

Хацеў падаць руку і не падаў.

— Здароў... Чаго ты прыйшоў?

— А ты?

— Так сабе.

— І я так сабе.

І абодва пачалі моўчкі глядзець на Клемуся і Ганну. І сароммеліся глядзець адзін на аднаго. От Клемусь узяў Ганну пад руку, і пайшлі яны паволі па белым садзе. Юзік і Юрка разышліся ў розныя бакі. Мікалай пробаваў вялікім пальцам бубен і, патрасаючы яго, слухаў звон шамкоў і бляшак. Так маўчаў і глядзеў на ўсіх. Дзяўчаты хадзілі з хлопцамі, стаялі, сядзелі. Хлопцы жартавалі, свавольнілі. Музыканты гатовы былі граць, сядзелі з Мікалаем — тры скрыпкі. Мікалай пытаўся:

— Нешта ж гэтая ваша палкавая музыка не чутна нідзе. Струмант купілі, а нічога нідзе ні гэтае.

— Якая гэта палкавая?

— Ну што трубы справілі.

— А, гэта? Дзяк вучыць граць.

— Вучыць? Ну як?

— Нішто сабе. Толькі, падла, зацягвае трохі работу. Адразу, сукін сын, па нотах вучыць пачаў. Няхай бы раней без нотаў панавучваў што самае патрэбнае — ну вальца там, польку, марш. А тады ўжо можна было б і па нотах вучыцца. А то ўжо другі тыдзень на адных гамах трымае. Цярпення няма, хочацца каб скарэй.

— Мала што хочацца. У нас, бывала, у палку капэльмайстар дык павічкоў па два месяцы на гамах трымаў. Але затое музыканты выходзілі, дык проста калі заграюць, дык не еў бы, не спаў бы, а слухаў... Я папамаршыраваў пад палкавую музыку. Бывала, калі грапуць! Або вечарам калі, як у Магілёве стаялі, выйдуць па пляц за казармы граць ды калі дадуць-дадуць. Паўгорада сыходзілася слухаць.

— Ты гэта, можа, там у бубен грукаў?

— Не, гэта я сам праз сябе... Давайце польку ўрэжам?

Урэзалі польку. На пляцоўцы, выразапай улетку камсамольцамі для футбола, некалькі пар пачалі скакаць. Каля музыкантаў стаялі і сядзелі дзяўчаты і хлопцы. Юрка стаяў там жа непадалёку ад Ганны і, млеючы ад няведанага і пезразумелага стуку ў галаве і грудзях, пачаў пільна глядзець на яе. На яе галаву, на постаць — там, дзе сукенка была перацягнена вузенькім поясам, ніжэй пояса, дзе гусціліся топкія фалды кароткай сукенкі. Нібыта непазнарок, пепрыкметна, падышоў яшчэ бліжэй і, нічога не разумеючы, адчуваў, як кружыцца ў галаве, кружыцца ўсё перад вачыма ад дзіўнай блізкасці Барановічавай Ганны. Было ўсё нова, незразумела, таемна, ніколі няведана. І ён мучыўся ад жадання дакрануцца да яе сукенкі. Гінулі і туманіліся думкі.

От Клемусь зноў узяў Ганну пад руку і павёў па садзе. Музыканты ўсё рэзалі польку. Мікалай, схіліўшы набок галаву, грукаў у бубен — то пальцам, пастаўленым старчком, то выгладжапаю палачкаю.

Юрку раптам стала цяжка дыхпуць. Ён уздыхнуў і, як п'яны, адышоўся ад музыкантаў. Нехта з хлопцаў падспяваў музыкантам:

Цячэ рэчка праз мястэчка
Долам пе глыбока...

З другога боку нехта перабіў:

Як убачу Петруся,
Дык у бокі беруся

Полька неўзабаве сціхла. Каля брамы многа галасоў заспявала:

Не ведала зязюля, як у лесе жыць,
Не ведала маці, як дачушку збыць.
Збудзеш мяне, маці, за адзін дзянёк,
Ажно ж не забудзеш за доўгі гадок.
Будзе мая лыжачка сухая ляжаць,

Будуць мае сцежачкі травой зарастаць,
Будзеш, мая матачка, работку заступаць.
А я тваю месцінку дзяцьмі засаджу,
А я тваю лыжачку слязьмі аблію,
А я твае сцежкі сама пратапчу,
А я тваю работку сама заступлю.

За брамаю збіраліся слухаць. Гаварылі, слухалі, самі памагалі спяваць. У садзе зноў ішла полька з печаю прыпеўкаю:

Нашы хлопцы абы вечар
Каля дзевак круцяцца,
Павал жа з Сабастыянам
За камандзіраў вучацца.

Сабастыян, стоячы каля брамы з мужчынамі, забубніў:
— Урвіцелі, каб яны галовы паскручвалі, фуліганты, басякі! Песні складаюць, каб яны галовамі панакладалі.
Хлопцы пачулі і наўмысля развялі гаворку:
— Гэта які Сабастыян, вусаты?
— Але.
— Вясёлы будзе камандзір.
— Ні такі вясёлы, як баявы.
— Ды яны абодва нішто. Павал адно бараду зголіць.
Сабастыян падкруціў вусы і падаўся дадому. Юрка заспакоіўся, адшукаў Юзіка. Падышло больш яго таварышаў. Юзік быў вясёлы, свавольны. Падышоў да Мікалая і папрасіў:
— Дайце, дзядзька, я пабубню трохі.
Мікалай маўчаў, баючыся перарваць такт. Як скончылі граць, тады ён адказаў:
— Ты не ўмееш.
— Дальбог жа ўмею.
— Зараз вальца будзем граць.
— Я ўмею і вальца бубніць.
Аднак Мікалай не пацешыў Юзіка — сам стаў бубніць. Юзік адышоўся і засаромеўся сваіх таварышаў, якія скублі яго за полы ватовай капоты:
— Пабубніў?
— Ну як, добра бубніць умееш?
— Бубнач!
Каб апраўдацца і згладзіць уражанне, Юзік успомніў:
— От, браткі, у Кудлатавага Амелькі грушы яшчэ ў садзе спеюць!
— Яшчэ?!
— Яшчэ. Я сам учора бачыў. Нейкія, мусіць, бэры.

— Хадзем.

— Ну але, хадзем!

І адразу ўсе пайшлі. Перабеглі агароды, пералезлі цераз плот у сад. Учатырох сталі каля плота вартаваць, двое селі на варотах у двор. Юзік і Юрка сталі ў двары пад вокнамі, гатовыя ў кожную хвіліну засвістаць дзеля сігналу і ўцякаць. Адзіп палез па грушу і пачаў трэсці. Цвёрдыя грушы застукалі аб халодную зямлю. Трывожна было і весела.

— Годзе, пакінь на заўтра.

— Заўтра ўсё сам абярэ.

— Трасі больш, калі так.

Страсянуў яшчэ разы са два і пачаў ссоўвацца ўніз. Усе гуртам шукалі ў месячным змроку на зямлі груш; пхалі ў кішэні і за пазуху. Трывога прайшла, засталася вясёлая ўзбуджанасць. Амелька Кудлаты спаў недзе ў цёмпай хаце і нічога не ведаў. І гэта было нядобра, трацілася маладзецкая ўдаласць. Тады вялікім гуртам падкраліся ціха пад вокны і, адчуваючы целам прыемны запах цвёрдых ігруш, хвацілі весела і без рытму.

У кудлушы
Гут'а грушы.

І невядома было ім, ці грозны Амелька Кудлаты выскачыў за імі з хаты, ці не ўспеў, адразу ўсе сыпанулі ўцякаць, перакідаючыся цераз весніцы, губляючыся ў шэрасце белай ночы.

Сабраліся зноў у садзе каля сельсавета. Мікалай курыў, трымаючы на каленях бубен. Клемусь гаварыў:

— Якая гэта музыка! Што гэта за музыка, калі ніякай гармоні.

Мікалай абазваўся:

— Ну пэўна, каб сюды гармоню-двухрадку...

— Не, не пра гэтую гармоню.

— А пра якую ж?

— Гармонію завецца — гэта як капэля добрая грае, дык усё гэта — усе галасы, разам з званкамі там, з бубнамі, бразготкамі. Мы ж цяпер па нотах вучымся. Дзяк вучыць. Неўзабаве граць як мае быць станем. Ій-богу. Скварчэўскі ў нас капэльмайстрам, а я загадчыкам капэлі.

— А бубен у вас які?

— Турэцкі.

— Новы?

— Зусім новы.

— А талеркі пры бубне ці асобна?

— Пры бубне талерка і асобна дзве. Яшчэ званкі купім — такое жалеза гнуткае ёсць, падзвоньваць па ім трэба.

— Я ведаю, у нас у палкавой музыцы ўсё гэта было... Адно што, ці здолее Скварчэўскі быць добрым капэльмайстрам.

— Ён спец.

— Можа быць.

— Ён у салдатах як быў, дык таксама граў.

— Ну, калі гэтак, дык добра.

Клемусь пайшоў да дзяўчат. Юзік сеў побач з Мікалаем. Юрка пайшоў за Клемусем, зноў убачыў Барановічаву Ганну і зноў стаў да яе блізка. З пакутнаю асалодаю адчуваў, як хвалявала яго гэтая блізкасць. Зноў глядзеў на яе галаву і сукенку.

І яшчэ адчуваў, як рэжа левую нагу разарваны мацерын чаравік.

## IX

Назаўтра такое ж самае было надвор'е — яснае, халоднае, пахучае вятрамі і вадою асенніх рэчак.

Волька ў той дзень праводзіла жаночую канферэнцыю. Узбуджаная, з затуманенымі пярэстасцю пастацей і твараў вачыма, яна была прыгажэйшаю, як у звычайныя дні. Сход быў невялікі, і было на ім больш мужчын і хлопцаў, чым дзяўчат. Алесь прывёў на сход Макаркаву Вольку. Алесева маці, паглядаючы на Барановічыху, гаварыла:

— От так гэта гаворка адно. Што баба, дык яна павінна і вучыцца і ўсё. А от колькі ёсць такіх, дык усяго і нарасуецца тады, калі за бацькаваю галавою вучыцца. А пасля, калі павучыцца трохі, дык усё роўна за гаршкі брыся. За каго б яна там замуж ні пайшла, хоць сабе за якога і камісара, ні то што за каморніка якога-небудзь. Бабская доля, вядома. Адно гаворка... А дзеці як пойдуць! Мужчыну ніякае ліха. Што яму.

Пачуўся мужчынскі голас:

— Няўжо ж ты хочаш, каб мужчына табе дзяцей раджаў або пялёнкі мыў? Або ў печы паліў?

Волька застукала алоўкам па стале:

— Ціха, таварышы! Хто хоча сказаць, няхай слова возьме. Калі пачнём усе зараз гаварыць, дык...

Аднак гаворкі не сціхалі:

— Вядома, што бабская доля горшая.

— Усіх доля роўная. Калі мужык здароўшы, дык затое ён больш і цяжэй робіць. Няхай баба паспрабуе зрабіць мужчынскую работу.

— Баба больш робіць. Але бяда, што яе работа не значна так, як мужчынская. Бо яна таўчэцца па хаце і каля хаты за ўсякаю драбніцаю... І за мытым, і за шытым, усё ёй патрэбна.

— Не пра гэта гаварыць трэба.

— Але па чорта тут гэтыя крыўды выказваць. Усё роўна ўсяго не выкажаш і мала што тут парадзіш.

— Нічога, а от скажу. Усё выкажу.

— Выказвай, ну...

— Бо і выкажу. Тут гэта што от гаварылі пра гэтыя калектыўныя кухні, дык яно, гаворачы, можа і добра. Хто яго ведае. Але трэба адно падумаць, як яно будзе выходзіць.

— Чаму?

— А таму, што хто будзе бліжэй стаяць да гэтае кухні, заўсёды лепшы кавалак сабе або сваяку дасць.

— Нагледачы будуць, мусіць.

— Добры інтэрас, адзін будзе рабіць, а другі будзе наглядаць. Вельмі лёгкі хлеб мецьме.

— Не гэтак.

— А як?

— А што ж, добра і гэта, што ў кожнай хаце кожную раніцу на чалавек якіх пяць ці дзесяць варыцца? А там адзін на сотню і, можа, больш будзе варыць, а рэшта займацца нават гэтым не будуць.

— Ну але, выдзеляць табе там, як галоднаму сабаку.

— Карысць вялікая, што цяпер табе ніхто не выдзяляе.

— Не, гэтак не будзе. От выдумляюць.

— Вядома, што лепш будзе. Ніхто нікому падкідаць горшага кавалка не будзе, бо тады гэта як бы адна сям'я будзе.

— А як жа зрабіць гэта?

— Як рабіць? На калектыўную гаспадарку перайсці. Узяць от хатам дзесяці ды злучыць разам у адно ўсю гаспадарку. Адзін будзе рабіць адно, другі — другое. І спорна будзе, і плодна, як той казаў.

— Гэта значыцца, пабаку ўсё, што нажывалася за век. Адцурайся ўсяго.

— Ну дык можаш сабе не адцурвацца, а гібець сабе пры сваім. Сваёю нішчымніцаю душыцца.

— То гэта ж і з зямлёю папава ўся музыка пачнецца?
— Папава.
— От табе і на.
— Што?
— Мералі, мералі, а гэта папава пачынай.
— Ну але, найлепш, дык сядзі на печы ўвесь век, не варушыся. Тады само табе ў рукі прыйдзе.
— Прыйдзе — не прыйдзе, а, добра кажа, сядзі рукі склаўшы, дык затое спакойна будзе.
— Душа па месцы будзе. Хе-хе.
Волька ўтамілася да канца сходу. Балела ёй галава, хацелася ісці на двара, у вострым паветры. Ад пярэстасці твараў, гаворак, галасоў усё мітусілася ў вачах. І ўжо, як чыталі рэзалюцыю, адчула Волька, як хочацца ёй, каб хутчэй была прачытана яна. Было і пакурана ў вялікім школьным пакоі — мужчыны ўваходзілі і выходзілі.
Волька сядзела адна за сталом, як усе разышліся. Павольна вечар агортваў зямлю. Чарнявы Петрык пайшоў з Макаркаваю Волькаю. Алесь падышоў да стала:
— Не варта было так зацягваць сходу.
— Чаму?
— Трэба прывучыць жанчын да сходаў, а так дык утамляюцца, неахвотна пасля хадзіць будуць. А кожная кідае хату, спяшае хутчэй дадому... Не трэба лішне зацягваць.
— Яны самі зацягнулі... Нічога... Я сама вельмі ўтамілася. Галава кружыцца. Пасядзі... Заўтра ячэйка будзе?
— Будзе.
— Давай пройдзем па двара.
— Пройдзем... Паспацыруем?
— Давай.
Белы вечар быў цяплейшы за ўчарашні. Вуліца жыла гаворкамі і песнямі. Абзывалася скрыпка. Прайшлі вуліцу і назад. Кончыліся канцавыя хаты. Прысады чарнелі голымі бярозамі.
— Як жывеш, Алесь?
— Нічога.
Здавалася, ім няма пра што гаварыць. Ішлі моўчкі.
— А ты як, Волька?
— Жыву.
— І я жыву.
— Як у цябе з Ганнаю?
— Ты ж ведаеш.
— Таксама?

— Мусіць жа.
— Каморнік жа паехаў.
— Ну то што?
— А яна тут?.. Дома?
— Дома. Што з гэтага.
— Ты ўжо забыўся яе?
— Не... Не забыўся.
— Ты выбачай, братка...
— Я вельмі рад гаварыць пра гэта з табою... Толькі з табою.
— ...Ты калі пудзіш па ёй — ідзі да яе. Той паехаў; а з дзяўчынай часамі гэта бывае... Часта гэта бывае ў яе гадах.
— Не, я да яе не пайду. Я не хачу навязвацца ёй.
— Не навязвайся, а дамагайся.
— Храбры рыцар, значыцца.
— Ты не ведаеш дзявочае душы.
— Там і ведаць няма чаго... Сілком лезці ёй у вочы я не буду.
— Яна сама, думаеш, да цябе прыйдзе?
— Я не думаю, што яна прыйдзе... Яна таксама мучыцца... Я не падыходзіў блізка да яе, калі апошні раз гаварыў з ёю... Яна паспрабавала гаварыць са мною і з плачам уцякла ад мяне.
— З плачам уцякла?
— Я з тае хвіліны рашыў не ісці больш... Што гэта будзе за жыццё, калі яна будзе жыць са мною, а думаць пра таго...
— Яна ж яго, можа, і не ведае добра?
— Можа... Можа, як уведае...
— Дык не будзе думаць пра яго? Можа.
Далей ішлі моўчкі. Маўчала ўсё вакол іх. Вярнуліся назад, ішлі галоснаю вячэрняю вуліцаю.
— Можа, зойдзем да мяне? — сказала Волька.
— Зойдзем.
Падняліся на высокі, скрыпучы ганак. Нячутна адчыніла Волька дзверы. Вокны малога пакоя выходзілі на кірмашовы пляц. Яна доўга чыркала запалкамі, стоячы перад акном.
— Дай я запалю.
Алесь адчуў у сваіх руках яе халодныя пальцы, што перадавалі яму запалкі. Чорны абрыс яе постаці варушыўся на фоне акна.

— На, запалі.
— Якія ў цябе рукі халодныя.
— Сэрца затое гарачае.
— Не відаць нешта.
— А як жа ты хочаш, каб было відаць?
— Я, ведаеш, Волька... жаніцца буду... як ты думаеш? запаліў...
— Што ты хацеў сказаць?
— Не, нічога.
— Не, што хацеў сказаць?
— Якое ў цябе там сэрца гарачае.
— А ты не ведаеш?

У святле лямпы яна хітра, па-жаночы ўсміхнулася. Алесь сеў на палатанае фанераю крэсла. Пахла ў пакойчыку вымытаю падлогаю.

— Я... от што...
— Што?
— Я, ведаеш, Волька... жаніцца буду... як ты думаеш?
— Што ж я тут, братка, магу табе думаць? Як знаеш... Каго ж ты браць будзеш?
— Знойдзецца хто-небудзь.
— Можаш і Ганну яшчэ ўзяць. Думаеш, яна да цябе не вернецца?
— Сілком жа браць не буду.
— Нашто сілком? Пра гэта ніхто не гаворыць... Хіба можна сілком?

Зноў маўчалі.

— Адна так і жывеш?
— Або ты не ведаеш!
— Дрэнна адной.
— Нічога... на тое лета вучыцца пайду.
— Не пусцім на тое лета. Работнікі патрэбны. Праз гады два, тады адправім куды сабе зажадаеш.
— Няўжо добра, каб у ячэйцы былі работнікі-невукі?
— Нядобра, але іначай нічога не зробіш.
— Дык гэта ты напэўна кажаш, не пусціце?
— Не.
— Пусціце!
— Не, не пусцім.
— Алесь!

Яна крыкнула і падперла кулакамі бараду. Так і стаяла некалькі хвілін пасярод пакоя. Вочы яе калолі яго, і губы моцна сціснуліся.

— Чаго ты крычыш... Волька?

Яна зноў крыкнула:

— Алесь!

І раптам здзівіла яго. Падышла да стала, узлягла на яго локцямі і заплакала.

— Чаго ты?

— Нічога ты не разумееш.

— Што?

— Дзеравяны ты, каменны.

— Чаго ты плачаш... ну?

— Не пусціце вучыцца?.. Не пускайце, толькі нашто ўсё так гаварыць заўсёды? Можа, мне зусім і не хочацца ехаць нікуды вучыцца, можа, я пагаварыць аб чым такім з табой хацела... Утамілася я. Раніцою ўстаю і спаць мне заўсёды хочацца. Ты ведаеш, якая я ўтомленая?! У цябе што. Ты прыйдзеш, сход ячэйкі правядзеш, правядзеш сход гаспадароў, пасля паедзеш, паарэш на полі... Ты мужчына, ты здаровы... Не, і не гэтак... не тое... Адпачыць мне хочацца...

— Бяры водпуск, едзь да сваіх... У сваю вёску. А не, дык чакай вясны, у дом адпачынку пашлём.

Яна маўчала. Села за сталом, сядзела так, падпёршы твар кулакамі. За тонкаю дашчанаю сцяною ў гаспадара кватэры рыжага Хоні цікаў будзільнік, плакала дзіця. Волька моўчкі адарвалася ад стала, зашморгнула паркалёвыя фіранкі на вокнах. Зноў стала на ранейшае месца каля стала.

— Пачакай, сястрыца, вясны, тады доўгі водпуск возьмеш.

Цяпер яна ўсміхнулася.

— Дурная я, плачу няведама чаго... Расклеілася. Знемаглася я, сам бачыш... Эх ты, ліха яго бяры... Нічога, не думай, што я такая вельмі далікатная, кволая... Колькі часу цяпер?

— Нічога, ты заспакойся. Грошай у цябе хапае на пражыццё?

— Пакуль што хапае... Ведаеш, ты куды пойдзеш ад мяне?

— Дадому.

— Ідзі да Ганны. Ты ж сумуеш па ёй.

Ён памаўчаў і сказаў:

— Сумую.

— Мне думаецца, што яна ўжо забыла пра каморніка.

— Ласкі яе мне не трэба.

— Ласкі? — ніколі! Ніколі нічые ласкі не трэба. Але тут хіба ж гэта ласка можа быць?

— Я сам не ведаю, што ты гаворыш. Калі яна заплакала перада мною, я да яе не пайду.

— Наадварот, пайдзі, калі яна заплакала. Прыгалуб.

— Не будзем больш пра гэта. Можа, яно як аформіцца.

Сядзелі моўчкі. Яна была поплеч з ім.

— Ты каго кахаеш, Волька?

— Я ж табе неяк гаварыла.

Зноў памаўчалі.

— Ціха як.

— Не надоўга гэта. У гаспадара за сцяною дзіця заўсёды мне спаць не дае. Трэба дзе кватэру змяніць.

Алесь заўважыў: валасы ў Волькі прыгожа кучаравіліся над шыяй.

— Ты завіваеш валасы?

— Ніколі.

— Чаму ж яны...

— Гэта так, раскідаліся.

Ён узяў яе за руку.

— Пачакай, я валасы папраўлю.

— Няхай будуць так.

Сціснуў яе руку. Яна адказала яму гэтым жа. Сеў да яе бліжэй. Бачыў і адчуваў, як зачырванелася, загарэлася яе твар. Раптам стала яму радасна і добра. Прыціснуўся лбом да яе галавы. Яе валасы казыталі яму вочы. Маўчалі абодва, слухалі, чакалі. Сядзелі так блізка, прыціснуўшыся.

— Добра як,— сказала яна.

— Добра... Ціха... Волечка...

— Ну, чаго ты?

— Ціха, нічога не гавары.

Абхапіў яе рукамі, адчуваў, як гарэць яе шчокі. Пацалаваў у твар. Цалаваў у вочы, у губы. Яна спачатку павісла на яго, пасля моцнымі рукамі абхапіла яго за шыю, не адрываючыся ад яго.

— Родненькая...

І яшчэ была цішыня.

— Я патушу агонь?

— Не... Любенькі...

— Чаму?

Яна ціснула яго да сябе, абхапіўшы рукамі яго шыю.

Дыхала цяжка, гарэла тварам. Ён схапіў яе на рукі і падняў.

За сцяною заплакала дзіця. Плакала доўга, увесь час. Лямпа гарэла цьмяна. Яны нічога не памяталі, не ведалі, апроч гэтай сваёй вострай блізкасці.

Пасля, як зноў села яна, папраўляючы валасы і сукенку, ён пацалаваў яе ў галаву, пагладзіў валасы:

— Волечка.

Яна ўсё падбірала пад грэбень валасы. Ціха было вакол. І слаўна было ім удваіх у гэтай цішыні.

X

Вецер зганяў пакурчаныя лісткі з дрэваў — чорныя, апошнія. Дзьмуў сіверам з сініх палёў. На картапляніку ў зацішку маўчалі сабакі, коні пасталі на сена.

Пад вечар Юзік вучыўся калоць дровы. Юрка стаяў каля яго, заложыўшы рукі ў кішэні.

— Дай я папробую.

— Ты не ўмееш.

— Лепш яшчэ за цябе. Я дома заўсёды калю.

— Пачакай, я з'ахвочуся.

— Чаму ты тупіцаю колеш?

— Бо тата не дае вострае сякеры. Кажа, што я яшчэ калена рассяку сабе.

— Вельмі ж баязлівы нешта твой тата. Думае, што ты гэтакі няўдалы.

— Не, ён не думае... Ой, утаміўся... Ты ўрокі ўжо вывучыў?

— Не.

— І я не. Буду вечарам. Вельмі ж гэтая матэматыка, каб яна згарэла. Гадасць нейкая. Цяжка вельмі.

— А мне ж задачы, дык нічога.

— Уй, нічога! А ўчора дык і не рашыў, як настаўнік пад дошку выклікаў.

— Чаму гэта не рашыў?

— Бо і не.

— А от я рашыў. Гэта адно, што крэйда брыдкая, дык напісалася было нядобра, прачытаць цяжка было, дык я і не адказаў добра.

Юзік кінуў тупіцу ў падпаветку і засняваў. Юрка падсвістваў:

Ой у полі-полі
Карчомка стаяла.

Пасля ўдвух разам:

Трай-рай-рата-тай,
Карчомка стаяла.

Пасля зноў Юрка падсвістваў Юзіку:

А ў тэй карчомцы
Пілі два уланы...

— Юзік, што гэта за ўланы?
— Салдаты гэтакія.
— А-а, салдаты?! Ведаеш што!
— Ну што?
— Мусіць, наш конь зараз здохне.
— Чаму?
— Бо ўжо зусім нічога не есць. Адно ўсё галавой аб жолаб трэцца.
— Чаго ж ён трэцца?
— Я не ведаю. Мусіць, гэта яму свярбіць, ці што.
— У яго ўжо зубоў, мусіць, няма.
— Няма. Паз'ядаў.
— Хадзем паглядзім вашага каня.
— Хадзем.

Сівер шумеў у дварэ саломаю, кудлачыў шэрсць па рыжым сабаку.
— Гэта, Юрка, ваш сабака?
— Наш.
— Дзе ж вы дасталі?
— Гэта я яго з-пад разніцы прывабіў. Тата раней крычаў, а цяпер не. Я яго картопляю падкормліваю трохі. А рэшту — ён сам жывіцца.
— Выдумаў, дзе ён табе тут вельмі пажывіцца.
— Чаму не. Сабака заўсёды знойдзе чым пажывіцца. Гэта ж ганчак,— ты паглядзі адно, якія ў яго ногі. Бачыш, які зад у яго — з гладкаю шэрсцю, тонкі.
— Бы худы, дык і тонкі.
— От паглядзіш, як я яго адкармлю.
У хляве конь глядзеў у жолаб. Стаяў і не варушыўся. Адно паварушыў вухам і прыгнуў яго ў той бок, дзе заскрыпелі дзверы.
— Што вы тут робіце? — сказаў крываносы Мікалай, выходзячы з агароду. На плячы ён трымаў лапату.
— Нічога. Глядзімо, ці конь есць.
— Дзе ён табе тут будзе есці. Я казаў бацьку — на

шкуру трэба прадаць, а то ён заваліць хлеў, тады адно клопату — вывалакай яго. А гэта — сам яшчэ зойдзе.

Зачынілі хлеў і сталі ўсе ўтрох у двары, пад ігрушаю.

— Дзічка,— сказаў Мікалай, задзіраючы галаву на грушу.

— Яна лепш нават за фунтоўку або сапяжанку,— сказаў Юрка,— яй-богу ж праўда. Я, можа, з дзесяць рэшатаў дзічак у сене нагнаіў, ужо можна есці.

Мікалай цыкнуў праз зубы слінаю, папаў якраз на свой левы бот. Падняў нагу, падкурчыў, выцер аб халяву правага бота і пайшоў да сянец, ківаючыся з нагі на нагу і паварушваючы плячыма. Па вуліцы ішоў Алесь. Мікалай гукнуў:

— Алесь, курыць маеш?

Алесь падышоў да варот. Мікалай падаўся туды.

— Дзе ты быў з рыдлёўкаю?

— От хадзіў... Шулы ў Хоні ўкопваў — вароты ад вуліцы ставіць.

— Нішто зарабляеш?

— От, так сабе... Чорт яго...

— Чаго ты?

— Нядобра неяк. От усё, здаецца, ішоў бы некуды, а куды, дык чорт яго ведае. Нешта не сядзіцца мне на адным месцы.

— Куды ж табе ісці?

— Ды так-то нікуды. Ні то што мне трэба куды, а так... Цягне.

— Гэта значыць — добра там, дзе нас няма?

— Не, не тое.

— А што?

— От, так сабе. Што ж, ні да чаго я не прывязан тут, нікога, сказаць, і роднага няма. Каб гэта дзе будоўлю якую вялікую разузнаў, дык адразу туды падаўся б. Каб дзе вялікая работа адкрылася, дык тут бы доўга не сядзеў бы. Унь як мы на ўсе масты пасля вайны рабілі, пасля палякаў, дык я там цалюткае лета, восень і нават пачатак зімы перабыў. Тады неяк і жылося іначай. Сказаць, чаго тут мне лішняе ліпець на адным месцы.

— Ты, значыцца, намерыў падацца куды іначай ад нас? Ці як гэта?

— Не то што намерыў, але ўсё нешта руніць мне. Здаецца, што не там я знаходжуся, дзе мне належыць быць... А ты ж як, жаніцца будзеш?

Алесь успомніў сваю ранейшую гаворку з ім і сказаў:
— Буду.
— Скора?
— Як скора? Пэўна што не сягоння.
— Яй-богу ты, Алесь, не адцягвай. Я табе тады гаварыў і цяпер скажу, што табе самая пара. Ты ж жывеш, можна сказаць... ты на сваім месцы, ты займаешся тым, што табе трэба.
Алесю не хацелася гаварыць пра гэта, і ён папрабаваў пажартаваць:
— Ну, а ты ж сам?
— Я?! Я — брадзяга, куды там мне.
— І зямлі ніколі браць не думаеш?
— А што я з ёю рабіць буду? Наўрад ці я тут прабуду больш, як да вясны. Куды-небудзь вялікіх работ шукаць пайду. Будоўлі дзе якое.
— Ну, а там?
— Гэтаксама і там.
— Усё як бы да часу?
— Не да часу, а адна галава не бядна. Чуў прыказку?
— Ну, а як жа ты так?.. без бабы?..
— Эт, што там. Жывучы, усё бывае. Для жывога чалавека — усё ўсюды.
І цыкнуў праз зубы слінаю на халодную зямлю.

## XI

Толькі і бачылі Ганну ў той вечар у садзе на гулянцы. Перад гэтым некалькі дзён зусім яе нідзе не відаць было. Таксама і пасля таго вечара. Клемусь увесь той вечар не адыходзіў ад яе і цягнуў усё яе скакаць польку. Яна ўсё адмаўлялася, а нарэшце не выбыла да канца і сказала Клемусю, што зусім пойдзе дадому.
— Дык я правяду цябе?
— Правядзі.
Клемусь пад руку павёў яе дадому, пастаяў на змрочнай вуліцы з ёю, напроці яе хаты, трымаючы яе за руку вышэй локця.
— Я чуў, што ты замуж ідзеш?
— Ідзі ты, ад каго ты чуў?
— Гавораць.
— Плешчуць языкамі, мусіць, няма чаго рабіць людзям. Некаму дзела да каго, хто ідзе замуж, хто не ідзе.

Усіх апалошчуць...

— Дык гэта ж не я выдумаў.

— Я ж на цябе нічога.

Клемусю не хацелася развітвацца з ёю:

— Давай паходзім па вуліцы.

— Не, я пайду.

— Чаму? Яшчэ ж рана. Ну паходзім?

— Мне трэба ісці.

Ён сціснуў яе пальцамі над локцем, пробуючы ісці.

— Клемуська, пусці.

— Якая ты ўпартая.

— Сам упарты, ды на каго складае.

Клемусь нехаця развітаўся з ёю, сціснуўшы яе ўсю рукамі сваімі. Яна вырвалася ад яго і пабегла ў двор. Клемусь вярнуўся назад у сад. З таго вечара яна зноў нідзе не паказвалася. Днём суседзі бачылі яе, як упраўлялася яна ў двары і на прыгуменні, а вечарам сядзела яна дома — і сумная і поўная трывожнага чакання. Раз вечарам здалося ёй, што пазнае яна ў двары крокі і стук Алесевых ботаў. Яна ўтрывожылася, не ведаючы, што гаварыць яму, як трымацца перад ім, гатовая моцна заплакаць. І паспакайнела, калі з сянец увайшоў Вашыновіч. Сядзела ў цёмнай хаце і слухала, як у кухні бацькаў кум, Вашыновіч, гаварыў з бацькам:

— Учора Хоня прыехаў з горада і гаварыў, што бачыў там каморніка. Па вуліцы ішоў, кажа, выфранчаны, з жоўтаю палачкаю. Пазнаў, кажа, яго, сам скланіўся і дзяндобры даў.

Пачуўся голас маці:

— Далікатны чалавек. Вучоны, разумны.

Бацька запытаў:

— А чаго гэта Хоня быў у горадзе?

— Мала чаго балагол бывае. Вазіў некага ці нешта.

Кум, не спяшаючы, закурыў, памаўчаў і хітра запытаў:

— Можа, што пісаў вам?

— Хто?

— Каморнік.

— Не.

— Можа, Ганне што пісаў?

Бацька памкнуўся быў сказаць не, але аб нечым здагадаўся, хітра паглядзеў на хітрага кума і адказаў:

— А хто яго ведае. Каб ёй і напісаў што, дык яна ж усё роўна не пакажа.

Кум ядавіта ўсміхнуўся і сказаў толькі адно слова:

— Ага.

І пачаў з бацькам гаварыць пра цану на конскія хвасты. Тады Ганне стала горна і нядобра. Злосць з'явілася і на бацьку за ўсю яго гэтую палітыку, і на мацеру, і на хітрага дзядзьку — бацькавага кума, за яго гэтую нядобрую гаворку. Яна глянула ў акно. Цёмны і пусты быў вечар. Яна апранула ватовую братаву кароткую капоту і пайшла на двор. Зямля была цяплейшаю, як усе тыя дні, і ў цемені здавалася мяккай, як пасля цёплага дажджу. Пастаяла на вуліцы, пачула музыку. Пайшла ў той бок. Музыка была ўсё ў тым жа садзе, дзе быў сельсавет. Увайшла ў сад. Шумна было; людзей было шмат. Акно сельсавецкага пакоя было адчынена. Накурана ў пакоі было вельмі, і дым выплываў праз акно. Знадворку ў акно навісла куча хлопцаў. Дзяўчаты сядзелі на лаўках. У сярэдзіне было цесна і таксама шумна. Хлопцы сядзелі на сталах, на лаўках, на крэслах. Сядзелі цесна, глядзелі на расстаўленыя перад імі ноты. Дзяк Скварчэўскі стаяў перад імі ў тоўстым жаўтаватым фрэнчы, кусаючы ніжнюю губу. У руках трымаў белую тонкую, кагадзе выструганую ім самім з жаўтаватага дзерава палачку. Выгляд у яго быў вясёлы; вочы смяяліся, зубы кусалі ўсё ніжнюю губу. От ён пастукаў аб стол сваёю палачкай, выцягнуў яе перад сабою, роўналежна з ёю выцягнуў і левую руку. Узварухнуў леваю рукою, адкінуў убок правую руку з палачкаю. І нават націснуў плячом, скрывіўшы на левы бок увесь твар свой. Грунулі мядзяныя зыкі, і ў наступны ж момант, звыклым ужо рухам рук, зноў спішыў Скварчэўскі ўсю капэлю:

— Габой, габой! У такт нападаць трэба... Флейты, смялей!

І зноў махнуў палачкаю. Цяпер хвілін дзесяць грымела капэля. Скварчэўскі, сочачы і вушыма і вачыма за ўсім, толькі ледзьве паварушваў рукамі, крывячы часта твар у бок флейты. Клемусь баязліва глядзеў на яго, палохаючыся кожны раз, калі здаралася дзьмухнуць у трубу не ў такт.

— Не курыце, грамадзяне,— папрасіў Скварчэўскі, скончыўшы.

— Акно адчынена, выцягне.

— Хто хоча курыць, можа на двор выйсці.

Рыжы Хоня, стоячы каля дзвярэй, пацягнуў з кулака і схаваў у пальцах зноў папяросу.

— Грамадзянін Хоня Залмановіч, я прашу не курыць.

— Не, я ўжо скончыў.

Вакол зарагаталі:

— Хоня Залмановіч музыку любіць.

— Хоня і сам добры музыкант.

— З яго лепшы курэц, як музыкант.

Падаўшыся ў дзверы, Хоня моцным шэптам растлумачыў усім, хто стаяў каля яго:

— Гэта я нёс збанок гуркоў ад сястры. З расолам. Іду, чую, граюць. Каму гэта няма ахвоты музыкі паслухаць!! Ого!

Ён перамяніў у руках, з левай рукі ў правую, збанок з гуркамі і падаўся на ганак. Скварчэўскі сказаў хлопцам:

— Будзьце гатовы.

І разлажыў перад імі новыя ноты.

От ён зноў пастукаў палачкаю аб стол. От зноў упіліся ў яго вачыма хлопцы. Зноў махнуў ён рукою, і кінулася ў свет грымучая весялосць.

— От бо прыждалі,— сказаў Хоня, стоячы на ганку,— дзякуй богу, прыждалі свае музыкі.

Нехта адказаў яму:

— Гэта ў іх апошняя рапяціца.

— А тады што?

— А тады як мае быць граць будуць.

У садзе было шумна. Цёмны вечар чула думаў, прыпаўшы да зямлі. Ветру не было, і раставаў лёгкі холад. Ганна стаяла ў садзе адна, ні пад кога не падыходзячы. Каля яе шатнуўся Юрка:

— Чаго ты, Ганна, стаіш адна?

— Так сабе.

Юрка пабег туды, дзе было цясней і весялей. Ганна адышлася да варот. Узлягла на нізкі жардзяны плот, глядзела на пустую вуліцу, чорную платамі і голымі дрэвамі. Музыка ўсё бегла шырокімі хвалямі ў свет. Магутныя зыкі ўскідаліся, беглі ў абнімку, рассыпаліся незлічонасцю звонкіх кропель вады, у адзін момант зноў гусціліся ў неабдымную хвалю і беглі, беглі. І здавалася, што не сутулаваты гэта Скварчэўскі махае там рукою, і не тыя ж самыя хлопцы твораць там гэтую вялікасць.

Сум, журба, захапленне — выраслалі ў душы дзяўчыны.

Цвілі ружы ў дзяўчынінымсэрцы, чарнелі і вялі іх пялёсткі, і зноў змяняліся і ружавелі.

Маладосць і каханне поўнілі дзяўчыну. І цяжкасці чалавечых бур паведамлялі ўжо яе аб нязведанай глыбіні свету. У радасцях і пакутах пазнавалася гэта.

## XII

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . «от я ўжо некалькі дзён клапачуся пра ўсё гэта. Знайшоў ужо кватэру: вясёленькая кватэра. Вокнамі на рэчку. Толькі што над самым домам кожную раніцу ў манастырскай царкве па паўгадзіны ў звон б'юць, паспаць не даюць. І ход асобны з кватэры — замкнуў, ключ у кішэню і пайшоў. Так што ты ведай адно — дзён праз пяць чакай мяне. Прызнацца, мне самому не хочацца ехаць — уся вуліца выбежыць глядзець, як мы ад'язджаем. Я думаў раней даць тэлеграму, каб ты выязджала. Але я ведаю, што не прыехаць нямажна. Па-першае, у хаце ў вас будуць непрыемнасці, як гэта дачка ідзе замуж і маладога няма, сама да яго едзе. Па-другое, можа, нават цябе зусім з дому і не пусцілі б так. Дык я прыступіў да працы ў зямельным аддзеле і адначасна падаў заяву, каб далі мне на двое сутак водпуск. Дык праз дзён пяць чакай мяне і сама рыхтуйся да выезду. Калі буду выязджаць, паведамлю тэлеграмай.

Учора заходзіў да мяне Паўлік Кулікоўскі, той самы, з якім ты таксама, як і са мною, некалі бачылася ў горадзе некалькі разоў. Той, пра якога мы ўспаміналі раз, калі я жыў у вас. Ён гэтым летам ажаніўся, прывёз жонку з Мінску. Мінчанка яна і родам. Прыгожая, але мне не падабаецца. Дык яна там служыла недзе, а тут не дае яму супакою, не хоча жыць тут. Што гэта, кажа, за горад, усяго якіх-небудзь дваццаць вуліц, і тыя амаль усе дзеравяныя. Грызе яго, каб стараўся перавесціся ў Мінск.

Я яшчэ больш цябе кахаю, калі само напрошваецца параўнанне цябе з іншымі. Я памятаю, як ты муку сеяла і якая ты была ў тую хвіліну, калі я падышоў да цябе. Ты ўвесь час стаіш у мяне ў вачах, і я ўсё думаю пра цябе. Як у якім тумане. З тых дзён, калі выехаў ад вас, не магу ніяк сабраць думак, каб стала засесці за работу. Калі ты прыедзеш, тады пачну працаваць над сваёй дыпломкай. Цяпер пасля зямельнага аддзела спацырую каля свае кватэры па беразе рэчкі. На другім беразе стукае і шуміць

новая электрастанцыя, тут жа бераг пусты, і вада халодная. Сіняя вада і глыбокая. І я рад, што ў гэтым акруговым горадзе займуся зараз дыпломкаю і ты будзеш пры мне!

Я ўжо нагледзеў табе падарунак, куплю тады, калі прыедзеш. А што, не скажу, няхай гэта будзе табе сюрпрызам.

Паўлік Кулікоўскі часта да мяне заходзіць, асабліва цяпер пачаў, калі ў яго вельмі далёка зайшлі непаразуменні з жонкаю. Прыходзіць і гаворыць аб чарговых справах нашага акруговага зямельнага аддзела. Раней дык ён мог гаварыць аб усім, чытаў шмат, любіў музыку, а гэта высах неяк і ўсё як бы куды спяшае. Да чаго можа дайсці ў чалавека. Што значыць — павязе ў жыцці, заўсёды гаворыць ён мне, калі мы пачном аб гэтым гаварыць. От я, кажа, разлучуся з жонкаю на вясну, тады мне і павязе. Паеду, кажа, куды-небудзь па вялікую практыку, займуся вялікаю работаю. Невядома, як гэта ўсё будзе, пабачым.

Дык чакай ад мяне тэлеграмы і збірайся. Я тады нічога з вашымі пра гэта ўсё не нагаварыў. І ты, мусіць, сама нічога не казала ім (ведаю я цябе!). Дык ты як-небудзь скажы, так, каб лішне доўгіх гаворак і разваг не было. Калі на тое пайшло, пачытай ім гэты ліст. Абы ўсё зрабілася без усялякіх там замінак і зацягванняў. Каб ніякіх цырымоній не было. Мусіць, табе давядзецца яшчэ вытрымаць націск накопт шлюбу ў царкве. Трымайся і чакай мяне.

Я цябе кахаю вельмі моцна. Чакаю цябе; і ты чакай мяне.

12 лістапада.

*Андрэй.*

Ганна дачытала ліст, заплюшчыла вочы. Прыціснула ліст да лба.

## XIII

І як гэта зноў усе зараз жа ўсё ўведалі? І якім гэта чынам маглі дазнацца, што было напісана ў тым лісце, калі Ганна толькі і пачытала яго аднаму бацьку, а тады і ў хаце нікога не было. І не чытала нават усяго, а толькі ўрыўкі. А Юлік Барановіч — хіба калі каму што гаворыць пра свае сямейныя справы?

Перш за ўсё Сабастыяніха пачала шкадаваць, што гэтакая прыгожая і здольная дзяўчына гэтак не па-людску замуж ідзе. Каморнік нават не хоча, каб адбылася хоць якая-небудзь вясельная вячэра або абед з усімі сваякамі

і сваячкамі, не гаворачы ўжо аб шлюбе ў царкве; што каморнік стараецца толькі як выхваціць Ганну з дому, каб яна больш сюды нават ніколі і не глянула, каб адцуралася бацькоў, братоў, усіх родных, каб выраклася бога. І ўсё затым, што ненавідзіць чамусьці каморнік самога Юліка Барановіча. (О, гэта дык зяць!) І яшчэ вядома было Сабастыяніс, што каморнік пісаў Ганне ў тым лісце, каб яна нічога з дому не брала, барані божа, каб нічога! Нават калі маці будзе даваць падушкі, дык каб узяла адну, не больш. Бо, кажа ён, што ў яго для Ганны знойдуцца і падушкі і ўсё іншае, чаго нават дома ў свайго бацькі яна і не сніла. І што ён яе будзе на руках насіць, што яна будзе за ім панаваць, што ён не дазволіць на яе ветру павеяць. Але ўсё гэта будзе толькі ў першыя часы, а пасля раптам мінецца гэтае Ганніна панаванне. Бо цяперашнія шлюбы нямоцныя, бо каханне адно не трымае, надоўга не звязвае людзей. Патрэбен бог і сумленне. Закон патрэбен. Тады хоць і апрыкраюць адно аднаму, хоць і цяжка жыць разам, хоць і ненавідзяць адно аднаго, але жывуць, трымаюцца. І такім чынам трымаюць сям'ю, выхоўваюць дзяцей, якія ведаюць, што трэба жыць часам з квасам, парою з вадою, што гэтага ніколі ў жыцці не мінеш, адно трэба быць добрым і літасцівым усюды і заўсёды. Пасля ж, як пасівее галава, тады спакойна ўжо будзе дажывацца век, бо за доўгія гады прывыкнецца, пераджывецца, усё будзе добра, спакойна і ціха. Каморнік жа думае і жыве іначай, і ніколі Ганна не знойдзе з ім свайго шчасця. Ён так выразна напісаў Ганне. Так і напісаў.

І адкуль гэта Сабастыяніха магла дазнацца пра ўсё гэта?

Барановічаў кум Вашыновіч гаварыў дома жонцы:

— Я не зайздрошчу, я кажу: няхай, тымчасове, здаровы жывуць. Я такі чалавек. Але не магу не сказаць, што нешта гэта робіцца не так, як трэба. Калі ты хочаш быць зяцем, дык ці гэта гэтак робіцца? Ён жа нават з бацькам ні разу, як з чалавекам, не пагаварыў. Не пагаварыў, тымчасове, ні разу як мае быць! Што гэта, бацька не такі чалавек, якога яму трэба, ці што? Яна ж гэта сама пра ўсё і гаварыла з бацькам, а ён хоць бы слова казаў! Але яна таксама. От бо маладыя цяпер якія! Я ж кажу, няхай здаровы жывуць, ды разжываюцца. Я не зайздрошчу, няхай мяне бог крые, у мяне нават, тымчасове, і ў думках нічога гэтага няма; не такі я, дзякуй богу, чалавек. Табе яна ўпадабалася, то ты

бяры яе сабе на здароўе, але будзь ты чалавекам! Ты ведаеш, што ён напісаў ёй?

— Чула,— адказала жонка.

— А дзе ты чула?

— Сабастыяніха гаварыла.

— Гэта што табе Сабастыяніха гаварыла, дык гэта плюнь ты на гэта. Мала табе там баба якая нагаворыць. Бабы заўсёды языкамі любяць трапаць. Мала што там Сабастыяніха нейкая гаварыла. Я і сам без ніякае там Сабастыяніхі ведаю, што Юлік павінен тут наставіць на сваім, і ніякіх тут бабскіх плётак мне не патрэбна.

— Сабастыяніха гаварыла праўду.

— Якую?

— Што так, па-сабачаму, аддаваць дачку замуж нельга. Бо ўсё роўна не надоўга гэтая музыка.

— А гэта як бог дасць, вельмі вы ведаеце, бабы. Тут, можа, не надоўга, а можа, і якраз надоўга. Хто ведае. Тут не ў гэтым уся музыка. А ў тым, што Юлік павінен быць цвярдзейшым і зрабіць усё як мае быць. Каб не рабілася ўсё на смех людскі. Мне ніякага дзела да гэтага няма, але калі з гаворкі прыйшлося, дык я скажу. Скажу гэта самому Юліку ў вочы. Я яму, тымчасове, не зайздрошчу і нічога дрэннага яму не жадаю. Бог з імі, няхай ім бог памагае, мне што! Я, тымчасове, такі чалавек...

І доўга ён яшчэ гаварыў аб тым, што ён такі чалавек, што нікому ён не зайздросціць, і што ніколі не трэба слухаць бабскіх плётак. Гаварыў, стараючыся задушыць у сабе вострыя прыступы нездаваленння, што Юлікава дачка, маладзейшая за яго дачку, так добра замуж ідзе.

Алесева ж маці сказала раз, нясмела пазлядаючы на Алеся:

— Гэта такі праўда, што Барановічава Ганна замуж ідзе за таго самага каморніка.

Алесь, стараючыся больш не гаварыць пра гэта, сціснуўшы губы і памаўчаўшы, адказаў:

— Ну няхай ідзе, каму якое дзела.

Маці ўздыхнула і сказала:

— Загарадзі ты, сынок, у садзе каля вуліцы тую граду, пакуль зямля не замерзла. А то вясною таксама не прыбярэшся, як і цяпер, і таксама не будзе дзе расады пасеяць.

— Чаго вы, мама, злуеце?

— Я не злую.

— Не, злуеце.

— Калі бо ты гэтакі гаспадар.

— Які ж я гаспадар?

— Такі, што за ўсю вясну не прыбраўся нават плоту загарадзіць.

— Але ж вы нікога не наймалі плот гэты загароджваць?!

— Не наймала, але без свае расады была.

— Я вам дастану чужое, але лепшае за гэтую вашу сваю.

— Табе нічога не трэба. Калі заводзіш гаспадарку, дык не гэтак трэба займацца ёю. Трэба пільнавацца яе, а не прападаць вечна на гэтых сваіх ячэйках.

— Чаго вы ад мяне хочаце?

— Жаніся ты. Я не магу адна ў хаце, старая. Не гады мне. Табе пра мацеру і галава не баліць.

— Чым я вас калі крыўдзіў?

Яна яшчэ нешта пачала гаварыць, стараючыся давесці сваю праўду. Алесь моцна стукнуў дзвярыма і пайшоў з хаты. Хацеў пайсці да каго з суседзяў, але пабаяўся, каб не патрапіць на гаворку пра каморнікава вяселле з Барановічаваю Ганнаю. Пастаяў на вуліцы, пакурыў. Падышоў да сельсавета. Там было цёмна і пуста. Нядобра было яму так, аднаму. «Зайсці да Волькі?» — падумаў ён. У яе гарэла святло. Пастукаў з вуліцы ў дзверы. Адчыніла Волька — прыбраная, ружовенькая, у белай палатнянай блузцы з вышытым каўнерыкам і паяском.

— Заходзь, Алесь.

На ложку сядзела незнаёмая дзяўчына, падобная трохі на Вольку. Толькі белая, з сінімі вачыма.

— Будзь знаёмы, мая сястра прыехала пагасціць.

— Надоўга?

— На дзён пяць.

Алесь глянуў на дзяўчыну:

— Чаму на такі малы час?

Голас у яе быў прыемны, пявучы:

— Некалі зімою прыеду, будзе тады навальнейшы час... От прыехала паглядзець, як яна тут жыве. Даўно не бачыліся мы з ёю.

Алесю яна спадабалася. Прывабная яна была, слаўная. Такою ўяўлялася яму. Ён сеў, памаўчаў. Волька перакладвала ў куфэрку нейкую бялізну. Пазірала на яго з-пад ілба (з таго вечара яны не бачыліся яшчэ). Ён адчуў, што нешта між імі існуе і што трэба разбурыць некалькімі сло-

вамі. Так было нядобра. Ён паглядзеў на Вольчыну сястру. «Слаўная якая»,— падумаў ён і сказаў:

— Ну я пайду.

— Пасядзі, Алесь.

— Другім разам зайду.

— Пасядзеў бы.

— Пайду.

Волька паглядзела на яго. Ад яе зірку яму зрабілася лепш, чым было дагэтуль. Але ён пайшоў, бо цяпер, у прысутнасці сястры, нельга было як-небудзь іначай пагаварыць з Волькаю.

На дварэ пробаваў дзьмуць нясмелы вецер. Алесь зашпіліў каўнер. Вольчына сястра стаяла ў яго вачах. І раптам вялікі сум па дзяўчыне агарнуў яго. Па дзяўчыне такой радаснай, жывой, якою ўявілася Вольчына сястра.

«Калі яна паедзе?.. Заўтра зайду...— думаў ён.— Куды цяпер пайсці?»

Ішоў цёмнаю вуліцаю. Побач з цёмнымі абрысамі царквы, у Скварчэўскага, свяціліся вокны. «Хіба зайсці?» — падумаў. Пастаяў. Рашыў увайсці.

Скварчэўскі сядзеў за сталом, разварочваў запыленыя скруткі нот. Сказаў весела, гледзячы на Алеся:

— З гары дастаў. Усё роўна, як на дарозе знайшоў. Ведаеце, што гэта за п'есы? От вам увертура з оперы «Кармен». Бачыце? Чулі калі? Я сам у палку на флейце граў, а самую оперу ў Мінску ў тэатры чуў. Я, ведаеце што?..

Скварчэўскі раптам усхваціўся, шмаргануў па твары рукамі, нервова прабегся па пакоі. Стаў перад Алесем:

— Я вам зараз... у двух словах...

— Кінь гэтае — вам, гавары — ты.

— Ты? Дык от...

Яшчэ бліжэй падышоў:

— Я дастаў рукапіс. Я заўсёды цікавіўся. У Мінску, як быў... Знаёмы адзін музыкант перапісаў мне. Увертура да пастаноўкі дзяржаўным тэатрам п'есы... От забыў якога пісьменніка... Чужаземнага нейкага... «Спадчына» завецца п'еса тая. Увертура, капэля і хор галасоў разам. Ведаеш?.. Мы класічныя рэчы будзем тут граць. Я кажу. Ведаеш ты, таварыш Алесь, я жыць цяпер пачаў...

Раптам глянуў у кухню:

— Люба!

Жонка глянула ў адчыненыя дзверы.

— Люба, ты нам з таварышам Алесем гарбаты.

Зноў да Алеся:

— Першая задача — год з капэляю працырымоніцца.

— Год?!

— Не менш. Сапсаваць не штука. Але каб правільна разумелі музыку!

— Ну а пасля?

— А пасля хор. Гэтых самых, што са мной у царкве спявалі. Я іх на іншыя рэйкі перавяду!

Алесь маўчаў.

— Толькі... Я от усё збіраюся сказаць...

— Ну гавары.

— Тут справа простая. Праз які-небудзь год ці, можа, хоць і больш, на курсы якія-небудзь трэба мне. Калі там тое ў мяне было! Я адстаў ад сучаснае музычнае школы.

Алесь панура сказаў:

— Грошай няма. Што ты зробіш?

Той як бы не заўважыў:

— Хоць гады праз два.

— Тады пабачым.

— Трэба, няйпачай. Бо я займаюся, от і адчуваю, што маглі б тут увесь свет здзівіць. Чуў нашу апошнюю рэпетыцыю?

— Гэта ў сельсавеце?

— Не, тут, у мяне.

— Не чуў.

— Трэба было паслухаць. Хлопцы здольныя. Таленты. Я іх усіх на рэйкі паставіў. Цяпер простыя рэчы ідуць у нас, прасценькія. Пасля будзем на іншы маштаб пераходзіць.

Алесь выпіў з ім гарбаты, маўчаў, слухаў. Той усё гаварыў, развіваў планы, стараўся ўцягнуць у гаворку жонку.

Адыходзячы, Алесь паглядзеў на твар гэтага аптыміста. Твар яго быў светлым, жыццерадасным.

Трохі рассеяўшы ранейшыя нядобрыя настроі свае, Алесь выйшаў. Ціха было на вуліцах. Каля пажарнага склада гарэў ліхтар і варушыліся каля яго чорныя постаці. Чуваць была гаворка. Недзе, за некалькі вёрст, быў пажар — ружовы промень ледзьве трапятаўся на чорным небе. Алесь падышоў. Каля помпы стаялі ўчатырох. У помпу была ўпрэжана пара коней. У тры бочкі было ўпрэжа-

на па каню. Хлопцы, падцеразаныя пажарнымі паясамі, спрачаліся:

— Ну, лезь на бочку.

— А ты?

— Чаму канечна я. Чаму ж ты не хочаш?!

— Слухай, ты, лезь на бочку.

— А ён?

— Што ён?

— Чаму ж гэта ён не хоча?

— Ён на помпу сядзе.

— Які ён разумны. Няхай папрабуе на бочцы.

Пастаялі, памаўчалі і зноў пачалі спрачацца. Закурылі. А водбліскі пажару пачалі меркнуць.

— Ну то паедзем ці не?

— Ну а як жа?!

— А можа, ужо не варт!

— Як гэта не варт! Чаму гэта не варт! Дурны!

— Дык жа патухла ўжо.

— Дзе яно к чорту патухла!

— Паглядзі ж.

Непаваротлівая постаць узлезла на бочку, глянула паверх нізкіх стрэх і платоў.

— Ну але, мусіць, тухне ўжо.

— Чэрці, каб на вас халера! От заўсёды гэтак. Якія з вас пажарнікі!.. Абібокі, таўкачы.

— А ты. Чаго ж гэта ты не хацеў на бочцы трасціся? Эйш ты, галава!

— А ты што?!

— Глядзі на сябе!..

— Пажарнікі, каб на вас агні.

— Ну але.

— Трасца вашай матары.

## XIV

Алесь адпачываў ад усяго.

Дні былі хмурныя і мяккія. Па высокім небе плылі абрыўкі хмар, і ўсё было прасторным на зямлі.

Коні паволі ішлі мяккаю дарогаю. Ідучы поплеч з Алесем, Тамаш гаварыў:

— Нават Лявон і гаварыў дома, куды ты, бацька, паедзеш, я сам, кажа, наважу дроў. А я думаю — няхай лепш

малоціць... Гэта пі то, што калодкі якія, галлё магу і я прывязці... Ну то як з алейпяю будзе?

— От, каб як па гэтай гары вазоў пе паварочаць.

— Эт...

Тамаш задыміў з вішпёвага папяроспіка. Гаворка пе клеілася. Моўчкі праехалі гору і рэчку...

— Добры дзепь,— сказала дзяўчыпа, сыходзячы з дарогі на бакавую каляіпу.

— Дзепь добры,— радаспа адказаў Алесь і азірпуўся.

Дзяўчыпа ішла ўжо далей, і вецер, трэплючы яе сіпяе плаццс, рабіў постаць яе рухаваю. Хутка япа схавалася за гарою. І Тамаш азірпуўся:

— Што гэта за япа?

— Знаёмая.

— З Чучапоў?

— Але.

— Я педзе як бы бачыў яе.

— Чучапоўскага Змітра дачка. Што Аляксапдру па палавіпу поле рабіў.

— Я гляджу, што зпаёмы твар пейкі.

І зноў гаворка больш пе клеілася. Алесь маўчаў і думаў пра спаткапую кагадзе Змітровую Маню з Чучапоў. Хацелася вярпуцца пазад і ісці з ёю.

— Чаму япа босая ходзіць,— раптам сказаў Тамаш,— а чаравікі ў руках пясе?

— Босай лягчэй.

— Не.

— А чаму?

— Каб чаравік у гразь пе запэцкаць. А падыдзе пад мястэчка, сядзе, абуе чаравікі і пафарсіць па мястэчку ў выгляпсаваных чаравіках. Бо як жа іпачай. Босай жа ўжо холадпа ў погі.

Алесь пічога пе адказаў, і Тамаш зноў змоўк.

Раптам Алесь ускінуў вочы ўгару, агледзеў усё. Паглядзеў па Тамаша. Той па хаду роўпа гойдаў плячыма. І запытаў Алесь:

— Вы, дзядзька, як, пра што вы цяпер думаеце?

— Цяпер ці заўсёды?

— Заўсёды пайбольш?

— Што ты, браце, пытаеш, хто ж яго скажа табе адразу. Жывучы — усякае думаецца. А ў маіх гадах...

Тамаш раптам ажывіўся.

— ...а ў маіх гадах, дык самому пе разабраць, што ва

мне робіцца. Бо... — Ён яшчэ больш ажывіўся,— ...бо гады, сказаць, праходзяць... Прайшлі, можна сказаць, гады. Гадоў назад не вернеш. Скончана! Вядома, што чалавек не рад гэтаму. Прайдзі ты свет, то гэта табе заўсёды было і будзе. На гэтым свет стаіць... Дык от усякае думаецца. Думаецца і аб гэтым. Здаецца, размахнуўся б на ўсе, як той казаў, застаўкі, а тут — а куды ты! Ведай сваё месца. От што! Пражылося ўсё, мінулася... Ты думаеш, я не чую, што доўга на свеце не пажыву? Ведаю, браце, што яшчэ якіх пара год, яшчэ пара, і ўсё яно ідзецца да... сам ведаеш да чаго. Каб мне гадоў з дзесяць ды вярнуць назад... Братка ж ты мой!

Алесь маўчаў.

— От думаецца ўсё. Пражыў век — дабра не бачыў. Па смалакурнях, па балотных равах, па панскіх маёнтках усю маладосць пражыў. Не агледзеўся, калі прайшло ўсё. А з жонкаю як жыў? Ты думаеш добра жыў гэта я? Як я жыў? Ні я ёй не люб, ні яна мне. А чаму?! Бо галота страшная, бядота несусветная. Часам і кавалка хлеба ў хаце не было. Нічога не было. Душу не было чым пражывіць. А калі і было чым, дык гора якое падкоціцца, што і кавалак той у рот не лезе. Кавалка хлеба ў душу не ўбіць. Ты думаеш што? Ад гэтага ўсё, гэта ясна, як божы дзень. Вядома, што... Тут яно, што важна? Што чалавек ад чалавека далёка, што чужым ён робіцца другому. От хоць бы і ў мяне. Гэта пасля ўжо, дзяцей пагадаваў, у заработкі яны пайшлі былі, дык памацнеў трохі. А то часамі кашулі не было перамяніцца. Ты паверыш? Было тое, што вошы заядалі. Яна, бывала, наваліцца, што я жыць не ўмею, што я няўдалы, а я — што ты ёй на гэта скажаш і чым ты ёй давядзеш? Лаяцца? Пробаваў і гэта... Так яно вот і пражылося. Пасля, я ж кажу, дзеці павырасталі, пайшлі ў людзі. А як яны выраслі! Ці гэта гэтак трэба чалавеку вырастаць? Нават і цяпер часам старэйшы возьме ды ўспамяне: мы, кажа, пры табе ніколі дабра не бачылі. Як бы гэта я тут вінаваты ў чым. Малодшы, дык усё вучыцца хацеў. Намагаўся, аж страх. А тым часам, дзе той у мяне дастатак для гэтага? Мне яго і шкада было, і тады і цяпер. Я дык усё адмоўчваўся перад ім. Раз толькі не вытрымаў, сказаў нешта груба, а ён мне ў адказ: калі, кажа, на гэткае жыццё, дык на чорта ты мяне на свет пусціў. А ты ведаеш, што гэта значыць, калі дзіця папракае бацьку, што ён яго на свет пусціў? Ведаеш ты, што гэта? Дык от я і да-

думаўся. Трэба на свеце, каб было так, што каб дзіця дзякавала бацьку за тое, што з'явілася яно на свет. Гэтак ці не? Ты скажы, праўду я кажу? Ну, так яно от усё. Вядома, што ўсё гэта чалавека вучыць. А сілы ў мяне было — чорт яго ведае. Так я яе ўсю і ўвагнаў ва ўсякія там смалакурні і куды ты сабе хочаш. І без толку ўсё. Што ж ты скажаш!.. І шкада ўсяго, самога сябе шкада, як падумаеш. Каб гэта я радзіўся пазней крыху! Што ж, немач мяне цяпер агортае ўжо.. Гады. Дуб і той ломіцца. Камень і той крышыцца. А то — чалавек! Дзіва вялікае! А гадоў не вернеш. Усё чалавек можа на свеце, а гадоў не вернеш і роднага бацьку з маткаю за грошы не купіш.

Тамаш дыхнуў Алесю ў твар дымам з вішнёвага свайго папяросніка. Ішоў моўчкі, пахвостваючы па хаду пугаю па сухой мятліцы на каляінах раз'езджанай дарогі. Памаўчаўшы, зноў:

— Ты, браце... От хочацца сказаць, ды часамі адразу выказаць неяк не магу. От што...

Алесь маўчаў. Тамаш папрабаваў скрывіць твар нясмелаю нейкаю ўсмешкаю:

— Жыві ты, браце, ды пладзі дзяцей...

І яшчэ памаўчаўшы:

— Іначай жыць яны будуць. Я гэта сам удзёўб сабе ў галаву і ўсім дзяўбу. Усюды гавару.

І пачаў пра нешта думаць. Шырока ступаў повымі, разношанымі ўжо ботамі. Беспрастанку курыў. Зноў:

— Цяпер от той на мяне воўкам глядзіць, а той чакае, што з гэтага ўсяго будзе... А я...

Моцна і здорава ўздыхнуў:

— ...а я раблю і шкадую, што гады прайшлі. Што доўга не давядзецца ўжо на свеце пажыць.

Алесь востра бліснуў вачыма:

— Невядома.

— Што ты, браце, жартуеш!

— Хіба сябе дрэнна чуеце?

— Я ж казаў табе, што немач мяне агортае.

— Падлячыцца.

— Што ты тут падлечышся... Прайду трохі — ногі млеюць. Як разварушацца пры рабоце, дык яшчэ нічога. А так, дык хоць і сядзі на адным месцы, як, усё роўна, ланцугом прыкованы... Не даюць веры, кажуць усё, што я здаровы, што я рухавы, а ў сярэдзіне ў мяне здароўя

няма. Каму лепш ведаць, як не мне самому. А скажы ты каму!

— Менш рабіць трэба.

— Гэта вядома.

— Ёсць жа, здаецца, ад каго.

— Ды яно ёсць. Я ж ужо і гаспадар дома так сабе, прышый, як той казаў, кабыле хвост. Сын.

— Што, з сынам ладу няма?

— Не, што ты!

— Ну, а што?

— Запраўляе ён усім. Ну, а мне што. Няхай гаспадарыць. Я от памагаю адно. Колькі магу.

Зноў закурыў. І ўсё схвостваў пугаю сухую мятліцу на каляінах. Алесь нічога не гаварыў.

Стукалі калёсы, трасліся вазы.

Хмары ўсё плылі па высокім небе. Гусціліся па даляглядах, сінелі і цямнелі над зямлёй. Гойдаліся вятры на дрэвах, зямля маўчала, слухала ў чулай дрымоце і вострай чуласці. Поле пахла ветрам. І шырынёю сваёю жадала сонца. Сінелі лясы, ціха і нявінна. Так, як па-дзіцячаму, свецяцца конскія вочы на палявых дарогах.

## XV

Даўно ўжо абветралі дарогі; пашарэла ралля і добра ўрунела жыта. Поле сумавала пад густымі вятрамі, пад радасным пахам ядлоўцу. І следу не засталося ад курлыкання жураўлёў, плаўнага руху гусей. Балоты жаўцелі ў хмурнасці сініх дзён, маўчалі і шырыліся асенняю воляй. Пахла зямля карою дрэваў, халодным карэннем мокрага зелля з рэкавых берагоў і з дна рэчак, чыстых і ціхіх, як конскае вока.

Яшчэ часамі пастушкі гналі авечкі ветравым полем і туманілі неба дымам сухога картаплянніку. Пробавалі спяваць салдацкія песні. Пасля маўчалі, аддаючыся задумёнасці сухой саломы і пажаўцелай травы.

І якая ж трава маўчала на полі! І ў якіх жа туманах вырастала яна і сохла!

Пыльнае сцябло было ў травы! Абпылёнае летнюю гарачынёю, размахамі асенняй волі. Веснавымі вятрамі, сонцам; і пястрымнасцю дарог. Ляжалі дарогі, беглі ў свет. І гойдалася трава каля іх. У карэннях травы, у зямлянай прытульнасці летавалі мурашкі, поўзалі па траве і жылі.

Вятры атрасалі іх з травы, дажджы палівалі траву і лапічыла яе сонца. З'ядалі траву коні, і сіні куст вырастаў і кунчасціўся зноў.

На хмурных дарогах надоўга асталявалася восень. Жыла ў неабходнасці свету і цешылася радасцю зямлі.

Збіралася ўміраць восень! І ў павольным скапанні яе хваляваліся буры і кіпелі імкненні. І ў пажоўклай траве была радасць гэтых і ўсякіх дзён; жыла і кіпела — у пахучай зямлі, у каменнях, у лісці.

Асеннія туманы ўзнімаліся і асядалі. Разыходзіліся яны па зямлі, кроплямі вады сядаючы па дрэвы, па камень. Зыкі доўга гучэлі ў туманах, і ўсё чулае і радаснае, задумёнае і сумнае, жывое трымала ў сабе іх вясёлую сілу.

Дні праходзілі, мерклі і нараджаліся.

Які туман стаяў на дарозе!

Перавесіўшыся набок, каб не абмуляцца, паволі ехаў сабе конна Юрка. Толькі чуў, як пахне ядловец і за пяць конскіх крокаў ад сябе нічога больш не бачыў у густых засцілах туману. Пацмокваў губамі на каня, паплёўваў паабапал яго шыі і ўсё пачынаў цягнуць бясконцую, як зямныя дарогі, песню:

Эй ты, э-э-эй.
Эй ты, э-э-эй.
Фью-ю-ю-ю.

І думаў: «Колькі гэта будзе ўжо, як мама памерла? Ці месяц, ці паўтара, ці, можа, і два?» А пасля пачаў думаць пра каня. Глядзеў, як конь трос шчуплаю грываю і шкадаваў яго. Пасля пачаў разважаць сам з сабою:

— Прышвы павінны быць добрымі і калі папраўдзе гэта шавец праз тры дні, як казаў кагадзе, пашые, то ў пядзелю можна будзе абуць іх. Толькі няхай ужо тады сам тата ідзе па іх. Бо на кані зноў ехаць, дык толькі абмуляюся, а на драбінах, мусіць такі, праўда, што не заедзеш. Хіба пацяплее на двары, тады босы пайду, а калі будзе гэтак холадна, дык як жа я зайду ў гэтых маміных чаравіках. Адно ногі паабрэзваю... Адно каб як гэта дастаць дзе трохі грошай на ваксу, дык вельмі б добра было, каб паваксаваць боты. Новыя яны і так добра, але як трохі паносяцца... Невядома, колькі гэта капеек вакса каштуе?

І зноў засвістаў:

Ф'ю-ю-ю, ф'ю-ю-ю.
Ф'ю-ю-ю, ф'ю-ю-ю.

І засяваў:

Ой у полі-полі
Карчомка стаяла...
Ф'ю-ю-ю, ф'ю-ю-ю...
Ф'ю-ю-ю, ф'ю-ю-ю...

На агародзе спаткаў яго рыжы сабака. Ішоў збоку, падбягаў, падскакваў, стараючыся лізнуць яго ў твар. Твару дастаць не мог і аблізваў усё нагу.

— Пайшоў! Не ліжыся!.. Пайшоў вон!

Сабака на момант адбягаўся, выпярэджваў каня.

— Ф'ю, ф'ю, па-цю-па. Хадзі сюды, куды ты. Ф'ю, ф'ю... фью...

Сабака варочаўся і бег насустрач.

Каля школы таварышы не далі яму праехаць.

— Чаму ты сягоння вучыцца не прыйшоў?

— Чаму ўрокі прапусціў?

— Дзе ты быў, Юрка?

— Чаму твой конь такі худы?

— Куды гэта ты ездзіў?

— Гэта твой сабака?

Ён толькі ўсміхаўся і ехаў далей. Юзік дагнаў яго і ішоў поплеч:

— Дзе ты быў, Юрка?

— У Чучанох.

— Чаго?

— Ездзіў даведвацца, ці боты гатовы.

— Чаму ж вы ў Чучаны аддавалі шыць?

— Там таней шыюць.

— А што, не гатовы?

— Не яшчэ.

— А калі будуць гатовы?

— К нядзелі... колькі гэта каштуе вакса?

— Не ведаю. Мусіць, дзесяць капеек.

— Не, здаецца, сем.

— Ну але, мусіць, сем. Нашто табе?

— А от як боты будуць...

— А-а-а...

— Без ваксы нядобра.

— Дурны ты. Дык ты можаш прасіць у Мікалая. Ён жа кожную нядзелю боты ваксуе.

— Дык ён дасць раз ці два, а пасля возьме ды не дасць. Найлепш сваю мець.

— А вы, як перад вялікаднем калолі япрука, дык пічаціппе прадавалі ці не?

— Не, ляжыць у сенцах, на бэльцы. Тата, як заколе цяпер зімою другога, дык тады разам прадасць.

— Дык ты вазьмі трохі пічаціння ды занясі на места прадаць. От табе і будзе на ваксу.

— А як тата агледзіцца?

— Вельмі ён пазнае.

— Дык я так і зраблю хіба.

— Зрабі.

— А калі тата запытае, дзе я ўзяў грошай на ваксу?

— Скажы, што знайшоў на месце дзесяць капеек.

— Не дасць веры.

— Дасць.

— А чаму ты так рана з школы ідзеш?

— Цяпер матэматыка засталася. Няхай яна згарыць. Яна мне страшна. Я дома ўчора задач не рашыў.

— Дык уцякаеш?

— Няхай яно згарыць. Яшчэ настаўнік возьме ды пад дошку выкліча, тады хоць плач.

— А калі папытае заўтра, дзе ты з школы падзеўся быў сягоння?

— Скажу, што галава забалела.

— А ён возьме ды папытае ў цябе сённяшніх задач. От ты тады і наскачаш перад ім.

— Не папытае.

— А калі папытае?

— Скажу, што вывучыў, але праз дзень забыўся. А калі папытае ў цябе, чаму ты сёння не быў?

— Скажу, што ботаў не было.

— А як раней хадзіў?

— Раней цяплей было... Што ты будзеш цяпер рабіць?

— Нічога. А ты?

— І я нічога.

— Можа, пойдзем куды?

— Куды?

— Куды-небудзь.

— Ну, добра.

Пад'ехалі пад хату.

— Абмуляўся?

— Трохі.

— Гэта і сабака за табою бегаў?

— Не, спаткаў на дарозе... От паабедаю і зайду па цябе. Добра?

— Добра.

— Адно будзь дома.

— Буду.

Удвух увялі яны каня ў хлеў. Конь адразу пачаў церціся губамі і шыяю аб жалоб. Пераступаў з нагі на нагу.

— Еш!

Конь нічога не браў у рот.

— Чаму ты не ясі?

— Можа, ён піць хоча?

— Як ехаў, прабаваў паіць у рэчцы.

— Піў?

— Не, нават і губ не памачыў... Бачыш, які худы. Нейкі хворы ён. Думаеш, не?

— І стары?

— І стары.

— Дык што будзе?

— Нічога... Мусіць, здохне скора.

## XVI

Быў той дзень утрапёны, нялюдскі. Цягнуўся той дзень доўга.

Раней па двары падмарожвала, нават зусім было ўкавала ўсю гразь і ваду. Нават снегам было пацярусіла трохі зверху. А гэта зноў пусціла, зноў цёпла стала і мокра. У садах і агародах зяленілася сцябло пачарнелага па марозах зелля, барвенак па градах і пад дрэвамі ў садах весела распоўзаўся па зямлі. Плакалі стрэхі і моцна пахлі намоклыя непілаваныя дровы.

У двары, у разгароджаным агародзе пад ігрушаю мокла расцярушаная салома. І нудна было Юрку глядзець на яе. Горка было і крыўдна. Слёзы былі ўсе выплаканы, твар быў ад іх чорны, закарэлы, з чырванню пад вачыма. Ненавісць да бацькі душыла яго. Бо і гаворка тая з бацькам была ненавіднаю і агіднаю:

— Гавары, гэта ты ў шчацінні корпаўся?

Юрка маўчаў.

— Гавары, нашто шчацінне браў?

Чуючы такую жорсткасць бацькі, ён сказаў:

— Не, гэта не я.

— А хто ж гэта тут мог лазіць?

— Я не ведаю. Можа, ніхто.
— А дзе ж дзелася больш палавіны шчаціння?
— Не палавіна, а ўсяго трохі...
І раптам, адумаўшыся, паправіўся:
— Гэта вам здалося, шчацінне цэлае.
— Гавары.
— Яй-богу ж не я.
— Прызнавайся, сукін сын.
Бацька паволі ўзяў за вуха і пакруціў.
— Татачка, гэта не я.
— Брэшаш ты!
— Каб я так жыў, што не.
— От я табе зараз пакажу. Тады ты пазнаеш, як красці, а пасля таіцца.
— Я не таюся, бо я не браў.
— А от зараз паглядзімо.
Трымаючы яго за вуха, бацька праваю рукою расперазаў папружку, патрос ёю ў яго перад тварам з крыкам:
— Зараз жа прызнавайся!
— Татачка, не я гэта.
— Калі прызнаешся, дык менш буду біць.
— Не я.
Бацька павольна, не спяшаючы, так, як абівае аб калодку сноп жыта, адвёў руку і свіснуў папругаю па целе. Скрозь палатняныя порткі папруга востра прыстала ніжэй спіны.
— А-яй, ай, татачка!
Бацька трымаў за каўнер і не пакідаў хвастаць. Выгінаючыся ва ўсе бакі, каб як вылузацца або ўхіліцца ад рэменя, Юрка енчыў:
— Татачка, не буду ніколі больш.
Радасным голасам бацька зароў:
— Ага, прызнаўся, сукін сын, як дапякло. От я ж цябе зараз адвучу, як чапаць тое, што да цябе не належыць. Я цябе навучу, урвіцель паршывы, гадзіна!
Юрка калаціўся, дрыжэў і выгінаўся.
— Дзе шчэць падзеў?
— Прадаў.
— За колькі прадаў?
— За восем капеек.
— Гавары праўду!
— Каб я так жыў, што за восем.
— Дзе грошы?

— Я сабе ваксы купіў.
— Ваксы?! Яшчэ ваксы захацеў?! Няма, каб падзякаваў бацьку за новыя боты, дык яшчэ ваксы?! А смурод жа ты паршывы!
— Татачка, я больш ніколі не буду, колькі буду жыць... Ніколі не буду нават і ваксы купляць.
— Жартуеш, гад.
Мацвеевы вочы гарэлі раптоўнай азвярэласцю, яму хацелася больш усё біць. Трымаючы ўсё за каўнер Юрку, ён раптам закрычаў:
— Дзе гэта ты порткі падраў?! Гавары!
Юрка дрыжэў і галасіў.
— Гавар-ры!
І зноў пачаў біць.
— Аяй, аяй! Не буду больш... Самі парваліся!.. Аяй, аяй! Аяй, аяй!
І з немым крыкам ірвануўся, стукнуўся галавою бацьку ў жывот і вырваўся. І зразу кінуўся ўцякаць у агарод. Не бачыў ужо, дзе дзеўся бацька, не чуў нічога. Прабег цераз агарод, ускочыў цераз плот у суседні сад і, не могучы стрымаць моцнага плачу, выбег на вуліцу, прабег усю яе ўпоперак і выбег на паплавы. У новых ботах, расшпіленым кажушку і без шапкі.
Вецер асушыў на твары яго слёзы. Ён паволі ішоў парыжэлымі паплавамі, плюхаў ботамі па вадзе, моцна гаворачы:
— Чорт яго бяры, з ботамі разам. Няхай пляжацца. Няхай псуюцца, калі ён гэтакі разумны, падла гэтая старая, паўдалая, здохлая! Трасцы і хваробы яму! Будзе некалі ўміраць, папросіць, каб дараваў, ніколі не дарую. Ён у мяне здохне, як сабака. Тады ўспомніць!..
Ён нарочна выбіраў, дзе больш вады і з усіх сіл пляскаў ботамі. Адчуваў, як топкі тавар прамок і халодзіць ногі. Так ішоў аж да самых далёкіх кустоў пад рэчкаю. Прыпыніўся на мокрым беразе, прайшоў трохі ўздоўж паўз рэчку. Вады на беразе не было, толькі макрэла з'едзеная і збітая жывёлаю трава. Пакінуў гаварыць, пайшоў пазад, галасна і роўна плачучы. І патроху адчуў, якая гэта вялікая асалода для яго плакаць. І якая вялікая асалода ў тым, што баліць і ные збітае бацькам цела. Асалода ад слёз і болю, бо быў слабым перад бацькам, бо не мог узяць над ім верх. Галасна ўсё плакаў. Пасля пачало шкада рабіцца новых, спляжаных у вадзе ботаў. Падцягнуў вышэй ха-

лявы і пайшоў суцэйшым месцам. І ўжо хацелася яму захварэць цяжка, мучыцца, лежачы ў пасцелі. І каб гэтая хвароба была якраз ад таго, што бацька біў яго. От ён будзе ляжаць хворы, пакутваць, а бацька будзе ведаць, што гэта ад яго збойства. І будзе ўсё старацца як-небудзь загладзіць сваю віпаватасць. Але ён, хворы, будзе адварочвацца ад яго. Ніводнага слова не скажа яму. Пасыходзяцца людзі, будуць глядзець на ўсё гэта. Бацька будзе стаяць перад судом усіх, усе будуць гаварыць пра яго зверскі ўчынак...

Недалёка было да вечара, калі ён з'явіўся каля сваёй хаты. Ціха прайшоў паўз весніцы, глянуў у двор. Пуста было і ціха. Тады ён стаў на прызбу і паглядзеў у акно. Тры сястрычкі яго гулялі ў хаце. Качалі па зямлі два нераспелыя гарбузы. Большая трымала ў руках міску і нешта ела з яе вялікаю лыжкаю. Бацькі не было відаць. Ён ціха ўвайшоў у двор і пакінуў, на ўсялякі выпадак, адчыненымі весніцы. Пахла на двары карою і мокрым дрэвам. З двара глянуў яшчэ раз у акно. Бацькі не было. Увайшоў у сенцы і быў насуплены, як вожык. Адчыніў дзверы ў хату і запытаў.

— Дзе бацька?

Большая сястрычка адказала:

— Панёс шчаціпне на места прадаваць.

— Аг-га.

Выйшаў на двор і сеў на бервяне пад ігрушаю. Слухаў, як крычаць у агародзе вераб'і і як нудзіцца ў суседзяў цяля. Раптам пачуў — пехта застагнаў у хляве і нечым застукаў. Тады кінуўся ў хлеў, заскрыпеў дзвярыма і ўбачыў — конь ляжаў на гнаі, вышчаранымі зубамі грыз ножку ад жолаба, стагнаў і качаўся. Пярэдняя нага была падкурчана. Ён палез пад каня і памог яму выпрастаць нагу. Аднак конь не ўстаў. Юрка закрычаў:

— Конь дохне!

І выскачыў з хлява. Угледзеў на вуліцы Юліка Барановіча:

— Дзядзечка, наш конь дохне!

Барановіч пайшоў за ім. Увайшоў у хлеў. Штурхануў каня ў жывот, зайшоў з другога боку, прысеў, упёрся нагою ў сцяну, плячом — у каня каля спіны і напяўся. Конь страсянуў галавою і пачаў падпімацца. Падпімаючыся разам з ім, Юлік гукаў:

— Яшчэ, яшчэ... Эх, разам!



І памогшы каню падняцца:

— Гэта ён, сынку, закаціўся быў. Калі бо ў вас тут гпоій няроўна неяк. Чаму ты гэтае ямы на затохціш гноем. Узяў бы сахор ды затахціў бы. Вучыся гаспадарыць. сынку.

І выйшаў на двор. Заткнуў адну ноздру пальцам, чмыхануў у другую і, абцёршы нос, пачаў глядзець на суседнюю страху:

— Перакрываць трэба. Згніла.

Перавёў вочы далей па страсе:

— А тут яшчэ гады чатыры будзе трымаць. Бач, як лебяда і мох пачалі расці. Як паўростала. Гэта — будзе трымацца.

Юрка падаў голас:

— Тут улетку нават тры калівы жыта расло.

Барановіч не звярнуў увагі на гэтую заўвагу малога. Няўдала плюнуў, абцёр бараду рукавом і падаўся на вуліцу. У варотах заўважыў кучу вераб'ёў, крыклівых, рухавых. Прыпыніўся, залажыў пальцы ў рукавы і пачаў глядзець на іх, павольна ўсміхаючыся:

— Бач, як жывяцца. Недзе, падлы, схвацілі ў пекага з карыта картоплі і дзяўбуць, ліха ім... Хватаюць, аж душацца. Эйш ты!

І радасна расплыўся ўсмешкаю:

— А тоўсты які, сыты... Жыў-жыў, каб ты здох!

Тупнуў хвораю нагою і гукнуў:

— Фр-р-р!

Вераб'і раптам прапалі па той бок гумён. Несучы на твары павольную ўсмешку, Барановіч паклыбаў вуліцаю, разважаючы сам з сабою:

— Каб яно бог даў згарэла было, на зіму без шчыгла застаўся.

Спаткаў кума Вашыповіча. Кум запытаў:

— Што ты гаворыш?

— Гавару, што не ўдалося ўдзе шчыгла злавіць, няхай бы спяваў. І канаплі ёсць, оў бы ды спяваў. Летась, дык аж два шчыглы зімавалі ў мяне. Спявалі ўсю зіму, аж разлягаліся. Бывала, чым-небудзь возьмеш ды пашамечаш — сухім зеллем, або торбаю з аўсом, ці жонка пачне пасцель перасцілаць ды сенніком зашамеча, дык яны калі заціўкаюць, ды калі заспяваюць, дык, здаецца, хата раскідаецца. А гэта неяк не злавіў, а цяпер позна ўжо. Што ж, дзякуй богу, зіма на носе.

— Зіма,—адказаў кум.
— Дзе ты цяпер таго шчыгла зловіш.
— Чаму, захацеўшы, тымчасове, можна.
— Дзе?
— У мяне за гумпом лопуху чорт ведае колькі зазімавала. Дык як усмаліць холад, дык яны, тымчасове, паналятаюць ваўчкі кляваць. Можна будзе тады і ўпляпіць з пару якую.
Барановіч зацікавіўся:
— Няўжо?
— Дзівак ты. Дык жа і летась гэтае самае было. Хлопцы лавілі.
— Бачыў ты?!
Кум змяніў гаворку:
— Ну, як Ганна, праўда гэта, што зараз развітаецца з табою?
— Яшчэ як мае быць невядома... Гэта як бог дасць.
— А я чуў, што каморнік зараз з'явіцца па яе. Ліст, кажуць, нейкі быў ад яго, ці што. Гавораць.
— Эт, пісаў там нешта.
— То, мусіць жа, праўда?
— Праўда.
— Ну, дай божа, час добры.
— Дай божа.
— Няхай сабе жывуць здаровенькія. Слаўная дзяўчына Ганна. Гэтакае дзяўчына адно пашукаць. Гэта дзяўчына!
— А так, яна ўдалая дзяўчына.
— Дый ён чалавек, можна сказаць, залаты.
— Здаецца, ніштаваты.
— І самае важнае, што чыста жыць будуць. Гэта ні то, што ў гаспадарцы, гноі разбіваць або ў зямлі корпацца. Лягчэйшы хлеб. Смачна, тымчасове, з'есць і чыста, можна сказаць, сходзіць...
— Ды будуць неяк жа жыць.
Раптам Барановіч раззлаваўся:
— Я па цябе, браце, нічога не скажу і нічога да цябе не маю. Але што гэта ў людзей за мода ўмешвацца ў чужыя справы. От кроку не ступіш, каб не было ўсім вядома. Якое каму дзела, хто з кім жэніцца ці за каго замуж ідзе. Дык не, усё перагавораць, усё перапытаюць, да ўсяго дакапаюцца. Няма, каб усякі глядзеў свайго, як той казаў. От бо парод. Хоць ты яму кол на галаве

чашы, усё роўна ты яго не перайначыш. Цёмны народ у нас.

Кум згадзіўся:

— Гэта правільна. У нас, тымчасове, народ такі. Дзе што якое пачуюць, дык адразу ўсе разам як загавораць, як падпімуць гаворку. Усіх па костачках разбяруць, усіх апалошчуць. З нашым народам кашы, тымчасове, не зварыш.

Барановіч уз'еўся:

— Тымчасове, тымчасове! А сам ты які. Колькі ты плётак пусціў на маю Ганну? Хто ж гэта, як не ты, усё паспытваеш ды ўсміхаешся ўвесь час хітра, мусіць, думаючы, што гэта толькі каморніцкія жарты. Не, кумок, мая дачка ні то што за каморніка, за каго хочаш можа пайсці. Я выхаваў яе як належыць, я вучыў сваю дачку.

Вашыновіч адказаў:

— А-яй, твая дачка! Што ж там твая дачка. А чые, дык не дочкі?! За губернатара, можа, сваю дачку выткнеш!

— Губернатары на тым свеце.

— То, можа, за глаўнакамандуючага якога сваю дачку, тымчасове, усадзіш.

— Глядзі сябе і сваіх дачок.

— Я і гляджу, што мне, тымчасове, трэба.

— Дык чаго ж ты?

— А ты чаго?

— Апрыкрыла мне ўся гэта музыка.

— Хто ж табе вінават?

— Каб хто яшчэ, а то яшчэ і ты, усё на нейкія хітрыкі бярэш, усё распытваеш. На чорта табе гэта!

— Я па-сваяцку гэта, а табе — халера цябе ведае, што табе здаецца.

— Нічога мне не здаецца, а я гавару так, як яно ёсць.

— І я гавару так, як яно, тымчасове, ёсць.

— Гаворыш ты!

Пастаялі так адзін напроці аднаго, паглядзелі коса адзін аднаму ў твар і разышліся кожны ў свой бок. Назаўтра ж Сабастыяніха расказвала, што Вашыновіч вельмі заядла пасварыўся з Барановічам, бо зайдросціць, што Барановічава дачка ідзе замуж за каморніка, а да яго дачкі ніхто нават і не сватаецца. І дадавала, што сварка пачалася за тое, што Барановіч нібыта хацеў прысвоіць Вашыновічавы дошкі, якія яны напалавіну

рэзалі летась. А калі суседкі пачалі сумпявацца, што ні Барановіч, ні Вашыповіч ніякіх дошчак у гэтыя гады, здаецца, не пілавалі, Сабастыяніха стала даводзіць, што гэта такія людзі, што не толькі дошкі пілаваць, а яны табе што хочаш зробяць, і ніхто нічога і ведаць не будзе. Пасля гэтага суседкі, і нават не суседкі, падумалі: «Наўрад ці гэта была праўда, што Вашыновіч з Барановічам сварыліся. Мусіць, гэта выдумала Сабастыяніха». Але, не гледзячы па такую думку, назаўтра яшчэ шпарчэй пайшла пагаласка, што Вашыновіч з Барановічам біліся за дзве старыя дошкі, якія некалі Вашыповіч пазычыў у Барановіча і не хацеў аддаваць назад. І больш усяго вінавацілі Барановіча, бо ён вельмі ж выявіў сваю нечалавечую зайздрасць.

А Юрка ў той дзень доўга сядзеў на прызбе. Балюча і горна было яму. Пасля пайшоў ён у двор, стаяў пад ігрушаю і нудна глядзеў на расцярушаную пад ёю салому. І не заўважыў, як бацька падышоў з агарода:

— Што, сукін сын, стаіш?!

Юрка адскочыў да весніц і глядзеў адтуль на бацьку. Бацька яшчэ мармытнуў нешта і пайшоў у сенцы. Юрка пайшоў да Юзіка ў двор, сеў на непілованым дзераве ў падпаветцы, сядзеў так і маўчаў. На змроку заўважыў яго там і падышоў да яго Юзік.

— Чаго ты сядзіш тут?

— Так сабе.

— Хадзі на вуліцу.

— Не хачу.

— Чаму?

— Так.

Юзік падышоў бліжэй.

— Чаму ў цябе твар заплаканы?

— Нічога.

— Скажы чаму?

— Тата біў.

— За што?

— За ваксу.

— Ну! А твой жа тата сягоння прадаў шчэць і прапіў.

— Як ты ведаеш?

На месце бачыў яго п'янага. Бачыў, як ён і шчэць прадаваў.

— Хлусіш.

— Йй-богу. Усе бачылі.

Юрка вылез з падпаветкі, шмаргапуў па твары рукавом. Пайшоў на вуліцу. Юзік не пасмеў ісці за ім.

Доўга стаяў Юрка на змрочнай вуліцы, глядзеў, як прабіваліся скрозь хмары ружовыя стужкі заходу, і баяўся ісці ў хату.

## XVII

Ніхто і не спадзяваўся, што ўсё гэта будзе так урачыста і што столькі пазбіраецца гасцей. Барановічыха пасля гаварыла:

— Здавалася б, што нікога і не будзе. Ажно ж — то сват, то брат, таго пазваць трэба, а таго не пазваць няможна, дык яно, дзякуй богу, і пазбіралася цэлае застолле.

Былі ўсе сваякі. Быў і Вашыновіч з Вашыновічыхаю. Запрашаючы яго, Барановіч гаварыў:

— От тады, кумок, мы з табою пасварыліся трохі былі на вуліцы пад вечар, то ліха яго бяры. Жывучы ўсё бывае.

Вашыновіч адказаў:

— Яно ж гэтак. Жывучы ўсё бывае. Няхай нас, як той казаў, бог крые, навек, тымчасове, быць ворагамі.

— Барані божа.

— Я таксама такі чалавек.

— Дык от падыдзі, кумок, з жонкаю.

І Вашыновіч прыйшоў, з жонкаю і з дачкою. Гасцей пазбіралася поўна. Праўда, былі некаторыя нездаволены, што абыходзіцца ўсё не па-людску, без царкоўнага шлюбу, і што ўсё гэта нават і да вяселля не падобна — толькі ўсяго і будзе, што паабедаюць, і маладыя зараз жа паедуць. Але як выпілі, усё гэта пачало забывацца, засталіся, як выпік гэтага, гаворкі. Каб не пакрыўдзіць маладых, Вашыновіч не гаварыў выразна, што хацеў сказаць, а ўсё круціўся з гаворкаю вакол галоўнага:

— Даўней, я памятаю, як Алесеў бацька жаніўся, дык тры дні гулялі — дзень у маладое і два дні ў яго. Я сам за шафіра быў, вянец трымаў. А музыка два дні была. Скакалі да сёмага поту.

Вашыновічыха сказала:

— Ат, што там скакалі. Калі, бог дасць, усё добра, дык яно і так, і так — не кепска будзе.

Вашыновіч глянуў на яе і міргнуў у бок каморніка. І яна змоўкла. Вашыновіч падняў чарку:

— Ну, то няхай бог дасць маладым шчасце і долю... Каб яны жылі шчасліва і ў добрым здароўі ўнукаў прыждалі.

Госці адказалі:

— Дай жа божа.

Выпілі. За другою чаркаю Вашыновіч сказаў:

— А каб Юлік здароў праўнукаў прычакаў.

Выпілі. Барановічыха заўважыла:

— Бог ведае. Вельмі ж хваравекаваты ён зрабіўся. Рабіць ніяк няможа. А яшчэ нага гэтая яго мучыць.

Выпівалі і гаварылі. Маладыя павылазілі з-за стала. Каморнік выйшаў у ку́хню закурыць. Курылі ўдвух з Ганніным братам і гаварылі нешта. Ганна цішком гаварыла са сваёю таварышкаю, Вашыновічаваю дзяўчынаю:

— Я ўжо хачу, каб хутчэй выехаць. Ты ведаеш, колькі я наплакала ад усялякіх гэтых гаворак. А то і цяпер, усе вачыма колюць, глядзяць, як на нейкае дзіва, а пасля ж таксама яшчэ napагаворць.

Дзяўчына ўсміхнулася:

— А колькі ў нас у хаце гаворкі было пра гэта!

— Ты думаеш, я не ведаю.

— Прыязджай жа хаця сюды часта.

— Буду прыязджаць...

Узяліся за рукі і пайшлі спацыраваць па двары і па прыгуменні. Сонца хварэла блёклым святлом.

Вашыновіч у кухні падышоў да каморніка:

— От вы, тымчасове, і зноў у нас.

Каморнік усміхнуўся:

— Ненадоўга.

— Я ж ведаю. Сягоння паедзеце?

— Сягоння.

— Чаго вы так спяшаеце. Пабылі б трохі, пагулялі. Пагасцілі б у новых сваякоў. Я ж Ганне даводжуся дзядзькам. Можна сказаць, на маіх вачах выгадавалася.

Каморнік дастаў папяросы. Вашыновіч не сціхаў:

— Дзіўна неяк, калі падумаеш.

— Што?

— От усё... неяк на свеце, тымчасове, робіцца.

Каморнік глядзеў на яго.

— От мералі вы ў нас зямлю. Прыехалі бог вас ведае адкуль. Ніхто вас не ведаў, і вы, сказаць, тымчасове, ні-

кога не ведалі. А гэта ўсе вас уведалі і вы ўсіх. Нават сваякамі парабіліся. Ганна з маёю дачкою таксама вельмі таварышкавалі заўсёды. Хаця ж прыязджаіце ў наш бок часта... Можа, некалі зноў давядзецца мераць тут што, дык мы ж ужо адразу да вас, як да свайго чалавека. Наша дзела, тымчасове, гаспадарскае... Наша справа роўная, ціхая... Вы, тымчасове, надоўга асталяваліся ў нашым горадзе?

— Не ведаю і сам добра.

— Ды яно пэўна. Служба. А служба не свой брат. Хоць і добрая служба, а ўсё ж не свой брат. Справа казённая. Я сам служыў, сам ведаю.

— Дзе вы служылі?

— Служыў дзесяцкім, як у дварэ равы капалі, ды яшчэ і раней — у салдатах служыў.

Ен яшчэ закурыў і захацеў з каморнікам выпіць. Пайшлі да стала. Вашыповічыха памагала гаспадыні падаваць гасцям гарбату.

Ганна ўсё хадзіла з таварышкаю па прыгуменні, па мокрай траве. Была рада, што прыйшла яна — толькі і была яна адна тут з усіх таварышак.

Усё знаёмае было вакол. І дзіўна было ёй, што зараз усё гэта яна пакіне, можа, нават ніколі не ўбачыць, а калі і будзе бачыць, дык рэдка — раз у год ці ў два гады. Хвалявалася радасцю чакання нечага невядомага, блізкага, якое шмат дакляравала, вабіла і афарбоўвала ўсё ў ружовыя колеры. І разам з тым шкада было нават гэтай саломы, яшчэ ўчора дрэнна падгрэбенай ёю ж самою каля гумна. Шкада абмоклых дрэваў, гэтых паплавоў і агародаў. Пратаптаных сцежак цераз паплавы да рэчкі, насеянага з братам не вельмі даўно жыта. Кульгавага і нездаровага бацькі, клапатлівай мацеры... От тут яна стаяла тады, калі апошні раз прыходзіў Алесь, калі яна была заплакала і пабегла ў двор.

Раптам ёй страшна сумна і нядобра зрабілася.

— Чаго ты такая стала? — запытала таварышка, трымаючы яе за руку.

— Не ведаю і сама.

— Каля вачэй у цябе чырвона неяк стала.

Ганна абняла яе за шыю і заплакала.

— Чаго ты?

— Нічога... Вядома, пакідаеш усё.

Таварышка пацалавала яе.

— Дзякуй, сястрыца.

І мацней абняла яе рукамі.

— Ты адна блізкая мне з таварышак.

Абняўшыся, пахадзілі яны яшчэ. Госці пачыналі разыходзіцца. Вашыновіч і Вашыновічыха пайшлі, дзяўчына засталася.

Кончыўся дзень; брат рыхтаваўся ехаць, аглядаў воз, высцілаў саломаю.

Як усе пайшлі, у сенцах заплакала маці. Пацалавала Ганну, каморніка пацалаваць не адважылася. Сказала, глытаючы слёзы:

— Жывіце добра.

Падышоў бацька:

— А як жа хаця там з кватэраю?

— Прыедзеце калі, паглядзіце.

Маці выцірала рогам хусткі слёзы. Барановіч адставіў нагу, доўга глядзеў на маладых. Раптам твар яго зморшчыўся, барада ад'ехала ўніз. Ціха чмыхнуў і не стрымаўся — падышоў, абняў іх абодвух, пацалаваў Ганну ў твар, зяця ў губы.

— Хаця ж нас, старых, не забывайце... Бо я немагушчы, стары. І нага ў мяне баліць... Жывіце добра...

Зяць пацісну ў яму руку. Ганна пацалавала ў нябрыты, жорсткі яго твар.

Выехалі перад самым змрокам. Трымаючыся за воз, бацька правёў да канца вуліцы. Папробаваў рукою, ці добра прывязаны ззаду ўкручаныя ў дзяругу падушкі, і пайшоў павалі дадому. Ганна ўзяла пад руку Андрэя, прыціснулася да яго. Брат сядзеў у перадку, паволі памахваў лейцамі.

Ехалі хутка. Чарнела мяккая дарога. Пахла поле жытняю руннюю; весялілася поле вячэрнім змрокам. Узнімаліся ў полі дзівосныя сцены далёкіх лясоў, маўчала каля дарогі сухое зелле. У вільгаці зелянілася трава, бялела наперадзе жвірыстая дарога.

Восень, восень!

# ЧАСТКА ТРЭЦЯЯ

## I

Якія дарогі ў полі ляжаць! І якія туманы ўстаюць над зямлёй! Неба — халоднае і звонкае, як сонечны дзень. Вятры дзьмуць над дарогамі.

Што гэта — сонца і мяккая зямля?! Што гэта — прастор і вецер?! І трава, і дрэвы, і паўтоптваны ў зямлю жоўты ліст! Па дарогах імчацца, ідуць і паўзуць жывыя істоты.

Ці не ад сонца гэта і ветру так востра свецяцца вочы ў чалавека — у чалавечага дзіцяці?

Вецер трэпле на ім адзежу, так, як з самага ранку трэпле голле ліп і бяроз. На ветры кажушок — той усё самы, без каўняра, пахне тым жа ветрам і воўнаю. Пад барадою ў кажушку чорны гузік, на жываце — выламаная з веніка цурачка. Так і зашпілены гэты кажушок. Чорныя і каравыя пальцы барабаняць у шыбу:

— Юзік, Юзік!

Вецер б'ецца ў дах суседняга свірна, скрыпіць ковартам над студняю, гойдае яго. Голыя ліпы і клёны шумяць. За шыбамі ў хаце ціха. Дым ідзе з коміна — пахучы, здаецца, хваёвыя лапкі гараць. І скрозь цёмную шыбу відаць, як трапечацца ў печы агонь. А ніхто не адзываецца. Зноў стук у шыбу і няроўны голас:

— Юзік, Юзік!

З хаты чуецца доўгі свіст:

— Ф'ю-ю-ю...

Бразгае клямка ў сенцах. Сенечныя дзверы адчыняюцца, і на ганак выпоўзае малая постаць — цыбаты хлапчук, стрыжаны, белагаловы. У новых палатняных галіфэ, босы.

— Гэта ты, Юрка?

— Гэта я.

— Чаму ж ты адразу ў хату не ідзеш?

— Я думаю, што ў вас там што робяць у хаце, дык нашто, канешне, замінаць. Думаў, што ты апранешся ды выйдзеш... Ты снедаў?

— Не яшчэ. А ты?

— Ужо.

— Баіцца ісці ў хату. От дурны! Ідзі.

— Ці я ж баюся?

У хаце пабеленымі дошкамі была адгароджана кухня. Пахла скваркамі і бліпцамі. Жанчына клапацілася каля печы:

— Ты снедаў, Юрка?

— Снедаў.

— Што ж ты снедаў?

— От... еў...

— Ідзі еш бліпцы.

— Я не хачу.

— Ідзі еш.

— Я пад'еў.

Тады Юзік сказаў:

— Ідзі, разам будзем есці.

Юрка памаўчаў, паглядзеў на стол і сеў на лаву. Жанчына палажыла яму на блінец дзве скваркі. Елі моўчкі, паглядаючы адзін на аднаго. Памаўчаўшы, Юзік сказаў:

— Я люблю нядзелю. Хаця рабіць нічога не трэба. А ты, Юрка?

— І я таксама.

Жанчына засмяялася:

— Ах, як вы перадалі лішне з работаю. Паўвярэджваліся, небаракі.

Юзік апраўдаўся:

— А што ж, не лішне мы і гуляем.

— От маладцы! Работнікі.

Юзік пакрыўдзіўся:

— Яшчэ і смяюцца.

Моўчкі даядалі. Жанчына адумалася, каб не пакрыўдзіць Юрку, гледзячы на Юзіка, сказала:

— От Юрка дык праўда, што ўсё робіць дома, ён і на полі ўсё робіць. За восень — усё жыта забаранаваў. А ты, дык адно кніжак сваіх глядзіш. Добра, што хоць вучышся. І за гэта маладзец.

Юзік пачырванеў, пакрыўдзіўся. Жанчына заўважыла гэта:

— От ты ўжо і надзьмуўся немаведама чаго... Еш, я табе яшчэ скварак падлажу.

— Больш не хачу.

— Дзякуй,— сказаў Юрка.

Пазашпільваліся, пападзявалі шапкі. Юзік стаў шукаць сваёй палкі.

— Я сабе ўчора вельмі добрую ядлоўцавую палку выразаў.

— Дзе?

— У кустах.

— Чаго ж ты там быў?

— Коні хадзіў з жыта зганяць.

— А зямля ж умерзла.

— Не, добра пе ўмерзла, дык выгружваюць. Я стаяў ды падпільноўваў. Вельмі ж Паўлаў конь, каб ён здох, каб ён. Тут яго выганіш, а ён зноў, а ўсе коні за ім.

Жанчына ўмяшалася ў гаворку:

— Павал адно як чыё чужое канянё ўгледзіць дзе трохі ў шкодзе, дык гвалту паробіць на ўвесь свет, дурань белабароды. А свайго ніколі не бачыць. От бо гадкі чалавек.

Стала падмятаць кухню. Саладкавата запахла пылам; у падпечку засакатала курыца. Загула муха на асвечанай сонцам шыбе.

— От, каб яна здохла, і халадоў на яе няма. Абы сонца прыгрэла трохі, дык і загула.

Густы быў вецер, сіверам слаўся па стрэхі. Марозная бель ляжала на траве ў садзе. Вада замерзла зверху і не раставала. Сонца залаціла стрэхі і тонкія іголкі лёду; на непапілованай на дровы асіне сярод двара крычалі рухавыя вераб'і. Не варушачыся, каб не спалохаць іх, Юзік сказаў:

— А, памерзлі... Хадзем, Юрка, дамо ім аўса.

— Знойдуць і самі. У нас у гумно папалазяць заўсёды пападстрэшшу і адно стаўпы гнюсяць.— Раптам забыліся па гэтую гаворку сваю, пайшлі ў сад. Паселі за сцяною па старым бервяне. Зацішна было на сонцы. Голле гойдалася і шумела пад ветрам, скрыпеў клён каля плоту. Расцярушаная салома варушылася каля сцяны. Сядзелі, слухалі вецер, бачылі падмарожаную траву, халодную зямлю, сіняе сонечнае неба і гаварылі. І, мусіць, адчувалі яны ці думалі аб нечым большым, чым гаварылі. Прыпёршыся

да сцяны плячыма, Юзік пагойдваў нагамі, бегаў вачыма па траве, платах і сценах і ўсё гаварыў:

— От гэтая цётка гаворыць ліха ведае што. Яна хоча, каб я рабіў так, як стары. Я ж вучуся, і нават яшчэ трохі і жыта баранаваў.

— Дык гэта яна так сабе гаварыла.

— Але, добра так сабе.

— От дурны ты.

— Чаму?

— Каб яна цябе набіла, дык тады б нядобра было, а то сказала, а ён ужо і думае ліха ведае што. Мала што хто скажа... Мяне бацька, як гэта тады набіў за ваксу быў, дык гэта балела. А што табе... Клопат вялікі, што хто там дзяўкне. Што гэта, зашкодзіць? Чорт яго бяры...

— А ты тады доўга плакаў, як бацька набіў?

— Не.

— Не?! А я ж нават бачыў, як ты назаўтра раніцаю ў агародзе каля сцяны сядзеў і плакаў.

— Бо балела. Ты думаеш, не балела?

Скрыпелі ўсе дрэвы пад ветрам. Жоўты пясок, насыпаны каля сцяны, пылеў, біўся ў салому, абсыпаў яе.

— Юрка, Юрка!

Праз плот глядзеў у сад твар. Даўно нядголены, укрыўся рудым шчаціннем. Шапка ссунута на вочы — зашмальцованы, разарваны і дрэнна сшыты казырок.

— Чаго вы?

— Ты ідзі ў хату, парасят накармі, а я пайду на места. Я, можа, там доўга і не буду. Глядзі дому.

І пайшоў — роўна і лёгка ступаў нагамі, трымаў рукі ў кішэнях. Вецер кудлачыў нерасчэсаныя валасы, што каля вушэй павылазілі з-пад шапкі. Кружыў вецер сухое лісце ў садзе і на агародзе.

— Чаго гэта, Юрка, твой тата на места пайшоў?

— Нечага, мусіць, трэба.

— Я пайду з табою к вам.

— Хадзем.

— Будзеш парасят карміць?

— Буду.

У хаце было трохі чадна. Пахла подмазка ад скаварады пад прыпекам; згорбіўшыся, сядзеў над ёю кот і еў, моцна чаўкаючы.

— Каб ты здох, каб ты... Як нікуды ад цябе не ўхаваешся. Памаўзлівы, ліха яму.

Кот бліснуў вачыма і замармытаў.

— Еш ужо, каб ты выдах, калі пагнюсіў.

Вокны ад двара былі ў сонцы, на аконнай трухліне, вільготнай і мяккай, зяленілася доўгая белаватая трава. Юзік стаў разглядаць яе.

— Што гэта ў вас расце на акне, якраз як жыта?

Юрка ўсміхнуўся:

— Гэта авёс. Я зрабіў спробу, ці будзе ўсю зіму зялёны, ці пасохне. Узяў ды ўваткнуў у гэтую трухліну пяць зярнят. Бачыш — пяць каліў узышло.

— Акно яшчэ больш згніе.

— І так гнілое, чорт яго бяры... Клопат.

Узяў венік і пачаў падмятаць хату. Юзік падаў раду:

— Пакрапі вадою, а то вельмі ж пылу нарабіў.

І ўдвух пачалі крапіць вадою хату. Сястрычка абазвалася з печы:

— Юрка, унясі ў хату гарбуз... Мы гарбузікаў дастанем.

— Няма мне часу, трэба парасят пакарміць.

Паселі ўдвух з Юзікам каля ражкі, вылілі з гаршка памыі, накідалі сечанай паранай бульбы і, закасаўшы рукавы, сталі душыць рукамі бульбу.

— Нечым кіслым бульба пахне.

— Пракісла, тры дні стаіць.

— Ты заўсёды парасят корміш?

— Не, найбольш тата.

— А хто ў печы паліць?

— Тата.

— І есці варыць?

— Ну няўжо ж само зварыцца. Вядома, што варыць... От каб цётка Наталя жыва была, дык цяпер у нас жыла-б.

— А чаго яна памерла?

— Я мала памятаю. Я тады яшчэ малы быў.

Занеслі пачоўкі ў свінух, паселі на парозе і глядзелі, як парасяты тыцкалі лычамі ў цеста. За сцяною чуваць было, як уздыхаў конь, зрэдку шараваўся аб сцяну ці аб жолаб. Зачынілі свінух, пайшлі паглядзець каня. Пад нагамі ў каня было сена; вісела яно вехцямі і па краях жолаба. На сценах віселі старыя абручы, хамут. Жардзяная загарадка была забруджана курамі. За загарадкаю жаўцела ячменная салома. Шумныя вераб'і шмыганулі з яе па застрэшшу на двор.

— Няўжо яны што ў гэтай саломе знаходзяць?

— У каня з жолаба авёс выбіраюць.

Селі на парозе, гаварылі пра ўсё, што нападалася толькі на вочы і ўзыходзіла на думку. І не хацелася ім нікуды адсюль ісці, як бы гэта тут знайшлі яны для сябе пачаткі ўсяго, чым жывуць яны.

Уздзёртая ветрам, шамятала на суседняй страсе салома пад цвёрдым голлем голых ігруш. Чорная была салома на страсе. Гойдалася па ёй змарожаная лебяда, бялела салома трох каліў жыта. Шэрая зямля была пад чорным лісцем. Расцярушана была салома, раскіданы дробна пасечаны лом. Чыстае было неба высокае.

— От, каб у нас быў лепшы конь, я ездзіў бы ў фурманкі куды. І зарабляў бы.

— Думаеш, вельмі лёгка гэта.

— Я ведаю, што не.

Памаўчалі. Глядзелі на ўсё.

— Сонца яшчэ і цяпер грэе трохі.

— У зацішку дзіва што грэе. Яно і зімою грэе.

— Дзе ты бачыў, каб табе зімою сонца грэла.

— Бо і грэе. Ідзі папробуй стаць, дзе ціха. Дык адразу цяплей табе на сонцы стане. Абы каб ветру не было.

— Я заўтра пайду на могілкі.

— Чаго?

— На рове нарэжу лазы. Тонкая там расце. Вербалоз, з чырванаватымі дубцамі.

— На што яна табе?

— Буду сяўнік плясці.

— З саломы?

— Але.

— Ці ты ж умееш?

— От, важнасць вялікая... Ведаеш што, Юзік?

— Ну што?

— За каго ты хочаш быць, як некалі вырасцеш?

— За настаўніка або за доктара.

— А я за каморніка. За каморніка лепш. Хаця поле мераеш, ды ўсё. Але як гэта ён вылічвае? Паставіць нейкую прыстройку, паглядзіць і ведае...

— А я думаў, што гэта чаго іначай на могілкі пойдзеш.

— Ты сваю маму памятаеш?

— От дзіва.

— А я дык неяк не магу прыпомніць, які твар быў у мае мамы. Не магу ўздумаць. Усё неяк прападае з вачэй. От, як Алесеў бацька памёр, дык у Алеся здымак

застаўся. Яны ўдвух з бацькам здымаліся былі. Дык ён паглядзіць і ведае. А я, дык ніяк не магу прыпомніць. Неяк ні то што я гэта забыўся, але каб як мае быць успомніць, дык не магу.

У нас таксама няма здымка мамінага. Як тата пастарэе, дык я з ім здымуся. Як памрэ, дык каб здымак застаўся.

— А я з бацькам здымацца не буду.

— Чаму?

— Бо для мамы будзе крыўдна, што яе твар я забыў, а бацькаў заўсёды буду памятаць. Мама не любіла сварыцца... От была добрая!

— Дзе гэта Мікалай?

— Няма. На рабоце недзе, ужо трэці тыдзень.

— А бубен яго дома?

— Бацька дык цяпер агледзеўся. Усё гаворыць, што маці была добрая. Няхай бы ён тады гэтак гаварыў. Цяпер дык ён і разумны зрабіўся, як пабачыў сам. Гэтак некалі пашкадуе, што біў мяне. Ды позна будзе тады, я ніколі не забуду гэтага. Аж тры тыдні пісагі на мне былі ад папружкі. Падла старая гэтая, дурная. Гад.

— Няможна так на бацьку.

— Чорт яго бяры з гэтакім бацькам. Каб было за што, а то я там шчаціння трохі ўзяў. Ды я ж купіў ваксы. Мала што можна без ваксы абысціся, але калі я купіў, дык не збяднела ад гэтага яго гэтая гаспадарка. А сам, дык у той жа дзень пайшоў ды ўсё шчаціннe прапіў. На гэта дык ён маўчыць. А пасля дык ужо ліжацца: можа, кажа, табе, Юрка, новую шапку купіць. Як бы ён сам не ведае, што мне шапка патрэбна. Адно гаворка. Каб хацеў купіць, дык пайшоў бы ды моўчкі купіў бы — і ўсё. Дык яшчэ папагаворыць раней. І ўсё роўна не купіць. Адно цвеліцца. О, гэтак усё. Сядзе на лаву, ды сам з сабою гаворыць-гаворыць, як дурны які. Або на чорта гэты конь гэтакі. Усё роўна ім няма ўжо больш як рабіць. Няхай бы прадаў. Лепш ужо без каня быць, як гэтакага каня трымаць. І як гэта ён жыве, гэты конь, нічога не еўшы.

Падышлі да жолаба. Пастаялі. Юрка адгарнуў сена ў адзін бок, прынёс з сянец аўсяной мякіны з аўсом, усыпаў у жолаб. Мякіну конь пачаў есці. З'еў яе хутка. Палажыў морду Юрку на плячо, ляпаў губамі ў яго над вухам.

— А братачка ж, от ляпае!

Юзік паслухаў і згадзіўся:
— Ну але... Ая-яй.
— Ён яшчэ больш мякіны хоча.
Прынеслі яшчэ, насыпалі ў жолаб і зачынілі хлеў. Пайшлі ў хату, дасталі з паліцы Мікалаеў бубен, пачалі бубніць і скакаць па хаце. Сястрычкі пачалі на печы смяяцца і рагатаць.
— Весела,— крычалі яны ўдвух і бегалі па хаце.
Знячэўку адчыніліся дзверы і ўвайшоў бацька.
— Што гэта вы робіце? Нашто вы пылу гэтулькі нарабілі.
Бубен зараз жа апынуўся на паліцы.
— На табе шапку,— сказаў бацька.
Юрка ўзяў шапку, адразу памераў. Шапка была сівенькая, зімовая.
— Ну што, якраз?
— Якраз. Колькі вы далі за яе?
— Пяць злотых... Думаю, ліха яго бяры. Табе, сынок, шапка патрэбна. Студэнт, вучышся добра, і каб у парванай шапцы хадзіў. Насі здароў... Парасят накарміў?
— Накарміў.
Удвух выйшлі яны зноў на двор. І было несамавіта Юрку перад Юзікам у новай шапцы, купленай кагадзе бацькам. Яны ішлі абветранаю, сонечнаю і халоднаю вуліцаю ў канец, дзе на сухім лопусе лямантавалі дробныя птушкі.

## II

Так яно ўсё і рабілася, кожны дзень, дзень за днём. Скончыўся шум восені і была весялосць яе — халодная, калючая. Ішлі сваёю дарогай дробныя здарэнні, шэрыя падзеі і гаворкі пра іх.
Ветраныя былі дні.
Вецер дзьмуў шмат дзён. Перагонамі сыпаліся на зямлю снегавыя крупы, пасля зноў глядзела на зямлю сонца. Снегавыя крупы мяшаліся з пылам, чарнелі і прападалі. Востры холад трымаўся ўвесь час.
Заўсёды дзень пачынаў меркнуць ужо, як прыходзіў Юрка з школы. Даставаў з печы гаршчок, еў і ішоў у гумно памагаць бацьку малаціць. Таміўся хутка і, пакуль бацькаператрасаў у салому акалочаныя на два бакі аўсяныя снапы, рад быў пастаяць і аддыхацца. Зараз

жа зусім цямпела і бацька зачыняў гумно. Юрка паіў каня і карову і ішоў да Юзіка — чытаць назаўтра школьныя заданні. Але перад гэтым абодва з Юзікам выходзілі яшчэ на вуліцу, свісталі і зазіралі ў чужыя двары. Некалькі дзён засаб бачылі, як Алесь прыязджаў з лесу і, паставіўшы ў хаце на акне лямпу, каб свяціла на двор, скідаў з воза дровы. Раз падышлі да Алеся:

— Алесь, дай мы наабдзіраем з гэтага галля калматага моху.

— Нашто ён вам?

— Мы паробім сабе з гэтага моху вусы і бароды і будзем палохаць.

— Каго?

— Каго-небудзь... Усіх.

— Абдзірайце.

А раз стаялі ў Алеся ў двары і слухалі, як Тамаш, трымаючы рукі ў кішэнях аблезлай бравэркі сваёй, гаварыў Алесевай мацеры:

— Ты кажаш, родненькая, што памрэш зараз, што не можаш нічога? Ну, праўда, ты за мяне на гадоў пяць старэйшая, але ж і я, мусіць, зараз дуба дам. Мы з табою некалі разам гулялі. Памятаеш? Даўно было. Ледзьве памятаю, як сню.

— А што ў цябе, Тамашка?

— Старасць, мусіць. Ногі млеюць, слабасць нейкая. Нічога рабіць не магу. Тады гэта з лесу ледзьве прыехаў. На ліха, не абуў ботаў, а лапці,— усё ботаў шкада было, каб яно згарэла. Прамачыў ногі; каб гэта раней, дык таквеле бяды — пераабуешся дома і скончана дзела. А гэта — здароўе не тое. Дык от з таго самага часу і агарнула мяне хвароба нейкая. Я ж кажу, ніяк адолі не вазьму. Хрыпаю і баліць ва мне ўсё. Косці ломіць. У галаве кружыць. Удзень, як расхаджуся, дык яшчэ нічога. А раніцаю, дык хоць з пасцелі не ўставай. Калі пачне нейкая трасца стукаць у галаву.

— Няхай бы ты на печы, у цяпле вылежаўся. Выграўся як мае быць і паздаравеў бы. А то ходзіш.

— Пярун яго ўлежыць па адным месцы. Каб гэта ўжо зусім абнямог, то ўжо тады ляжаў бы. А гэта, чорт яго ведае, ні хвароба, ні здароўе...

І больш яшчэ нешта гаварыў Тамаш з Алесевай мацераю, але Юзік з Юркам пайшлі на вуліцу, каб выказаць адзін аднаму сваё ўражанне:

— Гэта ж некалі Тамаш і Алесева маці гулялі разам.

— Ну але. Можа, нават калі і пад ручку хадзілі.

А другі раз, таксама ў Алесевым двары, абдзіраючы з дроў зялёны мох, стараліся не прапусціць ніводнага слова з гаворкі Алеся і Клемуся. І Алесь і Клемусь сядзелі на нізкім жардзяным плоце і курылі. Клемусь гаварыў:

— От, братка, Вольчына сястра, што тады прыязджала, от прыгожая дзяўчына. Я аж закахаўся быў у яе.

Алесь моўчкі глядзеў на мокры снег. Снег раставаў патроху, і з-пад яго чарнела зямля.

— Я разоў пяць тады заходзіў да Волькі. Раз у прысады хадзілі з яе сястрою. Хацелі да цябе зайсці.

— Чаму не зайшлі?

— Яна не захацела. Вядома, мала знаёмая. А ў нас у мястэчку няма добрых дзяўчат. Усё на далікацтва б'юць. Далікаціцца-далікаціцца, а глянеш ты на яе, дык, як індычка, выцягнуўшы шыю. Больш тае фанабэрыі, як таго чаго. Што, не праўда? Адно і была ў нас адна добрая дзяўчына, гэта Ганна Барановічава...

І раптам глянуў Клемусь на Алеся і пакінуў гаварыць, пасля хацеў паправіць сваю памылку:

— Дурныя ўсе нашы дзяўчаты, нічым не цікавяцца, адно як хлопцамі.

Алесь паглядзеў на Клемуся.

— Хадзем каторага дня ў Чучаны да Змітровае Мані.

Клемусь радасна ўстрапянуўся:

— Братачка, яй-богу хадзем.

І ажывіўся яшчэ больш:

— Ты ўспамінаеш Ганну ці ўжо не? Скажы праўду.

Алесь панура адказаў:

— Не-е.

Клемусь не паверыў.

— Ты праўду скажы.

Алесь устаў з плота і вынес з сяней пілу. Удвух з Клемусем пачалі яны пілаваць дровы. На вуліцы Юзік заўважыў Юрку:

— Гэта ж Алесь цяпер сярдзіты, мусіць, на Барановічаву Ганну за тое, што не захацела ісці за яго замуж.

— Не. Ён, мусіць, будзе браць цяпер Маню з Чучаноў. Тую, што ў Аляксандра ўсё поле баранавала. Ведаеш?

Падышлі пад Юркаву хату. Юрка сказаў:

— Тамаш учора глядзеў нашага каня. Казаў, каб прадавалі. А бацька, ліха ведае, нашто трымае яго. Усе гавораць.

І забыліся на ўсё гэта. Пайшлі на агароды і кідалі мокрымі снежкамі на варон. Смехам абуджвалі вячэрні змрок.

І шмат дзён было такіх — хмурных, снегавых і мокрых. Мокры снег не ўвесь растаў. Ляжаў пад куп'ямі ў ямах. Зямля была пярэстаю. Але ўсё намерла пад гэтым снегам; на траве снег не растаў.

Яшчэ досвіткам пачыналі цупаць у таках цапы. Пасля ўвесь дзень стукала імі ўся вуліца, і на ўсю ж вуліцу пахла пылам з растрэсеных снапоў. Каля адчыненых гуменных варот бялела салома і з'яўляліся людзі з абпыленымі тварамі, чорнымі вусамі і барадамі. Чуючы цеплыню на двары, у хлявах рыкалі каровы і пад вечар каля калодзезяў здзіўлена абнюхвалі снег. У дварах іржалі коні. У дварах жа стаялі драбіны з чорнымі ад прымерзлай гразі каласьмі... І побач з імі наладжаныя сані чакалі свайго хуткага часу.

Вечары прыходзілі з густою сінню неба, з рэдкімі зорамі і кудзельнымі абрыўкамі хмар. Тады чарнелі блізкія і далёкія кусты, дзівоснай сцяною ўзнімаліся лясы. Больш шорхла гразь, і поле маўчала чорнай цішынёю. А як ноч добра агортала зямлю, у кустах вылі ваўкі і трывожылі сабак. Сабакі па дварах не маглі супакоіцца, нервова слухалі, абнюхвалі снег і са смуткам самі прабавалі выць. Пасля ўсю ноч заходзіліся брэхам на агародах і паплавах.

Сады былі мокрыя і голыя. Свежасцю веяла голле дрэваў, калівы шчуплай і зялёнай травы, што зрэдку дзе высоўваліся з-пад чорнага лісця, перамешанага з мокрым снегам, весялілі людское вока.

У дварах пылілі церніцы, грызучы перасохлы лён, каля сушань пылу льнянога было больш. І хлопцы пад вечар прыходзілі сюды памагаць канчаць дзяўчатам завіхацца каля льну.

Плугі і бароны былі пахаваны да вясны. Звінелі пілы, і стукалі сякеры. Шасталі сячкарні. Некалькі малатарань гуло з цямна да цямна.

А поле веяла воляй, і дарогі ўсе звалі ісці. Плюхала і спакойна цякла рэчка, сіняя, халодная. Жаўцела жвірам на плыткіх месцах і ў сіняе бяздонне хавала дно сваё

ў вірах. Маўчаў над ёю алешнік і крушыннік, весела зеляніўся ядловец. Кроплі снегавой вады і кавалкі абледзянелага снегу блішчэлі на яго калючым вецці. Над ім пахлі хвоі, у спакойным шуме сваім, хаваючы слабы рух зімовага птаства.

У непарушным пакоі лясным далёка чуваць было стук клапатлівага дзятла, і свавольная вавёрка дасціпна рабіла свой кожнадзённы спацыр.

Начамі сава прылятала да самых хат, сядзела ў прысадах на бярозе і плакала, падманваючы зайцоў. Старыя бабулі ў вёсцы палохалі гэтым савіным крыкам малых унукаў сваіх. А раніцою знікала недзе сава, а можа, моўчкі заставалася сядзець да цямна на той жа самай бярозе.

Снегавымі слязьмі выплаквала ранняя зіма смерць позняй восені.

## III

Прытульна было ў Барановічавай кухні. Пахла цыбуляю і селядцамі. Барановічыха сядзела на лаве і глядзела на мужчын. Парэзаныя на кавалкі селядцы з цыбуляю ляжалі на талерцы. Кварта гарэлкі была ўжо ў палавіне. Смачна жуючы селядцы, Вашыновіч гаварыў:

— Вы, мужчынкі, тымчасове, скажыце самі, чым я не добры чалавек. Аб якой-небудзь кварце гарэлкі я не цануюся. У аўторак Павал на мяне быў узняў крык, што са мною меркавацца няможна. А тут усяго, тымчасове, і было тае крыўды, што я падаў голас за Аляксандра. Раз ён злавіў быў гусака ў сваёй капусце, дык меў права выцяць гусака дубцом. Чорт жа яго ведаў, што якраз бо пападзе па галаве і што ад гэтага, тымчасове, гусак здохне. Чорт яго, тымчасове, матару бяры, з гэтым гусаком разам, няхай ён, бог дасць, здохне другі раз. Тут не аб гусаку ход. Тут, тымчасове, як той казаў, чалавек павінен праўды дайсці. От што, і скончана дзела, а не то, што... Я, тымчасове, братка Юлік, кумок ты мой, купіў у цябе кабылку, а ты не захацеў барыша паставіць, дык прыйшлося, тымчасове, мне ставіць. От мужчыны няхай будуць сведкамі. Кума дастала каўбасы і сала, то няхай бог дасць здароўе. А я сам селядцоў прынёс. Налівай, кумок. Як той казаў, ні калі было, ні калі будзе. Абы, бог даў, кабылка жарабят вадзіла.

Барановіч тут жа яго абнадзеіў:

— Ты пра жарабята будзь спакоен. Кабыла свае гадоўлі. Я табе благога не пажадаю. Што я — азіят які, ці што?

— Я, кумок, гэтага не кажу... Будзьма здаровы. Дай божа, тымчасове, як той казаў, у добры час выпіць і каб усё ішло чалавеку на карысць.

— Дай божа.

— Я, кумок, гэтага не кажу, што ты мне благога жадаеш. Калі я калі што, тымчасове, гэткае скажу, дык няхай са мною добрыя людзі не гавораць. Мужчыны ведаюць. Праўда, Мацвейка?

— Праўда, на гэта тут няма чаго лішне гаварыць.

— Ну але. От і Мацвей кажа. А пры людзях заўсёды лепш усё рабіць. Які дзе інтэрас, дык пры чалавеку яно іначай. Кабылка — яна ніштаватая. І што ты, Юлік, пазваў у сведкі Мацвея і Мікалая, дык ты, тымчасове, добра і зрабіў. Вядома, што. Мы людзі памяркоўныя і не лішне тут у нас што якое павінна заварвацца, значыцца, гэтае, тымчасове, адным словам, і больш нічога. Будзьце здаровы, мужчынкі.

— Дай божа, каб ты з кабылы карысць меў. Каб ты, пакуль яна ў цябе і будзе, з яе цешыўся.

Вашыновіч даеў селядца. Барановічыха прынесла яшчэ сала.

— Няхай бы, тымчасове, кума выпіла.

— Дзе бачылі, мне і ад тае чаркі ў галаве кружыць.

— Ай, што там, кумка. Што гэта самі. От давайце, тымчасове, вып'ем, і тады сабе ляжаце адпачываць. На здароўе... Кабылка гэтая павінна быць добрая, я і сам гэта бачу. Я яшчэ жарэб'ем яе ведаў. А, тымчасове, у мяне яна будзе заўсёды, як мае быць, дагледжана, лішне перасільваць работаю яе не буду ззамаладу. Бо што, тымчасове, за карысць, як у іншага там конь ледзьве каля жолаба стаіць. Ніхто яму не віпават, што ён такі гаспадар. А тым часам у камітэт першы ідзе, каб яму давалі. Чорт яго, тымчасове, усім выстарчыць. Ты, Мацвейка, не думай, што гэта я пра цябе тут гаворку пачаў. Ты мне нічога кепскага не зрабіў, то што я лішне буду тут гаварыць. Дай божа табе, каб як найлепей. Я чалавек не зайздросны. Давай, Мацвейка, вып'ем з табою.

— Выпіць то яно можна. Але да чаго ты тутака гэты камітэт прыпяў?

— Ні да чога я яго не прыпінаў гэтага камітэту і

прыпінаць, тымчасове, не думаю. Я гавару проста. Я не пасаромеюся каму сабе хочаш у вочы сказаць. Тут няма чаго вачэй заплюшчваць, як гэта іншы робіць. Я не такі. Раз я што, тымчасове, намерыў, я тут табе хоць што ты хочаш, а выкажу і не буду тут лішне мудраваць. Тымчасове, праўда ці не? Няхай мужчыны скажуць.

— А калі мне камітэт памог, дык папрабуй, пажыві ты гэтак, як я жыву. Тады пазнаеш.

— Нашто мне пазнаваць тое, што да мяне не належыць.

— Ага, да цябе гэта не належыць?!

— Вядома, што не належыць. Я да гэтага не дапушчуся.

— А я гэта сам адпусціўся?..

— Я не кажу, што і ты гэта сам.

— Ну дык нашто ты крыўдуеш?

— Я, сказаць, і не крыўдую.

— Ну, а як жа?

— Ніяк. Няхай, тымчасове, той крыўдуе, у каго якая крыўда на каго ёсць. А маё тут дзела — старана.

— Дык чаго ты мне ўсё выгаворваеш?

— Хто гэта выгаворвае? Ніхто не выгаворвае. Тамаш захварэў, ляжыць хворы, то дай божа, каб ачуняў. Ён, сказаць, табе не мала дабра зрабіў, як пабыў у камітэтчыках.

— Што ты тут Тамаша ўспамінаеш?

— Прыйшлося да слова, то чаму не ўспомніць, калі яно так падыходзіць, бо якраз.

— Ат, што з табою гаварыць.

— Можаш сабе, тымчасове, не гаварыць. Ты за сведку пабыў, як я ў Юліка купіў здаровую кабылку, не хворую, як мае быць, то і дзякуй табе. Зроблена ўсё пасуседску. Юлік цябе пазваў, я паставіў барыша, бо мы гэтак у цане сышліся. Што тут лішне гаварыць. Я чалавек, тымчасове, такі, калі дзе што не так, я люблю лепш памаўчаць. От што. Чуў ці не?

Крываносы Мікалай заўважыў.

— Аб чым тут, браткі, ход?

— Тымчасове, ні аб чым.

— Дык нашто гаварыць адзін насупроць другога?

— Жывы чалавек, тымчасове, можа пагаварыць.

Мацвей памог у гаворцы:

— Языка не прывяжаш. Няхай мянціць, колькі ахвоты будзе.

— Ах, які ты ўжо, тымчасове, святы. Ты за Тамаша пакрыўдзіўся? Я Тамашу кепскага не хачу і нічога па яго не скажу. Тамаш — святы чалавек. Ён захварэў, ляжыць цяпер хворы, то я ж кажу, каб бог даў паправіўся і пажыў яшчэ па свеце. Бо чалавеку жыць трэба. На тое чалавек, каб жыць. Усё жывое на тое жыве на свеце, каб жыць. А чалавек яшчэ больш. Ён, хоць бы сабе і гэты, тымчасове, Тамаш. Захаладзіўся, а чалавек ён стары, от яго і забрала. А што яму суджана, хто яго ведае. Наперад чалавек нічога не можа ведаць. Ні я, ні ён, ніхто не можа ведаць, што заўтра можа быць. Гэта, як свет светам, гэта заўсёды так, і ніхто ніколі гэтага не перайначыў. Як той, тымчасове, казаў, вышэй самога сябе не скочыш. Калі суджана памерці, дык нічога не парадзіш, чалавек, памрэш. А калі суджана паправіцца, дык паправішся. А тым часам, цяпер яно, хоць і старому, скажам, а пажыць — самы раз. Хоць спакою па свеце няма, але яно — вайна перажылася... Яно, праўда, невядома, што яшчэ будзе. У нядзелю на месце гаварылі, што Англія гатова надумацца, ды на нас Кітая сунуць. Або, скажам, Польшча. Гэтая, каб на яе агні, сквапная, горла ў яе, можна сказаць, пражорлівае, а сэрца каменнае. Але калі яно па тое пойдзе, дык, можа, і адапхнецца гэтая, як той казаў, суседка.

Мікалай заўважыў:

— Як гэта адапхнецца?

— А хто яе ведае. Ну каб далей трохі, значыцца, а то вельмі ж блізка расселася, гадаўка. Калі што якое, дык яна і тут. Яна, па апісанню сказана, і даўней усё мяцяжы заварвала, дык думае, што і цяпер гэта тое самае. Гэта ўсё панская штука. Гэта ўсё яны арудуюць, каб іх, бог даў, агонь высмаліў там, дзе яны ёсць. Я на работу ў двор хадзіў ззамаладу... Ну, тут яшчэ па адной засталося. Давайце перакулім і пойдзем спаць. Падкруці, Юлік, агонь у лямпе, вельмі нешта пстрыкаць пачаў. Газы, мусіць, мала... Ну, як ад Ганны, можа, якая, тымчасове, вестка прыйшла?

— Піша, што жыве нішто.

— Вядома, што будзе жыць.

— От, неяк жа будзе жыць.

Вашыповіч устаў і пачаў падпяразвацца. Барановіч сказаў:

— Няхай жа табе мая кабыла пойдзецца.

Ківаючыся ў бакі ад хмелю, Вашыповіч падышоў да Барановіча і пацалаваўся з ім.

Ідучы дадому, Мікалай гаварыў Мацвею:

— Вашыновічава дзяўчына прыгажэйшая за Ганну. І лепшая. З ёю некаму лепш будзе жыць.

Мацвей з абыякавасцю ў голасе адказаў:

— Можа.

IV

Дрэнна аб'езджаная дарога глуха скрыпела свежым мёрзлым снегам пад палазамі. Алесь сядзеў па развалінах, выцягнуўшы ногі з боку над снегам. Клемусь стаяў уперадзе, моцна нацягваючы лейцы.

— Пускай яе вольна,— сказаў Алесь.

Клемусь адказаў:

— Трэба яе прывучыць да лейцаў, так трудна аб'ездзіць... Бач, ірвецца.

Жарабіца ўскідала галаву ўгору і бегла, жуючы цуглі. Весела імчаўся паабапал саней снег. Клемусь раптам закрычаў:

— Эй, з дарогі!

Сані адно мільганулі за ўзгорак, і на ўзгорку засталася ісці сабе паволі Маня. Алесь адно ўспеў мнагазначнай усмешкай і ўзмахам рукі да казырка прывітацца. Яна адказала на прывітанне такой жа ўсмешкай. Алесь яшчэ гукнуў:

— Пачакай, Маня, падвязом.

Але яна пайшла, мусіць, не пачуўшы.

— Вярні назад,— скамандаваў Алесь.

Яна адышлася трохі ад узорка, пакуль Клемусь прыпыніў жарабіцу, пакуль завярнуўся і дагнаў яе.

— Садзіся, Маня.

— Гэта вы куліка ездзіце, ці што?

— Аб'язджаем жарабіцу.

— Бачу.

Яна была ружовая ад холаду. Спрытна ўскочыла на сані. Алесь злавіў яе рукамі і пасадзіў поплеч сябе. Клемусь абярнуўся і весела падмігнуў.

— Куды ты, Маня, ідзеш?

— Да Аляксандра.

— Чаго?
— Старыя там яшчэ справы.
— Калі назад?
— Хутка.
— Я цябе правяду?
— Можа, не варта.
— Правяду.
— Ну добра. А дзе ж ты мяне спаткаеш?
— Буду бачыць, як ісцімеш вуліцаю.

Захватвала дух — так імчаліся санкі. Адно кружыўся і бег снег паабапал саней і з-пад капытоў узлятаў, дробна пабіты. Маўчалі. Алесь глядзеў на Маню. Яна трохі саромліва глядзела на дарогу. Твар у яе быў шырокі, сінявокі. Светлыя валасы выбіваліся з-пад канаплянай хусткі. Уся яна вабіла сваёй жаночасцю. І здавалася яму, што яшчэ больш прывабная яна ад таго, што такі гаматны на ёй ватовы кароткі чорны каптан і такая ж гаматная цёплая хустка. Яна павярнула трохі твар да яго і спаткалася з яго вачыма. Бліснулі дзявочым агнём яе вочы, і зноў яна пачала глядзець на снег, захопленая роўным імчаннем. Так моўчкі ўехалі ў вуліцу. Яна злезла каля Аляксандравай хаты. Алесь з Клемусем яшчэ праехалі раз па той жа самай дарозе. Клемусь спяваў. Алесь быў яшчэ пад уладай радаснага ўражання ад нядаўняга спаткання з дзяўчынаю. Нейкая, мала калі вядомая, нецярплівасць апаноўвала ім. Нервова чакаў, каб хутчэй ісці з ёю разам.

Яна не бавілася. Ён выйшаў ёй насустрач, і яны пайшлі. Не вельмі лёгка ісці было па неаб'езджанай дарозе.

— Чаго ты спяшаеш так, Маня?
— Я не спяшаю. Можна павальней. Работы нагальнае дома няма.
— Што ты робіш цяпер?
— Праду. Буду кросны ставіць неўзабаве... Калі вечарам прыходзь, Алесь, гуляць.
— Калі?
— Хоць калі.

Падмёрзлы снег рассыпаўся пад нагамі. Зялёны ядловец сіратліва спатыкаўся пры дарозе. Роўным было снежнае поле. Гаворка не ішла лёгка.

— Раскажы што-небудзь, Алесь... Што ты робіш цяпер, чым займаешся?
— Ты раскажы.

— Што ж мне пра сябе расказваць. Я ж табе гаварыла — праду, кросны наставлю. На вячоркі хаджу, у часам вечарынкі бываюць. Весела ў нас, у Чучанах... у нас у Чучанах дзяўчаты прыгожыя.

Алесь глянуў на яе твар.

— Праўда, што прыгожыя.

— А ты ж усіх не ведаеш.

Ускінула вочы на яго, спаткалася з яго вачыма і больш яшчэ паружавела, сказала:

— Чаго ты так прыглядаешся на мяне?

— Ты прыгожая.

— Ну але, прыгожая.

— Ты адно сама сябе не хвалі.

— Але я сама сябе і ганіць не буду.

Абое засмяяліся. Маня зусім весела, Алесь трохі задумёна. Яму хацелася быць блізка з ёю. Далёка так прайшлі. Яна сказала:

— Хіба вярніся ўжо, Алеська. Прыходзь гуляць.

— Прыйду. Калі прыйсці?

— Калі сабе хочаш.

— Гэтымі днямі прыйду.

— Глядзі ж, каб прыйшоў.

Развітваючыся, затрымаў яе руку ў сваёй, скрозь халодныя ад марозу пальцы адчуваў гарачыню яе цела.

— Я яшчэ правяду цябе да таго ўзгорку.

З радаснаю ўсмешкаю яна кіўнула галавою. Сінія вочы яе слаўна абвеялі яго жаночаю пяшчотаю.

Развіталіся на ўзгорку. Зноў ён затрымаў яе руку. І нейкая маўклівая згода адразу ўстанавілася між імі.

— Прыйду.

— А я чакаю.

Пайшоў назад, ахоплены радаснаю трывогаю нядаўняй блізкасці дзяўчыны і іхнім маўклівым разуменнем адно аднаго. Марознае паветра вясёлым хмелем кружыла галаву, пах ядлоўцу поўніў усё прасторнай прытульнасцю. Хацелася яму спяваць і беспрастанку ісці мажнасцю. Пайшоў хутка і адчурознаю роўнасцю снегавога поля. Пайшоў хутка і адчуваў, як усё больш і больш узнімаецца ў ім бязмежнае ўзбуджэнне.

V

— Дзе гэта быў, Алесь? У Чучанах?

— Але.

— Інтэрас які маеш?

— Але.

— Садзіся ў сані, што ты маеш блытацца па гэтым снезе.

Алесь сеў. Барановіч цішэй пусціў каня. Ногі ў яго былі накрыты і ўкручаны кажухом.

— А я гэта ў Ніскавічах быў, там, казалі, чалавек ёсць, што знае нейкае зелле ад раматусу. І так, калі ў каго ногі баляць, дае нейкія прымочкі.

— І вам даў?

— Даў. Такое зелле, што я яго і не бачыў ніколі. Разам з каранямі. Мачыць у гарэлцы і нагу выціраць... Я ж, паверыш,— ледзьве на сані ўскаціўся, так мне баліць цяпер гэтая нага, аж тузае. Да сэрца боль даходзіць. Ужо каторы дзень. Горш стала, ліха яму. Я без валенкаў на двор не выйду, укручваю яе суконкамі, у цяпле заўсёды гэтую нагу трымаю, а ўсё роўна нічога не памагае. Трымціць неяк, рве. Як бы хто яе свярдзёлкам круціць. Што ты зробіш!

— А ляжаць не пробавалі? Каб гэта ў пасцелі даць ёй спакою. Можа, яна натруджана вельмі?

— Яно, можа, гэта і добра было б, але ці гэта ж чалавек улежыць? Жывы чалавек варушыцца павінен. От я ўжо думаю ў нядзелю ляжаць цэлы дзень. Паснедаю і лягу.

— Вы папрабуйце з тыдзень паляжаць.

— Хто яго ведае, можа, прыйдзецца так, што каб і хацеў устаць, дык не ўстану. Вельмі ж разбірае. Здаецца б, на свеце не жыў, такая боль. На ноч дык яшчэ горш. Не дай божа нікому добраму. От я проста рвуся, каб рабіць што-небудзь, а тут няможна. Я не магу, рукі склаўшы, сядзець. Я ззамаладу прывык да работы. Я хоць, сказаць, і не малады ўжо, але яшчэ рабіў бы, каб не нага гэтая. Абы адно мокра і холадна на двару, дык боль пераходзіць у спіну. Тады сагнуцца не магу, так і варушуся, як слуп. Шапуючы цябе, не магу і портак падцягнуць... А жыць трэба, і рабіць трэба. От у мяне меншы хлопец усю гаспадарку ўжо можа ўправіць, але хлопец хлопцам. Калі бацька не паглядзіць, не пакамандуе, дык яно ўсё і робіцца па канец рук. Ты сам гаспадарлівы хлопец, ты сам павінен ведаць. Тут трэба над усім гаспадарскае вока.

— Вядома што.

— Пакінь ты гаспадарку без догляду — яна табе ў два дні на пшык з'едзе. У мяне от двое коней. Дык хлопцы гэта іх цяпер і кормяць, і760 пояць. Сядзі ты, кажуць, бацька, у хаце, ды не рыпайся, без цябе, кажуць, дагледзім. А я потым разоў тры ў дзень выходжу наглядзець, як ядуць хаця коні. Можа, што не так, можа, што не гэтак. Можа, гной не роўна ў хлеве, можа, не падаслана. А можа, замала харчу дадзена. От як. Ну, падумай ты сам, не дагледзь, папробуй. Што тады будзе? Жывёліна ж без языка, яна табе не скажа, што ёй далягае, чаго ёй не хапае. Яна табе не паскардзіцца. Гэта ж табе, не раўнуючы, не чалавек. Ого, гаспадарка без догляду — усё роўна, як немаведама што... Бывала от, быў я яшчэ малодшы, дык на начлег ездзіў. Адзін раз, памятаю, ноч, як палатно, ясна ўсюды, бела, відната. Раса, як боб, на траве. Халодная раса. І туман так сабе ўстае наводдалек над балотам, як малако. Густы туман, як сцяна. А мы пасом сабе коні ў зарасніках. Трава, я ж кажу, росная. А для коней гэтая раса — лепш, як аўса. Конь улетку толькі і аджывае, што ўночы на роснай траве...

— Дык што там было?

— Начлег добры. Коні напад'ядалі і адпачнулі. Якраз, памятаю, снапы тады вазілі. Як я люблю начлегі! Як пачаў я з дванаццаці год ездзіць на іх, дык от пакуль сыны на ногі не ўзняліся, тады ўжо радзей ездзіў. Ого! Конь табе сам ведае, любіць яго гаспадар ці не. Над каня і над сабаку няма на свеце разумнейшае жывёліны. Даўней у мяне быў сабака чорнае масці, дык цыгане яго былі злавілі ды завезлі некуды. Цэлы год не было. А пасля прыбег, небарак, з рассечаным вухам. Дзе ён быў — хто яго ведае, ён жа не скажа табе, не паскардзіцца. Але прыбег дадому праз год, нікога і нічога, небарак, не забыўся. Усё як мае быць памятаў.

— Гэта Вашыновіч купіў у вас чырвоную кабылу?

— Але, я яму прадаў.

— Нашто вы прадалі?

— Я, сказаць, і шкадую цяпер, што збыў гэтую кабылу. Але няхай яна яму здаровая будзе. На гаспадарцы ж так, калі пойдзецца, ды калі жывёла здаровая, дык і ўсё іншае добра будзе. Хіба, не пры нас казана, у сям'і што здарыцца — захварэе хто, ці што, ці як,

Я думаю, калі бог дасць здароўе, некалі на вясну, калі здароў прычакаю, усю дзялянку пад авёс пусціць — няхай расце. Коням авёс патрэбен. Пушчу яшчэ адно канянё на той год — ад старое кабылы жарэбчыка прадаваць не буду. Жарабца гадаваць буду. Няхай будзе свой жарабец. Будзе, як той казаў, і сабе і людзям. Калі я на яго пушчу аўса, дык на гэта вярпу. Ён сам сябе аплаціць. А тым часам, неяк аж весялей, калі жарабец у хляве стаіць. У нас ніхто не мае моды трымаць жарабца. Дурні. Жарабец заўсёды сам сябе аплаціць. Гэта ж прыбытак. Гэта ж жывая выгада... Ай божа ж мой, божа, як жа мне нага баліць! Яй-богу, да сэрца боль даходзіць. Круціць мяне, ціспе. Ай! Аж уваччу цёмна робіцца... Страшэнна я люблю коні.

— А што дактары кажуць?

— Што яны кажуць! От яны гэтак і кажуць. Адзін кажа, што рапарацу трэба рабіць, другі кажа, што і гэта не паможа — трэба было, кажа, адразу думаць пра гэта, кажа, што позна, нічога ўжо не будзе. Так, мусіць, давядзецца і век свой звекаваць. От падлячу трохі, каб не так яна мяне мучыла, а там вясна, цяпло — тады іначай будзе. А там, пасля вясны, будзе відаць, што і як яно будзе. Некалі давядзецца мне не так яшчэ з нагою гэтаю папакутаваць, але што ты зробіш. Буду падлечвацца як-небудзь... Бач, якая рунь зялёная з-пад снегу відаць каля дарогі. Ці гэта вецер здзьмуў снег і прытапталі яго, ці гэта адграбло што? Бачыш ты, якая рунь?!

Уязджалі ў вуліцу.

## VI

Алесь і Клемусь увайшлі ў хату не зусім рашуча, як уваходзяць спакойныя хлопцы першы раз у незнаёмую хату, дзе ёсць дзяўчаты. Гарэла лямпа, і дзяўчаты пралі. Бацька Мані — Змітрок — ляжаў на палатках, паволі сабе пакурваў і зрэдку падаваў з палатак свае слова, пацвельваючыся з дзяўчатамі. Клемусь увайшоў першым і ўзяў адразу тактыку вясёлага нахрапу:

— Добры вечар у хату.

— Добры вечар,— адказалі ўсе ў адзін голас. І дзяўчаты разам глянулі на абодвух.

— Алесь прыйшоў,— сказала Маня.

Усе сталі разглядаць Алеся. Клемуся ведалі ўсе даў-

но. Змітрок раптам яшчэ больш ажывіўся на палатках:
— Ты, мусіць, Алесь, ніколі ў нашых Чучапах і не бываеш.
Клемусь адразу ж адказаў за Алеся:
— Мы бываем усюды, дзе толькі дзяўчаты ёсць.
Змітрок аж сеў на палатках:
— Што ты, хлопча, брыдзіш светам. Нашы Чучапы стаяць па трэцяй вярсце ад вашага мястэчка, а я цябе першы раз у сваёй хаце бачу.
— А хто ж вам, дзядзька, вінават, што я ў вас ніколі ў хаце не бываю?
— Як гэта?
— Трэба было тэлеграму даць, што ў вас тут у хаце заўсёды поўна дзяўчат, тады нас бы доўга не чакалі. Нас бы адсюль за нос не вывеў бы.
— Гэта праўда, што я не здагадаўся. Гэта трэба было, добра кажа, не тэлеграму, а ў газетах публікацу пусціць, што ёсць у Чучапах на выбор дзяўчаты, і калі трапіцца добры хлопец, дык нават па сходнай цане льга на першы пачатак аддаць з пару якую замуж.
Дзяўчаты зашчабяталі:
— А от затаппа не лішне нас возьмеш замуж. Раней няхай парогі паабіваюць, ходзячы.
— Вы думаеце, для дзяўчат толькі і думак, што пра хлопцаў!
— Толькі ўсяго і думак, што замуж!
— Гэта гледзячы, які хлопец будзе.
Змітрок звесіў з палатак ногі і не даслухаў да канца дзявочага шчэбету:
— А яны ж ў нас гэтакія — абы ўгледзіць хлопца, дык гатова за ім на краі свету бегчы. Бач, унь тая, што каля акна сядзіць. Як толькі ўбачыла, што хлопцы ўвайшлі, дык аж самлела.
Дзяўчына пачырванела:
— Чаго мне млець. Не бачыла ніколі хлопцаў!
Змітрок ніжэй спусціў ногі з палатак:
— А хто цябе ведае, чаго ты млееш. Табе лепш самой ведаць, як мне старому. Я тут ні пры чым.
Дзяўчаты зноў зашчабяталі:
— Гэта ж хлопцы заўсёды па дзяўчатах млеюць.
— Заўсёды хлопцы за дзяўчатамі бегаюць.
— От вы, дзядзька, заўсёды, ліха ведае што прыдумаеце!

— Паслухаць адно вас!
Змітрок злез на палок і, чухаючы ногі, засмяяўся:
— Гляньце, хлопцы, адно на яе, аж галава ў яе кругом ходзіць, прыглядаецца як на вас.
Дзяўчына яшчэ больш зачырванелася, апусціла вочы і пачала моўчкі прасці. Таварышкі за яе ўступіліся:
— Яна ў нас самая прыгажэйшая.
— Яна абы з кім і гуляць не захоча. Думаеце што.
Змітрок усцягнуў на ногі боты і пайшоў на двор. Алесь і Клемусь памагалі ўжо дзяўчатам прасці. Рогату была поўна хата. Змітрок увайшоў, сцягнуў з ног боты і зноў палез на палаткі. Курыў, падаваў свае заўвагі. Сказаў:
— Для вас дык, вядома, з навіны — апараніліся вы трохі, браткі.
— Чаму?
— От зараз, пачакайце, дык поўна хата хлопцаў будзе. І нават малых папашываецца, адкуль толькі яны і бяруцца. Яно дарма, што малое, як вош, а да дзяўчат і яго ўжо, ліха яму, цягне. Хэ-хэ.
Неўзабаве пачалі сыходзіцца чучанаўскія хлопцы. Пазнавалі Алеся і Клемуся:
— Здаровы, браткі.
— Да чучанаўскіх дзяўчат гуляць? Бач ты!
— Здароў, Алесь!
— Як гэта вы трапілі?
Змітрок падаў голас з палатак:
— Як трапілі, дзівак! А як ты, блізкі свет, аж у Астрэйкі даганяеш да дзяўчат. Галава!
Хлопцы прынеслі гарэлкі, пачалі частаваць дзяўчат. Сілком прымушалі піць. Дзяўчаты рагаталі, пішчалі, не пілі. Тады хлопцы папрымошчваліся ў мыцельніку на лаве:
— Дзядзька Змітрок, злазьце — вып'ем па чарцы.
Змітрок спусціў ногі з палатак:
— Ад добрага я не адказен.
Сышоў на зямлю і ўмяшаўся ў хлапечы натоўп. Хлопцы прывялі пад рукі дзяўчыну:
— Калі не хочаш піць, дык хоць папрабуй.
— Ай, адчапіся!
— Ну хоць губы намачы.
— Не буду.
— А яшчэ і замуж прагнеш.
— Адкуль ты ведаеш!

— Не відаць, ці што.

Пасадзілі дзяўчыну на лаву. Дзяўчына вырвалася. Дзяўчаты рагаталі. Гарэлку выпілі і паставілі бутэльку на акно.

— От табе, Маня, спадкі.

— Ты тут гаспадыня ў хаце, няхай табе і застаецца.

— Пустая бутэлька. Дзякуй. Каб поўная.

— Чорт з вамі разбярэ. Адну піяк не ўпросіш, каб выпіла, а другая крыўдзіцца, што пустая бутэлька.

— От каб музыку дзе справадзіць.

— Чаму ты, Клемусь, скрыпкі не ўзяў?

— Ты, здаецца, цяпер на кларнеце граеш, няхай бы ўзяў.

Неўзабаве прывялі аднекуль скрыпача. Ён прыйшоў у белых палатняных портках, падпяразаны шырокаю папругаю па кароткім кажушку. Пацерабіў стрыжаную бараду і падсівелыя вусы і сказаў:

— Што ж, браткі, так граць.

Зараз жа дасталі яму недзе ў Змітра дзве чаркі гарэлкі, і ён пачаў граць. Змітрок пасміхваўся, лежачы на палатках.. Дзяўчаты папакідалі праспіцы. Але скокі нешта не ладзіліся. Маня сядзела поплеч з Алесем. Гаварыла:

— А я думала, ты не прыйдзеш.

— Прыйшоў.

— Прыходзь часцей.

— У нядзелю прыйду.

— Глядзі ж, каб прыйшоў.

Нейкая маўклівая згода і разуменне адно аднаго ўстанаўлялася між імі.

— Ведаеш што, Маня.

— Ну гавары.

— Давай цяпер пойдзем па вуліцы паходзім.

— Не.

— Чаму?

— Нядобра.

— Але чаму?

— Будуць усе думаць ліха ведае што, гаварыць.

— Ну дык што, чаго ты баішся? Няхай гавораць.

— Гэта табе толькі здаецца, што нічога.

Клемусь весяліў усіх. Стаяў пасярод хаты, тлумачыў пра нейкую новую гульню. Гаварыў смешна, смяшыў усіх. Падышоў да Алеся. Алесь сказаў яму:

— Можа, усе гуртам па вуліцы пагуляем?
Клемусь зразумеў Алеся:
— Зараз, усе.
І сказаў усім:
— Вечар, як звон. Давайце ўсе па вуліцу.
Хто згадзіўся адразу, хто не згадзіўся, таго прымусілі згадзіцца. Хата апусцела. Шумна стала на вуліцы. Алесь ішоў з Маняю.
— Я, Маня, заўтра прыйду.
— Ну прыходзь.
— Вячоркі будуць?
— Не, заўтра не будзе.
— Ты будзеш дома?
— Каб ведала, што ты напэўна прыйдзеш, дык была б.
— Напэўна прыйду.
— Дык я буду чакаць.
— Я трохі пазней прыйду, як сягоння.
— Добра.
Узяў яе пад руку. Адчуў яе моцную руку, гарачую, здаровую. Мацней прыціснуў руку да сябе. Яна з жаночым задорам глянула яму ў вочы. Ён сціснуў яе пальцы. І яшчэ мацней. Засталіся ад усіх, адны на снегавой вуліцы. Бачылі толькі снег пад нагамі, ноч на пустым небе, і адчувалі адзін аднаго. Вярнуліся назад. Першымі ўвайшлі ў хату. Бацька спаў на палатках. Цішком селі на лаву. Нічога не гаварылі. Ён гладзіў яе галаву. Валасы ў яе былі каштанавыя, ушпіленыя трыма грэбнямі. І гэта не спадабалася ні адзін момант яму. Успомніў Ганніны косы. І раптам прайшло усё. Усё забылася. Усё адагнаў ад сябе. Прытуліў Маню да сябе, чуў, як пахлі ружовым мылам яе валасы. Раптам яна апусціла галаву ніжэй, абхапіла яго за шыю рукамі. Ён адчуў здавальненне і зусім забыўся па ўсё, што дзе калі-небудзь было. І моцнае жаданне з'явілася ў яго, каб стала яна блізкаю для яго і каб разумела ва ўсім яго. І моцнае жаданне гэтае межавацца пачало са смуткам.
— Ведаеш, Маня?
— Што?
— Слаўная ты.
— Ты ж мяне добра не ведаеш.
— Можа.
— Ну от бачыш, а гаворыш.
— Мне здаецца. Я думаю, што гэтак.

— Рапей часу пікол і не трэба гаварыць.
— Рапей якога часу?
Ружовая, разагрэтая, япа засмяялася:
— Я і сама пе ведаю.
І моцна япы абпяліся.
— Памятаеш, як я ў Аляксандра жала, а ты здалёк крычаў мне дзяпдобры? Ну, скажы.
— Што?
— Чаго ты маўчыш?
— Давай памаўчымо.
— Ну добра.
І ўжо ўвесь час маўчалі, прыціспуўшыся адзін да адпаго, аж пакуль пе зазвінелі ў дворы галасы. Дзяўчаты пачалі разбіраць свае прасніцы. Трэба было збірацца дадому.

## VII

Назаўтра пе было вячорак. Алесь адзін прыйшоў, без Клемуся. Бацька Мапін стаяў каля стала пад лямпаю і глядзеў па агонь. Узрадаваўся Алесю:
— А старая мая па вячоркі сышла педзе. Воўпу прадзе. А я от закурваць збіраюся. Часам гэта бывае ў чалавека — стаіш, як чапля ў вадзе, глядзіш па што-небудзь і цяжка табе вачэй па што-небудзь іншае адвесці. Ад чаго гэта бывае часамі ў чалавека?
— Ну але, гэта бывае.
— Ты гэта да Мапі гуляць прыйшоў, мусіць?
— Да Мані.
— Ну то прыйдзецца ж табе, браце, пачакаць. Давай будзем разам закурваць.
— А дзе ж Маня?
— Ой, браце, далёка. Не палохайся, у Амерыку пе паехала. Не так далёка, як глыбока. У пограб па капусту палезла.
Стукпулі дзверы.
— Добры вечар,— сказала Маня.
Выцерла рукі, падышла да лямпы і падала Алесю руку. Рука была халодпая, макраватая.
— Куды вы, тата, сабраліся?
— От куды-небудзь высупуся з хаты.
І пайшоў. Чуваць было, як кашляпуў і плюпуў па вуліцы. Пахла ў хаце шаткавапкаю і курадымам з лямпы. Маня падкруціла больш агонь. Узяла вепік, падмяла каля печы дробпую кару з дроў.

— Што ты робіш цяпер, Алесь?
— Малачу.
— Што ў вас там робіцца?
— Не ведаю. Нідзе не бываю, у хаце сяджу.
Памаўчалі. Абодвум хацелася зноў так сядзець, як учора. І нейкая як бы сарамлівасць была трохі ў іх абодвух.
— Сядзь, Маня, тут.
Маня села, і прапалі ў іх адзнакі лёгкай саромлівасці. Сядзелі блізка. Гаварылі пра ўсялякія пязначныя і дробныя рэчы. Шпарка бег час. Шмат было выгаварана за вечар слоў і нічога не было сказана пра самае важнае. Але было адчута і высветлена яно само ў іх абодвух. І гэта было вядома ім. Алесь пайшоў у той вечар дадому радасны і шчаслівы Маняю. Ішоў хутка снегавою дарогаю. Ад хады і марозу весела захватвала дух. Дома здалося душна, празмерна цёпла ў хаце. Не запальваючы лямпы, стаў класціся спаць. Думаў пра Маню. Думаў пра тое, што можа яна прынесці яму сваю жапочую радасць. І доўга не мог заснуць. Хацелася, каб хутчэй прайшла ноч, а там раніцою дамалаціць з Мікалаем авёс і пайсці да Клемуся, разведаць, як капэля. Пайсці да Тамаша, разведаць пра алейню і камітэцкія справы. Заснуў пад дзень. І прачнуўся, як зусім відно было. Усхваціўся.
— Заспаў.
Маці сказала:
— Хіба ты нездароў?
— Позна прыйшоў.
— Ці гэта ж першыня табе позна прыходзіць?
— Галава баліць.
— Спаў ты дрэнна. Качаўся ўсё. Я чула.
— Доўга заснуць не мог.
— Глядзі, ці здаровы ты?
— Здаровы.
Маці паглядзела на яго.
— Цяжка мне адной у хаце. Старая я. Мне ўжо і каб лягчэй крыху было, не пашкодзіла б.
— Ведаю.
— Хіба ты ажанішся.
Алесь змоўчаў.
— Ты не шукай лішне якое папаватае, бо яна табе

жыць спакойна не дасць. Пашукай сабе дзяўчыну простую, добрую, працавітую. Каб яна гора людское ведала, каб яна нужду разумела. Дык з гэтакаю табе і жыць будзе добра. І ў хаце лад будзе.

Алесь памаўчаў і сказаў з нейкаю раптоўнаю рашучасцю ў голасе:

— Я ўжо знайшоў сабе дзяўчыну.

— Каго?

— Будзеце бачыць.

— Тутэйшую?

— Але.

— Прыглядайся ж добра да яе. Каб у бяду не ўскочыў.

І доўга яна яшчэ гаварыла, тупаючы па хаце. Ён жа пайшоў да Клемуся і прасядзеў там да самага вечара. Крываносы Мікалай прыходзіў дамалачваць авёс і пайшоў назад. Пад вечар прыйшоў Алесь з Клемусем, удвух збілі два астатнія пасады аўса і пайшлі да Скварчэўскага на капэлю.

Дзён праз два зноў хадзіў Алесь у Чучаны. Назад Маня правяла яго аж за вёску. Ішлі і гаварылі, як зусім ужо блізкія. Абое адчувалі радасць ад сваёй адно да аднаго блізкасці.

Пасля ўсё пачало ўваходзіць у сваю ранейшую каляіну. Роўна пайшла ранейшая работа.

## VIII

Тамаш ляжаў на палку каля печы, па самую бараду ўкрыты сваёю браваркаю. Глядзеў на сцяну і то заплюшчваў, то расплюшчваў вочы. Алесь увайшоў у хату па поўдні. Тамаш перавёў на яго вочы, і твар яго не змяніў спакою сваіх рыс.

— Два тыдні не бачыліся.

— Але.

— Увесь гэты час ляжу.

— Страшнае што?

— Халера яго ведае. Дактары нічога не прызнаюць такога. Захаладзіўся — больш яны нічога не гавораць.

— А як на папраўку, ідзецца?

— Як бы лепш трохі.

Пахла падмеценаю кагадзе хатаю. У падпечку сакатала курыца.

— Выгані ты яе, браце, у сенцы, няхай па яе паморак, аж увушшу ляскае. Як на тое ліха, сышлі ўсе з хаты.

Вылез раптам з-пад браваркі, спусціў ногі на зямлю. Пасядзеў з паўхвіліны і зноў лёг:

— Не магу, а так, здаецца, устаў бы ды пайшоў бы. Устаць хочацца. А тут сілы няма. Што ты зробіш... Каторы ўжо дзень не курыў, адваротна ўсё было. Дай хіба там, браце, па комінку тытунь, папробую пацягнуць разоў колькі, можа, ад сэрца адляжа. Там і папера недзе павінна быць.

Увайшоў у хату сын яго.

— Здароў, Алесь.

Падкруціў вусы, прыгладзіў перад люстэркам валасы. Падцягнуў вышэй халявы.

— Ну, што чуваць, Алесь?

— Нічога.

— Што робіш цяпер?

— Авёс скончыў.

— Чорт яго ведае, гэтая гаспадарка душу дастане.

— Чаму?

— Самая паскудная справа. Робіш, і нічога няма.

— Неяк іначай трэба рабіць усё.

— Нанава мераць і рэзаць усё? Ведаю, можа, яно і зусім добра тады будзе. Адно што няма нешта ў мяне хэньці да ўсяго гэтага. Бывала, як служыў я, дык адбыў сваё, а тады ляжы ды пасвіствай.

— А я не ведаю і дагэтуль, дзе ты служыў?

— У Луніпцы на вакзале. У буфеце. Жылося тады. І піў, і еў, і гуляў. А гэта — апошняя справа. Я куды-небудзь усё роўна выеду. Чорт яго будзе тут сядзець. Чаго ты, Алесь, тут гібееш? Колькі ў цябе тае гаспадаркі, што ты яшчэ яе пільнуеш гэтак. Куды-небудзь рушыў бы, няпраўда, знайшоў бы кавалак лягчэйшага хлеба. Што гэта — корпацца век у гэтым гнаі.

— Каму ж небудзь ды трэба корпацца.

— А нашто канешне табе? Або мне? Няхай корпаецца той, хто нічога на свеце не ведае. Іншы ні да чаго няздатны, апроч як у зямлі корпацца. Таму якраз і добра. Гэта хто да чаго здатны.

Закурыў і зноў падкруціў вусы. Тамаш абазваўся:

— Гэта гультайства, разбазырапасць.

— Ты, бацька, хворы, ляжы. Няма за што мяне ўпікаць. Не трэба калатні ў хаце.

— Не, не трэба. Я сам не хачу, ніколі не хацеў. Я, можа, зараз памру, дык цяпер яшчэ больш трэба, каб у хаце ўсё добра было.

— Але, не трэба, ні пра гэта, ні пра што гаварыць.

Тамаш зморшчыў твар, востра глянуў наверх каўпяра з браваркі. Маўчаў доўга і глядзеў у адно месца. Нудна пахла надмеценым у качэргі смеццем. Дзень яснеў, па сталі жаўцелі водбліскі ад снегу.

— Нудна,— сказаў Тамаш.

Алесь панура паглядзеў на яго.

— Нудна. Нядобра. Жыць хачу.

— Ачуняеце.

— Мусіць, не.

— Няўжо вам так кепска?

— Наўрад ці ачуняю. Дыхаць цяжка.

Кінуў на зямлю недакурак. Невядомая раней трывога апанавала Алесем:

— Заўсёды гэтак хвораму здаецца. Гэтак заўсёды. Вядома, што ў хворага не можа быць добрага настрою.

— Ой, чаму не. Бывала, захварэеш часам, ляжыш, і ўсё ў табе кіпіць, варушыцца. Жыве ўсё. А гэта нуда мяне агарнула.

Сын падышоў да ложка:

— Нічога, тата. Вас забрала моцна, дык вам усё так і здаецца. Самі ж казалі, што лепш трохі ўжо.

— Яно лепш, але ўсё роўна ратунку, мусіць, няма ўжо мне больш.

— От праз дзён тры іначай загаворыце. У вас нават твар пасвятлеў за гэтыя дні. Я гэта ўчора яшчэ заўважыў.

— Хто яго ведае.

— Пэўна што так. Дзіва, што чалавек занядужае... Пайду сечкі ўрэжу.

Тамаш паглядзеў, як зачыніліся дзверы, уздыхнуў і сказаў:

— От як пагаворыць па-чалавечы, дык аж лягчэй на сэрцы стане. Здаецца, хата іншаю робіцца. А то ўсё нядобра яму, усё бубніць сабе пад нос. Гэта ён, што пры табе, дык загаварыў гэтак... Яно і беднасць не так страшна, як гэтая калатня ў хаце. Горш за ўсё, каб яно згарэла, калі назіраюць у хаце адно на аднаго коса. Няма горш.

— Вядома што.

— А тут, ліха на яго, як ты ні круці, не пазбавіцца ад гэтага. Колькі жыў, дык усё думаў — некалі па-чалавечы

гаварыць хоць адно з адным у хаце сваёй будзем. Ажно ж не дачакаўся.

— Вы вельмі ўсё да сэрца прымаеце.

— Чалавечае сэрца ўсё прымае. Жывы чалавек іначай не можа. А мне цяпер хвораму, можа, трэба было б, каб яно іначай трохі было.

— Нічога. Усё ўладжваецца.

— Уладжваецца. Гэта я сам бачу. Але мне суджана, мусіць, ніколі дабра не бачыць. Я і сам не ведаю — ці павінен я па сваіх дзяцей крыўдаваць. Ён мяне яшчэ даўно быў раз упікнуў, што я яго па свет пусціў. Што ты тут скажаш?

— Чаго не бывае, жывучы на свеце.

— Адно каб ачуняць мне. Дык усё, добра кажаш, нічога. Усё заўсёды пераяжывалася. І жылося патом. Кепска было і добра было. А ўрэшце ўсё добра. Жывому чалавеку ўсё добра, і, можа, нават усё патрэбна... Не можа быць, каб я яшчэ не ачуняў. От так, як падумаеш, дык і так і так здаецца.

— Ну пэўна, што вы гэта самі па сябе страху пагналі. У вас зусім выгляд не такі страшны, як вам здаецца.

Тамаш захацеў усміхнуцца:

— Што ты мяне цешыш.

Паглядзеў на Алеся, паволі зажмурыў вочы і пачаў драмаць. Алесь сядзеў нейкі час каля яго, занудзіўшыся нейкаю незразумелаю трывогаю. Тамаш заснуў. Алесь выйшаў ціха з хаты. Пайшоў у адрынку, паглядзеў, як рэзалі сечку, папрабаваў даваць у пажы:

— Нешта цягне дрэнна.

— Старая сячкарня.

Пайшоў паволі ў свой бок вуліцаю. Мароз адлягаў. Неба цямнела, хмурылася палавымі засцілами. Пад санямі на вуліцы цішэй скрыпеў снег. Спаткаўся Сабастыян:

— Ідзі, Алесь, сала купляй.

— Дзе?

— У Юстына.

— Чаму гэта?

— Салам пачаў гандляваць. Думае — забагацее. От бо народ!

— Можа, і забагацее.

— Дзе б бачыў. Хто тут лішне тое сала ў яго будзе купляць. Што гэта — горад? Гаворка. Уздурнеў чалавек. Адразу прашпэціцца.

Сабастыян зарагатаў, пасля твар яго застыў у гумарыстычнай усмешцы. І такім пайшоў ён у свой двор — задаволены нечым, нечага радасны. Пайшоў і — чуваць было на вуліцы — загаварыў з нейкім моцна ў двары. Харкануў і плюнуў.

Алесь пайшоў у гумно ператрасаць салому. Пахла жытнімі снапамі. Узяў вілкі, паварушыў салому. Выйшаў у вароты, закурыць. Лёгкі павей ветру здзьмухнуў тытунь з паперкі, абвеяў мяккасцю твар. Ужо сінелі далі над паплавамі, узнімаўся і плыў адтуль вецер — шырокі, мяккі. З сініх і далёкіх лясоў ішоў вецер.

І вострая радасць закалацілася ў Алеся. Радасць ад таго, што недзе ў Чучанах ёсць — блізкая — Маня.

## IX

І колькі зноў гаварылі. Можа, і не рада была Барановічыха лёсу сваёй дачкі ад гэтых гаворак. А можа, яшчэ больш гордай стала за сваю дачку. Ніхто пра гэта не ведаў, бо Барановічыха цяпер, як ніколі раней, старалася не ўмешвацца ні ў якія гаворкі. Яна адно слухала, як даходзілі яны да яе, чула, як пілуюць яны яе матчына сэрца. І яна пытала ў меншага сына:

— Ну, дык што ж Ганна казала?

— Казала, што, можа, пад весну, калі Андрэй паедзе здаваць свой дыплём і рыхтавацца далей вучыцца, дык Ганна, можа, да восені прыедзе дадому. А можа, і не. Яна і сама добра не ведае.

— А як жа хаця жывуць яны?

— Добра.

— Ці хаця ж глядзіць ён Ганны?

— Здаецца, добра ўсё. Я ж у іх там два дні быў, нічога дрэннага не заўважыў у іх... На чорта вы, мама, слухаеце гэтых плётак?

— Я не слухаю, сынок, але мацярынаму сэрцу ўсё здаецца. Мацярына сэрца баліць.

— Баліць дзе трэба, дзе і не трэба.

— Ты, сынок, калі сам будзеш некалі мець дзеці, толькі тады пазнаеш... І нашто бо яму яшчэ больш вучыцца. От бо маладыя гэтыя, цяперашнія. Вывучыўся, дык няхай бы жыў. Дык от-бо не. Яшчэ мала. Яшчэ каб больш. І што яны там навучацца ўжо. Што там ужо за навука гэтакая... Няхай бы ты, сынок, угаварыў там як яго, каб

ён не вучыўся больш. Няўжо ён не можа пражыць з гэтае свае навукі? Ён жа служыць, улетку мераючы зямлю, таксама не дарэмна гэта рабіць будзе. Няўжо яму па гэта сышло, што от канешне больш яшчэ вучыцца. Гэта ў яго няйначай у галаве закруціла, або, можа, зводзіць гэта хто яго. Ганна ж яму не растлумачыць, яна ж спакойная гэтакая. Ён, можа, што калі і скажа на яе, дык яна ж назад не адкажа.

— Не думайце, мама, што ў іх так можа быць, як у вас. Адзін на аднаго нічога не будуць гаварыць. Калі што якое не так, дык па-таварыску пагавораць і дагаворацца, да чаго ім трэба.

— Гэта, сынок, адно здаецца гэтак. А жывучы, дык яно, патом, усяго бывае. Бачыла я і гэтых панаватых, як яны жывуць.

— Чаго вы, мама, гэтак убілі ў галаву сабе нешта, самі сабе страху нагналі і ўсё думаеце ліха ведае пра што.

— Калі бо языкамі чэшуць вельмі. Як гэта ўсё дазнаюцца! Ты адно ў сваёй жа хаце сказаў, што на вясну, можа, Ганна прыедзе дадому, калі ён вучыцца, ці давучвацца там, паедзе, а тут ліха ведае, што ўжо гаварыць пачалі. Гавораць і гавораць.

— Што гавораць?

— Што гэта Андрэй зусім Ганну кінуць хоча, што гэта адно адгаворка, што давучвацца яму трэба ехаць. Каб, кажуць, трэба было ехаць давучвацца, дык мог бы і жонку з сабою ўзяць або пакінуць там, на кватэры. Не, мусіць, гэта, кажуць, зусім ён з ёю расквітацца хоча.

— Мала што плятуць. Языкоў не папрывязваеш.

— А як гэта мне слухаць!

— Вам, мама, і слухаць не трэба.

— А калі ўсё гэта праўда?

— Не можа гэтага быць. Ганна вясёлая, здаровая. Так бы яна інакшаю была б, каб гэта ўсё праўда.

— Каб жа ўсё добра было.

— Кіньце вы.

Юлік Барановіч пачаў злаваць:

— От гэтак заўсёды — выдумае якую-небудзь злыбеду, а потым аж млее, бабская галава... Дурная. Што гэта за інтэрас яму браць жонку на месяц. Што гэта? Ды яшчэ і бацькоў ашукваць. Не мог бы ён дзе ў горадзе сабе знайсці, калі б ужо на тое пайшло ў яго. А гэта як мае быць, чалавек сталы... Ты пакінь енчыць. Што ты гэтых

бабскіх плётак слухаеш. На чорта гэта мне, каб была ў хаце гэтая работа. Сціхні ты, ды не ўспамінай больш чорт ведае чаго!

Пасля гэтага Барановічыха падумала, што і сапраўды нічога не здарылася гэтакага, што б магло наводзіць на сумныя думкі аб Ганне. І адно калі-нікалі ўздыхала:

— Каб хаця ж усё добра там у іх было.

І паволі рабіла сваю хатнюю работу, заспакоеная і маўклівая.

Гаворкі ж тыдняў два не сціхалі. Сабастыяніха некалькі разоў гаварыла над калодзезем:

— У Барановічавае Ганны, мае вы родныя, нелады з гэтым каморнікам. Хлопец іхні ездзіў туды, дык гаварыў, што нават Ганна гатова неўзабаве да бацькі прыехаць, бо каморнік вучыцца збіраецца ехаць надоўга. За граніцу некуды паедзе. А ў гэтых жа гарадскіх гэтак, калі куды выязджае, дык жонку пакідае, усё як бы да часу. От табе яна і пайшла замуж. Вельмі зайздросцілі ўсё, што вучаны, разумны, далікатны... Ай, што там ужо за золата!

Пасля гаворкі гэтыя пачалі заціхаць, але адзін раз, калі пралі ў Вашыновічавых вечарам, гаворка зацягнулася за поўнач:

— Кажуць, што вельмі кватэра ў Ганны добрая.

— Ну, пэўна, што абы ў якой кватэры каморнік жыць не будзе.

— Ды чаму не будзе? Гэта як да чалавека.

— Ну пэўна што, але хлопец іхні, Барановічаў, гаварыў, што вельмі ж там ужо ўсё ў іх дасканальна.

— А от Юлька Сымонава таксама заходзіла да іх, як на суд ездзіла, дык гаварыла, што нічога там вельмі гэтакага і няма. Голыя, кажа, сцены. Адно, кажа, канапка стаіць і дыван перад ёй пасланы. Гэта то ўжо, вядома, па-панску, але ж, акром гэтага, нічога больш і няма. Столік адзін. Нават ложка, кажа, няма. Ну, падлога новая ў хаце, вокны памаляваны... Чысценька ўсё... Мусіць, гэта адно гаворка была, што ён шмат зарабляе.

— А што ж табе здаецца. Гэта ж усё трэба з капейкі. Ён жа свайго хлеба не пажаў, не памалаціў. А ў горадзе ўсё купіць трэба. Ну, а як паедзе, як той Барановічаў хлопец казаў, здаваць нейкую дыплёму, дык дзе ён лішне набярэцца, пакуль жа ў новым месцы, ды яшчэ вялікім, асталявацца...

— Не, мае сястрыцы, не кажыце! Каб хацеў ён з ёю

жыць, дык не адпраўляў бы яе да бацькі. Лепш, горш было б, але, патом, узяў бы з сабою, каб на добры лад. Не кажыце, мае родныя.

— А я чула, што гэта прыедзе яна на трохі, пакуль ён там знойдзе кватэру і асталюецца як мае быць. Тады забярэ яе. А пакуль яна будзе ў бацькі, дык колькі магчыма, дык памагацьме ёй; прысылаць будзе ёй грошы. Ну, многа не прышле, а так, колькі будзе выходзіцца ў яго.

— Колькі выходзіцца! Што гэта ты гаворыш? Каб ён добры быў, дык прысылаў бы не колькі выходзіцца, а накінуў бы сабе колькі выходзіцца. Бо гэтая ж самая Юлька гаварыла, што Ганна ўжо загрубела.

— Якое дзіва, што загрубела, міленькія мае. Яны яшчэ з летку зналіся.

— Не, не можа быць. Ганна!

— А што цяперашнія маладыя — ні за грэх гэта ў іх не лічыцца, ні за сорам.

— А хто яго ведае.

— Што?

— От усё.

— Ну, пэўна што.

— Казала Юлька, што і твар нават Ганны паблажэў.

— Не, патом ён яе не павінен пакінуць. Гэта ж адно надумаць... Дый гэтакая ж дзяўчына.

— Гэта нам так здаецца. А яму, можа, зусім іначай здаецца. Усякі па-свойму. Папраўдзе.

— Не, мае родныя, гэтакае дзяўчыны адно пашукаць.

Сам Вашыновіч злез з печы, пайшоў у мыцельнік, выпіў кварту вады, пасля выйшаў на двор і, вярнуўшыся, пачаў гаварыць:

— Каморнік? Тымчасове, бог яго святы ведае. Мы нічога не можам гаварыць, бо мы, сказаць, нічога не можам і ведаць. Як яны там жывуць, што ў іх там, тымчасове, робіцца,— гэта ім вядома лепш, як нам. Так што мы тут лішне гаварыць — хто яго добра, кажа, ведае,— можа, і не можам. Няхай сабе, тымчасове, жывуць, як ім найлепей. Я адно, што магу тут у гэтым, можна сказаць, дзеле, сказаць? Тое, што, хто яго ведае, што яно можа тут быць. Часам можа быць, што, ці то суджана гэта, ці што, але чалавеку саўсім іншае пачне здавацца, як раней здавалася. Раней здаецца добра, а пасля іначай. Гэта, тымчасове, можа быць. Гэты каморнік яе, можа, і

не кіне, хто вам казаў гэта, што канешне ён яе кіне! Але жывучы — яно ўсё можа быць. А ўрэшце, тымчасове, чорт яго тут ведае. Юлік вельмі ж хваліўся. Ні то што хваліўся, але вельмі ж нос угору задзіраў. Няхай сабе, як хоча, мы да гэтага нічога мець не павінны. На чорта гэта каму ўмешвацца ў гэты, тымчасове, інтэрас! Не маё гэта, можна сказаць, дзела, і не хачу тут я гэтых плётак. Бо гэта чалавеку жаднае карысці не дае і даць не можа. Да чаго гэтая ўся гаворка!

Жонка не сцярпела:

— Людзі ж, мусіць, ведаюць, калі гавораць. Людзі ж усё, каб як найлепей.

— Ат, гэтыя твае людзі. Нічога, тымчасове, гэтыя людзі не варты. Я раз назаўсёды скажу. На чорта мне ўся гэтая работа. На чорта яна, тымчасове, мне. Я жыў і жыць буду без ніякае гэтае, тымчасове, гэтае. Я такі чалавек. Гэтыя бабскія гаворкі заўсёды праз бок, добра кажа, вомегам вылазяць, от што.

Пачухаў жывот і зноў палез на печ.

## X

Тамаш апрануў наапашкі браварку і запытаў:

— Што на двары сёння?

У хаце адказалі:

— Галалёд.

Тамаш апрануў браварку на рукавы і выйшаў з хаты. Адчыніў з сянец дзверы на двор. Чыста былі замецены сенцы, высыпаны чвырам. Чвыр ляжаў змерзлымі камякамі пад лаваю ў запасе. Тамаш выйшаў на двор. З поля ішоў вецер. Вароніным крыкам сумаваў хмурны дзень. Тамаш глянуў у адрынку:

— Сечка рассыпана, не могуць яны падмесці. Глуміцца пад нагамі, а ім і не ў галаву.

Узяў мятлу і надмёў сечку да сцяны. Сын унёс вязку саломы:

— От усцягнуўся, бацька, дык у хаце сядзеў бы, а то яшчэ зноў горш будзе. Без цябе тут падмялі б, чаго ты лезеш туды, куды цябе не просяць.

Тамаш выцер рукавом губы:

— Як я табе вялічан зрабіўся.

— Не ўмешвайся ты, бацька, не ў свае справы. Не можаш памагчы, дык лепш памаўчы.

— Я ўжо адрабіў сваё.
— Ну, дык і не пазірай тут коса.
— Хто гэта пазірае?
— А што ты тут бубніў, што нядбалыя, ды няўдалыя, каліва там саломы ці сечкі пад нагамі ўгледзеў, дык нядобра. А-яй, заўбожаеш! Маёнтак прападзе! Ідзі, бацька, у хату.

Тамаш пайшоў з адрынкі. Увайшоў у сенцы, пастаяў. У галаве ў яго кружылася ад хваробы. Ногі ў каленях дрыжэлі. Уздыхнуў і падаўся ў хату. Прылёг так у браварцы на ложак, паляжаў хвіліны тры. Не ляжалася яму. Хацелася ўзяцца за якую-небудзь работу, і разам з тым слабасць апаноўвала яшчэ. Устаў, прайшоўся па хаце. Здалося, што ўсё ўжо мог бы рабіць. Убачыў, што ў вядры няма вады. Узяў вядро і пайшоў па ваду. Кружылася ў галаве, але радасна было яму ісці так паволі з вядром па абгалялёдзелай вуліцы. Перайшоў яе ўпоперак — да калодзезя. Стаў чэрпаць ваду, паволі апускаў жэрдку ў калодзезь. І адчулася яму пасля трох тыдняў хваробы ў душнай хаце, як моцна пахне з калодзезя гнілым дубам, вадою. Поле і паплавы нагадаў яму гэты пах. Сэрца застукала ў грудзях мацней, радасць жыцця ўскалыхнула яго. Перамагаючы слабасць, выцягнуў ваду, паліў вядро і панёс. Паволі сыходзіў з ледзяной абмерзласці навокал калодзезя. Раптам нага пакаўзнулася, на другой назе адзержацца не мог — і паехаў уніз, упусціўшы вядро з рук. Увесь абліўся і з'ехаў уніз плячыма. Крэкчучы, падняўся, у вачах раптам стала цёмна, калючыя вострыя іскры забегалі ў іх. Неяк абмацаў каля сябе вядро, напружваючы ўсе сілы, каб зноў не паваліцца, пайшоў з пустым вядром дадому. Ледзьве дайшоў да хаты. Вядра не мог больш несці, паставіў у варотах, прыпёрся да хатняй сцяны. Уздыхнуў разы тры і ўпоўз неяк у сенцы. Доўга мацаў клямкі, каб адчыніць дзверы ў хату. У хаце адразу паваліўся на ложак. І ўсё рупіла яму, што вядро засталося на вуліцы ў варотах. Пачаў зваць сына:
— Лявон, Лявон!

Цяжка было яму крычаць. Ніхто не прыходзіў. Зусім стала цяжка крычаць. Маўчаў, і здавалася яму, што гэта не ён, а Лявон паставіў вядро ў варотах, наўмысля, каб хто забраў і каб пасля ўсё ўскласці на яго — на бацьку. Чуў голас, востры і грымучы:
— Дзе вядро дзелася?

Паварушыўся, каб адказаць, і скорапька прагаварыў:

— У варотах па вуліцы. Ты ж сам паставіў.

Чуваць было пасля, як па двары Лявон гаварыў сястры:

— Бацьку горш стала. З гарачкі гаворыць. Вядро вынес па вуліцу і паставіў немаведама пашто ў варотах.

І голас гэты ўваходзіў у свядомасць, як нешта незразумелае, цяжкае, калючае. Так і ляжаў да самага вечара ў браварцы. Здавалася яму, што гэта на полі гэтак ціха. Ветру няма, але ідзе аднекуль плынь паветра, з ядлоўцавых кустоў і з крушынавых надрэчных зараснікаў. І дымам аднекуль цягне. Можа, гэта дзе за ўзгоркамі пастушкі паклалі агню і дурэюць каля яго. Раптам узнімацца пачаў вецер і пагнаў дым за кусты. Узварушыў чыстую застаялую ваду ў каляінах, дажджавую ваду. Разышліся некуды і пастушкі. Адно папялішча засталося развявацца ветрам. А ён сам з Алесем сядзяць на мяжы і гавораць пра гэты вецер, які можа павыдзьмухаць жыта, што кагадзе пасеяна на сыпучай раллі. Але Алесь весела ўпэўнівае, што нічога, зерне добра забаранавана і застаецца ў зямлі ўсходзіць і расці. Яшчэ каморнік паволі прайшоў па полі. Пасля Мацвеіха з Юркам. Падышла да іх і гаворыць:

— Пільнуй, Тамашка, майго хлопца.

І ён адказвае:

— Буду пільнаваць.

— Упільнуй жа хаця яго.

— Упільную.

Раптам усё гіне, прападае. Хочацца крыкнуць, каб яшчэ сказала Мацвеіха, што ёй патрэбна больш. Нехта за плячо штурхае. І голас як бы Лявонаў. Пасля ўсё сціхла і заспакоілася.

Калі паволі расплюшчыў вочы, вечар быў у хаце і слабасць ва ўсім целе. Салодка было ляжаць, не варушачыся, і страшна было паварушыцца. Лявон стаяў над тварам:

— Дай я з цябе, бацька, скіну браварку. Крычыш нешта з гарачкі. Можа, заўтра доктара пазваць?

— Пазаві.

Даў Лявону скінуць браварку і боты. У палатнянай бялізне здаваўся вялікі, магутны. Адно нерасчэсаная, пamятая барада псавала папурую прыгожасць твару. Дачка накрыла яго кудзельнаю коўдраю.

— Можа, даць, тата, чаго з'есці?

Цяжка было адказаць. Сагрэўся і ціха задрамаў.

8

## XI

Вечарам у Мацвея сядзеў за сталом Сабастыян і выціраў рукі. Мацвей пёк на прыпеку скваркі і гаварыў Сабастыяну:

— Няхай бы ты мыла ўзяў, а то сала так не адмываецца.

— Нічога, я мыў гарачаю вадою... Дзе гэта Мікалай?

— Малоціць у Аляксандра.

— Да самага цямна?

— Ну, можа, адхіліўся куды. Што яму, адзін душою.

Зняў з трыножкі скавараду:

— Юрка, падсцялі пад скавараду на стол якую-небудзь паперку.

Паставіў скавараду на стол і дастаў з-пад падушкі на ложку бутэльку гарэлкі. Сабастыян заўважыў:

— Нашто ты браў аж бутэльку. Хапіла б і паўбутэлькі.

— Ат, нічога. Добра.

— Зараз жа мая павіпна надыйсці, з салам тут і з каўбасамі ўправіцца.

— Якая тут упраўка.

— Чаго, пудоў каля сямі парасюк быў.

— Можа, і быў, на хібу сала нішто.

— Хіба каб Мікалай падыйшоў на свежыну, а то ўдвух ніць... Каб яшчэ хто быў, было б ямчэй.

— Падыйдзе зараз.

Мацвей адаткнуў бутэльку. Сабастыян яшчэ сказаў:

— А можа, пачакаем Мікалая?

— Скваркі астынуць.

Раптам увайшоў Мікалай.

— Гэта гэтак позна малоціш?

— Не, у Алеся сядзеў.

— Садзіся з намі.

— Там Алесь на вуліцы.

— Заві сюды.

Мацвей выйшаў і паклікаў Алеся. Юрка падцягнуў пад стол доўгі столак. Селі ўсе. Чарка абышла ўсіх іх чатырох. Сабастыян гаварыў:

— Здаецца, не вельмі і парасюк быў, а за дзень ледзьве ўправіліся.

Мікалай запытаў:

— А як дайшоў, скора?

— Адразу. Што там было калоць, я яго, як муху, задушыў.

Выпілі яшчэ па чарцы.

— Што тут, я ж кажу, было калоць.

— Чаму, усё ж такі пудоў пэсць быў.

— Пудоў сем быў.

— Ну от бачыш.

— Эт, што там. Бывала, я ў пісара калоў, дык па пудоў семпаццаць япрукі былі. Як звер, ліха яму. Учатырох бралі, пакуль яго, бывала, абложым. Я ўжо і калю спецыяльна, а потым, ліха на яго, цяжка, пакуль яго ўкладзеш. Самае цяжкае — гэта аблажыць яго. Бывала, аж пена ў яго з роту падаць пачне. Што ж гэтакі з'яд-звярына. Не дай бог.

— Трэба адразу кідацца на яго.

— Ну, пэўна, што адразу, каб не даць яму раз гэтае... расчомацца. Тады яго цяжэй браць. Раз, памятаю, калолі — я, Галляш-нябожчык і Мірош Грысюкевіч. Ды неяк не ўзялі яго адразу, дык ён на мяне вобцас калі кінецца, пераскочыў цераз мяне ды на двор. Тады загналі мы яго ў куток ды паленам па лбе аглушылі. Тады адно адразу шылам — чок... І скончана музыка...

Мікалай заўважыў:

— Ну, гэтага няма чаго раўняць да якога-небудзь сяміпудовага.

Памаўчалі. Сабастыян павесялеў. Увайшла Сабастыяніха. Мацвей падаўся ёй насустрач:

— Раздзявайцеся, братавая, ды садзецеся з намі.

Сабастыяніха надсела да стала.

— Я вам, братавая, скажу тут перад усімі... Горна мне...

Выпілі яшчэ па чарцы.

— Горна. От гэтага самага парасюка яшчэ нябожчыца карміла... Што я параджу... Нічога не зробіш.

Сабастыяніха ўздыхнула:

— Добра кажаце, братка, нічога не парадзіш.

Сабастыян падаў голас:

— Як той казаў, гэтак яно ідзецца чалавеку. Як-небудзь трэба жыць... Год за годам, дзеці падрастуць...

Сабастыяніха сказала:

— Дзеці... Што дзеці. Дзецям, так, небаракам, хоць прападай. Вам, братка, хіба ўдаву якую пашукаць, ці што...

Сабастыян таксама намог:

— Хіба, браце... што ты думаеш. Так жа як гэта жыць... Адно падумаць, дзеці, як боб, дробныя.

Сабастыяніха пайшла ў мыцельнік парадкаваць мяса. Запахла ў хаце перцам і гарчыцаю. Сабастыян вылез з-за стала:

— Пайсці каню закінуць.

Мацвей пачухаў шыю:

— Хто яго тутака ведае.

Правёў Сабастыяна на вуліцу. Унёс у хату бярэма лому. Седзячы на лаве, поплеч з Алесем, Мікалай выкалупліваў саломінаю з зубоў. Мацвей падышоў да Алеся:

— Кажуць, жаніцца будзеш?

Адказаў Мікалай:

— А дакуль жа яму хадзіць так. Што, не пара?

— Дзіва, што пара.

— Ці няма як у хаце? Здаецца ж, гаспадар сам!

— Дзіва што.

Алесь устаў, падышоў да печы, узяў з комінка запалкі, закурыў. Зноў сеў поплеч з Мікалаем. Мацвей загаварыў:

— Сам не ведаю...

Сабастыяніха перабіла:

— Нічога інакай не будзе.

Алесь умяшаўся ў гаворку:

— Няхай чалавек робіць, як самому лепш здаецца.

— Але ж парадзіць трэба.

Тады Мікалай адказаў:

— Парадзіць у меру... Тут самае важнае што? Гаспадаркі глядзець, каб у хаце парадкам усё рабілася. Дзяцей трэба дагледаць. Гэта самае патрэбнейшае. Бо што ж тут інакай.

Алесь адказаў:

— Вядома, што гэта самае важнае. Тут справа сямейнага ўсталявання.

Мікалай падумаў і сказаў, перамагаючы стомленасць ад малацьбы і хмель ад выпітай гарэлкі.

— Калі ў чалавека сям'я, дык тады трымайся. Аднаму, вядома што, вальней. Адна галава не бядна.

— Дык, па-твойму, лепш сям'і не мець?

— Ні то што...

Алесь раптам адчуў прыліў хмельнай узбуджанасці:

— Ды ты заўсёды гаворыш гэтак. А што ты такое на зямлі, сярод людзей? Жывеш от, малоціш у Аляксандра.

А што ты зробіш для жыцця? Ты для сябе жывеш, адзін.

— Але я вольны. Куды захачу, туды і пайду.

— Аднак жа нікуды не ідзеш, а дзень пры дні да самага цямна малоціш у Аляксандра. А Аляксандар потым больш вольным сябе пачувае за цябе.

— Як?

— Так, што ён урос у жыццё ўсімі каранямі. Што яму, ён, жывучы, гаспадаром пачуваецца.

— І па горла задаўлены ўсім.

— Ну добра, а калі ты пойдзеш калі-небудзь, як сам кажаш, брадзяжыць. Ну, паходзіш ты па свеце, а тады што? Што ты зробіш такога?

— А іншы хто, распладзіўшы сям'ю, што зробіць? Ну от Мацвею цяпер прыйшлося, хоць што хочаш.

— Што хочаш? Мацвей праз год які вызваліцца ад усяго: і ад патрэбы супроць свае волі жаніцца, і ад таго, што дзеці недагледжаны, і ад чаго ты сам хочаш.

— Памрэ хіба?

— У камуну пойдзе. Будзе рабіць і жыць. І галава не будзе балець пра ўсялякія непатрэбныя чалавеку дробязі.

— Ну, а ты ж чаму не ідзеш сам?

— Дык от мы з ім разам і пойдзем.

— А я пайду сабе па новае месца куды. Дарма, што ты гаворыш, што нявольны я.

— Я не кажу, што ты нявольны.

— Кагадзе гаварыў.

— Гаварыў, што не можаш ты сабе ніяк узяць у галаву, як гэта вольнаму адчуваць сябе, не брадзяжыўшы і не жывучы аднаму, як вецер.

— Можа, і не магу, хто яго ведае... Пад вясну пайду куды ў свет.

— Усяго табе добрага.

— Гэтаксама і табе. Я волю бачу ў сабе.

— А я ў сабе. Не мінеш ты мае волі.

— А можа, і міну. Цяжка нам уведаць адзін аднаго.

## XII

Гэта было падобна да трывогі. І абышло гэта ўсіх у познюю раніцу. Больш холадна аднёсся да гэтага белабароды Павал. Ён ішоў па вуліцы з рэзгінамі за плячыма. Юлік Барановіч паіў каля калодзезя коні. Убачыў Паўла, аддаў яму дзень добры і, выдзьмухваючы з вусоў жытні пыл, гукнуў:

— Чуў?!
— Што?
— Тамаш памёр.
— Калі?
— Кагадзе што сканаў.
— Ну... вечны спакой... Ага... Такі сканаў. Хварэў здорава.

Вашыновіч дзеля гэтага выпадку прыйшоў на поўдні да Барановіча:

— Вечны спакой. От жыў чалавек; жыў, рабіў, дый сканаў. Нічога, чалавек, не парадзіш, як бы, тымчасове, не жыў, а ўміраць трэба. Хоць разарвіся, а нічога не зробіш. Так усяму жывому на раду напісана.

І Вашыновіч уздыхнуў. Барановіч сказаў:

— От гаварылі на яго ўсяк, а ён, патом, каб яму лёгкае паляжанне на тым свеце, добры быў чалавек. Разумны і сумленны. Вядома, жывучы, усім не ўнаровіш, але крыўды, дык, сказаць, нікому ён і не зрабіў. Жыў, можна сказаць, па-чалавечаму. Я і сам, бывала, часам з ім сашчаплюся паспрачацца, а патом кепскім словам няма за што яго ўспамінаць.

Убачыў у жонкі на вачах слёзы і пачаў моўчкі закурваць. Жонка заплакала мацней:

— Бывала, мой божа, і малады быў... я была на шмат малодшаю за яго, а ён старэйшы, а патом і гулялі разам. Як жывога бачу. А гэта ўсё прайшло, усё мінулася. Як нічога і не было. Як бы і непатрэбна нічога. Нічога не засталося...

Барановіч уздыхнуў:

— Ат... От яно жывецца...

Вашыновіч сказаў:

— Тымчасове, яму сказаць, і не лішне дрэнна жылося пад старасць. Дзеці выраслі, а ён цяжкае работы і не рабіў. Старасць, сказаць, не лішне і кепская была.

— Ну, няўжо ж, каб ён да самае трупы рабіў гэтак, як ззамаладу. Якое яму там дабро было. Што там за дабро ўжо.

— Чаму?

— Не лішне яго, небараку, дзеці і глядзелі. Я ж ведаю. Раўлі, як на што ліхое, не паважалі яго ўсё ж, як бацьку.

— Тымчасове, гэта было.

— Ну, то якая ж там старасць добрая! На ліхога казана гэтакае дабро. Ён адно што не скардзіўся ніколі

нікому. Бывала, усё маўчыць пра гэта, або калі і ўспамяне, дык доўга гаварыць пра гэта не будзе.
— Ён не лішне любіў надакучаць каму.
Барановіч падумаў і здагадаўся:
— Разумны быў чалавек.
— Тымчасове, хто што пра гэта тут будзе спрачацца.
— Дарма, што і я часамі што, бывала, вазьму дый скажу на яго.
— Кажуць, што Алесь з Клемусем прыйшлі, як ужо абмылі яго, і заявілі, каб ні папа, ні нават свечак не было.
— А пэўна, што яны гэта зробяць.
— Дзіва што... Я, тымчасове, не ўручаю, але гаворкі пайшлі, што Алесь распарадзіўся, каб і звону царкоўнага не было. Я такі, тымчасове, зранку і думаў — прыйдуць да мяне, каб пазваніць, ці не.
— Ну, а як?
— Не прыйшлі.
— Трохі неяк нядобра, гэта ж чалавек.
— Нядобра. Што ты з імі зробіш.
Аднак далей пакінулі бедаваць пра гэты інтэрас і пайшлі глядзець котную авечку. Пасля Вашыповіч спаткаўся на вуліцы з Мікалаем і запытаў яго знячэўку:
— Не ведаеш, хто труну будзе Тамашу рабіць?
— Адкуль мне ведаць.
— Курыць маеш?
— Іду да Алеся закурваць.
Вашыповіч увайшоў за ім услед у хату. Сталі закурваць.
— Тымчасове, от жыў-жыў Тамаш і памёр, вечны спакой.
Алесева маці загаласіла:
— Гэтаксама і мой нябожчык. Яшчэ і здаровы, здаецца, быў і раптам яго хвароба нейкая зламала. Жыў і дабра не прычакаў. Усё спадзяваўся, небарака, да самае смерці. А гэта Тамаш — працаваў, рабіў, стараўся, а калі ён тое дабро бачыў! Божа ж мой, божа!..
Яна моцна заплакала.
— Каб мне яшчэ, здаецца, хоць колькі гадкоў на свеце пажыць. Жаніся ты, Алеська, аблягчы ты маю старасць.
— Тымчасове, ну але, пара табе, сынку, жаніцца. Каб бог даў усякаму гэтакага зяця. Я табе адкрыта, перад усімі, скажу.
— Ну але, сыночак, от і людзі кажуць.

— Ціха вы, мама.

Старая села на лаву і, усхліпваючы, выцірала фартухом слёзы.

— Тымчасове, цяпер, хто яго ведае, усё неяк як бы і добра. Спакойна стала, усталёўваецца як мае быць. Што так халасцяку, можна сказаць, жыць. А жапатаму, нябось, тымчасове, не тое. Зусім у хаце іначай. Я, тымчасове, сам быў маладым, сам ведаю. Сам гаспадар... Дастань яшчэ тытуню. Папера ў мяне ёсць у кішэні, газета... дзякуй.

— Дык от жа тонкая.

— Ну тонкая-тонкая... Робіш цяпер дзе, Мікалай?

— Гэтыя дні нідзе.

— Ну як, тымчасове,. жывецца?

— Жыву.

— Ды чаму, добра кажа, не. Жывучы і робячы, дык яно, тымчасове, жывецца. Тут жа ні то што гэта, як той казаў, гэтае. От што.

Мікалай усміхнуўся:

— Ну пэўна.

— Ды яно ж, тымчасове, гэтак.

І пайшоў з хаты, гледзячы, як старая ўсё яшчэ ціха плакала, і несучы ў сабе нейкае радаснае адчуванне сіняга зімовага дня.

## XIII

Сіняя ноч стаяла каля дзеравяных сцен. І спакой яе быў чулым і глыбокім. Пахла ноч сном голых дрэў і сінімі адценнямі хмурнага неба. Вільготны снег паволі падаў на белую зямлю. За сцяною, у суседнім садзе, зімавала абклёванае дробнымі птушкамі сухое зелле. Святло вузкаю істужкаю падала на яго праз аконца, што высечана было ў адным бервяне ў сцяне. Лямпа ў адрынцы вісела на тоўстым дроце і прытульна свяціла на стружкі, дошкі і чорны ў кутках ток. Пахла смалою і габляванымі дошкамі.

У вясёлым святле лямпы гаспадарліва свяціліся Сабастыянавы вочы. Мікалай габляваў смольны кант у тоўстай дошцы. Плечы яго варушыліся пад рудою жакеткаю, голас быў сталы і словы павольныя:

— От бо хвоя моцная была, гэта ж гэтакія дошкі. Тут ні то што з паўтарачак, каб з цалёвых труну збіў, дык трымала б ні то што тры, а чатыры аршыны зямлі.

Сабастыян стараўся надаць свайму голасу як мага больш адцення жартаўлівасці:

— Добра, кажа, і з цалёвых каб збіў труну, дык на Тамашоў век хваціла б.

Але твар яго быў халодны. Цеплыня і агонь гарэлі ў ім у глыбіні. Алесь, мераючы дошкі, заўважыў:

— Вы часта бераццеся за гэбель?

Сабастыян перш памаўчаў, пасля адказаў:

— Раз у год, часцей не бяруся. А то і яшчэ радзей. Я некалі ззамаладу, як у нябожчыка бацькі паўчыўся сталярству, дык ад таго ніколі і не бяруся. А гаспадару ўсё трэба ведаць. Што ўмецьмеш, дык за плячыма не насіцьмеш. Я і цяслярствам магу займацца.

Стоячы каля зачыненых дзвярэй, Мікалай закурваў. Алесь усё вымяраў дошкі. Доўга яшчэ будзе цягнуцца ноч, пакуль не засінее дзень і пакуль будзе гатовы Тамашу апошні дар жывой зямлі і блізкіх людзей — пахучая смалою труна.

— Снег ідзе,— сказаў Мікалай.

— Але, адлежны снег.

— Добра будзе гэткім надвор'ем дол капаць. Як гэта назалетась была пісарыха памерла, дык я капаў. От бо было надвор'е — мароз, скавыш. Каб не ўзялі бутэльку гарэлкі, дык прапалі б. Мы гэта з Аляксандрам капалі. Колькі я за свой век людзям магіл напакапаў.

— Некалі і табе выкапаюць, чаго ты гэтак баішся. Аддзякуюць.

— Ды выкапаюць. На зямлі ж валяцца не буду. Цяпер, кажуць, у гарадах дык не хаваюць.

— А як?

— Паляць.

— Паляць?

— Гэтакія, кажуць, ёсць ні то печы, ні то так нешта прыстроенае гэтакае. І знаку няма. Адно жменя попелу застаецца. Я згадзіўся б, каб мяне спалілі, а не закопвалі ў зямлю.

— Тады ўжо ўсё роўна.

— Чорт яго ведае, як гэта... з чалавекам... Тры аршыны зямлі наваліць. От чалавечы лёс. Жыве, жыве!

Дым з Мікалаевай папяросы востра запах па ўсёй адрыпцы. Сабастыян дастаў з кішэні капшук.

— Закуры, Алесь.

— Давайце.

— Гэта ў цябе, Алесь, бацькаўскі варштат застаўся?
— Бацькаўскі.
— Твой бацька таксама быў добры рамеснік. Працавіты быў чалавек. Як гэта вы з Тамашом кампанавалі гэтак; адзін стары, другі малады.
— Кампанавалі.
— Ці праўда, што Тамаш усё скардзіўся па старасць?
— Як?
— Зайздросціў табе, што ты малады. Жыць, кажа, хачу, а тут старасць. От бо быў чалавек.
— Праўда. Праўда, дзядзька Сабастыян. Скардзіўся, жыць хацеў. Яму трэба было яшчэ пажыць.
— Дзіва што трэба. Усякаму чалавеку трэба пажыць.
Мікалай узяў у рукі пілу, прысеў на заперыну і сказаў:
— Усякаму? Не, не ўсякаму. Ёсць гэтакія, што адно паскудзяць, жывучы. Паскудзіць свет, псуе кроў людзям. Дык гэта не шкада. Гэтакага, каб прыйшлося, і забіць не грэх.
— Не грэх?
— Не.
Сабастыян надумаў і сказаў:
— Можа, яно і гэтак. На свеце гэта, як чалавеку здаецца,— што грэх, а што не грэх. Хто гэтыя грахі ўстанавіў?
Моўчкі пачаў габляваць. І Мікалай з Алесем паселі на дошку і пачалі гладзіць яе баранам. Сабастыян гаварыў:
— От сястра мая — Наталя, або хоць другая Наталя — братавая, Мацвеіха. Адна з сухот памерла, а другая таксама не дажыла свае пары. А чаму не дажыла пары? Чаму памерла? Хто ведае. Сухоты, усялякія хваробы. А ад чаго гэта? Жылося, скажам, дрэнна. А ад чаго жылося дрэнна? Нехта ж патом вінават, што некаму жывецца дрэнна. Як гэта, каб не было каго ці, можа, там чаго, вінаваціць, што нехта ўмірае, а не жыве. От табе тут і праўда. Шукай тут праўду. Па-мойму, гэтак. Ты, Мікалай, от быў на вайне аж некалькі год. Забіваў ты там ці не?
— Забіваў.
— Але гэтак, каб сам ведаў, што от забіў чалавека?
— Гэтак.
— Ну і што ты думаў тады?
— Нічога не думаў.
— Бо, можа, затым, што гналі цябе, каб забіваў. А каб так, сам, ведаеш, каб сам?
— І сам забіваў.

— Калі?
— Было.
— Ну і што?
— Адно баяўся насля, каб не папасціся. Бо ўсё роўна ж каралі б, а тым часам вельмі горна было б, бо сумленне ў самога перад сабою было чыстае. От як тут гавару перад вамі. Ведаў, што праўда ва мне была. Чуў гэта і цяпер чую. Ведаю.
— І нічога?
— Нічога. Не папаўся і спакойны быў.
— І нічога цяпер не думаецца?
— Ніколі. Думаю адно, што ўдалося і добра.
— А калі гэта было?
— Даўно. Яшчэ зусім маладым хлопцам быў. Перад прызвамі яшчэ. Яшчэ як у бацькі жыў. А жыць там лішне не было на чым, дык за парабка застаўся ў двор. А вядома, што гэта ў двары парабак. Я рабіў усё, як мае быць тое, што ад мяне трэба было, дык я стараўся, каб абы-як не было. Бо, сказаць, любіў я страшэнна работу на полі, а здаровы быў, малады. А там быў аканом, які ўсё хацеў выслужыцца. Ды ўсё даносы рабіў. Ні ліха, ні бяды, нічога там у нас, у парабкоў, і не было, а ён усё нагаворваў. Дык як прыйдзецца расплата, дык нам і не дададуць колькі рублёў кожнаму — у таго, кажуць, паўморга дрэнна заарана, у гэтага коні не дагледжаны і схуднелі, у трэцяга прагул вялікі. Ведаем мы, што нічога гэтага няма, што ўсё гэта работа аканома, але ж нічога не зробіш, не даюць пенсіі. Мы і туды, і сюды — нічога не памагае. А ён, бачым, праз нейкі час пачаў выслужвацца — падвысілі яму пенсію, далі памочніка. Ах, каб ты згарэў, гэта нехта робіць, а нехта на яго рабоце выслужваецца?! Тут мы і згаварыліся. Прыкончыць гадзіну. Хлопцуць, каб і духу не ўказаў. Так мы ўдвух і ўзяліся за гэта. Толькі ўдвух і ведалі, самі, нікому нічога не гаварылі. Нас дзесяць чалавек жыло ў фальварку, дзе ён жыў, а кожную суботу ён за дзве вярсты ездзіў конна да пана ў двор на дыспузыцу. От насля работы мы і заселі ў кустах. Узялі гіру і чакаем. Пайшоў якраз дождж, пад восень справа была. Зусім прыцемак быў, як ён ехаў сабе паволі. Тут мы яго ў кустах па дарозе і прыкончылі. Гіраю ззаду ў патыліцу дзеўбануў і ўсё. Прывязалі каня за куст так, каб адвязацца мог, а самі пішачкам дадому. Як нічога і не было. Павячэралі і ў карты селі гуляць, як заўсёды ў суботу, каб падазро-

насці ніякае не было. Конь праз гадзіну якую адвязаўся і прыйшоў на атаву за садам. Тут яго ўбачылі, падпялі гвалт, усшушукаліся і найшлі таго ў кустах. Нападрыжэлі мы гадоў два, усё скрабло на сэрцы, каб як не выявілася. А пасля ўсё прайшло. Ніхто нічога не дазнаўся. А то яшчэ як у салдатах служыў я. Плюгавенькі быў у нас гэтакі падпрапаршчык, смаркаценькі, смярдзючым здаваўся нам усім. Гэта ўжо ў першую рэвалюцыю. Раней дык пагонамі ўсё сваімі казыраў, а гэта, чуючы, што пагонаў недалюбліваюць, без іх пробаваў франціць. Тады сама што армія пачынала разбягацца. А палкоўнік у нас быў, хоць і палкоўнік, але свой хлопец. Сам нават рэвалюцыйную работу вёў раней. А тады, як гэта ўсё было, дык нагаворваў нас усё супроць Керанскага. Рэвалюцыянер быў. А гэты падпрапаршчык усё яшчэ, трасца яму, выслужваўся. Ці, можа, гэта якая-небудзь іншая думка была тут у яго, халера яго ведае. Нас, некалькі чалавек, увесь час яго недалюблівалі, не паважалі, бо вельмі ж дурны быў. Дык ён на нас усё нагаворваў палкоўніку, што мы супроць рэвалюцыі, што мы з дому нейкія хутаранцы, як цяпер кажуць — кулакі, дык нам выгадна гэтае царскае там ці якое. З'есці хацеў нас, халера. Усякімі спосабамі паклёпы ўзводзіў, зняпраўджваў словы, хто што скажа. Гэтакая зараза была паршывая, гнілая. Тут у чым крыўда была? У тым, што зняпраўджана ўсё. Калі мы — я от дык нарабак, з ног да галавы за рэвалюцыю. А ён гэтак пагаварыць здолеў, што яму і паверылі. Каб гэта праз гадоў два ці праз год пазней, дык забралі б, як міленькага. А тады — дык палкоўнік наш і глядзеў на нас коса. Пакуль пасля сам не ўбачыў, што ўсё гэта паклёп. А той ўсё выслугоўваўся ці халера яго ведае што. Яму і не дарага была рэвалюцыя, аб справе ён і не думаў, але от брахаў. Дык мы таксама яго цокнулі. Не ўспеў змыцца. І скончана дзела.

— І спакоен?

— Спакоен.

Зноў Мікалай адышоўся да дзвярэй, з стружак на голы пол, і стаў закурваць. Уверсе, над дзвярыма, праз шчыліну ўпала мяккая сняжынка, раставала на гарачай Мікалаевай руцэ.

І от яны ўсе ўтрох сышлі са стружак на голы ток да дзвярэй закурваць. Сабастыян адчыніў дзверы, глянуў на ноч. Цемень была замест неба. Пасля лямпы яшчэ цям-

нейшым здавалася ўсё. Толькі ў асветленай лапіне прыкметна было: снег падаў радзей, зляпленымі камякамі ападаў з голых ігруш напроці варот, каля плота.

— Гэта яшчэ, мусіць, твой дзед, Алесь, садзіў гэтыя грушы?

— Але, бацька расказваў.

— Я іх як і запамятаю, дык усё гэтакія ж стаяць.

— Але.

— Снег Тамашу дарогу выбеліў.

Памаўчалі. Сабастыян зноў сказаў:

— А от патом, добра кажа, тое самае — ці хавай ты яго ці спалі. Усё роўна не ўстане.

— Не ўстане.

— Чаго, Алесь, зажурыўся?

— Ат, так сабе.

— Тамаша шкадуеш?

— Шкада.

— Ён вельмі з табою кампанаваў. Усе аж дзівіліся. Як малады ўсё роўна быў.

Алесь маўчаў.

— Нейкі дзіўны быў чалавек.

Сабастыян прайшоў па двары, глянуў на вуліцу:

— На вуліцы відней здаецца... Сабакі недзе далёка брэшуць... Невядома, калі хаваць будуць... Хто гэта?

Цёмная постаць прыпынілася каля Сабастыяна.

— Клемусь, ці што?

— Ён. Алесь тут?

— Хадзі сюды.

Учатырох увайшлі ў адрынку. Клемусь расчырванеўся, расшпіліў ватовую картовую жакетку.

— Чаго ты ходзіш?

— Дадому іду. Позна. Калі скончыце?

— Пад дзень скончым.

— Марудзіце.

Сабастыян жартаўліва пакрыўдзіўся:

— Эйш ты, марудзіце!

— Гэта я так.

— Галава... марудзіце!

— З рэпетыцыі іду, ад Скварчэўскага. Ужо за поўнач, першая гадзіна. Заходзіў да Тамаша. У галавах свечка гарыць — сястра яго, Рыгорыха, паставіла. Прынясла і паставіла. Галосіць па ўсю хату, а то яшчэ стане на калені і моліцца. Усю ноч, кажа, буду маліцца. Галосіць, што па-

ват свечкі няма, дажыўся, кажа, Тамаш. Стаіць перад ім на каленях і валасы на сабе рве. І народу поўна хата. Бабы і старыя спяваюць царкоўныя песні. Пад поўнач пачалі трохі разыходзіцца.

— А Лявон што робіць?

— Клапоціцца ўсё. Прыгаварыў Вашыновіча яшчэ з нейкім дол капаць. Вашыновіч прыходзіў маліцца па Тамашу — на каленях перад ім памаліўся, заплакаў і пацалаваў Тамашу ў нагу. У белых панчохах ляжыць Тамаш.

Сабастыян панура сказаў:

— Жывучы, дык найбольш у лапцях хадзіў, а гэта ў белыя панчохі ўбраўся, небарак. Эх ты, жыццё чалавечае! Дык, кажаш, Рыгорыха галосіць?

— Але. Успамінае ўсё, як жыў Тамаш.

— Як жыў?

— Выкалупвае ўсё, што калі было.

— Што?

— От, калі не еўшы быў, калі не піўшы. Як жаніўся, дзяцей хаваў. Як жылі ў хаце, як сварыліся, як мірыліся.

Клемусь памаўчаў, аддыхаўся:

— Адзін раз убачыў быў, што ў мяне кніжка за папружку засунута. Дык ён на ўсю вуліцу запытаў у нейкага: ці бачыў ты, кажа, каб трымаць на пупе кніжку і чытаць. І сам рагоча. Жартаўлівы быў. Ну, я пайшоў.

Зачыніліся дзверы. Ноч маўчала за сценамі. Усё гэтаксама свяціла лямпа, гэтаксама пахлі смалою стружкі і дошкі. Зноў заспявалі два гэблі. Стукаў малаток.

— Яшчэ прыцемкам скончым.

— Дзіва што.

І памаўчаўшы, дадаў Сабастыян:

— Эх, як яно ўсё робіцца! Тамаш, Тамаш. Эх!

Нагнуўся аж да самай дошкі абвіслымі вусамі і выкалупліваў з гэбля стружкі. Твар у яго цвёрды, абдзьмуты вятрамі, халодны. І нічога, здаецца, не можа адлюстравацца на ім, тое, што жыве і кіпіць недзе далёка ў глыбіні.

Зноў гаворыць Сабастыян:

— Сырыя дошкі. Калі ты іх, Алесь, пілаваў?

— Гэта не мае. Лявон прывёз яшчэ ўдзень учора.

— Сырыя. Як ты не даганяй, усё роўна некалі ўлетку Тамаша хата рассохнецца.

— На яго век хопіць.

Алесь гулка стукае малатком, заганяючы новыя цвікі ў сырыя дошкі.

## XIV

Пад самы ж дзень з усходу пачаў ісці вецер, і пасля таго, як шмат сваёй, неабмежаванай людзьмі дарогі, прайшоў ён, з'явілася над светам сонца. Жорсткім зрабіўся снег і калючым. Дзень стаў шырокім, і халодным бляскам твару свайго рассяваў ён і дробніў чалавечыя думкі. Пустым быў халодны бляск яго і дробным звон мёрзлых далей — халодная бель.

У той дзень зямля прымала ў сябе Тамаша.

Яна была раскапана і разварочана рыдлёўкамі і ломам у адной нязначнай мясціне сваёй. Буйны жвір і гліна чырванелі сярод абязвечаных зімою бяроз у чыстым полі. На тры аршыны ўглыб адчыніла зямля недры свае і маўчала цяжкасцю кожнай жмені пяску, перад холадам усіх недарэчнасцей свету. Тры аршыны пяску ўпарта чакалі.

І нічога не трэба было больш чалавеку. Захаладзіўшыся ў дрэннай адзежы ў лесе, не баяўся цяпер холаду Тамаш — у летняй картовай жакетцы, у адных тонкіх панчохах, якіх ніколі не бачылі ногі яго, ляжаў ён цяпер у гэтым калючым паветры, сярод голых дрэваў, сярод сотняў людзей, пад халодным сонцам, у замарожаным свеце. Паркалёвая падушка была ў яго пад галавою, а ў падушцы мята і чабор — адзіны дар, які адно і магла прынесці старая сястра яго ў гадзіну найвялікшага трагізму брата свайго.

Яна глядзела на халодны твар, гэтакі белы ў рамцы сіваватай барады. Твар быў на ўзроўні з насыпаным каля ямы жвірам. Апошні раз на вяку сваім пахлі хваёвыя дошкі труны.

А яна — старая, зморшчаная ад холаду, стаяла над гэтым тварам, не глядзела на людзей, не слухала іх і ўсё галасіла:

«Ды бывала ж, ты малы босы і голы мёрз.

«Ды бывала ж, ты і галодным быў.

«А ці памятаеш ты, братка, як ты ў маладосці хворым ляжаў, а не было табе на макавае зерня чым направіцца.

«А калі ты, Тамашка, хадзіў па суседзях шэсць злотых пазычыць на падатак.

«А як не дастаў гэтых шасці злотых і пудзеў, на парозе седзячы.

«А як сў ты крупнік незабелены.

«А як, каня не меўшы, нёс ты на плячах жыта ў млын ды паваліўся на дарозе.
«Дый малады ж ты быў, дый прыгожы.
«А дзе ж твая прыгожасць дзелася.
«А куды ж твая сіла ўцякла.
«Ды, бывала, прыйду я да цябе, ды парадзімся мы з табою, ды панудзімся і пагаруем ўдваіх.
«А з кім жа я цяпер слова роднае скажу.
«Ды чаго ж ты, родны мой, уцякаеш ад нас.
«Ды чаму ж ты не пажыў яшчэ з намі.
«Можа б ты і дабра якога прыждаў бы.
«А нашто ж ты, даражэнькі, гараваў гэтак многа.
«А чаму ж ты маўчыш, Тамашка.
«А ці памятаеш ты, як падверадзіўся быў за работаю.
«А як прасветлае гадзіны за работаю не бачыў.
«А як не спаў ты ўлетку.
«А як аслабеў ты раз быў, робячы не еўшы.
«А як сваю нябожчыцу хаваў.
«Ды чаго ж ты выбраўся ад нас у гэтакія халады.
«Ды якая ж зямелька табе цяпер халодная.
«А чым жа мы табе не дагадзілі, Тамашка.
«А каб ведала я, дык не адыходзіла б ніколі ад цябе.
«Ой, нашто ж гэта на свеце ўсё робіцца гэтак.
«Ой, ды хоць апошні раз я нагледжуся на цябе».
Яна ўпала каленьмі на снег, перамешаны з жвірам, і прыпала губамі да яго твару.
— Паднімайце трупу,— сказаў Мікалай.
Яе адвялі пад рукі і паднялі на руках трупу невысока над зямлёй, падсунулі бліжэй да ямы.
Празрыстаю бураю зыкаў закружылася паветра, мядзяныя зыкі музыкі доўга жылі ў халодным бяздонні зямлі і неба. І яшчэ ледзьве сціхлі яны, як первовы жаночы голас парушыў замарожаную цішыню:
— ...І от, у гэтую апошнюю хвіліну мы кажам яму наша дзякуй за тое, што ён быў маладым сярод нас усіх...
Волька! Яна стаяла на пакіданай мёрзлай гліне і гаварыла. І апошнія словы яе зноў заглушылі мядзяныя зыкі. Яны ўвасаблялі ў сябе ўсю магутнасць свету і ўсю яго слабасць. І вялікасць усіх вялікасцей была ў гэтых зыках.
Тады пачаў гаварыць Алесь.
Раптам жаночы голас востра рвануўся ў халодным бляску:
— Не накрывайце яшчэ, дайце мне наглядзецца на яго,

Старую падтрымалі пад рукі і накрылі векам труну. Твар Тамаша назаўсёды быў закрыты ад людзей.

Глуха і цяжка стукала мёрзлая зямля па труне ў глыбіні ямы. Хлопцы адышліся на край могілак і ігралі. Волька затульвала свой кароткі кажушок, адыходзячыся да музыкантаў. Алесь раптам адчуў, як нейкая пустэча на некалькі хвілін напоўніла яго, як бы што адарвалася ў ім. Глянуў на белабародага Паўла,— той, прыгнуўшы плечы, стукаючы па мёрзлай дарозе цяжкаю палкаю, паволі ішоў з могілак. Глянуў на музыкантаў — твар Клемуся прыкмеціўся яму выразна.

Як сканалі апошнія зыкі музыкі, Алесь вострым зіркам акінуў насып гліны і снегу. От і ўсё!

## XV

Яны стаялі вечарам каля Алесевай хаты і адчувалі на тварах мяккія ўздыхі адлежнага ветру. Мікалай трымаў у руках цэп, выдзьмухваў пыл з вусоў, атрэпваў з жакеткі асцюкі. Алесь курыў, глядзеў. Клемусь варушыў каленьмі, моцна стоячы на нагах. Алесь гаварыў:

— Да вясны, значыцца?

Мікалай паволі адказваў і заўважаў:

— Да вясны. Надакучыла.

— А дзе не надакучыць?

— Дзе надакучыць, адтуль пайду. Гэтак лепш. Абы адно над вясну падбярэцца, адразу пайду. За Бабруйск падамся — я там некалі на рабоце быў. А там улетку, як пачнецца касьба, далей падамся.

— А на зіму?

— Тады тое будзе. Гадоў праз два ці праз тры зноў сюды з'яўлюся, можа. Цікава тады будзе паглядзець, што за змены тады ў вас будуць. Бо гэтак от, як сядзіш на адным месцы і на тваіх вачах усё робіцца, дык не прыкмячаеш нічога... От Тамаша пахавалі... А колькі тут за гадоў тры зменіцца! Якім ты тады будзеш?

— Тады і ты пастарэеш.

— Ну, пэўна.

— А яшчэ праз тры гады якія, дык ужо і цяжка табе будзе гэтак брадзяжыць.

— Тады тое і будзе.

— Заставайся тут.

— Чаму?

— Дамо зямлі, асталёўвайся. Куды ты навалачэшся?! Жыві от. Звыкліся неяк, усё роўна, як ты і радзіўся тут ужо.

— Прыйду яшчэ, яшчэ асталююся, будзе час.

— Пасля немаведама, як будзе.

— Ат, калі жывы чалавек, дык і ўсё будзе. Яшчэ і ажанюся, і на зямлі насяджуся.

— Ажэнішся тады, як агрыбееш.

— Не агрыбею яшчэ. А калі пастарэю трохі, дык тады якраз добра і жаніцца. Калі адно і застанецца, што сядзець на адным месцы з жонкаю. Цяпер, у самай сіле, добра і пагуляць па свеце. Упусціш — пасля не вернеш. Ніколі. Што, не праўда?

— Гэта як хто думае.

— Гэта то праўда, што як хто думае. Вядома што. Адзін любіць тое, а другі гэтае. Я куды-небудзь у горад або на работу якую вялікую прымацавацца папрабую, каб і рабіць весялей было, як у гэтым заплеценым павуціннем Аляксандравым гумне. Надакучыла. Размаху якога-небудзь хочацца, а то, што гэта! Нічога няма цікавага. Цупай гэтым цэпам і знаку ніякага няма. Тут, каб аж гуло ўсё! Гэта дык была б работа. А то што! Як той казаў, саматужніцтва.

— Што гэта на цябе сягоння найшло гэтакае?

— Я заўсёды гэтакі, ці адно сягоння.

— Пачакай, зробім, што і тут будзе ўсё гусці і ўсё гэтае, як ты кажаш, павольнае цупанне прападзе.

— Братка, калі ж душа не дазваляе мне сядзець доўга на адным месцы. Такім ужо стаў я. Цягне мяне.

Закурыў.

— Пайду ад пылу ачышчуся. Прайдуся па вуліцы. Можа, куды на вячоркі ўкачуся. Пайду.

Пайшоў, варушачы кантовымі плячыма жакеткі сваёй. Клемусь заўважыў яму ўслед:

— Вясёлы хлопец.

— А чаму, ён слаўны.

— Добры хлопец. Хадзем куды.

— Куды?

— Да Волькі давай зойдзем.

— Давай.

На змрочнай вуліцы было пуста; у адлежную імглу падала цьмянае святло з вокан.

Волька была дома. Сядзела на нізенькім, пазвязваным

дротам крэсле перад лямпаю і чытала. Узрадавалася Алесю і Клемусю. Устала ім насустрач, паціснула рукі.

— Што ты чытаеш?

— От тут артыкул, праблемы мястэчак. Эканамічны нарыс. Зацікавілася самым загалоўкам. Ты, Алесь, шмат чытаеш?

— Мала.

— Дрэнна.

— Сам ведаю. Часу няма. Усялякае работы — і гаспадарка, і ўсё. Адзін я.

— Трэба што-небудзь прыдумаць. Нельга гэтак.

— Ну, што я зраблю.

— Пачала чытаць гэты артыкул... Ведаеш, цёмна на вуліцах, ціха, а навокал пад снегам балота, на балоце брадзячыя сабакі выюць. А тут царква маўчыць, могілкі недалёка. А на гэтым пляцы саматужныя загатовачныя і шавецкія майстэрні, на суседняй вуліцы два ці тры краўцы. Далей хаты, гумны са снапамі, прысады, поле...

— Што ты хочаш сказаць?

— Глуш гэтакая. Людзі жывуць...

— Ну?

— Апярэдзілі самі сябе. Поле арэ худым канём, у лапцях ходзіць, а сам, душою сваёю, ці як тут сказаць, культурны.

— Ты думаеш?

— Думаю. Адно варта як найхутчэй гаспадарку навысіць.

— А от плюе ў хаце, каля стала седзячы, сабе пад ногі. От табе і культура.

— Пакіне зараз пляваць. Адно каб як лапці хутчэй скінуў... От нябожчык Тамаш...

— Тамаш быў дзіўны чалавек, што раўняць.

— Пачала чытаць от...

Задумалася, памаўчала. Зажурылася бляскам вачэй:

— Налета вучыцца, хоць што вы сабе хочаце.

— Добра. Камандзіруем.

— Нейкай большай работы хочацца. А чую, што пораху мала. Нічога гэтак не будзе. Няможна гэтак.

Прайшла па хаце. Усміхнулася Клемусю ў твар:

— А ты як?

— Чорт яго... гаспадарыць буду.

Засмяяўся:

— Я да навукі тупы, я абух.

— Жартуеш.
— Буду павялічваць капэлю. Каб з музыкай жыць... Хіба каб па якія музычныя курсы...
— Маладзец, што зайшоў, Клемуська.
— Калі твая сястра прыедзе?
Волька жартаўліва сказала:
— А я думала, што ты па мне ўздыхаеш гэта?
— А можа, і па табе.
— Дык відаць жа!.. Неўзабаве прыедзе. Ты што, закахаўся? Ну, прызнавайся, чаго там.
— Ну, а калі закахаўся, дык што там?
— Ну, то чаго ты баішся прызнацца. Эх ты, хлапчанё!
— Закахаўся.
І засмяяўся. Падышоў да стала, узяў кніжку. Пагортаў і палажыў назад.
— Расцеш ты, на лес гледзячы.
— Абы здаровы расту.
Зноў засмяяўся.
— Ну, а ты, Алесь?
— Мяне смерць Тамаша страсянула ўсяго. Ніколі не думаў, што гэтак выб'е мяне з каляіны. Як сам не свой.
— А так?
— Ведаеш жа... Нічога... добра... Усё нераўнярну. Мікалай крываносы па вясну пойдзе куды-небудзь вялікае работы шукаць. А гадоў праз тры ці пяць зноў, казаў, з'явіцца тут. Дык каб не пазнаў ён тады ні вуліц гэтых, ні людзей. Маладое пакаленне падрастае, лягчэй ваяваць усё робіцца. Эх, ты...
Жартаўліва ўзяў Вольку пад руку.
— Дык каб адправілі мяне палета вучыцца. Чуеце?
— Ну, добра.
— Глядзіце ж... А ты, Клемусік, не сумуй па маёй сястры, зараз прыедзе сюды... Хлапчанё ты.
Алесь сказаў:
— Ён яшчэ от возьме, ды, жартаў не пазнаўшы, пасватаецца да яе.
— Можа, і пасватаюся.
— А што ты думаеш, можа, табе і варта ажаніцца. Пасталееш. Хто цябе ведае.
Волька засмяялася:
— Бач ты, якія парады пачаў даваць. Сват. Давайце па вуліцы павалочымся, ціхі і цёплы вечар.
— Хіба куды на вячоркі закоцімся?

— Давайце. Бяры мяне, Клемусік, пад руку.

— А мне ў адстаўку падавацца, ці што?

— А ты з другога боку.

Пайшлі на аснежаную вуліцу. Калыхаўся сіні змрок над чорнымі хатамі і дрэвамі.

## XVI

Трэба было яшчэ адгуляць вяселле. Маня і сама гаварыла пра гэта, бо не хацела адмоваю крыўдзіць бацькоў і брата. Алесь гаварыў, каб зрабіць гэты вясельны абед пасля, праз нейкі час, калі ўжо гэтак трэба, але ўсё ж згадзіўся,— Маня прасіла яго не псаваць добрага настрою яе родным. Алесь адчуваў вялікую змену ў сваім жыцці. Перажывалася мяжа між дзвюма часткамі жыцця. Пачыналася новае, невядомае раней. Цяпер больш, як раней, усялякіх думак з'яўлялася ў Алеся. «Гэтак, мусіць, і дзед мой, і бацька перажываў. Думаў іначай, а перажываў, мусіць, нешта падобнае. Усё падобна. А што я зрабіў, каб змяніць жыццё, каб іначай жыць, каб не быць ва ўладзе горкага бацькаўскага лёсу? Бо дрэнна жыў бацька». Ён быў задумёны і гэтак, як ніколі раней, сталы, у гэтыя першыя дні. Шмат гаварыў аб усім з Маняю. Адчуў з горасцю, як шмат чаго ў ім не зразумее яна, і ўпартая думка апанавала ім — неяк іначай жыць, каб мела яна час вучыцца і зраўняцца з ім. І ў гэтыя, хоць кароткія, але горкія, хвіліны, вобраз Ганны мучыў яго, не даваў яму спакою. Пасля з пашанаю думаў пра Вольку. А пасля прайшло ўсё гэта, прытупілася. Знікла. Прыйшла радасць блізкасці Мані. Сілу і добрае сэрца адчуў у яе. Хадзіў з ёю на адчыненыя сходы ячэйкі, хацеў, каб здружылася яна з Волькаю. І новыя жаданні дзейнасці і працы апаноўвалі ім.

Маці гаварыла:

— Цяпер, сынок, на вясну трэба думаць пра новую хату. Вельмі ж старая гэтая, яшчэ дзедаўская.

Ён адказваў:

— Добра, мама.

А сам усё думаў пра гэтыя мацерыны словы. Маня запытала раз:

— Чаму ты неяк невыразна гаворыш маме пра хату?

Адказаў:

— Невядома, як будзе.
— Чаму?
— Можа, на вясну будзем перамерваць усё, і зямлю, і пляцы.
— У вас жа мералі ў гэтым годзе?
— Адзін кавалак... Усё папава...
— Як ведаеш.
І глядзела з вераю, сілаю і каханнем у вочы яму.
Гэта было апошнім адвячоркам. Цямнелі праз вокны дрэвы. Неба адчувалася высокім, прасторным. Пачынаў існі з поля вецер. Алесь прыгалубіў Маню, гладзіў па валасах. Хацелася гаварыць ёй пра тое, як разам будуць зжываць гразь і крыўды жыцця. Як гэтая бацькаўская хата пакіне па сабе чорную памяць. Пачаў гаварыць ёй. Доўга гаварыў.
— Ты нейкі як бы сумны, Алеська?
— Не... так.
— Настрой у цябе гэтакі... Зажурыўся?
— Пройдзе.
— Не заўсёды ж быць вясёламу вельмі. Я гэта ведаю.
Усміхнулася ціха, слаўна, як бы вінавата неяк.
— Будзем жыць, Алеська, добра ўсё будзе.
— Добра.
— Будзь весялейшым.
— Буду.
І павесялеў. Павесялелі абое. Смяяліся.
— Чаго ты сумаваў кагадзе?
— Успомніў быў бацьку, думаў пра хату гэтую, без падлогі, пра Тамаша думаў. Бывае гэта з чалавекам. Ведаеш? Цяпер пераламалася юнацтва, поўным стала яно, на поўдні сваім стала... Слаўна мы пажывём з табою.
— Слаўна.
— Ты верыш у гэта?
— Бачу.
— Добра... Ведаеш, я от думаю, што не будзе ў нас тых дробных непрыемнасцей, якія не давалі жыць нашым бацькам.
— Я рада, з табою.
Яшчэ гаварылі шмат, доўга. Пайшлі да Волькі. Ішлі змрочнаю і ціхаю вуліцаю. З поля дыхала ветрам, мяккім, шырокім. Абвяваў вецер твар, весяліў сэрца. Сінеў змрок вечара.
— Каб хутчэй вясна.

— Шмат яшчэ вёспаў будзе.

Глянула з падзякаю яму ў твар. Выклікала ў яго радасную ўсмешку. Пайшлі шпарчэй.

— Што там у нас цяпер дома робяць?

— Не адвыкла яшчэ.

— Ні то што... Думаецца.

— Бацька твой вясёлы.

— Так гэта ён, гаваркі гэтакі. Калі бяда якая, дык пасьпявае, пасмяецца, хоць па сэрцы каты скрабуць.

— Мой бацька не гэтакі быў. Калі што якое нядобрае, дык, бывала, нудзіць і маўчыць.

Ішлі поплеч, цесна адно пры адным.

— Як у ногу мы ісці злаўчыліся.

— Трэба ж. Гэтак будзем ісці вялікую сваю дарогу. Слаўную дарогу.

## XVII

Гаворкі цяпер сталі выразнымі і нават як бы трывожнымі, усе здагадкі былі адкінены. Усё было вядомым і даўно вырашаным. Бо ўсе бачылі, як па поўдні Ганна прыехала да бацькі. Фурман, які прывёз яе, заехаў у двор і папасваў там каня больш гадзіны, а пасля выехаў. Нават нейкімі, як бы сакрэтнымі, сталі гаворкі. Вестка абляцела ўсіх. І от тады Вашыновічыха пайшла да Барановічавых пазычыць сіта муку прасеяць.

— Дзяндобры.

— Добра здароўе.

— Як маецеся?

— Дзякуй. Як вы?

— Жывом паволі. Што ад Ганны чуваць? Ці здарова хаця? Можа, пісала што?

Барановічыха злосна паглядзела на Вашыновічыху і адказала:

— Нічога, Ганна здарова. Сёння прыехала ў госці.

— Ці бач?

— Але.

— Ці надоўга ж?

— Можа, да канца зімы. Бо Андрэй паехаў у вялікі горад давучвацца. Дык пакуль там асталюецца. Тое ды сёе...

— А-а, бачыш ты, давучвацца паехаў. Ну, няхай бог памагае. Як жа хаця выглядае Ганна, як маецца?

Ганна выйшла ў кухню. Твар яе трошкі зблажэў ад таго, як быў рапей, трохі па ім ляжалі сляды здарожанасці. Усмешка яе была ціхаю, задумёнаю. Адзнакі нейкай новай невыразнай сталасці былі ў постаці яе.

— Дзяндобры, цётачка.

— Дзяндобры, дачушка. Як жа гадуешся?

— Добра.

— Трошкі паблажэла.

Маці растлумачыла:

— Гэта з дарогі.

Вашыновічыха даскапала абгледзела Ганну, папытала, колькі каштавала гэтая сукенка, што на ёй, выказала думку, што, мусіць, улетку яна зліняе, і, забыўшыся пра сіта, пайшла дадому, дзе чакала яе Сабастыяніха.

— Выразна не відаць яшчэ, але, мусіць такі, загрубела Ганна. Мусіць такі, ужо.

— А на колькі прыехала?

— Кажуць, што да вясны.

— Ну, а там вясною будуць гаварыць, што да зімы засталася ў бацькі. Як табе, суседка, здаецца?

— Будзем бачыць.

І тут пачалася доўгая гаворка, поўная здагадак, усмешак. А пасля Вашыновічыха ўспомніла бледны, здарожаны твар Ганны, яе сталасць і спакойны зірк ласкавых вачэй і змоўкла. Успомніла абед на яе вяселлі, сваяўство і сказала Сабастыяпісе:

— От мы гаворым, а хто яго ведае, што там у іх робіцца. У чужую душу не залезеш.

— Але яно відаць.

— Нічога не відаць яшчэ.

— Дзе ж гэта ёсць так, каб адпраўляў да бацькі жонку, пажыўшы з ёю гэтак мала.

— А ты падумай, хіба за гэтакі кароткі час могуць яны разлучвацца. Каб, скажам, хоць праз год які.

— Цяперашнім светам можа ўсё быць.

— Не ва ўсіх.

— Ды дай божа, каб усё было добра, як бы я гэта благога ім жадаю! Дзівачка ты, суседка.

— От паглядзіш, што пад вясну яна паедзе.

— Ды дай божа, я ж тут богу душою нявінна.

І пайшла, злосна гледзячы на Вашыновічыху. А дома суседкам гаварыла:

— Мусіць, саўсім Ганна прыехала. Бо Вашыновічыха

вельмі ж стараецца давесці, што пад вясну паедзе. Вядома, нейкая цётка яна ёй даводзіцца. На яе месцы і я гэтак гаварыла б. Так што тутака ўсё ясна і вядома. Няма чаго больш гаварыць.

Аднак прагаварылі да самага цямна. А вечарам, управіўшыся дома, сышліся зноў гаварыць.

А Ганна тады, як пайшла з хаты Вашыновічыха, адышлася да акна і глядзела ёй услед. Радасная трывога апаноўвала яе. Як ехала яна сюды, маўчаў паабапал дарогі хваёвы лес. Адлежная сінь стаяла над ім. Пахнуў мокры мох, ледзяніўся ядловец кроплямі вады. І гэтакая цішыня і спакой, безутрапёнасць панавалі паабапал дарогі.

Хата як бы змяніла твар свой. Усё было такім самым і не такім. Над печкаю вісела пазвязаная ёю ж самою некалі ўвосені цыбуля, сухое каліўё вяргіні тырчэла перад вокнамі на вуліцы ў агародчыку над абледзянелым снегам. Віхрастая страха суседняй хаты на другім баку вуліцы нагадвала выгляд ветранага дня.

Яна заўважыла, што бацька з нейкім непаразуменнем маўкліва паглядзеў у вочы ёй.

— Госця прыехала. Раздзявайся ж, можа, змерзла едучы.

— Не. Сёння цёпла.

А маці адразу заклапацілася і заплакала:

— Паблажэла трохі... Чым жа цябе і частаваць, госцейка мая. Ты ж тут кагадзе сама гаспадыняю была...

І пачала ставіць усяго на стол.

— Абы хаця ела ты.

Пасля ўсё гаварыла, усё асцярожна распытвала.

— ...А тут усялякія гаворкі пайшлі, плёткі ходзяць. Каб толькі чула ты, што гавораць...

Бацька, грэючы рукі каля печы, перабіў:

— Ат пакінь ты. Мала што мелюць языкамі. Няхай сабе, горлаў не пазатыкаеш.

— Дык няхай сабе, але ж вельмі крыўдна.

— Чорт іх бяры.

— А што гавораць, мама?

— Ды от гавораць...

І доўга гаварыла маці. Выцірала рогам хусткі слёзы, непакоілася, што Ганна мала есць.

— Ты ж зусім схуднееш, дачушка, калі будзеш гэтак есці.

Бацька, не адыходзячы ад печы, сказаў:

— Ну, няхай сабе. Яна здарожылася. Няхай адпачне, тады будзе есці.

— То хіба ты ляж, пасні трохі.

— Уночы пасплю... Хоць пагавару з вамі.

Пасля думала ўсё пра гэтыя гаворкі; непрыемна было, нядобра. І непрыхільнасць нейкая была да Вашыновічыхі, калі прыйшла тая і пачала распытваць.

Пад вечар пайшла з мацераю ў гумно набіраць мякіну, дастала мацеры з пограба буракоў. Пасля засталася адна на прыгуменні. Ішоў сіні змрок з поля; на агародах сінеў снег. Каля гумна на ўзмежку растаў за адлігу снег, вузкая істужка зямлі чарнела каля самай сцяны. Каліва травы жаўцела з-пад снегу, нізенькае, сашчыпанае птушкамі. Ганна стаяла адна, глядзела ў сінь белых прастораў. Вечарам у хаце пачала гаспадарыць, давяла матку да слёз:

— От і добра, што ты пайшла замуж, а ўсё ж — хто яго ведае...

— Што вы, мама, на чорта вы верыце гэтым плёткам. Мяне аж злосць бярэ. Ну, нашто гэта вам?

— Не пра гэта я. Была от дома за гаспадыню, а гэта адно госцяю стала. І добра яно і горна неяк мне старой. А гэта што гавораць, дык добра бацька кажа, горлаў не назатыкаеш. Абы адно няпраўда была ўсё гэта.

Тады Ганна раззлавалася:

— Не гаварыце, мама, больш гэтага. Ліха ведае, якою дурною выдумкаю мучыць і сябе і мяне.

Маці пачала ставіць на стол вячэру. Адчуванне прытульнасці грэла Ганніна сэрца. Брат жартаваў, смяяўся: гаварыў з бацькам аб сечцы з жытняй саломы, у якую занадта шмат пушчана было канюшыны. Ганне ён сказаў:

— От я цябе заўтра сечку рэзаць пастаўлю.

А яна адказала таксама жартам:

— А чаму. Пайду і буду рэзаць.

Маці не зразумела жартаў:

— Куды ты пойдзеш. Нарэжуць і без цябе.

Бацька засмяяўся. Устаў, апрануўся, пайшоў з ліхтарняю глядзець коней. Кашляў, ходзячы па двары.

— Хіба ты, Ганна, спаць лажыся.

— Пасяджу.

— Адпачывай.

— Я не ўтамілася.

— Здарожылася. Сама ж казала.

— Ай, нічога.

Хацелася ёй узяцца за якую-небудзь работу.

— Дзе гэта скрыпка гэтая з-пад лавы дзелася, што вяргіню на зіму ў яе выкопваем?

— Вынеслі недзе на двор.

— А вяргіня?

— Забыліся выкапаць. Не ў галаве было. То сёе, то тое — забыліся. От, бывала, як ты глядзела...

— Чаму ж вы... Яна ж змерзла.

— Ну, што ты зробіш.

Пайшла з кухні ў цёмную хату. Падышла да акна. У агародчыку, на змрочным снезе, чарнела каліўё мерзлай вяргіні.

## XVIII

Назаўтра Юліку Барановічу было дрэнна з нагою.

— Вільгаць гэтая, адліга, дык яно і горш. Мусіць, надоўга гэтакае надвор'е, каб на яго агні. Хоць холадна, але як суха, дык яно лепш. Каб яна спярунела, гэткая жытка, каб яна, бог даў. Ой, божа ж мой, можа, жыццё закончу.

— Хіба, тата, гэтак баліць?

— Ой баліць! Сядзь, хоць пасядзі каля мяне, дачушка, ніколі ж гэтак не балела яшчэ. Хоць ты канай вазьмі.

Усю раніцу ён стагнаў, укруціў нагу сукопкамі, укрыў кажухом і стараўся не варушыць ёю. Пад поўдзень сцішыўся і задрамаў. А пад вечар зноў пачаў стагнаць.

— Я вам, тата, натру нагу спіртам.

— Няхай, дачушка, не трэба. Ой, не трэба! Няхай ужо так пачуе, не канешне яе варушыць пanaч. Можа, за ноч сцішыцца. Але калі не, дык заўтра зранку. Можа, гэта я і захаладзіў яе, па гэтай вільгаці цягаючыся. Няўжо гэта мне суджана ўжо на печы век свой векаваць. Хіба ідзі, дачушка, пазаві дзядзьку Вашыновіча, няхай хоць пагаворыць са мною пра гаспадарку, мне весялей будзе.

Кум прыйшоў пасля вячэры.

— Тымчасове, што гэта ты закідаўся?

— Захаладзіўся. А ў мяне — сам жа ведаеш. Нага гэтая, каб яна спярунела, кара нейкая дый годзе.

— Баліць?

— І баліць, і неяк аж тузае.

— Дрымціць?

— Але.

— Гэта мурашкамі трэба націраць.
— Як гэта?
— Узяць мурашак у макацёр, расцерці іх качалкаю, каб аж сок, тымчасове, з іх пайшоў, а пасля ўкінуць у бутэльку і наліць спірытусам. Дык яно, калі пастаіцца, дык гэтаю настойкаю ўзяць дый націраць. Я ж ведаю.
— Можа, і добра?
— Я табе кажу.
— Чаму ж, кумок, мне раней не параіў?
— Я сам нагадзе пачуў пра гэтую практыку. Гэта мне Несцер крывасёлкаўскі казаў у нядзелю на месцы. Тымчасове, кажа, самае лепшае лякарства. Боль выганяе зусім. Хлусіць не павінен, што яму, тымчасове, за інтэрас.
— А як жа гэта лавіць гэтыя мурашкі?
— Ён мне і гэта, тымчасове, расказаў. Узяць, кажа, трэба ўлетку бутэльку ды капнуць у дно малака салодкага, каб яно пахла ім. А бутэльку, тымчасове, уставіць у мурашнік, усю, тымчасове, усадзіць. Малако пахне, дык яны паўзуць у той бок. Падпаўзе гэтая мурашка да бутэльчынага, тымчасове, горла, панюхае, і пойдзе шчыгіляць сабе, пане мой, у бутэльку. А там пляснецца на дно, дык, тымчасове, там ёй і фарфар.
— А-а-а, не ведаў я раней.
— А от жа ж.
— А можа, і памагло б.
— Тымчасове, дастаць дзе трэба. Апытаць дзе трэба, у людзей павінна быць. Чаму не, уг-га. Сярод людзей павінна быць.
— А-а-а, у каго ж гэта тутака запытаць?
— Тымчасове, Ганна як прыйшла да мяне ў хату, дык я ж не бачыў яшчэ яе. Паблажэла трохі. Але вядома ж, тымчасове, гэта.
— Ну але.
— Як жа хаця ёй там паводзіцца? Я не ўспеў, тымчасове, нават і распытаць як мае быць. Мікалай крываносы якраз сядзеў у мяне, разлічвацца прыйшоў, я яму яшчэ паўрубля быў вінават за касьбу. Прыйшоў разлічыцца. Усе даўгі, кажа, тымчасове, сысквае з людзей. З усімі разлічваецца, хто яму вінават, каму ён, тымчасове, вінават. От пераломіцца, кажа, тымчасове, зіма на сонца, дык нададца думае ад нас некуды. От бо чалавек, каб яго прывязаў, дык, тымчасове, на адным месцы не ўседзіць. А-яй, што гэта за чалавек! Як непрыкаяны які,

тымчасове, як асуджаны які валачыцца па свеце. От бо натура ў чалавека.
— Ну але, ён гэтакі.
— Тут жа, тымчасове, яму і зямлі хацелі даць, каб ён адно захацеў, ён, сказаць, чалавек не кепскі, крыўды тут ніякае нікому не зрабіў. От што. Жыў бы сабе.
— Ну, што ты яму зробіш.
— Яму нават, тымчасове, Алесь і гэтае... гаварыў, тымчасове, значыцца, выразна, каб браў сабе кавалак зямлі, дый гэтае. Дык ён, ліха яму, рукі атрэпае, як ад чаго ліхога.
— Натура гэтакая.
— Тымчасове, ён і не гультай. Не скажу. Нашто, тымчасове, гаварыць. Ён робіць. Працавіты хлопец.
— Робіць, уг-га.
— Я дык думаю гэтак. Тымчасове, як той казаў, на мой дурны розум, дык чалавек, які гэтак лішне мудруе, сам не ведае, чаго ён, тымчасове, хоча, сам не ведае.
— Хто гэта, Мікалай?
— Але.
— Ён, сказаць, і не мудруе.
— Як гэта не? А што ж гэта?
— Натура гэтакая ў чалавека.
— Тымчасове, натура натураю, а калі трэба, дык трэба. Тут жа яму ніхто кепскага не хоча.
— От ён, брадзяга, гэтакі ўдаўся.
— А як жа. Алесь яму выразна казаў, тымчасове, так і так. Не хочаш? Не, кажа, не хачу. Што ж ты яму — кол на галаве будзеш часаць? Ты ж яму, тымчасове, кала на галаве не зачэшаш.
— Ну, але.
— Алесь, дык той іначай. Ажаніўся, гаспадарыць сабе. Бацька, тымчасове, быў рамеснікам, а ён за зямлю ўзяўся.
— Мае розум.
— Сказаць, ён хлопец, тымчасове, не дурны.
— Не.
— Ніхто на яго гэтага не скажа. Ён што гэта, тымчасове, светам круціць, дык патом для гэтага галава ў яго, ліха яму, варыць.
— Варыць.
— А гэта што тутака, тымчасове, кажуць сёе ды тое, дык яно што галава — то розум.

— Ну, але.
— Кашляць нешта пачаў. Захаладзіўся... Дык от пра Ганну. Надоўга ж яна хаця прыехала?
— От месяцаў два ці тры, можа, пабудзе. Учора прыехала, а сягоння раніцою ад яго ліст прыйшоў.
— Прыйшоў?
— Але.
— От бо цяперашнія маладыя, пішуць сабе, тымчасове, адно аднаму. Малайцы, яй-права.
— І зараз жа яна яму адпісала.
— Ну, а што ж. Дзякуй богу.
— Села і адразу пачала адпісваць.
— Тымчасове, у іх, маладых цяперашніх, інячай.
— А гэта як да каго. Іншы і малады, ды нічога не гэтае. Як да чалавека. Андрэй не гэтакі, ён сталы, разумны. Ганна кажа, што вельмі ж ён яе глядзіць. Расказвала.
— Ну, дык ён жа вучаны.
— Больш паедзе вучыцца, ці ўжо, можа, і паехаў.
— Яму, тымчасове, відней. Яму што тут можна сказаць. Наша, тымчасове, дзела гэтакае, спакойпае, гаспадарскае.
— Намогся больш вучыцца.
— А за каго, тымчасове, ён ужо выўчыцца?
— За інжынера, Ганна расказвала.
— Ого, за інжынера... Ну, каб усё добра было. Тымчасове, калі Ганна і пабудзе дома, дык ні бог тут ведае што, калі гэтак. А то пачалі гаварыць, а тое, а гэтае. Адно паслухаць.
— Людзям жа абы языкамі мянціць.
— Тымчасове, ну але, я ўжо казаў.
— Ну, што ты зробіш?!
— Ат!
— Пагавораць ды сціхнуць.
— Языкоў, тымчасове, не папрывязваеш.
— Дзе бачыў.
— А я думаю, хто яго ведае, кажуць, прыехала, а, тымчасове, гаворкі гэтыя пайшлі. Ажно ж за інжынера...
— За інжынера.
— А-га-га... ну...
— Адно каб як нага прайшла.
— Спірытусу гэтага з мурашкамі, каб, кумок, тымчасове, дастаць адно.
— Апытаць дзе па людзях трэба.

— Дык, значыцца, Ганна паедзе пад вясну...

Вашыновіч пайшоў дадому пад поўнач, несучы ў сабе і зайздрасць і абыякавасць да ўсёй гэтай справы.

## XIX

. . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . «я ніколі гэтак не думала, ніколі гэтак не пісала, як цяпер. Не ведаю, што са мною робіцца, і, мусіць, не заспакоюся я, пакуль не будзе ад цябе ліста. Каб ты адно ведаў, якія гаворкі пайшлі тут пра нас з табою, што гавораць. Мама плача, а тата нічога, але бачу, што і ў яго на сэрцы скрабе. Мама вельмі нудзіць. Мама кажа, што і раней пачалі гаварыць, як толькі дачуліся, што я маю прыехаць дадому. І як гэта дачуліся? Гавораць, што ты мяне кінуў, што цяпер усе маладыя, гарадскія, гэтакія. Я маму супакоіла трохі, але ўсё роўна яна нудзіць, бо яна і сама не ведае, каму верыць і што ёй думаць. Калі я прыехала, дык адразу нічога не разумела. Пачалі частаваць мяне, клапаціцца, але неяк вельмі сумным мне гэта ўсё здалося. А пасля я ўжо дачулася, мама сама расказала мне пра ўсе гэтыя гаворкі. Я буду ўсё чакаць, калі паеду да цябе. Ты як-небудзь пастарайся, хоць табе і цяжка будзе, я гэта ведаю, каб мне больш, як да канца зімы, тут не быць, бо тады не дадуць мне па вуліцы прайсці, усё будуць гаварыць. А ўрэшце, як сабе хочуць. Можа, табе вельмі цяжка будзе, дык як-небудзь перабуду. Ты адно не забывай мяне. Ведаеш, усё неяк у хаце змянілася, неяк і кухня, здаецца, іначай выглядае. Тата абгабляваў тую лаву, на якой я, бывала, малако цадзіла. А вяргіня ў агародчыку на вуліцы змерзла, не было каму тут яе выкапаць. Вельмі шкада мне вяргіні. Брат смяецца, кажа, што ён тут, на гэтай самайградцы, дзе расла вяргіня, на спробу насее нейкіх новых буракоў, будзе глядзець, як яны будуць расці, ці варта іх больш сеяць. Жартуе ўсё з мяне. А каб я была дома, дык сярод буракоў і вяргіня расла б. Было б зусім весела глядзець праз акно. Прыехала я добра. На поўдні. Яшчэ больш пацяплела, зусім было адліжна стала і зусім цёпла было ехаць. Усе кажуць, што я пабляжэла з таго часу, як мы з табою паехалі былі адгэтуль. Напішы, ці ты выехаў у той самы дзень, як і я, ці яшчэ на дзень застаўся быў? Што яшчэ

табе пісаць? Завуць усе дома мяне госцяю, вельмі клапоцяцца пра мяне, а мне неяк радасна і хочацца плакаць. Бывай здароў, не забывай мяне.

*Ганна.*

10 снежня.

Гэта я напісала ўчора вечарам, а цяпер раніцою прыйшоў ліст ад цябе. Я прачытала, родненькі мой. Адпішу табе, трохі пачакаўшы, цяпер неяк не магу пісаць. Тату сёння баліць нага, енчыць, стогне. Раней, дык нічога гэта ўсё было, а гэта я адвыкла, дык неяк страшна робіцца. Туман на двары густы пайшоў, дык яму горш робіцца. Пайду сёння рабіць што, буду, мусіць, з мамаю крупы дзерці ў жорнах. Брат досвіткам уставаў малаціць, а мне ўсё не спалася. Усё новым, іншым, як было, здаецца мне. Хацелася ўстаць разам з братам, але не хацела непакоіць маці — падумала б, што я хворая якая, што не спіцца мне. Гэтак і ляжала, пакуль мама не паднялася. На двары ўсходжваецца вецер. Бывай».

## XX

«Ганулся мая! Пішу табе з дарогі. Выехаў у той дзень, як і ты. Не меў часу напісаць табе перад самым выездам. Дрэнна пісаць у вагоне, але затое, якая шырыня думак. Цяпер я цвёрда рашыў — на інжынера вучыцца. Краіна наша гэтулькі перспектыў мае наперадзе, гэтулькі працы чакае! Я цяпер зусім упэўнены, што, будучы інжынерам, я буду адчуваць сябе на сваім месцы. Я ўпэўнены, што я знайду тут сябе. Якая шырыня бяжыць за вокнамі. І як сябе адчуваю я цяпер вольна. Калісьці, як жыў яшчэ я дома і часта быў галодны і зімою дрэнна адзеты, тады здавалася мне, што будзе самае вышэйшае дасягненне маё, калі я сам выйду з гэтае беднасці і выведу з яе сваіх бацькоў, калі я і яны пачнём жыць па-чалавечы. Нават думаў яшчэ гэтак, калі першыя гады вучыўся. Пасля прыйшло іншае і цяпер зусім сфарміравалася. Памятаеш, мы гаварылі пра гэтае з табою ў першыя дні, калі жылі разам. Цяпер усё тое, што бяжыць і кружыцца за вагоннымі вокнамі, ляжыць перада мною. Вось чаму мяне вельмі ўзрадавала ты тады, калі сказала, што ты таксама хочаш вучыцца. Вялікая будучыня перад нашай краінай. Тое, аб чым мы з табою тады гаварылі,— што надняволівала асобу чалавека — плавіцца і пераплаўляецца. Гэта ўжо

яскрава прыкметна цяпер нават і сярод сялянства, не гаворачы пра горад. Матэрыяльныя перашкоды, якія стаяць тут перад чалавекам, зжывуцца. Мы знішчым сваю беднасць. От чаму перад гэтакай перспектывай я ўвесь напоўнены нейкаю бураю работы. Я буду старацца ў горадзе, зараз жа прыехаўшы, узяцца за заканчэнне свае дыпломнае працы — гэта дасць мне магчымасць лёгка пачаць вучыцца некалі палета. Не ведаю, як давядзецца мне ў горадзе, але самае страшнае перажыта. Бывала, і босы хадзіў у халады, і галодны рабіў, і неадзеты зімою, але ўсё прайшло. Адно, што бацькам не магу ніяк памагчы, сама ведаеш. Але ўсё ідзе да лепшага. За ўчарашні дзень я ўтаміўся, але спаць не магу, нейкая нервовая ўзбуджанасць не дае. Гэта ад навіны — выбраўся ехаць, пакінуўшы службу, грошай маю мала. І так усё, усе абставіны. Усё ж добра мы прыдумалі, што ты паехала да бацькоў, спакайнейшы буду я, дый табе будзе лепш. Можа, бацькам гэта і не падабаецца, але пасля самі ўбачаць, а можа, і цяпер зразумеюць. Калі-небудзь прыеду, дзе я зямлю мераў. Цяпер хочацца шмат пісаць, каб усё напісаць. Думкі бягуць, ахапляюць усё. Гэтакі настрой. Як мяне спаткае вялікі горад?! Памятаеш, як табе ў першыя тыдні хацелася дадому, хоць на два дні паехаць хацела. Гэта і ў мяне некалі было, калі вучыцца паехаў. Сумаваў па старой бацькоўскай хаце, роднаю здавалася нават салома, расцярушаная каля ганку. Прыехаўшы, буду пісаць больш, пра ўсё, пра свае поспехі і няўдачы. Пішы мне да запатрабавання на 12-е паштовае аддзяленне. Бывай здарова.

8 снежня. *Андрэй».*

### XXI

«...Твой ліст быў вельмі нейкім сталым, ці я і сама не ведаю, як назваць яго. Я некалькі разоў яго чытала і не ведаю, як адкажу табе на яго. Я вельмі рада, што ў цябе гэтакі добры настрой і ўсё табе гэтакім добрым здаецца. Тыя кнігі, што ты мне параіў чытаць, я патроху пробую чытаць, але не многа, бо памагаю маме. Вечарамі хіба, а днём раблю з мамаю ўсялякую работу. З усім, што ты пісаў, я згодна, і мае думкі гэтакія самыя, але я, можа, ніколі не гаварыла табе пра гэта. Я ўсё шкадую вяргіні, здаецца, жывая яна была і самохаць яе са свету

зжылі. Табе, можа, не цікава пра гэта, можа, ты і пасмяешся нада мною, але я пішу табе, бо неяк усё думаецца пра ўсё гэта. Маме адной цяжка рабіць, і брату, мусіць, трэба будзе жаніцца, гэтак мама ўсё гаворыць, але брат вельмі ж малады яшчэ, яшчэ нават на прызвах не быў, і сам ён не хоча. А маме цяжка. Дык нядобра неяк усё гэта ў хаце. Тату з нагою лепш стала, сёння зрання хадзіў на двары, нешта ў гумне рабіў. Гаворкі пра нас з табою трохі заціхлі, а можа, гэта я не чую іх, бо нікуды не хаджу. Кожны вечар дзяўчаты збіраюцца на вячоркі, а мне неяк нядобра ісці, хоць часам і хацелася б пайсці. Тут ходзяць гаворкі, што налета нанава будуць перамерваць усю зямлю, будуць высяляцца некаторыя на пасёлкі, некалькі хат заснуюць камуну. І ў нас у хаце нават была гаворка. Брат кажа, што тады не трэба было б яму супроць свае волі жаніцца. Не ведаю, ці гэта ён стала гаварыць, ці гэта толькі пад настрой. Жыву я да часу неяк, гэтакі настрой у мяне. Не магу ні за што, як мае быць, узяцца. Пішы мне, як табе наводзіцца там, у вялікім горадзе. Пішы пра ўсё.

*Ганна».*

15 снежня.

## XXII

«...Першыя дні мае тут поўна былі непарадку і клапатлівасці. Нікога знаёмага тут у мяне няма, дык пакуль я знайшоў сабе дзе прыпыніцца, хоць да часу, дык вельмі давялося клопату ўжыць. Застанавіўся я ў агульным памяшканні для студэнтаў N-скага інстытута, жыў там некалькі дзён, а цяпер перабраўся на кватэру, вельмі добрую, адно што цесную. Гэта нярэдні пакойчык, малюсенькі, у нейкім белым казённым доме. Праз яго прахадзілі з параднага ходу ў дом. Цяпер парадны ход забіты наглуха, і пакойчык заставаўся без патрэбы. Кватаранты зрабілі там былі клеці для сябе. Я наняў яго за вельмі малую цану. Добра. Ён мае чатыры крокі ўшыркі і пяць удаўжкі. Цяпер узяўся ўжо за работу. Цэлымі днямі сяджу ў бібліятэцы. За зіму думаю скончыць працу, а тады не будзе ніякае перашкоды залічыцца зноў у студэнты. Цяпер я ў адным месцы стараўся накont работы. Вельмі можа быць, што дастану яе, тады можна будзе зарабляць у месяц рублёў сорак, а то, можа, і пяцьдзесят. А яшчэ ў другім месцы ўжо маю работу на рублёў дзе-

сяць-пятнаццаць у месяц. Дык тады можна будзе і табе прыехаць. Я ж ведаю, што ты не з раскошы і можаш і з недастаткамі мірыцца. Усё ж ткі добра, што я паехаў. Памятаеш, як я хістаўся, дый абое мы мелі думкі, што не трэба мне кідаць гатовае службы, больш-менш спакойнага жыцця і нават забяспечанасці матэрыяльнай. Але нешта не дае мне ўсё спакою, цягне мяне. І добра. Зусім добра, што перамог гэтыя страшныя думкі і паехаў. Праўда, што той ліст быў нейкі, як ты пісала, «сталы». Настрой быў гэтакі, узнятасць настрою, імчанне думак. Гэта часта бывае са мною. Дык напішы мне, як ты думаеш пра тое, каб прыехаць табе сюды. Пражывём. Можа, і не прыйдзецца табе і сядзець у бацькоў да вясны. Вельмі гэта добра будзе, калі ўсялякія там гаворкі пайшлі. Я ведаю, што табе прыкра ад гэтых гаворак. Калі ўсё аформіцца добра і калі ты будзеш згодна прыехаць, дык я напішу табе, калі выязджаць, у які дзень, каб мог тады спаткаць цябе на вакзале. А то ты прыедзеш і не ведацьмеш, куды падацца. Яшчэ наконт грошай на дарогу. Мусіць, давядзецца табе папрасіць іх у таты, бо ў мяне, мусіць, не хопіць. Але гэта яшчэ невядома, тады буду бачыць. Можа, тату будзе і непрыемна, бо яму ж нагаварылі былі, ды ён і сам думаў, што я вельмі многа зарабляю. Я ж сам чуў гаворкі, што ты за мяне пайшла панаваць. Нейк усё ўспамінаецца цяпер, думаецца пра ўсё гэта. Я твае лісты ўсе атрымаў. Падабаецца мне, як ты пішаш. Зусім не гэтак, як звычайна гаворыш. Паводле лістоў, нейкай іншай здаешся, вельмі сталай, разважлівай. А ты ж усяго і ёсць мая малюсенькая Ганулька, Ганулся. Пішы. Я думаю, што неўзабаве ўбачымся. Калі прыедзеш, дык зіму і лета і яшчэ тую зіму давядзецца жыць тут, а тады на практыку буду выязджаць. Але да гэтага яшчэ далёка, і многа раздумваць над гэтым не буду. Неўзабаве зноў чакай ліста, буду пісаць часта. Цяпер вечар, кагадзе прыйшоў, змёрз і грэюся. Тут халады. Бывай здарова.

20 снежня. *Андрэй».*

## XXIII

За вуліцамі, за хатамі, над лясамі і полем узыходзіў месяц. Вячорнае неба было чыстым і шырокім. Прытульна і вольна скрыпеў снег пад нагамі, але была зімовая цеплыня і спакой. Ганна паволі ішла вуліцаю. Рассеянымі

зіркамі акідала хаты. Яшчэ не сцямнела зусім, і востра вырысоўваліся ў небе вельмі выразныя абрысы далёкіх і блізкіх дрэваў. Далёкія кусты ледзьве цямнелі пяроўнаю стужкаю за полем. Усё маўчала і слухала. Ганна адна была на вуліцы. Асалода ад гэтага спакою поўніла яе. Раптам утрапенне пачуццяў ускалыхнула яе. Абое яны памкнуліся былі прыпыніцца, нават несвядома, на адзін найкаротшы момант, зрабілі былі гэта — яна і Алесь, што прайшоў насустрач. Пасля пайшлі. І цяжка было Ганне разабрацца ў наступныя хвіліны ў сваіх пачуццях і ў вострай трывозе сваёй. Адно сказала:

— Добры вечар!

І пачула яго, гэтакі знаёмы, голас:

— Добры вечар!

А як дайшла да сваёй хаты, прыпынілася на хвіліну ў варотах. Не азірнулася назад, а паглядзела на верхавіны высокіх дрэваў на чыстым вячорным небе. «Сёння ж напішу пра гэтую трывогу сваю Андрэю». Але, прыйшоўшы ў хату, пасядзела моўчкі каля акна і на доўгі час пахавала ўсё гэта ў душы сваёй.

Алесь жа выйшаў у сад, глянуў на наплавы за ім, на ружовую стужку захаду над чарнатою лясоў. Адчуваючы, як у вострым смутку сціснуліся грудзі, увайшоў у хату.

— Маня, хадзем гуляць.

— Куды?

— Хадзем от. Апраніся.

Узяў яе пад руку; пайшлі яны вуліцаю, поўнаю гучнай цішыні. Ледзьве ружавеў захад.

— Да часу мы гэтак, Маня, жывём.

— Як да часу?

— Гэтак, як цяпер.

— Пра што гэта ты гаворыш?

— Гаварылі хату ставіць новую, а я надумаю яшчэ.

— Чаму?

— Каб усю гэтую вуліцу дагары нагамі перавярнуць.

— Што ты думаеш гэта? Нічога мне не ўцяміць.

— Ведаеш, от гаварыў я з табою. Каморнікаў выпісаць налета. І напрацую ж я!.. От як!

Прайшлі ўсю вуліцу. Вярнуліся назад. Захад пацямнеў, стужкі лясоў відаць сталі выразней. Юрка і Юзік весела марозілі рукі, стараючыся з падмёрзлага снегу ляпіць снежкі.

— Нашто вы рукі марозіце, жэўжыкі?

— Снег цёплы.
— Гэта спачатку рукі мерзнуць, а пасля аж гарэць пачнуць, як разагрэюцца ў снезе.
— Ну?
— Яй-права.
— Каб я так жыў, што праўда.
— Эх вы, жэўжыкі!
— Чаму?
І яны пайшлі ўслед. Усе прыпыніліся каля хаты.
— Што вы цяпер робіце?
— Вучымся.
— А я яшчэ і тату памагаю ў гумне.
— І я памагаю. Кагадзе каня паіў.
— Ты ж вядра з студні не дастанеш.
— Уга! Не?! Лепш нават за цябе.
І ўсе засмяяліся. Маня глядзела на іх абодвух, малых, радасна неяк, прыхільна, з добрай усмешкай. Алесь жартаўліва падхапіў іх кожнага пад паху. Падняў і паставіў на зямлю.
— Лёгкія вы якія.
— Я за Юрку цяжэйшы.
— Зусім ты за мяне не цяжэйшы.
— Бо і цяжэйшы.
— А як жа вы ведаеце, абодва?
— Мы важыліся, яшчэ ўлетку.
— Дык я ж і быў цяжэйшы.
— Не, я.
— Вы абодва роўныя.
Зноў падхапіў іх. Тыя рагаталі.
— Ай, пусці, Алесь!
— Яшчэ падарвешся, мы ж цяжкія. Мала што ты гаворыш. От паглядзіш, возьмеш.
Пагладзіў іх абодвух па галовах:
— Расціце, сынкі, расціце, браткі. Вучыцеся. Выростайце моцнымі, дужымі. Расціце. Выростайце. Бяжыце дадому, не мерзніце.
У хаце запаліў агонь. Маццеры нездаровілася, спала, укрыўшыся ўся ватовымі вопраткамі. Маня пачала брацца за нейкую хатнюю работу.
— Пачакай, Маня, пасядзі.
— Чаму?
— От пасядзі. Пагаворым.
Сеў каля яе. Абхваціў рукамі яе галаву. Цалаваў вала-

сы, твар. Абое сваволына паглядалі на ложак — ці не прачнулася маці.

— Чуеш, Маня, гэта ж наўната жыцця.

— А часам ты сумны нейкі бываеш.

— Мала што. Ты на гэта не глядзі.

І яшчэ галубіў яе. Забываўся на ўсё.

— Пусці, Алеська, я буду рабіць што.

— Усё роўна ўсяго за век не пераробіш. Пачакай.

Хораша, добра глянула яму ў твар.

— Яшчэ хадзем гуляць, Маня.

— Добра.

І яны пайшлі ў вячорны спакой бачыць і слухаць, як востра жыве ў ясных далях замарожаная снегам зямля.

## XXIV

У той дзень ішоў адліжны вецер. З сініх лясоў, з аснежаных даляў. Густы і вясёлы быў вецер. Спявалі дрэвы безупынную мелодыю сваёй ветравой волі, пахлі вільготнай карою. Гойдала вецце ў неабсяжнасцях неба. Пахлі лясы — хвоі і мох. І свежы ядловец весяліў вочы. Дарогі губляліся ў празрыстасці даляў. І гэтакія глыбокія, гэтакія сінія былі істужкі неба і зямлі па даляглядах, як дзяўчыніны вочы.

У тым самым даўнейшым рудым гарнітуры з вузенькім каўнерыкам была яна. Думала, клапацілася. І маці каля яе — і сумавала, і радавалася. Губляла свае матчыны слёзы. Апошнія клопаты свае аддавала дачцы.

— Вы, мама, не плачце.

— Гэта нічога, так гэта я. Ты на мяне не глядзі.

Перад вокнамі на двары брат высцілаў у возе сядзенне

— Ну, то чаго вы, мама, плачаце?

— Добра яно. Але ўсяк думаецца. Тады, дык ехала недалёка, у свой горад, а гэта за свет, немаведама. Дык мацярынаму сэрцу і горка.

Бацька кульгаў па хаце і быў вясёлы:

— От табе і пагаварылі, і языкамі папамянцілі. Цяпер усякаму скажу. Гэта ні то што...

Дзядзька Вашыновіч тупаў на двары каля саней, стараючыся памагчы. У хаце чуваць быў яго голас. І якім родным раптам здаўся гэты голас:

— Тымчасове, заварацень слабы, гатоў лопнуць.

Брат звонка адказваў:

— Не лопне.

— Ой глядзі, каб у дарозе важдацца не давялося.

Бацька пайшоў з хаты, прынёс у сані бярэма сена. Стаў вымошчваць у нагах. І якія ж у яго слаўныя родныя маршчыны каля вачэй і на лбе.

Усё было гатова. Куплены ў горадзе лазовы кошык, замкнёны зялёным замком, быў перавязаны тоўстым шпагатам. Маці клапацілася:

— Ці хаця ж усё там тваё цэла за гэты час?

— Цэла будзе.

— Гаспадыня хаця ці пільнавала там?

— Пільнавала.

— Можа, ты нядобра і зрабіла, што, едучы сюды, не ўзяла з сабою хоць самага лепшага?

— Цэла будзе. Сёння пазабіраю.

— Цяжка табе будзе там у поезд.

— Брат паможа.

— Хіба што.

Ганна сядзела каля стала. Кагадзе што раздзела. Сані яшчэ не гатовы былі.

— От добра, што бацьку з нагою лепш.

— Але.

— Я табе яшчэ малака прынясу.

— Не трэба, мама. Годзе.

— Хаця ж пішы, як заедзеш.

— Добра.

— А то нам тут усяк думацца будзе. Вядома, усё здаецца. Вам, маладым, можа, іначай. Можа, што і не ў галаве. А нам рупіць. Кланяйся ж там Андрэю. Улетку прыязджайце, калі будзе як.

— Добра, мама.

— Няхай і ён калі напіша.

І пайшла маці, заклапочаная, у кухню.

Зараз трэба будзе садзіцца ў сані. З кухні мацерын голас:

— Што б табе гэтакае прыдумаць апрануць наверх, каб цяплей табе было ехаць, і сама не ведаю.

Лёгкі туман ледзьве прыметны за вокнамі. На вуліцы чуваць галасы. Здаецца, гэта пахне жытам і сенам.

Ганна падышла да акна. Чарнела пад снегам сухое калiўё замёрзлай вяргіні. Моўчкі глядзела па яго. Села зноў за стол. «Калі ж гэта я зноў прыеду сюды? І ці жыў будзе тады бацька, ці жыва будзе маці? І як будзе тады

брат жыць?» І гэтакаю прытульнасцю павявае тутака ўсё. І гэтакі ж шырокі вецер.

Яшчэ раз дастала, каб перачытаць, ліст Андрэя:

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

. . . . . . . . . . . . . . . . . .

...«папрасі бацькоў ад мяне, каб выбачылі, што я не прыслаў табе грошай на дарогу. Няхай зразумеюць, няхай не крыўдзяцца. Я выйду цябе спатыкаць у той дзень, калі павінна ты прыехаць. Калі ж цябе не будзе, я выйду ў наступны дзень. Скажы бацькам, што я дзякую ім за цябе. Работу я дастаў, і мы пражывём не вельмі гаруючы. І гэта скажы бацькам. Я буду старацца, каб табе тут было добра. Адно ты кахай мяне гэтак, як кахала. Перад намі шырокі прастор будучыні. Перад намі — усё наша. Хутчэй жа будзь тут, родная мая. Я люблю цябе».

# КАМЕНТАРЫ

## СЯСТРА (стар. 5)

Друкуецца па часоп. «Узвышша», 1927, № 2—6; 1928, № 1—4, дзе апублікаваны ўпершыню.

Раман «Сястра» — першы (па падрукаванню) буйны твор Кузьмы Чорнага, у якім тэма рэвалюцыі і паслярэвалюцыйнай сучаснасці, горада і вёскі, тэма новага чалавека вырашаецца востра, палемічна, з публіцыстычным запалам і ў той жа час з тонкім пранікненнем у псіхалагічны стан герояў. Гэта найбольш «гарадскі» і найбольш «інтэлігенцкі» па матэрыялу з усіх раманаў Кузьмы Чорнага.

## ЗЯМЛЯ (стар. 283)

Друкуецца па першай публікацыі і апошняму прыжыццёваму выданню — «Зямля», БДВ, Мінск, 1928.

Раман быў напісан у 1926—1927 гг. (гл. часоп. «Узвышша», 1927, № 1, стар. 165). Выдадзены ў 1928 г. у Белдзяржвыдавецтве асобным выданнем, раман «Зямля», паводле задумы аўтара, з'яўляўся першай часткай трылогіі. Кузьма Чорны адносна сваёй задумы ў лісце ў рэдакцыю газ. «Звязда» пісаў:

«...З тае прычыны, што я атрымаў шмат розных запытанняў наконт мае кнігі «Зямля», якая нядаўна выйшла з друку, прашу дазволіць мне паведаміць праз газету чытачоў, што «Зямля» ёсць толькі першая кніга трохтомнага твора. Другі том знаходзіцца ў стадыі мае над ім працы». («Звязда», 1929, № 44, 24 лютага.)

Але ні другая, ні трэцяя кнігі не з'явіліся. Раман атрымаў у асноўным адмоўную ацэнку вульгарызатарскай крытыкі. (Р. Мурашка, «Дык дзе ж зямля?» — часоп. «Маладняк», 1929, № 3 і інш.) Былі, аднак, і станоўчыя ацэнкі (А. Бабарэка, «Зямля» Кузьмы Чорнага» — часоп. «Узвышша», 1929, № 3.) У далейшым К. Чорны не публікаваў працягу твора і зусім спыніў над ім працу, пачаўшы пісаць новую аповесць — «Лявон Бушмар».

стар. 26 штрыфель — тут лацкан жакеткі.
стар. 46 Шчыльна састаўленыя білам — адзін да аднаго.
стар. 50 сальнік — так называлі ў тыя часы гандляроў мясам.

стар. 51 рышток (*польск.*— rynsztok)— вадасточная канава.
стар. 122 лямоўка (*польск.*— lamówka)— каёмка.
стар. 145 балоны — тут у сэнсе запісы, паметкі ў кнігах.
стар. 191 нагальны — (*польск.*— nagły)— раптоўны, нечаканы.
стар. 202 знакаметны (*польск.*— znakomity)— выдатны, вядомы.
стар. 272 ванзэлкі — клункі, пакункі.
стар. 272 паўтары добы — тут паўтара сутак.
стар. 501 заперына — дошка, брус.

## ЗМЕСТ

На белорусском языке
Кузьма Чорный
(Николай Карлович Романовский)
Собрание сочинений в восьми томах
ТОМ ТРЕТИЙ

Раманы «Сястра» і «Зямля».

Издательство «Мастацкая літаратура» Государственного комитета Совета Министров БССР по делам издательств, полиграфии и книжной торговли. Минск, Советская, 19.

Рэдактар А. Д. Куліш
Мастак Ю. Зайцаў
Мастацкі рэдактар Л. Я. Прагін
Тэхнічны рэдактар З. Г. Сень
Карэктар Н. І. Лебедзева

АТ 08616. Здадзена ў набор 1/XI 1972 г. Падп. да друку 22/VI 1973 г. Тыраж 14 700 экз. Фармат 84×108¹/₃₂. Папера друк. № 1. Ум. друк. арк. 28,56. Ул.-выд. арк. 30,41. Зак. 1596.
Цана 1 руб. 17 кап.

Паліграфічны камбінат імя Я. Коласа Дзяржаўнага камітэта Савета Міністраў БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. Мінск, Чырвоная, 23.

